# Л

**Ліра** 'даўнейшы народны беларускі струнны музычны інструмент з клавішамі і корбай' (ТСБМ, Маш., Яруш.), *лéра, лéрэя* 'тс' (ТС, Сцяшк., Бяльк.), *рэля* (БелСЭ, 6). Паводле Слаўскага (4, 276), запазычана з польск. мовы, у якой *lira* паходзіць з лац. *lyra*<ст.-грэч. λύρα 'ліра, лютня'. Формы *лéра, лéрэя,* відавочна, звязаны з ням. *Leier*; яны маглі ўзнікнуць на польскай тэрыторыі (параўн. польск. *lejer*), а пасля ўступіць у кантамінацыю з *ліра.* Сюды ж *лірнíк* 'вандроўны беларускі музыка-пясняр, які акампаніруе сабе на ліры' (ТСБМ), 'цымбаліст' (Яруш., Інстр. I), *лірніцкія (песні)* 'жабрацкія' (светлаг., Мат. Гом.).

**Лірýтны** 'падобны' (шчуч., Сцяшк. Сл.). З *вярýтны* (гл.). Аб пераходзе *в*>*л* гл. Карскі 1, 340—341.

**Лíрыка** 'адзін з родаў мастацкай літаратуры', 'сукупнасць лірычных твораў', 'чуллівасць, перажыванні, настрой' (ТСБМ). Як і польск. *liryka* (XIX ст.), паходзіць з франц. *(poésie) lyrique*, ням. *Lyrik* 'лірыка'<лац. *lyrica* 'ода, лірычная песня'< ст.-грэч. λυρικός 'лірычны паэт'<λύρα 'ліра, сямiструнны інструмент'. Крукоўскі (Уплыў, 85) мяркуе, што бел. *лірыка* паходзіць з рус. мовы.

**Ліс** 'драпежная жывёла з сямейства сабачых, Vulpes vulpes', *ліса́* 'самка ліса', 'футра гэтай жывёлы', *лісіца, лісіцка* 'ліс, ліса' (ТСБМ, Касп., Нас., Бяльк., Шат., Сцяшк., Яруш., Сл.ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.); *ліс, ліса* — 'пра хітрага, лісліваго чалавека', 'падліза' (Нас., ТСБМ). Укр. *лис, лиса́, лиси́ця,* рус. *лис, лиса, лиси́ца,* арханг. *лиса́ва;* польск. *lis, lisiec, lisa, lisica, liszka,* ст.-польск. *liszyca,* палаб. *laiskə;* н.-і в.-луж. *liška*, чэш., славац. *liška, lišiak,* ст.-чэш. *lisa*; славен. *lisíca, lisják, lȉs,* серб.-харв. *ли̂с, лѝсица, лиси̏ца, lesica, ли̏ска, ли́сац, лѝсјак, liśâk, лиса* і з XVIII ст. *ли́ха*>*ли́ја, ли̂х, ли̂ј*; макед. *лиса, лисица, лисец, лиш'ица (та)* 'тс', *лишка* 'звер'; балг. *лиса, лисица,* ст.-слав. **лиса** 'ліс, ліса'. Прасл. *lisъ, lisica*; для зах.-слав. варыянта *liš-ъka* Слаўскі (4, 292) не выключае праформу *lixa*, паралельную да *lisa* (супраць чаго Трубачоў (Этимология-73, 179)). Відаць, прасл. *lisa* генетычна звязана з літ. *lãpė*, лат. *lapsa*, ст.-прус. *lape*, лац. *volpēs, vulpēs* (<**u̯l̥əps*), ст.-грэч. ἀλώπηξ 'ліс(а)', ст.-інд. *lōpāśá-*, 'шакал',



с.-перс. *rōpās*, брэтон. *louara,* арм. *ałues* 'ліс', літ. *vilpišỹs* 'дзікі кот', якія можна аднесці да і.-е. асновы **u̯l̥pek̑-* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 139), а для прасл. выводзіцца **u̯leipk̑-*>*lisa* або **u̯leip-soi/-sā* ў аўтараў: Бернекер, 1, 724; Фасмер, 2, 500; Скок, 2, 306; Бязлай, 2, 143—144. У гэтай праформе **u̯l̥pek̑-* (Трубачоў, там жа) з'яўляецца верагодным удзел двух семантычна блізкіх каранёў: і.-е. **u̯el-* 'драць, ірваць' (>'красці', 'хітрыць' і *pek̑-* 'драць, шчыпаць' — такім чынам, праформа магла б абазначаць 'хітрая драпежніца' (ліса і дзікі кот). Мартынаў (Регион. особенности..., Гомель, 1985, 135) прасл. *lisъ — lisiti* (параўн. каш. *lësëc* 'ісці па следу') суадносіць з прагерм. **leis — leisan* 'трапіць на след' і з прасл. *lьstь* 'хітрасць'; семантычны пераход *lisъ* 'хітры'>'ліс' адбыўся на слав. моўнай глебе. Сюды ж *ліс-мікіта* (гульня), *лісава́нік* 'воз' (мін., КЭС).

**Ліса́** 1 'маленькія санкі, падсанкі' (Бяльк.), пін. 'насціл з дошак на санях' (Нар. лекс.). Да *ліс* (гл.). Узнікла ў выніку пераносу значэння. Параўн. *сучкі* 'тс' (гл. Лабко, Бел.-польск. ізал., 73—75).

**Ліса** 2 'самаробныя драбіны з сукаватай верхавіны' (КЭС, лаг.). Да *леса́*<лес (гл.)

**Ліса́віцца** 'падлізвацца, ліслівіць' (ТС), рус. смал. *лисаваться, лисавиться* 'лашчыцца'. Да *ліса́вы* (гл.). Параўн. таксама рус. арханг. *лисава* 'ліса'.

**Ліса́вы** 'лісіны' (ТС). Рэгіяналізм з адносна-якасным значэннем, утвораны з суфіксам, які мае прыналежнае значэнне.

**Ліса́вы** 'ліслівы, хітры' (Шат., Ян., ТС; лід., лях., Сл. ПЗБ; хойн., нараўл., Мат. Гом.), *ліса́вый* 'тс' (Бяльк.); 'ветлівы, свойскі, абыходлівы, ласкавы, рахманы' (Сцяшк., Юрч.; барыс., Жд. 2; лун., Шатал.; Ян.; браг., Нар. словатв.; лід., смарг., шчуч., Сл. ПЗБ), в.-дзв. *ліса́ты* 'ліслівы, хітры', іўеў. *ліса́вянькі* 'ласкавы' (Сл. ПЗБ). Укр. палес. *лиса́вий,* ст.-укр. *лисавый* (XVII ст.), рус. смал. *лиса́вый* 'ласкавы, пяшчотны', арханг. *лиса́ва* 'ліса'; польск. *lisawy* (XVII ст.) 'рыжы, чырвоны', 'бландзін', чэш. *lísavý* 'ліслівы, пяшчотны'. Прасл. *lisavъjь*, якое аўтары «Эт. сл. слав. моў» (Трубачоў, Эт. сл., 15, 140) фармальна адносяць да *lisa*>*ліс* (гл.), утворанага пры дапамозе суфікса *-avъ,* і супастаўляюць, аднак, з дзеясловам *lisati (sę),* які Махэк 2 (335) выводзіць з *lasiti* (у выніку перастаноўкі галосных). Дапускаецца таксама, што гэта экспрэсіўны варыянт дзеяслова *lizati*>лізаць (гл.). Польск. *lisawy*, магчыма, звязана са значэннем 'спаліць', параўн. бел. *лíса злавíць* 'падсмаліць світку ці іншую суконную адзежыну', польск. кацеўск. *lišić* 'спаліць' *přilišić* 'прыпаліць'.

**Ліса́шчы,** *лісо́шчы* 'ліслівасць, угодлівасць, падлізванне' (ТС). Утворана ад *ліс* (гл.) і суфікса *-ошч-*, характэрнага для

укр. мовы (параўн. *ла́сощі* 'прысмакі, ласункі', *ду́рощі* 'дурыкі, глупства', зах.-палес. *мудрощі́* 'выдумкі').

**Лісёнка** 'невялікая палатняная сумка' (Ян.). Няясна.

**Лісік** 'дзіванна скіпетрападобная, Verbascum thapsiforme Schrad.' (маг., Кіс.). Да *ліс* (гл.). Названа паводле формы кветканосу, падобнага да лісінага хваста. Гл. таксама *лісяк.*

**Лісіца**$_1$, *лісі́цы* 'калодачка з дзіркамі, праз якія прадзяваюцца шнуркі ад панажоў' (Жд. 1), 'ліштва з дзіркай, у якую ўстаўляецца жэрдка для адзення' (ТС), 'планка, у якую ўстаўляецца верхні канец млёна' (лід., Сл. ПЗБ), 'шпунт, тонкая планка паміж дошкамі дзвярэй' (петрык., ельск., Нар. сл. і Сцяшк.; рас., Шатал.), 'палены з высечкамі пасярэдзіне, у якія ўшчэмліваюцца дошкі ці дзверы, калі іх клеяць ці калі ў іх заганяюць шпонкі' (КЭС, лаг.), 'слупы з вінтамі, якімі выпрамляюць скрыўленую сцяну' (жытк., Нар. сл.), 'прыстасаванне для сціскання бярвенняў у сцяне' (вілен., Шн. 2; лях., Сл. ПЗБ; слуц., Нар. словатв.; стаўб., Жд. 2; Нас., Маш., Касп.), лун. 'бервяно, якім падпіраюць пахілены будынак' (Шатал.), 'ціскі' (чач., добр., Мат. Гом.), 'зажым, у якім што-небудзь заціскаецца пры дапамозе кліноў' (Інстр. 2), 'металічная планка з паглыбленнем у верхнім камені жорнаў' (шчуч., Сл. ПЗБ), 'цiскаўка, напаўрасшчэпленая дзеравіна' (Некр.); 'жэрдка, якая злучае пярэднюю і заднюю восі воза або вузгалоўе воза', 'папярэчына, якая звязвае жэрдкі плоту' (Бломк.), 'кіёк, адзін канец якога ўваткнуты ў дзірку навоя і не дае яму круціцца' (в.-дзв., Шатал.); 'тоўстае палена, якое ўпоперак кладзецца на сані (падсанкі) для перавозкі бярвення' (Бяльк., ТСБМ, Касп.; бялын., Янк. Мат.; в.-дзв., Шатал.), 'падпоры, якія ўжываюцца для паднімання драўляных збудаванняў' (гродз., Шн. 2), 'папярочныя бэлькі, якімі прымацоўваюць вулей-калоду да дрэва' (Маш.), 'цяжар, які прывязваецца ці прышрубоўваецца да канца пругла, каб лягчэй было выцягваць вядро з вадой са студні' (Янк. 2); *лісі́ца* (або *су́чка)* 'дошчачка, што круціць валок кола калаўрота' (КЭС, лаг.). Некаторыя з гэтых значэнняў маюць адпаведнікі ў іншых славянскіх мовах: укр. *лисиці* 'цiскі, шчамлёткі — для сціскання склееных дошак, для ўмацавання сцяны', рус. *лисица* 'перакладзіна, якая злучае восі драбін', 'бярвенні, якія ўмацоўваюць плыты', 'сані', польск. *lisica*, ст.-чэш. *lisicě* 'прэс', славац. *lisica* 'капкан', серб.-харв. *лѝсица,* славен. *lisíca* 'кайданы', макед. *лисица* 'дзірка, у якой замацавана ярмо', балг. *лисица* 'два загнутыя ручкі, якія злучаюць заднюю частку калёс з пярэдняй'. З прасл. *lisica* —'ліса-самка', пазней 'ліса наогул', асобна ў слав. мовах 'розныя прыстасаванні, прадметы для сціскання' — старая метафара (Слаўскі, 4, 279; Бязлай, 2, 144).



**Лісіца**$_2$ 'жоўтая пляма на адзенні ад спалення' (Нас.). Да *ліса́вы* (гл.). Утварылася ў выніку пераносу значэння паводле падабенства колеру.

**Лісіца**$_3$, *лісі́цы, лісі́чкі, лісі́цкі* 'грыб лісічка, Cantarellus cibarius Fr.' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Сцяшк., Шат., Яруш., Янк. 2, Дэмб. I, ТС; уздз., Нар. словатв.; лельч., Мат. Гом.), шчуч. *лісічык* 'тс' (З нар. сл.), *ліска, ліскі* 'тс' (пруж., уздз., Нар. словатв.; гарад. Сл. ПЗБ; светлаг., Мат. Гом.). Укр., рус. *лисичка,* чэш., славац. *liška*, славен. *lisíčka* 'тс'. Прасл. *lisičьka* метафара, перанос значэння 'ліс, ліса' паводле колеру.

**Лісіцкі,** *лісі́чкі* 'чырвоныя парэчкі' (ТС). Як і папярэдняе *(лісіца* $_3$*)*, ягады названы так паводле чырвонага колеру.

**Лісічка**$_2$ 'адно з калёсікаў, на якія чапляюцца ніты' (браг., Нар. сл.). Да *лісіца* $_1$ (гл.).

**Ліска**$_1$ 'іголкі сасны, кастрыца' (шчуч., Сцяшк., Сцяшк. Сл.). Відавочна, запісана *-і-* замест *-ê-*, якое з *-ě-*. Закрытае *е,* а таксама *іэ* характэрны гродз. гаворкам. Да *ле́ска* (гл.).

**Ліска**$_2$ 'плеценая подсцілка з лазы, якая кладзецца на дно саней' (пін., Масл.). Да *ле́ска* (гл.).

**Ліскату́ха** 'званок' (чач., Мат. Гом.). Да *лёскат* (гл.).

**Лісліві** 'ласкавы, пяшчотны' (ТСБМ; слуц., Шн. 2; слуц., брасл., Сл. ПЗБ), 'падліза, лісліві, хітры' (Бяльк., ТСБМ, Касп., Шат.; брасл., воран., бар., Сл. ПЗБ). Рус. пск., цвяр. *лисли́вый* 'хітры'. Адназоўнікавае ўтварэнне з суфіксам *-лів-*. Да *ліс* (гл.). Сюды ж *ліслі́віць* 'крывадушна хваліць, дагаджаць каму-небудзь з карыслівай мэтай', *ліслі́вец* 'той, хто лісліваць, лашчыцца' (ТСБМ).

**Лісьнік** 'паслён чорны, Solanum nigrum L' (брэсц., маг., Кіс.; шчуч., Сл. ПЗБ), драг. *лэ́сньік* 'піжма, Tanacetum vulgare L' (Нар. словатв.) звычайна атаясамліваецца з *глісні́к (<глістнік<гліста* — у народнай медыцыне, напрыклад, піжмай выганяюць глістоў), параўн. віц. *глісні́к* 'паслён салодка-горкі, Solanum dulcamara L.' (Кіс.), укр. *глі́стник* 'цытварны палын, Artemisia Sieberi Bess', 'паслён салодка-горкі', *глистя́к,* рус. цвяр. *гли́стник,* валаг. *глистовник* 'тс', наўг. 'піжма', славен. *glístnik* 'жыцік ап'яняючы, Lolium temulentum L.', 'куколь звычайны, Agrostemma githago L.', 'цвінтарэй, Centaurium Hill.' Рус. назвы розных раслін і траў: *листник, листняг, листняк,* відаць, адносяцца да *ліст.*

**Лісніць** 'бліпічаць, адсвечваць' (ТС). Да *ільсні́цца* (гл.).

**Лісоха** 'асака лясная, Carex silvatica Huds.' (Бес.). Можна меркаваць, што гэта — кантамініраваная назва: *осо́ка+ліс* 'лес'>*лісо́ка*>*лісоха.*

**Ліссі** ў выразе *лісьі хлеб* 'зайчыкаў хлеб; падарожны гасцінец' (ТС), смарг. *ліссі* 'лісіны' (Сл. ПЗБ). Прыметнік ад *ліс* (гл.).

**Ліст**$_1$ 'орган расліны', 'лісце' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Бяльк., Касп., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), *лісць* 'лісце' (Нар. Гом., Яруш.), *лісце* 'тс' (ТСБМ, Кл., Бес., Бяльк., Сцяшк.), *лісцейко, лісціко, лістейка* 'тс' (Нас., Кл., Растарг.), *лісцінка, лісціна* 'асобны ліст' (Бяльк., Нас., ТС; полац., Нар. лекс.), 'ліст капусты' (Жд. І; в.-дзв., Шатал.), *лісток, лісцік* (Яруш., Бяльк., Нас., Шат., ТСБМ); *лістам слаць* 'дагаджаць, красамоўна гаварыць' (Ян.). Укр., рус. *лист,* польск., н.- і в.-луж., чэш., славац. *list*, палаб. *lai̯st*, славен. *lȋst*, серб.-харв. *лûст,* макед. *лист, listu,* балг. *лист, листът,* ст.-слав. **листъ.** Прасл. *listъ* 'ліст расліны'. Блізкія і.-е. адпаведнікі: літ. *laĩškas* 'ліст дрэва, капусты', лат. *laiska* 'лісток ільну', *laikse* 'гарлачык белы, Nymphaea alba L.', ст.-прус. *lāiskas* 'кніга' — усе да праформы **laiska-* (<і.-е. **lisk-to,* гл. Скок, 2, 307), якая фанетычна разыходзіцца з прасл. праформай **leistu-*. Такое чаргаванне зычных у слав. і балт. словах, аднак, з'яўляецца рэгулярным, параўн. прасл. *bṛzъ/ bṛzdъ* ~ балт. *brzgъ* 'хуткі', літ. *burzdùs/ burzgùs* 'жвавы'. Мартынаў (Слав. акком., 68) адрозненне ў суфіксацыі слав. *(-to-)* і балт. *(-ko)* тлумачыць змешваннем *k'* і *t'* на карысць *t'*. Педэрсэн (IF, 5, 79) прабалт. лексему спрабуе рэканструяваць як **laištkas*. Іншыя індаеўрапейскія адпаведнікі не знойдзены. Больш падрабязна гл. Слаўскі, 4, 282; Фасмер, 2, 500—501; Скок, 2, 307—308; Бязлай, 2, 144. Махэк $_2$ (335) звязвае балт. і слав. лексемы праз зборнае слав. *listvьje<lisk -tvьje*. Сюды ж *ліст* 'бляхі, на якіх пякуць піражкі, мяса'<*ліст* 'ліст капусты, дуба, на якім пякуць хлеб'; *ліставы, лісцвянны, лісцёвы, лісцясты, лісцвячы, лісцявы* (Сл. ПЗБ, ТСБМ, Сцяшк., ветк., Мат. Гом.).

**Ліст**$_2$ 'тонкі пласт матэрыялу (паперы, металу, фанеры)', 'допіс', 'афіцыйная папера, дакумент' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Мал., Касп., Шат., Бяльк.; Сл. ПЗБ), ст.-бел. *листъ* 'грамата'. Запазычана са ст.-польск. *list* 'тс', якое да *ліст*$_1$ (гл.).

**Лістабой** 'восеньскі вецер' (маст., Сцяшк. Сл.). Да *ліст*$_1$ і *біць* (гл.). Аналагічна рус. наўг. *листобой* 'моцны асенні паўн.-усх. вецер'.

**Ліставáць** 'перагортваць' (Нас.), смал. *листованье* 'перагортванне', рус. *листовать*, чэш. *listovati*. Да *лістáць* (гл.).

**Ліставéй** 'восеньскі вецер' (маст., Сцяшк. Сл.). Да *ліст*$_1$ і *вéяць* (гл.). Параўн. рус. вяц. *листовúя*, а таксама *лістапад*$_2$.

**Ліставерць** 'пара лістападу' (Нар. Гом.). Да *ліст* і *верць, вярцéць* (гл.).

**Ліставёрткі** 'дробныя матылькі з сямейства Tortricidae' (ТСБМ). З рус. *листовертки* 'тс'.

**Лістагры́з** 'назва жука-лістаеда' (сен., КЭС), рус. пск., смал. *листгрыз* 'тс', чэш. *listohryz* 'жук Seraptia'. Прасл. *listo-hryzъ* — словаскладанне на аснове *listъ>ліст* і *gryzti>грызці* (гл.) (Трубачоў, Эт. сл., 15, 145).



**Лістаносец** 'паштальён' (ТСБМ, ТС) з'яўляецца працягам ст.-рус. *листоносецъ* (з XVII ст.). Да *ліст* і *насіць* (гл.). Параўн. наступнае слова *(лістанош)*.

**Лістанош** 'паштальён' (Сцяшк.), *лістаноша* 'тс' (швянч., Сл. ПЗБ), *лістаношка* (валож., Жд. 2; свісл., Сцяшк. Сл.). Кніжнае слова, якое магло б быць калькай з ням. *Brief-träger* (з XIV ст.). Трапіла ў бел. мову праз польскую, параўн. польск. *listonosz*, в.-луж. *listonoš*, чэш. *listonoš*, а таксама укр. *листоноша* (Слаўскі, 4, 285).

**Лістапад**$_1$ 'назва адзінаццатага месяца' (ТСБМ, Бес., Гарэц., Нас., Бяльк., Яруш.), 'пара, калі ападае ліст з дрэў' (Бяльк.), 'ападанне лісця восенню' (ТСБМ). Укр. *листопáд* 'тс', рус. уладз., кур. *листопад* 'восень', арханг. 'позняя восень', наўг. 'верасень'; уладз., арханг., ярасл. 'кастрычнік'; том., вяц., перм., цвяр., кур. 'лістапад'; польск. *listopad* 'тс', а ў XV ст. і 'кастрычнік', в.-луж., чэш., славац. *listopad* 'лістапад'; славен. *listopȁd*, серб.-харв. *лӣстопад* 'лістапад', 'ападанне лісця', 'апалае лісце', макед., балг. *листопад* 'час ападання лісця', ст.-слав. **листопадъ** 'месяц кастрычнік'. Прасл. *listo-padъ* 'ападанне лісця'>'час, калі ападае лісце'. Да *ліст*$_1$ і *пáдаць* (гл.). Аналагічна ўтвораны і літ. *lapkritȳs* 'лістапад', дыял. 'кастрычнік', ням. *Laubfall* 'ападанне лісця', ст.-грэч. φυλλοχόος 'месяц, калі падае лісце' (Слаўскі, 4, 285—287; Кочерган, Мовознавство, 1967, 1, 59; Стабей, ZfslPh, 1971, 36(1), 108).

**Лістапáд**$_2$ 'туберкулёз' (Касп.), смал. 'лаянкавае слова'. Параўн. *листопáдина,* уладз. *листопáдица,* алан. *листопадка,* смал. *листопадница,* смал., наўг., пск., паўн.-рус. *листопадня (колотуха)* 'ліхаманка', 'гарачка'. У выніку семантычнага пераносу (агульная прыкмета — гарачка) з рус. гаворак у віц. *листопад* 'хвароба' — таксама семантычны перанос з 'асенняя пара' (калі часцей, чым летам, прастужваюцца). Параўн. яшчэ рус. дан. *листопадный* 'брыдкі, агідны'.

**Лістáць** 'гартаць' (Гарэц., Шат., ТСБМ). З рус. *листать* 'тс'.

**Ліствя́ніцца** 'пакрывацца лісцем' (навагр., Сцяшк. Сл.) утворана з выразу *рабіцца лісцвяным.* Параўн. *лісцвя́нік* (гл.).

**Лістота** 'лісце' (ТСБМ, Сцяшк.). Да *ліст*$_1$ (гл. Сяцко, Афікс. наз., 205).

**Лістоўка** 'склюд (з шырокім лязом)' (Інстр. 2), рус. калін. *листовка* 'каса з шырокім лязом'. Пад уплывам народнай этымалогіі асацыіруецца з *ліст*$_1$, *ліставы,* рус. *листовой*. Да *лязо* (гл.). Параўн. *лізаўка*$_1$, *лызаўка.*

**Лістоўка**$_2$ 'друкаваны лісток з палітычным зместам' (ТСБМ). З рус. *листовка* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 110).

**Лісу́н** 'ліслівец, падлізнік' (ТС). Да *ліс* (гл.).

**Лісцвя́нік** 'ліставы лес' (Нар. Гом.), рус. разан. *листвя́нник,* ст.-рус. *лиственник* 'тс'. У выніку намінацыі з *лісцвяны лес,* параўн. бел. *лісцвяны́* (ТСБМ), лудз. *лі́сцвянны, лі́сцвінны* 'лісцевы' (Сл. ПЗБ), укр. *листв'яний,* рус. *лиственный, листвя́нный,* ст.-рус. *лиственный, листвяный,* прасл. *listvěnъ* (Слаўскі, 4, 283).

**Лісце́рка** 'люстэрка' (светлаг., Мат. Гом.) узнікла ў выніку ад'ідэацыі з лексемай *лісце* пад уздзеяннем народнай этымалогіі. Да *лю́стра* (гл.).

**Лісцёўнік** 'ліставы лес' (карм., Мат. Гом.) утварылася ў выніку намінацыі выразу *лісцёвы лес* (ТСБМ).

**Лісці́на** 'тонкія жэрдачкі, якімі засцілалі под пад стогам збожжа' (ТС); *лісці́ны* 'латы' (стол., Нар. сл.). Зборны назоўнік *лісціна́* 'лістота' (як, напрыклад, драг. *бырызына́* 'бярэзнік', *хвойіна́* 'сасоннік'). Першапачаткова азначаў 'тонкія галіны з лісцем', якімі высцілалася стажар'е, а таксама з якіх (у старажытныя часы) рабілася страха. Да *ліст*$_1$ (гл.).

**Лісці́цца** 'падлізвацца, лашчыцца' (ТС). Кантамінацыя лексем *ліс* і ${}^{+}$*льсціцца* (пры існаванні рус. *льстить),* якое з *lьstiti (sę)*<*lьstь*<ст.-герм., гоц. *lists* 'хітрасць', *laisjan* 'вучыць' (гл. Фасмер, 2, 487). Параўн. таксама *лісліівы* (гл.).

**Лісь-лісь!** 'не есці, а толькі ласавацца' (полац., Нар. лекс.). З *лізь-лізь!* Да *ліза́ць* (гл.).

**Лісючок** 'лісянё' (воран., Сцяшк.). Да *ліс*$_1$ (гл.). Утворана пры дапамозе суфіксаў *-'ук+-ькъ* (параўн. *весянчу́к).*

**Ліся́вы** 'ласкавы, тактоўны' (глус., Янк. Мат.), смал. *лисавый* 'ласкавы, пяшчотны'. Да *ліс*$_1$. Гл. таксама *ліса́вы.*

**Лісяк** 'дзіванна звычайная, Verbascum thapsus L.' (маг., Кіс.). Да *лісік* (гл.).

**Ліся́нкі** 'лісіцы (грыбы)' (добр., Мат. Гом.). Да *ліс* (гл.). Суфікс, як у *ваўнянкі, валавянкі, лісічанкі, паганкі.*

**Літаваць** 'берагчы каго-небудзь, шкадаваць' (ТСБМ), *літава́ць* 'тс' (Нас., Гарэц.), *літава́цца* 'літасцівіцца' (Нас.), *літовацъ* 'ныць, моцна балець' (ТС), ст.-бел. *литовати* 'шкадаваць, берагчы', запазычана са ст.-польск. *litować* 'праяўляць спачуванне, літасць'<ст.-польск. *lutować*<паўн.-прасл. *ljutovati* 'злавацца, шалець'<*ljutъ* 'люты' (Слаўскі, 4, 305; Булыка, Лекс. запазыч., 133). Да *лю́ты* (гл.). Махэк$_2$ (337) родніць чэш. *litovati* 'шкадаваць' з ням. *leid.*

**Літава́ць** 'паяць, плавіць' (ТСБМ, Нас., Гарэц.), *літава́цца* 'плавіцца' (Нас.). З польск. *litować, lutować* 'паяць', якое з с.-в.-ням. *loeten,* ням. *löten*<*Lot* 'сплаў металу'<с.-в.-ням. *lōt* 'тс' (Слаўскі, 4, 390). Сюды ж *літоўшчык* 'ліцейшчык,



паяльшчык' (Нас.). Неабгрунтавана Карскі (Белорусы, 1, 137), які суадносіць з літ. *litúoti* 'паяць'.

**Літае́жлівы** 'пераборлівы ў ядзе' (маз., З нар. сл.). Да *люты* і *есці* (гл.). Параўн. таксама беласт., люб. *лютае́жлівы* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Літа́нне** 'малітва ў каталікаў', 'галашэнне' (ТСБМ, Нар. Гом.). З польск. *litania* 'малітва з пахвалой і просьбай аб апецы'<познелац. *litania* <с.-лац. *letania, litania* <ст.-грэч. *λιτανεία* 'просьба' (Слаўскі, 4, 297).

**Літар** 'адна літара' (КЭС, лаг.), *лі́тара* 'пісьмовы знак алфавіта' (ТСБМ, Гарэц., Мал.), ст.-бел. *литера, литэра* 'тс' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *litera* 'тс'<лац. *littera* 'знак пісьма', *litterae* 'ліст, кнігі, літаратура, навукі' (Слаўскі, 4, 298; Кюнэ, 72; Красней, Бел. лекс., 90; Булыка, Запазыч., 190).

**Літара** 'гітара' (Растарг.). У выніку мены *г'* у *й'* (параўн. *генера́л>енера́л),* пасля *й>л.*

**Літарату́ра** 'сукупнасць твораў пісьменства народа', 'від мастацтва — стварэнне вобразаў пры дапамозе мовы, слова', 'сукупнасць друкаваных твораў адной галіны ведаў' (ТСБМ), *літэратура* (Яруш.). З польск. *literatura*<лац. *litterātūra* 'пісьмовы тэкст, навука пра мову, адукацыя, навука, пісьменства'<*littera.* Крукоўскі (Уплыў, 85) крыніцай запазычання лічыць рус. мову.

**Лі́тасць,** *лі́тосць* 'жаль', 'міласэрнасць', 'чуласць, спагада', 'добрыя, велікадушныя адносіны', 'памілаванне, міласць' (Гарэц., Касп., Яруш., ТСБМ; КЭС, лаг.; гродз., воран., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. мовы, дзе ў форме *litość* пашыраецца з XVI ст.; раней — *lutość.* Узыходзіць да прасл. *ljutostь,* якое з *ljutъ* 'люты, злы'. Гл. *лю́ты, літаваць.*

**Літа́ўры** 'ударны музычны інструмент' (ТСБМ). З рус. *литавры* 'тс', якое з с.-грэч. *πολυταυρέα* 'літаўры' ў выніку гаплалогіі: ст.-рус. *бить политавры>бить по литаврам>бить в литавры* (Фасмер, 2, 501; Крукоўскі, Уплыў, 84). Брукнер (Die Slav. Fremdw. in Litauischen, Weimer, 1887, 23) рус. лексему выводзіць з літ. *litaũras* 'тс', супраць чаго Мікала (Beitrage zur Kunde der indoger. Spr., Göttingen, 1895, 118).

**Літба** 'двухпялёстнік парыжскі, Circaea lutetiana L.' (Касп.), маг. *літпа* 'тс' (Кіс., Дэмб.). Няясна. Магчыма, назва звязана прыкметамі магічнасці з чэш. лексемамі *litba, úlitba* 'лівень', 'ахвяраванне віна або іншай вадкасці багам'. У такім выпадку — да *ліць* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 159). У іншых славян: польск. *czarownik,* чэш., славац. *čarovník,* харв. *vilenička trava* (<*víla* 'русалка'), рус. *волшебная трава, колдовская трава,* бел. *чараўніца, калдуха,* а таксама ням. *Hexenkraut, Zaüberkraut,* франц. *hèrbe aux sorciers,*— з'яўляюцца перакладам

лац. назвы, пра якую ведалі, што яна са ст.-грэч. *κιρκαία*, якое паходзіць ад імя чараўніцы Цырцэі (Кіркі).

**Літва́** ’ліцвіны, беларусы’ (Крачк.; паўд.-усх.; Кос.), ст.-бел. *литвин* ’беларус’, укр. *литва́,* кіеў. *литвинок* ’тс’ (БНТ, Лег. і пад.), рус. анеж. *литва́* ’народ, народнасць’, том. ’мясцовае няруское насельніцтва’, наўг. ’перыяд шведскай інтэрвенцыі XVII ст.’ Бел. лексема запазычана з літ. *Lietuvà* ’Літва’. Сюды ж *ліцвя́к, ліцвін, лецвя́к, літвін* ’літовец’ (Касп., Нас., гродз., трок., Сл. ПЗБ), *літвячка* ’жанчына з Літвы’ (Сцяшк.), *літві́н, ліцві́н(ы)* ’літовец’, ’беларус з пэўнай мясцовасці’ (Сл. ПЗБ); усх.-маг. *ліцьві́н* ’літвін’, ’заходнія (з усходняй Магілёўшчынай) суседзі’ (Бяльк.). Паводле Клімчука (Tarptautinė baltistų konferencija, Vilnius, 1985, 168—169), этнонімы *літвіны, ліцвякі, літва* ў большай ступені адносяцца да паўн.-зах. Беларусі, але пашыраюцца і на ўсю Беларусь, а таксама на рад абласцей РСФСР і паўночнай Украіны. Гл. таксама Непакупны, Связи, 153—155. Трубачоў (Эт. сл., 15,159) прасл. *litva* (рус. уладз. *литва* ’моцны дождж’, іван. ’ліцейшчыкі на заводзе’, чэш. *litba* ’лівень’, серб.-харв. *ли̏тва* ’штодзённы лівень’) выводзіць з дзеясл. *liti*>*ліць* (гл.), не выключаючы магчымасць развіцця (пашырэнне на *-a*) асновы супіна *litŭ* ад гэтага ж дзеяслова. Прасл. *litva* можа лічыцца блізкім адпаведнікам (або паралелізмам) літ. *Lietuvà*, якое, аднак, Фрэнкель (1, 368) збліжае з лат. *lītus* ’бераг мора’.

**Літнік** ’адтуліна для падводу расплаўленага металу ў форму’ (ТСБМ). З рус. *ли́тник* ’тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 72).

**Літоўка**$_1$ ’від касы’ (лід., Сцяшк.), зах.- і паўн.-рус. *литовка* ’розныя віды кос’. Названа (першапачаткова) паводле месца выпуску. Да *літва́* (гл.). Іншыя матывацыі гл. Непакупны, Связи, 155—157. Параўн. таксама Слаўскі, 4, 300—301.

**Літоўка**$_2$ ’доўгая сціртa сена’ (гродз., Сцяшк.). Рус. цвяр., наўг. *литви́н* ’сціртa аўса’, ’доўгая сціртa аўса’. Да *літва́* (гл.). Аналагічна палес. *ляшок* ’укладка з 10 снапоў’ — *лях* ’паляк’ (паводле этноніма).

**Літоўка**$_3$ ’літаванне, пайка’ (Нас.). Да *літава́ць* (гл.). Насовіч (269) памылкова адносіць да літ. *laitus* ’клей’.

**Літоўчык** ’від сякеры’ (брасл., паст., Сл. ПЗБ). Да *літоўка*$_1$ (гл.).

**Літр** ’аб’ём і ёмістасць у 1000 см$^3$’ (ТСБМ), *літар* (Сцяшк.), *літра* ’тс’ (Янк. 2, Бір., Мат. Гом.; пух. Сл. ПЗБ), ст.-бел. *литра* ’фунт’ (Зб. Крапіве, 293), ’12 маткоў прадзенага золата, шоўку’, ст.-рус. *литра* ’тс’. Лексема *літр* паходзіць з франц. *litre* ’1 літр’<*litron* ’мера аб’ёму’<с.-лац. *litra* ’мера вадкасці’ (Слаўскі, 4, 306). *Літра* ўзыходзіць да ст.-рус. *литра,* якое са



ст.-слав. **литра**<ст.-грэч. λίτρα<іт. *liþra,* ідэнтычнае да лац. *libra* ’вага’, ’фунт’ (Фасмер, 2, 503).

**Лі́трына** ’аглабіна ў драбіне воза’ (малар., Нар. словатв.). Праз польск. *letra, letry* ’розныя часткі воза’ з ням. *Leiter*, с.-в.-ням. *leitere, lātere,* ст.-в.-ням. *leitara* ’драбіна’ (Слаўскі, 4, 181—182).

**Літургі́я** ’галоўнае хрысціянскае набажэнства з прычасцем; абедня’ (ТСБМ), ст.-рус. *литургиꙗ, литоргиꙗ*<ст.-слав. **литоургиꙗ**<ст.-грэч. λειτουργία ’грамадская служба, павіннасць, звязаная з грашовымі выдаткамі’, пазней у Новым запавеце ’служба, служэнне наогул’>’набажэнства’ (Фасмер, 2, 503; Слаўскі, 4, 307; Вяснoў, Бел. лекс., 35; Пацлава, Paleoslovenica, 120).

**Літусь,** *лі́тюсь* ’у мінулым годзе’ (кам., драг., Сл. ПЗБ). Да *ле́тась* (гл.).

**Літэрка** ’колца ў калаўроце, пры дапамозе якога замацоўваецца шпулька на рагатцы’ (віл., Сл. ПЗБ; міёр., рас., Шатал.). Відазмененае польск. *muterka* ’гайка’. Гл. таксама *ліцерка, мітэрка.*

**Ліўны** ’ліўневы, праліўны’ (ТС). Да *лівень* (гл.).

**Ліўрэя** ’фірменная адзежа швейцараў, лакеяў, фурманаў’ (ТСБМ). Запазычана з рус. *ливрея* ’тс’, якое з франц. *livrée* ’тс’, першапачаткова — ’адзежа, якую дзяржава і высокая шляхта выдавалі свіце’<франц. *livrer* ’выдаваць’<с.-лац. liberāre ’тс’. Аднак пры пасрэдніцтве франц. *livrée* і ісп. *librea* яшчэ ў XIII ст. слова пранікла ў ням. дыялекты і ў форме *Liberei* ’спецыяльная форма для прыслугі’ трапіла ў ст.-польск. мову (*liberyja,* XVI ст.), адтуль у ст.-бел. у выглядзе *либерия* ’ліўрэя’ (XVII ст.). Больш падрабязна гл. Фасмер, 2, 494; Слаўскі, 4, 219—220; Булыка, Запазыч., 107.

**Ліф,** *лі́фік, лі́хвік* ’безрукаўка, жаночае адзенне без рукавоў’ (Сцяшк., Ян., Мат. Гом.), ’частка жаночай сукенкі, якая аблягае грудзі і спіну’ (ТСБМ); *лі́пцік, лі́фцік,* ’*лі́фчык*’ (барыс., лаг., Сл. ПЗБ). Рус. *лиф, лифчик,* польск. *lifk, liwk* ’тс’. Запазычаны з н.-ням. *lîv* або з гал. *lijf* ’ліф, карсет’ (Фасмер, 2, 504).

**Ліфт** (ТСБМ), як і *ліфта* ’ліфт’ (паст., Сл. ПЗБ) — з рус. *лифт,* якое з англ. *lift* ’тс’. Канчатак жан. роду *-a* пад уплывам больш ранняга *вінда* (гл.).

**Ліха,** *ліхо, ліка, ліхінько* ’бяда, гора, зло, няшчасце’ (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Яруш., Бяльк., Шат., Грыг., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ, Янк. 1; КЭС, лаг.; паўд.-усх., КЭС), ’боль’, ’нячыстая сіла, чартаўшчына’ (Нас.); ’эпілепсія’ (бялын., Нар. сл.), ’блага, кепска’ (КЭС, лаг.; ТС, Бяльк., ТСБМ), *ліхо́* ’моташнасць’ (іўеў., Сцяшк. Сл.), *ліхо паду́шчае, паду́шчэ ліхо* ’эпілепсія’ (Сл. ПЗБ, ТС); *ліхі́, ліхі́й, ліхы́й, лыхы́й, лыхе́й* ’бла-

гі, паганы, дрэнны', 'нядобры', 'злы (аб сабаку)', 'хворы, худы, састарэлы, стары', 'д'ябал', 'смелы, удалы, маладзецкі', 'рэзвы, жвавы, хуткі, імклівы (аб кані)', 'адваротны бок матэрыі, адзення' (Нас., Яруш., Мал., Бес., Касп., Шат., Янк. 1, Сцяшк., Маш., Мат. Гом., Клім., Федар. 1, ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ, Ян.; КЭС, лаг.; слонім., Нар. лекс.); ст.-бел. *лихий* 'нядобры, паганы, нізкаякасны, стары, непрыдатны', 'злы, нячэсны, варожы', 'неспрыяльны, непадыходзячы' і другасные (Булахаў, Гіст., 115) 'левы'. Укр. *лихо,* рус. *лихо* 'зло, бяда, няшчасце', смал. 'нячыстая сіла', 'злы лёс', валаг., арханг. 'гора, смутак'; перм., алан. 'гультайства', арханг. 'незадавальненне'; ст.-рус. *лихо* 'зло', 'лішка', 'прыбыль'; польск. *licho,* драг. *lich* 'няцотны лік', а з XVII ст. 'зло, няшчасце, бяда', 'д'ябал', каш. 'няшчасце', 'няўдача, няпоспех', чэш. *licho* 'няцотны лік', 'няшчасце', 'нячысцік', мар. *lichó* 'няцотны', славац. у выразах *sudo licho, četno či licho,* серб.-харв. *тȁко или лијо,* ст.-слав. **токъмоѥ** и **лихоѥ** 'цот і лішка', балг. *лихо* 'тупы чалавек', прасл. *lixo.* Утворана ад прыметніка *lixъ* (укр. *лихий,* рус. *лих, лихой,* ст.-рус. *лихый;* польск., н.-луж. *lichy,* в.-луж. *lichi*; чэш., славац. *lichý,* славен. *lȋh,* серб.-харв. *лȋх,* балг. *лих,* ст.-слав. **лихъ)** агульнай лініяй развіцця семантычнай структуры кораня якога *lix-* у слав. мовах быў, па-першае, пераход ад сінкрэтызму першапачатковага значэння кораня да расчленены́х палярных якасных значэнняў: 'які перавышае норму' і 'які не дасягае нормы', па-другое, фарміраванне другасных якасных значэнняў, уласцівых усім або некаторым асобным слав. мовам, напрыклад н.-луж. 'свабодны', рус. 'смелы, зухаваты' (Сіліна, ОЛА — 1975, 38). Узыходзіць да і.-е. **leiku̯-so*<**leiku̯-* 'пакідаць' (ст.-грэч. λείψανον 'рэшта, астатак', λειψό-θριξ 'той, хто згубіў валасы', лац. *relinquō, -ere, relictus* 'пакідаю', літ. *liẽkas* 'няцотны, які застаецца пакінуты', *ãtlykis* 'перапынак пасля работы', лат. *lìeks* 'лішні, празмерны', ст.-інд. *rinákti* 'пакідае, уступае' (Фасмер, 2, 505; Слаўскі, 4, 228—229; 237—239; Бязлай, 2, 140. Махэк$_2$ (333) у прасл. *lixъ* бачыць дзве лексемы: 1) 'лішні, няцотны'; 2) 'злы, благі'. Няма падстаў). Сюды ж *ліхам* 'дрэнна; не так, як трэба; навыварат' (Нас.).

**Ліхадзе́й** 'вораг' (Грыг., Бяльк., Шат.; шальч., навагр., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; пух., З нар. сл.), 'чалавек, які наўмысна робіць зло' (Растарг.), *ліхадзейства* 'благія ўчынкі' (КЭС, лаг.). Укр. *лиходíй,* рус. *лиходей,* ст.-рус., ц.-слав. *лиходѣи.* Прасл. *lixodějь* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 92). Да *lixo*>*ліха* і *dějati*>*дзе́яць* (гл.).

**Ліхае́жлівы,** *ліхае́жы* 'пераборлівы ў ядзе' (слонім., Нар. лекс.; воран., Сцяшк. Сл.). Да *ліха* і *яда, есці* (гл.).

**Ліхале́цце** 'ліха, бяда' (Ян.; Мат. Гом.), 'дрэнь, пагібель' (Грыг., Нас., Бяльк.), 'дрэнны год', 'няшчасце', 'благое надвор'е' (Касп.), 'неслух' (б.-каш., Мат. Гом.), 'час вялікай нягоды' (ТСБМ). Укр. *лихолíття* 'цяжкія часы', рус. *лихоле́тье* 'пара пакут, узрушэнняў', ст.-рус. *лихолѣтие* 'тс'. Прасл. *lixolětьje* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 92). Да *ліха* і *ле́та* (гл.).



**Ліхама́нка** 'хваравіты стан з гарачкай і дрыготкай', 'малярыя, трасца', 'гарачкавая дзейнасць' (Гарэц., Касп., ТСБМ, Растарг.; паўд.-усх., КЭС), укр. харк. *лихома́нка,* рус. *лихома́нка* 'тс', 'ліхадзейка', 'хлус', 'благі чалавек', 'пракуда'. Бел. слова прымыкае да рус. моўнага арэалу, у якім гэта лексема з'яўляецца табуістычнай назвай ад *лихоманка* 'круцелька, ашуканка', *лихома́нить* 'прыносіць зло, бяду', рус. *лихоман,* кур. 'д'ябал', усх. 'махляр', паўн.-дзв. 'вар'ят', ст.-рус. *лихоманъ* 'тс', укр. палес. *лихо́ма* 'бяда, цяжкае становішча', *лихоманка* 'ліхаманка', польск. *lichman* 'мот'. Прасл. *lixomanъ* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 93). Да *lixo*>*ліха* і *maniti*>*маніць* (гл.) (Зяленін, Табу, 2, 77; Фасмер, 2, 505).

***Ліхамы́слы,** *ліхамы́слый* 'зламысны' (Яруш.), рус. (Мард. АССР) *лихомы́сный* 'які наносіць шкоду, страты'. Прасл. *lixomyslьnъjь* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 94). Да *ліха* і *мысліць* (гл.).

**Ліха́ч** 'д'ябал' (Зайцава, Лінгв. дасл.), смал. 'нячысцік'. Да *ліха* (гл.).

**Ліха́рдзікі** (мн.) 'смажонкі' (барыс., Жд. 2). Германізм. Параўн. ням. *lecker* 'апетытны, смачны'. Магчыма, запазычана праз ідыш. Гл. таксама *лахардзікі.*

**Ліхата́,** *ліхота* 'жорсткасць, лютасць, бязлітаснасць' (ТС), 'злая бяда, няшчасце' (Шат.), 'зло' (Янк. БП), 'непрыемны выпадак; гаротныя, няшчасныя абставіны; злосць, раздражненне' (Нас.), *ліхотка* 'кепска, дрэнна' (Янк. 3). Укр. *лихота,* рус. *лихота,* польск. *lichota,* н.-луж., чэш., славац. *lichota,* балг. *лихота,* ст.-слав. **лихота.** Прасл. *lixota* — абстрактны назоўнік ад *lixъ*>*ліхі́*>*ліха* (гл.). (Слаўскі, 4, 231). Аб суф. *-ота (-ата)* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 120—121. Ст.-бел. *лихота* 'ліслівасць' у Скарыны мае іншую семантыку (як ст.-чэш. *lichota*), чым звычайна 'бяда' (Булыка, Лекс. запазыч., 207).

**Ліхатня́** 'дурнота, глупства', 'непрыемны выпадак', 'заблытанасць' (Нас.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ня* ад дзеяслова **ліхацець,* параўн. укр. *лихоти́тися* 'рабіцца млосна', *лихоти́ти* 'праклінаць, клясці', рус. урал., сіб., амур. *лихо́тить* 'нудзіць', с.-урал. *лихоти́ться* 'прыхварнуць', ст.-рус. *лихотный* (XI ст.) 'шалапутны', *лихоть* 'адхіленне', ст.-польск. *lichocić* 'даводзіць да нэндзы, вынішчаць, аслабляць' (XVI ст.), *lichotny* 'дрэнны, ганебны, незаконны, подлы', в.-луж. *lichočić* 'займацца ліхвярствам', чэш. *lichotiti* 'лісліві́ць, хваліць', славац. *lichotiť* 'дагаджаць'. Паўн.-прасл. *lixotiti.*

**Ліхва** 'ліф, прышыты да спадніцы' (Бяльк.). Да *ліф* (гл.).

**Ліхвя́р** 'кулак' (Яруш.), 'хто прычыняе людзям няшчасце' (пух., Жд. 2), 'той, хто бярэ вельмі высокія, недазволеныя законам працэнты за пазычаныя грошы' (ТСБМ), укр. *лихва́р, лихв'я́р*, ст.-рус. *лихварь* (XVII ст.), польск. *lichwiarz*, в.-луж. *lichwar*, чэш. *lichvář* 'тс', славац. *lichvár* 'гандляр скацінай'; серб.-харв. *лѝхвар*, славен. *lihvár*, макед. *лихвар*, балг. *лихва́р*. Прасл. форма *lixvarь*, якая ўзыходзіць да прасл. *lixva* 'пазыка грошай пад працэнты' (Слаўскі, 4, 236). Апошняе — запазычанне з гоц. *leiƕa* 'пазыка', *leiƕan* 'пазычаць', ст.-в.-ням. *lîhan* 'тс' (Бернекер 1, 717; Фасмер, 2, 504—505; Слаўскі, 4, 233—235). Магчыма, аднак, і поўнае запазычанне з герм. **leihwarja-* 'пазыкадаўца' (Трубачоў, Эт. сл., 15, 99).

**Ліхвэйтар** 'яфрэйтар' (Мал.). Сапсаванае народнае *яфрэйтар* (гл.) з пратэтычным *л*'- (параўн. *ле́ха* 'рэха').

**Ліхніс** 'зорка, Lychnis L.' (Кіс.). З рус. *лихнис* 'тс', якое са ст.-грэч. λυχνίς (з улікам лац. *lychnus*)<λύχνος 'свяцільня, каганец'. Матывацыяй быў чырвоны колер кветак (Махэк, Jména, 78).

**Ліхома** 'бяда, цяжкае становішча' (Нік.). Да *ліха* (гл.). Аб суфіксе *-ма* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 54).

**Ліхоцце** 'увасабленне зла, ліха' (Янк. 3), *ліхоццё* 'дрэнь', 'пагібель, прорва' (Нас.). Да *ліха, ліхата́* (гл.).

**Ліхоцька,** *ліхо́цько* 'чортаў сын' (ТС). Да *ліхата́* (гл.). Магчыма, звязана са ст.-польск. *lichocko* 'вельмі кепска, бедна' (XVII ст.), чэш. *lichotský* 'нешчаслівы, няўдалы'. Аб экспрэсіўным суфіксе *-ка* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 160).

**Ліхтава́ць** 'чысціцца да бляску' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.), ст.-бел. *лихтовати* 'чысціць, выпрамляць' (XVI ст.), запазычаны са ст.-польск. *lichtować* (Булыка, Запазыч., 191), якое з ням. *lichten* 'ачышчаць, праясняцца'.

***Ліхтан,** ст.-бел. *лихтанъ* (XVI ст.) 'невялікае, дапаможнае грузавое судна' запазычана са ст.-польск. *lichtan* 'баржа' (Булыка, Лекс. запазыч., 120), якое з ням. прус. *licht(er)-kahn, lidgan* (Слаўскі, 4, 232—233). У сучаснай бел. мове заменена словам *ліхтэр*<рус. *ли́хтер* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 83), запазычанае ў пачатку XVIII ст. з гал. ці н.-ням. *lichter*, новав.-ням. *Leichter* 'пласкадоннае судна, якое аблягчае вялікае судна' (Фасмер, 2, 506).

**Ліхта́р,** *лыхта́р* 'прылада для асвятлення — футарал са шклянымі сценкамі' (ТСБМ, Гарэц., Касп., Мядзв., Растарг.; КЭС, лаг.), 'падсвечнік' (Грыг., Нас., Шат., Шпіл.; Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; паўд-усх., КЭС), ст.-бел. *лихтаръ, лехтаръ, лыхтаръ, ляхтаръ* 'ліхтар' (XV ст.) запазычаны са ст.-польск. *lichtarz* 'падсвечнік', якое ўзыходзіць да с.-в.-ням. *liuhtaere*, ням. *Leuchter* 'падсвечнік'<*liuhten* 'свяціць'<герм. **liuhta-*



'ясны' (Слаўскі, 4, 233; Чартко, Бел. лінгв. зб., 151; Жураўскі, Бел. мова, 62; Кюнэ, 72). Фасмер (2, 505) мяркуе, што насуперак Вінеру (63) пасрэдніцтва ідыш з'яўляецца неімаверным. Сюды ж *ліхта́рня* 'падсвечнік' (Нас., Сцяшк.), 'ліхтар' (Растарг.; паўд.-усх., КЭС), 'від ліхтара' (паст., чыж., Сл. ПЗБ).

**Ліхтэр** 'невялікае судна' (ТСБМ). Да *ліхтан* (гл.).

**Ліхту́га** 'бедства, няшчасны выпадак' (БРС), 'перасыханне рэчкі' (стаўб., Жд. 2). Беларускае. Магчыма, з *ліхата* 'зло, няшчасце' пры дапамозе суфікса *-уга* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 66).

**Ліцава́ць**$_1$ 'перашываць, робячы спод верхам' (Нас., Шат.), *ліцуваньне* 'ніцаванне' (Юрч. Вытв.), *ліцёваны* 'ніцаваны' (беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *лицювати*, рус. *лицевать*, польск. *licować*, чэш. *licovati*, славац. *licovat* 'тс'. Паўн.-слав. *licevati*<*lice* 'твар'>*лицо* (Слаўскі, 4, 239—240).

***Ліцава́ць**$_2$, *ліцёва́ті* 'адпавядаць пэўным нормам, правілам' (беласт., Сл. ПЗБ) запазычана з польск. *licować* 'адпавядаць, гарманіраваць з чым'. Да паўн.-слав. *licevati* Параўн. балг. *невестино лице* 'знак цнатлівасці на шлюбнай кашулі маладой'.

**Ліце́** 'твар', 'правы бок матэрыі, адзення' (беласт., Сл. ПЗБ) Да *ліцо* (гл.).

**Ліце́рка** 'колца ў калаўроце, якое круціць шпульку' (Касп.). Сапсаванае народнае **муце́рка*. Параўн. бел. міёр. *мітэрка* (Шатал.), зах.-міёр. *лютэрка* (Крыўко, вусн. паведамл.), польск. зах., паморск. каш. *muterka, muterek* 'тс', сілезск., лэнчыцк. 'гайка, шруба на канцы восі'. Змену губнога ў *л* параўн., напрыклад, у брасл. *ліцірына́р=ветэрына́р* (Сл. ПЗБ).

**Ліцкава́ць** 'ніцаваць' (Грыг., Мядзв.). З **лічкава́ць*, якое з *лічка* 'тварык'<*ліцо*. Параўн. рус. дан. *личкова́ть* 'ніцаваць'.

**Ліцо** 'твар, аблічча' (Бяльк., Ян., брасл., ушац., лепел., арш., крыч., капыл., пух., маз., хойн., КЭС; брасл., Сл. ПЗБ), *лічка, лічэнька, лічанька* 'тварык' (Нас., Растарг.), 'правы бок тканіны' (Уладз.), укр. *лице*, рус. *лицо*, ст.-рус. *лице*; польск. *lice*, н.-, в.-луж. *lico*, чэш. *líce, líčko*, ст.-чэш. яшчэ і *líc*, ходск. *líce, lícata*, славац. *líce, líco*, славен. *líce*, серб.-харв. *ли́це*, чак. *лицѐ*, макед. *лице, лици* (мн. лік *лицинта)*, *лико*, балг. *лице, лико*, ст.-слав. **лице, личеса.** Прасл. *lice* Якабсон (Этимология- 84, 248—249) рэканструюе як **liņkam*, а формы з заднянёбным *(лико, ликъ)* узыходзяць да праформы **leik-* (без насавога інфікса). Мартынаў (Прасл. яз., X Міжнар. з'езд слав., Мн., 1988, 30—31) прасл. *lice* разглядае як слав.-прус. інавацыю (параўн., ст.-прус. *laygnan*<**leiknan)*, якая арыентавана на італійска-кельцкі арэал (параўн., ст.-ірл.

2. Зак. 1005.

*lecco,* ірл. *leaca* 'шчака'<**lēk-*<**leik-*). Гл. яшчэ Фасмер, 2, 495—496; Слаўскі, 4, 222—225; Махэк$_2$, 331; Бязлай, 2, 139; Мартынаў, Лекс. взаим., 213—217. Больш падрабязна гл. Трубачоў, Эт. сл., 15, 75—78.

**Ліцца** 'цячы струменем', 'распаўсюджвацца, выходзіць (аб дыме), разносіцца', 'заліватца тлушчам', *ліць* 'выліваць', 'безупынна цячы', 'выплаўляць', 'распаўсюджваць', 'ісці (пра вялікі дождж)', лаг. *лі́цца,* тураў. *ліць вулі́ўкі* 'несці яйкі без шкарлупы' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Шат., Яруш., Сцяшк., КЭС, ТС), *літыя боты* 'боты з тоўстай гумы' (лід., Сцяшк. Сл.; Ян.), *літы* 'выраблены ліццём' (ТС). Укр. *лити,* рус. *лить,* ст.-польск. *lić,* суч. *lać,* н.-луж. *laś,* в.-луж. *leć (lije),* чэш. *líti,* славац. *liat',* славен. *líti (líjem),* серб.-харв. *лѝти,* балг. *лия* 'лить', макед. *излева* 'выліваць, адліваць', ст.-слав. **излити** 'выліць'. Прасл. *liti (lьjǫ* і пазней *lějǫ),* роднаснымі да якога з'яўляюцца: літ. *lýti, lȳja* 'ісці (аб дажджы)', *líeti,* лат. *liêt* 'ліць', *lît* 'струменіць', ст.-грэч. *ἄλεισον* 'посуд на віно', лац. *lītus* 'востраў', кімр. *lli* 'мора', *lliant* 'цячэнне', гоц. *leiÞu* 'фруктовы сок, сідр', алб. *lisë, lysë* 'ручэй', і.-е. **lē̆i* 'ліць, капаць' (Бернекер, 709, 710; Фасмер, 2, 504; Слаўскі, 4, 248; Махэк$_2$, 336; Бязлай, 2, 145).

**Ліцытава́ць** 'канфіскаваць' (Сцяшк.). З польск. *licytować* 'прадаваць з аўкцыёну'<*licytacja* 'аўкцыён'<лац. *licitātio* 'тс' (Слаўскі, 4, 240).

**Ліцэнзія** 'дазвол дзяржаўных органаў на выкарыстанне чаго-небудзь', відавочна, запазычана ў наш час з рус. мовы, хаця мае аналаг у ст.-бел. *лиценция* 'дазвол', 'свабода' (1603 г.), якое запазычана са ст.-польск. *licencyja* 'свабода, адыход ад агульных правіл, дазвол' (XVI ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 40)<с.-лац. *licentia* 'дазвол на выкладанне ва універсітэце'<лац. 'воля, свабода' (Слаўскі, 4, 226—227).

**Лічба** 'знак для абазначэння ліку', 'сума, лік, колькасць' (Нас., Мядзв., Др.-Падб., Грыг., Бяльк., Шат., ТСБМ, ТС), 'падлік' (Ян.), *лічба* 'лічэнне' (Гарэц.). Укр. *лічба, личба* (з польск. мовы), рус. *личба* (Даль), смал. *личба* 'колькасць', польск. *liczba,* н.-луж. *licba,* в.-луж. *ličba,* чэш. *ličba* (у Юнгмана — з польск. мовы), славац. *licba, ličba.* Трубачоў (Эт. сл., 15, 83—85) уключае дадзеныя з паўд.-слав. тэрыторыі: серб.-харв. *лижба, лиџба* 'аўкцыён', *lig'ba* (з XIII ст.)<*liciti,* балг. *личба, лижба* 'прыкмета', *лиджба* 'прадвесце', *лижбъ* 'нешта значнае' і выводзіць прасл. *ličьba,* утворанае ад *ličiti* (sę)> *лічыць* (гл.). Аб суфіксе *-ьba (-ба)* гл. Слаўскі (SP, 1, 61—62) і Сцяцко (Афікс. наз., 33).

**Лічба́н** 'старажытная бронзавая манета; якая ўжываецца цяпер у прывесках на каралях' (Нас.). Да *лічма́н*$_1$ (гл.).



Назіраецца другаснае збліжэнне да слова *лічба* (Слаўскі, 4, 243).

**Лічбы** 'толькі б, хоць бы' (маст., Сл.ПЗБ). З рус. *лишь бы* 'тс'.

**Лічкава́ты** 'прыгожы' (браг., Мат. Гом.). Утворана ад дзеяслова *⁺лічкаваць*<*лічка*<*ліцо,* параўн. ст.-бел. *личко* 'тварык' (XVI ст.), а таксама *личковати* 'памячаць, пазначаць украдзенае, апазнаную рэч' (1541 г.) і рус. кур. *личковать* 'класці наверх лепшыя ўзоры тавару, вырабаў', уладз., ніжнегар. *ли́чка* 'шліфаванне, паліраванне вырабаў', дан. *личко́вка* 'бялілы для твару', кур. *личку́н* 'багамаз, які малюе толькі твар і рукі', укр. *личкувати* 'маскіраваць', 'выгладжваць паверхню каменя ў млыне', 'падбіраць рэчы лепшую да лепшай', *личко́ваний* 'аздоблены з выгляду', 'шліфаваны'. Усе да прасл. *ličiti* 'быць прыкметным', 'фарміраваць, утвараць' (Слаўскі, 4, 247; Махэк$_2$, 331, Трубачоў, Эт. сл., 15, 81—82).

**Лічма** ў выразе *лічма лічы́ць* 'лічыўшы, паводле ліку' (Нас.), укр. *лічма́.* Утворана ад дзеяслова *лічыць* пры дапамозе суфікса *-ъта*, які ўзыходзіць да канчатка тв. склону парнага ліку (Ваян, Gram. comp. 2., 692). Аналагічна *лежма ляжа́ць* і інш.

**Лічма́н**$_1$ 'ордэн', 'медальён' (Ян., Растарг.), *лічба́н* 'манета ў прывесках на каралях' (Нас.). Укр. *личма́н* 'старэйшы пастух авечак', 'буйная металічная аздоба, якую жанчыны носяць на шыі', рус. новарас. *ли́чман* 'старэйшы пастух авечак', перм. 'чалавек з крупным тварам', бран. 'жэтон', зах.-бран. 'ордэны, медалі', курск., арханг. 'вельмі дробная манета'. Фасмер (4, 242—243) мяркуе, што ўкр. і рус. лексемы запазычаны з польск. *liczman* 'металічная бляха, пры дапамозе якой лічылі', 'металічная бляшка, якая замяняе капейкі ў гульні', ст.-польск. 'рахункавод' — а гэта (ад *liczyć* 'лічыць') можа быць часковай калькай лац. *calculus* 'каменьчык для лічэння'. Да *лічы́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ман* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 54). Трубачоў (Эт. сл., 15, 85) прасл. *ličьmanъ* выводзіць з *likъ, ličiti*>*лічы́ць* (гл.). Суфікс *-man-* да і.-е. **-men-*.

**Лічман**$_2$ 'чалавек з тварам у высыпцы і струпах' (М. Шаховіч, в. Сакі (бельск., ПНР)//Наша ніва. №16. 1978. С. 4) — у выніку пераносу семантыкі *лічма́н*$_1$ 'круглыя металічныя манеты, якія падобны да струпоў'.

**Лічна** 'шмат', *лічны* 'шматлікі' (Нас., Яруш.). Запазычана з польск. *liczny* 'які складаецца з многіх адзінак' (Слаўскі, 4, 244).

**Лічнік**$_1$ 'лік простага дробу, які стаіць над рысай' (ТСБМ). Запазычана з польск. мовы, дзе *licznik* 'тс' (з XVIII ст).< *liczyć* 'лічыць' (Слаўскі, 4, 243—244) з'яўляецца калькай з с.-лац. *numeralor* 'лічыльнік'<лац. 'той, хто лічыць'.

**Лічнік**$_2$ ’апаўшыя камлючкі з хвоі або елкі’ (івац., Нар. сл.). Можна дапусціць роднаснасць са ст.-польск. *licznik* ’самшыт, Buxus sempervirens L.’ (Слаўскі, 4, 244), утвораным ад лац. *lycium* ’лікій — лякарства, якое складалася з сокаў розных раслін, у тым ліку і самшыту, крушыны’>’сок самшыту’>’самшыт’. Аднак больш імаверна, што гэта слова ўзыходзіць да $^{+}$*іглічнік* (<*іглíца* ’калючкі з хвоі ці елкі’) — з адпадзеннем пачатковага *і-*, а пасля і *-г-* (як, напрыклад, бел. *лянь!*<*глянь!*).

**Лі́чны**$_1$ ’шматлікі’ — гл. *лі́чна*.

**Лі́чны**$_2$ ’прывабны, статны’ (Ян.), польск. падгальск. *liczny,* ст.-чэш. *líčný,* чэш. *lícný,* славац. *líčny,* славен. *líčen,* серб.-харв. *лȉчан,* макед. *личен,* балг. *личен.* Прасл. *lič-ьnъjь* ’статны, прыгожы’. Да *лік*$_2$<*ліцо*<*lice* (гл.). Відавочна, на развіццё семантыкі аказаў уплыў дзеяслоў *ličiti* ’фарміраваць, аздабляць, упрыгожваць’ (Слаўскі, 4, 244—245; Трубачоў, Эт. сл., 15, 85—87).

**Лічы́длы** ’лічыльнікі’ (свісл., Сцяшк. Сл.). З польск. *liczydło* ’тс’.

**Лічы́льнік** ’той, хто лічыць’ (Бяльк.). Да *лічы́ць* (гл.). У літаратурнай мове ўжываецца *лічы́льшчык* ’тс’ (ТСБМ). Крукоўскі (Уплыў, 121) адносіць гэта слова да калек з рус. мовы.

**Лічы́на**$_1$ ’прыстойнасць, далікатнасць’ (ТС). Да *лі́чыць, лік*$_2$*, ліцо* (гл.) (Бернекер, 719; Фасмер, 2, 496).

**Лічы́на**$_2$ ў выразе *лічы́на злая* пры характарыстыцы нячысціка падкрэсліваюцца адмоўныя маральныя якасці д’ябла (Зайцава, Лінгв. дасл., 65). Рус. паўн. *личи́на, личи́нище* ’нахабны твар’, ’вялікі твар’, ст.-рус. *личина* ’маска’, ’выява чалавека або жывёлы’. Трубачоў (Эт. сл., 15, 81) лексемы *лічы́на*$_{1,2}$ адносіць да прасл. *ličina*<*likъ, lice.*

**Лічы́нка** ’чарвякі, насякомыя, рыбы і інш. у пачатковай стадыі развіцця’ (ТСБМ) запазычана з рус. *личинка* ’тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 72), якое ў выніку дээтымалагізацыі развілося з *личина* ’маска’ (Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 348).

***Лі́чыць,** паўд.-пін. *лычыты* ’пасаваць, ісці да твару’ (Нар. лекс.), укр. *лі́чити, личить* ’быць да твару’, ’падыходзіць, пасуе’, рус. *ли́чить* ’наводзіць бляск’, *личи́т* ’пасуе, падыходзіць’, ст.-рус. *личити* ’выкрываць’, чэш. *líčiti* ’маляваць, рабіць ружовым’, ’прадстаўляць’, ’бяліць’; славац. *líčit’* ’грыміраваць’, ’падмалёўваць’, ’выяўляць; жыва апавядаць’, славен. *líčiti* ’рабіць прыгажэйшым’, ’выгладжваць, паліраваць’, ’грыміраваць’, серб.-харв. *лѝчити* ’быць падобным’, ’бяліць’, ’аздабляць’, ’надаваць форму’, *ли́чи* ’падыходзіць’, макед. *личи* ’аздабляць’, ’быць падобным, адпаведным, быць да твару’, балг. *личá* ’быць прыкметным, падобным’, *личú* ’здаецца’, ц.-слав. *личити*



’абвяшчаць, паведамляць, рабіць яўным’. Прасл. *ličiti* ’утвараць, рабіць прыкметным, падобным, пазначаць’, роднаснае з *лік*$_2$ (гл.). Параўн. таксама *ліцаваць*$_2$.

**Лічы́ць** ’называць лікі ў паслядоўным парадку’, ’вызначаць колькасць, суму’, ’дапускаць, прымаць у разлік, пад увагу’, ’прызнаваць’ (Нас., Грыг., Гарэц., Бяльк., Касп., Шат., ТС, ТСБМ, Растарг.), ’прытрымлівацца пэўнай думкі’ (Сл. ПЗБ), *лічы́цца* ’быць у разліку’, ’цаніцца’, ’ставіць сябе на ўзровень з іншымі’ (ТСБМ, Нас., ТС), ст.-бел. *личити* ’вызначаць суму, колькасць’, ’адлічваць, адмяраць’, ’расцэньваць’, ’адносіць да чаго-н.’ (Рукапіс ТСБМ). Укр. *лічи́ти* (<польск.), *личи́ти,* рус. пск., кур., тул., арханг. *ли́чить,* польск. *liczyć,* н.-луж. *licyś,* в.-луж. *ličić, чэш., мар. líčit,* ст.-слав. **личити.** Паўн. прасл. *ličiti,* роднаснае з літ. *likúoti* ’лічыць’, лат. *līkt* ’старгоўвацца, дамаўляцца пры куплі-продажу’, лац. *licēre* ’быць выкладзеным для продажу’, *licet* ’дазволена (для продажу)’ (Бернекер, 720—721; Фасмер, 2, 496; Слаўскі, 4, 245—246; БЕР, 3, 441—442). Этымалагічна тоеснае да *лі́чыць* (гл.) зрабіла лексіка-семантычную эвалюцыю накшталт: ’паказваць добрым бокам’>’апавяшчаць’>’лічыць, весці ўлік’ (Трубачоў, Эт. сл., 15, 83).

**Лічэбнік** ’часціна мовы, якая абазначае колькасць або парадак прадметаў пры лічэнні’. Запазычана з польск. *liczebnik,* якое з прыметніка *liczebny*<ст.-польск. *liczebne* ’лічэбнік’ — калька з лац. *numerale nomen* ’тс’ (Слаўскі, 4, 242). Памылкова Крукоўскі (Уплыў, 116), які мяркуе, што лексема з’яўляецца калькай з бел. коранем і рус. суфіксам.

**Лішáй**$_1$ ’хвароба скуры’ (ТСБМ, Шат., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), ’лішайнік’ (ТСБМ, ТС). Укр. *лишáй* ’хвароба скуры’, рус. *лишáй* ’лішай’, цвяр., пск. ’гнойны струп на галаве’, польск. *liszaj, liszal* ’хвароба скуры’, *liszajec, liszaje* ’лішайнік’; н.-луж. *lišaj, lišajca, lišawka, lišawica,* в.-луж. *lišej, lišawa,* чэш. *lišej, lišaj,* ганацк. *leši* ’хвароба скуры’, славац. *lišaj, lišäj* ’тс’, ’мёртвая галава (насякомае)’; славен. *lišâj,* серб.-харв. *лѝшај, lîšalj,* макед. *лишај,* балг. *ли́шай, ли́шей* ’лішайнік’, ’лішай’. Прасл. *lišajь* ’хвароба скуры, скурная высыпка, прышчынак’> ’лішайнік’ (Слаўскі, 4, 489—490; у Скока (2, 308): ’лішайнік’> ’скурная хвароба’, што здаецца менш верагодным) утворана ад прасл. *lix-ъ* (гл. *ліха*) і суф. *-ějь* (Фасмер, 2, 506; БЕР, 2, 444—445). Махэк$_2$ (336) генетычна супастаўляе разглядаемую лексему са ст.-грэч. λειχήν ’лішай’ (<λείχω ’ліжу’), у якой, аднак, цяжка растлумачыць пераход *x’*<*gh,* і знаходзіць аснову яе ў мар.-славац., ганацк. *liša* ’агонь, полымя’ (параўн. літ. *liepsnà* ’полымя’<і.-е. **leip-siā* — хвароба пачыналася пачырваненнем скуры. Аднак ён не адмаўляе і паходжання лексемы ад прасл. *lix-ъ.*

**Ліша́й$_2$** 'толькі' (Федар. 1), рус. паўн. *лиша, лишо, лише* 'толькі, як толькі' і семантычна блізкія рус. *лишь*, укр. *лише, лиш* 'толькі, усяго толькі', 'як толькі'. Усх.-слав. Узыходзіць да формы параўнальнай ступені н. роду *лише* ад *лихо*<*lixъ*. Да *ліха* (гл.). Канчатковае *-й* з'яўляецца займеннікавай і прыслоўнай прасл. часціцай *-i (-jь)*, параўн. аналагічна серб.-харв. *ondaj, tadaj*, славен. *tukaj, včeraj*, польск. *tutaj, dzisiaj*, укр. *тогдий, тудий, тутичкай* (ESSJ SG, 1, 107, 314, 315).

**Ліша́йнікі** 'расліны ніжэйшага тыпу, якія складаюцца з грыба і водарасці, утвараючы адзін арганізм, Lichenes' (ТСБМ; БелСЭ, 6). Навуковы тэрмін, запазычаны, відавочна, з рус. мовы. Да *ліша́й, ліха* (гл.).

**Лішак** 'рэшта, лішняе' (Яруш., Шат., ТСБМ). Укр. *лишок*, рус. перм. *лишок*, тул. *лишек* 'тс'. Утворана ад *lix-ъ*. Да *ліха* (гл.).

**Лішата́** 'лішняе, непатрэбнае' (Ян.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суфіксам *-ат-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 31). Да $^{+}$*ліша́ць* 'пакідаць', *ліха* (гл.).

**Лішачка** 'раскатаны на тонкі блін кавалачак цеста' (гродз., З нар. сл., Сл. ПЗБ). З *лішка* (гл.) 'рэшта'.

***Ліша́ць,** пін. *ліша́ть* 'пакладаць' (Шатал.) — фанетычны запіс зроблены не зусім правільна; драг. *лэ́чатэ* 'тс' (Лучыц-Федарэц, КЭС), у якім націск на *лэ́-* пад уплывам прыметніка устар. *лэ́шні, лэ́чны* (цяпер *лішні*), параўн. польск. *leszny* 'лішні' ў прымаўцы *moszna rzecz leszna, lecz zdobi wałachy* (Варш. сл.). Да прасл. *lišiti* 'пазбаўляць', параўн. рус. *лиша́ть*, бел. *ліша́цца* 'пазбаўляцца' (Ян.). Магчыма, гэта *-э-* ў аснове з'яўляецца архаічнымі адносінамі асноў *liš-/leh-* (з чаргаваннем *e:o*), як славен. *lẹ̑hniti* 'прыпыняць, праходзіць, пераставаць' (гл. Куркіна, Этымалогія-72, 78—79). Прасл. *lišati(sę)* — ітэратыў-дуратыў на *-(j)ati*, які ўзыходзіць да *lišiti*<*lixъ*> *ліхі* (гл.) (Трубачоў, Эт. сл., 15, 154—155).

**Лішка$_1$** 'градка' (пін., стол., Сл. Брэс.). Да *ляха́$_1$* (гл.).

**Лішка$_2$** 'няцотны лік' (Нас., Гарэц., ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ; слонім., Шн.), 'лішак, рэшта' (Нас., Бяльк., Касп., Шат., ТС), стол. *лышка* 'тс' (Нар. лекс.), укр. *лишка* 'тс', рус. смал., пск., *лишка* 'няцотны лік', паўн. 'многа, з лішкам'. Да прасл. *lišьka*<*lixъ*>*ліха* (гл.). Сюды ж *лішкі* — назва гульні (Анік.), даўг. *лішка* 'невялікая колькасць грошай' (Сл. ПЗБ).

**Лішні,** *лішній, лішненькій* 'які перавышае ўстаноўленую норму, колькасць', 'празмерны', 'непатрэбны', 'дадатковы' (Бяльк., Яруш., ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), *лішне, лішня, лішнё* 'надта, празмерна' (Шат., Сл. ПЗБ, ТСБМ), *лішняго* 'больш за норму' (Янк. 1). Укр. *лишній, лишний*, рус. *лишний*, ст.-рус. *лишьнии*; польск. *liszhy, liszni* (запазычаныя з бел. мовы), н.-луж. устар. *lišny* 'празмерны', серб.-харв. устар. *najlišno* 'найбольш', балг. *лишен* 'непатрэбны', прасл. *lišьnъ* 'які застаецца', 'празмерны', 'непатрэбны' (Слаўскі, 4, 293—294). Да *lixъ*>*ліха* (гл.). Сюды ж *лішніца* 'лішак; большае, чым можна', 'дастатак' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., Яўс., ТС, Шат.; пух., Жд. 2; лях., карэліц., Сл. ПЗБ).



**Лішта,** *ліштва, ліштва́, лыштва, ліштавачка, ліштаўка* 'падгорнутая або нашытая палоска матэрыі для аздобы, падрубкі; устаўныя часткі кашулі, кофты на грудзях' (Гарэц., Др.-Падб., Грыг., Бяльк., Касп., ТСБМ, Сл. ПЗБ, Ян.; мазыр. Мат. Гом.; навагр., Нар. сл.; КЭС, лаг.; стаўбц., Жд. 2; паўд.-пін., Нар. лекс.); 'дошка, фігурная планка вакол акон ці дзвярэй' (ТСБМ, Клім., Сцяшк., Гарэц.), 'карніз' (Яруш., Нас.), 'рэйка, плінтус' (Клім., ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'дошка патрэбнай шырыні' (КЭС, лаг.), 'папярочная жэрдка ў плоце' (свісл., Шатал.), 'перакладзіна ў прыстасаванні для снавання красён' (навагр., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *лиштва, лишта* 'ліштва, аблямоўка', 'планка' (1556 г.) запазычана са ст.-польск. *lisztwa, listwa, listewka* 'вузкая планка, дошчачка', 'рама карціны', 'падрубка ў адзенні', 'стужка, пояс', якія з с.-в.-ням. *līste* 'тс', суч. ням. *Leiste* (Слаўскі, 4, 287—288; Чартко, Бел. лінгв. зб., 151; Булыка, Запазыч., 191; Лекс. запазыч., 189).

**Лішча́вы** 'гладкі, тлусты' (свісл., Сцяшк. Сл.). Утворана ад **блішчавы* 'бліскучы', параўн. бяроз. *бліскавы* і з чаргаваннем зычных кораня: *блішча́сты, блішча́ты, блішча́чы, блышчэ́чі* (Сл. ПЗБ).

**Лішшы** 'горшы', 'лішні, большы, празмерны' (Нас.) — параўнальная ступень прыметніка *ліхі*<прасл. *lix-ъ: lix-jьs*> >*lišь*+*i*>*lišii*.

**Лішэнне** 'разбіванне поля на палосы' (красл., Сл. ПЗБ). Да *ляха́$_1$* (гл.).

**Лішэнь** 'надта, вельмі' (Сцяшк.). Да *лішні*>*лішне* (гл.).

**Ліяна** 'павойная кустовая або дрэвавая расліна' (ТСБМ). Запазычана з франц. *liane* 'тс' (<*lier* 'вязаць, звязваць, злучаць') праз рус. (Крукоўскі, Уплыў, 73) або праз польск. мову.

**Лкаць** 'глытаць' (Нас., Яруш.), польск. *łkać* 'плакаць; выдаваць, плачучы, кароткія гукі', чэш. *lkáti* 'рыдаць, наракаць', 'хапаць губамі паветра пры спякоце', славац. *lkat'* 'рыдаць'. Паўн.-слав. *lъkati*, параўн. літ. *lùk!* для абазначэння моцнага глытання, *lùkinti* 'прагна піць', ст.-грэч. λύζω 'ікаю, плачу, трасуся', ст.-ірл. *slucim* 'глытаць', с.-в.-ням. *slicken* 'глытаць, плакаць'. І.-е. **(s)leuk-/*(s)leug-* 'глытаць'. Гл. таксама *локаць, лохнуць*.

**Лля́ны,** *льля́ны, ля́ны, ля́нны(й), лянэ́й* 'льняны' (Сл.

ПЗБ). Да *лён* (гл.). Сюды ж *лняньіця* 'тонкае палатно' (Сл. Брэс.).

***Лніска,** *лніско, лныско* 'ільнянішча' (Выг., Сл. ПЗБ), *лновыско* 'скошаная трава на льняным полі з рэшткамі недабраякаснага льну' (стол., Нар. лекс.). Да *лён* (гл.).

**Лоб**$_1$, *лоп, луоб, лôб* 'пярэдняя частка галавы' (ТСБМ, Бес., Кл., Бяльк., Касп., Сцяшк., Янк. Мат., ТС, Мат. Гом.), 'чалавек моцнага целаскладу' (ТС), 'галава, мазгаўня' (Кл.), 'абібок' (б.-каш., Мат. Гом.), 'пярэдняя частка чаго-небудзь' (Сцяшк.); *лэб, лэп* 'лоб' (шальч., воран., іўеў., шчуч., валож., трак., швянч.), 'галава' (астрав., ашм.), шчуч. 'валасы' (шчуч.— Сл. ПЗБ) — параўн. ст.-бел. *лебъ*<ст.-польск. *łeb* (Булыка, БЛ, 11, 46). Укр. *лоб, ліб,* рус. *лоб* 'лоб', польск. *łeb* 'галава жывёлы', зневаж. 'галава чалавека', ст.-польск. *łep* 'чэрап' (у Сымона Буднага); паўн.-усх. 'лоб' і розныя пераносныя значэнні; чэш. *leb* 'чэрап', перан. 'галава', ст.-чэш. *leb,* славац. *leb* 'чэрап', славен. *ləb* 'чэрап', 'лоб', балг. *лъб,* ц.-слав. *лъбъ* 'чэрап', ст.-слав. **лъбьнъ** (параўн. рус. *лобное место,* славен. *lebánja, lobánja* 'чэрап', 'узгорак'). Прасл. *lъbъ* 'чэрап'>'лоб'>'галава' (Слаўскі, 5, 92). Звычайна прасл. лексему супастаўляюць са ст.-грэч. λόφος 'шыя', 'узгорак', 'чубок, чупрына', 'султан з пёраў' і з тах. А *lap* 'чэрап', 'галава' (Шульцэ, Kleine Schriften, 1933, 252; Бецэнбергер, BB, 4, 333; Фрэнкель, 398; Поўха, Inst. linguae tocharicae, 1, 1955, 264; Фасмер, 2, 507). Аднак гэта аспрэчваюць: Бернекер (1, 748—749), Слаўскі (JP, 36, 72), Фрыск (2, 140) з прычыны фанетычных неадпаведнасцей. Яны, а таксама Брукнер (309), Махэк$_2$ (323) параўноўваюць прасл. *lъbъ* з *lubъ* 'кара, лыка', прыводзячы ў якасці доказаў наяўнасць сінонімаў — параўн. серб.-харв. дуброўн. *lùbina* 'чэрап', харв. *lùbanja,* славен. *lubánja,* якія ў рэшце рэшт узыходзяць да і.-е. **leubh-* 'лупіць, здымаць кару'. Прасл. *lъbъ* адпавядае і.-е. *lubh-* (сюды ж і літ. *lùbena* 'лушпіна', *lùbos* 'столя', *lubà* 'стальнічына') з першасным значэннем 'выпуклая шкарлупка' (параўн. серб.-харв. чак. з XVI—XVII стст. *lup* 'чэрап', *lûp* 'шкарлупа').

**Лоб**$_2$ 'пакрытая ледзяной карой зямля (пасля дажджу, адлігі)' (карэліц., Янк. Мат.). Да *лоб*$_1$ (гл.).

**Лоб**$_3$ 'шчыт, франтон' (Тарн., Зн., Касп.; пруж., бяроз., в.-дзв., Нар. сл., Шатал.; міёр. Нар. сл.), лельч., калінк. 'падстрэшак', пруж. 'закот', міёр. *лоп* 'падфрантонная сцяна ў будынку' (Нар. сл.). У выніку пераносу паводле падабенства з *лоб* 'лоб', параўн. палес. *спіна, грыва* 'вільчык'. Да *лоб*$_1$ (гл.). Параўн. таксама *лабак*$_1$.

**Лобан** 'лабасты чалавек'. (ТС). Укр. *лобáнь* 'тс'. Да *лоб*$_1$ (гл.). Рус. *лобáн* мае іншую семантыку.



**Лóбáч** 'невялікі шчупак', *лобóк* 'тс' (ТС). Рус. *лобáч* 'рыба кефаль, Mugil cephalus', 'белавочка, Abramis sapa Pall.' Утворана паводле падабенства з *лабáч* 'чалавек з вялікай галавой' (гл.).

**Лобжа** 'куча галля' (ветк., Мат. Гом.). Да *лоўж* 'тс' (гл.). Мена губнога назіраецца і ў ветк. *ломжа* 'тс' (там жа), а таксама ў тапоніме Ломжа (ПНР) — насуперак Сташэўскаму (Sł geogr., 1959, 173) і Брукнеру (там жа).

**Лобік** 'вушка кошыка' (светлаг., Мат. Гом.) утварылася ў выніку пераносу паводле падабенства з *лоб*$_1$ ці *лоб*$_2$ (гл.).

**Лобус**$_1$ 'сцёблы і лісце гуркоў' (стол., ДАБМ), *лобуз, лобудзь* 'цяўнік, націнне', *лобузіна* 'асобная націна', *лобузнік, лобузье* 'націнне' (Сл. Брэс., ТС). Укр. *лобузіння* 'цяўнік, сцёблы з летняй гародніны', рус. *лобоз* 'гібкі дубец', *лобоза* 'спірэя, Spirea ulmaria', польск. *łobuzie, łobazie, łobozg*. Прасл. дыялектызм *lobuz-ъ*>*lobuz-ьje* (Слаўскі, 5, 129). Да *лабазá, лабазнік, лабýззе, лабузя́к.*

**Лобус**$_2$ 'хлопец, дзяцюк' (арго, Рам. 9), ашм. 'гарэза' (Сл. ПЗБ). З польск. *łobus, łobuz* 'гарэза', 'вісус', 'хуліган', 'гультай', 'нягоднік', якое, паводле Слаўскага (5, 127), з'яўляецца адным з нешматлікіх выпадкаў параўнання чалавека з дрэвам, калодай, дубцом,— параўн. укр. *хлистик, лобас,* рус. *хлыст,* бел. драг. *лíмах,* бел. *пень* і інш. Да *лобус*$_1$.

**Ловы,** *лоў* 'лоўля, паляванне без агнястрэльнай і халоднай зброі' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Бяльк.; навагр., віл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *ловы* 'рыбалоўныя месцы', 'паляванне (месца)'. Укр. *лов, лови,* рус. *лов, ловы,* польск. *łowy,* ст.-польск. *łów,* каш. *łòw,* н.- і в.-луж. *łow,* чэш. *lov,* славац. *lov, lovy,* славен. *lòv,* серб.-харв. *лȍв,* макед. *лов, lof, lófuvi,* балг. *лов, ловът,* ст.-слав. **ловъ**. Прасл. *lovъ* 'лаўленне, хапанне, лоўля звяроў, птушак, рыб', роднаснае з літ. *lãvynti* 'развіваць, практыкаваць', *lavùs* 'лоўкі, спрытны, кемлівы', ст.-грэч. атычн. λεία 'здабыча' (*λᾱϜιᾱ), дарычн. λᾱία, ληΐς 'тс', лац. *lucrum* 'выйгрыш', ст.-ірл. *lōg, lūag, lūach* 'плата, узнагарода', гоц., ст.-ісл. *laun* 'тс', ірл. *fo-lad* 'багацце'. І.-е. **lau-* 'лавіць, атрымліваць здабычу' (Бернекер, 1, 735; Покарны, 655; Траўтман, 153; Фасмер, 2, 508; Слаўскі, 5, 238; Скок, 2, 320—321). Інакш Махэк$_2$, 342, які выводзіць слова *lovъ* з *polovъ*, якое з *polovati* (параўн. славац. *pol'ovati,* бел. *палявáць,* а таксама ст.-грэч. παλεύω 'заваблíваю птушак у сетку'. Непераканаўча.

**Лог** 'шырокі, доўгі яр з адхоннымі схіламі' (ТСБМ), 'даліна, нізіна, лагчына' (Гарэц., Касп., Яруш., Сцяшк.; саліг., КЭС; віл., барыс., раг., Сл. ПЗБ), 'гразкая частка дарогі праз луг' (Мат. Бых.), 'сенажаць, нізіна' (ТС), 'вузкі кавалак сенажаці паміж палеткамі' (КЭС, лаг.), 'лагчына з хмызняком'

(Ян.), навагр. 'раздолле' (КЭС). З аналагічнымі значэннямі — ў рус. і ст.-рус. мовах. Укр. *лог, ліг* 'логавішча', серб.-харв. *лôг* 'тс', 'ляжанне', балг. *лог* 'прынада'. Прасл. *logъ<ležati* (Слаўскі, 5, 256—257; Фасмер, 2, 509). Параўн. бел. навагр., слонім. *логма* (і *лёгма), ляжáць* (Нар. сл., Нар. словатв.), палес. *логом лежаць* 'нерухома, не маючы сіл падняцца', *логоваць* 'ляжаць аблогам' (ТС), серб.-харв. *лежи логом* 'ляжыць нерухома'. І.-е. адпаведнікі: ст.-грэч. λόχος 'засада', ст.-нарв. *log* 'месца ляжання', гальск. *logan* 'магіла'.

**Логава** 'месца, дзе знаходзіцца воўчы вывадак', 'паглыбленне ў зямлі, якое служыць жыллём зверу', 'бярлога', 'неахайныя жыллё, пасцель чалавека' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *логыва* (Бяльк.), *логва* (Шат.), *лóгаво* (Сцяшк.), *логвó, лóгово* (ТС), *логва, логвіска, логавіска, логвішча, логмішча* (Сл. ПЗБ, ТС, Мат. Гом., Сцяшк.), лун. *лыгвіско* 'тс' (Шатал.), *логавіна* (Сцяшк.), *логвіна* 'тс' (лаг., Жд. 2). Укр. *лігвó, логвó, лíгвище, логóвиско, лíгвиско, лóгово* 'тс', рус. *логово, логовище, логво,* варон. *лóгва,* арханг. *логовина,* а таксама *лежбище.* Усх.-слав. утварэнне. Да прасл. *log-/leg->лягáць* (гл.).

**Лóгаці,** 'стукаць' (Сл. Брэс.). Няясна. Магчыма, балтызм. Параўн. літ. *klegėti* 'грукаць, стукаць, моцна гаварыць, шумець'. Менш верагодна германізм—са *шлёгаць* 'біць' (гл.).

**Логіка** 'навука аб законах і формах мыслення', 'ход разважанняў', 'унутраная заканамернасць' (ТСБМ); ст. бел. *лоика* (1519 г.) запазычанне са ст.-польск. *loika* (пры наяўнасці і *logika,* якое з с.-лац. *logica* (дзе *-gi->-ji-*)<лац. *logica*< ст.-грэч. λογική (τέχνη) 'навука размаўляць, весці дыспут' (Слаўскі, 4, 324; Булыка, Лекс. запазыч., 161). Крукоўскі (Уплыў, 81) выводзіць лексему з рус. мовы.

**Лод** 'лёд' (Булг.) у словазлучэнні *на лоду.* Паводле Р. У. Краўчука (вусн. паведамл.), ацвярдзенне *л-* адбылося ў выніку блытаніны паводле зваротнай аналогіі. Параўн. палес. *кынь* 'конь' — Р. скл. *коня́.*

**Лодар** 'лежань, лайдак' (Ян., ТС; астрав., Сл. ПЗБ; Касп., Мат. Гом.), лодыр 'гультай' (Мат. Бых.), міёр. *лóдър* (З нар. сл.), *лодырь* 'тс' (Бяльк.), *лодарышчэ* 'вялікі гультай', *лодарываць* 'гультаяваць' (ТС). Укр. *лóдарь, лéдарь,* рус. *лóдарь, лóдырь.* Запазычана з с.-в.-ням. ці з н.-ням. *lodder, loder* (Бернекер, 1, 735; Фасмер, 2, 510). Параўн. таксама *лотр* (гл.). Аднак Абаеў (2, 17) не выключае магчымасці роднаснай блізкасці рус. *лодырь* з асец. *lædær* 'дурань', 'бездапаможны, нікчэмны чалавек'.

**Лодзь** 'маленькая лодка, човен' (Бяльк.), *лодка, лотка* 'човен, невялікае судна' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Бес., ТС, Сл. ПЗБ), 'лёгкая з тонкімі сценкамі лодка, зробленая з аднаго



кавалка дрэва (асіны)> (Маш.). Укр. *лодь,* рус. *лодка,* валаг. *лодия, ладья,* паўн. *ладейка, лодейка;* ст.-рус. *лодья, лодъка,* польск. *łódź, łodzja,* палаб. *lüd'a,* н.-луж. *łoź, ṷoś,* в.-луж. *łódź,* чэш., славац. *lod'* — пераіначанне прасл. *oldi/oldьji (oldьja).* Параўн. славен. *ládja,* серб-харв. *лâђа,* макед. *лаѓа,* балг. *ладя,* ст.-слав. **алъдии, ладии.** Роднасныя і.-е. адпаведнікі: літ. *aldijà, eldijà, eldís,* швед. *ålla,* дац. *aalde, olde* 'карыта', нарв. *olda, olle* 'вялікае карыта'. Больш падрабязна гл. Фасмер, 2, 510. Сюды ж бел. *лодачкі* 'жаночыя туфлі без шнуркоў' (ТСБМ; хойн., Мат. Гом.), *лодочка* 'спосаб завязвання хусткі' (ТС).

**Ложа**$_1$ 'пасцель, ложак' (ТСБМ, Бяльк., Мал., Мікуц., Ян.; арш., Шн.; мядз. Жд. 2; КЭС, лаг., паст., Сл. ПЗБ), 'рэчышча' (ТСБМ). Укр. *ложе,* рус. *ложе,* польск. *łoże,* ст.-н.-луж. *łoże,* в.-луж. *łožo,* чэш., славац. *lože,* ст.-чэш. *lože, lóže, lůže*; славен. *lǫ́že,* серб.-харв. *лȍже,* балг. *ложе,* ст.-слав. **ложе.** Прасл. *lože<log-je* 'месца, дзе нехта ці нешта ляжыць, ложак' (Слаўскі, 5, 245). Да *ležati>ляжáць* (гл.) — апафанія, як *vozъ~vezti* (Слаўскі, SP, 1, 81). Паводле Мее (Études, 392), адносіцца да -о-асноў (**logo*), параўн. ст.-грэч. λόχος 'засада', ст.-ісл. *lag* 'месцазнаходжанне', швед. *läge* 'месца, сядзіба', ст.-ірл. *lige,* ст.-грэч. λέχος 'ложак' (Фасмер, 2, 511).

**Ложа**$_2$ 'драўляная частка ружжа ці аўтамата, да якой прымацаваны ствол' (ТСБМ, Бес., Касп.; паўн.-усх., КЭС), *лóжэ* 'тс' (Сіг.). Запазычана з польск. *łoże* 'абклад, аснова, на якой што-небудзь абапіраецца, умацавана; аснова машыны, ствала стрэльбы' (Слаўскі, 5, 214). Этымалагічна ўзыходзіць да *ложа*$_1$.

**Ложак** 'мэбля — месца для спання, пасцель' (Нас., ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Касп., Шат., Сцяшк., Яруш.; КЭС, лаг.), *ложык* (Бяльк.), *лу͡ожэк* (паўд.-мін., паўд.-усх., КЭС), *лóжок* (ТС). Відавочна, паланізм — параўн. польск. *łóżko*<паўн.-слав. *ložьko* (памяншальнае ад *lože*>ложа$_1$), якое пасля запазычання па-беларуску было б *ложка,* што вельмі блізка да лексемы *ложка* 'лыжка', пашыранай на значнай тэрыторыі (гл., напрыклад, Сл. ПЗБ). Таму лексема пры запазычанні змяніла род і адпаведна суфікс па аналогіі да назваў прадмета паводле яго прызначэння, напрыклад *прыпечак, абутак.*

**Ложка**$_1$ 'ложак' (Сцяшк., Яруш.; нясв., Жд. 2; Сл. ПЗБ), *луожко* (Бес.), *лóжко, лыжко* (Сцяшк., Сл. ПЗБ; мін., КЭС). З польск. *łóżko.* Да ложа$_1$ (гл.).

**Ложка**$_2$ 'лыжка' (Бяльк., Шат., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ; палес., З нар. сл.), слаўг. 'лыжка для збору рою' (Нар. сл.). Укр. *лóжка,* рус. *лóжка,* ст.-рус. *лъжъка.* Да *лыжка* (гл.). Сюды ж *ложашнік* 'прыстасаванне для захоўвання лыжак' (ветк., Мат. Гом.); лексемы *ложка, лóжэчка, лóжачка, лóжычка* 'снавалка' (Уладз., Бяльк.; ветк., Мат. Гом.; в.-дзв.,

Шатал.), якая названа так паводле падабенства формы.

**Ложнік** 'несправядлівы чалавек, падманшчык' (стаўб., Жд. 2). Утворана ў выніку намінацыі з *ложны* (параўн. ст.-рус. *ложьный, лъжъный,* прасл. *ložьnъjь* і суф. *-ік.* Не выключана і адсубстантыўнае паходжанне з суф. *-нік.* Да **ложь>ілжá* (гл.).

**Ложны** 'пахілы' (віл., глыб., Сл. ПЗБ). Утворана ад асновы *log-* (*>ložь-nъ*), як *падоўжны.* Варыянт *ложмы* 'пакаты, спадзісты' (Сцяшк.; КЭС, лаг.) узнік пад уплывам семантычна блізкага *стромы* або ў выніку ад'ідэацыі прыслоўя *ложма* (Сл. ПЗБ), *лёгма* (гл.).

**Ложня** 'спальня' (паўн.-усх., КЭС), рус. алан., арханг. *ложня* 'тс'. Да *ложа*$_1$ (гл.).

**Лозік** 'верхалаз', 'ласун' (Бяльк.). Да *ла́зік, ла́зіць* (гл.). Пераход *а>о*, як у *тайна — утойваць, сядзе — пасодзім* (Карскі, 1, 98—99).

**Лозка** 'лазовы зараснік' (Шат.). Да *лаза́* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-к-а* з рэдкім для яго значэннем зборнасці (параўн. *сасонка* 'сасоннік'). Сюды ж *лозка* 'флёкс' (пруж., Сл. Брэс.).

**Лознікі** 'балотныя д'яблы' (Нік. Няч.). Да *лаза́* (гл.).

**Лой,** *лый, лаёк* 'топлены авечы або ялавічны нутраны тлушч' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Бяльк., Вешт., Клім., ТС, Булг., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), 'авечы тлушч' (Гарэц., Касп., Шат., Бес.), 'ялавічны тлушч' (Яруш., Мат. Бых.), 'свечачнае сала' (Грыг.; паўд.-усх., КЭС), 'свіное сала' (горац., маг., КЭС). Укр. *лій,* рус. *лой,* польск. *łój,* чэш. *lůj,* славац. *loj;* славен. *lọj* 'лейка', серб.-харв. *lôj,* макед. *лој, лујот,* балг. *лой,* ц.-слав. *лои.* Прасл. *lojь* 'топлены тлушч жывёл'. Утворана ад *liti* 'ліць' (як *bojь* ад *biti* і да т. п.) і першапачаткова было nomen actionis ('ліццё'), пасля перайшло ў разрад nomen acti 'тое, што льецца, топіцца' (Слаўскі, 5, 259; Фасмер, 2, 513). Сюды ж *лоевы* 'тлушчавы (аб свечцы)' (Нас., ТС), *лаёвы, лаевый* 'тс' (Гарэц., Др.-Падб., Грыг., Нас.), а таксама сувалк. *łojić* 'біць', якое разам з чэш. *slíti se* 'ўхіліцца ад абавязкаў, не прыйсці куды-небудзь', *ulít se* 'сачкануць', *ulejvák* 'лодыр, сачок', балг. радоп. *лойам съ* 'сцерагчыся, каб не ўдарылі пры гульні ў мяч', 'пазбягаць цяжкай працы' і інш., дазваляюць гіпатэтычна меркаваць аб тым, што ў адыменнага прасл. *lojiti* было апрача значэння 'намазваць тлушчам' (гл. Слаўскі, 5, 146—147) таксама значэнне 'ісці, хутка рухацца, пазбягаць' (Варбот, Этимология-73, 29—31; яна ж, СБЯ, 1981, 57).

**Лойма** 'чарціха', 'русалка' (Маш., Федар. 1), сувалк., супрасл. і сакольск. 'істота, блізкая да русалкі' (БНТ, Лег. і пад.). Балтызм, утвораны пры дапамозе суфікса *-ма* (як *лайма*). Дыфтонг *-oį-* дугасны; ён паходзіць са старога *-oų-*.



**Лойтра** 'гультай' (Ян.). Да *лотр* (гл.); *-й-* выражае экспрэсіўнасць, магчыма, не без уплыву *ло́йтры* (гл.).

**Лойтры** 'бакі ў драбінах без абшыўкі' (паўд.-усх., КЭС) паходзіць з герм. моў, параўн. ням. *Leiter* 'драбіна, лесвіца'.

**Локаць**$_1$, *локець, лыкоть* 'сустаў, месца згібу рукі' (ТСБМ, Бяльк., Сл. Брэс., Шат., Яруш., Сцяшк., Ян., Сл. ПЗБ), хойн. *локець,* арш. *локъць,* крыч., ушац. *локыць,* бяроз. *локоть* (КЭС), *лу́коць, лікоць* (Дразд.), *луокоть* (Бес.), *локець* (ТС; хойн., Шатал.). Укр. *ло́коть, лікоть, ло́кіть,* жытом. *ло́хот,* рус. *ло́коть,* ст.-рус. *локъть;* польск. *łokieć, okieć, łochieć,* каш. *łokc,* палаб. *lüt'èt,* н.-луж. *łokś,* в.-луж. *łochć,* чэш. *loket,* славац. *laket', loket', lachet', lochet',* усх. *lokec;* славен. *laket, lakât,* прэкмур. *lakèt,* усх.-штыр. *láket* серб.-харв. *lȃkat,* дуброўн., чарнаг. *la̍kat;* **макед.** *лакот, lokut', lъcht', lъft'(ót),* балг. *лакът,* радоп. *ла́кать,* ст.-слав. **лакъть.** Прасл. *olkъtь, olkъte* 'згіб рукі, сустаў у згібе рукі' з асновай на -u, да якой у прасл. мове дадавалася *-t* (як у лац., параўн. *cap-ut, -ut-i-s*). Суф. *-ъt* (~балт. *-ut-a-s, -ut-i-s*) ужываецца і ў іншых слав. саматычных назвах: бел. *пазногаць,* рус. *коготь,* польск. *kłykieć* 'мышчалкі', 'другая фаланга пальцаў'. І.-е. адпаведнікі: літ. *uolektis* 'локаць — мера даўжыні', лат. *uõlekts* 'тс', лат. *elks* 'локаць', 'перадплечча', ст.-прус. *woltis* 'тс', а таксама балт. адпаведнікі з пашыранай асновай на *-n:* ст.-прус. *alkunis* 'локаць', літ. *elkū́nė, alkū́nė* 'перадплечча', 'паварот ракі, вуліцы', лат. *ȩ̀lkuone* 'локаць', *ȩ̀lkuons, ȩ̀lkuonis* 'згіб' і іншыя: ст.-грэч. ὠλένη 'локаць', але ἄλαξ· πῆχυς (у Гесіхія), лац. *ulna,* ст.-ірл. *uilenn,* гоц. *aleina,* ст.-в.-ням. *elina,* алб. *llerë,* ст.-інд. *aratniṣ,* авест. *arəϑna* 'локаць', арм. *ołn* 'хрыбетнік', *olokᶜ* 'галёнка, вялікая галёначная косць'. Да і.-е. **el-, *ol-* 'згінаць, гнуць' (Фасмер, 2, 514; Слаўскі, 5, 154—158; Скок, 2, 263—264). Сюды ж *локаць, локыть, локець* 'мера даўжыні 65 см, ад кісці рукі да локця' (Гарэц., Бес., Мал., Шат., Уладз., Ян., Нас., Сцяшк.), лун. 'даўжыня ў 0, 5 м' (Шатал.), 'мера даўжыні на выцягнутую руку' (Нас.), 'мера даўжыні ў 3/4 аршыну' (паўд.-усх., КЭС).

**Локаць**$_2$ 'прагна піць' (Крыў., Дзіс.). Да *лкаць* (гл.).

**Локіш** 'локаць' (дзярж., Нар. сл.) — рэгіянальнае ўтварэнне з суф. *-іш* (Сцяцко, Афікс. наз., 159), па аналогіі да *мя́каць →мякіш.* Да *локаць* (гл.).

**Локша** 'выраб з пшанічнай мукі ў выглядзе высушаных палосак цеста' (Жд. 2, Ян., ТС; драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), кантамінаваная *лопша* (Вешт.) — з *локша* і *лапша́, лопшына* (Ян.); *локшаны* (Мядзв.), маг. *локшын* (Шн.); *локшына* (ТСБМ; паўд.-усх., КЭС; радашк., карэліц., пруж.,

глус. Янк. 1; Касп., Шат.), *локшыны* (Малч., Сцяшк., Бес., Нас., Сл. ПЗБ), *локшэ́ніна* (ТС), *лакшы́ны* (Бяльк.), *локшына* 'локшына з крухмалу' (Ян., ТС); *локша* 'соус з пшанічнай мукі', 'малочны суп з крухмалу' (браг., хойн., Мат. Гом.). Укр. *локша, ло́кшина, лапша;* рус. *лапша,* кур. *локша,* паўд.-зах. *ло́кшины,* ст.-рус. *лапша, лопша, лапшица* (XVII ст.). Запазычана з цюрк. моў, параўн. тат., уйг. *lakča* 'локшына' (Фасмер, 2, 460).

**Ло-ло**, *ло-лам, ло-лым* — прыпеў у песнях на канцы страфы (Федар. 7). Гукапераймальнае. Да *ла-ла-ла* (гл.). Сюды ж *алалым* — аб валачобніках (Шпіл., Нас.). Гл. таксама *лалоўнікі.*

**Лом** 'ламачча, сухія, апаўшыя галіны' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Сцяшк., Кл.), *лом'е* 'тс' (ТС), *лýом* (Федар. Дад.); *лом (лум, лôм, лим)* 'тс', 'куча галля' (Касп., Сл. ПЗБ, ТС, ЛАПП), 'хвораст' (ЛАПП), 'агонь, касцёр' (мядз., Нар. лекс.; паст., Сл. ПЗБ), 'буралом' (Др.-Падб.), 'лес' (віц., Ів.; Вяр.), 'хатняе стар'ё' (Шат.), *ламяйко* 'дробнае галлё, сукі', *ламы* 'абцярэбленыя сукі дрэва, сабраныя ў кучы' (Сцяшк.), 'суччa ў лесе, наваленае на зямлю' (Нас.). Укр. *лім, лом,* валын. *лумо́,* рус. паўн., наўг. *лом,* польск. *łom,* каш. *łòm,* зах.-прус. *џйтә,* н.-луж. *łom,* чэш. *lom,* мар. *łom,* славац. *lom,* славен. *lȍm,* серб.-харв. *лôм,* макед., балг. *лом.* Прасл. *lomъ* 'ламанне' > 'нешта паламанае' > 'ламачча' > 'месца, дзе быў павалены лес', 'пралом' > 'расколіна ў зямлі, нізіна, яма з вадой, балота' (параўн. рус. пск. *лом* 'балота'). Гл. Слаўскі, 5, 168—169. Утворана ад асновы *lom-*, роднаснай з літ. *lãmas* 'частка, кавалак, кавалак зямлі', гэтак жа і Аткупшчыкоў (Этимология-84, 193), *lamãkas, lamañtas* 'кавалак', *lìmti* 'ламацца', лат. *limt* 'згінацца пад цяжкай ношай', ст.-прус. *limtwei* 'ламаць', літ. *ãp-lamas* 'нязграбны', лат. *aplams* 'недарэчны', а таксама, відавочна, алб. *lëmë, lamë* 'ток', 'маслабойка'; ірл. *laime* 'сякера', ст.-в.-ням. *lam,* ст.-ісл. *lami* 'кульгавы, пакалечаны' (падрабязна агляд літаратуры гл. таксама Фасмер, 2, 515). Скок (2, 316) выводзіць *lomъ* з *lomiti.* Непакупны (Бел. лекс., 121 і Связи, 194), падаючы арэалы распаўсюджання *лоўж* і *лом,* мяркуе, што *лом* з'яўляецца 'перакладной' (з балтыйскага *láužas*) лексемай.

**Лом**$_2$ 'боль у касцях, ламота' (Бяльк.) прымыкае да рускамоўнага арэалу, дзе *лом* 'ламота, артрыт, рэўматызм'. Укр. *ломець* 'тс'. Да *ламáць* (гл.).

**Лом**$_3$ 'жалезны лом' (ТСБМ, Сцяшк., Яруш.), ветк. *ламок* 'тс' (Мат. Гом.). Відавочна, пашырылася з рус. мовы. Да *лом*$_1$.

**Ломаць** 'адламаны кавалак', 'луста хлеба' (Бяльк., Сцяшк., ТС; в.-дзв., Шатал.). Рус.-бел. ізалекса. Параўн. рус. *ломо́ть.* Да *ламáць* (гл.). Суфікс *-оть,* як у *лапоть.*



**Ломень** 'пастка' (ветк., Мат. Гом.). Да *лом*$_1$ (гл.) са зменай семантыкі 'расколіна' > 'яма' > 'пастка', што не зусім пераконвае. З'яўляецца магчымым вывесці гэту лексему з прасл. *xlomǫti* > *xlonǫti* (Мартынаў, Слав. акком., 131—132), якое генетычна суадносіцца з літ. *lãminti* 'жэрці' і ст.-грэч. λάμια 'пашча', 'прорва'.

**Ломкі** 'складкі' (даўг., Сл. ПЗБ), адз. лік *ломак.* Да *лом*$_1$ (гл.). Роднасныя: *ламаць, залом* (гл.).

**Лона** 'грудзі ці чэрава як сімвал мацярынства, пяшчоты, ласкі', 'паверхня ці нетры вады, зямлі' (ТСБМ, Яруш.), 'ахапак, бярэмя' (маз., Шн. 3), *лано* (пух.) 'палажэнне рукі для накладання на яе бярэмя дроў', ст.-дар. 'абярэмак', пух., калінк., ст.-дар. 'калені' (Сл. ПЗБ), *лоні* 'абдымкі, прыцісканне да грудзей, абхват рукамі' (Гарэц., Др.-Падб., Нас., Яруш.). Укр. *лоно, лоньо,* рус. *лоно,* польск. *łono,* каш. *łono, łòno,* палаб. *lüönü,* н.-і в.-луж. *łono,* чэш. *lůno,* ст.-чэш. *lóno,* славац. *lono,* славен. *lono* (запазычана з інш. слав. моў), літаратурнае серб.-харв. *лоно,* балг. *лоно,* ст.-слав. **лоно.** Прасл. *lono,* пэўнай этымалогіі якога няма. Сярод розных этымалогій (з **loksno,* з **lopno,* з **lotno,* з **lokno* і інш.— гл. Фасмер, 2, 517; Слаўскі, 5, 188—191) у якасці найбольш імавернай можна лічыць версію Махка — Трубачова: *lono* < **log-sno,* як, напрыклад, *луна* < **louksna* (гэтак жа ў Фасмера). Аналагічна Аткупшчыкоў (Из истории, 244—245) — з **log-e-s-na.*

**Лоні** 'летась, у мінулым годзе' (Сцяшк., Бел. арх.; беласт., Сл. ПЗБ), саколк. *лонскі* 'мінулагодні' (Карскі, Труды, 252) — відавочна, запазычанне з польск. мовы. Больш падрабязна гл. *ланей.* Аб суфіксальным *-н-* гл. Н. Перміна (Межвуз. науч. конф., посвящ. 50-летию образования СССР, Томск, 1972, 141—145).

**Лонка**$_1$ 'луг, лугавая сенажаць' (брасл., Хрэст. дыял.; Бес., Сл. Брэс., Сцяшк., Сіг., Сл. ПЗБ), ельск. 'зямля паміж садовымі дрэвамі' (Выг.), драг. *ло́нок* 'луг, сенажаць' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *лонка* 'луг' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *łąka* 'тс' < прасл. *lǫka* (бел. паўн.-зах., рус. *лука*).

**Лонка**$_2$ 'вузкае паглыбленне на градзе для морквы, цыбулі і інш. раслін' (Жд. 1; акц., Мат. Гом.), *лоначка* 'радок морквы' (стаўб., Жд. 2). Балтызм. Параўн. літ. *lankà* 'даліна, лагчына, нізіна, падножжа гары', лат. *lañka* 'тс'.

**Лонкі** 'дугападобны, паўкруглы' (швянч., Сл. ПЗБ). Літуанізм. Параўн. літ. *lankùs* 'вельмі выгнуты'. Сюды ж *лончык* 'круты паварот ракі' (віл., Сл. ПЗБ).

**Лонтка** 'шула, якое злучае бярвенні ў сцяне' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *łątka* 'тс'.

**Лончык** ’палачка для рэгулявання нацягнутасці пілы’ (астрав., Сл. ПЗБ). З польск. *łączka, łącznik* ’тое, што злучае’.

**Лончыцца** ’змацоўвацца’ (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *łączyć się* ’злучацца’.

**Лопала,** *ло́пало* ’няроўнасць на палатне касы ад няўмелага кляпання’ (лельч., Нар. лекс.). Да *лопаўка* ’тс’ (гл.).

**Лопасць** ’шырокі, плоскі канец чаго-небудзь’, ’частка вясла’ (ТСБМ). Запазычана з рус. *лопасть* ’тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 72). Роднаснае да *лопата* (у выніку альтэрнацыі зычных з *лопат-ть* — Булахоўскі, ВСЯ (Львоў), 3, 1953, 12; Фасмер, 2, 518) і літ. *lãpas* ’ліст’. Сюды ж, відавочна, і *лопасты* ’вушы ў шапцы з аўчыны’ (Кольб.).

**Лопат**$_1$ ’лапатанне, балбатня’ (ТСБМ, Яруш.), ’шум’ (стаўб., Жд. 2, Нар. словатв.; уздз., Жд. 3). Укр. *лопіт,* рус. *лопот,* польск. *łopot,* серб.-харв. *лȍпот,* славен. *lopòt.* Прасл. *lopotъ* утворана ад *lopotati* (як *лоскат*) (Бернекер, 1, 732; Фасмер, 2, 519; Слаўскі, 5, 201—202). Да *лапатаць* (гл.).

**Лопат**$_2$ ’дошчачка з дзірачкай, у якой трымаецца верхні канец млёна’ (свісл., Шатал.). Балтызм. Роднаснае генетычна з літ. *lãpatas* ’акравак, абрэзак’, якое з *lãpas* ’ліст’ (Фрэнкель, 340). Названа паводле падабенства да ліста. Народная этымалогія збліжае лексему з дзеясловам *лопаць* і з аддзеяслоўным назоўнікам *лопат*$_1$ ’грукат, шум, стуканне’ (гл.). Параўн. таксама *лапатуха* (гл.).

**Лопатка,** бяроз. *ло́патка* ’пахрустванне ў суставах нагі’ (Шатал.). Да *лапата́ць*$_1$ (гл.).

**Лопаўка**$_1$ ’каваль, шчаўкун — розныя віды жукоў з сям. Elateridae’ (Касп.). Да *лопаць*$_1$ (гл.).

**Лопаўка**$_2$ ’нераўнамерна адцягнутае ў час кляпання карабатае месца на лязе касы’ (Мядзв., Жд. 1, Касп.; полац., Янк. 2; мін.-маладз., Шчарб.; докш., Янк. Мат.; полац., Нар. лекс.; рас., Шатал.). Утворана ад $^+$*лопавы*$<^+$*лопа*$<$літ. *lãpas* ’ліст’ (паводле падабенства). Параўн. *лапату́ха* (гл.).

**Лопацень**$_1$, *ло́поцень, ло́пыцінь, ло́пацінь, ло́потэнь* ’балбатун’, ’чалавек, які меле глупства, без сэнсу крычыць’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., ТС; КЭС, лаг.; лаг., Жд. 3; жлоб. Нар. словатв.; паўд.-пін., Нар. лекс., віл., смарг., Сл. ПЗБ). Да *лапата́ць*$_1$ (гл.). Сюды ж і лоеў. *лопацень* ’водаўдарная дошчачка на вобадзе кола ў вадзяным млыне’ (ЛАПП) — паводле шуму вады; па форме — да *лопацень*$_4$ (гл.).

**Лопацень**$_2$, *ло́поцень* ’выгібы на лязе касы пры нераўнамерным кляпанні’ (слуц., Нар. словатв.; лун., Мат. ЛАБНГ; ТС); *лопатні* ’тс’ (Жд. 1; карэліц., нясв., пін., стол., лельч., Мат. ЛАБНГ). Укр. палес. *ло́потень* (Нік.). Утворана ад $^+$*лопат,* якое з’яўляецца генетычна тоесным да літ. *lãpatas* ’акравак, абрэзак’.



**Лопацень**$_3$, *ло́потень* ’частка жорнаў’ (кобр., Выг.; КЭС, лаг.), ’верхняя перакладзіна ў жорнах’ (Касп.; віл., Сл. ПЗБ), *ло́патня* ’дошчачка (у жорнах), у якую ўстаўляецца млён’ (Касп.). Да *лопат*$_2$ (гл.).

**Лопацень**$_4$, *ло́поцень, лопацінь, лопыцінь, ло́патынь* ’вялікі, круглы, падобны да лапаты свярдзёлак; якім карыстаюцца ў млыне, выкручваюць дзіркі ў калодцы кола, робяць борці і да таго пад.’ (Бяльк., Касп., Жд. 1, Мядзв., Маш., Нас., Жд. 1, Сіг., ТС; КЭС, лаг.), ’лопасць у турбіне’ (віл., Сл. ПЗБ). Укр. *лопатень* ’шырокі свердзел’, рус. *ло́пате́нь* ’тс’. Да *лапа́та* (гл). Суфікс *-ень,* як у *берасце́нь, пруце́нь, ве́расень.*

**Лопаць**$_1$, *лопаті* ’трэснуць, рвацца, разрывацца’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп.), ’моцна стукаць’ (Бяльк.; беласт., варон., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), ’біць крыламі’ (Шат.), *лопацца* ’трэскацца’, ’крычаць на ўсё горла пры лаянцы’ (КЭС, лаг.; рагач., жлоб., Мат. Гом.; ТСБМ, ТС, Шат.), *лопнуць, лопнуті* ’трэснуць, пэнкнуць, парвацца, прапасці, знікнуць’, *(перан.)* ’здохнуць, памерці’ (ТС, Шат., Сл. ПЗБ, сувалк., КЭС), стаўб. ’адлегчы, паменшаць (пра мароз)’ (Жд. 2), *лоп!* ’пра лопанне’ (мсцісл., Нар. лекс.; ТСБМ). Укр. *лопати, лопатися,* рус. *лопать(ся),* польск. крэсовае *łopać,* славен. *lópati,* макед., балг. *лопам.* Прасл. *lopati,* утворанае ад гукапераймальнага выклічніка *lop!* (Фасмер, 2, 519; Слаўскі, 5, 202—204). Яму адпавядае літ. *lapúoti* ’лопаць крыламі’, ’шлёпаць’. Параўн. таксама *лапата́ць* (гл.). Сюды ж *лопан* у фразе: *лопана на яго няма ніякага!* (уздз., Жд. 2).

**Лопаць**$_2$ ’жэрці, прагна есці’, ’хлябтаць’ (Нас., Бяльк.). Укр. *лопати,* рус. *лопать,* чэш. ляш. *łopač,* славен. *lópati,* макед., балг. *лопам.* Прасл. *lopati.* Літ. *lopóti,* лат. *lepêt* ’тс’. Як і *лопаць*$_1$, утворана ад гукапераймальнага выклічніка *lop!*

**Лопка** ’лёгка, зручна’ (іўеў., Сл. ПЗБ). Паводле прыведзенага прыкладу: *казляк, лупіннік лопка дзярэцца* — да *лопаць*$_1$ ’трэскацца, аддзірацца’ (гл.).

**Лопух** ’шыракалістая трава ўвогуле’ (Нас.), ’лопух павуціністы Arctium L. tomentosum Mill.’ (ТСБМ, Кіс., чэрв., Сл. ПЗБ), *лапу́х* ’тс’ (гродз., Кіс.; ТС), *лопух* ’лопух Lappa major Gaerh, або Arctium majus Sch.’ (Шат.); ’падбел звычайны, Tussilago farfara L.’ (Нас.; смал., Кіс.), ’чартапалох, Carduus L.’ (слуц., Лекс. і грам.), ’чаравічак сапраўдны, Cypripedus calceolus L.’ (Бейл.), ’лотаць, Caltha palustris L.’ (Касп., Маш., Бейл., віл., бярэз., шчуч., докш., маст., барыс., чэрв., Сл. ПЗБ), ’падалешнік еўрапейскі, Asarum europeum L.’ (Бейл.), ’гарлачык белы, Nymphea alba L.’ (маг., смал., Кіс.), ’гарлачык чыста-белы, Nymphea candida Presl.’ (усх.-пал., Бейл.), ’гарлачык жоўты, Nuphar (L) luteum Sm.’ (смал.,

3. Зак. 1005.

Кіс.; Бейл., Бяльк.). Укр. *лопýх,* рус. *лóпух, лопýха, лапýхá,* польск. *łopich* 'лопух', н.-луж. *łopich, łompich* (з другасным *-m-*) 'шчаўе'; чэш. *lopich,* славац. *lopích,* славен. *lopúh,* серб.-харв. *лòпух, лȍпух,* балг. *лóпух, лóпох,* банац. *лопуф.* Прасл. *lopuxъ* 'лопух', 'расліна з вялікімі лістамі ад *lopъ* 'ліст', генетычна роднасным да якога з'яўляецца літ. *lapas* 'ліст' (Бернекер, 1, 733; Груненталь, ИОРЯС, 18(4), 147; Фасмер, 2, 520; Слаўскі, 5, 204—205).

**Лопухі** 'нераўнамерна адцягнутае ў час клялання вастрыё касы' (лун., Мат. ЛАБНГ). Да *лопух* (гл.). Гэта лексема пацвярджае меркаванне аб паходжанні *лапатýха, лопаўка, лопацень* (гл.).

**Лопухень** 'лопацень (на касе)' (ТС). Узнікла ў выніку кантамінацыі *лопух* і *лопацень* (гл.).

**Лопуцень** 'лопух павуціністы, Arctium (L.) tomentosum Mill.' (брэсц., Кіс.). Утворана пры дапамозе суф. *-ень* ад *⁺лопут-,* якое, магчыма, генетычна суадносіцца з літ. *lapúotas* 'ліставы', 'пакрыты лістамі' — менавіта так выглядаюць учэпістыя калючкі лопуху.

**Лопян** 'лопух павуціністы, Arctium (L.) tomentosum Mill.' (брэсц., Кіс.). Запазычана з польск. *łopian* 'лопух вялікі, Arctium lappa', якое з прасл. *lopěnъ*<i.-e. **lō̆p-/*lē̆p-* 'аб нечым шырокім і плоскім' (Слаўскі, 5, 199—201).

**Лоск**$_1$ 'бляск', 'лак, глянец' (Нас.), 'тс', 'бездакорны выгляд' (лельч., Нар. лекс.). Укр. *лоск,* рус. *лоск,* польск. *lsnąć, lskać, łysk* 'маланка', 'бляск', каш. *łəsk* 'пярун', чэш., славац. *lesk,* славен. *lèsk* 'бляск', серб.-харв. *лȁскат* 'маланка', макед. *ласка,* балг. *лѐскам, лъщя* 'блішчэць, ззяць', ст.-слав. лъщати сѧ. Прасл. *lъskъ, lъskati, lъsknǫti* або *lьskъ, lьskati, lьsknǫti* (Бернекер, 1, 750; Фасмер, 2, 521; Махэк$_2$, 327; Слаўскі, 5, 419; Скок, 2, 272 БЕР 3, 559—560). Да і.-е. *luk (sk)* Сюды ж *ласкованы* (аб паперы), *ласкавáць* 'наводзіць бляск, чысціню', *ласкавáцца* 'блішчэць, ільсніцца', 'пераліваццца (аб жыце)' (Нас.), *лоска* 'гладка, глянцавіта' (Бяльк.).

**Лоск**$_2$ 'рад', *лоскам ляжаць* 'упокат' (Нас., Ян.; слуц., БНТ, Лег., 460), *лоскым* 'тс' (Бяльк.). Укр. *у лоск (ляглá пшанúця), лоском лягло,* рус. пск., смал., кур., бран., варонеж. *лоском, в лоск* 'тс', сіб. *лоск* 'воднае люстэрка', уладз. *лóскоть* 'роўнае месца сярод узгоркаў'. Да *лоск*$_1$ (гл.). Развіццё семантыкі: 'у рад'>'роўна, гладка'. Сюды ж усх.-маг. *лоскытым* 'упокат' (Бяльк.), якое з'яўляецца змяшэннем з *лоскат.*

**Лоскат**$_1$ 'ласкатанне, казытанне', 'сверб' (Гарэц., Федар. 1, Нас., Бяльк., Ян., ТС) Укр. *лоскіт, лоскоти, ласкоти,* рус. прыбалт. *ласкотка,* польск. *łaskotki,* в.-луж. *łoskot.* Прасл. *laskotъ* 'козыт'. Да *laskotati*>*ласкатаць*$_1$>*ласка* (гл.) з пераходам *a*>*o* (параўн. *дараваць — адорваць, плаціць — заплочаны).*



**Лоскат**$_2$ 'пошчак' (Гарэц.), 'моцная, апрыклая балбатня' (Нас.), укр. *лóскіт* 'трэск', рус. *лóскот, лоскотá* 'пустая балбатня, плёткі', польск. *łoskot,* чэш. *loskot* 'грук, рэха, стук, шчоўк', славен. *loskòt* 'балбатня', ст.-серб.-харв. *лоскот* 'гул', ц.-слав. *лоскотъ* 'гоман, крык, шум, звон, гуд'. Прасл. *loskotъ* 'грукат, шум, гоман' — nomen actionis ад *ласкатаць*$_2$, якое з'яўляецца інтэнсівам да гукапераймальнага *loskati,* роднасна блізкага да літ. *laskúoti, lakštúoti* 'весела спяваць', *lazgěti* 'балбатаць не змаўкаючы'. Чаргуецца з *лёскат* і *ляскаць* (гл.) (Бернекер, 1, 734; Фасмер, 2, 521; Слаўскі, 5, 208—210).

**Лостачка** ў выразе *лостачкай ляжаць* 'панікнуць, завянуць' (докш., Сл. ПЗБ). Рус. *лост* 'драніцы, лучына, рэйка', *лостить* 'ababіваць лодку рэйкамі', роднасныя з *ласт* 'тс', якое з фін., алан. *lasta* 'драніцы' (Фасмер, 2, 463).

**Лось**$_1$ 'буйная дзікая жывёліна з лапатападобнымі рагамі, Alces alces' (ТСБМ, Бес., Сцяшк., Яруш., ТС, Сл. ПЗБ), *лусь, лэсь* (Дразд.). Укр., рус. *лось,* польск. *łoś,* в.-луж. *łós,* чэш., славац. *los.* Паўн.-прасл. *olsь* 'тс', і.-е **ol-k'-is*: ст.-ісл. *elgr,* швед. *älg,* ст.-в.-ням. *ëlho, ëlaho,* ст.-англ. *eolh,* лац. *alcēs,* ст.-грэч. *ἄλκη* 'лось', ст.-інд. *ṛ́śyas* 'самец антылопы', памір. *rus* 'каменны баран'. Паводле асновы — роднаснае да *алень* (Фасмер, 2, 522; Слаўскі, 5, 215—216).

**Лось**$_2$ 'грыб пеўнік стракаты, Sarcodon imbricatus (Fr.) Karst.' (Серж. Грам.; маладз., Янк. Мат.; уздз., Нар. словатв.; ТС; віл., Сл. ПЗБ). Да *лось*$_1$. Названа паводле афарбоўкі і касматасці шапачкі грыба, падобных да шэрсці ласяя. Сюды ж *лосёў грыб* 'рагацік жоўты, Clavulina cristata Schroet.' (ТС). Матывацыя — падабенства формы грыба і рагоў ласяя.

**Лот**$_1$ — адзінка вагі 12 г (ТСБМ), 16 г (Бес., Бяльк., Яруш., Мат. Гом.). Ст.-бел. *лотъ,* запазычанае са ст.-польск. *lot,* якое з ням. *Lot* 'мера вагі'<с.-в.-ням. *lot*<кельц.*(*p*)-*loudia* 'упадаць', с.-ірл. *lúaide* 'свінец, грузіла' (Фасмер, 2, 522; Булыка, Запазыч., 191; Юрэвіч, Зб. Крапіве, 292; Васэрцыер, 142). Аднак, паводле Крукоўскага (Уплыў, 83),— гэта запазычанне з рус. мовы. Беспадстаўна. Сюды ж *лот* 'пачак фарбы' (рагач., беласт., Сл. ПЗБ).

**Лот**$_2$ 'жолаб, па якім вада прыводзіцца да кола ў млыне' (лунін., ЛАПП). Другаснае ад *лоток* (як рус. *зонт* ад *зонтик*). Да *латак*$_1$.

**Лота** 'лотаць балотная, Caltha palustris L.' (гом., Кіс., Інстр. 2). Да *лотаць* (гл.). Дыялектны сінонім, утвораны паводле *мя́та.* З іншым суфіксам параўн. укр. *лотай* 'тс'.

**Лотак** 'жолаб для спуску вады' (касцюк., КЭС). Да *латак* (гл.).

**Лотар** 'гультай' (паст., Сл. ПЗБ). Да *лотр* (гл.).

**Лотаўка** 'балбатуха, лапатуха'(Касп.). Утворана ад +*лот*, якое з'яўляецца ўсечаным варыянтам лексемы *лотр* (гл.). Іншы варыянт — *латроўка* 'гультайка' (Нас.).

**Лотаць,** *лотась, лотоць, лотац, лотать, лоташнік* 'лотаць балотная, Caltha palustris L.' (мін., маг., Кіс.; Сцяшк., Бяльк., Бейл., Шат., Мікуц., Сл. ПЗБ, ТС), а таксама *лотацёнё, лоточнік, лотошнік, локотнік, лотатя* 'гарлачык жоўты, Nuphar luteum (L.) Sm.', 'гарлачык чыста-белы, Nymphaea candida Presl.', 'падалешнік еўрапейскі, Asarum europeum L.' (Бейл.). Укр. *латаття, латач, лотаття, лотач, лоташ, лотарь, лотак, лотань, лоточ,* зах.-рус. *лотать,* польск. крэсовае *łotoć, łotocie,* в.-луж. *lokašina,* славац. *lotač, lotáč, lotaj.* Слова не мае надзейнай этымалогіі. Слаўскі (5, 217) адносіць да прасл. *olta* (параўн. укр. *лататий* 'з вялікімі і шырокімі лістамі'. Мяркулава (Очерки, 26—30) узводзіць да і.-е. асновы **lat-* 'мокры', 'балота', што з'яўляецца малаімаверным. Махэк$_2$, Jména, 41, беручы пад увагу іншыя слав. назвы лотаці (*blatúch, blatník, калужница*), звязаныя з паняццем 'балота', узводзіць разглядаемыя лексемы да прасл. *loky* 'лужына, месца са стаячай вадой'.

**Лотачка** 'лодачка' (гом., Рам. 1), *лотачнік, лоташнік* 'вопытны плытагон, які праводзіў плыты праз небяспечныя месцы: мелі, парогі і інш.' (глус., бярэз., Нар. лекс.). Рус. арханг., валаг., вяц., уладз., цвяр., смал., кур., варонеж. *лоточка* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса. У выніку кантамінацыі з лексемай *лоток, лоточек, латак* 'жолаб'. Не выключаны ўплыў фінскіх моў (фінскага субстрату).

**Лотва** 'чарада, плойма (дзяцей)' (Касп.), рус. пск. *лотва некрещеная!* — лаянка; 'шалёнае зборышча', польск. *Lotwa* 'Латвія'. Лексема паходзіць ад этноніма як абагульняючае слова для мноства людзей (з незразумелай мовай). Параўн. яшчэ рус. пск. *латыш* 'чалавек, які гаворыць неразборліва'. Паходзіць з незасведчанай у балтыйскіх помніках назвы для краіны і яе насельніцтва **Latuvā, Latvā* (Атрэмбскі, Gramatyka, 1, 3), параўн. назву вёскі Лотва Мядзельскага р-на, ст.-бел. Лотва (у Стрыйкоўскага) і інш. Больш падрабязна гл. Непакупны (Связи, 151—152).

**Лотр** 'лайдак, гультай', 'круцель, п'яніца, ашуканец, марнатравец' (Нас., Яруш., ТСБМ; гом., Мат. Гом.), *лотра, луотра* 'гуляка, гультай, лодар, п'яніца' (Гарэц., Мал., Бяльк., ТСБМ). Ст.-бел. *лотръ* 'злачынец, бандыт, разбойнік', 'махляр, ашуканец', якое Карскі (Труды, 312) і Кюнэ (74) выводзяць з польск. *łotr* 'тс'; Булыка (Запазыч., 191) — са ст.-польск. *łotr* (апошняе з чэш. *lotr*<с.-в.-ням. *loter* або з *lotterbube* 'нягоднік, мярзотнік'); Жураўскі (Бел. мова, 61), Чартко (Пыт. мовазн., 122) крыніцай для ст.-бел. *лотръ* лічаць с.-в.-ням. *loter*. Паняцце амаральнасці, распусты, заключанае ў гэтай лексеме, дало падставу Булахаву (Бел. мова, 54—55) звязаць яе з біблейскім імем Лотр. Аб гэтым гл. і ў Панюціч (Лексіка нар. гав., 103). Больш падрабязна гл. Слаўскі, 5, 221—222.



**Лоў** 'паляванне ' (Гарэц., Др.-Падб., Сл. ПЗБ і інш.). Гл. ловы.

**Лоўж,** *лоўш* 'галлё, скінутае ў кучу', 'куча галля' (Бяльк., Некр., Шат., Янк. 2, ТСБМ; Сл. ПЗБ; староб., Мат. 1-й дыял. канф.; кліч., Маладосць, 6, 1975), ц.-палес. *ловж, лёўж, ливж, лимж, ломж, ломж, лож, лемж* 'тс' (ЛАПП, Бел.-укр. ізал.), *лоўж* 'куча ўвогуле' (Янк. 2; ст.-дар., Нар. сл.), 'куча бруднай бялізны', 'вялікая колькасць чаго-небудзь', 'рэчы, складзеныя ў пэўным парадку', 'рыззё' (Сл. ПЗБ), віц. *лоўжа* 'курган' (Яшк.). Старажытны літуанізм (Арашонкава і інш., БЛ, 3, 30), параўн. літ. *láužas* 'куча галля' (Урбуціс, Baltistica, 5, 64; Толстой, Лекс. балтызмы, 48; Непакупны, Связи, 187; Чарапанава, Бел.-рус. ізал., 123). Гл. таксама *лаўж* 'тс'. Сюды ж *лоўжышча* 'беспарадак' (лаг., Сл. ПЗБ).

**Лоўкі** 'спрытны, умелы, добры, якасны' (ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), 'зручны, ёмкі, выгодны' (Яруш., Выг.), 'прыгожы' (маз., лун., пін., Сл. Брэс., З нар. сл.), *ловак* 'спрытны (чалавек)', 'зручны (пра рэч)' (Шат.), *лоўчы* 'здатны, спрытны' (ТС), *лоўка* 'добра (аб здароўі)' (Ян.), 'зручна, умела, удала' (Сл. ПЗБ), 'спрытна, прыгожа' (Бяльк., Касп., Шат.), *лаўчэй* 'лепш, зручней, прыдатней' (Юрч., Шат., Мат. Янк.; нясв., Жд. 2). Прасл. *lovъkъ* (параўн. харв. *lȍvak* 'які адносіцца да *lov* 'лоў'). Параўн. літ. *lavùs* 'лоўкі, кемлівы, хітры' (Фасмер, 2, 509). Прыметнік, утвораны ад дэвербатыўнага кораня *lov-* (Булахоўскі, Вибр. пр. 3, 377). Да *ловы* (гл.). Сюды ж *лоўчы* 'егер, ляснічы, старэйшы паляўнічы', 'прывучаны, прызначаны для лоўлі' (Гарэц., Грыг., Др.-Падб., Касп., Жд. 2, ТСБМ).

**Лоўма** 'гультай, лежань' (ТС). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *laĩmė* 'заняпалы, нядбайны'.

**Лох** 'дзікая масліна, расліна Elaeagnus L.' (ТСБМ, Кіс.). Рус. *лох* 'тс'. Няясна. Фасмер (2, 524) адмаўляе сувязь з *алей* (гл. у Гараева, 238).

**Лох-лох!** 'лапаценне халяў пры хадзьбе ў ботах' (полац., Нар. лекс.). Гукаапісальнае з элементам *-х* (як *бах! чмых!*). Роднаснае з *лоп-лоп!* Да *лопаць*$_1$ (гл.). Параўн. таксама *лах*$_3$!

**Лоханька** 'гліняная міска' (хойн., Мат. Гом.). Да *лахан* (гл.).

**Лохмат** 'абрэзак, акравак', 'гніллё', *лахматок, лахматочак* 'тс' (Нас., Яруш.). Трубачоў (Эт. сл., 15, 251) выводзіць прасл. *loxmotъ*, якое да *laxъ, laxty*>*лах, лахма́н* (гл.).

**Лохнуць**$_1$ 'прагнуць' (стаўб., Сл. бел. нар. фраз.; Жд. 2). Прасл. *loknǫti* — дзеяслоў закончанага трывання ад *lokati* 'хлябтаць', параўн. бел. *локаць* 'піць' (Нас.). Этымалогію гл. *лакта́ць*. Параўн. таксама Слаўскі (5, 151—153, 160). Куркіна (Этимология-72, 75) супастаўляе славен. *lohnéti* 'адчуваць, імкнуцца, патрабаваць' са славац. *lochat'* 'хлябтаць', *láchat'* 'хацець, піць', укр. *лохати (ся)* 'адчуваць голад' і зводзіць іх (і іншыя) да асноў: *lox-/las-/laš-*. Сюды яна адносіць і ўкр. *ло́хнути* 'быць у адчаі', 'сумаваць', параўн. наступнае слова.

*__Лохнуць__$_2$, *лохнути* 'сумаваць, трывожыцца' (Бес.), рус. *гло́хнуць* 'сумаваць, быць у адзіноце', польск. *głuchnąć* 'сціхаць, замаўкаць', балг. *глъ̀хна* 'сціхаць', 'заглушацца пустазеллем (аб расліне)', *гл'кна* 'перастаць плакаць, страціўшы голас'. Прасл. *gluxnǫti/glъxnǫti* (Трубачоў, Эт. сл., 6, 145 і 157). Да *глухі* (гл.).

**Лоц** 'костка пры гульні ў бабкі, якая ўпала на зямлю выпуклым бокам' (гродз., Нар. словатв.). Запазычана з польск. *kloc* 'калод(ач)ка', якое з с.-в.-ням. *kloz*, ням. *Klotz* 'калода, цурбан' з адпадзеннем пачатковага *к-*.

**Лоцман** 'чалавек, які адказвае за стан усіх плытоў' (гродз., Нар. сл.), 'асоба, якая праводзіць судны па фарватары' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 83), запазычана з рус. мовы, у якой гэта запазычанне з гал. *loodsman* ці з с.-н.-ням. *lôtsman* (<англ. *loadsman*) у эпоху Пятра I (Фасмер, 2, 525). Аднак *лоцманъ* сустракаецца яшчэ ў пск. і смал. летапісах XV—XVII стст. (Філін, Происх., 612), таму можна гаварыць пра самастойнае і больш ранняе запазычанне ў ст.-бел. мову.

**Лоша** 'ласіца, самка лася', 'поўная жанчына' (Сержп. Грам.; ТС; хойн., Мат. Гом.; Карловіч), *лошу́к, лошачок* 'маладым лось', *лошэня́* 'ласяня' (ТС). Рус. сімб. *ло́ша* 'тс', наўг. *Лоша* — назва рэчкі; польск. *łosza* 'самка лася', *łoszyca* 'тс'. Паўн.-слав. *olsьja* (з суф. *-ja*). Да *лось* (гл.). Не выключана і пазнейшае ўтварэнне з памяншальным суфіксам *-ша*.

**Лошадзь** 'конь' (зэльв., астрав., Сл. ПЗБ; Яруш.; Федар. 6) у песні: ...*запрагай кучар, лошадзі, гайда да ладыкі...*) запазычана з рус. *лошадь*, якое са ст.-булг. *лаша, *лоша і рус. суфікса *-дь*. Больш падрабязна гл. Філін, Происх., 561—562; Аткупшчыкоў, Из истории, 153—154, 161—162; Адзінцоў, Этимология-72, 114—128; Сярэбранікаў, Этималогия-68, 210—211; Хабургаеў, УЗ МГПИ, 1967, 13, 293—309; Дзікенман (Das Pferd in russischen Nomina..., Heidelberg, 177, 158 S.).



**Лошка**, *ло́шко* 'ложак' (Жд. 1, Сл. ПЗБ, В. В., Кл.; карэл., Янк. Мат.). Да *ложак*.

**Луб**$_1$ 'валакністая частка кары дрэў', 'палоска кары ліпы, вяза', 'кош, каробка', *лубі́на* 'тоўстая кара з ліпы', *луб'е*, *лубіна старая* — са знявагай аб старых людзях (ТСБМ, ТС, Бес., Бяльк., Касп., Шат., Яруш.; КЭС, лаг.). Укр. *луб*, бойк. *луба, лупа*, рус. *луб*, польск., н.- і в.-луж. *łub*, чэш., славац. *lub*, славен. *lûb*, серб.-харв. *лу̑б, lûb* макед., балг. *луб*. Прасл. *lubъ* 'кара з дрэў і вырабы з яе', генетычна роднаснае да літ. *lúobas* 'кара з елкі ці ліпы', *lùbos* 'столя', *lubà* 'дошка', ст.-прус. *luba* 'дошка', лат. *luobs* 'лушпіна', *luôbît* 'лупіць, лузгаць', алб. *labë* 'кара, корак', ст.-ісл. *laupr*, ст.-англ. *lēap* 'буч, кошык', лац. *liber*<*lubro 'лыка, кніга' (параўн. ст.-пск. *лубъ* 'грамата' — Філін, Происх., 611). Да і.-е. *loub(h)-o< *leub(h)-* 'здзіраць кару, лыка; лупіць, лускаць' (Фасмер, 2, 526—527; Слаўскі, 5, 269; Скок, 2, 322—323; Махэк$_2$, 342; Бязлай, 2, 153; Шустар-Шэўц, 11, 782—783).

**Луб**$_2$ 'драўляная абечайка вакол каменя ў жорнах ці млыне' (Кліх, Тарн.), ст.-польск. *łub* (XVI ст.), н.-луж. *łub*, ст.-чэш., славац. *lub*, балг. *луб* 'тс'. Магчыма, яшчэ прасл. *lubъ* з тым жа значэннем. Да *луб*$_1$ (гл.).

**Луб**$_3$ 'задняя частка бота' (брэсц., Тарн.). Відаць, з польск. зах.-прус., кялецк., кракаўск. *łub* 'тс', *łuba* 'цвёрдая і крохкая падэшва'. Да луб$_1$ < прасл. дыял. *lubъ, luba* (Слаўскі, 5, 270).

**Луб**$_4$ 'накрыўка для чоўна' (гродз., Нар. сл.). Да *луб*$_1$ (гл.).

**Луба́к** 'стары, худы конь' (Юрч.), *лубі́на* 'тс' (ветк., Мат. Гом.). Да *луб*$_1$ (гл.). Аб суфіксе *-ак* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 146); экспрэсіўнасць, як у *здыхля́к*.

**Лу́бачка** 'грэбень запалак' (міёр., Хрэст. дыял.; Сл. ПЗБ). Да *луб*$_1$, *лу́бка* (гл.). Названа паводле падабенства тонкай пласцінкі з запалкамі з тонкай палоскай кары.

**Лубе́ц** 'залубянелая аўчына' (Нар. Гом.). Да луб$_1$ (гл.).

**Лубе́ць** 'цвярдзець' (Юрч. Вытв.). Відавочна, ад прыметніка *lubъ-jь, як *лубяне́ць* — ад *лубяны́* 'цвёрды, нягнуткі, падобны да лубу' (ТСБМ).

**Лу́бін**, *лу́бын, лу́гын* 'расліна з сямейства гарохавых, Lupinus L.' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Сцяшк., Сл. ПЗБ; гом., гродз., Кіс., Сл. Брэс.). З польск. *łubin* 'тс', якое з с.-лац. *lubinus*< лац. *lupinus* 'воўчы',— спачатку 'воўчае зелле'<*lupus* 'воўк' (Слаўскі, 5, 277; Кюнэ, 74). Сюды ж *лубаве́ніско, лубаве́нішча, лу́бінішча, лубяныско, лу́бнішчо, лубя́нішча, лубі́нішча, лубо́віско, лубя́ннік, лу́бянне, лубя́ніска, лу́быныско* 'поле, дзе расце лубін', *лубынэ́чныско* 'абмалочаны лубін' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., Сл. Брэс.).

**Лу́бка**, смарг. *лу́бачка* 'кош, карзіна', 'сявенька (з кары)', 'плецены саламяны кораб для мукі', 'дзежка для трымання мукі

пад рукой', 'бочачка', 'салянка з ліповай кары', 'кошык, сплецены з саломы і лазы' (Нас., Яруш., Мікуц., Касп., Мат. Гом., Шат., П. С., Гарэц., Юрч., Янк. БП., Ян., Мат. Маг., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; паўд.-усх., КЭС; мядз., Нар. словатв., Жыв. сл.; барыс., Шн. 2; докш., маладз., Янк. Мат., Мат. АС; рагач., З нар. сл.), 'вулей у лесе' (добр., рэч., Мат. Гом.), 'калыска' Сл. Брэс.; карэліц., Сл. ПЗБ); *лýбка* і *лýпка* 'раёўня' (Сл. ПЗБ, слаўг., Нар. сл.), бялын. *лупок* 'лубок, што ставіцца на дрэве для лоўлі раёў' (Мат. Маг.), *лýбка-мядоўка* 'ліповая бочачка для мёду' (рагач., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), *лубок* 'тс' (карм., добруш., Мат. Гом.). Ст.-бел. *лубка* (Скурат, БЛ, 8, 13—14). Да *луб*$_1$ (гл.).

**Лубкі** 'тонкія дошчачкі, якія накладаюцца на месца пералому касцей' (ТСБМ), *лубок* 'тс' (ветк., Мат. Гом.); *лубкí* 'вокладкі кнігі' (хойн., мат. Гом.), а таксама *лубок* 'ліповая дошка, на якой даўней гравіравалася карціна для друкавання' (ТСБМ). Укр. *лубóк,* рус. *лýбóк,* польск. *łubki,* чэш. *loubek,* славац. *lubok.* Паўн.-слав. *lubъkъ*<*lubъ.* Да *луб*$_1$ (гл.). Гл. таксама *лубок.*

**Лубня** 'сасуд з лубу і мера для мёду' (Гарб.), Да *луб*$_1$ (гл.). Аб суфіксе *-ня* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 165).

**Лýбнячка** 'выязныя сані' (ігн., Сл. ПЗБ), польск. сейненск. *łubńa* 'размаляваны сундук з дошак з лаўкамі, які накладваюць на сані ў час урачыстых паездак', рус. (ЛітССР) *лýбни* 'тс', *лубня́* 'сані са спінкай' (Сцяшк. Сл.), ярасл., кіраўск., перм. *лубя́нки* 'сані, пакрытыя лубам'. Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 2, 675), Здандэвіча (LP, 8, 1960, 344) і Лаўчутэ (Liet. term, 155),— гэта запазычанне з літ. *lúbnios* 'рабочыя сані, развалы'.

**Лубок** 'лубянка', 'абечак', 'луб' (ТСБМ, ТС, Касп.). Да *луб*$_1$. Гл. таксама *лубкі.* Сюды ж маст. *лубок* 'сабачая будка' (Сцяшк. Сл.).

**Лубуя́тнік** 'ліпавыя палкі, з якіх абадрана кара' (Бяльк.). Утворана ад *лýб'е* і суфікса *-ятнік,* які служыць для абазначэння месца, памяшкання. Параўн. аналагічнае значэнне ў лексемы *лубяк* (Масарэнка, КЭС).

**Лубя́к** 'нявырабленая скура' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Да *луб*$_1$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 130—132).

**Лубянéць** 'станавіцца цвёрдым, нягнуткім, падобным на луб' (ТСБМ), *лубя́ніць* '(аб яйку) выдаваць глухі гук, будучы цвёрдым' (Шат.; Васілеўскі, БЛ, 10, 17). Утворана ад *лубяны* 'зроблены з лубу', 'цвёрды, нягнуткі, падобны на луб' (ТСБМ). Параўн. таксама гродз. *лубяністы* 'цвёрды, чэрствы' (Сцяшк. Сл.). Да *луб*$_1$ (гл.). Гл. і *лубець.*

**Лубя́нка** 'зроблены з лубу ці бяросты кораб для захоўвання чаго-небудзь' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ; палес., З нар. сл.), 'кош памерам у 5—6 гарцаў' (Шат.), 'вялікая бочка для зерня' (Ян.), 'калыска, сплеценая з лыка, каранёў хвоі' (Шат.; шчуч., З нар. сл.; рагач., лях., Сл. ПЗБ), 'абечак', 'прыстасаванне для зімняй лоўлі ракаў' (ТС). Укр. *луб'я́нка* 'павозка, абшытая лубам', гуц. 'будан, пакрыты лубам', рус. пск., ярасл., іван., алан., смал., перм. *лубя́нка* 'куфар', 'кош', 'лубок', сімб. 'лубяны будан', польск. *łubianka* 'кошык з лубу', 'воз, пакрыты лубам', каш. *łëb'onka* 'жлукта'; *łubianki* 'бакавыя дошкі ў санях'. Паўн.-слав. *luběn-ъka* ўтворана ад прасл. *luběnъ* (Слаўскі, 5, 273). Да *луб*$_1$ (гл.).



**Луг**$_1$, *лужок* 'сенажаць, пераважна заліўная, пакрытая шматгадовай травой', 'забалочанае месца, парослае хмызняком і дрэвамі, поплаў' (Нас., Яруш., ТСБМ, Зеньк., Бес., Бяльк., Клім., Сцяшк., Касп., ТС, лях., Янк. Мат.), 'балоцістая сенажаць' (Сл. ПЗБ), *луог* 'лагчына' (Сержп., Грам.); 'сухадольны лог' (мазыр., пух., слаўг., шчуч., Яшк.), 'лес, лісцёвы лес на абалоні', 'лес на нізкім месцы, парослы травой' (Зеньк., Шн., Бяс.; жытк., Талстой), 'алешнік у нізіне' (Сержп. Грам.), *лужок* 'некалькі дрэўцаў у лагчыне сярод поля' (Прышч., дыс.), *лужэйка* 'поплаў, лужок' (калінк., Сл. ПЗБ). Укр. *луг* 'лес у нізіне', 'сенажаць, луг, парослы травой і кустамі'; рус. *луг* 'заліўная сенажаць, лясістая абалона', 'забалочаная нізіна, паша', ст.-рус. *лугъ* 'лес, дуброва', 'балота', 'заліўная сенажаць', 'нізіна, нізкі бераг, пакрыты травою, кустамі, трыснягом', 'лес, дуброва, лесастэп'; польск. *ląg, łęgi* 'забалочаны (у даліне ракі) луг, парослы кустамі', 'лес, поле на такіх лугах', 'роўнае поле, нізіна', н.-луж. *ług* 'забалочаная даліна', 'мокры луг', чэш. *luh* 'лес над ракой', 'луг', ст.-чэш. 'лес, гай', 'луг у лесе', 'даліна', славац. *luh* 'лес над вадой', 'высокі лес на мокрай глебе', славен. *lǫ̂g* 'нізкі лес', 'луг над вадой з рэдкімі дрэвамі', серб.-харв. *lûg* 'лес, гай', 'чарот', макед., балг. *лаг, лак, лък, лъг, лъгът* 'нізіна, абалона', 'луг, сенажаць', 'лясок на мокрым лузе', 'яр, парослы густым лесам', 'раўніна ля ракі', 'гай, дуброва', 'лес уздоўж ракі', 'ручэй з пораслымі лесам берагамі', 'нізкае месца на лузе', 'лес з вялікіх дрэў', тырнаўск. *луг* 'паляна, паша', 'клін паміж дзвюма рэкамі', ст.-слав. **лѫгъ** 'гай, малы лес'. Прасл. *lǫgъ* 'лука, балонь, нізкі лес на поплаве, багна' (параўн. яшчэ каш. *lëgnoc są* 'пакрывіцца на дажджы і сонцы', *lëgli* 'нізінны', *lëgńica* 'яма', *lëga* 'нізіна', рус. сіб. *лáга* 'вільготнае месца ў зарасніках', 'яма з вадой, лужа'), і.-е. адпаведнікам да якога з'уляецца літ. *léngė* 'поле, луг у нізіне і інш.' Узыходзіць да і.-е. *leng- 'згінаць', сінонім да блізкага *lenk->*луká* (Слаўскі, 5, 79—82; Фасмер, 2, 527; Махэк$_2$, 343; Скок, 2, 327; Бязлай, 2, 147—148; БЕР, 3, 536—537).

**Луг**$_2$ 'нізкае месца, лужа з вадой', 'невялікі вадаём у полі ці ў лесе, які часам перасыхае ўлетку' (Федар. 1, Федар. 2, Яшк., ТС, Сл. ПЗБ), *лужок* 'азярцо сярод лугу, натуральны вадаём', 'невялікая балаціна, дзе не высыхае вада' (ТСБМ, Сл. Брэс., Сл. ПЗБ; слуц., КЭС; Бір. дыс.). Ст.-польск. *ług* 'багна, дрыгва', славінск. *łůk*, каш. *łùg* 'тс', *ług* 'лужок сярод поля', палаб. *laịg* 'луг, паша', н.-луж. *ług* 'дрыгва, якая зімою пакрываецца вадой, а летам высыхае, і там расце трава', в.-луж. *łuh* 'дрыгва'. Прасл. паўн.-зах. *lugъ* 'балота, дрыгва'. І.-е. адпаведнікі: літ. *liū̃gas* 'дрыгва, лужа', *liū́gos, lū̃gas* 'глыбокае месца, напоўненае вадой', 'балота', 'дрыгва', 'ставок', 'яма на дне ракі', ілір. *lugas*/*luga* 'дрыгва'>алб. *lëgatë* 'лужа, балота' (Слаўскі, 5, 298—299). У сучасных слав. мовах і дыялектах семантыка *луг*$_1$ і *луг*$_2$ часта змешваецца.

**Луг**$_3$, малар. *луз* 'шчолак з попелу, залітага варам' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Сержп. Грам., Бір. дыс., Клім., Сцяшк., Уладз., Бяльк., Шат., Касп., ТС; зэльв., Сцяц. Словаўтв.; лях., Янк. Мат.; Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.; КЭС, лаг.). Укр. *луг*, рус. смал., кур. *луг* 'тс', *луга* 'раствор галына', польск. *ług* 'луг', каш. *ług (lěgu)* 'луг, мыла, змыліны', палаб. *laụg* 'луг, шчолак', н.-луж. *ług* 'тс', в.-луж. *łuh* 'пратрава, дубільнік'; чэш. *louh*, ст.-чэш. *lúh* 'луг', 'мача', славац. *lúh* 'брудная вада пасля мыцця', 'раствор, у якім апрацоўваюцца маткі пражы', славен. *lúg, lùg* 'луг', серб.-харв. *лу̑г* 'тс', 'попел', чак. (з XV—XVII стст.) *luga* 'тс', макед. *луга* 'луг', балг. *лугá, лу́га, лугя* 'луг', 'асадак, які застаецца, калі вараць мыла'. Прасл. *lugъ*/*luga* 'луг як мыючы і адбельваючы сродак' (Машынскі, Kultura Sl., 1, 616). Мартынаў (Лекс. взаим., 166—168) не выключае запазычанне з прасл. у прагерм. *(laugō)*, у чым сумняваецца Слаўскі (5, 296—298), паводле якога прасл. *lugъ* — запазычанне са ст.-в.-ням. *louga* (с.-в.-ням. *louge*, суч. ням. *Lauge* 'луг'), *luhhen* 'мыць'<і.-е. *lou-/*louə 'мыць' (параўн. ст.-грэч. λούω 'мыюся', лац. *lavō, lavāre* 'тс', 'купацца', арм. *loganam* 'купаюся', хецк. *lah(h)u-* 'ліць'. Гэтак жа БЕР, 3, 485; Скок, 2, 326; Бязлай, 2, 155. Бернекер (744), Брукнер (314), Фасмер (2, 527—528), а таксама Курыловіч (Przegląd Zach., 1951, 5/6, 201—202) меркавалі, што *lugъ* з'яўляецца запазычаннем з с.-в.-ням. *louge* або нават з ням. *Lauge*. Слаўскі (5, 297) указвае на польск. мову як пасрэднік для ўзнікнення бел. і ўсх.-слав. *луг*, а Фасмер (2, 527) — польск. і чэш. мовы.

**Лугава́тка** 'прадаўгаваты вузкі сухадольны луг' (Юрч.) — адпрыметнікавае ўтварэнне з фармантам *-атк-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 149). Да *луг*$_1$.

**Лугава́ць** 'адбельваць пражу' (Інстр. 2), 'адбельваць на лузе' (Сцяшк. Сл.), *луговаць* 'выбельваць лугам' (ТС), *лу-*



*гова́ты* 'парыць палатно ці пражу ў шчолаку' (Уладз., Сл. Брэс.). Укр. *вилуго́вувати*, польск. *ługować*, н.-луж. *ługowaś*, в.-луж. *łuhować*, чэш. *louhovati*, славац. *lúhovat'*. Адназоўнікавае ўтварэнне пры дапамозе суфікса *-ova-ti* (Слаўскі, 6, 300; Слаўскі, SP, 1, 48). Да *луг*$_3$ (гл.).

**Лугаві́к** 'грыб апенька' (навагр., Сцяшк.), 'апенька лугавая, Marasmius oreades Fr.' Названы паводле месца, дзе грыб сустракаецца (параўн. яшчэ кам. *бырэ́зовы, ольхо́вы опэ́нькы*, маст. *падарожнікі*, драг. *пудоро́жныкь* (Жыв. сл.). Сюды ж, відаць, можна аднесці і балг. *луга́чка* 'шампіньён звычайны, Agaricus campestris'.

**Лугаві́на** 'невялікі луг, палоска лугу сярод ніў', 'сенажаць' (полац., Нар. лекс.; слаўг., Яшк.), гарад. *луговіна* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *луг*$_1$ (гл.). Паводле Слаўскага (5, 301), усх.-слав. *лугавіна, луго́вина* і *лугови́на* ўзыходзяць да прасл. *lǫgovina*<*lǫgъ*, а польск. *ługowina* 'балота, дрыгва' — да прасл. *lugovina*<*lugъ* (гл. *луг*$_2$).

**Лугаві́шча** 'логава свіней, ямка, якую нагарнулі куры' (паст., Сл. ПЗБ). Да *лагаві́шча, логава* (гл.). Аб пераходзе *а>у* гл. Карскі (1, 112—113).

**Лугавы** 'дух-гаспадар у полі' (Інстр. 2). Да прыметніка *лугавы́*<*луг*$_1$ (гл.).

**Луга́ць** 'браць на повад' (мазыр., З нар. сл.). Да *лыга́ць* (гл.). Параўн. таксама *налы́гач*.

**Лугну́ць** 'выпіць залпам' (ТС). Ад $^+$*лыгнуць*, якое з *лыкну́ць*<*лы́каць* (гл.), 'піць шумнымі глыткамі' (ТСБМ). У палес. формы *г* замест *к* пад уплывам укр. мовы.

**Луговіца**$_1$ 'вада на сенажаці' (Федар., Дад.). Да *луг*$_2$ (гл.). Суфікс *-іца* надае лакальнае значэнне (як *круглі́ца, махаві́ца, лясні́ца* — гл. Сцяцко, Афікс. наз., 110).

**Луговіца**$_2$ 'пара касьбы' (стаўб., З нар. сл.). Да *луг*$_1$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 138—139). Аналагічна драг. *косовэ́ца* 'тс' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.); параўн. таксама докш., паст. *пі́льніца* 'час уборкі ўраджаю' (Сл. ПЗБ).

***Лугоўе**, *лугоўя* 'ямка, выкапаная курыцай на зямлі', 'месца, дзе качаўся конь' (віл., Сл. ПЗБ). З *лагоўя*<прасл. *logovьje* Аб мене *а>у* гл. Карскі, 1,112—113.

**Лугоўка** 'луг для адбельвання бялізны' (добр., карм., Мат. Гом.). Да *луг*$_3$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 169—170).

**Лу́да** 'луджэнне', 'сплаў волава са свінцом, які ўжываецца для пакрыцця металічных вырабаў' (ТСБМ), *лу́дка* 'палуда', *лудзіць* 'пакрываць палудай' (брасл., Сл. ПЗБ); *луджаная (луджоная) глотка* 'крыкун' (Юрч. Фраз. 2). Укр. *лу́да* 'бяльмо', рус. *луди́ть* 'лудзіць', маск. *лу́дка* 'луджэнне', ст.-рус. *луженый* 'луджаны' (1551 г.), *лудило, лудильница, лудильня*

месца, дзе рыхтуюць палуду' (XVII ст.). Паводле Бернекера (743), Праабражэнскага (1, 475), Фасмера (2, 529), паходзіць з с.-н.-ням. *loden* 'паяць' (с.-в.-ням. *loeten,* ням. *löten*), параўн. гал. *lood,* ст.-англ. *léad,* с.-в.-ням. *lot* 'свінец', якія з кельц. **(p)loudia* 'ліцца, таяць', с.-ірл. *lūaide* 'свінец' (Васэрцыер, 142). Параўн. таксама польск. *ludwisarz* 'ліцейшчык (пушак, званоў)', ст.-польск. *lodwisarz* (XVI ст.) 'тс' (Слаўскі, 4, 367).

***Лудан,** ст.-бел. *луданъ* 'гатунак шаўковай тканіны' (1710 г.) запазычана (ва ўсх. Беларусі) з рус. *лудан* (Булыка, Лекс. запазыч., 116), якое з адыг. *läudan* (роднаснае з чаркеск. *loudan*), абазінск. *laudan,* асец. (дзігорск.) *læwdanæ* 'шаўковая тканіна', 'шаўковая хустка' (Абаеў, Этимология-63, 118) і не звязана з рус. *луда* 'верхняе адзенне, якое лічыцца запазычаннем з герм. моў, параўн. ст.-паўн. герм. *lo̗ði,* ст.-англ. *lo̗ða* 'шарак, плашч', ст.-в.-ням. *lodo, luda* 'дзяруга, радно' (Абаеў, там жа, 117—118; Філін, Происх., 572—573). Аднак Кабылянскі (Мовознавство, 1976, 6, 51), разглядаючы ўкр. *лу́дiнє* 'адзежа, адзенне', схіляецца да думкі аб супольнасці слав. і герм. праслова і адмаўляе запазычанне яго з герм. Блізкае фанетычна польск. *loden* 'грубае калматае сукно', 'паліто з такога сукна' узыходзіць да с.-в.-ням. *lode,* ням. *Loden* 'грубая калматая тканіна' (Слаўскі, 5, 320—321).

**Лу́дзіць**$_1$ 'кпіць, жартаваць, смяяцца' (віл., Нас.), 'маніць' (мядз., Нар. словатв.), 'марнатравіць час' (Шат.), 'трызніць' (Касп.), мін. 'сварыцца' (Сл. ПЗБ). Укр. *лудúти* 'прываблiваць, спакушаць', гуц., бойк. 'заманьваць (птушак, свойскую жывёлу', зах. 'выбіць, ашукваць, зводзіць'; рус. *лу́дить, лудúть* 'падманваць', 'красці (у садзе, агародзе)', 'сварыць, ганіць каго-небудзь', 'піць', 'біць'; польск. *łudzić* 'прываблiваючы, уводзіць у зман', 'зводзіць' і шматлікія прэфіксальныя ўтварэнні з гэтым дзеясловам; чэш. *louditi* 'вымантачваць, зводзіць', 'хвалячы, спакушаць', ст.-чэш. *lúditi* 'падманваць', 'прыцягваць', славац. *lúdit'* 'зводзіць, баламуціць, прываблiваць', 'настойліва прасіць'; славен. *lúditi* 'намагацца ўвесці ў зман, спакусіць', 'праводзіць час', 'над нечым забаўляцца', *lǫ́diti* 'ашукваць', 'зводзіць', 'прываблiваць', *loditi se* 'займацца чым-небудзь, забаўляцца', ст.-слав. **лоудити** 'ашукваць, зводзіць'. Прасл. *luditi* 'прываблiваючы, падманваць', 'зводзіць у зман', 'спакушаць', 'прываблiваць' (Слаўскі, 5, 291—296). І.-е. адпаведнікі: ст.-прус. *laustineiti* 'прыніжайце' (<**laustas* 'пакорлівы'), літ. *liũsti* 'засмучацца', *liū́dnas* 'смутны, журботны', *liūdė́ti* 'быць смутным', 'перажываць', першапачаткова 'быць схіленым'>'згінацца пад цяжарам мітрэнг і клопатаў', лац. *lūdere* 'маніць', гоц. *liuts* 'фальшывы', *liuta* 'крывадушнік', *luton* 'зводзіць, ашукваць', ст.-ісл. *lutr* 'нахілены, нагнуты', *lot* 'ашуканства', уэл. *lluded* 'стомлены'<і.-е. **leud-* 'нахіляцца'>'схіляцца перад кім-небудзь', 'прыніжацца'>'быць крывадушным, ашукваць'. Значэнне 'трызніць' у *лудзіць* можна супаставіць з блізкімі 'неразумны, шалёны, дурны, прыдуркаваты' ў паўд.-прасл. *ludъ*: серб.-харв. *лу̑д, лу̏дӣ,* славен. *lȗd,* макед., балг. *луд* 'тс' і 'недасведчаны, няспелы, наіўны', 'свавольны, раптоўны', а таксама ц.-слав. *людыи* 'дурны, шалёны' і укр.-ц.-слав. *людъ* 'дурны' (Фасмер, 2, 528; Махэк$_2$, 341; Скок, 2, 325—326; Бязлай, 2, 155; БЕР, 3, 486—487 з л-рай). Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 133), ст.-бел. *лудити* (1595 г.) 'вабіць, клікаць; ашукваць' — запазычанне са ст.-польск. *ludzić.*

**Лудзіць**$_2$ 'выводзіць (птушанят)' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Відавочна, генетычна можа быць звязана з літ. *lùgzti* 'трэскацца, лопацца' (з чаргаваннем *-gz-/-ж* і пераходам *ж*>*дз* — гл. Карскі, 1, 384). Параўн. таксама *лузѓá* 'жамерыны', 'кастрыца ад ільну' (Сл. ПЗБ).

**Лудня́** 'марнатраўства часу' (Шат.). Да *лу́дзіць*$_1$ (гл.).

**Лу́жа,** *лу́жана, лу́жына* 'месца на дарозе, дзе ўтварылася яма, запоўненая вадой', 'калюга, якая застаецца пасля дажджу' (ТСБМ, Мядзв., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., Яруш., Сл. ПЗБ; слуц., слонім., КЭС), слаўг. *лужáвіна, лужáіна, лужаíвінка, лужаéвіна, лужчáвіна,* лёзн. *лу́жынка* 'лужына вады' (Яшк.), а таксама *лу́жа* 'дрыгва, вялікае махавое балота' (капыл., рэч., слаўг., Яшк.), 'стаячае возера' (рэч., слаўг., Яшк.), 'заліў ракі' (паўд.-усх., КЭС). Зах.-укр. *лу́жа* 'лужына', бойк. *лужúна* 'лаза для кошыкаў', у Грынчэнкі *лужúна* 'луг'; рус. *лу́жа*: валаг. 'лужына', 'лагчына, запоўненая вадой', разан. 'сырое, балоцістае месца', 'запруда', разан., арханг. 'невялікае азярко', пск. 'сенажаць на нізкім месцы', пск., цвяр. *лужáвина* 'сырое, балоцістае месца', уладз. 'лужок', кастр. 'сенажаць', ст.-рус. *лужа* 'лужына', 'балота', *лужина* 'азярко, стаячае балотка'; польск. *łuża* 'яма, катлавіна, залітая вадой', в.-і н.-луж. *łuža* 'лужына', *łuž* 'вада ў лужы', 'слота', палаб. *lau̯zə* 'лужына', 'балота', 'луг'; чэш. *louže, louž,* мар. *lužovica,* ган. *ložufka* 'лужына', 'яма для жыжы з гною', ст.-чэш. *lúžě* 'лужа, балота'; славен. *lúža* 'тс', серб.-харв. *лужа* (XVII ст.) 'лужына', 'дрыгва', ст.-балг. *лужа* 'балота, возера' і, магчыма, балг. *лъ́жа, лъ́джа* 'лазня', 'лужына' (насуперак БЕР, 3, 541). Прасл. *luža* (у Фасмера, 2, 529 — памылкова *lougi̯a*) 'яма з балоцістай, стаячай вадой', 'балота', 'мокрая мясціна' (Слаўскі, 5, 377—378). Найбліжэйшыя і.-е. адпаведнікі: літ. *lūgas, liū̃g(n)as* 'балота', 'лужына', лат. *luga* 'ліпкая маса, якая пакрывае зарастаючыя азёры', *luga* 'халадзец', *lugava* 'асенняя слота', назва ракі *Ludze* і возера *Ludza,* ст.-прус. *Lügelgen,* а таксама рус. гідронім *Лжа*<*Лъжа,* ст.-грэч.

λυγαῖος 'цёмны', ілір. *lugas, *lugā 'балота' (у Страбона)>алб. lëgatë 'лужына', 'балота'. Да і.-е. *lougi̯a, якое з *leug- 'цёмны', 'балота' (Літ-ру гл.: Махэк$_2$, 342; Скок, 2, 333; Бязлай, 2, 158 і ў вышэйпададзеных слоўніках). Гл. таксама генетычна роднаснае *луг$_2$*. Паводле Мартынава (Язык, 37) прасл.*'luža* з'яўляецца балтыйскім інгрэдыентам прасл. мовы.

**Лужáвіна** 'лугавіна, невялікая палоска лугу' (ТС). Відавочна, у зафіксаваным значэнні трэба было б указаць на тое, што гэта палоска — мокрая, пакрытая вадой, як сведчыць прыклад: *Церэз лужок лужавіна була* (там жа), а таксама жытк. *лужáвінка* 'лужок сярод поля', 'нізкае месца, дзе доўга стаіць вада' (Яшк.). Да *лýжа* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 119).

**Лужджы́ць** 'церці лён, аддзяляючы валакно ад кастрыцы' (воран., Сл. ПЗБ) — звонкі варыянт *лушчыць* пад уплывам балт. моў, параўн. літ. lùgždinti, lukšdénti 'лушчыць' (Сл. ПЗБ, 2, 679). Параўн. *вы-лукшчывацца* 'аддзяляцца (пра льновалакно)' — літ. išsi-lùkštinti 'тс' (Лаўчутэ, 68) і *лукшчы́ць* (гл.).

**Лужкáвіна** 'нізіна ў лесе' (ТС). Да *лужок*<*луг$_1$* (гл.).

**Лýжна** 'невялікі ўчастак поля, які зарос травою' (Выг.). Да *луг$_1$*. Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 161).

***Лýжны**, *лýжный* 'не з калодзежа (пра ваду)' (Юрч. Вытв.). Да *луг$_2$*.

**Лужчáвіна** 'сенажатная лугавіна' (стол., Яшк.) — кантамінаваная назва з *лужáвіна* 'лугавіна' і *лагчаíна* 'лагчына'.

**Лужы́шча$_1$** 'поле, дзе раней было балота' (навагр., Жыв. сл.). Да *лýжа* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 159).

**Лýжышча$_2$** 'поле на месцы ўзаранага лугу' (Прышч. дыс.). Да *луг$_1$* (гл.).

**Лýжыцца** 'лупіцца, аблуплівацца', 'адвальвацца' (пух., Жыв. сл.; раг., чэрв., Сл. ПЗБ), *лýжыць* 'лушчыць' (браг., Мат. Гом.), *лужы́ць* 'тс' (капыл., ганц., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. lūžti 'ламацца', 'трэскацца', 'распадацца', 'згінацца'.

**Лужэчак** 'невялікая ўпадзіна, яміна' (ганц., Сл. ПЗБ). З *лужочак*<*луг$_2$* (гл.); *э* замест *о* — характэрная з'ява паўд.-зах. бел. гаворак (Бел. дыял., 1980, 31—32).

**Лýза** 'адтуліна на краі більярднага стала з сеткай, у якую падае шар' (ТСБМ). Запазычана з польск. łuza 'тс' праз рус. мову (КЭСРЯ, 248; Крукоўскі, Уплыў, 79).

**Лузáн** 'спелы арэх, які сам вывальваецца з гранкі' (ТСБМ, ТС), *лузанéц* 'тс' (Маш.; бялын., Янк. Мат.; ветк., Мат. Гом.), *лýзанік* 'тс' (ТС), *лузáнчык* 'тс' (Янк. 3). Да *лузáць* (гл.). Аб суфіксе *-ан-* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 26). Сюды ж перанос-



нае паводле падабенства *лузáн* 'здаровае, тоўстае дзіця' (кір., Нар. сл.).

**Лýзаць** 'гаварыць' (маладз., Янк. Мат.), 'назаляць словамі, набрыдаць' (КЭС, лаг.), рус. пск., цвяр. *лузжáть* 'уніжана прасіць', *лузгá* 'дакучлівы чалавек, папрашайка'. Сюды ж, відаць, і серб.-харв. lȕzati 'гаварыць многа і пры гэтым выбалбатаць праўду', lȕzav, lȕzavec 'пустамеля, лапатун'. Балтызм. Параўн. літ. lū́dzoti, лат. lūdzīt, lūgt 'прасіць, вымольваць', lūdzejs, ludzošs 'той, хто вымольвае, выклянчвае, выпрошвае', lūdzu! 'калі ласка'. Гэтак жа і Лаўчутэ (Сл. балт., 119). Скок (2, 333) суадносіць серб.-харв. лексемы з (класічным) лац. ludere, якое з lūdus 'гульня' — не зусім пераканаўча.

**Лузáць** 'біць, караць' (Янк. 1, Мат. Гом.), *лузанýць* 'секануць' (жлоб., Мат. Гом.), 'сцебануць', 'пайсці (пра дождж)' (Ян.), *лузанýцца, лýзнуцца* 'моцна стукнуцца, ударыцца', *лýзнуць* 'стукнуць' (клец., Жыв. сл.; ТС). Рус. пск. *лузжи́ть* 'біць', цвяр. *лýзнуть* 'дзюбнуць, выпіць віна', 'сцебануць'; пск., цвяр. *лýзнуться* 'паслізнуцца і ўпасці; моцна ўдарыцца', *лызгáть* 'слізгацца па снезе, катацца на каньках', тамб. *слызить, слызнýть* 'злякацца', рус. *лызгонýть* 'даць лататы', 'вышмыгнуць'; ст.-чэш. lyziti sě 'ўсміхацца', валаш. lyziť sa 'прыдуркавата смяяцца', lizoniť sa 'вышчэрвацца', славац. luznuť 'ударыць па твары', 'даць у вуха', 'наступіць', luzniť-sa 'песціць'; серб. ц.-слав. *лузгати* 'жаваць', серб.-харв. (жаргоннае) і макед. luzati 'біць, валіць', балг. *лýзгам* 'штурхаю', пірдопск. *лýзгам, лýскам, лýзна* 'б'ю, мучу', хаскоўск. *лузгъм съ, лýзнъ* 'катаюсь', *лъзгам се* 'катаюсь на санках або на нагах', радоп. *лизгам са, лизгна са* 'тс'. Сюды ж і бел. *лузáць* 'разгрызаючы, ачышчаць ад шалупін і есці, лушчыць' (ТСБМ, Шат., Янк. 1, Мат. Гом.), 'лушчыць (гарох, фасоль')', 'чысціць' (Ян.; калінк., Сл. ПЗБ). Укр. *лузáти* і *лузгáти, лузáть* 'лушчыць', *лузáтися* 'лушчыцца', *лузгá* 'шалупінне', зах. *лýзати* 'здабываць насенне, гарох і да таго пад.'; рус. арл., ленінгр. *лузжи́ть* 'лузаць, лушчыць', зах.-бран., кур. *лузáть* 'тс'. Усх.-слав. дыялектны дублет да *лузгáць* (гл.). Уваходзяць у групу слоў з рухомым зыходным элементам: luzg-/lyzg-/lusk-/lysk-/lušp-/lusp- з агульным значэннем 'лушчыць, знімаць скуру (кару)' і з пашыральнікамі кораня -z-/-zg-/-sk-/-sp. Іх семантычная мадэль на славянскім моўным арэале характарызуецца наступным наборам значэнняў: 'біць, ударыць, сцябаць' — 'лупіць, лушчыць, здзіраць, ачышчаць ад шалупін' — 'луска' — 'жэрці, жлукціць' — 'коўзацца' — 'шмыгнуць, знікаць' — 'усміхацца' (Куркіна, Этимология-72, 68—73). Слав. lužg-/lusk- адпавядаюць літ. láužti 'ламаць', lū́žti 'разбівацца, ламацца', lū́žis 'расколіна, трэшчына', lusnà 'шалупінне', nu-lùzgęs, lùzgis 'абадранец', lùzgana

'лупіна', лат. *laûzt* 'ламаць', *laûska* 'абломкі' (Махэк$_2$, 345; Фасмер, 2, 530; Слаўскі, 5, 374—377; БЕР, 3, 492—493; Скок, 2, 333).

**Лузгá** 'шалупінне, вотруб'е, луска', *лузга* 'кастрыца льну' (Нас., Дразд., Гарэц., Грыг., Бяльк., ТСБМ, Выг. дыс.; беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *лузгá*, рус. *лузгá* 'тс', каш. *łuzga, lëzga* 'гільза', 'похва', славен. *lùzgína* 'шалупіны'. Прасл. *luzga* 'шалупіны, луска' (Слаўскі, 5, 374—375). Гл. таксама *лузáць* і *лускá*.

**Лузгáн**$_1$, *лузганéц, лузгáнік, лузгáнчык* 'вялікі спелы арэх, які сам выпадае са шкарлупіны' (Нас., Дразд., Гарэц.; мсцісл., Мат. Маг.), *лузганнё* 'ачышчаныя, поўныя арэхі' (Нас.). Да *лузгáць* (гл.). Гл. таксама *лузáн* і *лузáць*.

**Лузгáн**$_2$ 'дзіцё з поўным і чыстым тварам' (Нас.), *лузкáн* 'тоўсты чалавек' (Бяльк.), *лузканнё* 'здаровыя дзеці' (Юрч. Вытв.) — у выніку семантычнага пераносу з *лузгáн*$_1$ (гл.).

**Лýзгáць,** *лузкáць* 'лузаць (насенне, арэхі)', 'лушчыць' (Нас., Бяльк., Гарэц., Дразд., ТСБМ, ТС; шкл., Мат. Маг.), *лýзгáцца* 'лёгка адставаць ад кароны' (Гарэц.). Укр. *лýзгати*, рус. *лýзгать*, каш. *lëzgac*, славéн. *lúzgati* 'тс', ц.-слав. *лузьгати* 'грызці, есці'. Прасл. *luzgati* 'лушчыць, вылушчваць, здабываць са стручка'. Утворана ад *luzga*. Да *лузгá, лузáць* (гл.). Сюды ж *лýзкыньня* 'лузанне' (Юрч. Вытв.).

**Лýзік** 'галіна' (слаўг., Мат. Маг.). Да *галýза*$_1$ (гл.) 'тс' з адпадзеннем пачатковых *г-а-*, якія атаясамліваліся як прыстаўныя.

**Лýзка** *(памянш.)* 'лаза' (нараўл., Мат. Гом.). З *лôзка*, у якім *-ô-* перайшло ў *-у-*. Да *лазá* (гл.).

**Лузонік** 'арэх, які сам вывальваецца з шапачкі' (Янк. 1). Да *лузáн, лузгáн* (гл.).

**Лук,** *лучок* 'ручная зброя ў выглядзе гібкай дугі, сцягнутай цецівой, для пуску стрэл' (ТСБМ, Бес., Шат., Яруш., Сл. ПЗБ), 'абруч у кашы, калысцы, у рыбалоўных снасцях' (навагр., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ), 'ручка касы' (баранав., уздз., полац., карм., бых., краснап., чач., ц.-палес., б.-каш., ДАБМ, 831; Янк. 1, Юрч., Бір. дыс., Сцяшк., Тарн., ТС; слуц., Нар. словатв.; петрык., Шатал.; ц.-палес., ЛАПП), жытк., стол. *лычок* 'тс' (там жа), 'сагнуты дугападобны сук ці тонкі ствол', 'драўляны каблук у рэзгінах', 'дугападобная частка драўлянай бараны' (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.), *луќа* 'тс' (ТС). Укр., рус. *лук*, ст.-рус. *лукъ* 'лук', 'лука'; польск. *łęk* і *łuk*, палаб. *lãuk* н.- і в.-луж. *łuk*, чэш., славац. *luk*, славен. *lǫ̂k*, серб.-харв. *лŷк*, макед. *лак*, балг. *лък*, ст.-слав. лѫкъ. Прасл. *lǫkъ* (<*lękti* 'гнуць, згінаць, крывіць'<і.-е. *lonk-o* 'віцца, крывіць'), роднаснымі да якога з'яўляюцца літ. *lañkas* 'дуга, абруч', *lankùs* 'гнуткі', лат. *lùoks* 'выгін, выгіб', *luôks* 'гнуткі' (Бернекер,



739—740; Фасмер, 2, 531; Слаўскі, 5, 111—113, 302—303; Махэк$_2$, 343; Скок, 2, 280—281; БЕР, 3, 550—551; Аткупшчыкоў, Baltistica, X(I), 19).

**Лук**$_2$ 'цыбуля, Allium cepa L.' (брасл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *лукъ* — відочна, 'тс' (з пач. XVI ст.). Укр. *лук* 'цыбуля', 'часнок палявы', 'часнок'; рус. *лук* 'цыбуля', ст.-польск. *łuk* 'дзікі парэй, Allium ampeloprasum', 'часнок, скарада', *domowy łuk* 'скочкі дахавыя, Sempervivum tectorum', *łuk polny wielki* 'гіяцынт усходні і інш.', палаб. *lãuk* 'часнок', ст.-чэш. *luk* 'часнок палявы, Allium oleraceum L.', славен. *lûk* 'цыбуля', 'парэй', *luk česnjak* 'часнок, Allium sativum L.'; серб.-харв. *лŷк* 'часнок', *bijeli lûk* 'тс', *crveni (crni) luk* 'цыбуля', *luk čerljeni* 'тс', 'парэй', макед. *лук, луку(т)* 'часнок', балг. *лук, лукът* 'цыбуля', 'часнок', 'парэй', 'цыбуля мядзведжая, Allium ursinum L.', ст.-слав. **лоукъ** 'часнок або цыбуля'. Прасл. *lukъ* 'цыбульная расліна (цыбуля, часнок ці парэй)' запазычана з прагерм. **lauka* (ст.-в.-ням. *louh*, с.-в.-ням. *louch*, ст.-ісл. *laukr*, ст.-н.-ням. *lōk* 'тс', суч. ням. *Lauch*, ст.-англ. *léak)*, якое да і.-е. **leug-* 'гнуць, згінаць' (Покарны, 685—686 і інш.: Бернекер, 744—745; Фасмер, 2, 531; Скок 2, 327—328; Бязлай, 2, 155; БЕР, 3, 495—498). Младэнаў (280) выводзіў лексему *lukъ* з і.-е. **leu-k* 'ясны', 'асвятляць', мяркуючы, што прасл. і прагерм. лексемы былі прароднаснымі, а Махэк$_2$ (Jména, 265) адносіць іх да мовы перадпраславянскіх неіндаеўрапейцаў. Да і.-е. **leuk-* адносіць прасл. *lukъ* Мартынаў (Лекс. взаим., 168—170).

**Лýка** 'гульня накшталт карагоду' (паўд.-усх., Растарг.). Відавочна, да *луќа* (гл.).

**Луќа**, *лукавіна* 'выгіб ракі ці возера і луг каля іх ў форме дугі', 'мыс, які абгінаецца возерам ці ракой' (ТСБМ, Нас., Рам. 8, Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Прышч. дыс.; Крыч., Яшк.; мін., паўд.-усх., КЭС), зах.-палес. *лýкы* (Бес.), нясв. *лýкавіна* 'тс' (Яшк.); паст., слаўг., стаўб. *лучкі, лучкі* 'лука' (Яшк.), *лýчка* 'лужок, сенажаць' (Мікуц.; лёзн., Яшк.), 'паўвыспа, зробленая загібам ракі' (Бяльк.), 'тарфяная яма, запоўненая вадой' (касц., Мат. Маг.). Укр., рус. *лукá*, польск. *łąka*, кялецк. *uuka, łuka*; н.- і в.-луж. *łuka*, чэш. *louka, luka*, славац. *lúka*; славен. *lǫ́ka*, серб.-харв. *лýка*, косавамятох. *лŷка*, макед. *лака, лýка*, балг. *лъќа*, радоп. *лôка*, ц.-слав. *лѫка*. Прасл. *lǫka* — роднаснае да *lǫkъ*>*лук* (гл.) і ўтворана ад *lękti* 'гнуць, выгінаць, крывіць'. І.-е. адпаведнікі: літ. *laukà* 'заліўны луг', 'даліна', *į-lauka* 'выгін, заліў', лат. *lañka* 'нізіна' (Агляд л-ры гл.: Фасмер, 2, 531—532; Слаўскі, 5, 83—85; БЕР, 3, 551—552).

**Лýкаватка** 'ручка касы' (Сцяшк.). Узнікла ў выніку кантамінацыі *лук*$_1$ (гл.) і *рукавáтка* (з *рукаяткa*) 'кассё' (Сл. ПЗБ). Аналагічна рус. наўг. *лýковéдь* 'задняя частка сахі — драў-

ляны, трохі прагнуты брус, які раздвойваецца ўніз'. Параўн. і чэш. *rukověť, rukojeť* 'інструкцыя', 'ручка, дзяржальня', *rukovítko* 'ручка сахі'<прасл. *rǫko-ję̨tь.*

**Лука́вец** 'ліслівец, хітрун' (ТС), *лука́ву* 'ліслівы, хітры' (ТС), *лука́вы* 'д'ябал' (Нас.), смарг., шчуч., чэрв. *лукава́ты* 'звілісты' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *лукавый* 'хітры', 'падманны', 'несправядлівы', 'злы' (Булахаў, Гіст. 115). Укр. *лука́вий,* рус. *лука́вый,* ст.-рус. *лукавецъ* 'каварны, вераломны, хітрун', *лукавный* 'тс', 'звілісты', 'дрэнны', *лукавый* 'тс', 'грэшны', 'д'ябал', славен. *lokȁv,* серб.-харв. *лу̏кав, лу̏кавац,* макед., балг. *лукав, лука́вец,* ст.-слав. **лѫкавъ** 'благі, сапсаваны, клапатлівы, несумленны'. Утворана ад ст.-слав. **лѫка** 'падман, хітрасць' — семантычны пераход 'гнуць'>'падманваць' з'яўляецца нармальным (Міклашыч, 165; Бернекер, 739; Фасмер, 2, 532; Скок, 2, 328—329; Бязлай, 2, 148; БЕР, 3, 498).

**Лу́кавіна** 'цыбуліна' (Нас.). Да *лук*$_2$.

**Лу́карава** 'звіліста' (Дразд., Гарэц.), ст.-рус. *лукарево (лукорявo)* 'тс'. Да прасл. *lǫkъ*>*лук*$_1$, *лука́* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-arъ* або *-orъ* (параўн. *socharъ, sochorъ* (<*soxa*) 'шост, раздвоены зверху'), да якіх пазней далучыўся суфікс *-ěv-o.*

**Лу́катачак** у выразе: *у лу́катачку* 'скруціўшыся (пра змяю)' (віл., Сл. ПЗБ), *лу́катка* 'лукавіна' (чэрв., Сл. ПЗБ), 'зігзаг' (Шат.; КЭС, лаг.), 'няроўнасць' і *лу́каткай* 'няроўна, зігзагамі' (гродз., Сцяшк. Сл.), *ісці (адрэзаць) у лу́каткі* 'крыва, віляючы з боку ў бок' (лях., Янк. Мат.). Рус. наўг., цвяр., калін. *лу́ко́ть* 'задняя частка сахі ў выглядзе прагнутага раздвоенага бруса', ст.-рус. *лукоть* 'гак', 'пятля', ц.-слав. *лѫкоть* 'тс', 'вобад кола', польск. *łąkoć* 'выгнутасць, крывізна', паўд. 'звяно вобада', н.-луж. *łukuś* 'бабінец'<'паўкруглая выгнутасць дзвярэй', 'лёд, з-пад якога выцекла вада', чэш. *loukoť* 'звяно', мар. *lúkoť* 'тс', 'выгнутае дрэва', славац. *lúkoť* 'звяно'. Дададзім яшчэ польск. *łąkotka,* серб.-харв. *лукоћа* 'папярочнае рабро ў лодцы'. Прасл. *lǫkotьka,* якое з *lǫkotь* 'выгнутасць, крывізна, лук, выгнуты прадмет', утворанай з *lǫkъ*>*лук*$_1$ (гл.) і суфікса *-otь* (Слаўскі, 5, 86 і 87; Фасмер, 2, 533; Шустар-Шэўц, 11, 788—789).

**Лукно** 'кошык' (Гарб.). Зах.-укр. *лу́кно* 'калонія баброў'; рус. ніжнегар., наўг., пск., прыбалт. *лукно́* 'кошык', 'кошык з кары, бярозы', 'лубок', 'бочачка', 'мера зерня, мукі', ст.-рус. *лукъно, лукно* 'кадка', 'ліпаўка', 'мера сыпучых і вільготных прадуктаў', польск. *łukno* 'пасудзіна', 'мера мёду', каш. *Lukno* — назва возера; н.-луж. *łuknaško* 'века ў прыскрынку', в.-луж. *łuknješko* 'акно ў сельскім гаспадарчым будынку', ст.-чэш. *lukno* 'пасудзіна для мёду і сыпучых цел', славац. *lukno* 'кошык з бяросты', 'даўняя мера для збожжа'; славен.



*lukno* і *lǫ̂kno* 'ахвяраванне для ксяндза', серб.-харв. *лу̏кно* 'тс', 'мера для збожжа', ц.-слав. *лукно* 'пэўная мера'. Прасл. *lǫk(ъ)no* 'пасудзіна з бяросты, лубу' 'мера для збожжа, мёду' (Слаўскі, 5, 307—308). Да прасл. *lękti* 'гнуць, выгінаць', *lǫčiti* 'лучыць, злучаць' (Фасмер, 2, 532; Махэк$_2$, 343; Шустар-Шэўц, 11, 788; Скурат, БЛ, 8, 11). Гл. таксама *лук*$_1$. Паводле Трубачова (Ремесл. терм., 164), заўвага Махэка аб няяснасці паходжання слова з'яўляецца недарэчнай.

**Лукошка** 'кош, лубянка' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'міса' (Анік., Грыг.). Прымыкае да рус. моўнай тэрыторыі, параўн. рус. *лукошко* 'кошык з бяросты, лубянка', 'кошык з лазы', іркуцк. 'глыбокая міса'. Паводле Фасмера (2, 532), роднаснае да *лукно* (гл.). Словаўтваральная мадэль *лук-ошка: лукно,* як рус. *око-шко: окно.*

**Лукшт** 'белы і жоўты гарлачык, Nuphar Smith і Nymphaea alba L.' (брасл., Сл. ПЗБ). Літуанізм. З літ. *lūkšta, lùkštas* 'лотаць, Caltha palustris L' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 2, 682).

**Лу́кшты** 'высеўкі' (воран., Сл. ПЗБ). Літуанізм, параўн. літ. *lukštaĩ* 'тс' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 2, 682).

**Лукшчы́ць** 'лушчыць (боб, гарох)' (астр., Сл. ПЗБ). Літуанізм. Параўн. літ. *lùkštyti* 'тс'. Гл. таксама звонкі варыянт *лужджы́ць.*

**Лу́мбы** 'сцяблы', 'адросткі пёраў у час ліньki птушак' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Літуанізм. Да *ла́мбы, ламбу́к* (гл.). Мена *-а-:-u-* з'яўляецца характэрнай для літ. гаворак (напр., *lãkatas: lùkutas* 'транты, лахманы').

**Лу́міна** 'невялікая пожня, залітая вадой', 'сажалка' (полац., Нар. лекс.), 'нізіна', 'яма, паглыбленне на дне рэчкі, возера' (брасл., Сл. ПЗБ), 'лужына, упадзіна, яма', 'нізіна з адным відам расліннасці' (Касп.), *лу́мка* 'паглыбленне ў зямлі', 'палонка' (чашн., Касп.; шум., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *lomà* 'даліна, яр', 'лагчына', 'яма', а таксама *lóbas* 'тс', 'склон', 'лужа', 'рэчышча'. Менш верагодна Фасмер (2, 533), які для рус. *лу́мка* 'ямка, пелька' дапускаў у якасці крыніцы запазычання ням. *Luhme* 'палонка'.

**Луміць** 'цягнуць, красці' (Янк. БП). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *glem̃žti* 'ха́паць, хапа́ць', 'жэрці', *lùmza* 'гультай' і *lumtóti* 'хапа́ць'.

**Луна́**$_1$ 'зарава' (Бес.), у выразе: *хадзіць па луне* 'быць лунацікам' (віл., Сл. ПЗБ), *луна́* 'рэха' (Растарг.), 'маладзік' (добруш., Бел. хр. дыял.). Укр. *луна́* 'водбліск, зарава', 'рэха, водгулле', рус. *луна́* 'месяц', 'водбліск на небе', 'промень святла', 'асветленае праменямі святла неба', паўд. 'рэха'; польск. *łuna* 'водбліск моцнага святла, вялікага агню', 'святло', 'вясёлка', 'чырвонае неба', 'чырвань на шчоках', каш. *łüna, łǫna* 'чырвань агню', палаб. *laůnə, laịnə* 'месяц',

чэш. і славац. (паэтыч.) *luna,* ст.-чэш. *luna* ’промень, святло, бляск’, ’месяц’, славен. *lúna* ’месяц’, *mlâda̧, pȍu̧na̧ łûna̧* ’маладзік’, серб.-харв. чак. *lunȁ,* дуброўн. *lûna* ’вясёлка’, макед. (паэтыч.) *луна* і серб.-харв. *лу́на* ’месяц’, балг. *луна́* ’тс’, ст.-слав. **лоуна** ’тс’, ц.-слав. ’святло месяца’. Прасл. *luná* ’бляск, водбліск’, ’месяц’, ’вясёлка’, якому адпавядаюць: ст.-прус. *lauxnos* ’свяцілы’, лац. *lux* ’святло’, *lūna* ’месяц’ (у больш старажытным напісанні *losna*), авест. *raōχšnā-* ’святло, бляск’, ст.-ірл. *lūan* ’тс’, ’месяц’, ст.-грэч. λευκός ’светлы’, λύχνος ’свяцільнік, ліхтар’, ст.-в.-ням. *liehsen* ’ясны’, арм. *lusin* ’месяц’, тах. *lukśanu* ’які свеціцца’. І.-е. праформа **louk-s-nā* ’свяціла’, ’якая свеціцца’ суадносіцца з дзеясловам **leuk-/*louk-* (Бернекер, 745; Фасмер, 2, 533; Слаўскі, 5, 308—311; Мее, Études, 130, 442, 444; Скок, 2, 330—331; Махэк$_2$, 344; БЕР, 3, 509—510; Аткупшчыкоў, Из истории, 234). Мартынаў (Балта-слав.-іт. ізагл., 30) мяркуе, што прасл. *luna* з’яўляецца інфільтрацыяй іт. *louksnā* на зах.-балт. арэале.

**Луна́**$_2$ ’ленасць, гультайства, нерухавасць’ (КЭС, лаг.). Да *лунь*$_3$ ’гультай’ (гл.). Магчыма, тут назіраецца пэўны ўплыў на семантыку з боку лексем *лунацік, хадзіць па луне́.*

**Луна́**$_3$ ’невялікая хмарка’ (гродз., бяроз., Сл. ПЗБ), ваўк. *лунёк* ’хмарка’ (там жа). Першапачаткова было *лунь* (ці $^+$*лунъ),* а жаночы род з’явіўся пад уплывам лексемы *хмара* (а, магчыма, і *луна́* ’водбліск’), параўн. *лунь, лунёк* ’невялікая дажджавая хмара’ (віл., Жыв. сл.), ’здань, прывід’, *луні́* ’кучаравыя воблакі’ (віл., Нар. лекс.), *лунь* ’белы балотны туман’ (ТСБМ). Названа паводле бела-шэрага колеру, бледнага водбліску. Генетычна да *луна́*$_1$ (гл.). Сюды ж *луні́сты* ’хмарны’ (віл., Сл. ПЗБ).

**Луна́**$_4$ ’незарослае вадзяное месца ў балоце, якое адсвечваецца’ (зах.-бел., Яшк.). З *лума́>лу́міна* (гл.). Відавочна, сема ’водбліск’ і вызначыла фіналь, аформіўшы яго ў *-на,* як $^+$*луна́* (гл. *луна́*$_1$), якое зафіксавана ў в.-дзв. гаворках у мн. ліку: *луны́ ходзюць* ’блішчаць, пераліваюцца, льсняцца’ (Сл. ПЗБ). Параўн. таксама *лу́нка, лу́нька* (гл.).

**Луна**$_5$ ’няшчасце, бедства’ (Шат.). Генетычна роднаснае да укр. *лун, лунь* у выразе *лу́на пійма́ти* ’памерці’, рус. *луна́* ’смерть’ і, магчыма, да балг. *лу́на* ’моцны вецер з віхром’, *лу́на* і *лу́ня* ’бура’ (Дурыданаў, Болг. русистика, 1979, 4, 32—34), а таксама чэш. кіёўск. *luňák* ’хуткі вецер’. Утвораны пры дапамозе старога суфікса *-на* (<прасл. *-na*) ад асновы *лу-,* якую Буга (Rinkt, 2, 373), Фасмер (2, 533), разглядаючы рус. *луна́* ’смерць’, бачаць у роднасных літ. *lavónas* і *liavónas* ’труп’, *liáujuosi gyvenęs,* прус. *au-laũt* ’памерці’, *liáutis, paliáuti* ’спыняць’, лат. *ļaũt* ’дапускаць, дазваляць’; сюды ж



прасл. *lěviti*: укр. *ліви́ти* ’слабець’, чэш. *leviti* ’палягчаць’; гоц. *lēwjan* ’аддаваць на што-небудзь’. Сюды ж *лу́нуць* (гл.).

**Луна́вы** ’блізарукі’ (браг., Мат. Гом.) утворана ад *луна́*$_1$ пры дапамозе суф. *-ав-ы* (як *дзіра́вы, ласка́вы).* Матывацыя: пры месячным светле прыходзіцца прыглядацца (як *блізарукі),* каб пабачыць, разглядзець больш дробную рэч.

**Луна́цік** ’хворы на лунацізм’ (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ). Сюды ж пераносныя значэнні: в.-дзв. ’той, хто вельмі рана прачынаецца’ і рагач. ’той, хто трызніць’ (Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *лунатикъ, люнатыкъ, лунятыкъ* ’тс’ (1580 г.) запазычана са ст.-польск. *lunatyk* ’тс’, якое з лац. *lūnāticus* (Булыка, Лекс. запазыч., 129).

**Луна́ць**$_1$ ’плаўна лётаць, рухацца ў паветры’, ’развявацца ў паветры’, ’плысці, раздавацца (пра песні, музыку)’, ’быць у стане далёкіх ад рэчаіснасці пачуццяў’ (ТСБМ). Укр. *луна́ти* ’адгукацца, раздавацца’, рус. чалябінск. *луну́ть* ’кінуць’. Да *луна́*$_1$ ’рэха’, ’водбліск’.

**Луна́ць**$_2$ ’павольна хадзіць’ (валож., Жд. 1). Да *лунь*$_3$ (гл.).

**Луне́ц** ’лунацік’ (ваўкав., Сл. ПЗБ). Да *луна́*$_1$ (гл.).

**Луні́** ’багністая мясціна’ (брасл., Сл. ПЗБ), купіш. (ЛітССР), рус. *лунь* ’багна, балота’. Пагранічны позні балтызм. Параўн. літ. *liũnas* ’тс’ (Талстой, Лекс. балт., 46; Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 2, 682). Гл. таксама *лунь*$_4$ і *лю́ны.*

**Луні́ца** ’пасіўны, прыгнечаны’ (віл., Сл. ПЗБ). Да *лунь*$_3$ (гл.).

**Луні́чка** ’клубнічка’ (Ян.) — у выніку кантамінацыі *лунка*$_1$ (’ямачкі на ягадцы клубнікі’, параўн. рус. тул., арханг. *лу́нка* ’ямачка на целе’) і *клубнічка.*

**Лу́нка**$_1$**,** *лу́нька* ’ямка, невялікае паглыбленне’ (ТСБМ; лёзн., Яшк.), ’вада пасля дажджу на дарозе, лужына’ (там жа), ’палонка’ (Гарэц., Нас., Дразд., Др.-Падб., Нік. Оч.; брасл., докш., Сл. ПЗБ; віц., Маш.; лёзн., Касп.). У выніку распадабнення *л...м>л...н* з *лумка>луміна* (гл.). Сюды ж і слаўг. *лу́нка* ’града’ (Мат. Гом.), параўн. рус. ярасл. *луне́ние* ’прыгатаванне ямак для пасадкі гароху і інш.’, урал. *луна́ть* ’рабіць лункі (ямкі) для пасадкі агародніны’. Крукоўскі (Уплыў, 38) мяркуе аб запазычанні бел. лексемы з рус. мовы. Няма падстаў.

**Лу́нка**$_2$ ’драўляная каробка для вымярэння збожжа ≈1 пуда’ (гродз., Нар. сл.). Відавочна, з *лукно* (гл.) у выніку перастаноўкі *-кн->-нк-.*

***Лу́нкі,** палес. *лу́нкы* ’прыстасаванне з прутоў, якое служыць для замацавання вашчыны ў вуллі-стаяку’ (Анох.). Няясна. Магчыма, да *лу́нка*$_1$ ’ямка’ — ямкі, у якія ўстаўляліся пруты (?)

**Лу́ннік** ’расліна Lunaria rediveva L.’ (ТСБМ, Кіс.; БелСЭ, 6). Відавочна, з рус. мовы, дзе *лу́нник* таксама звязана з лексе-

май *луна́*₁ (гл.), як і ў іншых мовах: польск. *miesiącznica, mieśięcznik*, чэш. *měsičenka, lunatěnka, měsíčnice*. Матывацыя: насенне мае форму паўмесяца (Махэк, Jména, 65).

**Лу́ння** 'кішкі, страўнік' (паўн.-усх., КЭС). Да *шлу́нне* 'вантробы, унутранасці, кішкі' (Мат. Маг., Ян., Растарг.).

**Луно** 'бяльмо на воку' (слон., Арх. Бяльк.; івац., Нар. сл.). Да *лунь*₂. Канчатак *-но* (<прасл. *-no*), як у *pętьno*>рус. *пятно* 'пляма'.

**Лу́нуць,** *лу́наць* 'раптоўна згінуць, прапасці' (Мядзв., Яруш., Янк. 2, Мат. Гом., Нас., ТС, Сл. ПЗБ; мсцісл., З нар. сл.), 'паступова згасаць і памерці' (Касп.; слуц., БНТ, Лег. і пад.), 'памерці, здохнуць' (івац., Нар. сл.), *луну́ць* 'знікнуць' (Сцяшк. Сл.). Укр. н.-валын. *лу́нути* 'памерці', рус. смал. *лунуть* 'памерці, здохнуць'. Да *лу́пнуць* (гл.), як прасл. *kapnǫti*<*kapati*, ці *гінуць*<*gibnǫti*.

**Луну́ць** 'лінуць' (мазыр., Нар. Гом.). З ⁺*лыну́ць*, параўн. драг. *лыну́тэ* 'тс'. Пераход *ы*>*у* (як *мы́ла* — усх.-палес. *му́ло*). Да *ліць, ліну́ць* (гл.). Гл. таксама Слаўскі, 4, 380—381 — *lunąć* 'лінуць'.

**Лунь**₁ 'мышалоў, Circus Lacép., драпежная птушка з сямейства ястрабіных з шаравата-белым апярэннем у дарослых самцоў' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Укр. *лун, лунь* 'тс', 'коршак'; рус. *лунь* 'мышалоў', 'сокал', 'сава', 'голуб', ст.-рус. *лунь* 'драпежная птушка'; ст.-польск. *łunak* 'каня', ст.-луж. *luń*, чэш. *luňák* 'тс', ходск. 'крэчат'; славац. *luniak, lunák* 'каня'; славен. *lûnj* 'каршун', 'мышалоў', 'арол', 'каня', серб.-харв. *lunj, ljûna, лу̑ња, њу̑на, ју̑на* 'шулёнак', 'каня', 'палявы мышалоў', ц.-слав. ***лунь*** 'каршун'. Прасл. *lunь* 'драпежная птушка з сям'і сокалаў' (Слаўскі, 5, 311—312; Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 227). Генетычна звязана з прасл. *luna* 'святло, бляск'. Названа паводле белага, сіва-белага, шэра-белага, матавага колеру апярэння. Бернекер (745—746), аднак, звязвае назву птушкі з паняццем 'востры, быстры ясны погляд'. Іншыя этымалогіі менш імаверныя, гл.: Фасмер (2, 534); Уленбек (KZ, 39, 260), Брукнер (KZ, 42, 356), Махэк₂ (344), Скок (2, 231); Бязлай (2, 156).

**Лунь**₂ 'хмара' (віл., Сл. ПЗБ). Да *луна́*₃ (гл.).

**Лунь**₃ 'маўклівы, скаваны ў рухах чалавек' (мiёр., З нар. сл.), 'марудлівы, пасіўны' (паст., віл., глыб., брасл., Сл. ПЗБ), 'стары чалавек, жывёліна без энергіі' (паст., глыб. Нар. лекс.), 'разумова недаразвіты, здурнелы, разгублены' (глыб., брасл., паст., гарад., Нар. лекс.; глыб., в.-дзв., паст., Сл. ПЗБ), 'здань, прывід' (чэрв., Сл. ПЗБ; віл., Нар. лекс.); *лунь, луніца* 'самотны' (глыб., віл., Нар. лекс.); паст., брасл. *аблуне́ць* 'стаць зацюканым, прыгнечаным'; паст., віл., глыб., гродз. *лунява́ты* 'дурнаваты' (Нар. лекс., Сл. ПЗБ); в.-дзв., брасл., лаг. *лунь* 'той, хто ходзіць без справы', 'гультай, маруда' (КЭС, лаг.). Да *луна́*₁ (гл.). Аткупшчыкоў (Из истории, 238) лексему *лунь* выводзіць з **louk-s-nis*. Семантычна блізка стаіць да *луне́ц, луна́цік* (гл.). Усё семантычнае поле гл. Мацкевіч₂ (Нар. лекс., 165—167).



**Лунь**₄ 'глыбокае, небяспечнае месца на балоце' (гродз., Яшк.). Да *луні* (гл.).

**Луні́** 'бляск, глянец, мігаценне' (в.-дзв., Нар. сл.). Да *луна́*₁ (гл.).

**Луп!**₁ — гукаперайманне для трэскання, лопання сухой скуры' (Кліх), 'хваць!' (Нас.), *луп вачыма* 'сорамна' (Нас.; мсцісл., Нар. лекс.). Ва ўсх.-слав. мовах гэта лексема служыць у асноўным для абазначэння гуку пры падзенні, удары. Прасл. *lupъ!*, якое існавала побач з дзеясловамі *lupiti, lupati* Параўн. літ. *lùp!* — для перадачы водгулля цяжкіх крокаў, лопату крыламі, хцівай яды, *lūp!* — для выражэння інтэнсіўнасці дзеяння (Смаль-Стоцкі, Приміт., 24, 40, 163; Слаўскі, 5, 316—317; БЕР, 3, 514).

**Луп**₂ 'рабунак, грабеж' (Гарб.), 'вялікі хабар' (Нас.). Укр. *луп* 'рабоўнік', 'ваенная здабыча', ст.-польск., каш. *łup* 'рабаванне', 'здабыча з палявання', 'рабунак', чэш., славац. *lup* 'тс'. Бел. і ўкр. лексемы, магчыма, запазычаны з польск. Апрача гэтага значэння ў слав. мовах (параўн. рус. *луп (на руках)* 'лушчэнне скуры на руках', польск. *łup* 'скура вужакі пасля лінькі', 'скура, якая лушчыцца', чэш. *lup* 'тс', славен. *lûp* 'лушпіна (яблыка, рэпы)', серб.-харв. чак. *lûp* 'скура, лушпіна'. Прасл. *lupъ* 'здзіранне (кары, скуры)'>'рабаванне, грабеж'>'тое, што садрана' ўтворана ад *lupiti* (Слаўскі, 5, 313—315 і 348; Махэк₂, 341; Скок, 2, 331; Бязлай, 2, 156—157).

**Лу́па**₁ 'губа чалавека, жывёлы' (маладз., Янк. Мат.; Мікуц., Сцяц., Сл. ПЗБ; сувалк., Карт. Атл. Беласточчыны), *łupufka* 'губны гармонік' (там жа), *лу́пы* 'губы' (мін., КЭС), *лу́па* 'морда жывёлы' (Мядзв.). Балтызм, параўн. літ. *lūpa* 'губа', лат. *lūpa* (Буга, Rinkt., 2, 48; Урбуціс, Baltistica, 5, 64 і 160; Liet. term., 181; Пальцаў, Лекс. балтызмы, 37; Зданцэвіч, LP, 8, 344). Булыка (Запазыч., 192) вызначае ст.-бел. *лупы* 'губы' як запазычанне са ст.-польск. *łupy* 'тс'. Супраць Непакупны (Baltistica, 11, (1), 109). Сюды ж *лупа́ты* 'чалавек з вялікімі, тоўстымі губамі' (Сцяшк., Шат.; бялын., докш., Янк. Мат., віц., КЭС; драг., полац., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ), сувалк. *łupaty* 'тс'; лаг. *лупазу́бы* 'бяздзейны, разінькаваты падлетак', *лупа́ч* 'мужчына з тоўстымі вуснамі' (КЭС, лаг.; шальч., Сл. ПЗБ), 'губаты' (мiёр., З нар. сл.).

**Лу́па**₂, *лу́пы* 'губа, губавыя грыбы, Polyporaceae' (паст., Жыв. сл.). Да *лу́па*₁. Аб семантычным пераходзе 'губа' — 'грыб' гл. *гу́ба*.

***Лу́па**$_3$, *лу́пы* 'вочы', *лупачы́* 'тс' (Юрч. Вытв.), сувалк. *zalać łupe* 'ўпіцца', якое адпавядае драг. *залэ́тэ го́чэ (горі́лкію)* 'тс'; рус. перм., урал. *лу́пы* 'вочы', алан., валаг. *лу́пачи́* 'вытрашчаныя вочы', уладз. *лупа́нда* 'вірлавокі', укр. правабярэжна-палес. *лупа́тий* і мсцісл. *лупа́ч* 'тс'. Генетычна ўзыходзіць да прасл. *lupъ* (параўн. бел. *ё-луп*), якое Мартынаў (Этимология-1984, 129—130) рэканструюе з пратэзай як *glupъ*. Сюды ж бел. *лупа́ты* 'вірлавокі' (ТСБМ, Гарэц., Мал., Дразд., Янк. 1, Шат., Мат. Гом., Нас., Растарг.; бых., Янк. Мат.; клец., Нар. лекс.; пух., Сл. ПЗБ; ТС), *лупава́ты* (Мат. Гом.), *лупа́сенькій* 'тс' (мсцісл., Нар. словатв.), *лупачы́* 'лупатыя вочы' (капыл., Жыв. сл.; свісл., Сцяшк. Сл.).

**Лу́па**$_4$ 'яечня, непадкалочаная мукой' (круп., Сл. ПЗБ) — перанос назвы з першапачатковага *лупа* 'яечня непадкалочаная', параўн. гом., чач. *лупа́* 'яечня', асіп. *лупа́тая яешня* 'яечня нераскалочаная'. Аналагічна рус. *глазу́нья*, чэш. *volská oka* 'тс' (літаральна 'валовы вочы'). Да *лу́па*$_3$ (гл.).

**Лу́па**$_5$ 'павелічальнае дваякавыгнутае шкло ў аправе' (ТСБМ). З рус. *лу́па* 'тс', якое на пачатку XIX ст. з франц. *loupe* непасрэдна або праз ням. *Lupe* (Фасмер, 2, 534; Крукоўскі, Уплыў, 72). Канчаткова — да лац. *lupa* 'ваўчыца' і 'круглая пухліна', 'круглае шкло'.

**Лупа́** 'адходы пры ачыстцы зерня і інш. збожжавых' (Мат. Гом.; лун., ЛАПП), 'астаткі пасля прасейвання мукі' (Ян.; ганц., Сл. ПЗБ), 'лупіны, шалупіны, высеўкі, вотруб'е' (ТС). Укр. *лупа́* 'тс', 'луска рыбы', 'перхаць', зах. *лу́па* 'лупіна, скурка', рус. *лупа́* 'слой скуркі, які лушчыцца', 'перхаць', 'дранка', 'наносы на рацэ', 'азёрная трава'; польск. *łupa* 'лупіна агародніны, шалупайка', 'кара', 'трэска, палена', 'луста', 'куча гною, смецця', 'кратавіны', в.-луж. *łupa* 'лупіна, мяккая кара, лыка', славац. *lupy* 'лушпіны', серб.-харв. *лу̏па* 'біццё, таўчэнне, стук'. Прасл. *lupa* 'лупіны ў агародніне', 'шалупайка яйка', 'высеўкі', 'кара дрэў' (Слаўскі, 5, 317—319). Да і.-е. **leu-p-* 'здзіраць скуру, лупіць'; *-p-* у гаворках выступае часам у варыянце *-sp->-шп-*. Самыя блізкія і.-е. адпаведнікі: лат. *laupa* 'здабыча', *lupa* 'шкарлупіна, кавалачак, ануча', *lupis* 'лясны рабаўнік'; літ. *lupà* 'кара; лыка (луб), лупіна': *lupti*, лат. *lupt, làupît* 'драць, здзіраць, лупіць', 'біць', *lùptis* 'лупіцца, лушчыцца', *aplaupýti* 'абдзіраць, аблупіць' (Скок, 2, 331—332; Фасмер, 2, 534—535).

**Лупаві́ны** 'лупіны ад бульбы' (Сцяц., Сцяшк.), *лупаві́на* 'тс', 'шалупайка ад яйка' (баранав., Сл. ПЗБ), каш. *łúpov'ina* 'лупіны ад агародніны, арэхаў'. Праформа *lupovina<lupa< lupiti>лупі́ць*$_1$ (гл.) (Слаўскі, 5, 346). Аб суфіксе *-авін-ы* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 22), які з *-ov-in-a* (Слаўскі, SP, 1, 120—121).



**Лупаво́кі** 'лупаты', 'які часта лыпае павекамі' (Нас. Доп.), *лупаво́кій, лупово́кі* 'вірлавокі' (Мат. Маг., ТС), *лупаво́кенькій* 'тс' (мсцісл., Нар. словатв.), смал. *лупово́кий* 'тс'. Аналагічна рус. варон. *лупобе́льмый*, цвяр., пск. *лупогла́з* 'тс'. Да *лу́па*$_3$ і *вока* (гл.).

**Лупаі́**, *лупаі́ны* 'абчысткі ад бульбы' (Янк. 1, ТС), *лупа́йка, лупа́йкі, лупа́ўкі, лупэ́йка* 'тс', 'стручок, лупіна', 'лупіны ад яек', 'вонкавы каляплоднік арэха' (Вешт., Клім., Мат. Гом., Сл. Брэс., Мат. Маг., ТС, Сцяшк. Сл.; лун., лельч., ЛАПП). Утвораны ад *лупі́ць*$_1$*<лупа́* (гл.). Аб суфіксах *-ай-*, *-ай-ка* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 23).

**Лупа́к** 'грымак, кухталь' (ТС). Да *лупі́ць*$_1$ 'лупцаваць'. Аб суфіксе *-ак* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 23—25).

**Лупакі́** *(іран.)* 'вочы' (Сцяшк.). Да *лу́па*$_3$ (гл.).

**Лу́пала**, *лу́пало* 'маргун' (ТС). Утворана ад палес. *лупа́ты* 'які плюскае вачыма'. Аб суфіксе *-ал-а* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 93—94). Сюды ж *лу́палка* 'тс' (ТС).

**Лупані́на** 'вельмі хуткі і лёгкі даход, асабліва хабар' (Нас.). Да *лупі́ць*$_1$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 28).

**Лупану́ць** 'рвануць, пацягнуць' (ТС), 'моцна ўдарыць' (віл., Сл. ПЗБ), *лупяну́ць* 'тс' (Нас., ТСБМ), *лупену́ць* 'тс', 'раздзерці', 'падраць', 'наесціся' (ТС), *лупляну́ць* 'выцяць' (Юрч. Вытв.), *лупяну́цца* 'упасці, пабіцца' (Нас.). Да *лупі́ць*$_1$ (гл.). Аб суфіксе *-ану-* гл. Бел. гр. 2 (1, 328—329) і Слаўскі (SP, 1, 44—45). Мяккасць папярэдняй зычнай залежыць ад мяккасці зычнай словаўтваральнай лексемы, таму можна меркаваць, што формы з *-ану-* ўзыходзяць да *лупа́ць*<прасл. *lupati* 'ўдараць, біць, стукаць'.

**Лупаны́** 'камякі, бульбяная каша', *лупуны́* 'ляпёшкі з мукі і варанай тоўчанай бульбы' (Бяльк.). Да *лупі́ць*$_1$ 'ачышчаць вараную бульбу ад лупінаў'. Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 26). Сюды ж *лупанэ́* 'бульба ў мундзірах' (Вешт.).

**Лупа́р** 'белавочка, Abramis sapa' (Іпуць, Днепр, Сож,— Дэмб. 1, Жук.). Відавочна, кантамінаваная назва з рус. алан., уладз. *ло́парь* 'від плотвы, Abramis björkna', якое з фін. *looperi, loopero* 'тс', і ўкр. (паўночны бераг Чорнага мора) *лупи́рка, лупі́рка* 'гусцяра', якое з тур. *lüfer, lufer* 'тунец' (Фасмер, 2, 518 і 534).

**Лупа́сіць** 'біць, лупцаваць', 'ісці (пра вялікі дождж)' (Ян., Юрч. Вытв.) рус. ленінгр., урал. *лупа́сить* 'тс' (і, магчыма, зах.-укр. *лупеса́ти* 'лупіць, здзіраць лупіну, скуру'), мар. *lupotat* — аб дажджы — ўзніклі ў выніку пашырэння асновы дзеяслова *лупі́ць* (Фасмер, 2, 535). Аналагічна *лупа́шыць, лупе́шыць* 'лупіць (пра дождж), біць' (ТС), *лупе́чыць* 'лупцаваць' (Юрч. Вытв.), а з іншым пашыральнікам — рус. цвяр., вяц. *лупе́нить* 'лупасіць'.

***Лу́пацень,** *лу́потэнь* 'лупцоўка' (беласт., Сл. ПЗБ). Можна дапусціць кантамінацыю *лу́пень* і *лапата́ць* 'ударацъ па якой-небудзь паверхні, ствараючы аднастайныя прыглушаныя гукі'.

**Лупаці́ць** 'бегчы (вельмі хутка знікаць)' (браг., Мат. Гом.). Укр. *лопоті́ти* 'тупаць, бежучы'. У выніку кантамінацыі *лупі́ць* і *лапаце́ць* (гл.). Параўн. чэш. *lupotat* — аб дажджы. Адносна таго ж значэння *лупі́ць* параўн. рус. валаг. *лупи́ть* 'хутка ісці, бегчы', серб.-харв. *лу̏пити* 'кінуцца, пабегчы', балг. *лу́пя* 'тс', 'хутка пабегчы' (БЕР, 3, 521), бел. *лупяну́ць* 'рушыць у дарогу' (Яруш.).

**Лу́пацьₗ**, *лу́паты, лу́патэ* 'лыпаць, моргаць вачыма' (маст., зах.-палес., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Касп., Нас., Растарг., Гарэц., ТСБМ), 'мігацець' (Грыг.), укр. *лу́пати (очима),* рус. *лу́пать* 'тс', польск. *łupać oczyma* 'вытрэшчваць вочы' (Ліндэ), чэш. *loupati očima* 'тс' — у выніку кантамінацыі *лупа*з і *лы́пацъ* (гл.). Сюды ж *лу́пацца* 'плюшчыцца, лыпаць', *лу́пацъ очыма* 'маргаць ад разгубленасці, збянтэжанасці, здзіўлення, страху', *лу́пнуць* 'лыпнуць' (ТС). Параўн. *лу́па*з (гл.).

**Лу́пацьз** 'трашчаць (аб высахшай скуры)' (Кліх), *лу́пацца* 'лопацца, трэскацца (аб яечках пчол)' (Анох.), укр. *лупа́тися* 'лопацца, трэскацца', чэш. *lupati* 'тс'. Да *лупₗ* (гл.) (Махэкз, 344). Слаўскі (5, 323) мяркуе, што прасл. *lupati (lupaję)* з'яўляецца пазнейшым ітэратывам да *lupiti,* якое было ў ранняй прасл. мове нематываваным.

**Лупе́ж** 'рабунак, грабеж' (Гарэц., Дразд.), *лупе́жыць* 'лупіць скуру, жорстка караць', 'абдзіраць, браць хабар, вялікія працэнты', *лупе́жнік* 'хабарнік, абірала' (Нас.), смал. *лупе́жить* 'лупцаваць', ст.-бел. *лѹпежь* 'тс', *лупежники* 'ліхвяры, хабарнікі' (XVI ст.). Укр. *лупі́ж,* рус. *лупёж,* ст.-рус. *лупежь;* польск. *łupież,* чэш. *loupež,* славен. *lupež,* серб.-харв. *лу́пеж,* ц.-слав. *лупежь.* Прасл. *lupežь* 'лупленне кары, скуры'>'тое, што аблуплена, абадрана, што злушчылася'>'тое, што нарабавана' (Слаўскі, 5, 335—337). Да *лупз* (гл.). Аб суфіксе *-еж* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 85).

**Лупе́зца** 'рабаўнік' (Гарб.), ст.-бел. *лупежца, лупезца* 'асоба, якая гвалтам адбірае што-небудзь у вялікай колькасці' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *łupieżca, łupiezca* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 21). Бел. словам было *лупежнік* (гл. *лупе́ж*), якое да прасл. *lupežьnikъ* (Слаўскі, 5, 338). Карскі (Труды, 205) залічае гэту лексему да паланізмаў у бел. мове — няма падстаў.

***Лупе́ішча,** *лупе́ішчэ* 'маргун', 'вірлавокі чалавек' (ТС), *лупе́й* 'маргун' (ТС). Апошняя лексема — аддзеяслоўнае ўтварэнне. Да *лу́пацьₗ* 'лыпаць, моргаць вачыма'. Першая ўтворана ад *лупе́й.* Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 36).



**Лупе́ка** 'скуралуп, жывадзёр', 'карыслівец, абдзірала', 'які моцна карае' (Гарэц., Нас., мсцісл., З нар. сл.), смал. *лупе́ка* 'тс'. Да *лупі́цьₗ*<*лупз* (гл.). Аб суфіксе *-ек-а* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 37).

**Лупе́нік** 'масляк' (лід., Сцяшк. Сл.), шчуч., баранав. *лупе́нікі,* іўеў. *лупі́ннік* 'тс' (СЛ. ПЗБ). Да *лупі́цьₗ* (гл.). Матывацыя: у іх лёгка лупіцца скурка шапачкі. Параўн. таксама славац. *łupinki* 'апенькі сапраўдныя'.

**Лупе́нікі** 'бульба ў мундзірах' (ваўкав., Сцяшк. Сл.). Да *лупі́цьₗ* 'здзіраць скуру' (гл.). Аб суфіксе *-ень,* да якога пазней далучыўся *-ік-і,* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 38—39).

**Лу́пень,** *зарабі́ць лу́пня* 'быць адлупцаваным' (жытк., Нар. словатв.), *лу́пе́нь* 'лупцоўка, калатня', 'непамерная плата', *даць лу́пня, заробіць лу́пня* 'атрымаць лупцоўку' (ТС). Укр. *да́ти лу́пня,* рус. разан. *дать лупака́,* урал. *лу́панцы* 'біццё', укр. жытом. *лупанець* 'удар рукой', польск. *dać łupnia,* якое, магчыма, запазычана з усх.-слав. моў (Слаўскі, 5, 333). Там жа даецца і прасл. форма *lupьnjь,* якая да *lupiti*>*лупі́ць* 'моцна біць, лупцаваць'.

**Лупе́ха** — зняважлівае слова на кабету з тоўстымі вуснамі (КЭС, лаг.). Адпрыметнікавае ўтварэнне (<*лупаты*) з суфіксам *-ех-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 100). Да *лу́паₗ* (гл.).

**Лупе́ш** 'перхаць' (навагр., Жыв. сл.). Да *лупе́ж* (гл.). Аднак у гэтым значэнні лексема, відавочна, запазычана з польск. мовы, дзе яшчэ ст.-польск. *łupież* 'тс' (XVI ст.).

**Лупе́шыць** 'лупцаваць' (Ян.). Гл. *лупа́сіць.*

**Лу́пік** 'лазіна, з якой садрана кара' (ТС). Да *лупі́ць* 'здзіраць кару'. Суфікс*-ік*, як *ду́бчык,* драг. *бэ́чік* 'пуга'.

**Лу́піна** 'губа' (докш., Янк. Мат.), 'тоўстая губа' (міёр., Нар. словатв.). Да *лу́паₗ* (гл.).

**Лупі́на** 'вонкавая абалонка плода, семя', 'шкарлупіна ад яйка', 'высеўкі' (ТСБМ, Бес., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *лупі́нка* 'скура льнянога семя' (Уладз.), *лупі́ны* 'бульбяныя ачысткі, адходы пасля ачысткі пладоў, семя, караняплодаў' (ТСБМ, Бес., ТС, Вешт., Сцяшк.), *лупі́нне* 'шалупіны' (ТСБМ). Укр. *лупи́на,* польск. *łupina,* палаб. *laipaịnə,* н.-луж. *łupina, lup'iny, up'iny,* в.-луж. *łupizna, łupina, lupina,* чэш. *lupina,* мар. *łupina,* славац. *lupina,* славен. *lupína, lupìnja,* серб.-харв. *лу̀пина, љу̀пина, лу̏пина,* ц.-слав. *лупина.* Прасл. *lupina* 'абалонка, покрыва чаго-небудзь: шалупайка, шкарлупіна, лушпіна, кара, луска, ракавінка' ўтворана ад *lupiti*>*лупі́цьₗ* (гл.). Такі ж суфікс і ў літ. *lupynà* 'скурка, лупіна, луска', 'худы конь' (Слаўскі, 5, 341). Гл. Liet. term. 182, дзе Грынавяцкене і інш. бел. лексему выводзяць з літ.

**Лу́піны** 'драпіны' (Гарэц.), *лупі́ны* 'тс' (Дразд.). Да *лупі́цьₗ* 'драць' (гл.). Аб суфіксе *-ін-ы* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 42).

**Лупіць**₁, *лупіці, лупэтэ, лупыты* 'знімаць лупіну, кару, лушчыць', 'ачышчаць вараную бульбу', 'абіраць' (ТСБМ, Гарэц., Шпіл., Шат., Касп., Бяльк., Клім., Мат. Гом., Сцяшк., ТС, Выг., Вешт.), 'знімаць скуру з забітай жывёлы' (Сл. ПЗБ), 'моцна біць, лупцаваць' (ТСБМ, Жд. 1, Грыг., Бяльк., Нас., Растарг., Касп., Клім., Нар. Гом., Сл. ПЗБ), *лупіць кожу (шкуру)* 'сцябаць з лютасцю' (Юрч. Фраз. 2), 'браць хабар, або вялікія працэнты' (Нас.), 'хутка есці', 'піць залпам' (Нас.), 'моцна стукаць', 'разрываць на часткі', 'многа і прагна піць', 'моцна ліць (пра дождж)', 'забіраць апошняе' (Сл. ПЗБ), 'драць' (Яруш.), *лупіць вочы* 'пільна глядзець з шырока расплюшчанымі вачамі' (ТСБМ, Нас.; Юрч. Фраз., 2), *лупіць зубы* 'скаліць зубы, смяяцца без прычыны', 'гультаяваць' (Ян.; паўн.-усх., КЭС; лельч., Нар. лекс.); *лупіцца* 'лушчыцца', 'абдзірацца', 'аблазіць' (ТСБМ, Анох., ТС), 'моцна крычаць' (Шат.). Укр. *лупи́ти, лупи́тися,* рус. *лупи́ть, лупи́ться,* ст.-рус. *лупить;* польск. *łupić, łupić się,* н.-луж. *łupiś,* чэш. *loupiti,* мар. *łúpit,* славац. *lúpit', lupic, lúpit' sa,* славен. *lúpiti, lúpiti se;* серб.-харв. *lúpiti, lupīti, лупити, љу́пити се;* макед. *лупам, лупам се, лупи, лупа, лупа се,* балг. *лупя, лупам, лупę, лу́пя се.* Прасл. *lupiti (sę)* 'знімаць верхнюю абалонку (лупіны) чагонебудзь, здзіраць кару, скуру з жывёлы', 'лушчыць', 'адбіраць маёмасць, грабіць', 'біць, стукаць, ударацъ, лупцаваць' першапачаткова было ітэратывам (Слаўскі, 5, 327—333). Роднаснымі да яго з'яўляюцца: *ap-laupýti* 'абабраць', *laupýti* 'адломваць хлеб па кавалку', 'лупіць, біць на кавалкі, крушыць; знімаць скуру', 'рабаваць', 'есці, грызці', 'марнатравіць', лат. *làupît* 'абдзіраць, грабіць' і пачатковыя асноўныя літ. *lùpti* 'драць, лупіць, аднімаць гвалтам', 'эксплуатаваць', 'цяжка працаваць', 'разворваць папар', 'біць, хвастаць, сцябаць', 'грэбсціся (аб курах)', лат. *lupt* 'лушчыцца, адрывацца слаямі', ст.-інд. *lumpáti* 'ломіць, псуе'; магчыма, сюды ст.-грэч. λύπη 'журба, смутак', λύπρος 'варты жалю', гоц. *laufs,* ст.-в.-ням. *loub* 'лістота', ст.-в.-ням. *louft* 'кара, лыка', ням. *laufen, läufeln* 'лузаць арэхі'. Агляд л-ры, апрача вышэйзгаданай, гл. у: Фасмер (2, 534—535); Скок (2, 331—332), які адрознівае *lūpīti* 'лупіць, лушчыць' і *lŭpiti* 'біць', 'наесціся, напіцца', 'трызніць'; Махэк₂ (344), які ў *lupati/lupiti* выдзяляе асноўнае значэнне 'выдаваць кароткія глухія гукі (тыпу гука П), якія стрымліваюцца, калі лупіць садавіну, гародніну, або калі што-небудзь трэскаецца, трашчыць, далей 'біць', 'хутка, прагна есці, піць'; Шустэр-Шэўц (11, 789) лічыць дзеясловы *lupati/lupiti* гукапераймальнымі з *lup-;* Бязлай (2, 156—157) услед за большасцю этымолагаў сцвярджае, што нельга аддзяляць *lupiti* 'лупіць, лушчыць' ад *lupiti* 'біць', 'рабаваць'. Тое ж БЕР, 3, 519—521. Сюды ж *лу́пнуць* 'ударыць' (Мікуц.).



**Лупіць**₂ 'рваць (траву)' (уздз., Жд. 1), 'касіць траву' (светлаг., Мат. Гом.) — семантычнае запазычанне з літ. мовы (Чэкман, Baltistica, 8 (2), 150—151). У сувязі з гэтым параўн. *лупіць*₁ 'драць' (Яруш.) і літ. *laupýti* 'тс'.

**Лупічок** 'грыб масляк' (навагр., З нар. сл.). Да *лупіць*₁ (гл.). Параўн. таксама *лупе́нік* 'тс' (гл.).

**Лу́пка** 'лупцоўка' (Юрч., Ян., Мат. Гом.; браг., Нар. словатв.; глус., Мат. Маг.), укр. *лу́пка* 'тс', рус. *лу́пка* 'лупленне, здзіранне кары', польск. *łupka* 'лупцоўка', чэш. *lupka* 'удар'. Паўн.-слав. *lupъka<lupiti>лупіць*₁ (Слаўскі, 5, 343; Слаўскі, SP, 1, 94—95).

**Лу́пленіца** 'лазіна, з якой садрана кара' (ТС). Аддзеепрыметнікавае ўтварэнне з суфіксам *-іц-а.* Да *лупіць*₁ (гл.). Параўн. беласт. *лу́пляны* 'абчышчаны (пра бульбу)' (Сл. ПЗБ).

**Луплёнкі** 'аблупленая кара' (паст., Сл. ПЗБ). Да *лупіць*₁ (гл.)>дзеепрыметнік *луплёны.*

**Лупляке́** 'масллякі' (дзятл., Сл. ПЗБ), *лупякі́, лупяке́* 'тс' (лід., навагр., дзятл., там жа; навагр., Сцяшк.). Да *лупіць*₁. Параўн. таксама *лупе́нік.*

**Лу́плянцы** 'бульба ў мундзірах' (іван., Вешт.), *луплёнікі* 'ачышчаная вараная бульба' (ТС). Аддзеепрыметнікавыя ўтварэнні з суфіксамі *-(е)ц-ы* і *-ік-і.* Да *лупіць* (гл.).

**Лупнуць** 'памерці' (Грыг.) — у выніку пераносу значэння з *лу́пнуць* 'ударыць' (бых., Мат. Маг.), *лу́пнуць* 'трэснуць, разламацца' пры ад'ідэацыі рус. смал. *лу́нуць* 'памерці, здохнуць'. Да *лупіць*₁ (гл.).

**Лупня́к** 'сланец' (ТСБМ). Утворана ў 20-х гадах XX ст. накшталт польск. *łupek,* чэш., славац. *lupek* 'тс', польск. *łupień* (Сл. Міцкевіча, 4, 178) і ўкр. *лупа́к.* Узорам магло быць ням. *Schieper* 'сланец'<прагерм. **skifran*<**skēi* 'расшчапляць, раздзіраць, аддзяляць' (Слаўскі, 5, 325—326; Баханькоў, БЛ, 13, 18).

**Лупок** 'ракавіна бяззубкі (Anodonta mutabilis)' (карэліц., Жыв. сл.). Да *лупіць*₁ 'аддзіраць'. Па ўтварэнню тое ж, што і польск. *łupek* 'сланец>праформа *lupъkъ.*

**Лупоны** 'суквецце сланечніку' (карэліц., Сл. ПЗБ). Да *лупіць*₁. Суфікс *-он,* відавочна, пад уплывам слова *бутон.*

**Лупсе́й** (зневаж.) 'губаты', *лу́псі* 'губы' (Сцяц.; ваўкав., Сцяшк. Сл.). З в.-ням. *Lefze* (магчыма, праз ідыш) 'губа ў жывёлы' (<ст.-в.-ням. *lëfs*).

**Лупцава́ць,** *лупцова́ць* 'біць, хвастаць', 'стукаць, ударацъ па чым-небудзь' (ТСБМ, Гарэц., Растарг., Шат., Касп., Тс), 'сцёбаць пугай, дубцом' (КЭС, лаг.), *лупцова́цца* 'біцца, тузацца' (ТС). Укр. *лупцюва́ти, лупцева́ть* 'тс', уладз. 'знімаць скуру з жывёлы', смал., тул. 'есці з вялікім апетытам', варон. *лупцеваться* 'біцца', разан. *лупцевня́* 'бойка'. Паходзяць

з $^{+}$*лупсовать,* пск., цвяр., тул., бран., валаг., перм., урал. *лупсовать* ’моцна біць, лупцаваць’, валаг. *лупсоваться* ’біцца’, а гэтыя — з $^{+}$*лупсать, лупсить,* пск., цвяр. *лупси́ть* ’моцна каго-небудзь біць, адлупіць’, алан. ’шмат есці’, наўг. *лупса́нить* ’біць, хвастаць’. Апошнія з’яўляюцца балтызмамі, параўн. літ. *lupsëti, lapsëti* ’біць, махаць крыламі’, ’жэстыкуляваць’, *lupsénti, lapsénti* ’лапчыва, прагна есці’, *lùpsena* ’біццё, пабоі’, а са значэннем ’здыхаць’ літ. *lapsénti,* відаць, звязана з зах.-укр. *лупеса́ти* ’лупіць, здзіраць скуру’. Зяленін (РФВ, 54, 115) намагаецца растлумачыць паходжанне рус. *лупси́ть* ’біць’ з эст. *lopsima* ’біць’. Фасмер (2, 535) тлумачыць гэтыя дзеясловы як пашырэнне асновы дзеяслова *лупи́ть.* Сюды ж *лупца́нка, лупцо́ўка* ’лупцаванне’, *лупцану́ць* (Мат. Гом., ТСБМ, Бяльк., Касп., Шат.; КЭС, лаг.).

**Лу́пы$_1$** ’вусны’, ’вялікія непрыгожыя губы’ (Касп., Шат., Сцяшк., Жд.; віц., мін., шчуч., навагр., КЭС; полацк., Нар. лекс.), польск. паўн.-усх. («*z Litwy*») *łupy* ’тс’, ’губы жывёл’. Да *лупа$_1$* (гл.), якое, з’яўляючыся балтызмам, звязана з с.-н.-ням., н.-ням. *lobbe, lubbe* ’тоўстая, абвіслая губа’ (Слаўскі, 5, 347).

**Лу́пы$_2$** *мн.* ’адходы пры шатраванні круп’ (стол., Выг. дыс.). Да *лупа́* (гл.).

**Лупы́цыр** ’карузлік, карапуз’ (Бяльк.) — у выніку перастаноўкі *п — ц* і змены семантыкі з *люцы́пар* ’д’ябал’ (гл.).

**Лупэнда,** *лупэньдзя, лупэньдзік, лупънда́, лупяндзя* ’чалавек з вялікімі, тоўстымі губамі’ (міёр., З нар. сл.; Сцяц.). Да *лупіць$_1$* (гл.). Аб суфіксе *-енда, -яндзя* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 98—99). Параўн. аналагічныя ўтварэнні на рус. моўнай тэрыторыі: уладз. *лупа́нда* ’вірлавокі’, валаг. ’тоўстая, непаваротлівая жанчына, гультаяватая дзяўчына’ — гэтыя і іншыя слав. утварэнні з суфіксам *-anda, -ajda* Слаўскі (SP, 1, 63) разглядае як утварэнні з балт. суфіксам.

***Лу́сіць,** *лу́сіть* ’трашчаць’ (Растарг.) — другаснае ўтварэнне з *лу́снуць* ’трэснуць, лопнуць’, якое з прасл. *lus(k)-nǫti.* Не выключана магчымасць утварэння з выклічніка *лусь!* (гл.).

**Луска́,** *лузка́, лусга́, луцка́* ’слаістае покрыва чаго-небудзь’, ’луска рыб і гадаў’, ’перхаць, лускавіны на скуры жывёлы’, ’смецце ў збожжы’, ’высеўкі’, ’лупіна, вонкавая абалонка плода, стручка’, ’шалупайка ад яйка’, ’луска цыбулі’ (нас., Гарэц., Бес., Мядзв., Шат., Касп., Мат. Гом., Бяльк., Вешт., ТСБМ, ТС, Растарг., Янк. 1, Сл. ПЗБ; Д.-З., Пін.; барыс., Шн. 3; КЭС, лаг.). Укр. *луска́,* лемк. *лу́ски* ’стручок’; рус. *луска́,* ст.-рус. *луска* ’луска’; польск. *łuska,* в.-луж. *łuska,* чэш. *luska,* мар. *łuska,* славен. *lûska,* серб.-харв. *лу̏ска, ljȕska,* ст.-балг. *луска.* Прасл. *luska* ’знешняе покрыва пладоў, насення, яек, рыб, гадаў’. Да і.-е. **leu-sk-* (і.-е. адпаведнікі: лат. *laûska* ’асколак, чарапок, трэска, нешта зламанае, патоўчанае’, *laûskas* ’перхаць’, ’шалупінне’, літ. *luskà* ’лахман’, *lusnà* ’лупіна, луска’ (Слаўскі, 5, 348—352), а таксама, відаць, асец. *lysk*’, *lisk’æ* ’гніда’ (Абаеў, 2, 56). Параўн. *лузга́* і *луза́ць* (гл.). Сюды ж *лу́сачка, лускаві́нне* ’асобная пласцінка лускі’, *лускава́ты* ’пакрыты луской’ (ТСБМ).



**Лускавіца** ’смалёўка, ляскаўка, Silene cucubalus Wib’. (брэсц., Кіс.), *лускайка* ’тс’, ’Silene inflata’ (Кіс., Бел. зельн.). Да *лускаць$_2$* (гл.). Названа паводле нібы надзьмутага падвяночка, які, калі націснуць на яго, гучна трэскаецца’ (Махэк, Jména, 79), параўн. чэш. *praskavec* (<*praskati*=’трэскацца’), польск. *trzaskawka* ’тс’. Гл. таксама *лусне́ц.*

**Лускаві́цінь** ’мяшок, у якім адцэджваюць тварог’ (Бяльк.), рус. бран. *лускави́тень* ’тс’. З пчалярскай лексікі: гл. *вáскавень.* Відавочна, спачатку было $^{+}$*васкавіт* ’мяшок, які робіць воск’, але таму, што ва ўсх.-бел. гаворках дэрываты з суфіксам *-іт* азначаюць асоб па іх занятку *(барацьбіт, сяўбіт),* да *васкавіт* быў далучаны суфікс *-ень* (як *берасцень* ’збанок, гаршчок, аплецены бяростай’). Пры ад’ідэацыі лексемы *луска* ’адходы’ *в-* было заменена ў *л-.*

**Лусканéц** ’спелы арэх’ (Юрч., карэліц., Сцяшк. Сл.). Да *лузга́н, лузгане́ц* (гл.).

**Луска́р** ’лапата’ (Касп.), рус. тамб. *луска́рь* ’тс’, арханг, *лыскорь,* пск. *ласка́рь* ’рыдлёўка’, ст.-рус. *лыскарь* ’кірка’, ’рыдлёўка’. Фасмер (2, 541) не згаджаецца з Меляранскім (ИОРЯС, 10, 4, 124), які выводзіць з цюрк. моў (параўн. казах. *lesker,* крым.-тат. *ülüskär* ’матыка’). Куркіна (Этимология-72, 68—73) дадае сюды яшчэ серб.-харв. *lizgar, lizgára* ’жалязняк’, макед. *лизгар* ’тс’, якія працягваюць гняздо *lyzgati/lyskati* ’біць, ударыць’ (г. зн. тыпалагічна падобную групу з коранем *luzg-/lyzg-/lusk-/lysk-/lusp-).*

**Лу́скат** ’трэск, лусканне’ (ТСБМ), укр. *лускіт,* польск. *łuskot,* чэш. *luskot.* Прасл. паўн. *luskotъ* — nomen actionis (>nomen acti) ад дзеяслова *luskati* (Слаўскі, 5, 358—359)> *лу́скаць.* Сюды ж *лускатня́* ’трасканіна’ (хойн., Мат. Гом.).

**Лу́скаць$_1$,** *лу́скыць, луска́ць, лу́скатэ* ’лушчыць, раскусваць, разгрызаць, есці з хрустам’ (ТСБМ, Растарг., Юрч.; віл., докш., кам., драг., Сл. ПЗБ). Укр. *лу́скати,* рус. пск., смал., варон., дан. *лу́скать,* польск. *łuskać,* в.-луж. *łuskać (worjechi),* чэш. *louskati, luskat’,* славац. *lúskat’,* славен. *lúskati,* серб.-харв. *љу̏скати (се), luskati (beči),* балг. *люскам.* Прасл. *luskati,* утворанае ад *luska*>*луска́* (гл.). Слаўскі (5, 353) лічыць малаімаверным вывядзенне прасл. *luskati* з *lup-skati* (першаснага інтэнсіва на *-sk-*), як мяркуе Махэк (ZslPh, 29, 353—354).

**Лу́скаць**$_2$, *лу́скыць, лу́скаць* ’патрэскваць, ламаючы што-небудзь сухое’, ’хрусцець (аб пальцах)’, ’трэскаць, лопаць’ (ТСБМ; ваўк., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), *(перан., іран.)* ’забіваць, знішчаць’, ’піць, выпіваць’ (Юрч.), *лу́снуць* ’лопнуць, трэснуць’ (ТСБМ, Растарг., Сцяшк., ТС). Укр. *лу́скати* ’лопацца з трэскам’, ’ударацьʼ, біць крыламі’, рус. *лу́скать*: пск., цвяр. ’біць’, ’шчоўкаць’, пск. ’лапатаць, балбатаць’, *лу́снуть*: кур. ’лопнуць’, наўг., пск., цвяр., калін. ’ударыць, стукнуць’, *лу́снуцца* ’ударыцца аб зямлю’; польск. *łuskać* ’злёгку патрэскваць’, ’шмат піць’, каш. *nalëskac są* ’налопацца, наесціся’, в.-луж. *łuskać* ’лопацца, патрэскваючы’, чэш. *luskati* ’шчоўкаць пальцамі’, *louskati* ’выдаваць трэск’, *łuskač* ’біць вошы’, славац. *lúskat’* ’пстрыкаць, трашчаць’; славен. *lúskati* ’біць; бразгаць дзвярыма, ляскаць бічом’, серб.-харв. *љу̏скати* ’лупіць мячом’, *ljuskati* ’лапатаць, пляткарыць’, балг. *люскам* ’ударaю, пляскаю; жлукчу, п’ю’, пірдопск. *лускам* ’б’ю, катую’. Прасл. *luskati*, якое ад *lusъ!, luskъ!* (Слаўскі, 5, 353—355; гэтак жа і Бязлай, 2, 157). Махэк$_2$ (344—345) лічыць *luskati* інтэнсівам, утвораным ад *lupati*. Аўтары БЕР (3, 581) мяркуюць, што *лускаць*$_1$ і *лускаць*$_2$ маюць адно і тое ж паходжанне (да *luska*).

**Лускерка** ’рыба гусцяра, Blicca bjoerkna L.’ (Зах. Дзвіна; віц., Нік. Очерки), укр. *луски́рь* ’рыба’, рус. *ласкы́рь, лыска́рь* ’рыба Abramis blicca; Abramis vimba’, паводле Фасмера (2, 462), звязаны з *лыска́рь* (бел. *луска́р)* ’рыдлёўка’, таму што нос у гэтай рыбы выступае наперад; аналагічна новав.-ням. *Näsling, Meernase* (дзе *Nase* ’нос’).

**Луснец** ’смалёўка, ляскаўка, Silene cucubalus Wib.’ (віц., Кіс.; Бел. зельн.). Славен. *lûsnec* ’таемнік лускаваты, Lathraea squamaria L.’ Да *лу́снуць* (<*лу́скаць*$_2$). Аб суфіксе *-ец* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 39—40). Гл. таксама *лускавіца*.

**Лусок** ’скура гадзюкі, ліновішча’ (воран., Сл. ПЗБ). Польск. *lusk* ’лупіна’. Да *луска* (гл.). Мена роду назоўніка як у прасл. *korъ — kora, kromъ — kroma* і інш. (Слаўскі, 5, 347).

**Луст**, *лу́ста, лу́стка, лу́стачка, лу́стычка* ’плоскі вялікі кавалак хлеба, сала і інш.’ (Нас., Чач., Мядзв., Гарэц., Яруш., Дразд., Шат., Бяльк., Растарг., Сцяшк., Клім., Вешт. дыс.; гродз., віц., Шн. 3; КЭС, лаг.; докш., Янк. Мат.; ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), ’ежа, якую бралі з сабой у поле’ (Сл. ПЗБ), ’харч у дарогу’ (навагр., Жыв. сл.). Укр. *лу́ста* ’луста’, ’кавалак’, ’тонкі пласт’, рус. *луст, лу́ста́, лу́стка* ’луста’, ’шалупінне’; польск. *łusta* (крэсовае, Віленшчына); серб.-харв. старое *lustra* ’луска’, серб. *лу̏стра* ’перхаць’, чак. ’луска рыбы’, дуброўн. *љу̏штра* ’тс’. Прасл. *lusta* ’луска, плява, шалупіна’, ’адрэзаная скібка’, ’кавалак’ (Слаўскі, 5, 363), якое да і.-е. **leu-* ’аддзяляць, адрываць, адразаць’>*louskā* ’тое, што аддзелена’ (параўн. літ. *lùstas* ’луста хлеба’ і *lùkstas* ’лупіна, лушпайка’, лат. *lauskas* ’перхаць’ (гэтак жа Буга, Rinkt., 1, 286—287, 413, 460; Бернекер, 748; Фасмер, 2, 536; Скок, 2, 340). Зубаты (ASlPh, 16, 397), бачыў генетычную роднасць *луста* з літ. *láužti* ’ламаць’, ст.-інд. *lōṣṭáh* ’абломак, грудка зямлі, скіба’ (як і Петэрсан, ASlPh, 34, 370—384), *rujáti* ’ломіць’, ст.-грэч. *ἀλυκτοπέδη* ’неразрыўныя сувязі’. Параўн. таксама і асец. *lux* ’адрэзаны’, *luxtä* ’тс’ *(мн.)*.

**Лусь!** — гук пры расколванні, ламанні чаго-небудзь (Нас., Растарг.; мсцісл., Нар. лекс.), паст. *лоп!* (Сл. ПЗБ), ’пра хруст яйка, пра біццё па галаве, па лбе (полац., Нар. лекс.). Гукапераймальнае. Прасл. *lusъ!* (Слаўскі, 5, 354—355; Смаль-Стоцкі, Приміт., 164). Аўтары БЕР (3, 523) дапускаюць другаснасць узнікнення выклічніка з прасл. *luskati*>*лу́скаць*$_2$ (гл.).

**Лу́ціць** ’біць’ (Рамз.). Да *лут*$_1$ (гл.) ’дубец’. Утворана, як *хвастаць*<$^+$*хваст* (параўн. укр. *хваст* ’зелле’, польск. *chwasty* ’тс’).

**Луцыпер** ’старшы нячысцік’ (Рам. 8). Да *люцыпар* (гл.).

**Лут**$_1$, *луток* ’маладая ліпа, сук з ліпы, парастак, лазовы дубец, з якіх можна зняць кару на лыкі’, *лу́цік, лу́цце* ’скрутак лыка’, ’маладыя гонкія ліпы’, ’кара ліпы’ (Сержп. Грам., Нас., Нік. Очерки, Мікуц., Мядзв., Маш., Янк. БП, Шат., Шн. 1, Шн. 2, Дразд., Гарэц., Бяльк., Касп., Сцяшк. Сл., Шатал., Дэмб. 2, Янк. 1, ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Ян.; КЭС, лаг.; рэч., Нар. сл.; маз., З нар. сл.), тураў. *лут* і «гіперправільнае» *лыт* (у гэтых гаворках звычайна *ы>у: мы́ла>му́ло*) ’тс’ (ТС), *луце́ц* ’закручаны лут’ (КЭС, лаг.), лях. *луток, лу́цік*, віл. *луце́ц* ’ручка ў касе’ (Сл. ПЗБ). Укр. *лут, лу́ття́* ’луцце’, закарп. *луті́на* ’дубец’, рус. *лут, луть* ’лыка, кара ліпы’, *лута́* ’ліпа’, *лутьё* ’маладыя ліпкі’, польск. *łęt* ’дубец’, *łęty*, каш. *łęta, łątë* ’бульбоўнік’, славін. *łąt* ’кій’, мар. *lut* ’лыка’, *loutka*, серб.-харв. *lȕtka* ’лялька’. Прасл. паўн. *lǫtъ, lǫta* ’лыка’, ’маладая ліпа’ (Слаўскі, 5, 116—117; Фасмер, 2, 536; Урбуціс, Etiudai, 15), роднаснымі да якіх з’яўляюцца літ. *lánta* ’венік для лазні’, *lentà* ’дошка (спачатку ліпавая)’, ст.-в.-ням. *linta, linda* ’ліпа’, новав.-ням. *lind* ’лыка’, лац. *lentus* ’гнуткі, павольны’, алб. *landë, lëndë* ’лес — будаўнічы матэрыял’. Сюды ж *лутовы* ’лыкавы’ (чэрв., Сл. ПЗБ). Гл. яшчэ *луці́ца*.

**Лут**$_2$, *лу́цік, лу́тка, лу́ткі* ’вушак, бакавы стаяк асады дзвярэй і акон’ (Касп., Бяльк., Растарг., Мядзв., Нар. Гом., Юрч. Вытв., Мат. Гом., Мат. Маг.; рас., талач., Шатал.), ’шырокая дошка ў ніжняй частцы аконнага праёма’ (Яшкін, Бел. лекс., 166). Укр. *лу́тка*, рус. бран., смал., кур., калуж. *лу́тка* ’вяршнік’, ’бакавая частка шufляды акна’. Да *лут*$_1$. Утварылася ў выніку пераносу значэння ’лут’>’друк’>’дошка’>’стаяк асады, вяршнік’ (параўн. паморск. *łąt* ’кій, друк’, літ. *lentà* ’дошка’. Гл. таксама *луці́ца*.



5. Зак. 1005

**Лут**$_3$ 'укормлены, але не тлусты чалавек' (полац., Нар. лекс.), *як лу́т* 'тоўсты, укормлены' (пух., Сл. ПЗБ; Ян.), 'гультай, лежань' (Дразд., Гарэц., ТС), *луця́ро* 'тс' (ТС), мазыр. *лу́цік* 'добра дагледжанае парася', *лу́тковуй* 'тлусты' (З нар. сл.); укр. харк. *луца́к, луца́н* 'таўстатвары чалавек'. Балтызм. Параўн. літ. *lùtis* 'тоўсты, на кароткіх нагах', 'няўклюда', паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 2, 690), яшчэ і 'ўкормлены'.

**Лутачок** 'адтуліна ў жорнах, адкуль сыплецца мука' (шкл., Мат. Маг.). З *латачок.* Да *латак*$_1$ (гл.).

**Лутня́** 'скрутак кары з адной лазіны або ліпкі', 'хлусня, няпраўда' (ТС). Да *лут*$_1$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 165).

**Лутовікі** 'лапці з луцця' (Нік. Очерки). Да *лут*$_1$ (гл.), *лутовы.*

***Лухава́ты,** драг. *луховатый, лухый* (Клім.). Да *глухі, глухава́ты.* Аб знікненні пачатковага *г-* гл. Карскі (1, 371—372).

**Лухта́** 'бязглуздзіца, недарэчнасць, глупства' (Нас., Гарэц., Дразд., Бяльк., Нар. Гом.), *лухта непадсяваная* 'бяссэнсіца', 'манюка, балбатун' (Юрч., Фраз. 2), *лухту малоць, лухту пароць* 'гаварыць недарэчнасць' (Яруш.), *лухці́ць* 'маніць', 'гаварыць бязглуздзіцу' (Нас.). Рус, смал., цвяр., краснаяр. *лу́хта, лухта́* 'бязглуздзіца, глупства'. Бел.-рус. ізалекса, магчыма, прасл. вузкі рэгіяналізм, утвораны ад *xlusiti,* у якім пачатковае *x-* адпала, а карэннае *-s-* нерэгулярна перайшло ў *-x-*. *Xlusiti* роднаснае са *sluxъ* (дыстантная метатэза). (Слаўскі, SP, 2, 41—42; ён жа, SP, 1, 70—71). Аб *xlusiti* гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 40.

**Лу́хта́н** 'лодар, гультай' (Ян.) і *лухта́нішчэ* 'таўстун' (ТС). Узніклі ў выніку кантамінацыі лексем *лухта* 'манюка, балбатун' і *муцян* (параўн. драг. *муте́н<мутя́н* 'тс'). Другой лексемай магла б быць і $^+$*луца́н,* параўн. укр. *дуца́н* 'таўстатвары мужчына', якое з *лут*$_1$ (гл.), і тураў. *луця́ро* 'гультай, лежань' (ТС).

**Лу́ху-лу́ху!** — пра шпаркую хадзьбу дробнымі крокамі (Крыў., Дзіс.). Гукапераймальнае.

**Лухчавіна** 'калдобіна', 'ямка, якую курыца выграбае на градах' (паст., Сл. ПЗБ). Да *лог, лагчаіна* (гл.).

**Лухчынка** 'далінка' (Федар., Дад.). Да *лагчына́* (гл.).

**Луціца** 'сасна з тонкай абалонкай, моцнае бервяно з якой мае тонкія валокны' (Маш.; лоеў., Мат. Гом.), 'лаза', 'драўніна без сучкоў' (Ян.). Укр. кіеўск. *луті́ця* 'малады слой дрэва, які знаходзіцца адразу пад карой', жытом. *луті́ця, луті́чина, лутичі́на* 'стрыжань сасны ці елкі', 'смалістая сасна або яліна' (ЛАПП). Да *лут*$_1$ (гл.).



**Луч**$_1$ 'лепш'<*лу́ччы* 'лепшы' (Рам. 1, Нар. Гом., ТС), *лу́ччай* 'лепш' (Жд. 1, Ян.), *лу́чча* 'тс' (Ян.), *лу́тчай* 'тс' (в.-дзв., Шатал.), *луччэй* 'тс' (Растарг.), *лу́ччы, луччэйшы* 'лепшы' (Бяльк., Растарг., Мат. Гом.; круп., Сл. ПЗБ), *лу́чшы(й), лу́ччый* 'тс', 'правы бок матэрыі' (шчуч., стол., даўг., Сл. ПЗБ), *лу́ччай* 'больш' (Ян.). Укр. *лу́чче, лу́ччий,* рус. *лу́чше, лу́чший,* ст.-рус. *лучии,* ст.-слав. **лоучии, лоучьши** — першапачаткова азначала 'які найбольш падыходзіць'. Да *лу́чыць* (гл.).

**Луч**$_2$, *мн. лучэ́* 'прамень' (гарад., Сл. ПЗБ; Яруш.). Укр. *луч* 'тс', рус. *луч* 'тс', 'лучына', 'паходня', 'агонь на носе лодкі' (арханг., пск., урал.), 'агонь на краі гумна пры малацьбе' (цвяр.), 'агонь у жыллі' (арханг.), 'колер', *луча́* 'лучына' (цвяр.), 'прамень' (вяц.); польск. *łuczywo,* н.-луж. *łucywo,* в.-луж. *łučwo, łučiwo,* чэш. *louč,* славац. *lúč* 'лучына', *lúče* 'прамяні', славен. *lúč* 'святло', ст.-славен. 'свечка', долен. 'лучына', серб.-харв. *лу̂ч* 'лучына', 'паходня', 'сасна', *лу̏ча* 'прамень', макед. *лач,* балг. *луч, луча* 'тс', 'зара', ц.-слав. *лучь* 'святло, бляск', *лоуча* 'прамень'. Прасл. *lučь<*lou̯k-is, luča<*lou̯ki̯a*<і.-е. **leuk-* 'свяціць' (параўн. ст.-прус. *lûckis* 'палена', літ. *laũkas* 'жывёла — Лыска або Зорка', 'поле' — аналагічна славен. *svet* 'поле'; ст.-інд. *loká-* 'прастор, святло', *rōkás* 'святло', *rōciṣ* 'бляск', авест. *raōčah-* 'святла', ст.-грэч. λευκός 'светлы, бліскучы', λύχνος 'зара', лац. *lūx* 'святло', *lūcus* 'святы гай', *lucerna* 'лятарня', ірл. *lóche* 'маланка', гоц. *liuhaþ* 'святло', ст.-в.-ням. *lōh* 'прасека', ст.-ісл. *log* 'полымя, святло' (Фасмер, 2, 537; Скок, 2, 323—324; Бязлай, 2, 154; БЕР, 3, 529—530; Шустэр-Шэўц, 11, 784—785).

**Луч**$_3$ 'пучок лучыны, вязка карчоў, якія паляць ў сетцы на носе лодкі, калі колюць рыбу васцямі ноччу' (полац., З нар. сл.), рус. арханг., пск., урал. *луч* 'агонь на носе лодкі'; параўн. таксама паўн. ст.-рус. *лучити* 'лавіць рыбу з падсвечваннем на спецыяльным прыстасаванні на носе лодкі' (XVII ст.). Да *луч*$_2$ (гл.).

**Лучаіна** 'лагчына' (лунін., Шатал.). Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *лука* і *лагчаіна* (гл.). Аб суфіксе *-іна* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 155—156).

**Луча́й** 'дзірка ў верхнім камені жорнаў для засыпкі збожжа' (свісл., Шатал., Сл. ПЗБ). Гл. *веча́й* 'тс'. Аб пратэтычным *л-* гл. Лучыц-Федарэц, Тыпалогія слав. моў і ўзаемадз. слав. літаратур//Тэзісы III Рэсп. канф. Мн., 1977, 198—200.

**Лу́чай** 'зараснік рагозу, Typha L.' (жытк., стол., Яшк.), *лу́ча́й, лу́чэй* 'рагознік вузкалісты, Typha angustifolia L.' (ТС). Ст.-польск. *łącz* 'гатунак асакі, Carex L.', ст.-чэш. *luč* 'нейкая расліна', славен. *lộč* 'сіт, Juncus L.', *lộček* 'асака', *ločje* 'рагоз'. ст.-рус. *лучие* 'збожжавыя', ц.-слав. лѫчиѥ 'асака'.

Прасл. *lǫčь (<lękti* 'гнуць, выгінаць', *lǫčiti>лучыць),* якому адпавядаюць лат. *lùocis* 'выгнутасць, загіб, закрут ракі' (Слаўскі, 5, 74). Аб суф. *-ай, -эй<-ějь* гл. Слаўскі (SP, 1, 86—87).

**Луча́к** 'радыус' (Дуж.-Душ.). Новатвор 20-х гадоў XX ст. Да *луча́ць*$_1$ (гл.).

**Луча́ць**$_1$ 'яднаць, злучаць, з'ядноўваць', славін. *łąčac* 'тс'. У іншых слав. мовах толькі ў прэфіксальных варыянтах. Да прасл. *lǫčati* — ітэратыў да *lǫčiti>лучыць*$_1$ (гл.).

**Луча́ць**$_2$ 'трапляць у цэль, падладжвацца' (Гарэц., ТСБМ, Янк. 2, Дразд., Нас. Сб., Юрч., Фраз. 3, Касп.; мсцісл., дзісн., КЭС), 'цэліцца, прыцэльвацца' (ТС), 'намервацца' (Сцяшк. Сл.), паст. 'штурхаць нагой', лаг. 'улоўліваць' (Сл. ПЗБ), *луча́ці* 'страляць з лука' (Ян,), *луча́цца* 'трапляцца, здарацца, мець месца' (Нас., Шат.; КЭС, лаг.), 'сватацца' (віл., Сл. ПЗБ), *лу́чна* 'трапна, у цэль', *лу́чны* 'трапны', 'шчаслівы, удачлівы' (Нас.). Да *лу́чыць* (гл.).

**Лу́чка**$_1$ 'каляровая фабрычная пража з воўны' (Уладз.), гродз. 'адзін з відаў посцілкі' (Мат. АС), *лу́чкі* 'ніткі' (мяккія, сучоныя, з воўны) (Ян.), 'мяккія і бліскучыя крамныя ніткі' (КЭС, лаг.), 'баваўняныя ніткі', в.-дзв., швянч. 'мулінэ' (Сл. ПЗБ), *лучковы, лычковы* 'баваўняны' (лід., пін., там жа), *лучковы* 'вытканы з нітак' (Ян.). З польск. *włóczka* (зах. і паўн.) 'грубая баваўняная пража', малапольск. 'спецыяльная чырвоная бавоўна на палоскі', маз., падляш. 'пража з воўны', *włóczysty* 'які мае добрае валакно'. Да *валачы́* (гл.).

**Лучкі** 'выгнутыя дугою тоўстыя пруты, замацаваныя адным канцом за верх ручкі воза, другім — у біле драбіны' (Маслен.), 'частка ярма (з маладзенькага дуба), выгнутая дугою' (Дзміт.), 'прыстасаванне з прутоў, якое служыць для замацавання вашчын у вуллях-калодах' (Анох., ТС). Да *лучок*$_1$, *лук*$_1$ (гл.).

**Лучковы** ў выразе *лучко́ва борона́* 'драўляная барана з дужкай наперадзе' (ТС). Да *лук*$_1$ (гл.).

**Лу́чнік** 'воін, узброены лукам' (ТСБМ). Да *лук*$_1$ (гл.).

**Лучнік**$_1$, *лу́чнік, лу́шнік* 'прыстасаванне для асвятлення хаты лучынай' (Эр. 8, Некр., Пятк., Шат., Янк. 1, Ян., Сцяшк., Бір. дыс., ТСБМ, Мат. Гом., Сл. ПЗБ; лун., Шатал.), 'прылада для асвятлення такоў, корчмаў' (КЭС, лаг.; глус., КЭС). Укр. *лучни́к,* рус. паўн. *лучни́к,* польск. *łuczniса* 'паходня'. Узнікла шляхам скарачэння лексемы *лучыннік* 'тс' (чэрв., Сл. ПЗБ), якая з *лучы́на* (гл.). У выніку пераносу значэння (звязанага з пасіўнасцю лучніка) з'явілася *лу́чнік* 'гультай' (петрык., Мат. Гом.). Да *луч*$_2$ (гл.).

**Лучнік**$_2$ 'частка млына' (мін., в. Сляпянка, КЭС). З-за не-



дахопу інфармацыі дакладна нельга аднесці да адпаведнага зыходнага слова. Відавочна, да *лучы́ць*$_1$ (гл.).

**Лучны́** 'які расце на луцэ' (віл., Сл. ПЗБ). Да *лука́* (гл.).

**Лучок**$_1$ 'намордьнік для цяляці' (ТС), 'вілачкі ля касы, якія падбіраюць пры касьбе скошаныя расліны (грэчку, віку, ячмень)' (Юрч., Сцяшк., ТС) — першапачаткова быў *лучок,* на які магло быць нацягнута палатно для адкідвання збожжавых (в.-дзв.; Шатал., Шат.), 'чаўнок для вязання сетак' (Дэмб. 2). Да *лук*$_1$ (гл.).

**Лучок**$_2$ 'лучка, лука, утвораная загібам ракі' (Бяльк.), 'невялікі залом, выступ берага ў малой рэчцы' (слаўг., Яшк.). Да *лука́* (гл.). Канчатак аформлены пад уплывам *лужок<луг* (гл.).

**Лу́ччыць** 'рабіцца лепшым, паляпшацца, рамантаваць', 'ачуньваць, папраўляцца' (Юрч.), *лучшэць* 'паляпшацца' (Нас.). Да *луч*$_1$ (гл.).

**Лучы́на** 'хваёвая трэска са смольнага пня, якой падпальвалі дровы, выкарыстоўвалі для асвятлення' (ТСБМ, Яруш., Янк. 1, Бяльк., Сцяшк., ТС, Ян.; пін., Шатал.; КЭС, лаг.; любан., міёр., Нар. словатв.), *лучы́ніца* 'тс' (Нар. Гом.), *лучы́ніна* 'тс' (ТС). Да *луч*$_2$ (гл.). Сюды ж *лучы́нка* — назва народнага бытавога танца (кап., Жыв. сл.), *лучы́ніца* 'тс' (Інстр. 3), *лучыннік* 'кош з лучыны' (пух., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.).

**Лу́чыста,** *лучы́ста* 'крыва, звілістa' (Гарэц., Дразд.). Да *лука́* (гл.).

**Лу́чыць** 'трапіць, пацэліць' (ТСБМ, Шат.; КЭС, лаг.; Сл. ПЗБ), 'трапіцца, надарыцца' (дзярж., Нар. сл.), 'натрапіць, сустрэць' (ТС; КЭС, лаг.). Укр. *лу́чити* 'цэліць, прыцэльвацца', рус. дан., сіб. *лучи́ть* 'здарацца, дапускаць', *лука́ть* 'кідаць штонебудзь', 'кідаць каменне з пращчы', уладз., сарат. 'трапляць у цэль'; у выразе: *коли́ бог лучи́т* 'як бог дасць', ст.-рус. *лучити* 'дасягаць чаго-небудзь', 'знаходзіць, сустракаць', 'даць'; *лучитися* 'здарацца, адбывацца', 'прыйсціся', ст.-польск. *łuczyć* 'лучыць', н.-луж. *(nad)łucyś se* 'здарацца', чэш. *lučiti* 'кінуць', славац. *lúčit'* 'тс'; славен. *lučiti* 'кідаць у цэль', серб.-харв. *lúčiti* 'знаходзіць, атрымліваць; сустракаць што-небудзь', макед. *лучи* 'кідае', балг. *луча* 'намерваюся, цэлю, дапускаю, трапляю ў цэль', ст.-слав. **лоучити** 'здарацца'. Прасл. *lučiti* 'цэліць, кідаць у цэль, трапіць'>'дасягаць, атрымліваць, сустракаць' (Слаўскі, 5, 283—285). Да і.-е. **leuk-* 'глядзець' (як і **leuk-* 'свяціць, блішчэць'). І.-е. адпаведнікі: літ. *láukti, lū̃čioti* 'чакаць', *suláukti* 'дачакацца, атрымаць', ст.-прус. *laukīt* 'шукаць', лат. *lūkât* 'глядзець, спрабаваць', *nùolūkât* 'азірацца, назіраць', *nùo-lūks* 'цэль', ст.-інд. *lókate* 'назірае', *lokáyati* 'бачыць, аглядае', *lōcanam* 'вока', кімр. *go-lwg*

'твар', *llygad* 'вока' (<**lukato-*), ст.-грэч. λεύσσω 'бачу, прымячаю'. Асноўнае значэнне і.-е. **leuk-* было 'глядзець', якое ў славян змянілася ў'глядзець вакол сябе'>'знаходзіць, дасягаць', у балтаў — 'глядзець вакол сябе'>'чакаць', 'шукаць' (Скок, 2, 324—325; Фасмер, 2, 538; Бязлай, 2, 155; БЕР, 3, 529—530; Шустар-Шэўц, 11, 784).

**Лучы́ць**₁ 'яднаць, злучаць' (ТСБМ), *лу́чыць* 'сябраваць' (смарг., Сцяшк. Сл.), *лучы́цца* 'злучацца, далучацца, прыставаць да кампаніі' (ТСБМ; КЭС, лаг.), 'сватацца' (віл., Сл. ПЗБ). Укр. *лу́чити, лучи́тися* 'тс', ст.-рус. *лучити* 'аддзяляць, расшчапляць', *лучитися* 'аддзяляцца; уцякаць, аддаляцца'; польск. łączyć 'злучаць, яднаць, кантактаваць', 'злучацца ў пары', каш. *łąčëc* 'тс', 'сутыкацца', *łǫčënë* 'заручыны', з XV ст. з'яўляецца значэнне 'аддзяляць, раздзяляць', сілез. 'развівацца, заставацца'; н.-луж. *łucyś* 'з'яднаць, звязваць', *łycyś se* 'здарацца', чэш. *loučiti* 'дзяліць, разлучаць', *loučiti se* 'пакідаць', славац. *lúčit'* 'аддзяляць'; славен. *lǫčiti (se)* 'тс', 'адрозніваца', 'раздвойвацца (аб дарозе)', серб.-харв. *лу́чити се* 'аддзяляць, адлучаць (цяля)', 'зганяць у адно месца, напр., свіней'; макед. *лачам* 'аддзяляю', 'адлучаю дзіцё ад грудзей', 'аддзяляць ад асадку', балг. *лъча́* 'тс', *лъча се* 'аддзяляцца, быць збоку, пазбягаць людзей', ст.-слав. **лѫчити** 'аддзяляць, раз'ядноўваць'. Прасл. *lǫčiti* 'гнуць, згінаць' — гэта значэнне часткова захавалася ў чэш. *lúčiti se* 'згінацца, хіліцца', славен. *lǫčiti* 'гнуцца', а пасля ў слав. гаворках адбылося развіццё значэння ў двух процілеглых кірунках: 'аддзяляць, раздзяляць'<—>'злучаць' (Слаўскі, 5, 77—79). Уплывалі на гэта і прэфіксы дзеяслова. З'яўляецца першасным ітэратывам да прасл. *lękti* 'гнуць, выгінаць, скрыўляць'. Адпавядаюць лексеме *лучыць* літ. *lankýti* 'наведваць', 'згінаць, схіляць', *lánkioti* 'абыходзіць', *lankúoti* 'гнуць, рабіць гнуткім', лат. *lùocît* 'нахіляць, накіроўваць' (Фасмер, 2, 537—538; Шустар-Шэўц, 11, 784; БЕР, 3, 565—566 з л-рай).

**Лучы́ць**₂ 'калоць рыбу ноччу васцямі пры святле пучка лучыны' (полац., З нар. сл.). Да *луч*₃ (гл.).

**Лушак** 'вушакі ў дзвярах' (усх.-палес., КЭС) — у выніку кантамінацыі лексем *вушак* і *лут*₂ (гл.).

**Лушая́,** *лушуя́* 'перхаць', 'каласковая луска аўса' (віл., глыб., Сл. ПЗБ; КЭС, лап.). У выніку кантамінацыі *луска* і (рус.) **чешуя́.*

**Лу́шка** 'ручка касы' (ДАБМ, к. 260). У выніку кантамінацыі *лучок* і *ручка* (гл.).

**Лушня́к** 'вушак у дзвярах, бакавая дошка шуфляды вакон' (парыц., Янк. Мат.; калінк., Нар. сл., жлоб., Мат. Гом.) — кантамінаванае ўтварэнне з *лут*₂ і *вушня́к* (гл.).



**Лушпа́** 'грэцкія высеўкі (пасля прасейвання)' (навагр., Жыв. сл.), лун., стол. *лу́шпа* 'шалупайка яйка' (ЛАПП). Укр. *лушпа́* 'тс', 'шалупіны, шалупайкі, скурка', 'луска рыбы', макед. *лушпа* 'тс', балг. *лу́шпа* 'шалупайка яйка' — з экспрэсіўнай заменай *с>ш*. Але амаль усе слав. мовы маюць формы, якія адпавядаюць прасл. *luspa*: бел. *лушпі́на, лушпі́ны, лушпі́нне, лушпэ́нэ* 'лупіна, лупіны' (ТСБМ; лях., Янк. Мат.; Вешт. дыс., Сцяшк., Сл. ПЗБ), укр. *лу́спа, луспа́, лушпи́на, лушпе́на*, рус. *луспа́*, паўд., разан. *лушпи́на, лушпайка*, ст.-рус. *луспа*, польск. *łuspina*, серб.-харв. *љу̏спа, лушпи̏на*, макед. *луспа, lúspit'ą, лю́спа, лушпа*, балг. *лу́спа, луспъ, луспи, люспа, люспъ*, ц.-слав. *луспа*. Прасл. *luspa (<lou-sp-a<*і.-е. **leu-)>luspina* 'покрыва пладоў, насення', 'лупіна', 'луска', 'шалупайка' (Слаўскі, 5, 361—363; БЕР, 3, 523—524, 531—532; Фасмер, 2, 535—536, 538; Куркіна, Этимология-82, 68—73). Сюды ж пін. *лушпаві́на* (Нар. лекс.), *лушпа́і* (Жд. 1), *лушпа́іна* (ТС), нараўл. *лупша́йкі* (Мат. Гом.), *лушпа́йка, -кі, лушупа́йка* (ТСБМ, Уладз., Вешт. дыс., Некр., Сцяшк.; шкл., Мат. Маг., Янк. 1), *лушупа́йкі* (ТС; браг., Нар. словатв.), *лушпа́ўка* (пін., Нар. лекс.), *лушпая́* 'тс' (ТС).

**Лушпе́кы** 'лупіны сланечніка, гарбуза і да т. п.' (малар., Нар. лекс.). Да *лушпа́* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 37), як *лупе́ка* 'тс' (Нас.).

**Лушчавіны** 'шалупінне ад струка бабовых' (карэліц., навагр., іўе., Сл. ПЗБ, Сцяшк.). Да *лу́шчыць* (гл.). Утварэнне гл. *лупавіны.*

**Лушча́к** 'слюда' (ТСБМ). Да *лу́шчыць* (гл.). Параўн. аналагічнае ўтварэнне ўкр. *лупа́к*, бел. *лупня́к* 'сланец'. Такім жа чынам утворана лексема *лушчак* 'лузан' (рэч., Мат. Гом.; лаг., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), як і ўкр. *лущак*, польск. *łuszczak*, макед. *лушна́к*, балг. *лушта́к, луштна́к*, для якіх Слаўскі (5, 365) выводзіць прасл. дыял. *luščakъ* 'лузан'.

**Лушчайіна** 'лагчына, даліна' (парыц., Янк. Мат.), параўн. слуц. *лагчаі́на* (Сл. ПЗБ). Да *лагчы́на* (гл.)<*лог*<прасл. *logъ>lož-ьkъ.*

**Лушчане́ц** 'спелы арэх' (іўеў., Сцяшк. Сл.; Сл. ПЗБ). Да *лу́шчыць* (гл.). Суфікс *-ец*, як у *лузане́ц<лузáн* (гл.).

**Лушчапіны** 'лупіны' (бераст., Сцяшк. Сл.), 'адходы ад палання круп' (маст., Сл. ПЗБ) — у выніку кантамінацыі *лу́шчавіны* і *лупі́ны* (гл.).

**Лушчонік** 'лушчаны арэх' (кліч., Жыв. сл.; лаг., Шатал.). Да *лу́шчыць* (гл.). Аб суфіксе *-онік* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 61—62).

**Лу́шчык**₁ 'лён-скакунец, самасейны лён, семя якога высыпалі ў купальскую ноч на магілу, каб выклікаць дождж' (Уладз.; драг., КЭС). Да *лу́шчыць* (гл.). Матывацыя: лён адразу ж

вылушчваўся, як толькі трохі паспяваў. Аналагічна ўтвораны *лушчык* 'лузан' (ТС, віл., Сл. ПЗБ), а таксама *лу́шчыкі* 'расколатыя пруты, з якіх плялі кашы' (паст., Сл. ПЗБ).

**Лушчыны́** 'лупіны' (бераст., Сцяшк. Сл.). Утворанае па аналогіі да *лупі́ны* ад *лу́шчыць* (гл.).

**Лу́шчыць** 'ачышчаць ад шалупін, якой-небудзь абалонкі', 'узорваць цаліну, аблог', 'разгрызаючы, ачышчаць ад шалупін і есці', 'расколваць, біць' (ТСБМ, Гарэц., Яруш., Шат., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Ян.; КЭС, лаг.), *лушчэць* 'шастаць, шалясцець (аб саяне)' (Ант.), *лушчы́ць* 'шамацець паперай' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Укр. *лу́щити*, рус. *лу́щить*, польск. *łuszczyć*, н.-луж. *łušćiś*, в.-луж. *łušćić*, чэш *luštiti*, славац. *lúštiť*, славен. *luščíti*, серб.-харв. *љу́штити, љушти̑т, luštiti, lušćiti*, макед. *луштам, луш'там*, балг. *лу́щя, лу́штя, лу́штѐм, люшт'ъ*. Прасл. *luščiti* 'лушчыць', 'знімаць верхняе покрыва' ўтворана ад *luska*>*луска* (гл.), як *ласка* — *лашчыць* (Слаўскі, 5, 367—370; Фасмер, 2, 538; Бязлай, 2, 257; БЕР, 3, 533—534 з л-рай).

**Лушчэннік** 'пястун' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Відавочна, скарочаная форма з польск. *łuszczybochenek* 'дармаед, гультай' (Слаўскі, 5, 367), пры ад'ідэацыі *лашчыць*.

**Лы́базіць** 'есці павольна, не адчуваючы смаку, перабіраючы, нехаця' (Бір. Дзярж.). Укр. уманск. *ли́бати* 'паволі плесціся', бойк. 'неахвотна пасціся', 'глытаць', балг. хаскаўск. *либам* 'капрызна, неахвотна есці' і г. д.— гл. *лы́баць*.

**Лы́баць** 'многа, прагна піць, жлукціць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), балг. паўн.-зах. *ли́бам* 'хутка і прагна сёрбаць лыжкай', зах. 'усхліпваць', серб.-харв. чарнаг. *ли̏бати* 'калыхацца', 'хваляваца', чэш. *libotat' sa* і *lybotat' sa* 'дрыжаць (аб лістах дрэва)', славац. *libačka* 'бліскаўка', н.-луж. *libotaś se*, в.-луж. *libotać so* 'дрыжаць (аб лістах асіны)'. Гукапераймальнае, роднаснае да рус. *хлипать* (Фасмер, 4, 244; Скок, 2, 292; БЕР, 3, 386—387).

**Лы́барыць** 'хлусіць, плесці нешта незразумелае, неверагоднае' (мядз., Нар. словатв.). Няясна. Відавочна, адносіцца да экспрэсіўных ці гукапераймальных слоў з коранем **lab-/*leb-* (гл. Покарны, 651, 655—657).

**Лы́біла** 'даўгавязая няўклюдная жанчына', 'лытка', 'прыстасаванне для лоўлі ракаў' (Бяльк.). Да прасл. *libъ*> *любівы* (гл.), параўн. таксама каш. *lëbi* 'празмерна высокі', ст.-польск. *luby* 'шчуплы', ст.-чэш. *libí* 'нятлусты', літ. *líebas* 'хваравіты, тонкі, худы, з тонкімі нагамі'. Гл. яшчэ *лі́біла, лынды*.

**Лы́біцца** 'ухмыляцца' (мін., Сл. ПЗБ), 'усміхацца' (шчуч., Нар. лекс.). Відавочна, запазычанне з рус. *лы́биться*, якое Трубачоў звязвае роднаснымі *лоб*, ст.-рус. *лъбъ* 'лоб', наўг.



*лы́бонь* 'верхняя частка галавы жывёлы', дзе назіраецца падаўжэнне вакалізму *ъ*>*ы* (гл. Фасмер, 2, 539).

**Лывірка** 'вавёрка' (Клім., Інстр. 2), укр. зах.-закарпацк. *ловы́рка, ловы́р'ка* (Бел.-укр. ізал., 36). Дзендзялеўскі (SSlav, 12, 276) прычынай узнікнення такой формы бачыць народную этымалогію — пад уплывам дзеяслова *лові́ти* 'лавіць'. Малаімаверна. Можна бачыць разуменне носьбітамі гаворак пачатковага *в-* як прыстаўнога, які праз *й-* перайшоў у *л-*: *вавёрка* — *авёрка* — *ёрка* — *евюрка* — *лывірка*, аналагічна *рэха* — [*эха*] — *яхо* — *ляха*. Гл. яшчэ *лы́мя*.

**Лыга**₁ 'лгун, брахун' (гародокск., Нар. лекс.), 'п'яніца, дармаед, бывалы чалавек' (Федар. 4), *лыга́ч, лы́гма, лыгу́н, лыгма́р* 'ілгун' (шчуч., Сл. ПЗБ; Сцяшк.; Сцяшк. Сл.; паўн.-зах., КЭС), 'памаўза, шкоднік' (ТС), *лыгаць* 'ілгаць' (лід., карэліц., Сл. ПЗБ), 'маніць, гаварыць няпраўду' (Сцяшк.), *лы́жы* 'хлуслівы' (шчуч., Сл. ПЗБ). Рус. *лы́га, лыга́н* 'манюка', ст.-рус. *лыжа* 'памылковая звестка' (пач. XVII ст.), рус. *лыга́ть*, польск. *łygać*, каш. *ləgác*, славац. *lyhať* 'тс', ц.-слав. *облыгати* 'абчарняць'. Прасл. *lygati* — ітэратыў з падаўжэннем вакалізму кораня ад *lъgati*>*ілга́ць* (гл.).

**Лыга**₂ ў выразе *лыгу даць* 'уцячы' (Грыг.), 'лытка' (петрык., Мат. Гом.), 'нага' (капыл., Жыв. сл.; карэліц., Сцяшк. Сл.), *лыгі* 'ногі' (навагр., Нар. словатв.), *лы́гі* 'тс' (ТС), 'доўгія ногі' (Бір. Дзярж.), *лы́гі* 'тоўстыя ногі' (Шат.), 'доўгія, тонкія ногі' (Янк. 3; клец., Нар. лекс.), *лы́гаць* 'павольна ісці' (ТС), 'бадзяцца', 'дарэмна траціць час' (Шпіл.), *лы́гацца* 'часта хадзіць або ездзіць туды-сюды' (стаўб., Нар. сл.), Рус. пск., цвяр. *лыку даць* 'уцячы', укр. *ли́ги дати* 'пабегчы', *лигону́ти* 'спешна пабегчы', рус. уладз., валаг. *лыды* 'доўгія ногі', варон. 'ногі', урал., перм. *лыдка* — 'даўганогі чалавек', польск. *łyda*<*łydka* 'лытка', славац. *lida* 'сцягно'. Паўн.-слав. *lyda* (Слаўскі, 5, 388) з менай *д*>*г* пад уплывам лексемы *нага́*. З прычыны экспрэсіўнасці ў некаторых гаворках *г*>*ґ*. Да *лы́тка* (гл.). Сюды ж *лыгнуць* 'выцяць, сцебануць' (Бяльк.).

**Лы́га**₃ 'віка' (Жд. 1, Касп., Сл. Эп.-Шып.; маладз., Шчарб.; зэльв., Жыв. сл.), 'сумесь вікі і гароху, пасеяныя на корм жывёле' (Сцяшк. Сл.). Польск. радзынск., падляш. *łyga* 'дзікі гарошак', люблінск. *łužyšýńi* 'парасткі гароху'. З *віка*> *вы́ка*>*выґа*>*łyga*>*лыга*.

**Лыга́ць** 'глытаць' (Сцяшк.; свісл., Шатал.; Нар. Гом.), *лыґа́ць* 'тс', *лыгну́ць* 'глынуць' (свісл., беласт., Сл. ПЗБ), 'прагна выпіць' (Ян.), *лыґнуць, лыгену́ць* 'грызнуць', *лыгам* 'залпам' (Сцяшк. Сл.), *лы́гаць* 'хутка, спяшаючыся есці' (Бяльк.), 'есці (пра гусей)' (Сцяц.), 'хлябтаць, лыкаць' (ТС). Укр. *лига́ти* 'прагна піць, есці', *лигону́ти* 'хлябтаць вялікімі глыткамі', *лигнути* 'тс', 'жэрці'; польск. *łygać* 'глытаць' (павод-

ле Слаўскага, 5, 392 — запазычанне з укр. мовы), чэш. мар. *łygat'*, славац. *ligac* 'тс'. Прасл. паўн. *lygati,* якое з'яўляецца варыянтам прасл. *lykati* — ітэратыва да *lъkati, lъknǫti*>*лкаць* (гл.).

**Лыгаць**$_2$ 'нанізваць што-небудзь на шнурок, дрот' (ТСБМ), 'браць на повад (карову, вала), начэпліваць вяроўку на шыю жывёле' (ТСБМ, Сцяшк. Сл.; мазыр., З нар. сл.), *лыгво* 'налыгач на шыі вала' (ельск., КЭС), 'вяроўка, на якую бяруць карову' (мазыр., З нар. сл.). Укр. *лигáти* 'накідваць вяроўку на рогі вала', *полúгатися* 'сыйсціся', *залигáти* 'завязваць, зблытваць', рус. сарат. *лигозúть* 'блытаць ніткі пры тканні'. Генетычна роднаснае да літ. *laigõnas* 'швагер', ст.-грэч. *λοιγωντίαν φρατρίαν* (Гесіхій), а таксама з польск. *liga* 'вяроўка, шнур, якім абшываецца край ветразя (у плытагонаў)', якое запазычана з н-ням. *līk* (гальштынск. *liek,* гал. *lijk* 'тс') — гл. Слаўскі, 4, 250. Да і.-е. **lieg-*//**leiĝ-*, параўн. лац. *ligāre* 'звязваць, прывязваць', алб. *lith* 'перавязваю', с.-н.-ням. *līk* 'павязка', ст.-ісл. *lík* 'ліна для ўмацоўвання грузаў' (Бернекер, 1, 717; Фасмер, 2, 494; Трубачоў, Праспект, 59).

**Лыгмáніць** 'маніць, дурыць, абдурваць' (пруж., Нар. словатв.), 'нагаворваць, паклёпнічаць' (карэліц., Шатал.). Да *лыга*$_1$. Утворана ад $^{+}$*лыгман* 'манюка'. Аб суфіксе *-ман* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 54).

**Лыгоўка** 'луг для мыцця бялізны' (Шат.). Відаць, да *луг*$_3$ (з пераходам *у*>*ы*), аднак, беручы пад увагу балг., банацк. *лúга* 'адцэджаная вада з хатняга мыла', можна дапусціць сувязь бел. лексемы таксама і з польск. варш. *ligać się* 'слізгацца', серб.-харв. *ligùrati* 'ездзіць на санках', макед. *лизга се* 'коўзацца', *лизгач* 'канькабежац', *лига* і балг. *лига* 'сліна', 'слізь', якія да прасл. *liga*<і.-е. *(*s*)*lei-g-* 'слізкі, ліпкі' (БЕР, 3, 392—393; Слаўскі, 4, 250; Бязлай, 2, 139—140).

**Лы́жбы** 'лыжы' (Сцяшк.), *лы́жвы* 'тс' (зэльв., Сцяц. Словаўтв.; ТС), укр. *лúжва* 'лыжа', рус. *лы́жва* 'судна на Дняпры, Бугу, Прыпяці' (Даль), польск. *łyżwa, łyżwy* і *łyżba* 'лыжы', 'палоззе ў санях', 'вузкія, жалезныя палазы для каўзання на лёдзе', ст.-польск. *łyżwy* 'пантоны', тыкацінск. 'судна для перавозкі збожжа' — да прасл. паўн. *lyži, lyžьve*>*лы́жы* (гл.).

**Лыжка,** *ложка* 'прадмет сталовага прыбора для зачэрпвання рэдкай або рассыпістай ежы' (Яруш., Гарэц., Касп., Сцяшк., Анох., ТСБМ, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.). Укр. *ложка, лúжка, лúшка, лúжґа,* рус. *ложка,* кастр. *лы́жка,* ст.-рус. *лъжька, ложька;* польск. *łyżka, łyška, łyjška, łyška, łóška, łuška, leška,* каш. *lěška, łiška,* ст.-н.-луж. *łežka,* чэш. *lyžka, łežka,* славац. *lyžka, liška,* усх. *ložka.* Прасл. паўн. *lъžьka* 'лыжка' (Слаўскі, 5, 441—445), якая першапачаткова рабілася з дрэва,



з кары; гэта дэмінутыўнае ўтварэнне ад **lъga,* і.-е. адпаведнікам якога з'яўляюцца алб. *lugë* 'тс', усх.-асец. *aligd* 'надрэз', *aligdin* 'надразаць', ст.-інд. *rujati* 'ламае'. Аналагічна англ. *spón* 'лыжка'∼ст.-в.-ням. *spân* 'трэска', ст.-ісл. *spánn* 'лыжка, трэска', швед., дац. *sked* 'лыжка'∼ст.-в.-ням. *sceidôn* 'расколваць'. Іншыя менш імаверныя версіі гл. Слаўскі (5, 444—445); Фасмер (2, 511—512), Махэк$_2$ (346), Скок (3, 683), Трубачоў (Ремесл. терм., 169—170). Карскі (1, 149; Труды, 501) мяркуе, што бел. *лы́жка* — паланізм. Сюды ж *лы́жачнік* 'майстар, які робіць лыжкі' (ТСБМ), *лы́жачка* 'дыхавіца' (ТСБМ; КЭС, лаг.) — у выніку пераносу значэння паводле падабенства (упадзіна ў грудной клетцы).

**Лыжок** 'частка сахі, якая служыць для ўмацавання канструкцыі' (маз., Смул.). Да *лыгаць*$_2$. Суфікс паводле *віжок* (гл.).

**Лы́жы** 'плоскія драўляныя палазы для перасоўвання па снезе, загнутыя спераду' (ТСБМ, Маш., Бяльк.; зэльв., Сцяц. Словаўтв.; Сцяшк.), рус. *лы́жи,* ст.-рус. *лыжи* (XII ст.); параўн. бел. *лы́жвы* (гл.). Прасл. паўн. *lyži, lyžьve* 'прыстасаванне для хуткага перасоўвання па снезе або лёдзе', 'палазы', 'прадаўгаватыя прадметы: судна, баржа і інш.' Паводле Фасмера (2, 540), звязана з рус. *лызгáть* 'слізгаць па лёдзе', *лызнýть, лызгонýть* 'вышмыгнуць', балг. *лъзгам се* 'катаюся на каньках', а Слаўскі (5, 448) дадае і каш. *łužgi, łužgawki,* для якіх першаснымі лічыць *łyzga, łyzgawka* або *łuzga, łuzgawka.* Звычайна да іх прыводзяць і.-е. адпаведнікі: лат. *lužas, ludes, luģeš* доўгія паляўнічыя лыжы', літ. *šliū̃žes* 'палазы', *šliaũžti* 'паўзці', лат. *šlũžât* 'слізгаць', гал. *sluiken* 'красціся'. Куркіна (Этимология-72, 72), прызнаючы роднасць лексемы *lyži* з *lyzgati,* выключае супастаўленне яе з балтыйскімі лексемамі. Гл. таксама ZfSl, 8, 877. Сюды ж *лы́жнік, лы́жніца, лыжня́* (ТСБМ), якія з рус. мовы (хаця параўн. яшчэ ст.-рус. *лыжникъ* 'воін на лыжах'; *лыжница, лыжня* 'след ад палазоў, лыжня'.

**Лы́заўка** 'род свердла' (Грыг.). Да *лізаўка*$_1$ (гл.)<*лезіва*<*лязо* (гл.).

**Лызбáн** 'неслух, упарты чалавек' (гор., Мат. Маг.). Відавочна, запазычана з польск. *łycbań* 'бадзяга, гультай' або было ўтворана ад дзеяслова **лызбаніць,* які з малапольск. *иуzbańić śe* 'гультаяваць, марнаваць час'<*łycoń, łycåk*<*łycać* 'скакаць, падскокваць', як *тарабаніць* 'валачы' (Слаўскі, 5, 382 і 383).

**Лы́зіцца** *(асудж.)* 'усміхацца, ухмыляцца' (Нар. Гом.), ст.-чэш. *lyziti sě* 'ўсміхацца, смяяцца', *ulyzati sě, ulyznúti sě* 'тс'. Да асноў *luzg-/lyzg-/lusk-/lysk-/lusp-* (гл. Куркіна, Этимология-72, 68—73).

**Лызню́ха** 'птушка курка' (пін., КЭС). Да *лазну́ха* (гл.).

**Лызь-мызь** 'трохі, лізь-мазь' (Бяльк.). Да *лiза́ць* (гл.); *мызь* (ад *мазь!*) мае канчатак *-ызь* па аналогіі да першай часткі.

**Лык**₁ 'лік' (Булг.) з тыповым для цэнтральнага Палесся пераходам *і>ы*. Да *лік* (гл.).

**Лык**₂ 'глыток' (Нас., Гарэц., Дразд.; трок., Сл. ПЗБ), *лык-лык-лык* 'пра піццё нагбом' (мсцісл., Нар. лекс.), *лык-лык* — перадача гуку пры глытанні (трок., шальч., Сл. ПЗБ), *лыку* і *лыку (гарэлачку)* — пра папіванне гарэлкі (Нас.). Укр. *лик,* польск. *łyk,* серб.-харв. чарнагорск. *lik* 'імгненне, момант'. Аддзеяслоўныя ўтварэнні. Да *лы́кацъ* (гл.). Параўн. таксама драг. *клыка́тэ* 'глытаць'. Кюнэ (74) памылкова адносіць лексему *лык* да ліку запазычанняў з польск. мовы.

**Лык**₃ 'палоска лубу з карой' (брасл., Сл. ПЗБ). Да *лыка* (гл.).

**Лы́ка**₁, *лыко, лэ́ко, лы́чка* 'луб з карой маладых, лісцевых дрэў (ліпы, лазы), з якога плялі лапці', 'вязка, нізка' (ТСБМ, Шат., Бес., Яруш., Бяльк., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), *лы́кі* 'скруткі лыка' (Касп.). Укр. *ли́ко,* рус. *лы́ко, лы́ка* (ж. род), польск. *łyko* 'тс', *łyka* 'путы, няволя', н.-, в.- луж. *łyko, łyka* 'лыка', чэш. *lýko* 'тс', 'вяроўка з лыка', славац. *lyko,* славен. *líko, lîčje,* серб.-харв. *лйка,* устар. *лйко,* макед. *лико, лика,* балг. *ли́ко, лика́* 'тс', 'вяроўка з лыка', 'канапляная, шаўковая нітка'; рус. разан. *лы́ко* і макед. радопск. *лика* 'ліпа'. Прасл. *lyko* 'ўнутраны слой кары з маладых дрэў (ліпы)' (Слаўскі, 5, 401—405 з аглядам л-ры). З і.-е. паралелей захаваліся толькі балт. з другасным *-n-*: літ. *lùnkas,* лат. *lûks* 'лыка', ст.-прус. *lunkan* 'тс' і, паводле некаторых этымолагаў (гл. Фасмер, 2, 540—541), таксама ст.-інд. *lúñcati* 'рве, лушчыць, здзірае, лупіць', ст.-в.-ням. *lō* (род. склон *lōwes)* 'мяздра, лыка', — усе да і.-е. *lū-k-o<*leuk-* 'светлы' (Трубачоў, Ремесл. терм., 164—166). Сюды ж *лы-чышнік* 'лычнік, які дзярэ лыкі на продаж' (Бяльк.). Гл. таксама Скок (2, 301), Шустар-Шэўц, 11, 783; Бязлай, 2, 141; БЕР, 3, 400.

**Лы́ка**₂ ў выразе: *лыка ты сьвіноя* (Шат.). Да *лыч*₂ (гл.).

**Лы́ка** *воўчае* 'ваўчаягада звычайная, Daphne mezereum L.' (віц., барыс., мін., Кіс.). Укр. *лико вовче,* польск. *wilcze łyko,* н.-луж. *w'elkowe łyko,* чэш. *vlčí lýko,* серб.-харв. *лико ву̏чје,* балг. *диво лико* 'тс', славен. *volčja lika* 'бружмель лясны'. Прасл. *vľčje lyko* 'ваўчаягада звычайная'. Аналагічна ням. *Wolfsbast* 'тс' (Слаўскі, 5, 404; Махэк, Jména, 152).

***Лыкава́ты,** *лыкова́тый* 'нятлусты (пра сала, мяса)' (лун., Шатал.). Да *лы́ка*₁. Матывацыя: 'валакністы, жылісты, падобны цвёрдасцю да лыка', як тураў. *лыкова́ты* 'мачалісты'.



**Лыка́вы конь** — які грызе жолаб ці жэрдкі, калі ў яго арганізме адсутнічаюць некаторыя вітаміны і мікраэлементы' (шальч., Сл. ПЗБ). Польск. *łykawy* (аб жывёлах) 'які ўпускае шмат паветра ў стрававод і, сілячыся, не можа глытаць траву', мар. *glgavy hřibě* 'лыкавае жарабя'. Магчыма, паланізм. Да *лы́кацъ* 'глытаць'.

**Лыкаўе́ц** 'месца ў полі, дзе дзяруць лыкі' (Бяльк.). Да *лыка*₁ (гл.). Першапачаткова гэта лексема азначала 'ліпа', таму *лыкаўец* — 'ліпняк' (Сцяцко, Афікс., наз., 101).

**Лыкаўка**₁ 'лясная птушка, якая выдае гук «лык-лык»' (Гарэц.). Гукапераймальнае.

**Лыкаўка**₂ 'ключыца' ў сказе: *Схуднеў, што аж лыкаўкі выперліся* (Бяльк.). Няясна. Параўн. польск. *łykawka* 'кадык', якое з *łykawy* 'які глытае'.

**Лы́кацъ** 'піць што-небудзь шумнымі глыткамі', 'хлябтаць', 'прагна піць' (Яруш., Нас., Гарэц., Касп., Сцяшк., ТСБМ; КЭС, лаг.), *лыка́ць* 'тс' (Сцяшк.), *лы́каті* 'тс' (Бес.). Укр. *ли́кати, лика́ти,* рус. смал. *лы́кать,* польск. *łykać, łəkac* і прэфіксальныя формы, чэш. *-lykati,* ляш. *łykač,* славен. *lîkati* 'тс'. Прасл. *lykati* — ітэратыў да *lъknǫti, lъkati* (Слаўскі, 5, 396—398; Скок, 2, 299). Гл. таксама *лкаць.*

**Лыкта́ць** 'хлябтаць па-сабачаму' (Грыг.). Да *лактацъ* (гл.).

**Лы́кус** 'п'яніца' (Нас.). Да *лыкацъ* (гл.). Аб суфіксе *-ус* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 70).

**Лыла** 'вялізны неахайны чалавек' (Касп.). Балтызм. Параўн. лат. *liels,* латгальск. *lels* 'вялікі, высокі' (Блесэ, 5, 15). Аднак Слаўскі (5, 406) адносіць бел. слова (якое паслужыла крыніцай для польск. *łyła* 'нязграбны, неабчэсаны чалавек') да экспрэсіўных, параўноўваючы яго з чэш. (у Юнгмана) *laula* 'ёлуп, неабчэсаны чалавек', лат. *ļūla* 'дурыла, расцяжпа', літ. *liūlỹs* 'непаваротлівы, нязграбны, няўклюда' (~літ. *liūliúoti* 'люляць').

**Лы́льіцца** 'несці выліўкі (аб курыцы)' (Растарг.) з [*й*]*іль-ліцца,* у якім [*й*]-прыстаўны замяніўся на *л-,* пасля яго *і>ы* (як, напрыклад, *сыграць)<льлі́цца* 'тс', у якім *-л-* таксама з *й,* параўн. *ён лье* [*л'йе*] — драг. *льле́* 'лье'. Да *ліцъ* (гл.).

**Лымаковы** ў выразе: *лыка лымакове* 'лыка; якім апаясваюць каравай, калі ён падрасце на стале' (Сцеп.). Няясна. Магчыма, да *лі́мах* (гл.), г. зн. лыка, якое не нясе функцыянальнай нагрузкі.

**Лымасыва́ць** 'біць' (Бяльк.). Відавочна, з пачатковага **гламасавацъ,* якое можна было б лічыць балтызмам — параўн. літ. *lámžyti, glámžyti* 'мяць, прыціскаць'. Гл. яшчэ *гламаздá.*

**Лы́мя** 'вымя' (Сцяшк., Інстр. III). Да *вымя* (гл.). Мена *в>л,* як у *лыві́рка* (гл.).

**Лында**$_1$ 'неахайная, гультаяватая асоба' (брэсц., Нар. лекс.), 'пасялуха', 'дарослая, але не сур'ёзная дзяўчына' (касцюк., Мат. Маг.), 'гультай' (смарг., Сцяшк. Сл.), 'валацуга, абібок' (пін., Нар. лекс.; ігн., шчуч., Сл. ПЗБ), *лындýля, лындýлька, лындýліна, лындýлішча* 'гультай' (Юрч. Вытв.), а таксама *лы́нда* 'дзяўчына-падлетак на высокіх нагах' (КЭС, лаг.), *лы́нды,* в.-дзв. *лы́нты,* шальч. 'лыткі', шальч., воран., даўг. 'калені' (Сл. ПЗБ), навагр., слонім., брасл. 'ногі' (Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'тоўстыя ногі' (гродз., Мат. Ас) у выразе: *лынды біць* 'гультаяваць, бадзяцца без справы, займацца непатрэбнай работай' (Некр., Янк. БП і БФ, ТСБМ, Шат., Касп., ТС, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; бялын., Янк. Мат.), *лынды збіваць* 'тс' (Гарэц., Дразд., Сл. ПЗБ) — да *лы́ндаць* (гл.).

**Лында**$_2$ 'страва з бульбы і льнянога семя' (петрык., Мат. Гом.). Рус. белам., арханг., кольск. *ли́нда* 'мучная поліўка з рыбы або аленіны', алан. *ли́ндушка* 'вадкая каша з проса і грэчкі'. З карэльск. *linda* 'поліўка', фін. *linta* 'тс' (Каліма, 152; Фасмер, 2, 498).

**Лында**$_3$ 'вузкая палоска зямлі, загон' (шчуч., З нар. сл.; воран. Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, з *лéнта* 'стружка', параўн. рус. валаг. *лéнда, лéнта* 'палоска хваёвага лубу' — так, як шнур 'адзінка вымярэння даўжыні' стаў абазначаць плошчу. Пра лыка як мерку гл. Скурат (Меры, 21—22). Аднак не выключана, што *лында*$_3$ звязана з *лында*$_1$ 'нага'— у якасці меры ўжываліся і іншыя назвы цела чалавека: *галоўка, лантух, пядзь, лытка*$_2$ (гл.). Пасля, калі носьбітамі мовы забылася ўнутраная форма слова, мера перайшла на прадмет, паняцце, для вымярэння якога яна служыла.

**Лындаўка** 'карусель (на лёдзе)' (малар., Жыв. сл.). Да *лы́ндаць* (гл.) 'праводзіць час, не працуючы (а адпачываючы, забаўляючыся)'.

**Лындаць** (рас., паст. *лынтаць* 'хадзіць, швэндацца без справы, бяздзейнічаць, бадзяцца' (ТСБМ, Бір. Дзярж., Грыг., Янк. 3, Мат. Гом., ТС; маладз., бялын., докш., Янк. Мат.; міёр., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ), 'шпарка хадзіць, шырока ступаючы' (КЭС, лаг.); *лындавáць, лындáчыць, лы́ндаць* 'ленавацца' (Сцяшк. Сл.), польск. *łyndać się,* рус. *лындать,* разан. *лындовать.* Паводле Грынавяцкене і інш. (Liet. term., 182), запазычаны з літ. *lindoti, lindėti* 'тырчаць, сядзець', 'гультаяваць', 'бадзяцца, лазіць'; Лаўчутэ (Сл. балт., 31, 119) дадае да іх яшчэ *linda* 'праныра', 'гультай', 'той, хто пазбег работы', *lindė, lindėika* 'праныра' і інш., якія ўзыходзяць да *lį̃sti (leñda, liñdo)* 'пралазіць', 'набрыдаць', 'несціся некуды', 'ехаць', 'блытацца пад нагамі', 'лезці, куды не трэба', *lándzioti, lándauti* 'туды-сюды лезці, хадзіць з месца на месца', 'швэндацца', 'памалу праходжвацца'. Параўн. і лат. *lundžât* 'лазіць туды-сюды', 'бадзяцца'. Відавочна, значэнні 'ногі', 'лыткі', 'калені' фарміраваліся пры наяўнасці лексем *лыды* (параўн. рус. валаг., варон. 'доўгія ногі', шырока пашыраная *лытка* 'нага', урал. *лыдка* 'даўганогі чалавек') і *лыга*$_2$ (гл.) пры блізкіх ці тых жа значэннях дзеясловаў *лыгаць* і *лындаць.* Наступным этапам было ўтварэнне фразеалагізма *лынды біць,* што азначала спачатку 'збіваць, аббіваць ногі', параўн. трок. *дарма лынды збій*=дарма схадзіў (Сл. ПЗБ). Пры існаванні іншых запазычанняў з такой жа семантыкай: *ды́нда* 'гультай', 'хлус', *ды́нды абіваць, дындаць* 'хадзіць без справы' ці *блындаць, блэндаць* 'тс' (гл.); выраз *лынды біць* набыў сучаснае значэнне, мяняючы ў гаворках першую частку паводле існуючага ў гаворцы апорнага дзеяслова са значэннем 'хадзіць без справы, бадзяцца, гультаяваць', 'марудзіць' (як тут — *лындаць*), параўн. бел. і рус. фразеалагізмы (узятыя з Бел.-рус. ізал., 111—112) з гэтым жа значэннем: *брынды біць — брындаць, дрынды біць — дрындаць, байды біць — байдосіць, банды біць — бандаць, балды бить — балдить, ланды бить — ландовать.* Слаўскі (5, 407—408) услед за Фасмерам (2, 541) адносіць польск. *łyndać się* да рус. *лынять* і дапускае сувязь з прасл. дыял. *lytati* 'гультайнічаць, бяздзейнічаць', *lutati* 'бадзяцца', параўноўваючы з чэш. *l'undat se, loudati se* 'тс'.

**Лы́нкаць** 'швэндацца, бадзяцца без справы' (паўд.-усх., КЭС). Відавочна, да *лы́ндаць* (гл.).

**Лыно** 'выпоўзіны' (Дразд.), стол. *лынóвышчэ,* іўеў., лях. *ліновішча,* ганц. *лінóвіско* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *лінáць* (гл.). Аб суфіксе *-но* гл. Слаўскі (SP, 1, 115—116).

**Лынóвіско,** *льня́ніско* 'поле пасля льну' (шчуч., Сцяшк. Сл.) — з другасным ацвярдзеннем *л-*<*ľь-* (гл. Карскі, 1, 316—317). Да *лён* (гл.). Параўн. *лніско.*

**Лып!** — пра лыпанне (мсцісл., Нар. лекс.), як і польск. *łyp!,* з'яўляецца аддзеяслоўным утварэннем. Да *лыпаць* (гл.).

**Лы́палы** *(абразл.)* 'вочы' (КТС, Быкаў), *лы́паўкі* (Сцяшк. Сл.). Да *лы́паць* (гл.).

**Лы́паць** 'маргаць', 'бяссэнсава маргаць ад здзіўлення, страху, збянтэжанасці', 'маўчаць, не ведаючы, што сказаць' (ТСБМ, Шат., Касп.; КЭС, лаг.), 'вытрэшчваць вочы' (полац., Нар. лекс.; Чыгрынаў, КТС), *лы́пнуць* 'плюснуць (вачыма)' (ТС). Укр. *лупати (очима)* 'тс', зах. 'слаба гарэць'; польск. *łypać* запазычана з усх.-слав. моў. Да прасл. дыял. *glipati*: рус. устар. *глипáть* 'азірацца', ст.-укр. *глúпати* 'аглядваць, азіраючыся', укр. *глúпати* 'вытрэшчваць вочы', бойк. 'кідаць вокам', *глип!* 'зірк', 'лып', якое да і.-е. **glip-/*ghlib-* (Трубачоў, Эт. сл., 6, 127—128). Аднак аўтарамі гэтага слоўніка дапускаецца, што *glipati* — экспрэсіўнае ўтварэнне, якое можна

тады параўнаць з дац. *glippe* 'маргаць', швед. *glippa* 'часта адкрываць (вочы)'. Чэкман (Балто-слав. иссл.-74, 125) супастаўляе з літ. *glìbti, žlìbti* 'станавіцца падслепаватым'.

**Лы́пкі** *(мн.)* 'вейкі' (смарг., Шатал.). Утворана дакладна на ўзор *вейкі* ад *лыпаць* (гл.). Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 2, 697) у смарг. *лыпка* бачыць запазычанне з літ. *lìpė* 'крышка, клапан'.

**Лыпоўка** 'ссыпка' (нараўл., Мат. Гом.). Да *ліпавачка (гл.)*. Аб другасным ацвярдзенні *л-* гл. Карскі (1, 316—317).

**Лыпчы́ца** 'расліна з сямейства павітухавых, якая паразітуе на льне' (кобрын., Бел. хр. дыял.). Да *ліпчыца* (гл.).

**Лыпэ́ха** 'непрыгожы чалавек з вельмі шырокім тварам і носам' (Клім.). Да *ляпёха*$_2$ (гл.).

**Лыс**$_1$, *лысь* 'ліс' (Клім., Дразд.), *лысу́к, лысю́к* 'маленькае лісянё' (Дразд.). Да *ліс* (гл.). Аб другасным ацвярдзенні *л-* гл. Карскі (1, 316—317).

**Лыс**$_2$ 'назва быка з лысінай на галаве' (КЭС, лаг.), *лыса* 'карова з белым ілбом' (Клім.), параўн. в.-луж. *łysa* 'назва лысай каровы', чэш. *lysa* 'карова з белай лысінай', славац. *lyska,* славен. *lisa* 'белая лысіна ў жывёлы'. Да прасл. *lysъ*>*лы́сы* (гл.).

**Лыса́к** 'гультай' (Мат. Гом.). Роднаснае да пск., цвяр. *лыскать* 'ухіляцца ад справы, пазбягаць працы', 'швэндацца, бадзяцца', 'бегаць, шукаць', *лыскану́ть* 'шмыгнуць'. Да асновы *lysk-/lusk-/ lyzg-/luzg-* (гл. *лузаць*). Больш падрабязна гл. Куркіна (Этимология-72, 68—73).

**Лы́сгабрусь** 'хоць бы што' (Бяльк.). Няясна. Мусіць, з *лысы Габрусь*. Параўн. выраз: *да й не лы́сы* 'які бестурботна паводзіць сябе' (Нас.).

**Лы́сікі** 'бульба ў мундзірах, носік якой зразаюць, каб зайшла соль у бульбу пры гатаванні' (Ян.). Да *лы́сіць* (гл.).

**Лы́сіна** 'месца на галаве, дзе вылезлі валасы', 'белая пляма на лбе некаторых жывёл', 'праталіна', 'невялікая палянка сярод лесу', 'пустыя мясціны на сенажаці', 'голае месца сярод пасеваў, няўзыдзены пасеў', 'месца, дзе качаўся конь' (ТСБМ, Яруш., ТС, Бяльк., Выг., Янк. 3, Яшк., Сл. ПЗБ; міёр., Нар. словатв.; хоц., Шатал.). Укр. *лísина, лисина́,* рус. *лы́сина,* польск. *łysina,* каш. *łёsёna* 'лысая гара'; чэш., славац. *lysina,* серб.-харв. *ли̏сина,* балг. *лисина́.* Прасл. *lysina,* утвораная ад прыметніка *lysъ*>*лы́сы* (гл.) (Слаўскі, 5, 417—418). Аб суфіксе *-ін-а* гл. Слаўскі (SP, 1, 120—123), Сцяцко (Афікс. наз., 107—108).

**Лысіня́тка** 'ласяня' (карм., Мат. Гом.). Да *лось* (гл.).

**Лы́сіца**$_1$ 'птушка лысуха, Fulica atra'. Да *лы́сы* (гл.). Птушка мае на ілбе белую лысіну. Гл. яшчэ *лыска, лысоха* 'тс'.



**Лы́сіца**$_2$ 'неўрадлівае поле' (калінк., Выг.), 'непакрытае расліннасцю месца' (маг., мін., Лемц.). Да *лы́сы* (гл.). Параўн. і *лысіна* 'тс'.

**Лы́сіца** 'лашчыцца' (светлаг., Мат. Гом.). Да *ліс*>*ліса́вы* 'ласкавы' (гл.). Параўн. таксама палес. *лыс*$_1$, *лісіца.*

**Лы́сіць** 'скрэбці бульбу збольшага, не поўнасцю', 'збольшага абчэсваць бервяно, рабіць лысіны' (докш., Мат. Янк.; Янк. 3), 'кепска рабіць што-небудзь' (в.-дзвін., Шатал.), *лы́сыты* 'рабіць зарубкі на ствале дрэва' (кобр., Жыв. сл.). Рус. *лысить* 'рабіць лысым', 'знімаць кару з дрэва, ачышчаць жэрдкі для агароджы', *лыситься* 'праясняцца'; польск. *łysić się* 'рабіць лысым, голым'; чэш. *lysiti* 'тс', славен. *lísiti* 'пакрываць каляровымі плямамі'. Прасл. *lysiti,* утворанае ад прыметніка *lysъ* 'лысы' (Слаўскі, 5, 413—414).

**Лыска** 'пралышанае месца на бервяне' (Бяльк.), 'жывёла (карова, конь, сабака) з белай плямай на ілбе' (Нас.; КЭС, лаг.; паўн.-зах., пін., КЭС), 'птушка лысуха, Fulica atra' (светлаг., Мат. Гом.; Федз.-Доўб.). Укр. *лі́ска,* рус. *лыска,* польск. *łyska,* каш. *lёska, liska,* н.- і в.-луж. *łyska,* чэш., славац. *lyska,* славен. *lîska* 'карова', *črna liska* 'лысуха', серб.-харв. *ли̏ска,* балг. *лиска.* Прасл. *lysъka* 'лысуха', 'свойская жывёліна з белай плямай на ілбе', 'месца аголенае і святлейшае за астатняе' (Слаўскі, 5, 419—421). Утворана ад прыметніка *lysъ*>*лы́сы* (гл.). Аналагічна і ў іншых мовах, напр., ням. *Blesse* 'белая пляма ў жывёл на ілбе'∼*Blasshuhn* 'вадзяная курка' (гл. яшчэ Скок, 2, 307; БЕР, 3, 423).

**Лы́скаць** 'смяяцца' (раг., Мат. Гом.), 'біць', 'піць', 'трэскаць', 'кідаць позірк' (Юрч., ТС). Уваходзіць у групу лексем з коранем **luzg-/lyzg-/lusk-/lysk-* (гл. Куркіна, Этимология-72, 68—73). Да *луза́ць* (гл.). Слаўскі (5, 421—422) адносіць польск. *łyskać* 'блішчаць, зіхацець', славац. *liskac še,* укр. *лискати,* серб.-харв. *ли̏скати* 'тс', славен. *lískati* 'паліраваць', *lískati se* 'блішчаць' да прасл. *lyskati,* якое з'яўляецца ітэратывам да *lъskati, lъsknǫti, lъščati.* Гл. *лызіцца.*

**Лысман** 'той, у каго лысіна' (брэсц., Нар. лекс.; Сцяшк. Сл.), н.- і в.-луж. *łysman* 'бык з белай лысінай', зах.-в.-луж. *hłupy łósman* 'дурны'. Да *лы́сы* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 116), Карскі (2—3, 69). Гл. таксама *лызіцца.*

**Лысма́чкі** 'лісіцы' (нараўл., Мат. Гом.). З $^{+}$*лісава́чкі,* якое з $^{+}$*лісава́ты* 'рыжы', параўн. польск. *lisowaty* 'бялявы, рудаваты, рыжы', каш. *ləsovatï, ləsati,* рус. арханг. *лисавка* 'рыжавалосая дзяўчына'. У лексемы $^{+}$*лісавачкі* ацвярдзела *л-*, выпала *-а-* перад *-в-*, а *-в-* перайшло ў *-м-* (у выніку зацямнення формы).

**Лысну́шкі** 'яблыкі з дзічкі' (Касп.). Да *лес* (гл.). Утворана ад *лясны* і суфікса *-ушк-і.* Параўн. барыс. *лясоўка* 'дзікая

яблыня' (Сл. ПЗБ). Ацвярдзенне *л-* адбылося пад уплывам *лысы* (дзікія яблыкі могуць мець крапінкі-лысінкі).

**Лыстá** 'шпар' (Бяльк.). Да $^{+}$*ліства*>*лішрва* (гл.), параўн. ням. *Leiste* 'круг, кант', 'шляк, аблямоўка'. Слаўскі ж (5, 429) адносіць лексему *лыстá* да паўн.-слав. *lysta* 'галёнка'. Аднак Ондруш (Slavia, 46, 423) указвае, што прасл. *lystъ* (і *lysta*) мела першаснае значэнне 'дошка', а другаснае — 'косць, галёнка'.

**Лы́сцягі** 'лыткі' (Сцяц.), 'сцёгны' (слонім., Жыв. сл.), *лысцягí* 'ногі' (слонім., Сцяшк.). Укр. *лúста,* закарп. *листь* 'лытка', рус. *лы́сто,* ст.-рус. *лысто* 'галёнка', ц.-слав. *лысто* 'тс'; польск. *łysta, łystawka, lystówka* 'лытка', мазав. 'панчохі на ўсю нагу без ступні', ст.-польск. *łyst* 'лытка', славац. *lysta* 'галёнка', *lyst,* серб.-харв. *лȕст* 'лытка', серб.-харв.-ц.-слав. *листо* 'тс', макед. *лист, листо* 'тс', с.-балг. *лысто* 'галёнка', *лыстъ* 'лытка'. Прасл. дыял. *lystъ/lysto/lysta,* якія з першасных *lyd-tъ/lyt-tъ* (Слаўскі, 5, 428—429). Далей этымалогію гл. *лытка.* Суфікс *-яг-і,* відавочна, з'яўляецца працягам прасл. *-ęg-*. Гл. яшчэ Ондруш (Slavia, 1977, 4, 423).

**Лысу́н** 'млекакормячая жывёліна атрада ластаногіх, Phoca groenlandica' (ТСБМ). Укр. *лисýн,* рус. *лысýн* 'тс', 'лысы', польск. *łysun* 'від дзікай качкі', 'гатунак бульбы', чэш. мар. *lysoun* 'лысы'. Прасл. паўн. *lysunъ* (Слаўскі, 5, 430—431). Да *лы́сы* (гл.).

**Лысýха** 'балотная птушка атрада пастушковых з шаравата-чорным апярэннем і голым ярка белым участкам скуры на лбе, Fulica atra' (Анік., Дразд., ТСБМ); *лысоха* 'тс' (гом., Мат. Гом.; Федз.-Доўб.). Да *лы́сы* (гл.). Параўн. *лы́ска.* Булахоўскі (Вибр. пр., 3, 221) прыводзіць іншыя ўсх.-слав. назвы гэтай птушкі: *лысена, лысана, лыс.*

**Лы́суха** 'высокае месца, дзе нічога не расце' (малар., Нар. лекс.), 'неўрадлівая пясчаная глеба' (івац., Жыв. сл.; пруж., КЭС), *лысýха* 'абложная зямля' (светлаг., петрык., ДАБМ; паўд.-мін., Лемц.). Да *лы́сы* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 124).

**Лы́сы,** *лы́сый, лэ́сы* 'які мае лысіну, белую пляму на лбе', 'голы, пазбаўлены расліннасці' (Нас., Багд., Булг., Шат., Касп., Бяльк., ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ), ст.-бел. *лысый* 'тс', драг. *лэ́сы* 'назва танца' (Нар. словатв.), *лысько* 'лысы чалавек' (ТС). Укр. *лúсий,* рус. *лы́сый,* польск. *łysy,* луж. *łysy,* чэш., славац. *lysý,* славен. *lȋs,* серб.-харв. *лȕс,* макед. *лис* 'тс', балг. *лис* 'тс', 'светлаваты'. Прасл. *lysъ* 'пазбаўлены валасоў, голы', 'без расліннасці', 'светлы, ясны, бліскучы, з белай плямай' (Слаўскі, 5, 431—433), якому адпавядаюць: літ. *lū̃šis,* лат. *lūsis,* ст.-прус. *luysis* 'рысь', ст.-грэч. λύγξ, ст.-в.-ням. *luhs* 'тс', ст.-інд. *rúśan, rúśant-* 'светлы, белы', арм. *lois* 'святло', *lusin* 'месяц', *lusn* 'бяльмо',— і.-е. **leu̯k'-* (паралельнае да *leuk-* 'свяціць', 'светлы'), якое пад уплывам экспрэсіўнасці (Махэк₂, 345) падоўжыла карэнную галосную ў *-ū->-y-*. Такім чынам, першасным было значэнне 'белая пляма', а 'голы' — другаснае. Роднаснае да *луч, лучына, луна* (гл.) (Фасмер, 2, 542; БЕР, 3, 418—419; Шустар-Шэўц, 11, 793; Бязлай, 2, 143). Сюды ж *лысаты, лысаваты* 'чалавек з лысінай', 'жывёла з белай плямай' (Нас., ТСБМ).



**Лысывынá** 'ўрадлівая зямля' (драг., Нар. лекс.) <*лісовинá*<$^{+}$*лесавіна*<*лес* (гл.). Відавочна, маецца на ўвазе ўрадлівая зямля, якая бывае пасля расчысткі лесу, ляда.

**Лыст** 'гліст' (бяроз., Выг.), драг. *лэ́стэ.* Да *гліст* (гл.).

**Лысы́чка** 'драўляны кранштэйн, які замацоўвае вось ганчарнага круга да лаўкі' (Вяр.— Крыв.). Да *лісіца*₁ (гл.).

**Лысь!** 'пра ўдар па лбу' (мсцісл., Нар. лекс.). Этымалагічна ўзыходзіць да *лызь!* — аддзеяслоўнага выклічніка. Да $^{+}$*лызнуць,* параўн. рус. пск., цвяр., паўн.-дзв. *лызнуть, лызнуть* 'ударыць', славац. *luznúť* 'ударыць па твары', 'заехаць па вуху', якія ўваходзяць у групу з коранем *luzg-/lyzg-/lusk-/lysk-*. Да *лузнуць, лузаць* (гл.). Тое, што ў семантыцы слова прысутнічае 'лоб', абумоўлена (пад уплывам народнай этымалогіі) ад'ідэацыяй лексемы *лысы.*

**Лы́тка**₁, *лы́ткі* 'акругленыя мышцы на задняй частцы нагі чалавека ад калена да ступні' (ТСБМ, Гарэц., Дразд., Сцяшк., Шат., Касп., Растарг., Яруш., Мядзв., Бяльк., Нас., ТС, Сл. ПЗБ), 'нага ўвогуле' (Нас.), 'сцягно, ляжка' (Яруш., стаўб., КЭС), 'галёнка' (КЭС, лаг.), *лыдка* 'лытка' (Мат. Гом.); у выразе: *лыткі кароткі* 'рукі кароткія' (Шат.).

Укр. *лúтка* 'лытка', закарп. і паўд.-валынск. 'сцягно', рус. *лы́тка, лы́тки* 'нага', 'пярэдняя нага свінні', 'задняя нага свінні', 'тонкія, худыя ногі', 'сцягно, ляжка', 'калені, ступні', 'пята', 'косць нагі', 'тоўстая косць нагі жывёлы', 'шчыкалатка', ст.-рус. *лытка* 'галёнка', 'нага', 'кумпяк'; польск. *łydka, łytka* 'лытка', 'сцягно', 'ягадзіца'; ст.-чэш. *lýtka* 'лытка', 'галёнка', славац. *lýtka* 'лытка', усх. 'сцягно'; славен. *lȋtka* 'лытка', с.-балг. *лытка, литка* 'галёнка'. Прасл. дыял. *lydъka* 'мясістая частка нагі — пераважна, лытка, а таксама і сцягно, галёнка' (Слаўскі, 5, 388—391). Надзейнай этымалогіі няма. Найбольш пераканаўчай з'яўляецца думка Шустара-Шэўца (Slavia, 32, 166—169; ZSl, 8, 873) аб роднасці з прасл. *glyda* (польск. дыял. *głyda, głydy, głytka, głytki*), якое чаргуецца галоснай у корані з *gluda* з агульнасцю семантыкі 'выпуклае, ком, гуз' (рус. *глуда* 'ком', славен. *glûta* 'шышка')<і.-е. **gleu-d-/*gleu-t* 'аб выпуклым, круглым'.

**Лы́тка**₂ 'вузкая палоска зямлі' (ушац., Нар. сл.). Відавочна, спачатку *лытка* 'нага' абазначала меру даўжыні

(параўн. ст.-бел. *стопа, крокъ*), пасля — прастору, якую гэтай мерай найчасцей вымяралі. Параўн. аналагічна *лы́нда*$_3$.

**Лы́ткаць** 'хадзіць з хаты ў хату' (Ян.), паўд.-усх. *лыта́ць* 'дарэмна бегаць'. Генетычна звязана з рус. *лыта́ть* і *лы́тать* 'гультаяваць', 'бадзяцца', 'хавацца, уцякаць', з балг. *лу́там се* 'бадзяюся', серб.-харв. *лу́тати,* макед. *лута* 'тс'. Прасл. *lutati/lytati/lunjati*<і.-е. **(s)leu̯t-/*(s)lou̯t-/*(s)lut-* (лат. *lutêt, lutinât* 'балаваць', нова.-ням. *liederlich* 'распуснік', *Lotter* 'гультай', ст.-англ. *lýđre* 'убогі', ст.-грэч. λεύτων 'запаволена' (Бернекер, 748; Фасмер, 2, 542; Скок, 2, 332—333; Бязлай, 2, 157; БЕР, 3, 526).

**Лыткава́ць** 'таптаць, травіць (пасевы)' (Касп.). Да *лытка*$_1$ 'нага'. Аналагічна параўн. чэш. *šlapati* 'таптаць' — *slépěje* 'ногі'.

**Лы́ўдзік** 'той, хто хапае ўсё, што трапіцца пад руку' (Бяльк.). Гл. *лэ́ўдзік.*

**Лых** — пра беганіну (мсцісл., Нар. лекс.), *лыхъцы́, лы́хтъць* 'хадзіць' (полац., там жа), *лы́хаць* 'шнырыць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *ла́хаць*$_1$ (гл.).

**Лыха́тка** 'мачалка' (нараўл., Мат. Гом.). Скарочанае з $^{+}$*лахала́тка,* параўн. укр. *лахолата* 'ануча, лахман'. Да *ла́хі* і *ла́тка* (гл.).

**Лы́хва** 'жанчына, якая вывіжоўвае' (навагр., Нар. словатв.). Аддзець, да *лы́хаць* 'шнырыць' (гл. *лых!*). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 34).

**Лы́хта** 'балбатуха, пляткарка' (дзярж., Нар. сл.). Да *лы́хтаць* (гл.).

**Лы́хтаць** 'пляткарыць' (дзярж., Нар. сл.). Да *ла́хаць, ла́хтаць* (гл.).

**Лыцна́ць** 'збірацца, мець намер, хацець' (Бяльк.). Да *лацнаць* (гл.), якое са ст.-польск. *łacnić się* 'рыхтавацца, прыстасоўвацца'<*łacny* 'схільны да чаго-небудзь' (Слаўскі, 4, 412).

**Лыч**$_1$ 'выцягнутая пярэдняя частка галавы некаторых жывёл, рыла' (Нас., ТСБМ, Мядзв., Грыг., Гарэц., Касп., Растарг., Клім., ТС, Сл. ПЗБ, Мікуц.; КЭС, лаг.; рагач., КЭС), 'твар, брудны твар' (КТС, Касп.), *лы́чак* 'лыч' (Ян.), *лы́чык* 'рыльца ў парасяці' (Нас.). Укр. паўн., валын., палес. *лич, ли́че, ли́ччя* 'свінячае рыла', 'не пакрытая поўсцю пярэдняя частка галавы каня', рус. смал., бран., калін. *лыч* 'рыла свінні', наўг. *лы́чко* 'морда сабакі'; польск. *łycz* 'рыла', 'доўгі нос', 'рыла дзіка', *lycz lodzi* 'нос карабля', паводле Слаўскага (5, 384), запазычана з бел. мовы. Трубачоў (Слав. языкозн., V, 181) узводзіць гэту лексему да прасл. дыял. *lyčь*<**lūkjo-*, супастаўляючы яе ўслед за Траўтманам (151), Фрэнкелем (344, 361), з літ. *laũkas* 'з белай плямай на лбе', лац. *lūcidus*



'ясны', літ. *liaukà* 'шыйная залоза', *laukos* 'залозы ў свінні', лат. *laukos, l̦auka* 'пухліна залоз у свінні'. Інакш і больш імаверна Краўчук (Бел.-укр. ізал., 38), які мяркуе, што бел. форма была запазычана з укр. гаворак і ўзыходзіць да прасл. *ličь,* якое з'яўляецца роднасным да прасл. *likъ, lice.* Сюды ж *лычава́ць* 'рыць лычом' (карэліц., Сцяшк. Сл.), 'рабіць падкоп (пад каго-небудзь)' (Юрч. Вытв.).

**Лыч**$_2$, *лы́чык* 'верхняя частка бурака, націна' (Нас.), віл. *лы́чыкі* 'націна буракоў' (Сл. ПЗБ), рус. *лыч,* паўн.-дзв. 'валасы над ілбом', вяц., валаг., калін., перм. 'націна караняплодаў (бручкі, морквы, рэпы, буракоў, бульбы)', наўг. 'лісты і сцябло рэпы', казан. *лычьи́* 'агурэчнік'. Бел.-рус. ізалекса. Роднаснае да *лыка* (гл.), якое да прасл. *lyk-o* (н. роду), побач з якім існавалі формы ж. роду (параўн. рус. *лыка* 'лыка') і м. роду — *lykъ/lykь*>*lyčь*<**lūk*'-, як у літ. і лат. мовах *(lùnkas, lûks),* якое абазначала выцягнутыя, (як лыка) падоўжаныя прадметы, параўн. суч. бел. *лычык* 'край буханкі хлеба' (глыб., Сл. ПЗБ), *лычка* 'колца, круг кілбасы', *лычка, лычкі* 'вузкія папярочныя нашыўкі на пагонах'.

**Лыча́к** 'кароткая вяроўка з пятлёй' (Бяльк., Нар. Гом.), рус. наўг., урал. *лычаг* 'вяроўка з лыка', калін. *лыча́га* 'кара з ліпы', укр. *лича́к* 'вяроўка з лыка', 'лыганы лапаць', 'абутак з лыка'. Да *лыка*$_1$ (гл.).

**Лычба́н** 'зняважлівае слова на хлопца-падлетка' (КЭС, лаг.). Да *лызба́н* (гл.).

**Лычкі** ў выразе *лазовые лычкі* 'лазовыя лапці' (Федар. Дад.). Да *лыка*$_1$ (гл.).

**Лы́чо** 'лыка' (Кліх) — зборнае ад *лыка*$_1$ (гл.)<*лы́чча.*

**Лычок** 'ручка на касві' (капыл., Шатал.). Да *лучок, лук*$_1$ (гл.). Відавочна, гэта «гіперправільная» форма (адваротная да рэгулярнай з'явы пераходу *ы*>*у*).

**Лы́чыкі** 'трэскі, стружка з ляшчыны' (зэльв., Сл. ПЗБ), *лы́чына* 'палоска лубу з карой' (в.-дзв., там жа). Да *лыка*$_1$ (гл.).

**Лы́штва** 'планка' (Клім.), 'жэрдкі, якія ўпоперак прыбіваюцца да кроквах вышэй палавіны іх вышыні' (Тарн.). Да *лі́штва* (гл.).

**Ль** — часціца ў словах: *хтоль, штоль, якіль* 'хто-небудзь і г. д.' (Янк. 3), як і рус. *-ль* з'яўляюцца другаснай формай з прасл. *-li* (укр. *-ли*). Паводле Зубатага (Studie, 2, 52—54), яна спачатку была часціцай настрою (параўн. рус. *ты река ли моя, реченька* або *сторона ли моя, сторонушка*), пасля з яе развіліся ўзмацняльная і абмежавальная функцыі, пазней альтэрнатыўная, якая выражалася ў пытанні. Больш падрабязна гл. ESSJ SG (2, 409—413).

**Львіны,** *ільвіны* і іншыя словы з гэтым коранем — да *леў* (гл.).

**Львіны зеў** 'зарніца звычайная, лянок, Linaria vulgaris Mill.' (Бейл.). Да *леў* і *зеў* (гл.). Матывацыя: кветка падобна да морды льва. Параўн. чэш *paštička, paščeka,* славац. *pyšťok, pyšťek* 'морда, лыч, пашча' або чэш. *psěček* (<*pes* 'сабака'); лац. *caput canis,* ням. *Hundskopf* для львінага зева, Antirrhinum majus L., рус. дан. *львиные ротики* 'тс'.

**Льга** 'можна, магчыма, дапушчальна', 'магчымасць' (Нас., Гарэц., Шат., Бір. дыс., ТСБМ, ТС; пух., З нар. сл.; уздз., пух., Сл. ПЗБ), *льго* 'тс' (Мал.), смал. 'паслабленне', рус. арханг. 'сіла, моц'. Да *ільга́* (гл.).

**Льгота** 'палёгка ў выкананні якіх-небудзь заданняў' (ТСБМ; гродз., Сл. ПЗБ). Да *ільгота* (гл.).

**Льжэць** 'лягчэць (аб хваробе, марозе)' (Нас., Гарэц., Дразд.), памор. *lžec, lžωc,* польск. літар. *ze-lżeć.* Бел.-польск. ізалекса. Утворана ад прыметніка *lьgъ* 'нямоцны, лагодны', ад якога таксама паходзіць *лёгкі* (гл.) (Слаўскі, 4, 395).

**Льляны́** 'ільняны', *льлянішча* 'поле, дзе рос лён' (Мат. Гом.): *-л-* замест *-н-* у выніку распадабнення. Тое ж рус. смал., разан., уладз. *льляной.*

**Льніца** *лясная* 'зарніца звычайная, лянок, Linaria vulgaris Mill.' (Кіс.). Да *лён* (гл.). Матывацыя: лісце гэтай расліны, падобнае да лісця льну. Аналагічна чэш. *len Matky Boží,* ням. *unser Frauen Flachs.*

**Льні́шча,** *льня́нішча, льня́нішчо, льля́нішча* 'поле, на якім рос лён' (ТСБМ, Сцяшк., Бяльк.; стаўбц., Жыв. сл., ст.-дар., Сл. ПЗБ), *льніска, льніско* 'льнянішча' (івац., Жыв. сл.; ваўкав., пруж., беласт., Сл. ПЗБ), 'сцелішча', 'сена з рэшткамі льну, скошанае на полі пасля ўборкі льну' (ваўкав., карэліц.), віл., ігн., даўг. *льня́ніско* 'льнянішча' (Сл. ПЗБ). Да прасл. *lьn-išče,* больш позняе зах.-слав. і *lьn-isko* 'тс'. Да *лён* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 159).

**Льнуць** 'прытуляцца' (Бяльк.). Арэал пашырэння лексемы (уключаючы і *ільнуць*) прылягае да рус. моўнай тэрыторыі. Этымалогію гл. пад *ільнуць,* аднак трэба дадаць, што Махэк$_2$ (337—338) адмаўляе сувязь гэтага старажытнага слова з лексемай *ляпіць,* прыводзячы ў якасці і.-е. паралелей ст.-інд. *lināti, láyatē, līyatē, līyati* 'прылягае, прыціскаецца, прытуляецца да чаго-небудзь'<**lei-.*

**Льняні́ца,** *ляны́ца, лляны́ца, лені́ца* 'льняное валакно высокага гатунку', 'пража', 'тонкае льняное палатно' (Уладз.). Утворана ад прыметніка *(і)льняны.* Да *лён* (гл.). Параўн. таксама *альняніна.*

**Льня́нка** 'зарніца звычайная, Linaria vulgaris Mill.' (Бейл.), пск. *льня́нка* 'тс'. Утворана ад *льняны́.* Да *лён* (гл.). Параўн. таксама *льні́ца* 'тс'.



**Льснець** 'бліщчэць', *льснуцца* 'тс' (Яруш.), *льсні́цца* 'бліщчэць, адсвечваць' (ТСБМ). Да *ільсні́цца* (гл.).

**Льсцёх,** *льсцёха* 'лісілівец' (Нас.). Да *ле́сціць* (гл.). Суфікс *-ёх* (<прасл. *-'oxъ*) характэрны для зах.-слав. моў (Слаўскі, SP, 1, 73).

**Лэб** 'лоб' (іўеў., Сцяшк.; шальч., швянч., трак., воран., шчуч., валож., Сл. ПЗБ) — польскі рэфлекс *(-е-)* к прасл. *lъbъ* (Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10). Бел.-польск. ізасема (параўн. польск. паўн.-усх. *łeb* 'лоб'). Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 204), ранейшае ст.-бел. *лъбъ, лобъ* набыло ў XVI ст. польскую фанетычную абалонку. Да *лоб* (гл.).

**Лэбзя** 'карова без рог' (свісл., Сцяшк. Сл.). Калі гэта не запазычанне (з польск.?), параўн. славац. *lebza* 'башка', то можна меркаваць, што ўварылася яно з *лэб* 'лоб' (гл.) і суф. *-за* (як *галамоўза* 'бязрогая скаціна'). Аналагічна *лабанька* (гл.).

**Лэгаць** 'павольна хадзіць' (маст., Сцяшк. Сл.). Да *лыга$_2$* (гл.).

**Лэгір** у выразе: *іна́* [цялушка] *йшчэ лэґіру ні знаіць* (ушац., Свяжынскі, вусн. паведамл.) 'цялушка, якая вучыцца пасвіцца'. Да *ла́гер* (гл.) 'летні загон для жывёлы ў полі'.

**Лэдары** 'воз, на якім возяць сена, снапы' (Касп.). Бел.-польск. ізалекса, параўн. польск. *ladry, latry, letra, letry.* З ням. *Leiter,* с.-в.-ням. *leitere, lātere,* ст.-в.-ням. *leitara* 'драбіна' (Слаўскі, 4, 181; Малько, Бел.-польск. ізал., 90).

***Ле́жыва,** *лэ́жыво* 'ляжанне', 'вылежванне разасланага льну' (драг., Выг. дыс.; Клім.). Да *ляжа́ць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 86).

**Лэйбік** 'безрукаўка' (Малч.). З польск. *lejbik* 'жакет', якое з ням. *Leibchen* 'станік, карсет',— магчыма, праз ідыш. Аналагічныя запазычанні ёсць у іншых слав. мовах: чэш. *lajblík, lajbik,* славац. *lajblík, lajbel',* серб.-харв. *lájbac,* якія з баварск. *Leibel* 'тс'.

**Лэйбус** 'тоўсты гультай' (полац., Нар. лекс.) запазычана з польск. *łobus, łobuz* 'свавольнік, пракуда, гарэза', варшаўск. 'гультай, лодар'. Дыфтонг *-эй-* выкліканы экспрэсіяй або пад уплывам падобнай лексемы *лайдак* (гл.).

**Лэйдацца** 'забаўляцца, бегаць' (Сцяшк. Сл.). Відавочна, звязана па паходжанню з *лайда́к, лайдава́ць,* а дыфтангізацыя абумоўлена балт. формамі накшталт лат. *liedoks* 'распуснік' або літ. *láidyti* 'хутка бегаць', 'бадзяцца'.

**Лэктаць** 'прагна піць' (воран., Сцяшк. Сл.). Да *лакта́ць* (гл.). Аб пераходзе *а*>*э* гл. Карскі (1, 104).

**Лэмбы** 'буйное пер'е' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Да *ла́мбы* (гл.). Аб пераходзе *а*>*э* гл. Карскі (1, 104).

**Лэмза** 'разява, няўклюда, нязграбны' (шальч., Сл. ПЗБ; сувалк., КЭС). Балтызм, параўн. літ. *lémza* 'павольны, вялы, маўклівы чалавек, цяльпук'. Гэтак жа Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 2, 700).

**Лэмзаць**$_1$ 'балбатаць, малоць языком', 'гаварыць абы што' (астрав., Сцяшк. Сл.; шальч., Сл. ПЗБ). Запазычана з літ. *lem̃zyti* 'вярзці, гаварыць абы-што' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 2, 700).

**Лэмзаць**$_2$ 'аблізваць языком', 'спрабаваць скубці траву (аб карове)' (драг., Сл. ПЗБ). Балтызм, параўн. літ. *lémžti* 'лізаць'.

**Лэмзгаць** 'лізаць', *лэмзнуць* 'лізнуць' (ашм.) паходзяць, паводле Грынавяцкене і інш. (Liet. term., 182), з літ. *lémžti* 'тс'. Нарашчэнне асновы *-г-* выражае незакончанае, але шматразовае дзеянне. Аналагічна *вэзгаць* (гл.) або з глухой зычнай *-к-*: *пэцкаць*. Гэта нарашчэнне знікае ў тых жа дзеясловах закончанага трывання *(лэмзнуць, пэцнуць)*.

**Лэмнуць** (груб.) 'ударыць' (Мат. Гом.). Да *ламану́ць* (гл.), ад якога ўтвораны гэты дзеяслоў аднаразовага дзеяння.

**Лэндаць** 'хадзіць без справы' (ваўк.), *лэндзіць* 'гаварыць абы-што' (астрав.), *лэндало* 'балбатун' (свісл., Сцяшк. Сл.). Дзеясловы пры ад'ідэацыі *лындаць* (гл.) запазычаны з польск., параўн. падгальск. *lędzić* 'жабраваць, прасіць', галіцк. *łandzić* 'з плачам шукаць, прасіць', якія разам з *landzić, lamdzić, lamdać* узыходзяць да ням. дыял. *landern, ländern, lendern* 'бадзяцца', 'павольна поўзаць, хадзіць' (Слаўскі, 4, 46). Гл. таксама *ла́нда.*

***Лэнуць,** *лэнуты* 'зрабіць спробу вылецець' (палес., З нар. сл.), *лэ́нэ* 'ляціць' (Булг.). З укр. *ли́нути* 'ляцець', 'несціся' разносіцца, ліцца (аб гуках)', 'гарнуцца', 'звяртацца ў думках', роднаснага да *лунаць*$_1$ (гл.) і *ры́нуць* (ЕСУМ, 3, 236).

**Лэнь**$_1$ 'хаця б (як)', 'каб хоць (які)' (драг., З нар. сл.). Укр. *лен* (лем. і ўсх.-славац. *лем, lem*), славац. *len*. Паходзяць з *le+no,* г. зн. з абмежавальнай часціцы *lě* і ўзмоцненай часціцы *no* (ESSJ SG, 2, 401—402).

**Лэнь**$_2$ 'выпоўзіны' (Дразд.), рус. памор., сіб. *лень, лёнь* 'лінянне'. З *лынь,* якое да *ліняць* (гл.).

**Лэп**$_1$**!** 'пра мацанне, абмацванне' (мсцісл., Нар. лекс.), 'хап, цап' (віл., швянч., Сл. ПЗБ). Балтызм, параўн. літ. *lep!* — для абазначэння бегу рыссю. У паўн.-слав. мовах для раптоўнага хапання, мацання ўжываецца *лап!, łap! lap!,* якія з прасл. *lapъ!* (больш падрабязна гл. Слаўскі, 4, 464).

**Лэп**$_2$**!** 'пра гук, калі злёгку выцяць рукой (КЭС, лаг.). Іншы варыянт выклічніка *лоп!* (гл.).



**Лэп**$_3$ 'лоб' (шчуч., КЭС). Да *лоб*$_1$ (гл.). Сюды, відаць *Лэп'е* — назва поля (в. Радастава, драг., Клім., Бел. анам., 1985)<*lobьje*.

**Лэпа** (іран.) 'паспешлівы' (Сцяшк.), *лэпаўка* 'паспешніца' У якасці балтыйскага адпаведніка можна прывесці *lep!* (гл. *лэп*$_1$*)*, *lēpas* 'балбатун'. Утворана па тыпу *соня, мазя* (гл.) ад дзеяслова $^+$*лэпаць* 'спяшацца' (аднак не зафіксаванага ў гаворках).

**Лэпаць**$_1$ 'мацаць рукамі, шукаючы што-небудзь упоцемку', 'мацаць рукамі' (бялын., Янк. Мат.; Бір. Дзярж., ТСБМ, ТС, Шат., Нар. Гом.), 'лапаць, хапаць рукамі' (слаўг., Нар. словатв.), 'цягаць, красці' (кругл., Мат. Маг.). Да *лэп*$_1$ (гл.).

**Лэпаць**$_2$ 'шавяліць губамі' (Жд. 1), 'ляпаць (рукою па лбе)' (Нас.), 'пляскаць, шлёпаць, біць чым-небудзь' (слаўг., Нар. словатв.; Шат.; чэрв., Сл. ПЗБ), *лэпнуць* 'пляснуць, раптоўна ўпасці' (іўеў., шальч., лаг., Сл. ПЗБ), 'стукнуць, ляснуць, ляпнуць' (Нас.; бялын., Янк. Мат.), 'злёгку ўдарыць' (КЭС, лаг.). Да *лэп*$_2$. Грынавяцкене і інш. (Liet. term., 182) у якасці літ. адпаведніка прыводзяць дзеяслоў *lèptelėti* 'ляпнуць, бухнуць'.

**Лэпіх** 'аер, Acorus calamus L.' (Бейл.). Укр. *лепеха́* 'тс', польск. вілен. *lepiech,* рус. *лепех, лепешник* 'тс', *лепёшник* 'падбел, Tussilago farfara L.', серб.-харв. *лѐпух,* славен. *lepuh*. Міждыялектныя адносіны спрыялі мене карэннай галоснай у *-э-*. Да *лопух* (гл.).

**Лэпскі** 'лоўкі, моцны' (Сцяшк.), 'харошы, пахвальны' (Нас.), 'ладны' (карэліц., З нар. сл.; стаўб., Жыв. сл.), 'ніштаваты' (карэліц., Нар. словатв.), *лэпска* 'добра' (Нас. Сб.). Запазычана з польск. *łebski* і *łepski* 'разумны, спрытны', 'ладны, велікаваты', 'прыгожы', 'недарагі'.

**Лэпта** 'няўклюда' (слуц., Жыв. сл.). Утворана ад *лэп*$_1$ (параўн. *лэп-лэп* 'тоўч-тоўч' і суфікса *-та* (параўн. літ. *lemtū̃tà)*. Відавочна, генетычна звязана з літ. *lèptelėti* 'не да месца сказаць', 'ляпнуць', 'пляснуцца'.

**Лэтны** 'абкручаныя анучамі курыныя лапы (каб куры не граблі град)' (пух., Сл. ПЗБ). Утворана пры дапамозе суфікса *-но* (<прасл. *-no*) ад *ла́та*$_1$ (гл.). Экспрэсіўнасць спрыяла мене *а*>*э*: *латно*>*ла́тны*>*лэ́тны.*

**Лэўдзік** 'злодзей', *лэўдзіць* 'красці', *злэўдзіць* 'украсці' (Нас.; Юрч. Вытв.). Балтызм. Параўн. літ. *láudaga, láudagas* 'неахайны, апушчаны', 'гультай'.

**Лэхаць** 'пляткарыць' (зэльв., Сцяшк. Сл.). Да *ла́хаць*$_2$ (гл.) Аб пераходзе *а*>*э* гл. Карскі (1, 104).

**Лэхі** 'транты, анучы, парванае адзенне' (Сцяшк.), 'лахманы' (свісл., Шатал.; ваўк., Сл. ПЗБ). Да *ла́хі* (гл.). Аб пераходзе *а*>*э* гл. Карскі (1, 104).

**Лэхнуць** ’быць адданым каму-небудзь, прападаць за кім-небудзь, вельмі любіць што- або каго-небудзь’ (стаўб., Жыв. сл.). Да *ла́хаць₁* (гл.). З прычыны экспрэсіўнасці *-а->-э-*.

**Лэхта** ’балбатуха’ (стаўб., Жыв. сл.). Утворана ад *лэ́хтаць<ла́хтаць₂* (гл.), як *мазя* ад *мазаць*.

**Лэхтар** ’вынашаная падраная адзежына фабрычнага вырабу’ (КЭС, лаг.). Да *лэхі<ла́хі* (гл.). Аб суфіксе *-ар* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 148).

**Лэш** ’хлусня, нагавор’ (маладз., Янк. Мат.; ваўк., Сл. ПЗБ). Паланізм (або скарэкціраванае паводле польск. *łeż* ’тс’ усх.-слав. *+лъжь*). Гл. Арашонкава (Бел.-польск. ізал., 7—12).

**Лэшкі** ’градкі, рад’ (Булг.). Да *ляха́* (гл.).

**Люб** ’любімы, каханы, прыемны’ (Др.-Падб.). Да *лю́бы* (гл.).

**Люба́ва** ’нятлустае свіное мяса’ (валож., Жыв. сл.) — субстантываваны прыметнік жан. роду. Да *любі́вы* (гл.).

**Любаві́зна,** *любаві́на* ’праслойка мяса ў сале’ (міёр., Нар. сл.), ’нятлустае, поснае мяса’ (полац., Нар. сл.; глыб., даўг., докш., Сл. ПЗБ), *любаві́на* ’тс’ (КЭС, лаг.). Да *любі́вы* (гл.) у яго варыянце *любовы* (прыблізна тая ж тэрыторыя, Сл. ПЗБ). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 103).

**Любава́цца** ’разглядаць з захапленнем, з задавальненнем’, ’наглядаць за чыёй-небудзь дзейнасцю з задавальненнем’, ’мець уцеху’ (Яруш., ТСБМ, Нар. Гом.), *любава́ць* ’любіць, любавацца’ (Нас.). Укр. *любувати(ся), любовати,* рус. *любоваться,* ст.-рус. *любовати,* польск. *lubować się,* н.-луж. *lubowaś,* в.-луж. *lubować,* чэш. *libovati si,* ст.-чэш. *ľubovati,* славац. *ľubovať si,* славен. *ljubováti, ljúbovati,* серб.-харв. *љубовати,* макед. *љубува се.,* балг. *любува се.* Прасл. *ľubovati* ’захапляцца нечым’, утворанае ад *ľubъ* (Слаўскі, 4, 358—359). Да *лю́бы* (гл.).

**Любасць,** *любосць, любось* ’пачуццё глыбокай прыхільнасці, пяшчоты да каго- або чаго-небудзь’, ’лю́бата’, ’прыязнасць’, ’каханне’, ’ласкавасць’, ’уцеха, пашана’, ’міла, вельмі прыемна’ (ТСБМ, Гарэц., Нас., Яруш., Растарг., Мікуц.; віл., пух., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), *любосці* ’заляцанні’ (карэліц., Сцяшк., Сл.). Укр. *любість;* ст.-рус. *любость* (XVI ст.)<ст.-бел.; польск. *lubość,* н.- і в.-луж. *lubosć,* чэш. *libost,* ст.-чэш. *ľubost, ľúbost,* славац. *ľúbosť*. Прасл. паўн. *ľubostь,* якое з *ľubъ* (Слаўскі, 4, 361—362). Да *лю́бы* (гл.).

**Любата́,** *любута́, любота́* ’тое, што люба, што выклікае прыемнае ўражанне, захапленне’, ’асалода, прыемнасць’, ’прыгожасць, прывабнасць’, ’раскоша, хараство’ (ТСБМ, Мядзв., Шат., Касп., ТС, Ян.; міёр., З нар. сл.; КЭС, лаг.; брасл., карэліц., Сл. ПЗБ), ’добра’ (калінк., З нар. сл.). Укр. *любота́* ’асалода, задавальненне’, рус. *любота,* серб.-харв. *љу̑ботан* ’чалавечны’, уласнае імя *Ljûbota.* Прасл. *ľûbota* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 179).



**Любаўла́сце** ’ўладалюбства’ (Гарэц., Др.-Падб.), ст.-рус. *любовластие.* Да *любіць* (гл.) і ст.-рус. *власть* ’улада’.

**Любаце́нне** ’асалода, прыемнасць у вышэйшай ступені’ (Шат.) — кантамінаванае ўтварэнне ад *любата́* і *любе́нне* (гл.).

**Любе́нне,** *любе́ння, любе́ня, любе́нё* ’любата, пацеха’ (Яруш.; глыб., шчуч., маст., Сл. ПЗБ), ’каханне’ (шчуч., Сцяшк. Сл.), ст.-польск. *lûbienie,* ст.-рус. *любление, любленье* ’каханне’, ’адданасць’, ’прыхільнасць’; рус. ярасл. *люблённе* ’палавыя сувязі’ і серб.-харв. *ljûbljenik* ’каханак’, макед. *љубење,* ст.-слав. **люблѥниѥ** ’любоў’. Прасл. *ľûb(j)enьje* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 169).

***Любе́нец,** *любеняц* ’нарачоны’ (трак., Сл. ПЗБ). З польск. *lûbienice* ’тс’. Паводле Трубачова (Эт. сл., 15, 169), прасл. *ľûb(j)enьcь.*

**Любе́знік₁,** *любі́знік* ’нагаворнае зелле, якім прычароўвалі хлопца да дзяўчыны’ (Сцяшк., Багд., Шн. 3, Касп., Шат., ТС), *любі́знік* ’злая істота’ (Інстр. II), браг. *любі́снік* ’любіста’ (Мат. Гом.) — у выніку кантамінацыі назваў раслін, якія ўзыходзяць да *+любезны* (польск. *lubiezny, lubieżny,* рус. *любезный*): польск. *lubieznka, lubieżnka* ’стальнік, Ononis arvensis L.’ і *lubeznka* ’жаўтазель, Genista L.’, — і назваў расліны *любі́ста (любісцік),* ’Levisticum officinale Koch.’ Гл. яшчэ *любі́ста, любісцік.*

**Любезнік₂** ’палюбоўнік, каханак’ (ТС), ст.-польск. *lûbiezny,* славен. *ljûbêznik,* серб.-харв. *ljȕbeznik, љу̏безник* ’тс’, ’сябар’. Прасл. *ľubezьnikъ* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 170).

**Лю́бжа,** *лю́бша* ’замова на каханне’, ’нагаворнае зелле’ (Гарэц.), ’ятрышнік, зязюлька плямістая, Orchis maculala L.’ (Растарг.), ’чараўнік, Platanthera bifolia L. C. Rich’ (Кіс.). Укр. *любжа* ’ятрышнік’, рус. смал., арл., кур. *любжа* ’ятрышнік’, ’чараўнік’. Утворана ад *любі́ць* (Сцяцко, Афікс. наз., 79). Матывацыя (Махэк, Jména, 299): расліна мае два клубні, якія нагадваюць яйцы, таму існавала павер’е, што прырода нібыта сама ўказала на тое, што гэта расліна служыць для павышэння патэнцыі (параўн. чэш. *vstavač,* польск. *storczyk*), выклікаючы каханне. Іншыя назвы звязаны з зязюляй (параўн. бел. *зязюлька,* чэш. *žežhulka, zezulka, kukačka*), бо яна (паводле фальклорных песень) мае адносіны да кахання і плоднасці. Прасл. *ľubьža* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 189).

**Любжа́ць** ’кахаць, любіць’ (ашм., Сцяшк. Сл.). Да *лю́бжа* (гл.).

**Любівы,** *любліві, лібівы, лібліві, любовы, любэвы, любывый* 'посны, нятлусты (мяса)', 'сала з праслойкамі мяса' (Нас., Касп., Мядзв., Юрч., Вешт. дыс., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг. і інш.), зэльв. *любо́віно мяса* (Сцяшк.), усх.-бел. *любавіна* 'благое, поснае мяса' (КЭС і Мат. Маг.), ст.-бел. *либѣвый* 'змардаваны', *либивость* 'худзізна' (Скарына), якія запазычаны з чэш. *liběvý, libivost*. Рус. *любови́на*, смал. *любавый*, кур. *либавчина* 'слой мяса на сале', ст.-рус. *либивый* 'худы', паўн.-рус. *ли́би́вый, либиво́й* 'тс'; каш. *lëbavi* 'павольны, гультаяваты', 'любівы', 'высокі, але тонкі і худы', велікапольск. *lubave m'ysu̯o* 'любівае мяса', в.-луж. *libojty<libovitъ*, ст.-чэш. *libivý*, чэш. *libový* 'тс', мар. *lebavý* 'пусты, дрэнны'; славен. *libovína, lîbivo* 'мяса без косці', кайк. *libiv* 'сухі, пусты', серб.-харв. *либовина* 'сцягно', макед. *либав* 'слабы', ц.-слав. *либавъ* 'худы, мізэрны'. Прасл. *libavъ, libivъ, libovъ* 'худы, слабы' (Слаўскі, 4, 218—219), утвораныя ад *libъ* (параўн. каш. *lëbi* 'высачэзны, слабы', ст.-польск. *luby* 'шчуплы', каш. *lùbï* 'тс', в.-луж. *liba* 'жылістае мяса', ст.-чэш. *libí* 'поснае (мяса)'; роднаснымі да яго будуць: літ. *líebas* 'слабы, тонкі, стройны', ст.-сакс. *lêf* 'слабы, хворы' і з чаргаваннем галоснай літ. *láibas*, лат. *laîbs* 'слабы, тонкі, стройны', літ. *leĩnas* 'тс', лат. *lèins* 'крывалапы'. І.-е. **lēibho-* (Слаўскі, 4, 222; Фасмер, 2, 543 і 492; Махэк₂, 330; Скок, 2, 293; Бязлай, 2, 139; Шустар-Шэўц, 11, 837—838). Пераход *лі->лю-* адбыўся пад уплывам слова *любовь*; у польск. мове мена *li->lu-* назіралася ўжо ў XV ст.

**Любіж** 'месца, дзе знаходзіцца крыніца з пітной вадой', 'прыгожае з выгодамі месца' (горац., стол., Яшк.), ст.-польск. *lubież* 'раскоша, прывабнасць, грацыя'. Суфікс *-іж* з *-еж, які* павінен быў бы быць у прасл. *-ěžь*, аднак у прасл. мове гэты суфікс мае форму *-ežь*. Таму для бел. *любіж* трэба дапусціць існаванне дзеяслова на *-ěti*, з якога дадзеная лексема ўтварылася (⁺*любець*). Адпаведнікі да яе: рус. амур. *любе́ть* 'любіць', мала- і велікапольск. *lubieć* 'тс'. Аб суфіксе гл. Слаўскі (SP, 1, 69—70), Сцяцко (Афікс. наз., 85).

**Любім** 'любісцік, Levisticum officinale L. Koch.' (Кіс.), рус. цвяр. 'ятрашнік плямісты, Orchis maculata L.', уфімск. 'чарнакорань, Echinospermum Lappula Lehm.' Утворана ад прыметніка *лю́бы* (гл.) пры дапамозе суфікса *-ім* (<з прасл. *-imъ* — суфікса, які ўтварае словы са значэннем сваяцтва *пабрацім, отчым*).

**Любіне́,** *любыня́* 'любата' (драг., Лучыц-Федарэц; Клім.). Да *любы* (гл.). Аб суфіксе *-ін-я (-ын-я)*<прасл. *-уп'і* гл. Слаўскі (SP, 1, 139—140), Сцяцко (Афікс. наз., 109).

**Любіста,** *любісцік, любісто́к, любысток, любісьнік, любістра* 'расліна з сямейства парасонавых, Levisticum officinale Koch.', якая ў народнай медыцыне выкарыстоўвалася як сродак для



ўзбуджэння любоўных пачуццяў, як магічны сродак для барацьбы з цёмнымі сіламі, напр., як зелле для купання дзіцяці' (ТСБМ, Грыг., Кіс., Бяльк., Нас., Мат. Гом., Бес., Некр., Юрч. Вытв., Растарг.; даўг., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *lubieszczek, lubistek, lubist*, якія з с.-в.-ням. *lübestecke, lübestëcco, lobistek, lubstöck* 'тс' (у іх ужо ў XV ст. назіраецца народная этымалогія да *lieber*, ням. *lieb* 'любы, мілы', як і ў слав. назвах — да *любы, любіць*)<с.-лац. *lubisticum, libisticum*<лац. *ligusticum*<*Ligus* 'з краіны Лігурыі' (Слаўскі, 4, 350—351; тое ж А. К. (Мовазнаўства, 1967, 1, 83); Кюнэ (73), Махэк (Jména, 163).

**Любіцель,** в.-дзв. *любіцяль* 'аматар' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *любіцельніца, любіцельскі, любіцельства* ўзяты з рус. *любитель* і г. д. (Крукоўскі, Уплыў, 57). Аднак *любіцелька* 'аматарка' (Ян.) — самастойнае ўтварэнне ад *любіцель*.

**Любіць,** *любіц, любіці, любэтэ, любыты* 'адчуваць прыхільнасць да каго- або чаго-небудзь', 'кахаць', 'мець цягу, ахвоту, цікавасць да чаго-небудзь', 'адчуваць задавальненне ад чаго-небудзь' (ТСБМ, Бяльк., Касп., ТС, Яруш., Сл. ПЗБ), *любіцца* 'заляцацца, любіць, кахаць адзін аднаго' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк., Сцяшк., Шат., Касп.; вілей., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), 'мець любоўныя адносіны' (ТС). Укр. *люби́ти (ся)*, рус. *люби́ть*, ст.-рус. *любити*; польск. *lubić (się)*, палаб. *l'aibě* 'любіць, кахае', н.-луж. *lubiś, libiś, lubiś so*, в.-луж. *lubić (so)*, чэш. *líbiti (se)*, славац. *l'úbit' (sa)*; славен. *ljúbiti, ljubiti se*, серб.-харв. *љу́бити (се)*, макед. *љубам, љуб'а*, балг. *любя*, ст.-слав. **любити (сѧ)**. Прасл. *l'ubiti*, утворанае ад прыметніка *l'ubъ* (Слаўскі, 4, 351—353; Фасмер, 2, 544; Скок, 2, 336—339)>*любы* (гл.). Аднак Трубачоў (Этимология-74, 183) дапускае, што можна бачыць у фармальных адносінах прасл. *l'ubъ* — *l'ubiti* спадчыну і.-е. адносін **leubhos* — **leubhei̯ō* 'любімы — любіць, страсна жадаць'. Сюды ж *любі́мы* 'які выклікае пачуццё любві', 'каханы', *любі́мец* 'улюбёнец', *любімчык* 'тс' (ТСБМ). Гл. таксама *любой*.

**Лю́бка**₁ — ласкавы зварот да жанчыны, дзяўчыны, да любімага чалавека, *лю́бачка* 'мілачка' (Нас., Бес., Яруш., Шат., ТСБМ, Нар. Гом.). Укр., рус. *лю́бка*, польск., луж. *lubka*, чэш. *líbka*, славен. *ljúbka*. Прасл. *l'ubъka* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 183). Да *любы* (гл.) — ж. род *лю́ба* (адсюль імя *Люба*, якое пасля набыло афіцыйную форму *Любоў*). Сюды ж *лю́бачка* 'мілая, любімая', 'дзіцятка' (ТСБМ, Жд. 1, Шат.), *любчы́на* 'мілая, дарагая' (Нар. Гом.) — пад уплывам лексемы *дзяўчына*.

**Любка**₂ 'чараўнік, Platanthera bifolia (L.) L. C. Rich.' (паўн.-усх., Кіс.). Укр. *любки́* 'ятрашнік шлеманосны', *лю́бка* 'ятрашнік шыракалісты', рус. кур. *лю́бка* 'ятрашнік шлема-

носны'. Усх.-слав. Бел. лексема прымыкае да рус. моўнай тэрыторыі. Да *любы* (гл.).

**Любкі** 'частка дзяльбы на дзве долі, якую адзін з удзельнікаў падзелу выбірае сабе' (Цясл.). З рус. *любкú* ў спалучэннях *по любкáм, на любкú, любкá* 'добраахвотна, паводле свайго жадання, на выбар'.

**Любовы** 'любы, выбраны з любоўю', 'шаноўны' (Нас.), 'даспадобы' (Нар. Гом.), *любовенькі* 'тс' (Нас.), 'дарагі, па сэрцу' (Нар. Гом.). Рус. вяц. *любовóй.* Адыменны прыметнік. Да *любоў* (гл.).

**Любоў** 'пачуццё глыбокай прыхільнасці, адданасці', 'каханне', 'схільнасць, цяга да чаго-небудзь' (ТСБМ, Бяльк., ТС, Яруш.). Укр. *любов,* рус. *любовь,* ст.-рус. *любовь, любы,* славен. *ljubî, ljubâv,* серб.-харв. *љу̏би, љу́бав,* макед. *љубов,* балг. *любóв, либóв,* ст.-слав. **любы.** Прасл. *l'uby, l'ubъve* ўтвораны ад прыметніка *l'ubъ* (Бернекер, 756; Фасмер, 2, 544; Младэнаў, 283; Скок, 2, 338; БЕР, 3, 573—574). Паводле Бірнбаўма (VII Međunar. Slavistički kongres, Knjiga refer., 1, Zagreb, 1978), словы з коранем *l'ub-* першапачаткова азначалі 'актыўнае каханне', а з коранем *mil-* — 'пасіўнае, жаданае каханне'. Іншыя словы *(lask-, koxa-)* атрымалі значэнне 'каханне' на працягу развіцця слав. моў. Гл. таксама Трубачоў (Эт. сл., 15, 185—186).

**Любоўства** 'каханне' (Нар. Гом.). Рэгіяналізм. Адпрыметнікавае ўтварэнне з суфіксам *-ств-а* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 139—140). Да *любовы* (гл.).

**Любоцце,** *любоцця, любоценне* 'тое, што люба, прывабнае, прыгожае' (Крыў., Дзіс.; ТС). Утворана ад *любатá* (гл.) пры дапамозе суфікса *-ьje,* з адцягненым значэннем.

**Любошчы,** *лю́бошчы, любошч (ж.), любошчí* 'любоўныя адносіны', 'каханне, заляцанне, мілаванне' (ТСБМ, Шат., Бес., Клім., Жд. 1, Мат. Гом.; лях., кам., Сл. ПЗБ). Да *любіць* (гл.). Аб суфіксе ў бел. мове гл. Сцяцко (Афікс. наз., 90). Аднак гэты суфікс (які ўзыходзіць да прасл. *-ostь+ja* у мн. л. *-ost-ji*) больш характэрны для ўкраінскай мовы. (Вступ, 152).

**Лю́бчык** 'любіста, Levisticum officinale Koch.' (Кіс., Бел. зельн.), зэльв. *лю́пчыкі* 'тс' (Жыв. сл.). Запазычана з польск. *lubczyk,* якое разам з блізкімі *lubszczek, lubieszczek, lubieszczyk* і інш. узыходзіць да с.-в.-ням. *lübestecke, lobistek.* Гл. *любіста.* Больш новым з'яўляецца тураў. *лю́бчык* 'палюбоўнік' (ТС).

**Лю́бы,** *лю́бый* 'які выклікае пачуццё любві; блізкі, дарагі, мілы сэрцу, каханы' (Нас., Гарэц., Яруш., Др.-Падб., Шат., Касп., Бяльк., ТСБМ, ТС; мядз., Сл. ПЗБ), 'той, каго любяць, шкадуюць' (КЭС, лаг.). Укр. *лю́бий* 'тс', *люб* 'мілы', *лю́ба* 'каханая'; рус. *люб, любый (люба* 'каханая'); польск. устар. *luby,* н.- і в.-луж. *luby* (прыметнік і назоўнік), палаб. *l'aibě* (<*ljubъjь*); чэш. *libý,* ст.-чэш. *l'ubý, l'ub, l'úb,* славац. *l'úby (l'úba* 'каханая'); славен. *ljûb, ljúba* 'мілы, каханы, дарагі' *(ljúbi* 'каханы', *ljûba* 'каханая'), серб.-харв. паўн.-зах. *љуб* (з XVII ст. і як назоўнік), *љу́ба* 'жонка', макед. *љуба* 'каханая', 'жонка', балг. *люба* 'любка, каханая', ст.-слав. **любъ** 'мілы, прыемны'. Прасл. *l'ubъ* 'мілы, прыемны, каханы' (Слаўскі, 4, 360—362), роднаснымі да якога з'яўляюцца літ. *liaupsė̃* 'пашана', 'хвалебная песня', *liáupsinti* 'ўсхваляваць', ст.-інд. *lúbhayati* 'моцна жадае', *lōbhas* 'жаданне, прага', *lōbháyati* 'ўзбуджае жаданне', гоц. *liufs,* ст.-в.-ням. *liob,* н.-в.-ням. *lieb,* ст.-грэч. λυπτά 'юрлівая', 'каханка', лац. *lubet (libet)* 'мне падабаецца', 'я жадаю, маю ахвоту', *lubīdō, libīdō* 'страснае жаданне', алб. *laps* 'жадаю, прагну' — і.-е. **leubhos* (Фасмер, 2, 544; Слаўскі, 4, 360—362; Скок, 2, 337—339; Бязлай, 2, 146; Шустар-Шэўц, 12, 864; БЕР, 3, 572; Трубачоў, Эт. сл., 15, 181—182). Сюды ж *лю́бенькі, любе́нькі, лю́бінькі, любу́нка* — ветлівы зварот да людзей, *любе́й* 'мілей', *любе́йшы* 'мілейшы' (Бяльк., Шат., Нас., Мікуц., Рам. 8—9; КЭС, лаг.), *лю́ба, лю́бо* 'міла, з любоўю', 'падабаецца', 'па сэрцу', 'добра' (ТСБМ, Бяльк., Растарг., ТС; калінк., З нар. сл.; воран., Сл. ПЗБ), *любя́* 'даспадобы' (мядз., Жыв. сл.).



**Любы́** 'кожны, усякі', 'які хочаш (на выбар)', 'абы-хто' (ТСБМ, ТС; КЭС, лаг.; брасл., Сл. ПЗБ), рус. *любой,* ст.-рус. *любой* 'які хочаш' (XVI ст.), славен. *poljúben,* чэш. *libovolný,* славац. *l'ubovolný* 'тс'. Да *лю́бы* (гл.).

**Любя** 'нятлустае мяса' (смарг., Сл. ПЗБ). Відаць, паходзіць са зборнага назоўніка *люб'е*<прасл. *lib-ьje.* Да *любі́вы* (гл.).

**Любя́к** 'поснае мяса' (навагр., Нар. сл., Жыв. сл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-як* (як *кісля́к, сітня́к* — Сцяцко, Афікс. наз., 130—131) ад *люб-(ів)-ы*<прасл. *libъ.*

**Любяса** 'празмернае, высушваючае каханне' (усх.-бел., КЭС), смал. *любя́са* 'чары', кастр. *любя́ся* 'з любоўю, любячы'. Рэгіяналізм. Уяўляе сабой вельмі старое ўтварэнне ад *l'ubъ* з суфіксам *-es-,* як *l'utese* 'празмерная, цяжкая праца'<*l'utъ* 'вялізныя пакуты, цярпенне' (Слаўскі, SP, 2, 29—31).

**Люга́вы,** *люга́вый* 'добры, хвацкі (пра танец)' (клім., Мат. Маг.), смал. *люга́вый* 'ласкавы, мілы, ветлівы, ліслівы'. Няясна.

**Люгамінкі** 'прысмакі' (шчуч., Сцяц. Сл.). Запазычана з польск. *legumina* (мн. лік), *leguminka* (з XVI ст.), 'стручковыя расліны (гарох)', 'крупы', 'мука', 'стравы з іх', якія з лац. *legūmina* (мн. лік), 'стручковая агародніна' (Слаўскі, 4, 118—119).

**Люгаце́ць** 'ліцца' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *плюхаць* (гл.).

Параўн. бел. драг. *плюхотíтэ* 'ліцца з плёскатам', бел. *плюшчэць* 'ліцца, як з вядра'.

**Люгáшка** 'жаба' (Бяльк., Касп., Нас., Доп., Яруш.; кругл., Мат. Маг.). Да *лягýха* (гл.).

**Люд** 'народ, людзі', 'зборышча людзей, натоўп' (ТСБМ, Нас., Яруш., Ян.; віл., Сл. ПЗБ). Укр. *люд,* рус. *люд* 'тс', польск. *lud,* ст.-польск. 'падданыя', н.- і в.-луж. *lud* 'тс', 'войска', н.-луж. *luś* 'чалавек', палаб. *l'ai̯dai̯* 'людзі', чэш. *lid,* ст.-чэш. *l'ud* 'люд', славац. *l'ud* 'тс', славен. *ljûd,* харв. (да XV ст.) *ljudje,* балг. (арго муляраў) *люд* 'чалавек', ст.-балг. *людъ* 'народ', ст.-слав. **людиѥ** 'народ', **людинъ** 'вольны чалавек'. Прасл. *l'udъ* 'народ, людзі, звязаныя агульным паходжаннем і мовай'<і.-е. **leudho-<*leudh-* 'расці', літ. *liáudis* 'народ', *liaudžià* 'дамачадцы', лат. *l̨àudis* 'людзі'; ст.-в.-ням. *liut,* с.-в.-ням. *liute* 'народ', бургундск. *leudis* 'свабодны чалавек', ст.-грэч. ἐλεύθερος, лац. *liber* 'тс', *līberi* 'дзеці'; ст.-інд. *rṓdhati,* ст.-іран. *raodaiti* 'расце', гоц. *liudan* 'расці', алб. *lenj* 'нараджаюся, узнікаю' (Фасмер, 2, 545; Слаўскі, 4, 363—364; Скок, 2, 339—340; Махэк$_2$, 331—332; Шустар-Шэўц, 12, 865—866; Бязлай, 2, 146; БЕР, 3, 576—577). Мартынаў (Лекс. взаим., 96—98) лічыць, што прасл. *ljudъ* запазычана з прагерм. *leuda.* Сюды ж і *лю́дзі, людцэ́, лю́дзячкі, людкé* 'людцы' (Шат.; ст.-дар., Сл. ПЗБ), *людзёнак* 'чалавек' (полац., Нар. лекс.), *людзíна* 'жанчына' (Сцяшк.), *людзíна, людúна, людзінá* 'чалавек, асоба' (Сл. ПЗБ, Федар. Дад.; Ян., ТС; КЭС, лаг.), *людзíска, людúска* 'людзі' (Сл. ПЗБ), *людя́* 'чалавек увогуле' (Бес.); *лю́дносць* 'людзі'<польск. *ludność* 'насельніцтва' (дзятл., Сл. ПЗБ), *людкове* 'людзі' (Сцяшк.)<польск. *ludkowie* 'просты люд'.

**Людаéд,** *людоéд* 'першабытны чалавек' (ТСБМ, ТС). Прасл. *l'udojědъ.* Да *люд* і *есці* (гл.). Паняцце 'дрэнны, ліхі, благі' спрыяла змене лексемы *лютаедлівы* 'пераборлівы ў ядзе' ў *людаéдлівы, людаежлівы* (лях., ваўк., Сл. ПЗБ).

**Людаéдзіца** 'людаедка' — так называюць свякроў, нявестку (у песнях) (Нар. Гом.). Лексема складае з рус. *людаедица* (перм., арханг., тул., арл.) адзін арэал. Да *людаéд* (гл.).

**Людзець** 'мець павагу да людзей' (смарг., Сцяшк. Сл.). Праславянскае ўтварэнне на *-ěti* ад *l'udъ* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 190).

**Людзі,** *людэ* 'людзі', 'сяляне, рамеснікі, рабочыя', 'пабочныя асобы', 'асабовы склад войска' (ТСБМ, Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ). Укр. *лю́ди* 'людзі', 'просты люд', 'мужчыны', рус. *лю́ди* 'людзі', 'падданыя', ст.-рус. *людиѥ, люди* 'вольныя людзі', 'сведкі', 'ніжэйшы слой грамадства', 'падданыя, служба', польск. *ludzie* 'людзі', ст.-польск. 'падданыя', 'сяляне', каш. *lëẓe* 'служанкі, слугі', палаб. *l'äud'e,* н.-луж. *luźe,* в.-луж. *ludźo, ludźe* 'людзі', 'публіка'; чэш. *lidé,* ст.-чэш. *l'udé, l'udie,* славац. *l'udia,* усх. *l'uзе* 'тс'; славен. *ljudję̂* 'людзі, люд', 'слугі', серб.-харв. *љу̑ди* 'тс', 'падданыя', 'грамадзяне', макед. *луѓе* 'людзі', *луди, људи* 'сям'я', балг. *люде, люди, людйе, луге, лугьó,* ст.-слав. **людиѥ** Прасл. *l'udьje*<і.-е. **leudheies.* Да *люд* (гл.) (Фасмер, 2, 545; Слаўскі, 4, 368—369; БЕР, 3, 577; Трубачоў, История терм., 168—170; Шустар-Шэўц, 12, 867).

**Людзя́ный** 'людскі, ветлівы' (Клім., Мат. Маг.). Да прасл. *l'uděnъ(jь)* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 190).

**Людзя́ць**$_1$ 'гасцяваць' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Балтызм (калька), параўн. літ. *žmonẽtis* 'тс'<*žmónės* 'людзі'.

**Людзя́ць**$_2$, *людзя́цца* 'жыць, апранацца па-людску' (воран., Сл. ПЗБ). Відавочна, таксама ўтворана паводле літ. *žmõginti* 'ачалавечваць', *žmonẽtis* 'кантактаваць з людзьмі'.

**Людзя́чы** 'ўдалы, добры' (ваўк., Сцяшк. Сл.), кам. *людя́чый* (Сл. ПЗБ) з суфіксам *-яч-ы,* як *дзіця́чы.* Да *лю́дзі* (гл.).

**Лю́дны** 'мнагалюдны, шматлікі; такі, дзе звычайна бывае многа прахожых і праезджых' (ТСБМ, Нас.), 'прыхільны да сваякоў' (Жд. 1, Сл. ПЗБ), 'таварыскі' (Ян.), 'прыстойны, добры, людскі' (ТС, Сл. ПЗБ). Да прасл. *l'udьnъ* (<*l'udъ*) 'які датычыць народа, звязаны з людам, людскім зборышчам', 'уласцівы людзям' (Слаўскі, 4, 365). Сюды ж *людно* 'людна' (ТС), 'прыстойна, па-чалавечы' (Нік.), *людне́ць* 'станавіцца людным, лепшым, выхаваным', 'набываць якасці чалавечнасці, ветлівасці, пачцівасці' (Нас., Янк. 3, ТСБМ).

**Лю́днасць** 'уласцівасць люднага, мнагалюднасць', 'жыхары, насельніцтва', 'колькасць людзей' (ТСБМ, Нас.), *людно́сць* 'людзі' (дзятл., Сл. ПЗБ). Да прасл. *l'udьnostь.*

**Людскавацца** 'выстаўляцца для агляду, на людзі' (КТС, М. Лужанін), 'быць сярод добрых людзей, у добрым таварystве' (Шат.). Адпрыметнікавае рэгіянальнае ўтварэнне. Да *лю́дскі.* Сюды ж *людскаваць* 'быць у прыязных адносінах' (КТС, І. Гурскі), *людскаваты* (КТС, А. Кулакоўскі).

**Людска́я** 'памяшканне для прыслугі пры панскім маёнтку' (ТСБМ). Відавочна, з рус. *людска́я* 'тс'.

**Людскі,** *лю́цкій, лю́цькі, лю́дзкі, людськэ́й* 'у якога высокая мараль, сумленны, шляхетны, зычлівы', 'чалавечы', 'прыстойны', 'добры, прыгодны для чаго-небудзь', 'людскі, чужы', 'як у людзей', 'ветлівы', 'асабісты' (Нас., Шат., Бяльк., ТСБМ, ТС; КЭС, лаг.), *лю́дзка* 'прыстойна, як у людзей' (Шат.), *лю́дско* 'добра, удала' (Сцяшк.); *лю́дскі* 'які належыць людзям', 'уласцівы людзям', 'уласцівы ніжэйшаму класу грамадства', 'прызначаны для прыслугі', 'меладычны (музыка)' (ТСБМ, Нас., Мат. Гом.; КЭС, лаг.); 'сялянскі' (шальч., драг., Сл. ПЗБ); ст.-бел. *людъскый* 'чалавечы, людскі, які мае месца



7. Зак. 1005.

сярод людзей', а з XVI ст. узнікае значэнне 'чалавечы, гуманны' (Будлахаў, Гіст., 119). Да прасл. *l'udьskъ*<*l'udьje, l'udъ*> *людзі, люд* 'уласцівы людзям', якому адпавядаюць літ. *liáu-diškas* 'народны', лат. *l̥audisks* 'людскі' (Слаўскі, 4, 369—371). Сюды ж больш новая лексема адцягненага значэння *людскасць, людзкость* 'чалавечнасць, свецкасць, спагадлівасць', 'уменне жыць з людзьмі' (Нас., Касп., Гарэц., ТСБМ, ТС), 'далікатнасць, шляхетнасць' (КЭС, лаг.).

**Лю́дства** 'чалавецтва, народ' (Гарэц., Нас., Др.-Падб., Яруш.). Укр. *людство,* рус. *людство,* польск. *ludztwo,* в.-луж. *ludstwo,* чэш. *lidstvo,* славац. *l'udstvo,* славен. *ljûdstvo,* серб.-харв. *љŷдство.* Прасл. *l'udьstvo.* Да *люд, лю́дзі* (гл.). Аб суфіксе *-ьstvo* гл. Мее (Общеслав., 296).

**Люз** 'невялікі прамежак паміж чым-небудзь' (брасл., драг., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *luz* 'зазор, шчыліна'. Гл. таксама наступнае слова.

**Лю́зны** 'шырокі, свабодны' (смарг., дзятл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *люзный, лезный, лиозный* 'вольны, селянін, які не меў пастаяннага месца пражывання' (XVI ст.), запазычана са ст.-польск. *luźny, lóźny, loźny* 'свабодны, які цесна не прылягае', якія з с.-в.-ням. *lôs* 'вольны, адарваны, слаба прымацаваны', *lose* 'свавольны'<і.-е. *leu-s-* 'аддзяляць, адрываць, адрэзваць' (Булыка, Запазыч., 192; Слаўскі, 4, 393—394). Суч. *люзны* магло быць нядаўна запазычана другі раз.

**Люк** 'адтуліна (звычайна з векам) для пранікнення ўнутр або на паверхню чаго-небудзь' (ТС), 'лаз у пограб' (клім., Мат. Маг.). Запазычана з рус. *люк* 'тс', якое ў пач. XVIII ст. *(люйк)* з гал. *luik*<с.-н.-ням. *lûke* (Фасмер, 2, 545).

**Лю́каць** 'моцна крычаць дзе-небудзь, напр., у лесе' (Мядзв.), 'нападаць на каго-небудзь з лаянкай, з пагардлівымі воклічамі', *лю́канне* 'нападзенне з лаянкай', *лю́кнуць* 'крыкнуць на каго-небудзь' (Нас.), смал. *лю́канья* 'нападзенні з крыкам і лаянкай', *люкать* 'тс', *лю́кнуть* 'крыкнуць, вылаяўшыся'. Гукапераймальнае. Параўн. рус. кур., тамб. *люлю́кать* 'нацкоўваць сабак, падахвочваючы іх гаўкаць і бегчы за зверам'.

**Люкс** 'нешта асабліва багатае, раскошнае, дабраякаснае' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 89), запазычана з рус. мовы, хаця не выключана магчымасць польск. крыніцы, параўн. *luks, luksus* 'раскоша', 'каштоўная, прыгожая рэч'.

**Люксовы** 'дабраякасны' (гродз., Сцяшк. Сл.) — са скарочанага польск. *luksusowy* 'раскошны'<лац. *luxus* 'свавольства, распуста', 'марнатраўства', 'раскоша'.

**Лю́лі!** *лю́лі-лю́лі!* — прыпеў у песні-калыханцы, ужываецца пры закалыханні дзіцяці (Нас., ТСБМ). Укр. *лю́лі, лю́лі-лю́лі,* рус. *люли́, люлю́,* польск. *lu-lu, lu-li,* чэш. *luli,* серб.-харв. *љŷ, љŷ,* балг. *люли, лю-лю.* Выклічнік мовы дзіцяці.



Параўн. падобныя літ. *liū̃lia, liū̃li,* лат. *lul̃luo, lul̃lu, lul̦lu,* ням. *lullull,* швед. *lulla,* а таксама ст.-інд. *lṓlati* 'рухаецца туды-сюды' (Фасмер, 2, 545—546; Слаўскі, 4, 349; БЕР, 3, 578). Сюды ж *люлінькі, люлічкі* 'спаць' (Нас.), *люляшынкі* 'тс' (Федар. Дад.).

***Люліць,** пін *люлі́ты* 'лашчыць, любіць' (Булг.), *люля́ны* 'дагледжаны' (гродз., Сцяшк. Сл.). У выніку семантычнага пераносу ў лексемы *люляць* 'калыхаць'>'клапаціцца'> 'лашчыцца'.

**Люлька**₁ 'прылада для курэння' (ТСБМ, Мядзв., Гарэц., Др.-Падб., Мал., Бес., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.). У Беларусь гэта слова магло трапіць праз укр., рус. ці польск. мовы. Першакрыніца — тур. *lüle,* азерб. *lülä* 'люлька, галоўка люлькі', якія з перс. *lūlä* 'тс' (Фасмер, 2, 546; Слаўскі, 4, 378; Козыраў, Тюркизмы, 11). Сюды ж *люлечка, люлечны, лю́лькавы* (ТСБМ).

**Лю́лька**₂, *люля* 'калыска' (ТСБМ, Гарэц., В. В., Др.-Падб., Бяльк., Нас., Растарг., Шат., Касп., Ян., ТС), 'тс', 'каляска ў матацыкла' (Сл. ПЗБ). Укр. *лю́лька, лю́ля,* рус. *лю́лька, лю́ля, лю́ленька* 'тс', *люлечка* 'карзіна для збору ягад', 'кошык', дан. 'сядзенне на драбінах', перм. 'сядзенне на дрэве ў выглядзе памоста пры паляванні на мядзведзя'; польск. *lula,* бельск., усх.-польск. *lulka,* серб.-харв. *љŷља љŷлька* 'калыска', 'арэлі', макед. *лулка, l'ul'ka* 'арэлі', балг. *люлка* 'арэлі', 'калыска', радопск. 'посцілка для нашэння дзяцей за плячыма'. Прасл. *l'ul'ьka* 'калыска'<*l'ul'ati*>*люляць.* Найбліжэйшы адпаведнік — літ. *liūlė̃* 'калыска'. Параўн. *калыска — калыхаць, зыбка — зыбать.*

**Лю́лька**₃ 'лічынка' (малар., Анох.). Відавочна, з *ля́лька* (гл.). Сюды ж *люлюшка* 'адростак на храпцы ў выглядзе невялікага качана' (паст., Сл. ПЗБ).

**Люля́к** 'дурнап'ян, Datura stramonium L.' (ваўк., Сл. ПЗБ). Назва паходзіць з польск. *lulek* 'чорны блёкат, Hyoscyamus niger L.', запазычанага праз ст.-в.-ням. *(lolli)*>с.-в.-ням. мову (дзе *lulch, lulich*>ням. *Lolch* 'жыцік' з лац. *lolium,* якое называла не толькі расліну жыцік ап'яняючы 'Lollium temulentum L.', але і іншыя атрутныя, адурманьваючыя расліны (Махэк, Jména, 206; Слаўскі, 4, 377—378).

**Люля́ць** 'рытмічна гойдаць', 'калыхаць дзіця' (ТСБМ, Шат., Ян.; дзятл., Сл. ПЗБ), драг. *люляты* 'тс' (Клім.). Укр. *люля́ти* 'закалыхваць дзіця', рус. *люлькать,* польск. *lulać,* в.-луж. *lulać,* чэш *lulati,* усх.-славац. *l'ul'ac,* серб.-харв. *љŷљати,* макед. *лулам,* балг. *люле́я* 'тс'. Прасл. *l'ul'ati* 'ўсыпляць дзіцё спевам і калыханнем'. Утворана ад выклічніка *lu-lu*>*люлі!* (гл.). І.-е. адпаведнікі: літ. *liūliúoti* 'закалыхваць', 'хістацца', 'калывацца, калыхацца', ст.-інд. *lṓlati* 'рухацца туды-сюды', ням.

*lullen*, англ. *lull* ’тс’. І.-е. **leu-* (Слаўскі, 4, 376—377; Фасмер, 2, 545—546; Скок, 2, 287; БЕР, 3, 578; Шустар-Шэўц, 12, 868; Махэк$_2$, 343; Бязлай, 2, 156; Трубачоў, Эт. сл., 15, 210—212).

**Лю́ма** ’плакса’ (докш., Янук.). Да рус. *рю́ма* ’тс’, якое лічыцца гукапераймальным, звязаным з *реве́ть* (Фасмер, 3, 533). Параўн. яшчэ і рус. сімб. *лю́ниться* ’ўвесь час плакаць, тужыць’, рус. *ню́ні.*

**Лю́мза** *(экспр.)* ’плаксун, плаксуха’ (кобр., Нар. лекс.). Да *ру́мза* ’тс’, якое Фасмер (3, 533) лічыць гукапераймальным.

**Лю́ннік** ’сведка на шлюбе’ (усх.-палес., Маш.). Літуанізм. Параўн. літ. *liùdininkas* ’сведка’, у якім пасля выпадзення *-i-* зычныя *-dn-* у выніку асіміляцыі змяніліся ў *-нн-*.

**Люн,** *лю́на, люна́, лю́ны, люны́, луні́, люні́* ’багна, дрыгва’, ’зыбун’ (швянч., ігн., брасл., трак., астрав., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *люнъ* ’дрыгва’, а таксама рус. ёнаўск. *лю́ны* ’стаўкі, якія зараслі травой’, ст.-польск. *lun, luń* ’забалочаная зямля’ — усе паходзяць з літ. *liū̃nas* ’дрыгва, зыбун’. Адносіцца да ліку позніх запазычанняў (Талстой, Лекс. балт., 46; Лаўчутэ, Сл. балт., 32; Булыка, Лекс. запазыч., 209).

**Лю́нскі** ў выразе *люнскае сукно* ’замежны’ (Нас.), ст.-рус. *лунское (лундское) сукно* ’англійскае сукно’, *лундышъ, лундушъ, люндышъ,* ст.-чэш. *lúnský*, ст.-польск. *luneński, luński, lundysz* — усе з с.-ням. *lundisch*, устар. *lündsch, lünsch* ’англійскае сукно з Лондана<*Lunden* ’Лондан’. Бел. назва ўзята з польск. *luńskie sukno*. Насовіч (275) памылкова выводзіць гэты прыметнік з назвы горада Лейдэн. Ст.-бел. *люндышъ, лундышъ, люндишъ* ’гатунак сукна’ (1578 г.) запазычаны са ст.-польск. *lundysz* (Булыка, Лекс. запазыч., 107).

**Лю́нуць** ’хлынуць’, ’накінуцца гуртам, каб зрабіць штонебудзь’ (Юрч. Вытв.), польск. *lunąć*, серб.-харв. *љу̏нути* ’хлынуць’. Прасл. *l’ unǫti*<выклічнік *l’u* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 214).

**Лю́пацць,** кам. *лю́патэ* ’ўпарадкоўвацца’ (Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, гукапераймальнае. Параўн. рус. пск., цвяр. *лю́пать* ’шлёпаць па гразі’.

**Люпі́н** ’лубін’ (ветк., Мат. Гом.). З рус. *люпи́н* ’тс’. Сюды ж *люпі́нішча* ’лубінішча’ (там жа).

**Лю́ра** ’ліра, беларускі народны струнны музычны інструмент з клавішамі і корбай’ (Мал.). Да *лі́ра* (гл.). Пераход *і*>*ю* адбыўся, відаць, на бел. тэрыторыі, а не працяг ст.-грэч. λύρα ’ліра, лютня’. Аб такім пераходзе гл. Карскі (1, 225).

**Лю́рба** ’тоўстая трэска’ (трак., віл., іўеў., шальч., Сл. ПЗБ), шальч. ’тоўсты пласт зямлі’, ’тоўсты кавалак сала’, польск. *lurba* ’тоўстая трэска’, рус. ёнаўск. *лю́рба* ’неахайны



чалавек’. Запазычаны з літ. *liùrba* ’тоўстая трэска’, *liùrba, liùrbis* ’тупы, разява’, ’няўклюдны або неахайны чалавек’ (Грынавяцкене і інш., Liet, term., 182; Лаўчутэ, Сл. балт., 32). Сюды ж ваўк. *лю́рба* ’твар’ (Сцяшк. Сл.).

**Люстра**$_1$ ’адшліфаваная паверхня шкла, металу, здольная даваць адбіткі прадметаў, якія знаходзяцца перад ёю’, ’паверхня, плошча чаго-небудзь’ (Нас., Грыг., Гарэц., Бяльк., Касп., Растарг., ТСБМ, Яруш.; маг. КЭС), *лю́стро* ’тс’ (ТС), *лустэрка, люстэрко, люстэрак, лю́страчка, лістэрка* (Сл. ПЗБ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Мядзв., Сцяшк.; КЭС, лаг.; капыл., Жыв. сл.). Запазычана з польск. *lustro* ’тс’, якое з італ. *lustro* ’бляск, водбліск’ (Слаўскі, 4, 385; Кюнэ, 73; Арашонкава, БЛ, 12, 49). Сюды ж *люстрава́цца, люстрава́ць* ’блішчэць, адсвечваць’, ’адлюстроўвацца’, *люстра́ны* ’з бліскучай паверхняй>*люстраніць* (ТСБМ; Васілеўскі, БЛ, 10, 17). Гл. таксама *ю́стра, ю́стро.*

**Лю́стра**$_2$ ’падвесны, асвятляльны прыбор з некалькімі крыніцамі святла’ (ТСБМ). З рус. *лю́стра* ’тс’, якое праз ням. *Lüster* або непасрэдна з франц. *lustre* ’тс’<лац. *lustrāre* ’асвятляць’ (Фасмер, 2, 546; Крукоўскі, Уплыў, 79).

**Люстра́цыя** ’перыядычнае апісанне дзяржаўных маёмасцей з мэтай вызначэння іх прыбытковасці у зах. губернях царскай Расіі’ (ТСБМ), ст.-бел. *люстрация* ’праверка, інспекцыя’ запазычана са ст.-польск. *lustracja* ’кантроль, агляд’, якое з лац. *lūstrātiō* ’агляд’<*lūstrāre* ’рабіць агляд, прыглядацца, аглядаць, вандраваць’ (Слаўскі, 4, 386; Булыка, Лекс. запазыч., 31). Крукоўскі (Уплыў, 80) памылкова называе крыніцай запазычання рус. *люстрация.*

**Люстры́н** ’тонкая шарсцяная ці паўшарсцяная тканіна з глянцам’ (ТСБМ). Запазычана з франц. мовы праз польскую, дзе *lustryna* ’тс’. Паводле Крукоўскага (Уплыў, 79), запазычана з рус. *люстрин* ’тс’, якое з ням. *Lüstrin* або непасрэдна з франц. *lustrine*<*lustr* ’бляск’ (Фасмер, 2, 546; Слаўскі, 4, 386).

**Люсь!** ’пра ліццё вады’ (зэльв., Жыв. сл.). Гукапераймальнае.

**Лю́таваць** ’праяўляць жорсткасць’, ’праяўляцца з вельмі вялікай сілай’ (ТСБМ, Др.-Падб., Гарэц., Растарг.). Да *лю́ты* (гл.).

**Лютава́ць** ’паяць’ (нясв., дзярж., Нар. словатв.). З польск. *lutować* ’тс’, якое з с.-в.-ням. *loeten*, ням. *löten*<с.-в.-ням. *lōt*, сілезск. *lutt*, ням. *Lot* ’сплаў металаў, які служыць для іх спайкі’ (Слаўскі, 4, 390). Гл. таксама *літава́ць.*

**Лютае́ж** ’жывёла, якая дрэнна есць’ (гродз., Сцяшк. Сл.), ’пераборлівы ў ядзе чалавек’ (Сцяц.). Да прасл. *l’uto(j)ědjь* (Трубачоў, Эт. сл., 15, 226).

**Лю́тар** 'бязбожнік' (Сцяц.), ст.-бел. *лютаръ, лютеръ, люторъ, лютеранинъ* (XVI ст.) 'лютэранец', якія са ст.-польск. *luter, lutaranin, luteryjanin.* Утвораны ад прозвішча Марціна Лютэра — *Luther,* дзеяча нямецкай Рэфармацыі. Праціўнікі вучэння Лютэра зблiжалі яго прозвішча з прыметнікам *люты,* параўн. *лю́тыр* 'мучыцель, кат' (Нас.), са значэннем 'чужынец': палес. оўруцк. *лю́трі* 'іншаверцы'>'чужаземцы' (Булыка, Запазыч., 192).

**Лютві́н** 'літвін' (Мал.). Да *ліцвін* (гл.). *Лю-* замест *лі- (лы-),* магчыма, пад уплывам народнай этымалогіі са словам *лю́ты.* Аб аналагічным пераходзе гл. таксама *лы́нуць.*

**Лю́тка,** *люткі* 'гарошак балотны, Lathyrus pratensis L.' (Кіс., Дэмб. 1, Касп.). Да *люцік* (гл.). У рус. гаворках лексемай *лютик* называецца з паўтара дзесятка розных раслін; цвяр., вяц. *лютки* 'грушанка, Pyrola secunda L. i Pyrola uniflora L.' У славац. гаворках для гарошка балотнага зарэгістраваны назвы: *džuk, d'uk, džukova nacina,* i, калі ўлічыць суседняе ўкр. *дюг* 'злы дух', можна меркаваць, што і назва *лю́тка* звязана з прыметнікам *люты* 'злы'. Аднак аб сувязі гэтай расліны са злым духам нічога не вядома (Махэк, Jména, 127—128).

**Лю́тня** 'струнны шчыпковы музычны інструмент' (ТСБМ), ст.-бел. *лютня, лютина* (XVI ст.), запазычана са ст.-польск. *lutnia* 'тс', 'сузор'е', якое з с.-в.-ням. *lūte* (суч. ням. *Laute*)< італ. *liuto,* ст.-франц. *leüt*<араб. *al-'ūd* 'тс' (Слаўскі, 4, 389; Булыка, Лекс. запазыч., 166). Сюды ж ст.бел. *лютниста* 'лютніст' (XVII ст.), якое са ст.-польск. *lutnista*<с.-в.-ням. *lūtenist* (Булыка, там жа, 159), а таксама бел. *лютневы* (аб музыцы) і *лютнёвы* 'тс' (ТСБМ, Др.-Падб.).

**Лю́тневы** 'лютаўскі' (Гарэц.). Паводле гэтага ўтварэння прыметніка можна дапусціць зыходную форму назвы месяца лютага $^{+}$*люцень.* Такую форму *lucień* рэканструюе Слаўскі (4, 362) паводле прыметніка *lutniowy* і разам з укр. *лютень (лютневий)* выводзіць праформу *l'ut-ьn-jь.*

**Лю́ты** 'злы, крыважэрны (пра жывёл)', 'жорсткі, бязлітасны', 'кровапралітны', 'невыказна цяжкі', 'суровы, крайне строгі', 'вельмі моцны ў сваім праяўленні', 'сіберны (пра з'явы прыроды), рэзкі, халодны' — адсюль і назва другога месяца каляндарнага года — *люты* (Нас., Бяльк., Шат., Гарэц., Бес., Яруш., ТС, ТСБМ). Булахаў (Гіст., 121—122) для ст.-бел. *лютый* вылучае наступныя значэнні: 'дзікі, неўтаймаваны, драпежны (звер)', 'раз'юшаны, шалёны (чалавек)', 'вельмі жорсткі, крывавы, кровапралітны (бой, зброя, сеча)', 'бязлітасны, пакутлівы, вельмі цяжкі (стан здароўя)', 'надзвычай халодны, марозны (зіма, другі месяц года)'. Укр. *лю́тий,* рус. *лю́тый, лютóй,* польск. *luty* азначаюць 'строгі, дзікі, бязлітасны, жорсткі', 'халодны, марозны' і 'другі месяц зімы'; толькі ў серб.-харв. гаворках *лути* мае апошняе значэнне; у іншых мовах: чэш. *litý,* ст.-чэш. *l'utý,* славац. *l'úty,* славен. *ljût,* серб.-харв. *љу̑т,* макед. *лут,* балг. *лют,* ст.-слав. **лютъ** абазначаюць 'дзікі, злы, востры, строгі, бязлітасны, крыважэрны, крохкі, ломкі, кіслы, вельмі горкі, нязносны, атрутны' і да т. п. Прасл. *l'utъ,* якое зблiжаюць з кімр. *llid* (<*lūto 'гнеў, раз'юшанасць'), з тах. прыслоўем *lyutār* 'вельмі'. Трубачоў (Эт. сл., 15, 236) суадносіць яго з і.-е. **leu-*, **leu̯ə-*, **lēu-*, 'аддзяляць'. Іншыя менш імаверныя версіі і л-ру гл. Фасмер (2, 547), Скок (2, 340—342), Бязлай (146), БЕР (3, 581—584). Сюды ж *лю́тасць* 'люты, раз'юшаны, гнеўны стан' (ТСБМ). Аб бел. *палютый,* укр. *палютий* — назвах 13-га месяца паміж зімой і летам (вясной) гл. Шаўр (Этимология-71, 93—101). Аб выразе *лютый звѣрь* 'дзікая жывёла (леў, барс, мядзведзь і інш.', 'казачная жывёла (змей, **гривь**)' гл. артыкулы Сумнікавай, Сабаляўскаса і Іванава ў БСИ, 1984, 59—79.

**Люць** 'лютасць' (Нар. Гом.), укр. *лють* 'вялікі холад', рус. уладз., калуж., маск. 'моцны мароз', серб.-харв. *љу̑т, l'ut* 'сцюжа', 'стромая скала', 'голы камень', ст.-чэш. *l'ut.* Прасл. *l'utь.* Да *лю́ты* (гл.).

***Люцізна,** *лютызно* 'пераборлівы' (Клім.). Да *лю́ты* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 103).

**Лютэрка** *(ж.)* 'драўлянае маленькае колца калаўрота, якое знаходзіцца побач са шпулькай і перадае ёй рух вялікага кола' (в.-дзв., Шатал.). Да *мутэрка* (гл.). Параўн. таксама *лiтэрка.*

**Лю́фа** 'ствол', 'частка ружжа і снарада' (Бес.). Запазычана праз польск. мову (дзе *lufa* 'тс') з ням. *Lauf* 'ствол', 'бег' — уласна ствол надае кірунак (=бег), палёт снарада (Слаўскі, 4, 372; Чартко, Бел. лінгв. зб., 151).

**Люфт**$_1$ гара ў хаце' (астрав., Сл. ПЗБ). Да *люхт* (гл.).

**Люфт**$_2$ 'зазор паміж часткамі машыны' (ТСБМ). З рус. мовы, дзе *люфт* 'тс' як тэхнічны тэрмін быў запазычаны з ням. *Luft* 'зазор, шчыліна'.

**Люфтачка** 'фортка ў акне' (іўеў., Сцяшк. Сл.) узнікла ў выніку кантамінацыі *лю́фцік* і *фортачка* (гл.).

**Лю́фцік** 'фортачка' (Сцяшк., Сцяц.; смарг., Сл. ПЗБ; навагр., З нар. сл.) запазычаны з польск. *lufcik* 'тс' (Слаўскі, 4, 373).

**Люх** 'хам, некультурны чалавек' (Растарг.), рус. вяц. перм. *люша* 'мурза, неахайніца'. Відаць, генетычна звязана з літ. *liaũsius* 'гультай, нядбайны', *liaušỹs* 'гультаяваты' (Фасмер, 2, 547).

**Лю́ха**$_1$, *люхá* 'адтуліна для выхаду дыму ў курнай хаце' (віл., Сл. ПЗБ) паходзіць з *веха* (параўн. *вéха*$_3$, *вяхá*$_1$ 'ве-

хаць', польск. *wiecha* 'пучок саломы', чэш. *věch, vích* 'саламяны жмут' і інш., якія пад уплывам запазычаных *люхт, лю́хта* змянілі пачатковае *ве-* на *лю-* (кантамінацыя). У выніку далейшай кантамінацыі вешка 'пучок саломы' (якой затыкалі адтуліну) і *люшка* атрымалася, напр., рус. *вьюшка*.

**Лю́ха**$_2$ 'падвал, сутарэнне' (Шпіл.). Да *лёха, лёх* (гл.).

**Лю́хвік** 'станік' (мазыр., Шатал.). Да *ліф, ліфік* (гл.).

**Люхну́ць** 'лінуць (пра вялікі дождж)' (шчуч., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнае. Да *люх-люх-люх!* — аб вадкасці, якая л'ецца (там жа). Параўн. *плюх-плюх!* 'тс', рус. пск., цвяр. *люпа* 'запэцканы, з мокрай часткай адзення ззаду'~*лю́пать* 'мачыць, пэцкаць граззю'.

**Люхт,** *лю́хцік, лю́хта, лю́хтачка, лю́кта* 'дымавы ход у печы, грубцы', 'юшка ў коміне', 'гара ў хаце', 'адтуліны ў падмурку', 'адтуліна для выхаду дыму ў курнай хаце', 'душнік, прадуха ў лазні', 'нешта лёгкае, паветранае', 'фортачка' (Сцяшк., В. В., Касп., Бяльк.; КЭС, лаг.; ветк., чачэр., Мат. Гом.; лунін., в.-дзвін., Шатал.; навагр., Жыв. сл.; бых., Мат. Маг.; Сцяшк. Сл.). Запазычаны з с.-в.-ням. *luft* і с.-н.-ням. *lucht* 'паветра, адтуліна, акно' (суч. ням. *Luft*) праз польскую мову, у якой *luft, lucht, lukt* абазначаюць 'праход у коміне, печы', 'паветра, цяга паветра' (Слаўскі, 4, 372—373; Чартко, Бел. лінгв. зб., 147, 149).

**Люхткі** 'буйны шрот' (навагр., Сл. ПЗБ). Магчыма, з *лю́фа* (гл.).

**Люцы́пар,** *люцыпер* 'д'ябал' (Гарэц., Др.-Падб., Нас., Бяльк.), ст.-бел. *люциферъ, люциперъ, люцыперъ* 'тс' (XVII ст.), запазычаны са ст.-польск. *lucyper, lucyfer* (лац. *lūcifer* 'той, хто прыносіць святло': *lūx, lūcis* 'святло', *ferre* 'несці'), 'д'ябал', ст.-польск. і 'Венера'. У некаторых айцоў царквы — гэта імя ўзбунтаванага анёла, скінутага ў пекла. Аналагічна і франц. *lucifer* 'сатана', 'Венера' (Слаўскі, 4, 362—363; Кюнэ, 73; Зайцава, Лінгв. дасл., 69; Булыка, Лекс. запазыч., 176).

**Люцэрна** 'травяністая кармавая расліна, Medicago falcata L.' (Кіс., ТСБМ, Бяльк., Сцяшк.). Запазычана з польск. *lucerna* 'тс', якое з ням. *Luzerne*<франц. *luzerne* 'тс'<лац. *lucerna* 'лямпа, ліхтар'<*lūcēre* 'свяціць, быць ясным'. Матывацыя наймення не зусім ясная. Слаўскі (4, 362) мяркуе, што насенне яе адрозніваецца жоўтай бліскучай паверхняй, а жоўтыя кветкі выглядаюць яскрава; на пач. XVII ст. была польск. калька *kaganiec* 'тс' (Гэтак жа БЕР, 3, 585). Махэк (Jména, 121) выводзіць назву расліны з назвы швейцарскага горада *Luzern,* параўн. харв. назву люцэрны *švajcarska djetelina*.



**Лю́шка** 'юшка, засаўка, што закрываюць комін' (Касп., Сцяшк., Жд. 1, Сл. ПЗБ, ТС; валож., Жыв. сл.; шчуч., Нар. лекс.; в.-дзв., Шатал.; нараўл., Мат. Гом.). Да *лю́ха*$_1$ (гл.).

**Лю́шня,** *люшня́* 'падпорка ручак у калёсах, якая абапіраецца на вось' (Бес., Мікуц., Сцяц., ТС, Выг. дыс., Сцяшк., Мат., Сцяшк. Сл.; лоеў., Мат. Гом.; Сцяц. Словаўтв.; пін., КЭС). Запазычана з польск. *luśnia,* якое з с.-в.-ням. *liuhse,* параўн. яшчэ н.-в.-ням. (баварск., швабск.) *leuchse,* гесенск. *līse, liehs* 'тс' (Фасмер, 2, 547; Слаўскі, 4, 388; Махэк$_2$, 336); аб пашырэнні рэаліі і яе назваў у Еўропе гл. БЕ, 21 (2—3), 227. Клец. *лю́шня, лю́шні* 'доўгія рукі' (Нар. лекс.) аформлена паводле *клешня, клешні.*

**Люшня́** 'ляўша' (свісл., Сл. ПЗБ). Да *ле́вы* (гл.). Аб суфіксе *-шн-я* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 134). Параўн. таксама і зэльв. *левушня́* 'тс' (Сцяц.).

**Лю́шчына** 'непатрэбная рэч, прадмет' (міёр., Нар. словатв.). Утворана ад прасл. асновы *lusk-/luzg-* 'лушпайкі, лупіна'. Да *лушчыць* (гл.). Пачатковае *л'-,* як у серб.-харв. *љу̏скати* ці балг. *люште* 'лушчыць'.

**Лю́шыць** 'ліць, як з вядра (пра дождж)' (смарг., Сл. ПЗБ). Узнікла ў выніку кантамінацыі выклічніка *люх-люх-люх* (гл. *люхнуць)* і *ю́шыць* 'ліцца ручаём (аб крыві)', параўн. драг. *ю́шытэ* 'тс', якое з польск. *juszyć*<прасл. *juxa*>*юха, юшка* (гл.).

**Ля**$_1$ 'каля' (ТСБМ, Мікуц., Мал., Мядзв., Касп., Шат., Бяльк., Я., Сл. ПЗБ), укр. чарніг. *ля* 'тс' — скарочаная форма другаснага прыназоўніка *каля,* які паходзіць з прасл. *kolo,* па форме — роднага склону назоўніка *kolo* (ESSJ SG, 1, 88—91; Шуба, Прыназоўнік, 41—43).

**Ля**$_2$ 'глянь, бач', якое стала ў некаторых гаворках пабочным словам (Сцяшк., Сл. ПЗБ). Як пабочнае слова вядома і ва ўкр. гаворках. Скарочанае *глянь,* ад якога адпала пачатковае *г-* (Карскі, 1, 371; ён жа, Труды, 380), пасля канчатак.

**Ля**$_3$, палес. *ля мэ́нэ* 'дзеля мяне, паводле мне' (драг., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), 'для' (Касп., Ян., Мікуц.; ельск., Мат. Гом.). Да *для* (гл.). Узнікла ў выніку адпадзення *д-* перад *-л-* (Карскі, 1, 352). Аб узнікненні *для* шляхам перакрыжавання прасл. *dl'a* (<*děl'a*) і *dъl'a* 'даўжыня' гл. ESSJ SG, 1, 55—59; Трубачоў, Эт. сл., 4, 234—235; SP, 3, 154—156). Аб ужыванні варыянтаў-сінонімаў *для~дзеля* гл. Шуба (Прыназоўнік, 41).

**Ля́балацце,** *ляболацце, ля́балаць, лябалотнічча, лявў́збалаць, ля́збалацце, лябалоцічча, ляпоўзбалацішча, ляў́зкалюбалацце, ля́ўзбалацце* 'сенажаць, лес, кусты каля балота' (слаўг., Яшк.). Да *ля*$_2$+*з-(-уз-, -пайз-)* і *балота* (гл.).

**Лябёдка**$_1$ 'машына для падымання і перамяшчэння грузу' (ТСБМ, Сцяшк.). Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 72), дзе ўтворана ад *ле́бедь* (птушка). Аналагічна ў ням. *Kran* — *Kranich,* франц. *grue,* чэш. *jeřab* 'журавель' і 'кран' (Трубачоў — дадатак у Фасмера, 2, 470).

**Лябёдка**$_2$ 'маяран садовы, Majorana hortensis Moench'. (гродз., Кіс.). Да *лебядá* (гл.). Матывацыя: квітнеючая расліна па форме (контуру) падобна да *лебяды,* а пушыстае лісце мае такі ж шараваты колер. Параўн. падобныя назвы рус. кастр. *лебёдка* 'пустазелле ў збожжавых', варон. *лебедéц* 'стрэлкі, Capsella bursa-pastoris L.'

**Ля́біх,** *лябíх, ля́бех* 'гультай, лежань, абібок' (Мядзв., Бяльк., Растарг., Ян.; рэч., Мат. Гом.). Кантамінаваная форма, у якасці магчымых зыходных якой можна назваць: *лебахі* (аналагічная семантыка ў *лантух* 'вантробы'>'гультай'), *лямец, лімах* (гл.) і зах.-бран. *лáбза* 'тоўстая, няўклюдная жанчына, дзяўчына', арханг. *лявзá* 'някемлівы, няспрытны чалавек, разява', пск., цвяр. *лябзá, ля́бзя* 'тс', параўн. і дан., краснадарск. *лабзай* 'тоўсты, здаровы, але гультаяваты чалавек'. Аб суфіксе гл. Слаўскі (SP, 1, 70—73). Сюды ж *лябехавáты* 'непаваротлівы' (добр., Мат. Гом.).

**Лявáда** 'луг, абгароджаны для пашы жывёлы' (Нас.), 'пастаўнік у полі, лесе' (Бяльк.; ветк., Яшк.). Да *лівáда* (гл.).

**Ля́вай** 'непраходна' ў сказе: *Пасля снегу поля ляжáло ля́вай* (ваўк., Сцяшк.). У выніку кантамінацыі лексемы *лава* 'пласт, рад' і выразу *лядам ляжаць.*

**Ля́віца** *(іран.)* 'рот' (Сцяшк.). Няясна. Магчыма, звязана генетычна з рус. пск. *лáвики* 'дзясна', алан. *лавлáка* 'тс', 'сківіца' (?).

**Лявіца** 'ільвіца' (Кліх). Да *леў* (гл.).

***Лявок,** *левок* 'вылівак' (петрык., Шатал., Мат. Гом.). Утворана ад дзеяслова шматразовага дзеяння *livati,* якое ад *liti*>*ліць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 59). Параўн. таксама *вылівак* (гл.).

**Лявоніха**$_1$ 'беларускі парны народны танец' (ТСБМ, Гарэц., Мядзв., Шат., Касп.). Ад мужчынскага імя *Лявон.* Параўн. іншыя бел. народныя танцы паводле імя: *мікіта, юрачка.* Цяпер танец *лявоніха* ўспрымаецца як фальклорны. Сема фальклорнасці, самадзейнасці прысутнічае ў лексеме *лявоніха* 'самагон' (Жд. 1). Параўн. суч. размоўнае *фалькло́р* 'тс'.

**Ляворвар** 'рэвальвер' (Шат.). Сапсаванае народнае *рэвальвер,* якое (праз рус.) з франц. *revolver* 'тс'. Аднак націскное *о* падказвае нам аб іншай крыніцы запазычання — польск. *rewolwer,* якое з англ. *revolver* 'тс'.

**Лявýш,** *лявушá, лявушня́, ляўшня́* (гродз., Сл. ПЗБ), рус. *левýшá, левýхá, левоня, левош, левхá, левшá.* Да *ле́вы* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 125, 134).



**Ля́га**$_1$ 'жаба' (Рам. 3, Нар. Гом.). Рус. калуж., тул. *ля́га, лягá* 'тс'. Да *лягаць, лягáцца,* параўн. рус. паўн. *лягáть* 'біць', 'адштурхоўваць', *лягáться* 'рухацца', 'калыхацца', 'брыкацца', *ля́га* 'сцягно', *ля-д-вея* 'тс', якія з прасл. *lęgati* (польск. *ligać* 'біць нагой', чэш. *líhati* 'рухаць', укр. *лíгнути* 'ўдарыць'; і.-е. адпаведнікі: літ. *lingúoti* 'хістаць', лат. *linguôt* 'хістацца', ст.-інд. *laṅghati, laṅghayati, rējate* 'ўскоквае, скача, дрыжыць', ірл. *lingid* 'скача', ст.-в.-ням. *lungar,* ст.-англ. *lunger* 'хуткі', лац. *lumbus,* ст.-ісл. *lend* 'сцягно', ст.-грэч. *ἐλαφρός* 'лёгкі, рухомы' (Слаўскі, 4, 250; Фасмер, 2, 548; Аткупшчыкоў. Из истории, 133; ён жа, Этимология-84, 193).

**Ля́га**$_2$ 'гультай, лежабок' (Растарг.; паўд.-усх., КЭС; клім., Мат. Маг.), укр. *ля́га,* рус. смал., арл., бран. *ля́га* 'тс', польск. (з іншым суфіксам) *leguś,* каш. *legas, legan,* славац. *lehen,* серб.-харв. чак. *lêganj* 'гультай, які ўвесь час ляжыць'. Да *лягáць*<прасл. *lěgati*>*legťi*>*ле́гчы* (гл.).

**Ляг** у выразе *лягам заняць* 'залажыць горла' (Ян.), укр. *ляг, лягú, ля́гома, ля́гови* 'час класціся спаць', рус. *ляг* 'ляжачы стан', польск. *ląg* 'вылупліванне птушанят', чэш. *leh* 'ляжанне', славац. *ľah* 'тс', славен. *lệg* 'вылупліванне птушак', 'адзін заход вылуплівання'. Прасл. *lęgъ,* якое з *lęgnǫti*<*lęgti*<*legťi*> *ле́гчы* (гл.).

**Лягавáць** 'лайдачыць, ленавацца' (слонім., Сцяшк. Сл.). Да *ля́га*$_2$ (гл.).

**Лягáвы**$_1$ 'пародзісты (аб сабаку)' (Сцяшк.), ст.-бел. *лекгавый.* Запазычана са ст.-польск. *legawy pies* 'выжал — сабака, які навучаны класціся на месца і віляць хвастом тады, калі ён пабачыць птушку, на якую палююць' (Слаўскі, 4, 113—114; Фасмер, 2, 473; Булыка, Лекс. запазыч., 143; Кохман, 81).

**Лягáвы**$_2$, *люгáвы, люгáйка* 'той, хто ўхіляецца ад цяжкай працы' (Пан. дыс.; дзятл., Сцяшк. Сл.). Відаць, паланізм, параўн. польск. *legawy* 'той, хто любіць вылежвацца, гультай, соня'.

**Лягáк** 'вялікі камень' (ст.-дар., Нар. сл., Сл. ПЗБ). Да *ляжáць* (гл.). Няясная матывацыя зычнай *-г-* (а не *-ж-,* як у *ляжак*). Магчыма, у выніку намінацыі $^+$*лягавы камень*> *лягак* (?).

**Лягáра,** *ляґарэ* 'ляжак пад бярвеннямі' (Сл. ПЗБ; слонім., Нар. словатв.), *лягары́, лягерá* 'ляды, рычагі (бярвёны), прыстасаваныя для падняцця цяжару' (рэч., Нар. сл.; Мат. Гом.), 'доўгія бярвенні, па якіх выкочваюць на бераг бярвенні з плыта' (гродз., Нар. сл.; лунін., Шатал.), 'падваліны' (Сцяшк., Сцяц.; бяроз., маст., Шатал.; зэльв., Сцяц. Словаўтв.), *лігар*

'папярочка на капылах саней' (малар., Нар. словатв.). Да *лéгар* (гл.).

**Лягáцца** '(аб кані, карове) брыкацца, біцца, калоцца' (Інстр. III; слонім., Сцяшк. Сл.). Да прасл. *lęgati*. Больш падрабязна гл. *ля́га*$_1$.

**Лягáць,** *легáці, лягáтэ* 'лажыцца', 'класціся спаць' (Сцяшк., Нас., Сл. ПЗБ), *лягáтыса* 'класціся спаць' (стол., Нар. лекс.; Нар. Гом.). Ітэратыў да *ляжáць* (гл.).

**Лягаш** 'сабака, які выкарыстоўваецца пры паляванні на дзікіх птушак і звяроў' (Інстр. I). Да *лягáвы*$_1$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 32—33).

**Лягджáй,** *ляґджáй, ляжджáй, леджжай* 'від асакі, Carex L.' (свісл., маст., КЭС; Сл. ПЗБ), *ляжáй* 'тс' (асіп., рагач., бярэз., Сл. ПЗБ); 'рагоз, Typha L.' (Сл. ПЗБ). Балтызм, параўн. літ. *lagėščiai, lagesčiai, legẽstas* 'дзядоўнік, бадзяк, Cirsium oleraceum Scop.' Для гэтай назвы ў бел. гаворках існуе і глухі варыянт, характэрны для балтызмаў: *ляшч* 'тс' (там жа), *плюшчэй* 'тс' (Кіс.), падпраўлены народнай этымалогіяй ад *плюшч*.

**Лягéнне** 'вантробы' (мсцісл., Полымя, 1987, 7). Да *лёгкі, лёганёўе* (гл.).

**Лягéнь** 'рыба шчыпоўка, Cobitus taenia', 'рыба галец, Nemachilus barbatulus' (Інстр. II). Да *ляжаць*<прасл. *legti* (гл.). Параўн. і іншую назву гальца — *лéжань*.

**Лягкýшка** 'лёгкае' (Ян.), тураў *лёгкýшы, легкýшы, лёгкýша, легкýша, леўкýша* 'тс' (ТС). Да *лёгкі* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 125).

**Ля́гір** 'нікацін у люльцы' (віл., Сл. ПЗБ). З польск. *lagier* 'ляк, сок з сялёдкі' і інш. значэнні, якое Слаўскі (4, 27) выводзіць з ням. *Lagier* (<с.-в.-ням. *lëger* 'асадак у віне').

**Лягорычча,** *ля́гарре, лягары́чышча, лягорре* 'месца каля гары' (слаўг., Яшк.). Да *ля*$_1$ і *гара* з суфіксамі *-ьје* і *-išče*.

**Лягота** 'ільгота' (Шат.). Да *ільгота* (гл.). Гэтаксама паўн.-рус. *легота* 'тс'.

**Лягты́ка** 'чалавек, лёгкі на хаду' (КЭС, лаг.). Да *лягчыць, лёгкі* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 76).

**Лягýмнічча,** *легумнéчча* 'месца каля гумна або вакол яго' (слаўг., Яшк.). Да *ля*$_1$ і *гумно* (гл.).

**Лягýха,** *лягýшка, люгáшка* 'жаба' (ТСБМ, Бяльк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *ляжэнька* 'жабка' (Бяльк.), *лягуха* 'рапуха' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Да *ля́га*$_1$ (гл.).

**Лягýша** 'конь, які брыкаецца'. Да *лягáцца* (гл.). Гл. і наступнае слова. Да генетычнай тоеснасці *лягушка* і *лягацца* параўн. рус. свярдл. *лягýн* 'конь, які моцна брыкаецца' і арл., бран. *лягýн* 'самец жабы'.



**Лягýшкацца** 'гушкацца' (зэльв., Сцяшк. Сл.). У выніку кантамінацыі лексем +*лягáцца* 'калыхацца, гайдацца' (параўн. арханг., наўг., валаг. *лягаться* 'тс') і *гýшкацца* 'гойдацца'. Лексема *лягáцца* 'хістацца' з'яўляецца роднаснай з чэш. *lihati* 'рухаць, шавяліць', літ. *lingúoti* 'калыхаць' і г. д. Гл. *ля́га*$_1$.

**Лягчáй** 'вылітая ў вадзе знахарам фігура, якая дапамагае канавалам замазваць ёю рану (гарачымі легчаямі) пры кастрацыі быкоў' (Сержп., Борт.). Да *лягчáць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 23).

**Лягчáць,** *ляхчáць* 'пакладаць (жывёл)' (Нас., Бяльк., Шат., Касп., Юрч.; маладз., Янк. Мат.; ТСБМ). Рус. *легчáть, легчить*. Да *лёгкі* (гл.)>*лягчэй*>*рабіць лягчэй*>*лягчáць*. Сюды ж *лéгчыць* 'патрабаваць злучкі (аб свінні)' (Касп.), хаця семантыка разглядаемага слова значна адрозніваецца.

**Лягчэць** 'паляпшацца (аб самаадчуванні)', 'памяншацца ў вазе', 'цяплець (у безасабовай форме *лéгчаіць*)' (Нас., Касп., Яруш., ТСБМ). Да *лёгкі* (гл.), *лягчэй*.

**Ляд**$_1$ 'няшчасце, няўдача' (Булг.). Роднаснае з рус. *ляд* 'д'ябал, нячысцік, якое выводзяць з *ледачий* 'шалапутны, нічога не варты' або з польск. *ladaczy (ladacy)* 'д'ябал'. Гэта нібыта пацвярджаюць і бел. *лядашчыц* 'нячысцік', *лядашцік* 'злы дух' (Нас.). Паводле Карскага (Труды, 205), *лядъ* лічыцца таксама паланізмам, што можна аспрэчваць. Бел. *ляд* з'яўляецца працягам прасл. паўн. *lędъ* 'д'ябал', які названы так паводле яго месцазнаходжання — на лядах, параўн. аналагічна *хлеўнік, амшанік, балотнік* (Талстой, Геогр., 142—143). Развіццё семантыкі ў адмоўным напрамку, як і ў бел. *чартаўшчына* 'што-небудзь незразумелае, неверагоднае, недарэчнае', якое ад *чорт*. Бел. *ляд* мае адпаведнікі ў рус. народных гаворках са значэннямі: 'бяда, няшчасце', 'хвароба, немач', 'усё ні да чаго не патрэбнае'. Сюды ж маст. *ляда* 'цяжка' (Сл. ПЗБ).

**Ляд**$_2$ 'прагаліна на полі, дзе не ўзышло збожжа або бульба' (кам., ДАБМ, 957), 'поле на месцы высечанага лесу ці пажарышча' (пруж., Яшк.). Роднаснае да *ляда*$_1$ (гл.). Прасл. *lęd-ъ* (параўн. рус. валаг., калін. *ляд* 'нізкае балоцістае месца', 'сырая паляна', арханг. 'лядная сістэма земляробства' ўжывалася разам з *lęd-a* і *lęd-o*, як і іншыя словы з суфіксамі на *-nъ (-na, -no)* і *-tъ (-ta, -to)*,— больш падрабязна гл. Аткупшчыкоў (Из истории, 162, 163).

**Ляд**$_3$ у назве расліны *мышый ляд* 'гарошак мышыны, Vicia crassa L.' (драг., Нар. лекс.). Да *ля́да*$_2$ (гл.) або да *яд* (?).

**Ляда**$_1$ *(ж.* і *н.), ля́до, лядó, лéдо, ля́ды, ля́дзіна* 'дзялянка высечанага лесу, хмызняку; высека', 'расчышчанае месца ў лесе пад пасеў або пад сенажаць' (ТСБМ, Гарэц., Зн. Нас.,

Растарг., Шн. 2; усх.-бел. ДАБМ, к. 337), а таксама 'пакінутая зямля', 'дзікае месца', 'пожня', 'цаліна', 'поле ў кустах', 'неаранае поле са свірэпай', 'вялікае поле', 'будынак, у якім ніхто не жыве' (ДАБМ, к. 337; Яшк.; Талстой, Геогр.; Растарг.), 'месца, якое зарасло густым, маладым лесам', 'сухадольны лес', 'харошы лес', 'сасновы лес', 'востраў, дзе добра расце сасна', 'чубок лесу сярод поля', 'цёмны лес', 'месца з высечаным лесам, дзе ляжыць галлё' (Маш., ДАБМ, к. 337); *лядавіца, лядцо, лядца, лядзечка, лядцовічка* 'невялікі ўчастак ляда', *лядзішча* 'поле на высечцы' (Яшк.), 'месца, прыдатнае для ачышчэння ад зарасніку' (Нас., Доп.). Укр. н.-валын. *лядо* 'высокае месца ў лесе, дзе расце будаўнічы лес', палес. 'невялікая плошча сярод лесу'; *лядина,* ровенск. *лядо́ва (лядова́та) сосна* 'смалістая хваіна', 'стрыжань хваіны ці яліны', рус. *ля́да, лядá, дя́дина* — вельмі шмат значэнняў, большасць з якіх аналагічная да бел.; польск. *lędzina,* каш. *lëʒëna, laʒëna, ladzina* 'пожня', назвы азёраў *Lendo, Polędzie*; палаб. *l'ǫdü* 'ралля', н.-луж. *lědo, lěda, lědy* (мн. лік) 'пустка, неапрацоўваемая зямля, папар', в.-луж. *lado, lada* 'тс'; чэш. *lado, lada* 'тс', славац. *ležat' l'adom* 'ляжаць лядам'; славен. *ledína* 'аблога', *ledič* 'лясны луг', серб.-харв. *лѐдина, леди́на* 'неапрацоўваемае поле, пакрытае дзірваном', макед. *ледина* 'аблога', *лендина* 'лясная паляна', балг. *леда* 'аблога', *ле́дина, леди́на* 'тс', 'лясная паляна', ц.-слав. **лѧдина** 'аблог'. Прасл. *lędo, lędina* 'неапрацоўваемая зямля' (Слаўскі, 4, 201; Мартынаў, Лекс. взаим., 144) ці, увогуле, 'зямля, не прыдатная для апрацоўкі' (Талстой, Геогр., 137); і.-е. адпаведнікі: ст.-прус. *lindan* 'даліну', швед. *linda* 'папар', гоц. *land* 'зямля, поле', ірл. *land, lann* 'плошча, адкрытае месца' — усе да і.-е. **lendho-* (Траўтман, 157; Бернекер, 1, 705; Брукнер, 289; Фасмер, 2, 549; Махэк$_2$, 317; Скок, 2, 284; Бязлай, 2, 130; Трубачоў, Эт. сл., 14, 44—48). Мартынаў (БЛ, 6, 79) параўноўвае бел. *ляда* з літ. *lyda* 'вырубка (лесу)'. Сюды ж *ляда біць* 'ускопваць' (клім., БНТ, Лег. і пад.), *ля́дны* 'з ляда'; *лядныя сена* 'сена з ляда' (Юрч., Вытв.). Тарнацкі (Studia, 53—54) і Папоўска-Таборска (Бел.-польск. ізал., 105—106) адзначалі палес.-каш. ізалексу са значэннем 'пожня'.

**Ля́да$_2$,** *ля́до* 'гарошак плотавы, Vicia sepium L.' (нясв., КЭС; гродз., Кіс.), 'мышыны гарох' (пін., Шатал., ТС), 'віка' (Мікуц.), 'гарошак' (лях., стаўб., Сл. ПЗБ). Укр. *ляд, лядве́ць, лядвене́ць, ля́дник,* рус. *ля́двенец, ля́дник,* польск. *lędziaj, lędziej, leńdziak* і інш., якія ў слав. мовах называюць розныя расліны,— усе да прасл. *lędo* (>*ляда*$_1$) з першасным значэннем 'расліны, якія растуць на лядзе, на аблогу' (гл. Слаўскі, 4, 201—202). Пасля гэта сема замацавалася за асобнымі раслінамі.



**Ляда$_3$,** *ляды* 'бруд у хаце' (талач., КЭС), 'непарадак', 'шкода' (зах.-віц., ДАБМ, к. 337; Сл. ПЗБ), 'пустазелле' (Сцяшк.), 'пустазелле ў абмалочаным збожжы' (зах.-бел., палес., ДАБМ, к. 337; кругл., Мат. Маг.). Да *ля́да*$_1$. Талстой (Геогр., 141) уключае гэтыя лексемы ў семантычны ланцуг: 'лес'∼'лісцевы лес'∼'хмызняк'∼'сучча'∼'пустазелле ў абмалочаным збожжы'∼'смецце, бруд'. Сюды ж в.-дзв. *лядам-градам* 'у беспарадку' (Сл. ПЗБ).

**Ля́да$_4$,** *лядо* 'драўлянае карыта ў сячкарні' (гродз., брэсц., ДАБМ, к. 337; Сцяшк., Нар. лекс.), 'сячкарня' (маст., Шатал.), 'калода, на якой рэжуць касой салому для жывёлы' (пруж., кам., ДАБМ), 'набіліцы' (Сцяшк., Сцяц., Жд. 1, ЛАПП, Тарн.; пін., КЭС; Шатал., Мат. Маг., ТС, Сцяшк. Сл.; ДАБМ, к. 337), 'дзверы ў пограб, у склеп', 'прылавак у магазіне' (Растарг.; ельск., Мат. Гом.); 'верхняя частка церніцы' (маст., Сл. ПЗБ); *ляда, лядо, лядь* 'прылада для падымання цяжкіх прадметаў' (зах.-бел., ДАБМ, к. 337; Словаўтв., Нар. сл., Нар. лекс., Нар. словатв., Мат. Гом., ТС, Сцяшк., Клім. Сл. ПЗБ), *лядава́ць* 'паднімаць, класці бярвенне на воз пры дапамозе ляды' (гродз., Нар. сл., слонім., Нар. лекс.). Запазычаны праз польск. мову з ням. *Lade (Weberlade, Ladebaum)* 'скрыня, шуфляда', 'набіліцы', 'ляда для паднімання цяжкіх прадметаў', с.-в.-ням. *lada* 'скрыня', 'дыль', ст.-нарв. *hlaða* 'свіран' (Бернекер, 1, 682; Брукнер, 289; Слаўскі, 4, 20—21; Талстой, Геогр., 141—142; Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 9; Чартко, Бел. лінгв. зб., 147, 149).

**Ля́да$_5$** 'абы' (беласт., ваўк., Сл. ПЗБ). Да *леда* (гл.).

**Ляда́ік,** *ліда́ік, ліда́ек, ляда́йка, ляда́шка* 'сімптом ванітаў, непрыемнае, пакутлівае адчуванне перад ванітаваннем, моташнасць', *ліда́шна, лідаі́шна, ліда́шта* 'моташна', *ляда́ча* 'млосна, дрэнна', *лядае́к, лядая́к* 'цяжка, невыгодна, нязручна', *ляда́ко* 'дрэнна', *ляда́ка* 'тс', шчуч. 'непагадзь, вельмі дрэннае надвор'е' (Мядзв., Мікуц., Касп., Шат., Бяльк., Мат. Маг., Яўс., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ; бялын., Янк. Мат.). Сюды ж прыметнікі: *ляда́кі, ляда́йкі, ляда́ікі* 'дрэнны, нізкай якасці; пусты, непаслухмяны, абы-які', 'паганы, сярдзіты', 'плаксівы (дзіця)', 'слабы, нездаровы', 'брыдкі, непрыстойны, спешчаны', 'нікуды не варты' (Булг., Мікуц., Жд. 1, Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). Запазычана са ст.-польск. *leda jak* 'абы-як', якое складаецца з прасл. *lěda* 'толькі, абы' (польск. *lada*>бел. *леда*) і *jako* 'як'>*jaki* 'які'. Паланізмам лічыў гэту лексему і Шатэрнік (151).

**Ляда́к** 'лядзяш' (Сцяшк.). Балтызм. Параўн. літ. *ledókas, ledùkas* 'кавалачак лёду або граду'. Іншыя бел. назвы *ледзяша* ўтвораны ад *лёд* (гл.): *лядзя́к, лядзе́нь, ля́дзенне, ле́дзень, ледзяшок* 'кавалак лёду, ільдзіна' (ТСБМ, Бяльк., Юрч. Вытв.,

Мат. Гом.), 'кавалак лёду, на якім дзеці коўзаюцца, з'язджаюць з горкі' (Нік. Оч.), *лядзіна* 'крыга' (навагр., З нар. сл.), *лядзя́ш* 'лядзяк' (чэрв., Сл. ПЗБ; ТСБМ, Шат., Ян.) 'крыга' (Ян.), *лядзянка, лідзянка* 'лядзяш' (Шатал., Мат. Гом., Мат. Маг.; навагр., З нар. сл.), 'рэшата, дошка або скрынка з абледзянелым дном для катання зімой з горак' (ТС; гарадоц., Нар. лекс.; лудз., Сл. ПЗБ). Аб суфіксе *-яш* гл. Бел. гр.$_2$ (1, 237).

**Ля́даўка** 'яравая пшаніца' (Касп.). Да *ля́да$_2$* ('пшаніца, якую сеюць на лядзе'). Аднак дзякуючы народнай этымалогіі гэта лексема ўспрымаецца як роднасная да *лёд,* параўн. зэльв. *лядоўка* 'яравая пшаніца, якую сеюць вельмі рана, пры замаразках' (Сцяц.).

**Лядаўніца** 'ложа ў сячкарні' (Сцяшк.), 'жалезная акоўка скрынкі ў ручной сячкарні' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *ля́да$_4$*. Аб суфіксе *-аўніц-а* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 171—172).

**Ляда́чы** 'слабы, кволы; благі, дрэнны, нізкай якасці, сапсаваны; гультай; непрыстойны, нягодны, гадкі; неўрадлівы; непрадукцыйны; капрызны, спешчаны; пераборлівы на яду' (Нас., Гарэц., Мал., Сцяшк., Янк. БП, ТСБМ, Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Нар. Гом., Ян., Жд. 1; стаўб., З нар. сл.; пін., мазыр., Жыв. сл.). Утворана ад *ляда́шчы* (гл.).

**Ляда́шты** 'дрэнны, нягодны, гадкі; худы, слабы; той, каму млосна, дрэнна, моташна' — гэта выражаецца і прыслоўямі *ляда́шта, ляда́ча* (Нас., Шпіл., Дзмітр., Жд. 1, Бір. Дзярж.; шчуч., чэрв., гродз., Сл. ПЗБ; крыч., Мат. Маг.; ашм., Сцяшк. Сл.). Утвораны ад прыслоўя *ляда́што* 'дрэнна'. Заканчэнне *-шты* выраўнялася ў канчатак *-шчы,* які стаў успрымацца як канчатак рус. дзеепрыметніка незалежнага стану цяперашняга часу і часткова на бел. моўнай тэрыторыі набыў бел. форму з суфіксам *-ач-ы (ляда́чы* — гл.). Аналагічна ўкр. *ледащо* 'дробязь, пусцяковіна', польск. *ladaco* 'чалавек нічога не варты', 'абы-які', чэш. *ledaco* 'абы-што, дрэнь', мар. *l'edaco* 'нічога не варты', славац. *ledačo* 'абы-што, што-небудзь', 'нічога не варты'. Паўн.-слав. *lě-da-čьto (lě* 'толькі, ледзь', *da* — узмацняльная часціца, *čьto* 'што', якое на зах.-слав. тэрыторыі мае рэфлекс *co, čo)* (Бернекер, 1, 697; Фасмер, 2, 474; Зубаты, Studie, 1, 241; Слаўскі, 4, 22—23). Паводле лінгвагеаграфічнага размеркавання лексемы ў рус. народных гаворках (СРНГ, 16, 318—319) можна меркаваць, што яна (і падобныя: *ледака, лядаха, лядащий)* прыйшла з бел. і ўкр. моў. Зах.-бел. *леда́што, ляда́шчэ (м.),* 'махляр, круцель, ашуканец', 'гультай' (Федар. 7, Федар. Дад.) з'яўляюцца калькай польск. *ladaco* 'чалавек нічога не варты'.

**Ляда́шчык,** *ляда́шчык* 'хударлявы', 'бядняк, жабрак', 'круцель, ашуканец', 'чалавек, які можа сурочыць, асабліва мала-



дых істот', 'нячысцік, з'яўленне якога перад селянінам азначала няшчасце' (Нас.). Утворана ад *ляда́шты* і *ляда́шчы* (гл.). Параўн. яшчэ *ляд$_1$*.

**Ляда́шчы$_1$**, *леда́шчы, ліда́шчый, лыда́шчый* 'кволы, хілы; нядужы, слабы; дрэнны, нягодны; стары, струхлелы; збуцвелы; выцерты' (Нас., Грыг., Бес., Яруш., Ант., Касп., Бір. Дзярж., Сцяшк., ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'злы, сярдзіты, запальчывы' (слуц., Жыв. сл.), 'нікудышні, пусты'; 'д'ябал' (мін., КЭС), 'легкадумны'. Да *ляда́шты* (гл.). Сюды ж: *ляда́шчына* 'непатрэбная рэч' (Нас.), *ляда́шчыца, ліда́шчыца* 'кепскі, дрэнны, сапсаваны' (Мал., Булг., Кос.), 'нягодніца' (паўд.-усх., КЭС), *лядашчыцца* 'паступаць дрэнна' (Федар. Дад.).

**Ляда́шчы$_2$** 'ледзяны, дужа халодны' (валож., Жыв. сл.). Нерэгулярнае ўтварэнне ад *лядакі́* 'ледзякі' пры ад'ідэацыі *ляда́шчы$_1$* і польск. *lodowaty* 'ледзяны'.

**Ляда́шчыц** 'нячысцік у выглядзе падучай хваробы' (Нас.). Да *лядашчы* 'слабы, нядужы' (гл.).

**Лядзеване́ць** 'ледзянец' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *ледзянець<ледзяны<лёд* (гл.). Аснова, аднак, пашырана інфіксам *-в-,* значэнне якога застаецца няясным.

**Лядзей лесавы́** 'чына лугавая, Lathyrus pratensis L.' (гродз., Кіс.). Да *ля́да$_2$*. Аб суфіксе *-ějь* гл. Слаўскі (1, 86—87), Сцяцко (Афікс. наз., 151).

**Лядзе́ць** 'глядзець' (Сл. ПЗБ, Грыг., Бяльк.; віц., Нік. Оч., 2; Мат. Маг.; слонім., Нар. лекс.). Да *глядзе́ць* (гл.). Аб адпадзенні *г-* перад *-л-* гл. Карскі (1, 371).

**Ля́дзвя** 'сцёгны' (свісл., Сцяшк. Сл.), укр. *лідви, лідвиці,* рус. кастр., вяц. *ля́двея,* наўг. *ля́два* 'тс', польск. *lędźwie* 'крыж', 'ныркі', н.-луж. *laźwjo* 'тс', в.-луж. *ledźba* 'сцёгны', чэш. *ledví* 'тс', 'унутранасці', славац. *l'advie* 'тс', *l'advy* 'ныркі', славен. *lędvije* 'тс', *ledovjè* 'крыж', *lę́dje, lédja* 'тс', серб.-харв. *леђа* 'спіна', чак. *ледва* 'крыж', 'ныркі', ст.-слав. **лѧдвиѩ** 'крыж'. Прасл. *lęd-v-ьja* і *lędva* або *lędvo* (Слаўскі, 4, 203—204), якім адпавядаюць і.-е. **londh-u̯-* і **lendh-u̯-:* лац. *lumbus* 'сцёгны', ст.-ісл. *lend,* ст.-в.-ням. *lentî,* ням. *Lende,* і з другой ступенню чаргавання: нарв. *lund* 'сцягно' (Бернекер, 1, 705—706; Траўтман, 157; Брукнер, 297; Фасмер, 2, 550; Махэк$_2$, 324; Скок, 2, 284—285; Бязлай, 2, 130—131; Шустар-Шэўц, 11, 809—810). Роднаснае з *ля́жка, ля́га$_1$* (пры чаргаванні суфіксальных *d/g)* (Аткупшчыкоў, Из истории, 133, 137, 157, 158).

**Лядзя́нка** 'рэпа, якая вырасла на лядзе' (Нас.). Да *ля́да$_1$* (гл.).

*__Лядні́к__$_1$, *ле́днік* 'склеп, лядоўня' (чач., ветк., Мат. Гом.) — з рус. *ле́дник, ледни́к* 'тс'. *Лядо́ўнік* 'тс' (бых., там жа) — кантамінацыя з *леднік* і *лядоўня.*

**Ляднік**$_2$ 'скопішча вялікай масы паўзучага лёду, глетчар' (ТСБМ) у якасці культурнага тэрміна з рус. *ледник* 'тс'.

**Ляднік**$_3$ 'абабак, Boletus scaber' (Мядзв.; бялын., Нар. сл.; кругл., Жыв. сл., Мат. Маг.; круп., Сл. ПЗБ, БЛ, 6, 23), 'грыбы' (Баркалабаўскі летапіс). Да *ля́да*$_2$. Названы паводле месца, дзе яны растуць (як *палявыя грыбы, пожя́рны грыб*).

**Лядны** ў выразе *ля́дны дуб* 'дуб цвёрды, Guercus robur L.' (маг., Кіс.). Да *ляда*$_1$ 'дуб, які расце на лядзе'. Аналагічна *лядны* ў ТСБМ.

**Лядойка** 'дрэнна' (Нас.). Да *лядáік* (гл.).

**Лядок** 'куравай дацкі, Astragalus danicus Retz.' (драг., Нар. лекс.). Да *ля́да*$_2$ (гл.). Паводле Трубачова (Эт. сл., 15, 48), яшчэ прасл. *lędokъ*.

**Лядоўня** 'пограб з лёдам або снегам для захоўвання прадуктаў' (Гарэц., Яруш., Янк. 2, Касп., Бяльк., Сцяшк.; жлоб., Нар. словатв.; мін., КЭС), *лёдо́ўня* 'тс' (Шушк.). Укр. *льодóвня, ледíвня,* рус. прыбалт. *ледóвня,* польск. *lodownia,* в.-луж. *lodownja,* чэш. *ledovna,* славац. *l'adovňa.* Прасл. паўн. *ledovьn'a* 'памяшканне для лёду' (Слаўскі, 4, 322). Утворана ад прыметніка *ledovъ>лядовы.* Да *лёд* (гл.). Аб суфіксе гл. Слаўскі (SP, 1, 138), Сцяцко (Афікс. наз., 165).

**Лядошна** 'гідка, брыдка, агідна' (Бяльк.). У выніку кантамінацыі з *лядáік* і рус. *тошна,* аднолькавых па значэнню.

**Лядýначка** 'ключыкі вясеннія, Primula veris L. macrocalyx Koch.' Да *лядýнка* 'патранташ', якое з *ладýнка* (гл.). (*Ла-* і *ля-* існавалі яшчэ ў ст.-бел. мове з прычыны розных крыніц запазычання: *ла-* з польск. *ładunek, ля-* з ням. *Ladung*). Матывацыя: кветкі ключыкаў размешчаны на сцябле адна за другой і выглядаюць як ячэйкі патранташа. Рус. *лáдан, ладáн* — назвы самых розных раслін і *ледунíца, ледунéц* 'чырвоныя парэчкі', відаць, з бел. лексемай не звязаны.

**Ля́ды** 'дрэнны' (маст., Сцяшк. Сл.), зах.-укр. *лéдий* 'тс', польск. жэшаўск. *lady* 'абы-які'. Відавочна, з польск. мовы, дзе лексема з'яўляецца другасным прыметнікам ад *lada* 'абы які', якое ўспрымалася як прыметнік ж. р. (Слаўскі, 4, 22).

**Ляéстры** 'спісак' (КЭС, лаг.). Сапсаванае народнае *рэéстры* (гл.).

**Ляжáй** 'гультай, лежань' (зэльв., Жыв. сл.; свісл., Сл. ПЗБ). Да *ляжáць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 23).

**Ляжáйка** 'ляжанка ля печы', 'комін-ляжак' (пух., З нар. сл.; уздз., Нар. словатв.; навагр., Сцяшк. Сл.), *ляжэйка* 'бакавыя дошкі ў возе' (астрав., Сцяшк. Сл.; круп., Жыв. сл.; Касп., Сл. ПЗБ), *ліжáйка* 'бакавы брусок асновы панарада' (КЭС, лаг.), валож. *ляжэ́я* 'папярочная палка-ворчык у сасе, да якой прымацоўваюцца аглоблі' (Жыв. сл.). Ст.-рус. *лежайка, лежейка, лежая* 'знак > (гарызантальны вугал) у бортніцкіх знамёнах'.



Да прасл. *ležajьka* (Трубачоў, Эт. сл., 14, 158), якое з *ležaja/ležajь* (<*ležati*), роднаснага з *ляжáй* (гл.).

**Ляжáк** 'гарызантальная частка коміна на гары', 'ніжняе апорнае бервяно зруба', 'падаконнік', 'падваліна', 'ляжачы вулей з пчоламі', 'ляжанка', 'паваленае бурай дрэва', 'палеглы лён' (Бяльк., ТСБМ, Янк. Мат., Сцяшк., Шушк., П. С., Некр., Шат., Сцяц. Словаўтв.; З нар. сл., Мат. Гом., Мат. Маг., Сл. ПЗБ, Жыв. сл.; КЭС, лаг.). Укр., рус. *лежак,* польск. *leżak,* в.-луж. *ležak,* чэш. *ležák,* славац. *ležiak*; серб.-харв. *лѐжак,* славен. *ležák,* балг. *лéжак, лéжяк.* Праформа *ležakъ<ležati* (Слаўскі, 4, 194—195; Трубачоў, Эт. сл., 14, 158—159). Да *ляжáць* (гл.). Аб суфіксе — Сцяцко (Афікс. наз., 23—25).

**Ляжáнец** 'абложная зямля' (Прышч. дыс.). Рус. арханг., наўг. *лéжанец, лежанéц* 'ворная зямля, якая дае добры плён збожжа', *лежанцы* 'ворная зямля нізкай якасці'. Бел.-паўн.-рус. ізалекса. Да *ляжáць* (гл.)>*ляжáны.* Аф суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 39—40).

**Ляжáнка,** *ліжáнка* 'прыпек, запечак, нары; месца, прыстасаванае для ляжання', 'грубка', 'верхняя планка ў драбіне воза', 'ляжак-калаўрот', 'логава звера', *лéжанка* 'гультай', 'распешчанае дзіцё' (Нас., ТСБМ, Бяльк., Шат., Уладз., Мат. Гом.; КЭС, лаг.). Укр., рус. *лежанка* 'бочка-ляжанка'. Прасл. *ležanъka* (Трубачоў, Эт. сл., 14, 160—161). Да *ляжáць* (гл.). Аб суфіксе — Сцяцко (Афікс. наз., 28—29).

**Ляжáч** 'гультай' (свісл., Сл. ПЗБ), макед. *лежач, легач,* балг. боцеўградск. *лежач* 'тс'. Прасл. *ležačь<ležati> ляжаць* (гл.).

**Ляжáткі** 'планкі ў драбінах воза' (шчуч., Сцяшк. Сл.; гродз., Сл. ПЗБ). Рус. смал. *лежáтка* 'палеглае жыта', калін. *лежатóк* 'ляжанка', ст.-рус. *лежатка* 'бочка-ляжанка ў адрозненне ад стойкі і чана'. Да *ляжáць* (гл.). Аб суфіксе *-атк-а* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 31).

**Ляжáць,** *лежáць, ліжáць, лыжéтэ* 'знаходзіцца, займаць гарызантальнае становішча, прастору', 'распасціраццa', 'прылягаць', 'хварэць', 'захоўвацца', 'пра зямлю, якая непрыгодна для апрацоўкі' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Мат. Гом., Янк. 1, Ян., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). Укр. *лежáти,* рус. *лежáть;* польск. *leżeć,* палаб. *lizě* (3 ас. адз. ліку), н.-луж. *lažaś,* в.-луж. *ležeć,* чэш. *ležeti,* славац. *ležat',* славен. *léžati,* серб.-харв. *лѐжати,* макед. *лежам,* балг. *лежá,* ст.-слав. **лежати**. Прасл. *ležati,* якое з *legeti* 'быць выцягнутым гарызантальна ўсім целам на чым-небудзь' (Слаўскі, 4, 196—198). Да і.-е. *legh-: ст.-в.-ням. *ligen (liggan),* гоц. *ligan,* ст.-сакс. *liggian,* ням. *liegen,* ст.-ісл. *liggja,* ст.-грэч. λέχος, λέκτρον 'пасцель', ст.-ірл. *lige* 'пасцель, магіла' (Бернекер, 1, 704—705; Мее, MSL, 14, 339;

Фасмер, 2, 475; Махэк₂, 329; Скок, 2, 281—283; БЕР, 346—347; Шустар-Шэўц, 11, 818). Сюды ж міёр. *лéжъцца* 'даспяваць сарванымі, лежачы (пра плады)' (Нар. сл.), *лéжанне* 'вылежванне (пра плады)' (Юрч.), *ляжня́* 'ляжанне' (ТСБМ).

**Ляжáчка** 'сіла, якая цягне да ляжання' (Нас.), 'донная вуда з грузілам для лоўлі акунёў і яршоў' (Дэмб. 2, Нар. Гом.). Укр. *лéжачки* 'лежачы', *лежéчка* 'вулей-ляжак', рус. *лежáчка, в лежáчку, лежáчки* 'лежачы', 'хворая жанчына', 'крынічнік лекавы, Veronica officinalis L.', польск. *leżączki* 'лежачы', *leżoncka* 'ляжанне', чэш. *ležečky, ležacky,* ганацк. *l'ežačky,* славац. *ležiačky* 'лежачы', славен. *ležę̂čki,* серб.-харв. *лежеħке* 'тс'. Прасл. *ležętjь-ky* 'лежачы' (Слаўскі, 4, 195). Аб суфіксе прыслоўя *-ky* гл. Зубаты (1, 377). Аднак утварэнні з суфіксам *-ъka* незалежныя, магчыма, утвораныя пазней ад дзеепрыметнікаў.

**Ляжбéль** 'гультай' (лях., Сл. ПЗБ). Да прасл. *ležьba* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 14, 167). Утворана пры дапамозе суфікса *-ель* (аб ім гл. Слаўскі, SP, 1, 108; Сцяцко, Афікс. наз., 151—152). Параўн. таксама *лажмéй.*

**Ляжджáй**₁, *лежджáй,* магчыма, 'асот, палявы, Sonchus arvensis L. або плюшч звычайны, Hedera helix L.' (Федар. Дад.), 'асака' (бераст., Сцяшк. Сл.), 'балотная трава, асака' (Сцяшк.; маст., свісл., Арашонкава, БЛ, 3), 'рачная трава, Typha angustifolia' (навагр., БСС-72), *ляжджáйчык* 'сена з асакі, Carex L.' (гродз., Мат. АС). Літуанізм. Параўн. літ. *lazdà* 'лугавая трава', *lizdáitė* 'балотная расліна' (Лаўчутэ, Сл. балт., 119—120). Гл. таксама *лягджай.*

**Ляжджáй**₂ 'мера ачэсанага льну, роўная 10 жменям' (шчуч., Бел. хр. дыял.). Няясна.

**Ля́жка** 'сцягно' (Гарэц., ТС; маз., хойн., КЭС). Да *ля́га*₁ (гл.). Гл. таксама *ля́шка*₂.

**Ляжнёўка** 'дарога, вымашчаная бярвеннем на шырыню калёс' (в.-дзв., Нар. сл.; Нар. Гом.; в.-дзв., раг., Сл. ПЗБ), нараўл. 'кладка' (Мат. Гом.). Да *лéжань* (гл.), параўн. рус. перм. *лёжень* 'дошка для праходу па багністаму месцу', 'масткі праз раку'.

**Ляжня́к** 'ляжачае гнілое дрэва' (мазыр., ЛАПП), 'ніжні камень у жорнах' (Інстр. III). Прасл. *ležьn'akъ* (Трубачоў, 14, 171). Да *ляжáць* (гл.). Аб суфіксе *-няк* гл. Сцяцко (Афікс. наз. 59).

**Ляжойка** 'прыстасаванне з вяровак для ўзнімання на дрэва' (круп., Сл. ПЗБ). Да *лéзці* (гл.). Праблематычным з'яўляецца *-ж-* замест *-з-* (параўн. іншыя назвы гэтай рэаліі — *лязіва, лазіва, лазня*) і незвычайны вакалізм суфікса *-ойк-а* (балтыйскі ўплыў?).



**Ляжэйка** 'жалейка' (паст., Сл. ПЗБ) — у выніку перастаноўкі зычных *ж*⟷*л*.

**Лязавáць,** *лёсовáць* 'мясіць і пераціраць гліну для фармоўкі цэглы або кафлі', 'перамешваць ванну, наліваючы вадой' (гродз., Нар. сл.) складаюць з польск. падляш., мазавец. *lasovać* і хелмінска-дабжыньск. *lašovać* адзін арэал. Бел. запазычана з польск. *lasować* 'гасіць вапну', якое з ням. *löschen,* с.-в.-ням. *leschen* 'тс' (Слаўскі, 4, 63; Глінка, Бел.-польск. ізал., 29).

**Лязг** 'ляск', *ля́згаць* 'утвараць ляск', 'біць у далоні, пляскаць' (ТСБМ), полац. 'біць лыжкай па галаве' (Нар. лекс.). Гукапераймальнае (Праабражэнскі, 1, 497; Фасмер, 2, 550). Гл. таксама *лёскат, ляск.*

**Лязкоўка** 'маленькі гаршчок' (Ян.). Няясна.

**Лязо** 'вострая частка рэжучай або сякучай прылады', 'лязо для галення' (ТСБМ; шальч., Сл. ПЗБ), шкл. *лязцо* 'тс' (Мат. Маг.). Да *лéзіва*₂ (гл.).

**Ля́йдзіць,** *ляйдзíць, лéйзіць* 'балбатаць, малоць языком, гаварыць недарэчнае, пустое; пляткарыць' (маст., ваўк., карэліц., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.). Літуанізм. Параўн. літ. *láidyti* 'абгаворваць, пляткарыць' (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969, 4, 131), *liežuviais, léidinti* 'тс' (Грынавяцкене і інш., Сл. ПЗБ, 2, 714). Ад іх быў утвораны назоўнік *ля́йда* 'манюка' (Сцяшк.), 'выдумшчык' (свісл., Сцяшк. Сл.), *ляйдá* 'пляткар, балбатун' (свісл., Сл. ПЗБ).

**Ляйцáць** 'прымацоўваць лейцы да аброці пры запраганні' (Некр., Шат., ТСБМ; дзярж., Нар. сл.), *ляйчына* 'вожка' (там жа; Сцяц. Словаўтв.), *ляйчынкі* 'маленькія лейцы пры аброці' (гродз., Сцяц. Словатв.). Да *лéйцы* (гл.).

**Ляк**₁, *лек* 'спуд, спалох, перапуд', *ля́кі, ля́кы, лéкэ* 'жахі, пярэпалахі' (Гарэц., Др.-Падб., Нас., Нар. Гом., Ян., Клім., Бяльк.; малар., Нар. лекс.). Укр. *ляк;* рус. паўд.-зах. *ляк* (Даль), польск. *lęk,* чэш. *lek,* славац. *l'ak.* Паўн.-слав. Да *лякáць* (гл.).

**Ляк**₂ 'сургуч' (Гарэц., Нас.; мін., КЭС). Запазычана з польск. *lak* 'мешаніна розных смалістых рэчываў, якая ўжывалася для запячатвання лістоў, якое з ням. *Lack* 'тс', 'расліна Cheirantus' < італ. *lacca* < с.-лац. *laca* < араб. *lakk* < перс. *lak* (Брукнер, 289; Слаўскі, 4, 29).

**Ляк**₃ 'селядцовая жыжка' (віц., Шн. 3; Сцяшк., ТС). Запазычана з польск. *lak,* параўн. тыкоцінск. *lak* 'вадкасць з селядцоў у бочках', каш. *lok* 'вада з мяса або з рыб', якія з с.-н.-ням. *lake* 'селядцовая жыжка' > ням. *Lache* 'лужа' (Брукнер, 289; Слаўскі, 4, 30). Сюды ж бел. гродз. *ляк* 'квашаніна' (Сцяшк.).

**Ляк**₄ 'глыбокі гліняны гаршочак' (Сцяшк.; гродз., Сцяц. Словаўтв.). Да *гляк* (гл.).

**Лякатáць** ’ляскатаць’, ’дрыжэць ад холаду’, ’сварыцца’ (Бір. Дзярж.; пух., Сл. ПЗБ; свісл., Сцяшк. Сл.). Гукапераймальнае. Да *клекатáць* (гл.).

**Лякáць,** *лякáтэ* ’пужаць’, *лякáцца, лякáтысь, лякáтыся* ’палохацца’ (Нас., Др.-Падб., Гарэц., Шпіл., Бес., Ян., Нар. Гом., Сцяшк. Сл., Касп., БСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Шат., З нар. сл., Нар. лекс.). Укр. *лякáти(ся),* рус. паўд.-зах. *лякать(ся),* ст.-польск. *lękać,* польск. *lękać się,* н.-луж. *lěkaś (se),* чэш. *lekati (se),* славац. *l’akat’ (se),* славен. *lęcati se* ’баяцца, падаць духам’, серб.-харв. *лéцати се* ’палохацца’, ст.-слав. **лѧцати** ’ставіць сілы’ — апошняя форма (з III палаталізацыяй) прадстаўлена ва ўсіх групах слав. моў. Прасл. *lękati* ’згінаць, гнуць, закрыўляць’, ’нацягваць’, ’ставіць сілы’ (Слаўскі, 4, 206—208). Са значэння ’згінаць’, ’згінацца’ развілося ’палохаць’: ’згінацца, схіляцца, сціскацца ад жаху, трывогі’. Роднаснымі з’яўляюцца: літ. *leñkti* ’схіляць, гнуць’, лат. *lìekt* ’тс’, ст.-ісл. *lengia* ’пуга’, алб. *lëngór* ’гнуткі’. Усе да і.-е. **lenk-/*lek-/*lonk-* (Бернекер, 1, 707; Фасмер, 2, 551; Махэк$_2$, 325; Скок, 2, 280—281; Бязлай, 2, 129; Шустар-Шэўц, 11, 823—824).

**Лякéркі** ’лакіраваныя туфлі’ (навагр., Нар. сл.). З польск. *lakierki* ’абутак з лакіраванай скуры’<*lakier* ’лак’<*lakierować* ’пакрываць лакам’<ням. *lackieren* ’тс’ (Слаўскі, 4, 31).

**Лякоба,** *лекоба* ’лякарства’, ’лячэнне’ (Сержп., Грам.; жытк., Мат. Гом.; Нар. Гом.; ТС). Да прасл. *lěkōba*<*lěkъ*>*лек.* (Трубачоў, Эт. сл., 14, 198).

**Лякотка** ’ляскотка’, ’балбатлівая жанчына’ (дзярж., Нар. сл.). Узнікла ў выніку кантамінацыі слоў *ляскотка* і *якатáць* (гл.).

**Лякрáз** ’якраз’ (стол., Нар. лекс.). Да *як* і *раз* (гл.). Аб мене *й-*>*л*’- гл. Карскі (1, 303).

**Ля́кса,** *лáкса, ляксýха* ’панос’, *ля́ксы* ’хвароба ад моцнага паносу’, *ляксавáць* ’слабіць’ (Нас., Касп., Федар. 1; лаг., Сл. ПЗБ; мін., КЭС). Праз польск. *laksa, laksacja, laksować* ’тс’ з с.-лац. *laxare* ’прачышчаць, выклікаць панос’, якое з лац. *laxāre* ’адпускаць, аслабляць, рабіць больш вольным, вялым, слабым’<*laxus* ’прасторны, слаба нацягнуты, лагодны’ (Слаўскі, 4, 32)< і.-е. **slēg-* (лат. *leg̑ēns,* ірл. *lace,* ст.-ісл. *slakr,* ст.-в.-ням. *slach* ’вялы, абвіслы, слаба нацягнуты’; асец. *læx/læxæ* ’кал, экскрэменты’, якое, аднак, Абаеў (2, 39) лічыць каўказскім словам). Бел. в.-дзв., міёр., віл., *аляксей, ляксей* (Вештарт, Бел.-польск. ізал., 20) утварыліся ад *лякса* пад уплывам народнай этымалогіі.

**Ляксаваны** ’начышчаны да бляску’ (шчуч., Сцяшк. Сл.). З *ваксаваць,* якое з *вáкса*$_1$ (гл.) пры ад’ідэацыі *ляксавáць* ’ачышчаць кішэчнік’, ’мець панос’ (гл. *ля́кса*).



**Лялéбіць** ’песціць, даглядаць’ (Бяльк.). Да *лялéяць* (гл.). Зычны *-б-* замест *-й,* відаць, пад уплывам польск. *uwielbić* ’горача любіць’, ’пакланяцца’ ці бел. $^{+}$*вялéбіць* (параўн. ст.-бел. *велбити, вельбити* ’славіць, праслаўляць’, ’велічаць, узвялічваць’).

***Лялéзік,** браг. *лелéзік* ’ласун’ (Мат. Гом.). З $^{+}$*ляleза* (ці $^{+}$*леляза*), якія ад *лялеяць* ’пялегаваць’ (гл.). Аб суфіксе *-з-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 41.

***Лялéць,** *лелéць, елéць* ’блішчаць, пераліваца’ (ТС) — скарочаны варыянт да *лялеяць* (гл.). Аб пераходзе *л’*>*й* (*йелéць*) гл. Карскі 1, 322.

**Лялéшчыць** ’радасны плач дзіцяці, ціўканне ластаўкі’ (полац., Нар. лекс.). Балтызм. Параўн. лат. *lalinā̄t* ’лепятаць па-дзіцячаму’. Гл. таксама *лалоўнікі, лалын.*

**Лялéя** ’гарлачык жоўты, Nuphar luteum Smith’. (гродз., віц., маг., Кіс.; Др.-Падб., Гарэц., Нас., Дэмб. 1; паст., Сл. ПЗБ), ’гарлачык белы, Nymphala alba L.’ (Нас., Дэмб. 1). Да *лілéй* (гл.).

**Лялéяць,** *лелéіць* ’калыхацца, развівацца’, ’пялегаваць, песціць, шкадаваць’ (Яруш., Зянк.) і сцягненыя формы: *лялéцца* ’калыхацца, мільгацець’ (шаркаў., Ант.), *лялéць, лелéць, ляліéці, ліліты* ’песціць, суцяшаць’, ’калыхацца, хвалявацца, пераліваца, зіхацець, адбліскваць (пра водную паверхню)’; ’калыхацца (пра збожжа, траву)’, ’квітнець’ (Мал., Гарэц., Федар. 7, Маш., Др.-Падб., Доўн.-Зап. 1, П. П.), ’выйсці з берагоў’ (Бір. дыс.), ’чырванець (пра рану)’ (лід., Сл. ПЗБ). Укр. *леліяти,* рус. *лелéять* ’тс’, арх. *ля́леть,* ст.-рус. *лелѣяти* ’калыхаць (на хвалях)’, ’песціць, пялегаваць’, ’ахоўваць, сцерагчы’, ’услаўляць, хваліць’; ст.-польск. *lelejać (się)* ’тс’, *lelejanie, lelejenie* ’хваляванне (мора)’, велікапольск. *lelać* ’песціць, калыхаць, забаўляць’, каш. *lelac są lelå* ’заляцацца, увівацца’, ст.-чэш. *leleti sě* ’хвалявацца, калыхацца’; серб.-харв. *лелèјати, лељèати, lelíjati, léljati, lélati (se), lilati (se), лелу̀јати се* ’калыхаць, хвалявацца (аб збожжы), макед. *лелам, лелеам, леле (се), лела* ’калыхаць, развявацца, лунаць’, балг. *лелея, лелям, лелеям се* ’калыхаць, песціць, няньчыць (дзіцё)’. Прасл. *lelěti (sę), lelějati (sę)* ’калыхаць, гойдацца’, ’хваляваць’, якія ўзніклі з гукапераймальнага рэдуплікаванага выразу *le-lē-* (з дзіцячай мовы) са значэннем паўтарэння дзеяння, руху туды-сюды, руху пры гайданні. Роднаснае да літ. *leliúoti* ’закалыхваць дзіцё, прысыпаць яго, прыспеўваючы’, *lèliuo* ’песціць’, лат. *leluôt* ’тс’. Палес. *лілáты* можа ўзыходзіць таксама да прасл. *lil’ati (sę), l’ul’ati* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 14, 108; 15, 100—102; Міклашыч, 172; Бернекер, 1, 699; Развадоўскі, Wybór, 2, 173; Буга, Rinkt., 1, 452; Фасмер, 2, 479; Слаўскі, 4, 138—139; Скок, 2,

287; БЕР, 3, 355; Куркіна, Этимология-76, 23). Зянькевіч (O uroczyskach i zwyczajach..., 1852, 50) памылкова выводзіць лексему *лялеяць* са ст.-грэч. λαλέω ’гавару’, ’балбачу, шчабячу’.

**Лялёта,** *лелёта* ’маларухомая, непрыгожая жанчына’ (Растарг.), *лялётачка (фалькл.)* ’лялька’ (гом., Нар. сл., Нар. Гом.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ота* ад *ляля* (гл.) < *la-/le-*. Параўн. утварэнні ад гэтага кораня ў іншых слав. мовах: рус. валаг. *лелёк* ’балбатун, гаварун (аб дзіцяці)’, уладз. *лелёха* ’тоўстая, непаваротлівая жанчына’, укр. *лельом — полельом* ’ледзь перасоўваючы ногі’, польск. *lelum polelum* ’флегматычны чалавек’, велікапольск., каш., калішск., серадзк. *lelak, lelåč, lelåch, lelåš, lelåček, lelåšek, lela, lelek* ’пястун, гультай’, ст.-польск. *lele* ’тс’, ’кволы’, н.-луж. *lelawa* ’бессаромная гультайка’, *lelawiś se* ’бессаромна сябе паводзіць’, в.-луж. *lělawa* ’гультаяватая дзяўчына’, *lělak* ’грубіян’, чэш. *býti lelkem* ’глядзець з адкрытым ротам’, ’быць салапякам’.

**Лялёх** ’жывот’ (маст., Сцяшк. Сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з суфіксам *-охъ* ад *лялéць* (гл. *лялёта*). Параўн. таксама *лéлех*.

**Ля́лька**₁, *ля́лечка* ’дзіцячая цацка ў выглядзе чалавека’ (Нас., Мядзв., Грыг., Гарэц., Яруш., Др.-Падб., Бяльк., Шат., Касп., Сцяшк., ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), ’прыгожая, знешне прывабная істота або рэч’ (ТС), ’вельмі выпеставаная, крыклівая апранутая, расфуфыраная жанчына’ (міёр., З нар. сл.), ’бутэлька, у якую насыпаюць жыта і даюць хлопцу (і свату), калі дзяўчына згодна ісці за яго замуж’ (смарг., Сл. ПЗБ); ’зрэнка ў воку’ (лепел., КЭС; саліг., Нар. словатв.; ТС); *ляля* ’дзіця (з дзіцячай мовы), немаўля’ (Нас., Бес.; драг., КЭС), ’купідон, прыгожанькае дзіцятка’ (Шпіл., Растарг., Нар. Гом.), ’малое дзіця’ (драг., шальч., Сл. ПЗБ), ’спешчанае дзіця’ (іўеў., Сл. ПЗБ), ’лялька’ (слуц. КЭС). Укр. *ля́лька, ля́ля, ля́лечка* ’лялька’, ’маленькае дзіцё’, ’імя галоўнай дзяўчыны ў карагодзе, які праводзіцца напярэдадні вясенняга Юр’я’, *ля́лько* ’зрэнка’; рус. *ля́лька, ля́ля* ’хросная маці’, ’лялька’ (зах.), ’маленькае дзіцё’, перм. ля́лько ’хросны бацька’; *ля́ля* ’бамбіза, дылда’, ’цюхця, дурань’, ’вялы, някемлівы, нерашучы чалавек’; польск. *lalka, lala, låla* ’лялька’, ’прыгожы, але абмежаваны чалавек’, ’дурань’, ’зрэнка ў воку’, *lalki* ’мэндлікі ў полі’, палаб. *l’ol’ə* ’бацька’; дзіцячае *lala* ’бог’, *pójść do lali* ’памерці, адправіцца ў нябыт’; чэш. валаш., ляш. *l’al’a, l’al’ka* ’лялька’, ’чужы чалавек (дзіцячае)’, усх.-мар. *l’alička* ’немаўля’, ход. *lála* ’нядбайны’, славац. *l’al’o* ’дурань, балван’; серб.-харв. *ла́ло, ла́лко* ’пяшчотная назва брата або старэйшага мужчыны ў доме’, *ла̂ла, ла́ло* ’бацька’, ’імя, якім старыя называюць маладых’, ’любы чалавек’, якія Скок (2, 264) не зусім абгрунтавана адно-



сіць да цюркізмаў; балг. *лало, лалко* ’старшы брат (для малодшага)’, ’дурны, блазан’, *лала* ’цётка’, ’швагер’, славен. *lila* ’лялька’. Прасл. *l’al’a* — слова з дзіцячай мовы (як *baba, mama, tata*) для наймення дзіцяці, маленькага чалавека; пазней стала азначаць ’зрэнка’ з прычыны адбітку ў воку маленькага вобраза чалавека’ (Слаўскі, 4, 33—34). Значэнне ’лялька’ новае, яно ўзнікла ў гарадах у апошнія стагоддзі. Паводле Панятоўскага (Wiedza o Polsce, 3. Warszawa, 1932, 269), чалавечыя фігуркі ў славян першапачаткова былі сімваламі памерлых продкаў, дзядоў; звычай трымаць лялькі (сімвалы) у хаце быў пашыраны яшчэ ў XIX ст. у Польшчы і зах. Скандынавіі. Дзецям забаранялася з імі гуляць (гл. таксама Махэк₂, 319). І.-е. адпаведнікі: алб. *lelëo* ’бацька’, ’дзядзька’, ’дзед’, ’старэйшы брат’, арум. *lală* ’дзядзька’, н.-грэч. λαλά ’баба’, λαλάς ’дзядзька’, курд. *lalu* ’тс’. Бернекер (1, 700), а за ім Фасмер (2, 551) і Кюнэ (42) бел. і ўкр. лексемы разглядаюць як запазычанне з польск. мовы, што справядліва аспрэчваецца Праабражэнскім (1, 498).

**Ля́лька**₂ ’матыль’ (бяроз., Выг.). Як і ўкр. жытом. *ля́лька* і валынск. *ля́лючка* ’лічынка матылька’ (ЛАПП) — рэліктавая лексема, якая ўзыходзіць да старажытных часоў, калі *l’al’a* азначала ’памерлыя продкі, дзяды’ (гл. *ля́лька*₁). Табу — у слав. гаворках існуе павер’е, быццам душы памерлых, злыя духі хаваюцца ў матыльках (Важны, O jménech, 86). Параўн. бел. *бáбачка* (гл.).

**Ля́лька**₃ ’аер, Acorus L.’ (бых., Мат. Янк.). Паводле падабенства катаха аеру да прымітыўнай фігуркі лялькі. Да *ля́лька*₁ (гл.).

**Ля́льчуг** ’ялец, Leuciscus leuciscus’ (хойн., Мат. Гом.). З ⁺*яльчуг*, якое з *ялéц* (гл.).

**Ляля́к**₁ ’казадой, Caprimulgus europaeus’ (ТСБМ, Сержп. Грам., Маш., Фед.-Долб.), *лéляк, лялёк, лелек* ’н’ (Бес., Маш., паўн.-зах., КЭС), лельч. *лéляк* ’кажан’ (ЛАПП), *леля́к* ’ястраб’, *(перан.)* ’недалуга, недарэка’ (ТС). Укр. *леля́к, лиля́к, ріляк, лили́к* ’кажан’, *лéліт* ’сыч’, *лелéка* ’бусел’; рус. *лилок, лелáк, лелёк,* паўн. *лелéк* ’тс’, ’кажан’; польск. *lelek, lelet* ’варона’, ’сыч’, ’кваква’, ’чайка’, ’удод’, ’д’ябал, злы дух’, каш. *lélek* ’казадой’, ’начны прывід, злы дух’, *lelač* ’дурань, расцяпа’, в.-луж. *lělak* ’дурань’, ’балбатун’, *lělawa* ’перапёлка’, чэш. *lelek* ’казадой’, старое ’кваква’, *lelkovati, státi jako lelek* ’быць разявай’; славен. *lilek,* ст.-серб.-харв. *лилькъ* ’казадой’, серб.-харв. *љѝљак, liljak,* макед. *лилјак,* балг. *лиляк, лилия́к* ’кажан’, *лилек* ’казадой’, ц.-слав. *лилѣкъ, лиликъ* ’нырэц’. Прасл. *lel-ьkъ, lil-ьkъ,* а таксама *lel-jakъ, lel-ikъ* ’казадой’. Пасля назва перайшла на іншых начных птушак (Слаўскі, 4, 139—140) або на птушак, падобных да

яго спосабам лятання. І.-е. адпаведнікі: літ. *lẽlis, lelȳs* 'казадой', лат. *lêlis, lelis* 'расцяпа, няўклюда'. Прасл. лексемы ўзыходзяць да прасл. *lelěti, lelějati* 'калыхацца, люляць'. Птушка названа паводле яе мягкага, пакалыхваючага лёту, калыхання ўправа і ўлева ўсім целам' (Развадоўскі, Quest. gram., 2, Kraków, 1899, 259; Мацэнаўэр, LF, 9, 199; Буга, Rinkt, 1, 452; Махэк$_2$, 326; Шустэр-Шэўц, 11, 825—826; БЕР, 3, 402). Булахоўскі (Вибр. пр., 3, 260, 297) мяркуе, што ў аснове ляжыць гукаперайманне, параўн. зах.-укр. *лелет леле́че* 'сыч крычыць'. Булыка (Лекс. запазыч., 143) памылкова выводзіць ст.-бел. *лелекъ, лелякъ* 'казадой' са ст.-польск. *lelek*.

**Ляля́к**$_2$ 'бесклапотны, збалаваны чалавек' (мазыр., З нар. сл.), 'гультай' у выразе *сядзець, як ляляк,* 'гультайнічаць' (Ян.). Аналагічна *ле́жань* (гл.) 'казадой' і 'гультай'. У выніку семантычнага пераносу з *ляляк*$_1$ (гл.) паводле адносна спакойнага лятання птушкі днём. Параўн. каш. *za leleka chodzëc* 'гультаяваць, бадзяжнічаць'.

**Лялю́шачка** 'маленькі качанчык-парастак у качане капусты' (паст., Сл. ПЗБ), шальч. *лялю́шка* 'капуста з дробнымі качанчыкамі паміж лістамі' (там жа). З літ. *leliuškà* 'тс' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 716).

**Лялеса́ць** 'крычаць' (маст., Сцяшк. Сл.), *ляляшыць* 'балбатаць, перагаворвацца, гаманіць' (навагр., Сл. ПЗБ і БСС-1972). Грынавяцкене і інш. (там жа, 391) суадносяць лексему з літ. *lalénti* 'шумець, гаманіць; ехаць на кані з шумам', *lelénti* 'нагаварыць, абгаварыць'.

**Лямава́ць** 'аблямоўваць, акружаць, абводзіць, падшываць' (Нас.). З польск. *lamować* 'тс', якое ад *lama* 'аблямоўка, абшыўка'<франц. *lame* 'бляшка, паясок, пласцінка з золата, срэбра, якія ўжываліся пры вышыванні' (Слаўскі, 4, 36 і 40).

**Ля́мант** 'адчайны, немы крык, кліч на дапамогу', 'працяглы моцны крык, плач' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Яруш.), *ле́мент* 'прарэзлівы крык, галашэнне' (Некр., ТС; мазыр., Шн. 2), ст.-бел. *ляментъ* (XVII ст.), запазычанае са ст.-польск. *lament* 'моцны плач, звычайна са скаргай, шкадаваннем, цярпеннем, нараканнем' (Булыка, Лекс. запазыч., 136), якое з лац. *lāmentum* 'галосная скарга, шкадаванне і галашэнне' (Слаўскі, 4, 38). Сюды ж *лямантава́ць, лямантава́цца, лемантава́ць, лементоваць, лымынтува́тэ* 'моцна і працягла крычаць, сварыцца', 'галасіць, плакаць гучна, нудна', 'прарэзліва галасіць', 'крычаць ад болю' (ТСБМ, Жд. 1, Шат., Гарэц., Др.-Падб., Некр., ТС; драг., КЭС; міёр., Нар. лекс.; шчуч., маст., Сл. ПЗБ), *лемантава́ць* 'абцяжарваць, ускладняць, ламаць' (Нас.), ст.-бел. *ляментовати* 'лямантаваць' (пач. XVII ст.), запазычанае са ст.-польск. *lamentować* 'тс' і ст.-бел. *ляментацыя* 'плач, элегія' (XVII ст.), якое са ст.-польск. *lamentacyja* 'тс'<лац. *lāmentātiō* 'жаласнае нараканне, енкі' (Булыка, там жа; Слаўскі, 4, 38).



***Ля́мацъ,** лельч. *ля́мать* 'балбатаць, ляпаць' (Нар. лекс.) і пін. *ля́маты* 'паволі есці' (КЭС) з'яўляюцца дыялектнымі сінонімамі да *ле́мзаць*$_{1,2}$ 'тс' (гл.) з выпадзеннем зычнай *-з-*, якая пашырае аснову. Параўн. рус. пск., калін., перм., арханг. *ля́мать* 'паволі есці, вяла жаваць ежу'. Чаргаванне *ля-/ле-*, як у рус. урал. *ле́мза́, лемзя́* 'расцяпа, разява', свярдл. *ля́мза, лямза́* 'тс', пск., цвяр. *ля́мза* 'павольны, някемлівы чалавек'.

**Ля́мза** 'абманшчык' (шчуч., Сцяшк. Сл.), лід. *лямзлі́вы* 'балбатлівы' (там жа). Да *ле́мзаць*$_1$, якое з літ. *lem̃zyti* 'балбатаць'.

**Лямéнь** *(груб.)* 'поўны, тоўсты, здаровы' (міёр., З нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *lietiũ* 'ствол', *lietẽnė* 'безрукаўка, камізэлька, кабат'. Семантычны пераход 'ствол'>'тоўсты чалавек', параўн. у бел *камель*>*камлякаваты* 'дужы, мажны' (віл., Сл. ПЗБ).

**Ляме́ньдзіць,** *лімяньдзíць* 'гаварыць шмат, не да месца, надаедліва' (міёр., Нар. лекс.). Балтызм. Параўн. літ. *leménti* 'балбатаць, мармытаць, няясна вымаўляць'. Аднак бел. словы былі ўтвораны з *ліміндá* (гл.), якое да *leménti*.

**Ляме́х**$_1$ 'лямеш' (Яруш.). Да *ле́мех* (гл.).

**Ляме́ха,** *ляме́шка, леме́шка* 'рэдкая каша з мукі з маслам ці салам', 'зацірка', 'кулеш з мукі', 'густа звараная страва', 'яда з грэцкай мукі з салам' (раг., Сл. ПЗБ), 'ежа з падсмажанай мукі, залітай варам ці малаком', 'расцёртая ў малацэ звараная бульба' (ТСБМ, Маш., Нас., Янк. БП, Вешт., Мат. Гом., Растарг., ТС), глус. 'няўдала згатаваная страва' (Мат. Янк.). Укр. *лемішка, лімішка, лем'єшка,* рус. кастр., смал. *леме́шка* 'тс'. Польск. *lemieszka* 'тс' з бел. (Слаўскі, 4, 148). Фасмер (2, 480) далучае да ўсх.-слав. лексемы і балг. *лемец (лемец, лемъц, лимец)* 'полба', 'сорт пшаніцы, Triticum spelta', аднак БЕР (3, 406) адносяць іх да запазычанняў з грэч. ἔλυμος 'проса'. Славен. *lîmec* 'квашаніна' Бязлай (2, 142), аднак, збліжае з *ляме́шка.* Найбольш прымальным будзе паходжанне лексемы як запазычанне з угра-фінскіх моў: фін. *lieme* 'суп, поліўка', мард. *l'em'*, венг. *leves* 'суп, сок', вепск. *l'emiz* 'поліўка'.

**Ля́мец**$_1$, *ляме́ц, ля́мац, ля́мяц, ля́міц, лёмыц, ля́мэць* 'тоўсты, шчыльны матэрыял, звалены з воўны, шэрсці' (ТСБМ, Грыг., Гарэц., Уладз., Нас., Шат., Касп., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), 'пракладка з лямцу ў хамуце пад хамуцінай', 'лёгкая пракладка з саломы ці лямцу пад клешчамі', 'падхамутнік', 'потнік', 'від хамута' (Маслен., Бяльк., Нас., Сл. ПЗБ, Касп.), 'лямка, шляя' (Др.-Падб.), 'ярмо, цяжкая рабо-

та' (Мат. Гом.), 'ільняны або саламяны абруч, на які паляшучкі накручвалі валасы' (Малч., Тарн., Маш., Сержп. Грам.; мазыр., Шпіл.), *лямцы* 'непрычасаныя валасы' (клец., Нар. лекс.), 'каўтун' (Мат. Гом.), *лямчыцца* 'збівацца ў камяк, каўтуны', *лямчыць* 'валіць воўну' (Нас.; ҚЭС, лаг.; ТСБМ, ТС), *лямец* 'пласт гною, сена і інш.' (жытк., Нар. словатв.; ТС). Укр. *лямець*, рус. *лямец* 'тс', польск. *lamec* 'тс', *lemiec*, чэш. *límec*, *lémec* 'каўнер'. Няясна. Фасмер (2, 551) рус. лексему выводзіць з польск. *lemiec* 'каўнер', адкідаючы версію Бернекера (1, 700), які ўзводзіць гэту лексему да франц. *lame* 'палоска, тонкі дрот'. Слаўскі (4, 39) дапускае бел. мову ў якасці крыніцы для запазычання з польск. *lamiec* або з ням. *Lahn-tresse* 'стружка, галун з шоўку'. Карловіч (Wyr. obce, 335) і Брукнер (290) лічаць крыніцай с.-в.-ням. *lîm* 'рамка, аблямоўка'. Махэк$_2$ (326) лічыць роднасным (да чэш. *lem* 'тс') грэч. λῶμα 'аблямоўка'.

**Лямец**$_2$ 'гультай' (Мат. Гом.). У выніку семантычнага пераносу з *лямец*$_1$.

**Ляме́ш**$_1$ 'лямеш у плузе' (брасл., ганц., Сл. ПЗБ; рагач., ҚЭС). Да *лемеш* (гл.).

**Ляме́ш**$_2$, *лыміш* 'сыраваты, ацесліва хлеб', 'від печыва' (глус., Мат. Янк.; Вешт.; брасл., драг., Сл. ПЗБ). Да *ляме́ха*, *ляме́шка* 'няўдала згатаваная страва' (гл.). Аб мене граматычнага роду гл. Ільінскі (AfSlPh, 29, 162).

**Ляме́шка**$_1$ 'рэдкая страва з мукі' (ТСБМ). Да *ляме́ха* (гл.).

**Ляме́шка**$_2$ 'няўклюдны, непаваротлівы чалавек', *лемешышчэ* 'вельмі няздатны, няздольны, непаваротлівы чалавек' (ТС). У выніку пераносу значэння з *ле́мех* (гл.).

**Ляміна** 'бераст' (лях., Сл. ПЗБ), брасл. *лямовы* 'ільмовы' (там жа). Да *ільма́* (гл.). Суфікс *-іна* са значэннем адзінкавасці (Бел. гр.$_2$, 1, 247).

**Ля́мка**$_1$ 'шырокі рэмень са скуры ці моцнай тканіны, які перакідваецца цераз пляча пры перацягванні, пераносцы грузу', *(перан.)* 'ярмо, непрыемны абавязак' (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк., Яруш.). Укр. *ля́ма, ля́мка* 'тс', 'шлейка', рус. *ля́мка* 'тс', 'стружка', 'вяроўка', 'пятля', 'торба', 'руказак', ст.-рус. *лямка* 'лямка' (XVII ст.). У рус. мове гэта запазычанне з фін. *lämsä* 'пятля, повад, аркан', саамск. карэльск. *lamca* 'вуздзечка', саамск. нарв. *lavčče*, комі *letš* 'пятля' (Каліма, 153). Больш падрабязна гл. Фасмер, 2, 551.

**Ля́мка**$_2$ 'пруг з тоўстага сукна', 'надточаная частка падола ў світцы, спадніцы з іншага матэрыялу' (Жд. 1, Бяльк., Нас.; смарг., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *lama, lamka* 'аблямоўка, абшыты падол адзежыны' (Слаўскі, 4, 36).

**Ля́мка**$_3$ 'манішка' (рас., Шатал.). Да *ля́мка*$_2$ (гл.), аднак пры ад'ідэацыі семантыкі лексемы *ля́мец* 'каўнер'.



**Ля́мля** 'маўчун, ціхоня' (слаўг., Нар. словатв.). Да *мя́мля*, якое з *мя́мліць* (гл.).

**Лямоўка**$_1$ 'аблямоўка; тонкая палатняная падшыўка знізу ў жаночых спадніцах', 'надточаная ўнізе частка падолу' (Мядзв.; круп., Нар. сл.; кругл., Мат. Маг.). Запазычана з польск. *lamówka* 'абшыты край тканіны'. Гл. таксама *лямава́ць*.

**Лямоўка**$_2$, *ляміўка, лямўўка, лямю́ўка, лямубўка* 'шалёўка ў акне ці ў дзвярах', 'дзве дошкі з абодвух бакоў франтона', 'аконная рама' (зах.-палес., Нар. сл.; беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *lamowka* 'шалёўка ў акне, дзвярах'.

**Ля́мпа**$_1$, *ля́нпа, ле́мпа, ле́нпа* 'прыбор для штучнага асвятлення электрычным токам, газай, нафтай' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Бяльк., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Сцяц., Словатв.; драг., ҚЭС). Ст.-бел. *лямпа (лампа)* (XV ст.) 'тс' запазычана са ст.-польск. *lampa*, якое з с.-в.-ням. *lampe*<франц. *lampe*<лац. нар. *lampada*<лац. *lampas* 'паходня, свечка, ліхтар, свяцільнік' (Булыка, Лекс. запазыч., 103; Кюнэ, 72; Чартко, Бел. лінгв. зб., 151; Слаўскі, 4, 40—41).

**Ля́мпа**$_2$. *ля́мпачка* 'шклянка (гарэлкі)' (Нас.). Запазычана з польск. *lampa* (XVIII ст.), *lampka* (XIX ст.), 'шклянка для віна' — першапачаткова форма шклянкі нагадвала лямпу (Слаўскі, 4, 41).

**Лямпе́х** 'тлусты, адкормлены чалавек' (слонім., Нар. словатв.). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *lampū̃zas* 'павольны, гультаяваты, апушчаны чалавек', *lampė̃kas* 'сырое, цяжкае палена, чурбан'.

**Лямпе́шка** 'планка, у якую ўстаўляецца верхні канец млёна' (шчуч., Сл. ПЗБ). Магчыма, да *лямпа* (гл.). Гняздо планкі, куды ўстаўляўся млён, было падобна да адпаведнага гнязда ў лучніку (посвету). Суфікс *-ешка*, як у *даўбешка*.

**Лямпэрыя**, *лямпэра* 'шалёўка' (брэсц., кам., Нар. сл.), 'ліштва ў акне' (глыб., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *lamperia* 'ніжняя частка сцяны, пафарбаваная алейнай фарбай; каляровая паласа або ліштва з дрэва ці з камення, якая аздабляе сцяну', якое з франц. *lambris* 'тс' (Слаўскі, 4, 43).

**Ля́мты** 'стужкі ці вузкія палоскі матэрыялу, нашытыя ў некалькі радоў на спадніцы' (ельск., Хрэст. дыял.). У выніку кантамінацыі лексем *ля́мка* 'аблямоўка, палоска тканіны' і *ле́нты* 'стужкі'.

**Ля́мус** 'мураваны або драўляны будынак для зберагання гаспадарчых прылад, збожжа, прадуктаў, кніг, збораў дакументаў' (БелСЭ, 6). З польск. *lamus, lemus*, якія з с.-в.-ням. *lēm-hūs* 'гліняны будынак'<ням. *Lehm* 'гліна', +*hūs* (ням. *Haus*) 'дом' (Слаўскі, 4, 43—44).

**Лямцéць** 'ісці трушком, бегчы' (слонім., Жыв. сл.). Няясна. Магчыма ад *ляцéць* з устаўным *-м-* (?).

**Лямцоўка** 'шапка, капялюш, зроблены з лямцу' (ТСБМ, Шат.). Да *лямец* (гл.).

**Ля́мця** 'маўчун, ціхоня' (слаўг., Нар. словатв.), у размоўнай мове ўжываецца і *ця́мця-ля́мця* 'сарамлівы, няўклюда, няўмека, заўсёды апошні'. Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *lemtū̃tà* 'павольны, непаваротлівы' і *lem̃pti* 'цягнуць', экспрэсіўны суфікс *-ця*, як у *цёхця* 'цяжкі ў хадзе', рус. *тютя, тюхтя* 'павольны, някемлівы'.

**Ля́мша** 'нікчэмны чалавек' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). З літ. *lamšẽlis* 'тс' (Грынавяцкене, там жа, 2, 717).

**Лямэнты** 'сродкі, якія выплочваюцца на ўтрыманне непрацаздольных дзяцей' (швянч., Сл. ПЗБ). Да *аліме́нты* 'тс', запазычанага з рус. ці польск. моў, у якіх з франц. *aliment* 'ежа, прадукты'<лац. *alimentum* 'харчы, утрыманне' (SWO, 21; Шанскі, 1, 75; Даза, 25).

**Лямэньціць** 'плакаць гучна, нудна' (міёр., Нар. лекс.). Да *ля́мант* (гл.).

**Ляма́к** 'ліпкі, няўдалы хлеб' (іўеў., Сл. ПЗБ). Да *ляме́ш*$_2$ 'тс'. Аб суфіксе *-як* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 146.

***Ляна́,** *лена́* 'лянота, ленасць' (ТС). Бел. рэгіяналізм, утвораны пры дапамозе суфікса *-а* з абстрактным значэннем (Слаўскі, SP, 1, 59), як *мана́*. Да *ляны́* (гл.).

**Лянда́р,** *алянда́р* 'гаспадар карчмы, якая аддаецца ў арэнду' (Нас., ТС, Дун.-Марц.). Скажонае слова, якое ўзыходзіць да *арандар*, ст.-бел. *арендарь, арандарь, рендарь* (з XVI ст.). Да *арэнда* (гл.)

**Ляндоўка** 'твар, пыса' (КЭС, лаг.). Балтызм. Параўн. літ. *landà, lánda, lañdė, lendė̃* 'нара', 'лаз', 'ляток у вуллі'. Семантычны перанос: 'нара, яма'>'рот'>'пыса, твар'.

**Ляндры́нка,** *ляндры́нкі* 'цукеркі — ледзянцы' (астрав., Сцяшк. Сл.; брасл., Сл. ПЗБ; драг., КЭС). Запазычана з польск. *landrynka, landrynki, landryny,* якія ўзыходзяць да прозвішча *Ландрин,* уладальніка цукеркавай фабрыкі ў Расіі ў XIX ст. (Слаўскі, 4, 46).

**Ляндэрак** 'бітон, вялікая каструля' (Сцяшк.; зэльв., Сцяц. Словаўтв., гродз., Нар. сл.), 'невялікая каструля' (шчуч., Сл. ПЗБ). У выніку перастаноўкі зычных *л — р* з польск. *rondelek* 'каструлька' (Сцяцко, Словаўтв., 74; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 2, 717).

**Ля́нец** 'хамуціна' (трак., Сл. ПЗБ). Да *ля́мец* (гл.). Аб мене *м'*>*н'* гл. Карскі 1, 329.

***Ляні́ва,** *лені́во* 'выпоўзіны ад вужакі' (Дразд.), драг. *лынэво* 'тс' (КЭС) Да *ле́ніла, ліня́ць* (гл.). Параўн. таксама *лінёвішча.*



**Лянівец** 'паўднёваамерыканская млекакормячая жывёліна з сямейства Bradypodidae (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы, дзе *ленивец* 'тс' з польск. *leniwiec* (Слаўскі, 4, 153). Не выключана магчымасць запазычання непасрэдна з польск. мовы.

**Ляніска,** *ляніско* 'льнянішча' (Сцяшк.; карэліц., Шатал.; астрав., шчуч., шальч., Сл. ПЗБ), 'трава, скошаная на полі, дзе быў лён' (карэліц., Сл. ПЗБ). Да *лён* (гл.). Суфікс *-іска* пад уплывам польск. мовы — параўн. лінгвагеаграфію яго на картах ДАБМ 270 — 273 (зах. і паўн.-зах. пашырэнне).

**Ляніўка** 'падкалочаны селядзечны расол' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Узнікла ў выніку намінацыі выразу, які складаўся з прыметніка і назоўніка, накшталт польск. *leniwe pierogi*<укр. *ліни́ві пирогі́,* бел. *лянівы суп, лянівыя варэнікі.*

**Ляніца** 'лён, ачэсаны на жалезнай шчотцы' (пін., Шатал.), палес. *ляны́ца, лени́ця, льняні́ца, льляны́ца* 'высокагатункавае валакно', 'кужаль'. Палескі рэгіяналізм (з суфіксам *-іца,* аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 110). Да *лён* (гл.).

**Лянішча**$_1$, *льянішча* 'месца, дзе рос лён', 'трава, якая засталася пасля льну' (віл., Жыв. сл., смарг., Шатал., Сл. ПЗБ), макед. *лениште* 'тс'. Прасл. *lenište*. Да *ільнішча, лён* (гл.).

**Лянішча**$_2$ 'скінутая гадзюкай ці вужом скура ў час лінькі' (іўеў., Сл. ПЗБ). Да *лінёвішча* (гл.).

**Ля́нка**$_1$ 'сена, накошанае ў розных месцах' (іўеў., Сцяшк. Сл.) — у выніку абагульнення семантыкі з больш канкрэтных, параўн. іўеў. *ля́нка* 'ільнянішча', 'трава, скошаная на ільнянішчы' (Сл. ПЗБ), якое з польск. *lanka* 'ад ільну'<*lany* 'льняны'.

**Лянка**$_2$ 'доўгая льняная кашуля' (ст.-бел., XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *lanka* 'льняное адзенне', 'палатно з пачоскаў', маз. 'гатунак ільну'.

**Лянксам** 'павольна, не спяшаючыся' (ваўк., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 2, 718), з ням. *langsam* 'тс'.

**Ляновішча** 'месца, дзе расце лён' (б.-каш., Мат. Гом.), н.-луж. *lanowišćo* 'тс'. Да *лён* (гл.). Суфікс *-ov-* сустракаецца таксама у палес. *льновіско* 'тс' і славац. *l'anovisko* 'поле, засеянае льном'.

**Лянок** 'павіліца звычайная, *Galium verum L.*' (гродз., Кіс.), лельч. *лёно́к* 'чабор звычайны, Thymus serpyllum L.', ц.-палес. *лёно́к, лінок* 'зоркаўка ланцэтападобная, Stellaria holostea L.' (Бейл.) названы паводле падабенства сцябла з лісцем да льну, хаця матывацыя назваў застаецца не зусім яснай; *лянок божы* 'крапінец, Polygala L.' (віл., Сл. ПЗБ) — паводле сінявататага колеру кветак і формы плоду — каробачкі, а прыметнік *божы,* магчыма, семантычная трансфармацыя польск. назвы крапінца *krzyżownica (krzyżownik, krzyzownia)*; *ластоўчын лёнок* 'казялец едкі, Ranunculus acer L.' (пін., Бейл.) — назва, відаць,

перайшла з казяльца пякучага (R. flammula), які пры дотыку да скуры выклікае яе пачырваненне накшталт вяснушак (параўн., драг. *ластовэ́ньне* 'вяснушкі'); *польны лянок* 'зарніца звычайная, Linaria vulgaris Mill.' (гродз., Кіс.) — паводле падабенства лістоў да лісця льну. З гэтым жа коранем і славац. *l'anovec* 'тс'. Азначэнне *польны* з польск. *polny* 'палявы, дзікі, vulgaris'; *лянок* 'званочак раскідзісты, Campanula patula L.' (гродз., Кіс.) — паводле каробачкі (плоду), якая нагадвае званочак. Да *лён* (гл.). Аналагічна ўкр. *льонок* 'зарніца звычайная', 'лён слабіцельны', рус. *ленок* 'зарніца', 'грудніца звычайная, Linosyris vulgaris', 'асака'.

**Лянота**$_1$ 'стан вяласці, санлівасці' (ТСБМ, ТС; слуц., КЭС; Янк. БП), *лянотна* 'паволі' (ваўк., Сцяшк. Сл.); ст.-рус. *лѣнота* (XVI ст.), паўн.-рус. *ленота́*, серб.-харв. *лѐнота*. Прасл. *lěnota*. Да *ляны́* (гл.). Аб суфіксе *-ота* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 139.

***Лянота,** лельч. *ленота* 'расліна' (Арх. ГУ). Няясна. Відавочна, да *лянота*$_1$ (гл.).

**Лянта́р** 'упрыгожанне з янтару' (гом., Рам. 1, 2). Да *янта́р* (гл.). Аб пераходзе *й*>*л*' гл. *люстра*. Аналагічна ў рус. арханг. гаворках *лентарь* 'тс', 'пацеркі'.

**Ляну́ха**$_1$ 'страва з бульбы і свежай капусты, забеленая малаком' (полац., ушац., Нар. сл., Нар. лекс., Касп.; паст., рас., пух., Сл. ПЗБ; брасл., Бел. хр. дыял.). Да *ляны́* (гл.).

**Ляну́ха**$_2$ 'прыступка каля ляжанкі печы' (ушац., Нар. сл.; Касп.), *лянушка* 'пяколак (з боку печы)' (рас., Шатал.; Касп.). Да *ляны́* (гл.).

**Ля́нуць** 'паглядзець' (Сцяшк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ; віц., Нік. Очерки, 2). Да *глядзе́ць* (гл.). Аб знікненні *г* перад *л* гл. Карскі, 1, 371.

**Ляну́цька** 'гультай' (Др.-Падб., Гарэц.) Да *ляны́* (гл.). Аб суфіксе *-ут-* (+*-ька*) гл. Сцяцко, Афікс. наз., 129.

**Ляну́шка,** *лянушкі* 'ландыш майскі, Convallaria majalis' (гродз., Кіс.). Запазычана з польск. мовы, параўн. ст.-польск. *lanuszka* (XVI ст.), *lanoszka* (XV ст.) 'тс' (аб ім гл. Слаўскі, 4, 47).

**Лянцэ́й** 'танец — яго танцуюць ланцужком' (нараўл., Мат. Гом.), *ляньця́й* 'від танца другой палавіны XIX ст.' (беш., Касп.). Рус. *лансье*, алан. *ланце*, польск. *lansjer*. Запазычаны з франц. *lansier* 'кадрыля' (Фасмер, 2, 552), 'від кантрданса' (Слаўскі, 4, 49).

**Лянцёха** (неадабр.) 'няўмелая, нязграбная, гультаяватая жанчына' (Юрч. Фраз. 1). Відавочна, ад *лянця́й* (гл.).

***Лянцы́дры,** *лынцы́дра* 'цуглі' (малар., Нар. словатв.). З *вінцыдло* 'тс' (такая форма бытуе ў драг. гаворках), якое, відаць, з польск. +*więdzidło* (<прасл. *vęzidlo*).



**Лянцэты** 'упрыгожанні' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *ланцу́г* і *бранзале́ты* (ці *брасле́ты*).

**Лянця́й,** *лінця́іна* 'гультай' (Нас., міёр., Нар. словатв.). Рус.-бел. ізалекса, утвораная ад *лень*$_1$ (гл.) пры дапамозе суфікса *-тай* (Сабалеўскі, РФВ, 64, 140; 66, 398), як *гультай*.

**Ляны́,** *ля́ный, ле́ны, лені́* 'лянівы' (ТСБМ, Нас., Мікуц., Гарэц., Янк. 1, Шат., Касп., Пятк., Маш., КЭС, лаг., ТС; Сл. ПЗБ), слуц. *ле́ны дуб* 'адзінокі дуб на лузе, у полі' (БНТ, Лег. і пад.); зах.-рус. *ленный, ленной* 'гультаяваты', ст.-рус. *лѣный* 'павольны', 'гультаяваты', польск. *leny*, в.-луж. *lěni, lěny, ljeni* 'тс', чэш. *líný* 'слабы, самлелы', ст.-чэш. *léni, léný*, славен. *lę̑n*, серб.-харв. *lȉjen*, чак. *ле́нӣ*, усх.-серб. *лêњ*, ст.-слав. **лѣнъ**. Прасл. *lěnъ* 'гультаяваты, павольны, марудны' (Слаўскі, 4, 157—159). Да і.-е. *lē-* (Шустар-Шэўц, 826). Генетычна яму адпавядаюць: літ. *lė́nas* 'спакойны, ціхі', 'слабы', лат. *lę̀ns* 'тс', літ. *lė̃tas* 'павольны, ціхі', *lėtùs* 'тс', лац. *lēnis* 'мяккі, пяшчотны' (Фасмер, 2, 482—483). Аткупшчыкоў (Из истории, 246) звязвае гэту лексему з коранем *leg-/log->*leg-s-nis>* **лѣнъ**. (пры ізасемантычным радзе 'ляжаць'—'гультай': *leg-e-nis>лежень*), параўн. таксама паралельнае развіццё раду вытворных асновы *лѣн* — у рускіх гаворках са значэннем 'ляжаць', напр. *лѣнуха, лѣнивка* 'лава ля печы'. Сюды ж *лень-дуб* 'від дуба, які позна распускаецца' (ТС), *лянівы* (ст.-бел. *ленивый, лѣнивый*) 'непрацалюбівы, марудны ў працы, у рухах, вялы', *ляніцца, лыныiтысь* 'ленавацца' (КЭС, лаг.; Сл. ПЗБ, ТСБМ, Яруш.; Панюціч, 101) Гл. таксама *лень*$_1$, *лень*$_2$, *ляна́*.

**Ля́ны**$_2$ 'ільняны' (Сцяшк., маладз. Жыв. сл.). *Ля́ны выхад* 'рабочы дзень на ўборцы льну' (карэліц., Сл. ПЗБ). Да *лён*, *ільняны* (гл.).

**Ляны́к** 'перапечка, праснак з дадаткам тоўчанага льнянога семені' (Клім.). Да *ля́ны*$_2$ (гл.).

**Лянюх** 'гультай' (вільн., Сл. ПЗБ). Відавочна, запазычанне з польск. мовы, хаця Слаўскі (4, 152) мяркуе, што гэта лексема праславянская, параўн. польск. *leniuch* (і *leniocн*), укр. *ліню́х* 'тс', закарп. *лінюхи́* 'трутні'; славац. *leňúch*, чак. *lenjũh*, славен. *lęnúh* 'гультай'.

**Ляня́ха** 'міска' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Відаць, да +*гліняха* (<*гліна*). Параўн. гродз. *гліня́к* 'гліняны гаршчок' (Сл. ПЗБ).

**Ляоды́чыння** 'для выгляду' (Клім.) узнікла з *для годычыньня* — да *гадзіць, дагаджа́ць* (гл.).

**Ляп!** — у значэнні 'ляпнуць' (ТСБМ), выклічнік, які перадае 'стук, удар' (Нас.), *ляп-ляп* (зубамі) 'тс' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Укр. *ляп!* 'шлёп! хлоп!', рус. смал., цвяр. *ляп!* — у значэнні 'ўдарыць, ударыцца', 'трашчаць (аб марозе)'. Ст.-рус. *ляпь,*

ст.-чэш. *lap* 'хутка, не думаючы', польск. *lapie* 'тс'. Гукапераймальнае, як і незалежна ўтвораныя гукапераймальныя: літ. *lap(t)!* — аб цяжкім ступанні, аб гуку пры падзенні, аб хуткім хватанні, алб. *l'ap* 'хлябтаць', арм. *lap'em* 'лізаць', ням. *lappen* 'тс', 'хлябтаць', франц. *laper* 'тс' (Бернекер, 1, 690; Праабражэнскі, 1, 499; Фасмер, 2, 552; Махэк$_2$, 320).

**Ля́па$_1$** 'пашча, рот звера, вужа, рыбы, чалавека', 'шырокі рот', 'звяглівы чалавек', 'морда' (ТСБМ, Гарэц., Шн. 2, Касп., Шат., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, КЭС, лаг.; докш., маладз., Янк. Мат.), *ля́паўка* 'рот' (смарг., Сл. ПЗБ), 'зяпа' (слуц., Жыв. сл.). Рус. смал., пск. *ля́па* 'рот, пашча'. Балтызм. Параўн. літ. *lepà, lẽpas* 'морда, зяпа' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 2, 719). Сюды ж *ляплі́вы* 'балбатлівы' (паст., віл., Сл. ПЗБ).

**Ля́па$_2$** 'язва, балячка' (саліг., Нар. словатв.), люб. 'пухліна', ганц., пух. 'нарасць на чым-небудзь' (Сл. ПЗБ). Укр. *я́пина* 'нарост на дрэве'. Балтызм. Параўн. літ. *lẽpis* 'соска', 'казырок шапкі', *lẽpis* 'выступ страхі, шырокая страха' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 2, 719).

**Ля́па$_3$**, *ляпані́на* 'слата, хлюпата' (швянч., ганц.), *ля́паўка* (смарг.) 'тс', паст. *ля́пська* 'слотна' (Сл. ПЗБ), драг. *хляпанэ́на* 'хлюпата (мокры снег, гразь)'. Укр. валын. *ляпани́ця* 'тс', рус. валаг. *ляпани́на* 'непралазная гразь'. Балтызм. Параўн. літ. *šlãpias* 'мокры' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 2, 719). Параўн. таксама тураў. *лепету́ха* 'вадкая гразь', *ле́пець* 'слота' (ТС).

**Ля́па$_4$** 'сургуч' (глус., КЭС). Да *ля́паць$_3$* 'кідаць, мазаць густое, ліпкае' (гл.).

***Ляпа́й,** *лепа́й* 'муляр' (ТС). Да *ляпі́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ай* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 23.

**Ляпа́йла** 'манюка, той, хто нясе лухту' (Шат.). Рус. валаг., перм. *ля́пало* 'пляткар'. Да *ля́паць* 'гаварыць абы-што'. (Аднак параўн. літ. *lẽpas* 'балбатун', *lẽpaila* 'гультай, вялы чалавек'.) Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 93.

***Ляпа́к$_1$,** *лепа́к* 'цяльпук' (ТС). Балтызм. Параўн. літ. *lapõkas* 'такі сабе, не асаблівы', *lèpẽkas, lepekiũšas* 'бесталковы чалавек'.

***Ляпа́к$_2$,** *лепа́к* 'пляскач' (ТС). Да *ля́паць* 'біць па чым-небудзь мяккім' (гл.).

***Ляпа́к$_3$,** *лепа́к* 'муляр' (ТС). Да *ляпі́ць*.

**Ля́панка** 'стрэльба з куркамі' (стол., ТС). Да *ля́паць$_1$* 'біць з шумам, са стукам'.

***Ляпа́р,** лельч. *лепа́р* 'той, хто лепіць, абмазвае хаты' (Нар. лекс.), 'муляр' (ТС). Укр. *ліпа́р* 'той, хто абмазвае хаты', ст.-польск. *lepiarz* 'той, хто лепіць што-небудзь з гліны', 'ганчар', в.-луж. *lěpjeř*, ст.-чэш. *lépař*, серб.-харв. *lèпар* 'тс'. Прасл. *lěparь*. Да *ляпі́ць* (гл.).



**Ляпа́сы** 'сандалеты' (навагр., Сцяшк. Сл.). Генетычна роднаснымі з'яўляюцца рус. алан. *ле́пес* 'акравак, кавалачак тканіны, футра, скуры', пск., валаг. і паўн.-рус. *ле́пень, лепе́нь, липе́нь,* а таксама рус. *ле́пест* (з пашыранай асновай на *-es*), цвяр., валаг., ленінгр. *ле́песть* 'тс', новасіб. 'ступня нагі', алан., валаг. *ля́пак, ляпа́к* 'акравак', літ. *lepetà* 'лапа', лат. *lepata* 'акравак'. Больш падрабязна гл. Фасмер (2, 482).

**Ля́паўка** 'драўляны званок, які вешалі карове на шыю' (іўеў., Сл. ПЗБ), 'бразготка' (в.-дзв., Шатал.), *ля́паўка* 'балбатун', 'пляткарка' (Растарг.; гом., Нікан.; шчуч., воран., Сцяшк. Сл.). Да *ля́паць* 'гаварыць бязглуздзіцу' (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 113—114).

**Ля́паць$_1$**, *ля́пыць, ле́патэ* 'ўтвараць рэзкі стук, шум пры ўдарах, штуршках; ударацъ з ляскам', 'біць, можна стукаць па чым-небудзь', 'клекатаць (пра бусла)', 'ляскаць зубамі', 'пазяхаць, адкрываць і закрываць рот' (Нас., ТСБМ, Мядзв., Гарэц., Растарг., Бяльк., Шат., Ян., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), 'жраць' (Мат. Гом.), 'трашчаць бразготкай' (швянч., Сл. ПЗБ); *ля́пнуць* 'прапасці, згінуць' (Сцяшк.), 'упасці з шумам' (Нас., Грыг.), 'выцяць, ударыць' (КЭС, лаг.), *ля́пнуцца* 'ўпасці' (Шат., ТСБМ). Укр. *ля́пати,* рус. *ля́пать,* н.-луж. *lapaś,* в.-луж. *lapać,* мар. *l'apat,* славац. *l'apac,* славен. *lápati,* серб.-харв. *ла́пати,* макед., балг. *ла́пам*. Прасл. *l'apati* 'ўдараць, моцна стукаць, пляскаць', 'жраць, есці ўголас'. Гука- і рухапераймальнае ад *ляп!* Незалежна ўтвораны аналагічныя ўтварэнні ў іншых і.-е. мовах: літ. *lapénti, lapóti, lapsẽti* (<lap! — для выражэння падзення, цяжкага ступання, хуткага хапання'), ст.-грэч. λάπω 'ліжу', 'жру, хлябчу', арм. *lap'em* 'лізаць', ням. *lappen* 'тс', 'хлябтаць', алб. *l'ap* 'тс', франц. *laper* 'хлябтаць' (Бернекер, 1, 690; Слаўскі, 4, 50—51; Махэк$_2$, 320; Фасмер, 2, 552).

**Ля́паць$_2$** 'гаварыць бязглуздзіцу', 'гаварыць рэзка, нетактоўна, неабдумана' (Нас., ТСБМ, Касп., Мат. Гом., Растарг., КЭС, лаг.; міёр., Нар. лекс.; в.-дзв., свісл., Сл. ПЗБ). Да *ля́па$_1$* (гл.). Сюды ж *ляпа́цца* 'хваліцца' (дзятл., Сцяшк. Сл.).

**Ля́паць$_3$** 'падаць (пра снег)' (паст., воран., шальч., Сл. ПЗБ), 'пляскаць, плюхаць' (ТС), ганц. *ля́пацца* 'падаць (пра снег)'. Да *ля́па$_3$* (гл.). Відавочна, у гэтых лексем пазней развілося рухапераймальнае значэнне 'кідаць густое, ліпкае', 'кідацца чым-небудзь ліпкім' (ТСБМ).

**Ляпе́за** 'нязграбны, непаваротлівы чалавек' (даўг., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *lapẽža* 'някемлівы, павольны, мешкаваты чалавек', *lepeĩzeris* 'павольны, вялы; разваліна, руіна-чалавек'. Грынавяцкене (там жа, 2, 720) прыводзіць літ. адпаведнік, семантычна тоесны, але які фармальна адрозніваецца *(lepérza)*.

**Ляпéзіць** ’беспадстаўна настойваць на сваім’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *lepẽzinti* ’поркацца, кешкацца, карпатліва працаваць’.

**Ляпéй**$_1$ ’лепш’ (Гарэц., Др.-Падб., Сцяшк.; гродз., навагр., бар., лях., Сл. ПЗБ). Да *лéпей* (гл.). Націск на канчатку — выроўніванне формы *лепей* паводле аналогіі да большасці прыслоўяў вышэйшай ступені ў бел. мове (Бел. гр.$_2$, 1, 197).

**Ляпéка** ’муляр, пячкур’ (Бяльк.), раг. *ляпей,* шчуч. *ляпняк,* смарг. *ляплёнік* ’тс’, ’ганчар’ (Сл. ПЗБ). Да *ляпíць* ’рабіць, будаваць з гліны’ (гл.).

**Ляпéнда**$_1$, *ліпіндá, лепéндá* ’нястрыманы на язык, балбатун’, *лепяндáць, лепéньдзіць, ліпяньдзíць* ’гаварыць шмат, не да месца, надакучліва’ (міёр., З нар. сл.; ТС), шчуч., воран. *ляпяндзя́* ’пляткарка’ (Сцяшк. Сл.). Да *ліміндá, ляме́ндзіць* (гл.). Мена *-м-* у *-п-* адбылася пад уплывам *лапатаць, лапанда.* (Яна характэрная і для гаворак літ. мовы; параўн. літ. *lamañtas=lapañtas*; LKZ, 7, 140.) Аб суфіксе *-éнда (-індá, -яндзя́),* балтыйскім паводле паходжання, гл. Слаўскі (SP, 1, 63); інакш Сцяцко (Афікс. наз., 43, 98—99).

**Ляпéнда**$_2$, *лепяндá, лепендá* ’вадкая гразь’ (ТС). Да *ля́па*$_3$. Аб суфіксе *-éнда* гл. папярэдняе слова.

***Ляпéнда**$_3$, *лепендá* ’прымітыўная пабудова’ (ТС). Да *ляпíць* (гл.).

***Ляпéнік**$_1$, драг. *лыпэ́нык* ’шышка, сухі выраст па краях булкі хлеба’ (Нар. словатв.). Рус. цвяр. *лепенёк* ’лісток расліны’, валаг., пск., арханг. *лéпéнь* ’акравак, абрэзак, кавалачак тканіны’, пск. *ляпéнье* ’акраўкі’, *лéпест, лéпестень* ’тс’, ’ліст расліны’. Генетычна роднаснае да *лапатуха*$_1$, *лапік.* Стары балтызм. Параўн. літ. *lãpas* ’ліст’, лат. *lapa* ’тс’ (гл. Фасмер, 2, 483).

**Ляпéнік**$_2$ ’варэнік з начынкай’ (ТС). Да *ляпíць* (гл.).

**Ляпéнь** ’праснак’ (Гарэц., шкл., Мат. Маг.), *ля́пінь* (Нік. Оч. 1, Шн. 3), чэш. *lepeň,* серб.-харв. *лèпиња* ’тс’. Да *ляпíць* (гл.). Сюды ж пераноснае *ляпéнь* ’няздатная, нязграбная асоба’ (Юрч. Вытв.).

**Ляпéта** ’балбатун’ (смарг., Сцяшк. Сл.), *лепéта* ’сабака (у загадцы)’ (ТС). Укр. *лепéтя,* рус. кубан. *лепéтя* ’тс’, валаг. *лепéта* ’той, хто гаворыць невыразна’, кур. ’сабака (у загадцы)’. Балтызм. Параўн. літ. *lepetà* ’балбатун’ і *лепет.*

***Ляпéха,** *лепéхá* ’аер’, ’маннік вялікі, Glyceria L.’, *сіва лепехá* ’касач’ (ТС). Укр. *лепехá* ’чарот лясны, Scirpus silvaticus L.’ ’аер, Acorus calamus’, *лепíх* ’маннік’, польск. *liepiech* ’асака, Carex’. Прасл. *lepexa* (<*lepati*) ’ляпаць’, семантычна блізкага да *lěpiti* (Трубачоў, Эт. сл., 14, 117—119). Гл. таксама Фасмер, 2, 483; Слаўскі, 4, 166.



**Ляпéш**$_1$, *лепéш, лэпéш* ’праснак’, ’няўдалы, ацеслівы хлеб’, ’тоўсты блін з цёртай бульбы, змешанай з мукою’, ’нязграбны, тоўсты чалавек’ (Шат., Вешт., Янк. 1). Зах.-укр. *лепýх* ’закалец на хлебе’. Да больш архаічнага *ляпёх* ’тс’ (гл.).

***Ляпéш**$_2$, *лепéш* ’пячнік’ (мазыр., Шатал.). Прасл. рэгіяналізм, утвораны пры дапамозе суфікса *-ešь.* Да *ляпíць* (гл.).

**Ляпéшні,** *лепяшня́, ліпішня́* ’клешні’ (Крыў., Са сл. Дзіс.). Утварылася ў выніку кантамінацыі слоў *ляпа*$_1$ і *клюшня* (ці ў форме *клюшня́*).

**Ляпешнік** ’алешнік’, ’альховыя кусты з гразкімі месцамі і сенажатнымі лажкамі’ (слаўг., Яшк.; Касп., Мат. Гом.), ’аер’ (ТС). Укр. *лепішник* ’асака’, *лепешни́к, лепешня́к* ’чарот лясны’, рус. *лепёшник* ’аер, ірны корань’, Acorus calamus L.’, смал. ’зараснікі альхі’, калін. *шелеп* ’алешнік’ (з перастаноўкай зычных), кур. ’плюшчай галінасты, Sparganium ramosum Huds.’ разан. ’мальва’, ніжагар. ’падбел’, алан. *лепешня́к* ’нізкі вярбіннік або алешнік’, варон. *лепёшечник* ’трыпутнік’, сарат. ’алтэй’; польск. *lepiaśnik, lepiężnik* ’белакапытнік, Pelasites Mill.’, ’падбел’, якія Слаўскі (4, 166) лічыць запазычаннем з усх.-слав. моў. У зах.- і паўд.-слав. мовах (славен. *lepeník, lepíš* ’падбел’) з кораня *lop-/lap-.* Можна меркаваць, што тут зліліся ў адну некалькі лексем: ад *лéпест* (гл.) і лексемы са значэннем ’алешнік’, запазычаныя з фін., карэльск. *leppä,* эст. *lepp* ’алешына’ (Каліма, 152; Фасмер, 2, 484).

**Ляпёткі** ’лёгкія пялёсткі, якія адлятаюць пры малацьбе аўса’ (Мядзв.). Рус. *лéпет, лéпест* ’кавалачак, акравак’. Роднаснае да літ. *lepetà* ’лапа’, ст.-грэч. λέπω ’абдзіраю’, λεπός ’скура, луска’.

**Ляпёх** ’перапечка з хлебнага цеста’ (гродз., Сцяшк. Сл.). Прасл. рэгіяналізм. Да *ляпíць* (гл.). Утвораны пры дапамозе суф. *-ехъ.*

**Ляпёха**$_1$ ’кавалак гразкай зямлі’ (Інстр. 1). Відавочна, роднаснае з рус. разан., свярдл. ’круглы, плоскі ком гразі, каравячага памёту’. Параўн. і балг. *лепешка* ’тс’. Да *ляпíць* (гл.).

**Ляпёха**$_2$, *лыпэ́ха* ’поўная жанчына’, ’тоўстая нехлямяжая жанчына’, ’гультай’, ’непрыгожая жанчына з шырокім тварам’, *ляплёха* ’тоўстая жанчына, як вылепленая’ (Бяльк., Клім.; браг., Мат. Гом.; драг., Нар. лекс.; міёр., З нар. сл.; брасл., Сл. ПЗБ). Бел.-рус. ізалекса. Параўн. рус. пск., цвяр., смал., разан., валаг., алан., кур., тул. *лепёха* ’тс’. Узнікла ў выніку семантычнага пераносу з *ляпёшка* ’ляпёшка’, якое з прасл. *lěpexa* ’тс’. Аналагічна іншыя словы, што называюць розныя віды печыва: *бýлка, пы́шка,* драг. у выразе: *сыдэ́ть бы роўге́ня* — аб поўнай прыгожай жанчыне. Сюды ж міёр. *ляплёха* ’тоўстая, як вылепленая’ (З нар. сл.).

**Ляпёшка**$_1$ 'перапечка, праснак, скавароднік' (Нас., Бяльк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'няўдалая булка хлеба' (Ян.). Рус. *лепёшка* 'блін', 'аладка', 'дранік', 'пірог', 'круглая буханка'. Да *ляпіць* (Міклашыч, 178; Праабражэнскі, 1, 448; Младэнаў, 273). Сюды ж звычайна адносяць і рус. *лёпех, лепехи́,* бел. *ляпёшка (прастамоўн.)* і балг. *лёпешка* 'каравячы памёт', 'кізяк' (Фасмер, 2, 484; БЕР, 3, 363). Бернекер (1, 701) дапускае роднаснасць з рус. *лепёнь* 'акравак', *лепест.* Буга (Rinkt., 1, 452) супастаўляе рус. *лепёшка* з літ. *lepaĩšis* ' праснак з бульбы і ячменнай мукі', *lepatur̃šis* 'праснак'.

**Ляпёшка**$_2$ 'ўдар далоняй па мякаці цела', *ляпёшку падняць (з'есці)* 'упасці задняй часткай цела' (Нас.). Да *ля́пацьₗ* (гл.).

**Ляпёшка** 'лісічка, Cantharellus cibarius' (воран., Сл. ПЗБ). Відазмяненае *ля́пушкі* (гл.) паводле *ляпёшка* пад уплывам народнай этымалогіі.

**Ля́піс** 'нітрат срэбра, які выкарыстоўваецца ў якасці процізапаленчага сродку (для прыпякання)' (ТСБМ). Запазычана з польск. *lapis* ці з рус. *ля́пис,* якія з лац. *lapis* 'камень' (SWO, 1980, 419).

**Ляпі́та,** *лепі́та* 'пячнік', 'майстар нешта ляпіць з гліны' (Янк. 1; маг., Нар. словатв.; КЭС, лаг.). Да *ляпіць* (гл.). Аб пашырэнні суфікса *-іта,* які з'яўляецца працягам балт. *-i-ta* (Слаўскі, SP, 2, 38), на бел. моўнай тэрыторыі гл. Сцяцко (Афікс. наз., 44).

**Ляпі́ць** 'ствараць фігуры з пластычнага матэрыялу', 'будаваць, майстраваць, карыстаючыся ліпкім, вязкім матэрыялам', 'прыклейваць, прылепліваць', 'з сілай ісці (пра мокры снег)', 'рабіць соты' (ТСБМ, Яруш., Шат., Анох.; пух., паст., Сл. ПЗБ), *лепі́ць* 'тынкаваць' (ТС), *ляпі́цца* 'прыляпляцца', 'цесна прымыкаць', 'лезці ў цеснату', 'прыставаць' (Нас., ТСБМ, ТС; іўеў., паст., Сл. ПЗБ). Укр. *ліпи́ти,* рус. *лепи́ть,* польск. *lepić,* н.-луж. *lěpiś,* в.-луж. *lěpić,* чэш. *lepiti,* славац. *lepit',* славен. *lepíti,* серб.-харв. *lijèpiti, лéпити,* макед. *лепи(се), ляпи,* балг. *лепя,* ст.-слав. **при-лѣпити.** Прасл. *lěpiti(sę)* — каузатыў да *lьpěti*>*лінéць*$_2$ (гл.). Другая ступень чаргавання галоснай кораня — *ліпкі, ліпнуць* (Слаўскі, 4, 164; Фасмер, 2, 484). Роднасныя і.-е. адпаведнікі: ст.-інд. *lēpayati, limpáti* 'ён мажа', *lipyatē* 'прыліпае', *lēpas* 'мазь', *répas* 'пляма', ст.-грэч. *λίπος* 'тлушч', літ. *lìpti* 'прыклейвацца', лат. *lipt* 'тс', літ. каузатыў *lipýti,* лат. *lipinât* 'прыклейваць', алб. *laparós* 'запэцканы', гоц. *bilaibjan* 'пакідаць', *·aflifnan* 'заставацца', ст.-в.-ням. *laiba* 'скарынка', тахар. *lip-* 'тс', хецк. *lip-* 'мажу'. І.-е. **loip-*, **lep-* (Міклашыч, 178; Бернекер, 1, 712; Траўтман, 161; Скок, 2, 297—298; Трубачоў, Ремесл. терм. 188; Эт. сл., 14, 217—219; Бязлай, 2, 134; БЕР, 3, 365—367).



**Ля́пка**$_1$ 'насечка, метка на бервяне' (Бяльк.) — як вынік дзеяння ад *ля́пацьₗ* (гл.).

**Ляпка**$_2$ 'пройгрыш, страта' (КТС — Дунін-Марцінкевіч). З лексікі карцёжнікаў. Да польск. *lapa* 'ашуканства', якое з ням. *Lappe* 'разява, расцяпа' (Варш. сл., 2, 684).

**Ляплёнік** 'таўстун, як вылеплены' (міёр., З нар. сл.), 'няўдалы хлеб ці праснак' (КЭС, лаг.), 'муляр, пячнік' (смарг., Сл. ПЗБ). Утвораны паводле прасл. мадэлі: дзеяслоў+суфікс *-enъ* з дадаткам суфікса *-ik-*. Да *ляпі́ць* (гл.).

***Ляпля́ва,** *лепля́во* 'марудна, павольна', *лепляву* 'марудны (пра работу)' (ТС). Балтызм. Параўн. літ. *at-lẽplinti* 'няўклюдна адыходзіць'.

***Ляпля́вы,** *лепля́ву* 'назойлівы, прыліпчывы' (ТС). Да *ліпнуць, ляпі́цца, ляпі́ць* (гл.).

**Ляпны́** 'зроблены з дапамогай лепкі' (ТСБМ). З рус. *лепной* 'тс'.

**Ляпня́к** 'недапечаны хлеб, які ліпне да зубоў' (Сцяшк., карэліц., Шатал.; Сцяцко, Бел. мова, 137). Да *ляпі́ць* (гл.). Аб суфіксе *-няк* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 59.

***Ляпота**$_1$, *лепота* 'слота', 'вадкая гразь' (ТС). Да *ля́па*$_3$ (гл.). Тоесныя па паходжанню лексемы з рус. тэрыторыі (гл. Горячева, Этимология-72, 131).

**Ляпота**$_2$ 'пэцкаль' (ТС). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *ляпі́ць.* Параўн. тураў. *лепі́ць* 'тынкаваць'.

**Ляпорт** 'рапарт' (Рам., 4; Нар. Гом.; КЭС — Дунін-Марцінкевіч). Скажонае рус. *рапорт* 'тс', якое ў такой форме ўжывалася ў XIX ст.

**Ляпоця** 'шапялявы' (добр., Мат. Гом.). Рус. вяц. *ляпота* 'тс'. Відавочна, балтызм, утвораны пры дапамозе суфікса *-ота* ад дзеяслова, роднаснага да літ. *švepl(i)úoti, šveplénti* 'шапялявіць'.

**Ля́псус** 'недарэчная, грубая памылка' (ТСБМ). Новае запазычанне з польск. ці рус. моў, у якіх — з лац. *lapsus* 'паданне, падзенне', 'памылка', 'памылковы крок' (Слаўскі, 4, 50; Лёхін, 413).

**Ляпу́каць** 'плявузгаць' (жытк., Нар. словатв., ТС). Да *ля́пацьₒ* (гл.). Суфікс *-ук-* перадае працягласць дзеяння (параўн. *шушукаць*).

**Ляпу́шка**$_1$ 'мокры снег, слата, хлюпота' (швянч., Сл. ПЗБ). Да *ля́па*$_3$ (гл.).

**Ля́пушка**$_2$ 'бразготка' (швянч., Сл. ПЗБ). Да *ля́пацьₗ* (гл.).

**Ляпу́шка** 'ляжанка' (шум., Сл. ПЗБ). Рус. пск., цвяр. *лепу́ха, лепуха́.* Бел.-рус. ізалекса. Відавочна, да *ляпі́ць* (гл.).

**Ля́пушкі** 'лісічкі' (Сцяшк.). Балтызм. Параўн. літ. *lẽpšė, lẽpšis, lepeškà* 'абабак, Boletus scaber'. Суфікс *-ушкі* (балтыйскага паходжання) параўн. у *авярушкі, гаварушкі* і інш.

**Ля́пша** *(асудж.)* 'нязграбны, непаваротлівы чалавек' (ігн., Сл. ПЗБ). З літ. *lẽpšė* 'вялы чалавек, цюхцяй' (Грынавяцкене, там жа, 2, 721).

**Ляпшу́к** 'абабак, Leccinum scabrum' (вільн., ігн., Сл. ПЗБ). З літ. *lepšiùkas* 'тс' (Грынавяцкене, там жа, 2, 721).

**Ляпя́к** 'стары грыб' (карэліц., Сцяшк. Сл.). Роднаснае да *ляпіць* (гл.).

**Ляпя́нік** 'ганчар' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *ляпíць* (гл.). Аб суфіксе *-янік* (які з *-яннік*) гл. Сцяцко, Афікс. наз., 56—57.

**Ляпя́нка,** *ліп'я́нка, лып'я́нка, лыпля́нка, ляплёнка, ляпонка* 'жылая глінабітная пабудова', 'зямлянка'. Укр. *ліпля́нка, ліп'я́нка* 'хата з гліны', польск. *lepianka, lep'ånka, lepi̯onka* 'тс', ст.-польск. *lepianka, lepionka* 'нешта злепленае', каш. *lep'ȯnka* яшчэ азначае 'гліняная падлога', 'гліняная пабудова'; чэш. ходск. *lepenka* 'гліна, змешаная з саломай і вотруб'ем, якой абмазваўся вільчык страхі'. У зах.- і паўд.-слав. мовах гэта лексема мае значэнне 'кардон'. 'толь', 'наклейка'. Узыходзіць да прасл. формы *lěpjen-ъka* 'нешта злепленае' (Слаўскі, 4, 162). Да *ляпíць* (гл.)<прасл. *lěpiti* 'мазаць'.

**Лярва,** *ля́рвіна* 'лічынка' (чэрв., КЭС), 'распушчаная жанчына' (Нас., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Бір., Дзярж., Юрч. Фраз. 1), 'гультай, абібок, вялікая гультайка' (Юрч. Фраз. 1, міёр., Нар. словатв.), 'бесхарактарная, мягкая натура' (Мядзв.). Запазычана з польск. *larwa* 'лічынка, зародыш', 'прывід', 'брыдкі чалавек, асабліва жанчына', 'страшыдла', 'распусніца', якое з лац. *lārva* 'прывід, страшыдла, вампір', 'шкілет'<*Larēs* 'Лары, духі — захавальнікі дамашняга ачагу, дзяды'. Значэнне 'лічынка' — з франц. *larve* 'маска'<'той, хто хавае сваё сапраўднае аблічча' (Слаўскі, 4, 53; Кюнэ, 72). Сюды ж *лярвёнак* 'пазашлюбнае дзіця' (Нас.), а таксама *ля́рва* — забабонны тэрмін? (КЭС).

***Ляса́ўка,** *ліса́ўка* 'лесавы яблык' (Бяльк.), *лясо́ўка* 'дзікая яблыня' (барыс., Сл. ПЗБ). Магчыма, з польск. *lasówka* 'дзікае лясное дрэва', 'плады з такога дрэва'. Параўн. ст.-рус. *лѣсница* 'дзікая яблыня', укр. закарп. *ліснúця* 'дзікая яблыня ці груша'.

**Лясе́нства** 'вялікі лясны масіў' (слаўг., Яшк.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад $^+$*лясеннік,* параўн. рус. кастр. *лесе́нник* (зборн.) 'дрэва, кусты', рус. (ЛітССР) *лесёнок* 'лясок'. Аб суфіксе *-ств-а* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 139).

**Лясёнка** 'радняная посцілка ці абрус, у якіх носяць з поля сена, салому, траву, пераносяць груз за плячамі' (Янк. 1, Жд. 1, Шат., Бяльк.; асіп., ДАБМ, к. 254; пух., З нар. сл.; асіп., Шатал.; іўеў., Сцяшк. Сл.); 'невялікі вышыты дыванік' (Новы Двор пад Мінскам, КЭС). Генетычна ўзыходзіць да прасл. *lěsa* 'пляцёнка з галінак, прутоў для розных мэт, пляцень, вароты, краты' (укр. *ліса, ліса́,* рус. *леса́,* ст.-рус. *лѣса, леса, лесы;* польск. *lasa,* ст.-польск. *lasy,* ст.-н.-луж. *lěsa,* в.-луж. *lěsa,* чэш. *lísa,* мар. *l'ésa,* славац. *lesa, lésa, liesa,* славен. *lẹsa,* серб.-харв. *ljȅsa,* макед. *леса,* балг. *леса́, ля́са, ле́са, ле́си, лесú,* ц.-слав. **лѣса**), якому адпавядаюць лат. *lȩ̄sa* 'сплеценыя расліны на паверхні вады', *lȩ̂sa* 'пасцель з ільну, збажыны (снапоў)', 'карэні раслін, якія зрасліся над вадой і ўтварылі слой', *lȩ̄ss* 'тс' (Сабалеўскі, РФВ, 15, 366; Брукнер, 290; Слаўскі, 4, 56—59; Мюленбах-Эндзелін, 2, 462). Фасмер (2, 485—486) мяркуе, што такое збліжэнне звязана з семантычнымі цяжкасцямі. Значэнне бел. лексемы 'посцілка' развілося з прасл. 'пляцёнка з галінак', трэба помніць аб тым, што ткацтва больш за ўсё нагадвае пляценне і, відавочна, узнікла з яго (Трубачоў, Ремесл. терм., 19).



**Лясінка,** *лесíнка* 'адна арэшына' (лельч., Нар. лекс.). Да *леса*$_1$ (гл.).

**Лясіна,** *лесíна, лесíна* 'адно дрэва на корані', 'сухое дрэва', 'ссечаныя дрэвы як лесаматэрыял', 'бервяно' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Бяльк., Касп., Ян., Юрч. Вытв.; рас., Шатал.; пух., Сл. ПЗБ; ТС). Да *лес* (гл.). Аб суфіксе *-іна* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 155—156.

**Ляск** 'звонкі гук, які ўтвараецца пры ўдары металічным прадметам аб метал, камень і інш.', 'рэзкі, сухі гук пры ўдары, сутыкненні' (ТСБМ, Касп.). Укр. *ляск,* рус. *лязг.* Усх.-слав. гукаперайманне (Бернекер, 1, 702).

**Ля́ска** 'галінка дрэва, дубец, палачка, кій, прыс, шост' (Нас., Мядзв., Касп., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), 'прыгожы кірмашовы кіёчак' (КЭС, лаг.), 'штыкеціна, выгнутая палка ў вертыкальным плятні', 'дошка ў плоце'; 'гарызантальная жэрдка ў агароджы' (Сцяшк., Бір., дыс., Сл. ПЗБ), 'лёстка ў драбіне калёс' (бялын., Янк. Мат.; мсцісл., Полымя, 7, 1987, Бір. дыс., гродз., Сцяц. Словаўтв.; зэльв., Шатал.), 'палка плытагона, якою ён правіць плытом' (Бір. дыс.) 'планка круглага сячэння ў баране, у венцеры' (Сл. ПЗБ), *ля́сачка* 'трасцінка, палачка' (Нас., Янк. 1), *ля́сачкі* 'тонкія дошчачкі ў кроснах, якія прытрымліваюць палатно, каб яно не сцягвалася' (Сцяшк.). Запазычана з польск. *laska* 'кій, палка', ст.-бел. *ляска, леска* (XVI ст.) 'жазло', 'арэхавы кій' — са ст.-польск. *laska* 'тс' (Цвяткоў, 53; Слаўскі, 4, 59—60; Булыка, Запазыч., 185; Сцяцко, Словаўтв., 177; Арашонкава, БЛ, 2, 50), якія да прасл. *lěska* 'арэхавы кій'. Пазней адбылося напаўненне семантыкі новымі значэннямі. Гл. таксама *леса*$_1$.

**Ля́скавіца**$_1$ 'смерць' (Растарг.). Да *ля́скаць, ля́снуць* 'згінуць' (гл.). Аб суфіксе *-авіца* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 82.

***Ля́скавіца**$_2$, *ля́сковіца* 'маланка' (ТС) — паводле ўдараў грому — да *ля́скаць* (гл.). Параўн. таксама *ляската́ць* 'моцна

грымець і бліскаць'. Не выключана магчымасць утварэння гэтай лексемы з *бліскавіца* 'маланка' (Сл. ПЗБ) пры кантамінацыі з *ляскаць*.

**Ля́скалка** 'скрыпень вузкалісты, Epilobium angustifolium Scop.' (лельч., Нар. лекс.). Відаць, да *ля́скаць*. Аднак матывацыя застаецца няяснай. У частцы назваў пераважае «гукавая» прыкмета: *скрыпень, скрыпнік, скрыпун*. Сюды ж і *ля́скалка*. Магчыма, паводле гука пры ляску, трэску плода-каробачкі.

**Ля́скат** 'гукі пры лясканні' (ТСБМ, Растарг.; стаўб.; Нар. словатв.), *ля́скот* 'бразгат' (ТС), укр. *лескіт* 'трэск'. Утворана ад *лескатáць* (гл.)<прасл. *leskati*>ляскаць (гл.).

**Ля́скаўка**$_1$ 'смалёўка, Silene cucubalus Wib.' (брэсц., Кіс.; лельч., Арх. ГУ), тураў. *ля́скоўка* 'тс' (ТС), а таксама 'палявая мята'; асіп. 'званец, Rhinanthus L.' (Сл. ПЗБ). Да *ля́скаць* (гл.)—надзьмуты падвяночак гучна лопаецца, калі яго здавіць пальцамі. Аналагічна паўд.-чэш. *praskavec* (<*praskati* 'лопацца, трэскацца'), славац. *pukaia* (<*pukať* 'тс'), польск. *trzaskawka* (<*trzaskać* 'тс').

***Ля́скаўка**$_2$, *ля́скоўка* 'плавальны пузыр у рыбы' (ТС). Да *ляскаць* 'трэскацца' (гл.).

***Ля́скаўка**$_3$, *ля́скоўка* 'падлешчык' (ТС). Да *ле́скаўка* (гл.).

**Ля́скаўка**$_4$ 'палоска кары, раздвоеная з аднаго канца для перадачы тонкага гука пры гульні «ляшчоткі»', 'гульня «ляшчоткі»' (Нас.). Роднаснае з польск. *laskować* 'выразаць жалабы', 'аздабляць дранкай, ляскамі, прутамі', 'рыфляваць'.

**Ля́скаць** 'утвараць ляск, прарэзлівы стук', 'пляскаць у далоні' (ТСБМ, Шат., Касп., КЭС, лаг.), 'трашчаць, праводзячы кіем па радзе калоў' (Гарэц.), 'біць, ударацъ чым-небудзь плоскім' (Сцяшк., Шат.), 'стукаць' (ТС), 'прыбіваць нітку пры тканні', 'крычаць прарэзліва' (Ян.), 'клекатаць (пра бусла)' (докш., Сл. ПЗБ), *ля́снуць* 'выцяць, агрэць', 'згінуць', 'знікнуць, прапасці', 'пабегчы', 'выпіць' (ТСБМ, Бяльк., Юрч., Сцяшк., Сл. ПЗБ; ТС; КЭС, лаг.; рагач., Мат. Гом.), *лясонуць* 'моцна ляснуць' (ТС), *ля́снуцца* 'упасці і моцна ўдарыцца' (ТСБМ, Растарг., Мат. Гом., ТС), пін. *ляску́чы* 'звонкі, гучны' (Нар. лекс.). Укр. *ля́скати*, рус. *ля́скать* 'тс'; ст.-рус. *лясканти* 'ляскаць зубамі', 'чаўкаць'. Прасл. *leskati* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 14, 135—136).

**Ляска́ч**, *ліска́ч* 'пляскач, удар' (Бяльк.). Да *ля́скаць* (гл.).

***Ляскліві**, *лескліві* 'ліслівы, падлізлівы' (Бес.). З $^+$*лестлівы*. Да *лёста, лёстачкі* (гл.).

**Лясковы**$_1$ 'лясны' (Др.-Падб.). Утворана ад *лясок* 'малы лес, гаёк', параўн. ст.-польск. *lasko* 'тс'. Да *лясок* (гл.).

**Лясковы**$_2$ 'арэхавы' (Нас.; слуц., Сл. ПЗБ). Да прасл. *lěska* 'ляшчына'. Гл. *леска*$_1$ і *лясок*.



**Лясковачка**$_1$, *лесковачка* 'гаршчочак' (светлаг., Мат. Гом., Ян.). Няясна. Магчыма, звязана з *ляска* 'ляшчына' — дубчыкі з ляшчыны, якімі аплятаўся слабы гаршчок для большай моцы. Параўн. *берасцень* 'гаршчок, які быў аплецены берастам'. Не выключана найменне гаршка паводле палосак, нанесеных на паверхню. Параўн. польск. *laskować* 'рабіць жалабкі', 'пакрываць дранкай, ляскай', *laskowaty* 'рыфлены', а таксама ст.-бел. *ляска* 'нейкая судзіна' (Скурат, БЛ, 8, 11). Гл. таксама *лязкоўка*.

**Лясковачка**$_2$ 'дзіцячая гульня' (Ян.), *ляскоўка* (*іграць у ляскоўку*) — бел.-рус. ізалекса (Герд, там жа, 32). Відаць, да *ляскаць*. У пацвярджэнне можна прывесці апісанне гульні ў Бялькевіча: адзін нагінаецца і зажмурвае вочы, яго па спіне б'юць (=ляскаюць), а ён павінен адгадаць, хто ўдарыў (Бяльк., 256).

**Лябкотка** 'прыстасаванне, пры дапамозе якога ўтвараецца дробны, перарывісты стук, бразготка' (ТСБМ). Да *лескатáць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 62.

**Ляскоўка** 'дзікая лясная яблыня; плод з яе' (кір., Нар. сл.; чачэр., Мат. Гом.), *ляскоўкі* 'лясныя яблыкі' (КЭС, Чыгрынаў). Утворана ад *ляскоўы*, якое ад *лясок* 'гай, невялікі лес' (гл.). Параўн. ст.-польск. *lasko* 'тс', н.-луж. *lěsko* 'малы ліставы лес'<*lěso* 'ліставы лес', ст.-чэш. *les, lesy* 'лістота', 'парасткі'.

**Ляскоўнік** 'арэшнік' (Нас., зэльв., Шатал.). У выніку наміналізацыі выразу *лясковы лес* з *лясковы* 'арэхавы' (Нас.). Да *леска*$_1$< прасл. *lěska* 'ляшчына'.

**Ляску́н** 'салавей' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *ля́скаць* (гл.).

**Ляску́ха** 'падлешчык' (ТС). Да *ле́скаўка, лешч* (гл.).

**Ляснік**, *лясьнік, леснік, ліснік, лыснэ́к* 'даглядчык, вартаўнік лесу, палясоўшчык' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Касп., Яруш., Сл. ПЗБ). Пашырана гэта лексема ў зах.- і ўсх.-слав. мовах; славен. *lęsnik* мае блізкія значэнні: 'лясная яблыня, лясоўка', *lesnika* 'тс', макед. *лесник* 'ляшчына', 'арэшнік'. Прасл. *lěsьnikъ* (Слаўскі, 4, 178—179).

**Лясніца** 'поле пасярод лесу' (слаўг., Яшк.). Да *лясны*<*лес* (гл.). Аб суфіксе *-іца* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 110.

**Лясніцтва**, *лясніства, ляснічаства, ляснічыства* 'ўчастак лесу як гаспадарчая адзінка', 'упраўленне, якое ведае гэтым лясным участкам, і гаспадарчыя будынкі, дзе яно размяшчаецца' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ; слаўг., Яшк.). Форма *лясніцтва* (*-ства*) з польск. *leśnictwo*, якое з *leśnik*, а *ляснічаства* — з рус. мовы. Да *ляснік* (гл.).

**Ляснічы**, *ляснічый, лыснэ́чы* 'загадчык лясніцтва', 'спецыяліст па лясной гаспадарцы' (ТСБМ, Яруш.; смарг., Сл. ПЗБ; драг., КЭС), ст.-рус. *лѣсничий*, укр. *лісничий*, рус. *лесни́чий*, польск. *leśniczy* 'тс'. Утворана ад *ляснік*: *lěsьnik-jь*>*lěsьničii*

***Лясно,** *лесно́* 'лясіста, паросшы лесам' (ТС), укр. палт. *лісно́* 'шмат лясоў', рус. анеж., смал. *ле́сно, лесно́* 'тс'. Прыслоўе *lěsьno* ад *лясны́* (гл.).

**Ляснýшка** 'яблыня-дзічка', 'яблык з дзікай яблыні' (ушац., Жыв. сл.; беш., Нар. сл.; в.-дзв., Шатал.; Касп.). У выніку намінацыі выразу *лясная яблыня.* Аб суфіксе *-ушк-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 125. Годным увагі з'яўляецца круп. *лясýшкі* 'дзічкі' (Нар. сл.), у якім суфікс далучаецца да асновы *lěs-* (а не *lěsьn-*). Аб семеме 'дзікі' гл. *лясны.* Параўн. *ля́саўка, лясоўка.*

**Лясны́,** *лясны́й, ліснэ́й* 'уласцівы лесу', 'які жыве, расце, знаходзіцца ў лесе', 'багаты лесам, лясісты', 'які мае адносіны да лесаводства' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ); 'дзікі' (пра яблыні, пчолы)' (глыб., віл., іўеў., воран., чэрв., Сл. ПЗБ). Прасл. *lěs-ьnъ.* Да *lěsъ*>*лес* (гл.). Значэнне 'дзікі' — уплыў балтыйскага субстрату; цяпер яму адпавядаюць лат. прыметнікі ад *mežs* 'лес': *meža pīle* 'дзікая качка' *meža zvēri* 'дзікія звяры і інш.' (Непакупны, Связи, 77—82). Сюды ж *лясныя пчолы* 'дзікія пчолы' (чэрв., іўеў., воран., З нар. сл.); *лясны клоп* 'смярдзюха' (Сцяшк.), польск. *leśnieć* 'дзічэць'.

**Лясок,** *лесок* 'невялікі лес' (ТСБМ; ганц., Сл. ПЗБ), 'зараснік арэшніку' (івац., Нар. сл.). Да *лес* (гл.). Улічваючы семантыку лексем, можна дапусціць, што ў некаторых прасл. гаворках *lěsъ* абазначала 'ліставы лес' — магчыма, як вынік балт. субстрату. Параўн. літ. *laĩškas* 'ліст (дрэва)', а таксама першасную семантыку лексемы *lěsъ* у зах.-слав. мовах (Марван, Inform bul. pro otázky jazykovědné, 5, Praha, 1964, 30—31; Трубачоў, Дополн., 2, 485).

**Лясоўка** 'дзікая яблыня і плод з яе' (Касп., шкл., Мат. Маг.), 'лясная груша' (карэліц., Сцяшк. Сл.), як і *лясоўка* 'лясная мыш' (карм., Мат. Гом.) утварыліся ў выніку намінацыі выразу з прыметнікам *лясо́вы* (гл.).

**Ля́сткі₁,** *ля́сточкі, лёсточкі, лю́сточкі* 'вертыкальныя палачкі ў драбіне' (Маслен.; лунін., Шатал.; рэч., Мат. Гом.; лях., ганц., Сл. ПЗБ). Беларускае. Утварылася ў выніку кантамінацыі *ляска* 'тс' і ⁺*лества* з прасл. *lěst-va* 'лесвіца'. Гл. таксама *лёсткі.*

**Ля́сткі₂,** *ля́сточкі* 'кліны пад пахвамі ў кашулі' (Тарн.). Узнікла ў выніку кантамінацыі ням. *Lasche* 'клін у сукенцы' (с.-в.-ням. *lasche,* ісл. *laski*) і бел. *ластаўка₂* 'клін пад пахвамі' (гл.).

**Лястыр** 'гемарой' (паўн.-зах., КЭС) З ням. *Laster* 'загана, недахоп'.

**Лясýн** 'жыхар лесу', 'лясны дух' (ТСБМ, Гарэц., Яруш.; нараўл., Арх. ГУ; асіп., КЭС) Укр. *лісýн* 'лясны дух', *Лісýн* 'бог ваўкоў'. Бел.-укр. ізалекса. Да *лес.* Аб суфіксе *-ун* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 173). Аналагічна, але з іншым вакалізмам суфікса ўтворана чэш. *Lesoň* (у перыяд чэшскага адраджэння) з лац. *Silvanus* 'лясны бог'.



**Ля́сы** *тачы́ць* 'марна траціць час у пустых размовах' (ТСБМ, Юрч. Фраз. 2, Касп.). Укр. *ляси підпуска(ти)* 'заляцацца', рус. *лясы точить (веять, разводить, подводить, сказывать, строить, строчить)* 'марна траціць час у балбатні, пляткарыць'. Паводле пашырэння ў гаворках можна меркаваць аб запазычанні з рус. мовы, у якой гэта запазычанне з польск. *balasy* 'балясы'<італ. *balaustro* 'баляса ў балюстрадзе' (Сабалеўскі, РФВ, 66, 345; Фасмер, 2, 552). Параўн. рус. кастр. *лясы-балясы* 'балбатня, леменда', ярасл. *лясы-балясы точить* 'пустасловіць', 'жартаваць'.

**Лясь!** — выклічнік у значэнні дзеяслова *ляскаць, ляснуць* 'ударыць па голым целе', 'падзенне, удар', 'бразь, плясь!' (ТСБМ, Гарэц., Шат.; полац., мсцісл., Нар. лекс.; паст., Сл. ПЗБ). Утворана ад *ля́скаць* (Праабражэнскі, 1, 497).

**Ляга́вец** 'вядзьмар, змей, лятаючы дух' (Доўн.-Зап., 3), ст.-бел. *лятавецъ, летавецъ* 'прывід, здань' (пач. XVII ст.), запазычаны са ст.-польск. *latawiec, letawiec* 'вампір, ведзьма, крывасмок' (Булыка, Лекс. запазыч., 176; Свяжынскі, Бел.-польск. ізал., 110—111), якія Слаўскі (4, 67—68) узводзіць да праформы *lětav-ьсь*<*lěta-vъ*<*lětati*>*лята́ць* (гл.). Сюды ж *лятавіца* 'русалка, жанчына-дэман' (там жа). Параўн. таксама смал. *лета́вка* (фалькл.) 'той, хто хутка лётае ці бегае'.

**Ляга́р** 'ліхтар' (лях., Сл. ПЗБ) утворана ў выніку кантамінацыі *лятарня* і *ліхтар.*

**Ляга́рня** 'ліхтар', падсвечнік' (Сцяшк., Мал.; гродз., шчуч., З нар. сл., Сл. ПЗБ), *лятарэнька* 'ліхтар' (Булг.), ст.-бел. *лятарня, летарня, лятерня* 'тс' (1556 г.). Запазычаны са ст.-польск. *laternia, laterna, latarnia,* якія праз с.-в.-ням. *latërne* 'ліхтар' прыйшлі з лац. *laterna* 'ліхтар, лямпа'<*lanterna*<ст.-грэч. λαμπτήρ 'паходня, лямпа, ліхтар' (Слаўскі, 4, 66 з л-рай; Булыка, Лекс. запазыч., 103).

**Ля́тась** 'у мінулым годзе' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *лéтась* (гл.). У пачатковым *ля-* польскі рэфлекс *-ě-* (як у *lato*).

**Ля́таць,** *лята́ць* 'лётаць', 'хутка хадзіць', 'скакаць (пра вавёрку)' (Сл. ПЗБ). Да *лётаць* (гл.). Форма з націскным *ля-* пад уплывам польск. *latać* 'тс'.

***Лятва́,** *лётва́, летва́, лятво́* 'праца пчалы па збору мёду' (Анох.; лунін., Шатал.; рэч., Мат. Гом.). Палескае. Да *лётаць.* Аб суфіксе *-ва (-во)* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 85).

**Лятво** 'ляток у вуллі для вылету пчол' (Сцяшк., Нар. Гом.; паст., Сл. ПЗБ; ветк., Мат. Гом.), харв. ц.-далмацінск. *letva* 'палавінка лёгкіх дзвярэй'. Да *лятаць, лётаць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 34).

**Ля́тка** (у прымаўках) 'год', 'лета' (Нас.). З польск. *latko* — памяншальнае да *lato* 'лета' (Цвят., 53). У бел. песнях, аднак, часта ўжываюцца дэмінутыўныя формы з суфіксам *-к-а (жы́тка)*.

**Лятніско** 'аэрадром' (бераст., Сцяшк. Сл.). З польск. *lotnisko* 'аэрапорт'.

**Лятнічы** ў выразе *лятнічыя кашары* (лід., Сл. ПЗБ). З польск. *koszary lotnicze* 'казармы для лётчыкаў', дзе *lotniczy* з *lotnik* 'лётчык'.

**Лятня́к** 'летняя дарога' (Нас.), якому адпавядае рус. свярдл. *летня́к* 'тс', затое *лятні́к* 'тс' (Касп.) прымыкае да рус. зах. і паўн. *ле́тник, летни́к*. Да *лета, летні* (гл.). Аб суфіксе *-як* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 131). Гл. таксама *ле́тнік*.

**Лято́го** 'аднак, усё ж' (Клім.). Зах.-палес. Утварылася з канструкцыі з р. скл. *dlatogo<dělʼa togo* 'для таго'. Да *для* і *той* (гл.). Параўн. аналагічныя рус. КАССР *для́ то* 'аднак', наўг. *для́ то-таки* 'ўсё ж'.

**Ляток,** *лёток, літо́к, леток, лятки́* 'адтуліна ў вуллі для вылету пчол' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Анох., Сцяшк.; драг., бяроз., КЭС; чэрв., рагач., З нар. сл.; слаўг., Нар. сл.; чэрв., Шатал.). Укр. *льото́к*, рус. *лето́к* 'тс', Усх.-слав. утварэнне. Да *лятаць, лётаць* (гл.). З коранем *let-* утвораны славац. *leták, letáč* і серб.-харв. *лѐто*. А макед. *леток* мае тое ж значэнне, што чэш. і славац. *leták* 'лістоўка'. Палес. *лёток* 'гарлавіна ўстаўнога ўваходу ў рыбалоўных лавушках' (Крыв.) — семантычны перанос з *ляток,* таксама як і новае 'адтуліна ў доменнай печы, праз якую выпускаюць метал або шлак' (ТСБМ).

**Лятом** 'хутка' (шчуч., смарг., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). Рус. кур., раз. *летом,* ленінгр., смал. *лётом* 'тс'. Да *лёт* (гл.), якое тут выступае ў тв. скл. Націск, як у *бягом.*

**Лятонцы** 'хуткі' (іўеў., Сцяшк. Сл.), 'рухавы' (шчуч., лаг., Сл. ПЗБ). Кантамінацыя польск. *latającу* і бел. *лятучы* (з выпадзеннем польск. *-aj-*).

**Лятосі** 'леташні' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *latosi* (напр., вармійск., сілезск.) 'сёлетні'. Да *ле́тась* (гл.)

**Лятýн** 'лётчык, пілот' (Бяльк., б.-каш., Мат. Гом.) (рус. *летýн,* чэш. *letoun* 'лятаючае насякомае', 'кажан', 'самалёт', славац. *letún* 'тс'). Новае ўтварэнне — семантычны перанос з *лятýн* 'той, хто лётае, хутка ходзіць, бегае' (ТСБМ). Да *лётаць* (гл.). Аб суфіксе гл. Слаўскі (SP, 1, 134—135), Сцяцко (Афікс. наз., 68). Зусім новае ў бел. мове 'той, хто часта мяняе месца працы' — з рус. *летýн* 'тс', якое *(іран.)* 'селянін, які не хацеў жыць у сваёй вёсцы, а шукаў дзесьці дадатковыя заробкі'. Крукоўскі (Ўплыў, 151) разглядае гэта як сэнсавую кальку. Сюды ж: *лятýн* 'дробны лешч, Abramis brama L.' 'гусцяра, Blicca bjoerkna L' (Інстр. II), а таксама *лятýха* 'тая, што шпарка ходзіць, бегае' (міёр., З нар. сл.).



**Лятýнак** 'мара, летуценне' (Гарэц., Др.-Падб.; Крывіч, 5, 1923; ТСБМ, Нар. Гом.). Утворана ад *летуцець* пры дапамозе суфікса *-унак* (аб ім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 90).

**Лятуце́ць** 'марыць' (Гарэц., Др.-Падб., Крывіч). Беларускае. Балтызм. Параўн. літ. *lètutė* (<*lètaĩ*) 'павольна', *lėtùtis* 'павольны', 'палахлівы, нясмелы', лат. *lietuvēns* 'кашмар, прывід, нячысцік, які мучыць чалавека, скаціну', латгальск. *lituńc* 'прывід'. Утварылася пры ад'ідэацыі лексем *лётаць, ляцець.* Параўн. таксама бел. *лятýнак, лятýнкі* 'мара, летуценні' (ТСБМ), *летунковасць* (КТС — У. Жылка), *лята́вец* (гл.). Сюды ж *летуце́нні, летуце́ннік* (ТСБМ).

**Лятýчая** *мыш* 'кажан' (Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТСБМ). Усх.-слав. Аналагічна ням. *Fleder-maus* (<с.-в.-ням. *vlëdern* 'лётаць, пыркаць'+*Maus* 'мыш'). Серб.-харв. *сле̑пи мѝш* 'тс', магчыма, таксама сведчыць аб архаічнасці словазлучэння. Сюды ж палес. *летýча муш* 'блёкат чорны, Hyocyamus niger L.' (паводле псіхатропнага або і атрутнага дзеяння алкалоідаў расліны, яе назва атаясамліваецца з павер'ямі вакол кожана накшталт таго, што дотыкі або ўкусы яго выклікаюць смерць).

**Лятýчка** 'крылападобны выраст на насенні некаторых раслін, які дазваляе яму лёгка разносіцца ветрам', 'лёгкі від транспарту', 'кароткая вытворчая нарада' (ТСБМ). З суч. рус. *летýчка* 'тс'. Да *ляце́ць* (гл.).

**Лятýчы** 'цякучы (аб вадзе)' (Сл. ПЗБ). Калька з польск. *lecący<lecieć* 'ліцца, цячы', параўн. *woda leci* 'вада льецца'.

**Лятэрачка** 'драўлянае маленькае колца калаўрота, якое знаходзіцца побач са шпулькай і перадае ёй руханне вялікага кола' (рас., Шатал.). З *мутэрачка*<польск. *muterka*<ням. *Mutter* 'гайка'.

**Ляўка́с** 'грунт пад афарбоўку або пазалоту на драўляных вырабах' (ТСБМ). Запазычана з с.-грэч. λευκάς 'замазка з вапны і гліны'<ст.-грэч. λευκός 'белы, ясны, сівы', 'золата, змешанае са срэбрам' (Фасмер, Этюды, 112; Мацэнаўэр, Cizí sl., 240).

**Ляўкой** 'ляўконія, Matthiola R. Br.' (Інстр. II). З рус. *левкой* 'тс', якое праз ням. *Levkoje* (<с.-лац. *leucoion*) са ст.-грэч. λευκόϊον<λευκὸνἴον 'белая фіялка' (Клюге $_{17}$, 438; Фасмер, 2, 473; Слаўскі, 4, 189—190).

**Ляўком** 'збоку дарогі' (смарг., Сцяшк. Сл.) па форме, як і *маўчком* (тв. скл. назоўніка). Да *ле́вы* (гл.), параўн. укр. 'адваротны бок вышыўкі', 'нелегальны, незаконны', тое ж польск. *lewy* 'адваротны бок сукна'.

**Ляўконія** 'мацыёла, Matthiola R. Br.' (ТСБМ, Кіс.). З польск. *lewkonia* (як *piwonia*) з *lewkoja* 'тс' (Брукнер, 678; Слаўскі, 4, 189—190). Да *ляўкой* (гл.).

**Ляўтра́** 'гультай' (глыб., Сл. ПЗБ) — адзін з варыянтаў лексем *лотр, лойтра* (гл.), відавочна, кантамініраваны літуанізм, параўн. *lātras* 'бадзяга', *laũšis* 'тоўсты, непрыгожа апрануты чалавек'.

**Ляўце́ць** 'блішчэць' (браг., Шатал.), дрыжаць (ад сытасці, тлушчу), 'торгаць (аб балючым месцы на целе)' (Ян.). Няясна. Магчыма, запазычанне. Адкуль? Параўн. ст.-грэч. λευκός 'белы', светлы, бліскучы' (?).

**Ляўша́**, *ляўша́к, леўша́к, ляўша́ты, ляўшнік, ляўшня́, ляўшу́н, ляўшэ́нь* 'леварукі' (ТСБМ, Чач. Сцяшк., Шат., Мат. Маг., Нар. сл., Сл. ПЗБ). Усе словы ўтвораны ад першага, якое з *лев-* (<прасл. *lěvъ*) і суфікса *-ш-а*. У сувязі з тым што ў слав. гаворках існуе другая назва левага — *šujь*, можна дапусціць, што цяперашняе *-ш-а* з'яўляецца скарочанай другой часткай кантамініраванага *lev-šuj, якое магло ўзнікнуць пры налажэнні арэала з *lěv-* на арэал з *šuj-* і аформіцца па аналогіі да суфікса *-уша*. Параўн. суч. рус. *леворуч* і *левшерукий, левка́, лево́ня, левош, леву́ха, леву́ша, левха́, левы́ка, левя́к*.

**Лях**$_1$ 'паляк', 'польскі вайсковец' (ТСБМ, Нас., Янк. 1), укр., рус. *лях*, ст.-рус. *ляхъ*, чэш.-ст.-слав. **лѧси** 'Польшча', польск. *lach* 'жыхар нізін' (сілезск.), тарнаўск. 'жыхар з тэрыторыі ад Сілезіі да Русі Чырвонай', 'жыхар у паўн. адгор'ях Карпат і зах. Галіцыі' (паўд.-усх. польск.),— якое, паводле Слаўскага (4, 18), запазычана са ст.-бел. ці ст.-укр. Праформа *lęxъ*<*lęd-xъ* — памянш. ад *lęd'aninъ*<*lęděninъ*<*lędo* 'аблог, неапрацоўваемае поле'>*ляда*$_1$ (гл.).

**Лях**$_2$ 'спалох' (хойн., Мат. Гом.). Да *ляк, ляка́цца* (гл.).

**Ля́ха**$_1$ 'рэха, пошчак' (слонім., Жыв. сл., Арх. Бяльк.; Бір. Дзярж.; лях., Сл. ПЗБ), *ля́хат* 'тс' (навагр., Нар. сл.). Да *я́ха, яхаць* (гл.). Аб пераходзе *л'-*>*й-* гл. *лывірка*.

**Ля́ха**$_2$ 'нізіна' (дзятл., Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, звязана з *ляха́*$_1$ (гл.).

**Ляха́**$_1$, *ліха́, леха́, ле́шка* 'частка поля ад баразны да баразны, градка' (Жд. 1, Сцяшк., Мат. Маг., Янк. Мат., Др.-Падб., Касп.; в.-дзв. Шатал.; гродз., КЭС; Выг. дыс.), 'невялікая градка, вузкі загончык ворыва' (КЭС, лаг.; полац., Нар. лекс., ТСБМ), 'бульбяная градка' (Мат. Гом.), 'лапінка льну на загоне' (слонім., Нар. лекс.), пруж. 'загон, засеяны льном' (Выг.), 'баразна' (Яўс.), 'шырокая баразна' (полац., Нар. лекс.), 'падоўжанае ўзвышша' (слаўг., Яшк.), 'агрэх пры ворыве' (чэрык., Мат. Гом.), 'палоска, якая займаецца адным праходам пры ручной сяўбе' (Бяльк., Юрч., Шн., Гарэц.), 'равок на градзе, дзе сеюць агуркі, моркву' (ігн., Сл. ПЗБ). Укр. *ліха́*, рус. *леха́, ле́ха*, польск. *lecha, licha, lifa*, н.- і в.-луж. *lěcha*, чэш. *lícha*, ходск. *líha*; славен. *lę́ha*, серб.-харв. *ле́ха, ле́ја*, макед. *леа, l'ächa*, балг. *леха́*, ст.-слав. **лѣха**. Прасл. *lěxa* 'выараны раўчак, баразна паміж загонамі; рад; мяжа падзення збожжа пры сяўбе'. І.-е. *loisā (ст.-в.-ням. *wagan-leisa* 'каляіна ад драбін', лац. *līra* 'баразна' (<*leisā); літ. *lýsia, lysvė, lýsė* 'градка', ст.-прус. *lyso* 'клумба' (<*līsā). Сюды ж і гоц. *lais* 'я ведаю', 'я выйшаў на след', *laists* 'след', ст.-ісл. *leistr* 'нага' (Бернекер, 1, 708—709; Брукнер, 292; Фасмер, 2, 490; Махэк$_2$, 332; Слаўскі, 4, 93—95; Скок, 2, 295—296; Бязлай, 2, 131—132; БЕР, 3, 378; Шустар-Шэўц, 11, 821—822); Абрэмбска-Яблонска (Рус. і слав. языкозн., 1972, 201); Мартынаў (Лекс. взаим., 49).



**Ляха́**$_2$ 'знак, які робяць, каб не было агрэхаў пры сяўбе' (Нас., Касп.; паўн.-усх., КЭС; слаўг., Яшк.), 'насечка, знак на стаячым дрэве, якія абазначаюць мяжу' (Гарб.). Да *вяха́*$_1$. Параўн. і *ве́шыць* 'пры сяўбе абазначаць саломай месца, дзе ўпала апошняе зерне, каб другі раз не кідаць зярнят на тое ж месца'. Аб мене *в*>*л* гл. *лывірка*.

**Ляхава́ла** 'агрэх пры сяўбе' (ветк., Мат. Гом.). Утворана ад $^+$*ляхаваць* 'рабіць агрэхі пры ворыве, сяўбе'. Да *ляха́*$_1$. Аб суфіксе *-л-а* (<прасл. *-dlo*) гл. Сцяцко (Афікс. наз., 49).

**Ляхава́ць** 'кіпець, клекатаць' (пух., Жыв. сл.), круп., бярэз. *ляхава́цца*, паст. *ляхата́ць* 'тс' (Сл. ПЗБ). З *каляхава́ць* (уздз.). Гукапераймальныя для перадачы гукаў пры кіпенні вадкасці. Параўн. таксама рус. *клокотать*.

**Ля́хат** 'рэха' (маст., Сцяшк. Сл.). Да *ля́ха*$_1$ (гл.). Суфікс *-ат* (<*-ъtъ*) паводле іншых аддзеяслоўных утварэнняў, якія перадаюць гукі (*грукат, лёскат* і інш.).

**Ля́хаўка** *бе́лая* 'нівянік звычайны, Leucantheum DC. vulgare Lam'. (віц., Кіс.). З$^+$ *беляхаўка* 'белы' — пераклад лац. назвы, якая са ст.-грэч. λευκανθής 'белы, сівы'. Параўн. рус. алан., валаг. *белюга, белюшка*, укр. *білоголовник* 'тс'.

* **Ляхі,** *ляхе́* 'мэндлік, малая ўкладка снапоў на полі' (іван., ДАБМ, к. 286) Да *лях* 'паляк'>'пан' (гл.). Названа паводле пераносу значэння. Аналагічна ў чэш. і славац. *panák*<*pán* 'пан'. Параўн. яшчэ *ляшок, ляшкі*.

**Ляхката́ць** 'рохкаць (пра парасят)' (свісл., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнае, якое, відаць, у сваёй аснове мае корань *лёх-* (параўн. палес. *лёха*, укр. *льоха*<польск. *locha* 'свінаматка') і, магчыма, звязана генетычна з ням. *locken* 'вабіць', а таксама — аб галасах звяроў у перыяд цечкі.

**Ляхкія** 'лёгкія' (смарг., Сл. ПЗБ). Кандэнсаваная форма з *лягкія вантробы* 'тс'. Націск — паводле *цяжкія (вантробы)*, 'печань' у той жа гаворцы.

10. Зак. 1005

**Ляхотна** ’смешна’ (лід., Сцяшк. Сл.). Паланізм. Параўн. польск. *łachotać* ’ласкатаць’, у Міцкевіча — *łachotliwość*, усх.-польск. *łachtać* ’тс’, якія маюць устаўны экспрэсіўны гук *-ch-* замест *-sk-*: польск. *łechtać* — ст.-польск. *łesktać* ’тс’, *plucho-tać* — *pluskotać* ’плёскаць, плюхаць’ (Слаўскі, 4, 408). Пачатковае *ля-* замест *ла-* абумоўлена экспрэсіўнасцю. Да *ласка-таць* (гл.).

**Ляхты́чка** ’рухавая і спрытная ва ўсім асоба’ (капыл., Жыв. сл.). Да *лягты́ка* (гл.).

**Ляхча́й** ’кастратар’ (саліг., БНТ, Лег. і пад., 522). Да *ляг-ча́ць* (гл.).

**Ляце́ць,** *леце́ці, лыті́тэ* ’перамяшчацца ў паветры’, ’разносіцца, распаўсюджвацца’, ’падаць уніз’, ’хутка бегчы, ехаць, праходзіць (пра час)’, ’ламацца, расходавацца’ (Грыг., Бяльк., Шат., Сцяц., ТСБМ, Сл. ПЗБ). Да *лётаць* (гл.). Значэнне ’павольна падаць (пра снег)’ (брасл., Сл. ПЗБ) у выразе *снег ляціць* — з польск. *śnieg leci.*

**Ляча́й**$_1$ ’дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды сыплюць збожжа’ (Сцяшк.). З *яча́й* (гл.)<прасл. *ęčaja,* утворанага з мяркуемага дзеяслова **ękťi* ’гнуць, згінаць, складваць колцам’ (Трубачоў, Эт. сл., 6, 61). Параўн. таксама *вяча́й, дуча́й.* Аб мене *в*>*л* гл. *лыві́рка.*

**Ляча́й**$_2$ ’асака, Carex L.’ (рэч., Нар. сл.), *лячая́, ля́ча, ляча́й* ’плюшчай’ (калінк., люб., Сл. ПЗБ). Варыянт з глухой зычнай лексемы *ляджа́й* (гл.).

***Ляча́ць,** *леча́ты* ’пакладаць’ (бяроз., Шатал.), драг. *лэ́ча-тэ,* шальч. *ляхчаць* (Сл. ПЗБ). Да *лягча́ць* (гл.).

**Лячны́** ’лекавы’ (лях., Сл. ПЗБ). Хаця ёсць каш. *lèčni* ’прызначаны для лячэння’, чэш. *léčný,* славац. *liečny,* славен. *lẹ̑čẹ̑n,* харв. *lȉječan,* бел. лексема, відаць, запазычана з польск. *leczny* ’які для лячэння’. Праформа для іх *lěč-ьnъ*<*lěčiti* (Слаўскі, 4, 103)>*лячы́ць* (гл.).

**Лячоба** ’лячэнне’ (бяроз., Сл. ПЗБ; Ян.). Да *лячы́ць* (гл.). Аб суфіксе *-оба* гл. Слаўскі (SP, 1, 61—62), Сцяцко (Афікс. наз., 84—85).

**Лячок** ’глечык’ (гродз., Сцяц. Словаўтв.). Да *гляк* (гл.).

**Лячуха** ’люцэрна пасяўная, Medicago sativa L.’ (гродз., Кіс.). Да *лячы́ць* (гл.). Лексема з суфіксам *-уха* з’яўляецца памылковым перакладам лац. *medic-ago,* якое нібыта ад *medica* ’лячэбныя зёлкі’, у той час як лац. слова паходзіць ад *Medus* ’мідзійскі’>*mēdica (maedica) herba* ’мідзійская канюшына’.

**Лячы́ць,** зах.-палес. *лі́чытэ* ’спыніць развіццё хваробы пры дапамозе лекаў ці іншых медыцынскіх сродкаў’ (Яруш., ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., Сл. ПЗБ). Укр. *лі́чити,* рус. *лечи́ть;* польск. *leczyć,* каш. *lečëc,* палаб. *lecě,* чэш. *léčiti,* славац. *liečiť*; славен. *lẹ̀čiti,* серб.-харв. *ле́чити,* макед. *лечи, лекува,* балг. *леча́,* ц.-слав. **лѣчити,** ст.-слав. **лѣчити.** Прасл. *lěčiti* ’лячыць’, утворанае ад *lěkъ*>*лек* (гл.). Слаўскі (4, 104—105) супраць прыняцця тлумачэння Стэндэр-Петэрсена (Slav.-germ., 330), які лічыў прасл. *lěčiti* запазычаннем з прагерм. *lēkjan* ’тс’. Агляд л-ры гл. Фасмер (2, 477—478).



**Лячэбнік** *(уст.)* ’кніга, у якой апісаны папулярныя спосабы лячэння розных хвароб’ (ТСБМ), *лячэбніца* ’лячэбная ўстанова спецыяльнага прызначэння’ і *лячэбны,* паводле Крукоўскага (Уплыў, 59), запазычаны з рус. мовы.

**Ляша́н** ’паляк’ (Янк. 1). Да *лях* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-jan-inъ,* другая частка якога адпала, ці выраўнялася паводле формы н. скл. мн. л.— *jan-e.* Магчыма, ад *ля-шан* і *ляшоўка* ’шляхцянка’ (ТС), як драг. *маскоўка* ’жыхарка Масквы, руская’.

**Ля́шка**$_1$, *ляшок* ’мэндлік, укладка снапоў у полі ў колькасці ад 5 да 13 штук’ (Выг., Шатал., Сцяшк., Сцяшк. Сл.; зах.-палес., ДАБМ, к. 286), *ляхэ́* ’тс’ (там жа). Укр. валын. *л’ешка* ’верхні сноп, якім накрываецца капа (збожжа)’, бран. *ляшка.* Да *лях* ’паляк’ (гл.). Спосаб наймення мэндлікаў паводле назваў народнасцей ці людзей, назіраецца на бел. тэрыторыі больш шырока: параўн. віл. (ДАБМ, п. 205) *хахлы́* ’укладка з 5—6 снапоў, *ба́бка, ба́бкі* (паўсюдна), хойн. *дзядок* (Выгонная, БЛ, 6, 63). Рус. *ляшина* ’капа сена’ генетычна (у прасл. перыяд) з’яўляецца роднаснай да *лях* (якое з *lęd-chъ*<*lędo*), аднак у ст.-рус. мове яна развілася асобна: *lędo*>*лядо*>*ляди-на*>*ляшина* (аб чаргаванні *д//ш* гл. Аткупшчыкоў, Из истории, 133).

**Ля́шка**$_2$ ’сцягно’ (гродз., крыч., КЭС; Гарэц., Касп., Бяльк., Нас.). Да *ля́га, ля́жка* (гл.).

**Ляшня́** ’палякі’ (Бес.). Да *лях* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 205).

**Ляшч** ’лешч, Abramis brama L.’ (Бес., Растарг.; швянч., Сл. ПЗБ), *ля́шчэй* — р. скл. мн. л. (р. Нёман ля Друскенікаў). Да *лешч.* Галосная *-я-* ўзнікла пад уплывам форм ускосных склонаў і, відавочна, пры націску (як у польск. мове) на другім складзе з канца. Сюды ж драг. *лешчавочок* ’малы лешч’ (Крыв.).

***Ляшча́начка,** крыч. *лешча́начка* ’невялікая прыбудоўка ля пуні, у якой захоўваецца сена’ (ДАБМ, к. 236). Утворана ад прыметніка $^+$*ляшчаны,* які з *ле́ска*$_1$ (гл.). Прыбудоўка як прымітыўнае збудаванне рабілася з арэшніку.

***Ляшча́тка,** *лэшча́тка* ’адна з дзвюх калодак у алейні, паміж якімі прасуюць алейную масу’ (лун., стол., ЛАПП). Да *ляшчоткі* (гл.).

**Ляшча́ць,** *ляшчя́ты* ’звінець у вушах’, ’лескатаць’ (бярэз., драг., Сл. ПЗБ; браг., З нар. сл.), *ляшчы́ты* ’моцна бразгаць’

(Бес.), *ляшчы́ць* 'біць далонню' (круп., Нар. сл.), 'дружна квакаць' (чэрв., Жыв. сл.), *ля́шчыць* 'грымець' (слонім., Сцяшк. Сл.). Рус. *леща́ть,* польск. люблінск. *leszczeć* 'пляскаць, трашчаць, раздавацца (аб гуку)', прасл. *leščati/lesčiti,* славен. *leskáti* 'трашчаць'. Гукапераймальнае. Да *ляск!* Параўн. таксама лат. *lęska* 'балбатуха' (Бернекер, 1, 702; Фасмер, 2, 491; Мюленбах-Эндзелін, 2, 453; Слаўскі, 4, 174; Бязлай, 2, 135).

**Ляшчот** 'шарпак, верхні цвёрды слой снегу, замёрзлага пасля адлігі' (стол., ЛАПП). Паўн.-слав. утварэнне з суфіксам *-ъtъ* ад *ляшчаць,* якое да *ляск* (гл.)<*lesk-/lešč.* Гукапераймальнае (Бернекер, 1, 702; Фасмер, 2, 552).

**Ляшчотка** 'трашчотка' (Гарэц.), раздвоеная на адным канцы палоска кары, якая ўжываецца для біцця ў гульні' (Нас.), 'аплявуха' (Шат.). Да *ляскаць, лёскат* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 62).

**Ляшчоткі** 'абцугі' (Сцяшк.), 'ціскі для выціскання воску, сыру' (Сержп. Борт., Сл. ПЗБ), 'раздвоеная з аднаго канца дошчачка для заціску чаго-небудзь', 'лубкі, у якія забінтоўваецца вывіхнуты сустаў, увязваецца зламаная канечнасць' (КЭС, лаг.; ТСБМ, Сл. ПЗБ). Укр. *лещéти, лéщата,* рус. *лéщедь, лещадь,* польск. *leszczotka*, *leszczoty*, чэш. *lešta.* Да прасл. паўн. *lešč-etь (lešč-et-ъka), leščeta,* якія з *leščiti/leskati* 'расшчапляць, ударацць, ляпаць'. Яны адносяцца да этымалагічнага гнязда з коранем *lešč-/lest-*>*ляшчáць* (гл.) (Слаўскі, 4, 174—176; Фасмер, 2, 491; Куркіна, Этимология-74, 47—51). Брукнер (KZ, 46, 210—211) прымае версію з адпаўшым пачатковым гукам (параўн. бел. *кляшчоткі* 'ляшчоткі', польск. *oklascki, okleszczyny* 'планкі для звязвання паламанай канечнасці' і інш.). Бернекер (1, 702) адносіць лексему да *лёскать* 'ляпаць, шчоўкаць, грукаць'.

**Ляшчэвіна,** *ляшчэўнік, ляшчы́на, лешчы́на, лехчы́на, лішчэна, ляшчы́ннік, ляшчы́ніна, ляшчэўніна* 'арэшнік звычайны, Corylus avellana L.' (Мядзв., Касп., Гарэц., Федар. 6, ТСБМ, Бяльк.; міёр., Нар. словатв., Сл. ПЗБ). Да *леска*[1] (гл.).

**Ля́шыць,** *ляшы́ць* 'разбіваць участак зямлі на палосы', 'пазначаць, ставіць тычкі, вешкі за сейбітам на загоне' (Нас., Сцяшк., Бяльк., Гарэц., Юрч., Касп., Мат. Маг., Сл. ПЗБ, Янк. Мат., Нар. лекс., Нар. словатв.), 'праганяць барозны па засеяным полі для спуску вады' (КЭС, лаг.). Да *ляхá*[2] (гл.). Сюды ж *ляшэннік* 'той, хто лешыць' (зэльв., Нар. словатв.; Юрч.).

# М

**Ма** 'мама' (Растарг., Сцяшк. Сл.) — слова з дзіцячай мовы, якое з'яўляецца скарачэннем *мáма* (гл.). Дарэдуплікацыйны стан (?). Параўн. ст.-інд. *mā̆* 'маці', грэч. μᾶ, лац. *mā* 'тс'.

**Мабілізáцыя** 'прызыў ваеннаабавязаных запасу на ваенную службу', перавод усіх галін народнай гаспадаркі, уключаючы ўзброеныя сілы, з мірнага становішча на ваеннае' (ТСБМ). Запазычана праз польск. ці рус. мову з фр. *mobilisation*<лац. *mobilis* 'рухомы'.

**Мабільны** 'здольны хутка перамяшчацца' (ТСБМ). З рус. *мобильный*<фр. *mobile*<лац. *mobilis* 'рухомы'.

**Мáбыць,** *майбы́ць, мáйбуць, мáбудзь, мáбуць, мáіць* 'напэўна, мусіць', 'відаць' (Нас., ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк., Растарг., Бір. дыс., Рам. Опыт, Мат. Гом., ТС). Укр. *мáбуть* 'тс', *майбýть, мáбіть, мáбýти.* Бел.-укр. ізалекса, якая паходзіць з *мае быць* (ESSJ, 2, 421).

**Мавéнне** 'размова', 'мова' (Нас.). З польск. *mówienie* 'тс'. Да *мова, мовіць* (гл.).

**Маг** 'чарадзей, чараўнік', 'жрэц, які спраўляў рэлігійныя абрады і прадказваў будучае', (ТСБМ). Ст.-бел. *макгъ, макгусъ* (пач. XVII ст.). Запазычана праз польск. (ці рус.) мову з лац. *magus*<грэч. μάγος<ст.-перс. *maguš* (Барталомэ, 1111; Фасмер, 2, 554; Лёхін, 414). Сюды ж *мáгія, магíчны.*

**Магá,** *магó* 'сіла', 'магчымасць' (Нас., Шат., Бяльк., Ян., Янк. 2). Укр. *могá* 'магчымасць'. Бел.-укр. архаізм, утвораны ад прасл. *mog-ti* і суф. *-a* з абстрактным значэннем у выразе: *як магá* фалькл. *як мога* (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Слова *мага* з'яўляецца дзеепрыслоўем. Параўн. чэш. *moha* — дзеепрыслоўе м. роду адз. ліку ад *moci* 'магчы' (Карскі, 2—3, 274).

**Магазáнчык** 'кажан, Plecotus auritus' (браг., Шатал.). Няясна. Магчыма, звязана з нейкай цюркскай крыніцай. Параўн. тур. *makas* 'ножніцы', 'клюшні ракападобных жывёл'.

**Магазéй** 'рэзервуар лямпы для газы' (Касп.), 'дзяржаўны свіран' (Касп.), *магазéя* 'магазін, лаўка', 'свіран' (Мат. Гом.), 'агульны свіран у вёсках' (Растарг.). Укр. *магазéй* 'свіран', рус. ярасл., алан. *магазéя, магазéй* 'склад, магазін'. Запазычана ў эпоху Пятра I з гал. *magazijn* (<фр. *magasin*<італ.

*magazzino*<араб. *mahzūn, mohāzin* 'склад тавараў' (Фасмер, 2, 554). Гл. таксама бел. *гамазе́я*.

**Магазін**, *магазы́н, маказы́н, маказэ́н, мага́зін, маг'а́зін, мыгазі́н* 'вясковы грамадскі свіран для збожжа', 'рэзервуар у лямпе, куды наліваецца газа', 'прадпрыемства рознічнага гандлю', 'частка вулля, куды ўстаўляюцца рамкі' (ДАБМ, с. 801; ТСБМ, Касп., Шат., Бяльк., В. В., Прышч. дыс.; Выг., Янк. Мат., Мат. Гом., Нар. сл., Нар. словатв., Шатал., Сл. ПЗБ). З рус. *магази́н* 'склад, магазін', якое прыйшло з ням. *Magasin* у эпоху Пятра I. Формы з націскным *-га́-* запазычаны з польск. мовы. Сюды ж *магазы́нка* 'газоўка' (Касп.), *магазынак* 'каморка', 'рэзервуар у лямпе' (Сцяшк. Сл.).

**Мага́йбо** 'дзень добры' (паўд.-усх., КЭС, ТС) — працяг паўн.-укр. арэалу, дзе *мага́й-бі!<помага́й бі́г!* 'дапамагай (Вам) бог!'

**Магале́йка**, *мыгале́йка* 'кісет' (Багд., Бяльк.). Роднаснае да паўн.-рус. *магиль* 'суконная торбачка', якое Фасмер (2, 555) выводзіць з комі *me̮ gi̮ l'* 'мяшэчак'.

**Мага́р** 'мяшэй італьянскі, Setaria italica L.', 'проса, Panicum italicum L.' (ТСБМ; маг., Кіс.). Чэш. *muhar, mohar*, харв. *muhar* — усе з венг. *mohar* (Мацэнаўэр, Cizí sl., 258).

**Магары́ч**, *магары́ш* 'пачастунак асобы, якая атрымала прыбытак ад здзелкі' (Нас., ТСБМ, Шпіл., Растарг., ТС), 'барыш' (Нас.), 'аплата слугам за год' (Чач.), *магары́чнік* 'асоба, якая любіць піць на барышах', 'зводнік' (Нас.). Ст.-бел. *могоричъ* 'магарыч' (1598 г.), *могаричникъ* (1539 г.). Рус. *могоры́ч, магары́ч*, арэнб. *магара́* 'падарунак', укр. *могори́ч, могри́ч* 'пачастунак', ст.-рус. *могорьць* (1496 г.). Праз рус. мову запазычана з цюрк.<араб. *maḥāriǰ* 'выдаткі' (Гл. Корш, AfslPh 9, 654; Бернекер, 2, 67; Фасмер, 2, 635; Булыка, Запазыч. 205). Насовіч (287) памылкова з літ. *magaryczy* 'выпіўка пасля торгу'.

**Магда́н** 'дзягцярны завод' (Касп.). Да *майда́н* (гл.). Пераход (замена) *й>г* назіраецца і ў гаворках укр. мовы: *маґеран=майран* (расліна маяран).

**Магдэся** 'неахайная жанчына' (капыл., Нар. словатв.) утворана ад асабовага імя *Магда* і экспрэсіўнага суф. *-эс-я*. Не выключана, што слова паходзіць з ням. *Magd* 'парабчанка, служанка' (праз ідыш).

**Ма́гель** 'прылада, якой качаюць бялізну' (Нас.), *ма́глі* 'вялікі станок для катання бялізны' (Мядзв.), 'прыстасаванне для валяння сукна' (Касп.). Запазычана з польск. *magiel, męgiel* 'валік, якім катаюць бялізну', 'маглярня', 'апрэтурная машына'<ням. *Mange(l)*<с.-лац. *manganum*<грэч. μάγγανον 'ваенная машына, якая шпурляе каменне', якая вельмі нагадвала машыну для катання бялізны, вынайдзенную ў Нюрнбергу' (Брукнер, 317; Васэрцыер, 146; Махэк$_2$, 350). Сюды ж *маглява́ць* 'катаць бялізну вальком' (Сцяшк., Нас.), 'румяніць твар', 'уціраць тлушч у валасы' (Нас.), *маглявацца, маглёўка* 'катанне бялізны', 'жанчына, якая любіць займацца аздабленнем галавы' (Нас.). Гл. таксама *ма́глі*.



**Маґер** у выразе *на маґер* 'на бакір' (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *бакір* (гл.) і *магерка* 'венгерская шапка', якое са ст.-польск. *magierka*<ст.-венг. *magyar*, а дакладней ад імя правадыра племені *Moger'a* (Брукнер, 317).

**Маге́ра**$_1$ 'кікімара' (мсцісл., З нар. сл.) з'яўляецца, відаць, кантамінацыяй з традыцыйнай назвы жаночай істоты дамавіка — *ма́ра́* (гл.) і *меге́ра* (гл.).

**Маге́ра**$_2$ 'неахайны, някемлівы чалавек' (Янк. 2). Няясна. Магчыма, звязана з чэш. валаш. *mega, megal, megaňa* 'непаваротлівы, няўклюдны', славац. *mego* 'тоўсты, як бочка, грубіян', якія таксама няясныя (Махэк$_2$, 358). Янкоўскі (2, 101) выводзіць ад *маге́рка* 'лямцавая ці суконная шапка'.

**Маге́ра**$_3$ 'гарэлка' (жлоб., Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, звязана з ням. *mager* 'худы, бедны, посны' ці ад прозвішча прадпрымальніка, які гнаў гарэлку. Не выключана сувязь з *магера*$_1$ (як вынік піцця — белая гарачка).

**Маге́рка**, *маґерка, маргелка, мадерка* 'круглая высокая або невялікая лёгкая лямцавая мужчынская шапка, якую насілі раней сяляне', 'род капелюша' (ТС, Грыг., Дэмб. 2, Мядзв., Маш., Малеч., Макс., Мал., Бяльк., Гарэц., Растарг.). Ст.-бел. *макгерка, магерка* (1577, 1625 гг.). Рус. *маге́рка*, укр. *магі́рка* 'белая лямцавая шапка'. Запазычана з польск. *magierka* 'венгерская шапка'<венг. *magyar* 'венгерскі' (Булыка, Запазыч., 195; Фасмер, 2, 555; Праабражэнскі, 1, 500, Брукнер, 317). Гл. таксама *магер*.

**Магі́ла** 'яма для пахавання мёртвых', 'капец зямлі над магілай' *(перан.)* 'смерць, таямніца' (ТСБМ, Грыг., Бяльк., Яшк., Булг., Сл. ПЗБ), укр., рус. *моги́ла* 'капец зямлі, курган', ст.-рус. *могыла* 'капец', польск. *mogiła* 'яма', 'капец зямлі над ёй', палаб. *müg'åla* 'яма', в.-луж. *mohila*, ст.-луж. *mogyla*, н.-чэш. *mohyla* — з больш ранняга перыяду захаваліся толькі тапонімы: *Mohelno, Mohelnice* і інш.; славац. *mohyla*, славен. *gomíla* 'куча зямлі', серб.-харв. *го̀мила, мо̀гила* 'тс', макед. *могила* 'капец, узгорак', балг. *могила* 'капец'. Гэта значэнне было першасным. Генетычна блізкія: рум. *măgură* і алб. *mágul'ë* 'узгорак', *gamule* 'куча зямлі і травы', якія Фасмер (Stud. zur albanes. Wortforsch., Dorpat, 1921, 1, 18) выводзіць са слав. Міклашыч (420), Фасмер (там жа), Жалтоў (ФЗ, 1877, 4, 68 і наст.) сцвярджаюць сувязь са слав. *mogǫ* 'магу'>'пануючае месца'. Гэтак жа Брукнер (343) — з кораня *mog-* 'моцны',

параўн. аналагічна ўтворанае слова *курган,* якое з тур. *kurgan* 'крэпасць', г. зн. 'зямная цытадэль'. Машынскі (Zasięg, 215) зближае слав. *mogyla* 'капец, куча' з сібір. тат. *mogol,* марыйск. *mugōl'o* 'стог сена'. Паводле Алесіо (RIO, 3, 1951, 243) — гэта субстратнае слова, аснова якога балканская: *magūla*; Хубшмідт (Этимология-1967, 243—245) лічыць слав. слова даіндаеўрапейскім, крыніца запазычання невядомая. Сюды ж: *маглíцы, магíліцы, магілёва, магíльня,* 'могілкі', *магíльнік, могíльнік* 'тс', 'могільнік' (Жд. 1, Бяльк., ТСБМ, Грыг., Нас., Сл. ПЗБ, докш., Янк. Мат.), *магíльніца* — вёска, ля якой шмат панасыпаных курганоў (Янк. 1).

**Магíльнік**₁ 'агатка, Antennaria dioica Gaertn.' (маг. Кіс., Дэмб. 1). Да *магíла* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-нік.* Матывацыя: расліна любіць высокія, сухія мясціны, якой і з'яўляецца могільнік. Іншыя назвы гэтай расліны таксама звязаны з паняццем 'сухата': *сухотнік палявы, сухапут.*

**Магíльнік**₂ 'братаўка лясная, Melampyrum silvaticum L.' (маг., Кіс.). Да *магíла* (гл.). Матывацыя: росшы ў жыце, гэта расліна, якая мае цёмнае насенне, рабіла хлеб цямнейшым, а змяшчаючы ў сабе ядавітыя гліказіды, была шкоднай і небяспечнай для здароўя, што магло прыводзіць да смерці.

**Магістрáль** 'галоўная чыгуначная, водная, паветраная і інш. лінія шляхоў зносін' (ТСБМ), 'асфальтавая дарога' (Інстр. I). Запазычана праз рус. мову з ням. *Magistrale*<лац. *magistrālis* 'галоўны' (Фасмер, 2, 555). Не выключана магчымасць запазычання і з польск. мовы.

**Мáґла** 'моцна, рэзка' (шальч., Сл. ПЗБ). Паходзіць з літ. *miklùs* 'спрытны'. *Ма-,* як і ў наступным слове з *mi-.*

**Маглá** 'імгла' (іўеў., Сл. ПЗБ). Відазмененае літ. *miglà* 'тс'. Да **імглá** (гл.).

**Маґлі** 'качалка для бялізны' (гродз., Сл. ПЗБ), *маґляваць* 'качаць бялізну' (там жа), 'упрыгожваць' (Сцяшк. Сл.) — з польск. *magle, magiel, maglować,* у гаворках *mangiel, męgiel,* якія з с.в.-ням. *mange,* ням. *Mange(l), mangeln,* с.-лац. *mango*<лац. *manganum*<ст.-грэч. *μάγγανον* 'ваенная машына, якая шпурляе камяні' (Брукнер, 317). Сюды ж *магляўніцы* 'прыстасаванне ў кроснах, па якім ідзе палатно' (дзятл., Сл. ПЗБ), якое з польск. *magielnica.*

**Мáгля** 'часовая ўкладка снапоў жыта або пшаніцы (9 і дзесяты наверх)' (слуц., Лекс. грам.)<$^{+}$*мандля.* Укр. *мандель* 'укладка снапоў або жменей канапель у 15 ці 50 штук', польск. *mendel* 'бабка', в.-луж. *mandl,* чэш. *mandel,* славац. *mandel'* 'бабка з 15 снапоў' — усе з ням. *Mandel* 'тс', якое паходзіць з с.-лац. *mandala* 'карзіна', 'вулей'. Бел. *мáгля,* запазычанае з польск., змяніла род (м. на ж.), а таксама *-н-, -дл'-* перайшло ў *-гл'-.* Гл. яшчэ *мэндлік.*



**Мáгма** 'расплаўленая сілікатная маса высокай тэмпературы, якая ўтвараецца ў глыбінях зямлі' (ТСБМ), было запазычана праз рус. ці польск. мовы ў якасці навуковага тэрміна, які з грэч. *μάγμα* 'падонкі, буза, калатушка' (Лёхін, 414).

**Мáгнасьць** 'сквапнасць' (Жд. 1). Узнікла пры дапамозе суф. *-н-асць* ад літ. *māga* 'хочацца'<*magēti* 'хацецца', *māginti* 'ўзбуджаць апетыт', 'захапляць, вабіць'.

**Магнáт** 'буйны феадал, памешчык', 'багач, буйны капіталіст' (ТС, Касп.) паходзіць з польск. *magnat,* якое з с.-лац. *magnātēs* 'правадыры', 'тыя, якія народжаны ў высокім саслоўі' (параўн. Махэк₂, 347; Фасмер, 2, 356).

**Магнáты** 'вялікі' (віл., Сл. ПЗБ). Утворана з *магнат* пры дапамозе канчатка *-ы* (як *лабаты, чубаты*) па ўзору *арганісты* 'арганіст', аднак з пэўным пераасэнсаваннем семантыкі.

**Магнéзія** 'вокіс, або соль магнія' (ТСБМ) запазычана з рус. навуковай тэрміналогіі — *магнезия,* якое з ням. *Magnesia* або з н.-лац. *magnēsia*<грэч. *Μαγνησία* — назва мясцовасці ў Фесаліі, горада ў Лідзіі (Гараеў, 448; Фасмер, 2, 556).

**Мáгній** 'метал, хімічны элемент Mg' (ТС), успрынята з рус. мовы, дзе *магний* паходзіць з н.-лац. *magnēsium*<ст.-грэч. *Μαγνησία* 'назва горада ў Малой Азіі' (Лёхін, 415).

**Магнíт** 'цела, якое мае ўласцівасць прыцягваць да сябе жалезныя, стальныя прадметы і адштурхоўваць некаторыя іншыя' (ТСБМ, Бяльк.). Запазычана праз рускую або яшчэ праз ст.-рус. мову са ст.-грэч. *λίθος Μαγνῆτις* 'камень з г. Магнезія', ст.-рус. *магнитъ камень* (Праабражэнскі, 1, 500; Фасмер, 2, 556).

**Магнолія** 'субтрапічнае дрэва, Magnolia' (ТСБМ). З польск. або рус. мовы. Назва ўзыходзіць да прозвішча франц. батаніка *Magnol* (XVII ст.).

**Магнэз,** *магнэс, маґнэс* 'магніт', 'прыцягальная сіла' (Нас., Гарэц., Шат., Касп., Вайск. сл.; дзярж., нясв., Нар. словатв.), ст.-бел. *макгнесъ* 'тс' было запазычана з с.-в.-ням. *magnes* праз польск. мову. Сюды ж *магнэзаваць* 'магнітызаваць' (Гарэц.), *магнэсавы* 'магнітны, прыцягальны' (Нас.). Пух. *маґнэт* 'прыхільнасць, жаданне' (З нар. сл.)<ням. *Magnet* (праз польск. *magnet* 'тс').

**Маґрэта** *(іран.)* 'праставатая кабета' (ушац., Нар. сл.). Відавочна, з уласнага імені *Маґрэта*<*Маргарыта.*

**Магýла,** *маґýла* 'нараст, гузак (на дрэве, на целе)', *магýлісты* 'у нарастах, гузаках' (ТС). Да *гýля* (гл.) Прэфармант *ма-* выступае ў гаворках як сінонім да іншых, параўн. *гарагуля* (і чэш. *harhule,* гл. Махэк₂, 161), *варгýля* (Лыс.).

**Магýліна,** *магýлінка, магулíнка* 'што-небудзь малаважнае', 'невялікая дэталь у кроснах', 'кавалачак, невялікая колькасць' (лях., шчуч., карэліц., З нар. сл., Жыв. сл., Сл., ПЗБ; стаўбц.,

Бел. фраз.). Да *магу́ла*>*магу́ля* (гл.). Пад уплывам народнай этымалогіі асацыяцыя з *мак, макавінка* 'макавае зярнятка', параўн. стаўбц. *ні магулінкі ў роце не было.*

**Магу́ра** 'сумёт снегу' (слаўг., Яшк.), укр. *ма́гура* 'высокая гара', славац. *Magura* 'назва гары ў Карпатах', рум. *măgură* 'узгорак'. Не зусім ясна. Да *гара́* (гл.) (?). Магчыма, можна трактаваць *ма-* як прэфармант, параўн. укр. *моґу́ля*=*ґу́ля* 'нарасць'.

**Магу́т** 'вельмі дужы, здаровы чалавек' (Крывіч, IV) — праславянскі архаізм. З прасл. *mog-ǫ-tъ*<*mog-ti* 'магчы'.

**Магу́тны** 'вельмі дужы, здаровы', 'вельмі вялікі, значны па сіле, велічыні', 'тоўсты, масіўны (пра слой, пласт)', 'з вялікімі вытворчымі і матэрыяльнымі магчымасцямі' (ТСБМ, Касп., Бяльк.). Укр. *могу́тний,* рус. *могу́тный* 'моцны, магутны, здаровы', чэш., славац. *mohutný* 'тс'. Утворана ад дзеепрыметніка цяп. часу *mogǫt-* пры дапамозе суф. *-ьnъ-jь*. Да *магчы́* (гл.). Параўн. Фасмер (2, 636), Махэк₂ (371). Анышкевіч (Сл. бойк. гов., 1, 426) супастаўляе бойк. *маготний* з венг. *mag* 'зерне'. Сюды ж *магутнасць* 'уласцівасць магутнага, вялікая сіла, моц' (ТСБМ, Гарэц.).

**Магу́чы** 'багаты', 'магутны, які мае ўладу' (Нас.), укр. *могу́чий,* рус. *могу́чий,* ст.-рус. *могуть* 'знатны', *могучий* 'моцны, магутны', *могущий* 'тс', ц.-слав. **могѫть** 'гаспадар, уладар', польск. *mogący,* чэш. *mohoucí,* славен. *mogóč,* серб.-харв. *мо̏гуħ, мо̀гуħ,* балг. *могъщ,* прaслав. *mogǫt'-jь*. Да *магчы́* (гл.). Са ст.-слав. ці ц.-слав. паходзіць карм. *магу́шчы* 'гучны (звон)' (Мат. Гом.). Сюды ж прыслоўе *магуча* 'багата', 'моцна', 'шмат' (Нас.).

**Магчы́,** *магці́* 'быць у стане', 'мець магчымасць' (Гарэц., ТСБМ, Шат., Бяльк.), 'верагоднасць дзеяння', 'мець сілы выканаць' (Сл. ПЗБ, ТСБМ, Шат., Бяльк.), *махчы́* (Мал.), драг. *можтэ́, можу́* (КЭС); укр. *могти́, могчи́, мочи́, можу;* рус. *мочь, могу,* ст.-рус. *мочи, могу;* польск. *móc, mogę*; н.-луж. *móc, mogu*; в.-луж. *móc, móžu;* чэш. *moci, mohu* (разм. *můžu*); славац. *môct', môžem;* славен. *móči, morem;* серб.-харв. *мо̀ħи, мо̀гу,* макед. *може,* балг. *мо́га;* ст.-слав. **мошти, могѫ.** Прасл. *mogt'i, mogǫ* з'яўляюцца рэліктам непадвоенага перфекта атэматычнага дзеяслова (гл. Трубецкой, Slavia, 1; Ваян, RÉS, 14, 27; Траўтман, KZ, 46, 180; Фрэнкель, IF, 53, 57; Бернекер, AfslPh, 38, 269). Таксама як і адзіны адпаведнік і.-е. **māgh-/*mōgh-* 'быць у стане' ў герм. мовах: гоц., ст.-в.-ням. *magan, mag,* ням. *mag, mögen* (Махэк₂, 371), гэты славянскі дзеяслоў не мае самастойнага рэальнага значэння, а толькі вызначае пэўную акалічнасць пры дзеі. Збліжаецца некаторымі вучонымі з літ. *magė́ti* 'хацецца', *mãgulas* 'шмат які' (Буга, РФВ, 72, 192), параўн. чэш. *moc* 'многа', ст.-інд. *mahān* 'вялікі', *maha-raja* 'вялікі цар, махараджа', лац. *magnus* 'вялікі', літ. *magùs* 'жаданы', *mė́gti* 'мне падабаецца', *mokė́ti* 'магчы', лат. *mêgt* 'тс' (Эндзелін, RS, 11, 37). Гл. таксама Фасмер, 2, 635—636; Брукнер, 342; Скок, 2, 446—247 з л-рай; Бязлай, 2, 190. Сюды ж *мага́* (гл.), *магу́тны* (гл.), *магéнне* 'магчымасць, сіла' (Нас.), *магчыма* 'можа, быць можа' (ТСБМ, Гарэц.), *магчымасць, магчымы* 'які можа здарыцца, адбыцца', 'які можна здзейсніць' (ТСБМ, Гарэц., Касп.).



**Мада́м** 'пані (зварот да замужняй жанчыны)' (ТСБМ) успрынята з рус. *мада́м*<франц. *madame* 'пані' (з XVIII ст.) (Фасмер, 2, 556).

**Маджа́ры** 'доўгі, цяжкі воз з шырокімі драбінамі, які выкарыстоўваюць для перавозкі сена і снапоў' (бых., Рам. 8), *мажа́ры* 'тс' (ТСБМ, Інстр. I, Малч., Мат. Гом., Бяльк.), *мыжа́ра* (Бяльк.), *мажа́рка* 'сані з маленькімі драбінкамі' (Бяльк.), *ма́жа* 'кош у возе, санях' (Маш., Пятк.), 'скрыня для перавозкі чагосьці дробнага, сыпкага' (нараўл., Мат. Гом.), *ма́жы* 'воз для перавозкі сена, снапоў' (Касп.; барыс., Шатал.; круп., Нар. сл.). Укр. *ма́жа* 'чумацкі воз', *мажа́ра* 'вялікі воз', польск. *устар. maża* 'чумацкі воз' (з укр. мовы), рус. крымск. *маджа́ра, мажа́ра, можа́ра* 'вялікая татарская арба', 'драбіны'. Паходзіць з крым.-тат. *madžar* 'драбіны', калмыцк. *madžar tergṇ* 'вялікая калымага' (Радлаў, 4, 2050; Рамстэд, KWb, 253), якое Мункачы (KSz 6, 205) выводзіць з назвы венграў — *magyar* 'мадзьяр' (Фасмер, 2, 557).

**Маджо́га,** *маджо́ка* 'суп, запраўлены льняной макухай' (петрык., добр., Мат. Гом.), 'вінегрэт' (петрык., жытк., Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, звязана з балтыйскімі дзеясловамі: літ. *máigyti* 'мяць, цісну́ць, сціскаць', лат. *maidzīt* 'мяць'.

**Мадзґану́ць** 'моцна ударыць' (мін., Сл. ПЗБ). Гукапераймальнае. Параўн. *па́цкаць, па́цнуць* 'тс'. Да *ма́зацъ* (гл.).

**Мадзе́ць** 'жыць у цяжкіх умовах, абы-як, гараваць', 'марнець', 'бязмэтна існаваць' (ТСБМ; усх.-маг., КЭС; Гарэц., Янк. БП, Нас., Ян., Касп., Мат. Гом., Бяльк., Растарг.; рэч., Нар. сл.). Рус. паўн. *моде́ть* 'гніць, псавацца', 'кіснуць', 'паволі рабіць што-небудзь', 'слаба гарэць', 'прэць', 'тлець', 'вянуць', 'чаўрэць, марнець, існаваць', *моделый* 'слабы, знясілены', 'стомлены'. Звязана з ц.-слав. **измъдѣти** 'самлець', *мъдити, умъднѭти* 'марудзіць', з назвай левага прытока р. Мсты (Наўгар. вобл.) — *Мда* 'павольная рака', з чэш. *mdlý* 'слабы, бяссільны', польск. *mdły* 'лядаік', 'слабы', 'мізэрны', в.-луж. *módły* 'тс', славен. *medə̀l* 'слабы', *mədléti* 'марнець, чэзнуць' (Фасмер, 2, 636 і 590—591; Праабражэнскі, 1, 544). Брукнер (347—348) у якасці і.-е. адпаведнікаў прыводзіць літ. *maũsti* 'ныць', 'сумаваць', *ãpmaudas* 'злосць, прыкрасць', гоц. *(ga)maudjan* 'успомніць'.

***Мадзёхала,** драг. *modёхало* ’той, хто корпаецца, павольна робіць, рухаецца’ (Нар. лекс.)<*мадохацца* ’вазіцца’ (гродз., Сцяшк. Сл.), *môdóхатысь, modёхатыся* ’корпацца, ледзь рухацца’ (Нар. лекс.). Да *мýдзіць* ’рабіць павольна’ (гл.).

**Мадзя́ра** ’страхоцце, пачвара’ (ТС). Узыходзіць да паўд.-рус. *мажáры*<*мазáрки* ’старыя могілкі’, якое з усх.-цюрк., казах., туркм., узб. *mazar* ’магіла, могілкі’ (Радлаў, 4, 2056; Фасмер, 2, 557).

**Мадзя́ркаць** ’лаяць’ (нараўл., Мат. Гом.). Да *мацяркí* (гл.) з азванчэннем *-ц-*. Гэта калька рус. *материться* ’тс’.

**Мадзя́сты** ’недарэчны, абы-які’ (капыл., Жыв. сл.), утворана ад *мадзéць (<mъděti)*.

**Мадона** ’багародзіца, божая маці — партрэт ці скульптура ў касцёлах’ (ТСБМ). З рус. *мадонна,* якое з італ. *madonna* ’тс’.

***Мадравáць,** драг. *modrôвáтэ* ’дурэць, сваволіць, забаўляцца’ (Нар. лекс.). Укр. *мудровáти* ’мудрыць, мудрагеліць’, польск. *mądrować* і г. д. Да *мудравáць* (гл.).

***Мадрашчы́,** драг. *môдрошчí* ’пыхлівыя выдумкі, жарты’ (Нар. словатв.), укр. *мудрощі* ’хітрамудрыя выдумкі, прыёмы’, ’мудрагелістыя рэчы, цяжкія для разумення або выканання’ з *мýдры.*

**Маду́нкі** ’язмін, Philadelphus tenuifolius Rupr. et Max.’ (пруж., Жыв. сл.) — у выніку другаснага ацвярдзення губных (Карскі, 1, 326) з *мядункі* (гл.).

**Мадыгавáцца** ’вырабляць, крыўляцца’ (Шат.), ’важнічаць’, ’убірацца, прыгожа апранацца’ (дзятл., лях., пух., Сл. ПЗБ), ’прыладжвацца, прымошчвацца’ (дзярж., Нар. сл.), стаўб. *мадыгавáць, мадыголіць* ’прыладжваць, падганяць адзенне’ (Жыв. сл.). Відаць, ад +*мадыга* (аб суфіксе *-ыга* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 182)<*модны,* параўн, рус. перм. *модя́га* ’франт, фарсун’. Пасля адбылося збліжэнне з лексемай *мадыравáцца*$_1$ (гл.) паводле аднолькавай семантыкі і блізкага фанетычнага гучання.

**Мадыгавáць** ’рамантаваць; рабіць, складаць як-небудзь’ (слонім., Нар. лекс.), *мадаравáць* ’даводзіць да ладу’ (шчуч., Сцяшк. Сл.). Відаць, балтызм. Параўн. літ. *madarúoti* ’халтурыць, ляпаць, *mãdaras* ’халтуршчык, бракароб’, ’дрэнная работа’.

**Мадыравáцца**$_1$, *мадэравацца* ’ўбірацца’, ’важнічаць’, ’манернічаць, крыўляцца’ (паст., шчуч., шальч., швянч., Сл. ПЗБ). З польск. *moderować (się)* ’тс’, у якім зліліся дзве лексемы: 1) *moderować (się)* ’стрымліваць, лагодзіць, заспакойваць’, а таксама ’майстраваць, будаваць, перарабляць, халтурыць’<лац. *moderāri,* 2) *moderować (się)* ’элегантна апранацца’, ’прыхарошвацца’, ’манернічаць, крыўляцца’, ’зацягвацца ў карсет’<*miderak, midorak, minderak*<ням. *mieder* ’гарсэцік, жакетка’.



**Мадыравáцца**$_2$ ’дурэць’ (віл. Нар. сл.) утварылася ў выніку збліжэння лексем *мадыравáцца* і **мадравáць* (гл.).

**Мады́стка** ’якая шые моднае жаночае адзенне і галаўныя ўборы’ (ТСБМ) з франц. *modiste* праз польск. мову. Да *мода* (гл.)

**Мадэль** ’макет чаго-небудзь’, ’узорны экземпляр новага вырабу’, ’тып, марка, узор канструкцыі’, ’схема з’явы або фізічнага аб’екта’ (ТСБМ). Запазычана з рус. *модель*<ням. *Modell*<франц. *modèle*<італ. *modello*, якое з’яўляецца памяншальнай формай *modo*<лац. *modus* ’спосаб’, ’мера’. Магчыма і другаснае запазычанне (XX ст.) з рус. мовы (гл. Фасмер, 2, 636; Махэк$_2$, 371; Голуб-Ліер, 318; Брукнер, 342). Параўн. таксама *мóдэль* (гл.).

**Мадэравáць** ’уладкоўвацца’, ’дагаджаць’, ’імкнуцца ўцячы’ шальч., швянч., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *модеровати* ’атрымліваць’ (пач. XVII ст.), запазычаны са ст. польск. *moderować* ’тс’, ’размяркоўваць, заспакойваць’ (Булыка, запазыч., 205), якое з лац. *moderāri* ’кіраваць, стрымліваць, рэгуляваць’.

**Мадэрн** ’дэкадэнцкі напрамак у архітэктуры і мастацтве на мяжы XIX і XX стст.’, *(разм.)* ’што-небудзь сучаснае, моднае’ (ТСБМ). Еўрапейскае слова, запазычанае з рус. *модерн*< фр. *moderne* ’самы новы, сучасны’ (Лёхін, 456).

**Мáеншчык** ’багач’ (Касп.) — калька з польск. *majętnik* з заменай толькі суфікса *-nik* на *-шчык.*

**Мáеткі** ’штаны’ (Нас.). Да *мáйткі* (гл.).

**Мáе́тнасць,** *мáітнысь, мáйтнысь* ’нерухомая маёмасць, зямля’ (Нік. Оч., Нас., Нас. АУ), ст.-бел. *маетность, маэтность* ’багацце, маёмасць’ (XVI ст.), запазычана з польск. *majętność*<*mieć*>*мець* (гл.) (Булыка, Запазыч., 195; Фасмер, 2, 557).

***Маёвец,** *маёвэц* ’майскі мёд’ (Анох.). Да *маёвы*<*май* (гл).

**Маёвы**$_1$ ’майскі’ (Нас., ТСБМ). Да *май*$_1$ (гл.). Суф. *-ов* больш характэрны для народнай мовы; магчыма, гэты суфікс пранік з польск. мовы, параўн. укр. *майовий,* польск. *majowy,* чэш., славац. *májový.* У іншых слав. і ў бел. літар. мовах тут выступае суф. *-ск-*. Сюды ж: кобр., драг., стол. *маёвыя, маёвы грыбы, маёвэі грыбэ́* >вясеннія грыбы’ (Жыв. сл.).

**Маёвы**$_2$ ’зялёны (аб колеры)’ (Нас., ТСБМ, Касп.). Да *май*$_2$ (гл.).

**Маёмасць,** *мáемасць, мáімысьць* ’рэчы, прадметы, каштоўнасці, якія знаходзяцца ў чым-небудзь уладанні’ (ТСБМ, Касп., Гарэц., Бяльк.) — аддзеепрыметнікавае ўтварэнне ад *маёмы, маімый* ’наяўны, той, што ёсць’ (Бяльк.), як *вядомы,*

*знаёмы* і суф. *асць*. Сюды ж навуковы тэрмін — новаўтварэнне (калька) *маёмасны* 'звязаны з уладаннем' (ТСБМ).

**Маёмны** 'багаты, заможны' (ТСБМ) — толькі беларускае. Утворан ад дзеепрыметніка *маёмы* і суф. прыметніка *-н-*.

**Маёнтак,** *маёнтык, маéнток, маёнток* 'зямельныя ўладанні памешчыка', 'панскі двор, сядзіба' (ТСБМ, Шушк., Лекс. і грам., Нас., Шат., Касп., Бяльк., ТС), яшчэ ст.-бел. *маетокъ* 'тс' (1648 г.). Аднак пазней была ўспрынята польская форма *majątek* (Булыка, Запазыч., 195; Пальцаў, Лекс. і грам., 38).

**Маёр** 'афіцэрскае званне ў арміі, міліцыі, вышэйшае за капітана' і 'асоба, якая яго носіць' (ТСБМ), ст.-польск. *майоръ* 'начальнік', 'кіраўнік' (1711 г.). Запазычана з польск. *major*< ням. *Major*<ісп. *mayor,* якое з лац. *maior* 'большы, старэйшы' (Булыка, Запазыч., 195; Голуб-Ліер, 299).

**Маёркі** *(мн.)* 'цынія зграбная, Zinnia elegans L.' (ветк., Мат. Гом.). Запазычана з укр. мовы, параўн. *майорці* 'тс'.

**Маёўка** 'вясенняя прагулка на ўлонні прыроды' (ТС, Нас.). Запазычана з рус. або польск. мовы, дзе з'яўляецца новаўтварэннем (канец XIX — пачатак XX ст.). Да *май*$_{1,2}$.

**Мажджáра** 'мартыра' (бых. Рам. 8), *мажджэр* 'пушка' (Дасл. Гродна, Нас.), 'металічны таўкач' (ТС, Нас., Інстр. I), *машчыр* 'тс' (Мат. Гом.), *машчэрык* 'невялікая медная ступка' (Растарг.), *мажджэра* 'ступка' (Сцяшк.), *мажджэр* 'ступка' (Касп., Дасл. Гродна), *маждзер* 'тс' (Вяр.), *мажджэр* 'гліняны посуд, у якім збіваюць масла, пякуць бабку' (Касп.). Ст.-бел. *можджеръ, можджеръ, можчеръ, можчеръ, моздзерикъ* 'ступа', 'мартыра' (1565, 1578 гг.) запазычаны з польск. *moździerz, mozgierz,* якія з чэш. *moždíř*<с.-в.-ням. *morsaere* (суч. ням. *Mörser)*<с.-лац. *mortārius* 'ступа'. Першаснае 'ступа' паводле формы перайшло на 'мартыра'. Сучасныя, пераносныя значэнні: *мажджэр* 'дурны, неразумны, дурная галава' (Жд. 1, капыл., Нар. словатв.), клец. *мажджыра (абразл.)* 'твар, аблічча, галава' (Нар. лекс.). Сюды ж: *мажджэрыць* 'драбіць, таўчы, раздрабляць' (ТС). Больш падрабязна гл. Булыка, Запазыч., 205; Чартко, Дасл. Гродна, 1967, 53; Фасмер, 2, 637; Брукнер, 346; Махэк$_2$, 378; Міклашыч, 203; Патабня, РФВ, 1, 263; Васэрцыер, 155.

**Мажлівасць** 'магчымасць' (ТС), укр. *можлúвість* паходзяць, відавочна, з польск. *możliwość* 'тс'. Тое ж датычыцца і лексемы *мажлíвы* 'магчымы' (ТС).

**Мажнéць** 'рабіцца, станавіцца мажным — рослым, поўным, моцнага целаскладу' (ТСБМ), 'багацець, станавіцца багатым' (Нас., Касп.). Да *магчы* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ěti* ад прыметніка *mog-ьnь*.

**Мажны́** 'рослы, поўны, моцнага целаскладу' (ТСБМ), 'тоўсты' (Інстр. III), карэліц. 'моцны, дужы' (Сцяшк.), *можны*



'багаты', *мажнейшы* 'багацейшы' (Нас.). Магчыма, паланізм. Параўн. польск. *możny* 'багаты, буйны, уплывовы'. Да *магчы* (гл.). Утворана ад *mog-t'i* пры дапамозе суф. *-ьnъ*. Махэк$_2$ (371) адрознівае дзве лексемы: *možný* 'магчымы' і *možný* 'багаты', якую выводзіць з *mohovitý*<ведыйск. *maghávat* 'які дае багатыя дары'. Сюды *мажней* 'мацней', 'больш магчыма', 'больш багата' (Нас.).

**Мажор** 'музычны лад, які мае бадзёрую гукавую афарбоўку', *(разм.)* 'вясёлы, радасны настрой' (ТСБМ) — запазычана праз рус. мову з франц. *majeur*<італ. *maggiore* 'большы', 'вышэйшы'.

**Мажýха,** *мажжýха* 'ядловец звычайны, Juniperus communis L.' (віц., смал. Кіс.; Інстр. II). Паводле Фасмера (2, 637), звязана, відавочна, з *мозак* (гл.), менавіта з **mozgjъ* 'з моцнай драўнінай' (Гараеў, 212). Ягіч (AfslPh, 8, 654) і Зубаты (AfslPh, 15, 479) супастаўляюць гэту лексему з літ. *mãzgas* 'вузел', тады *мажýха* — 'вузлаватая дрэва'.

**Мажы́нкі** 'кнопкі' (Жд. 1). Да *машы́нкі, машы́нка* (гл.).

**Мажэ́нне**$_1$ 'ўяўленне', 'мара', 'трызненне' (Нас.). Запазычана з польск. *marzenie* 'тс'.

**Мажэ́нне**$_2$ сіла, магчымасць' (Нас.). Да *магчы* (гл.). Іншы варыянт — *магéнне.*

**Мажэржанка** 'маяран садовы, Majorana hortensis Moench' (гродз., Кіс.). Змененая (пад уплывам асіміляцыі) назва *мацержанка (-ц->-ж-)* перайшла з наймення мацярдушкі звычайнай (Origanum vulgare L.).

**Мáза**$_1$ 'каламазь' (бераст., Сцяшк. Сл.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суф. *-а* (Слаўскі, SP, 1, 59). Да *мáзаць* (гл.).

**Мáза**$_2$ 'капрызніца, песта' (ТС). Утворана аналагічна, як папярэдняе. Параўн. яшчэ палес. *мáзя* 'тс', 'плакса'; тураўск. *мазаны* 'збалаваны, спешчаны' (ТС) адпавядае чэш. *mazna* 'распешчаная жанчына', серб.-харв. *мáзница* 'тс', чэш. *rozmazlenec* 'пястун'. Як і чэш., палес. лексемы — да *мáзаць,* чэш. *mazati se* з экспрэсіўным адценнем, серб.-харв. *мáзити* 'патураць', 'ліслівіць, дагаджаць'. Сюды ж *мáзацца* 'песціцца, капрызіць', *мáзаць* 'патураць' (ТС).

**Мазáіка** 'рознакаляровы ўзор ці малюнак са шкла, дрэва, мармуру ці інш.' (ТСБМ). Запазычана праз польск. ці рус. мову з франц. *mosaïque*<італ. *mosaico*<с.-лац. *musaicum,* якое з лац. *Musa* 'багіня мастацтва' (Голуб-Ліер, 323; Фасмер, 2, 637).

**Мазанíна** 'мазня, нядбайна напісанае ці намаляванае' (ТС) — аддзеепрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-ін-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 42). Да *мáзаць* (гл.).

**Мáзанка** 'хата з гліны або з абмазаных глінай дрэва, цэглы' (ТСБМ) паходзіць з паўд.-рус. арэалу ці ўкр. мовы. Да *мáзаць*

(гл.). Сюды ж аднолькавае па форме лід. *ма́занка* 'падмазка' (Сцяшк. Сл.) і дзятл. *ма́занка* 'брудны (аб дзіцяці), які запэцкаўся' (Сл. ПЗБ).

**Ма́заць** 'пакрываць слоем чаго-небудзь тлустага ці вадкага', 'пэцкаць', 'непрыгожа маляваць або пісаць', 'рабіць промахі ў гульні, стральбе' (Нас., ТСБМ, Шат., Мат. Гом.); жытк., нараўл., лельч. 'бяліць' (Мат. Гом.); светлаг. 'чысціць боты' (Мат. Гом.), 'падмазваць, намазваць' (Сл. ПЗБ), 'бяліць мелам' (ТС). Укр. *ма́зати,* рус. *ма́зать,* польск. *mazać,* н.-луж. *mazaś,* в.-луж. *mazać,* чэш. *mazati,* славац. *mazat'*, славен. *mázati*, серб.-харв. *ма̀зати* 'тс'; макед. *мазни* 'гладзіць', 'песціць', *мазнина* 'сала, тлушч', балг. *мажа;* ст.-слав. **мазати, мажѫ**. Прасл. *mažǫ*, *mazati* мае няяснае паходжанне (Махэк$_2$, 356). Аднак Бернекер (2, 58), Мерынгер (IF, 17, 148), Эндзелін (KZ, 44, 66), Мюленбах-Эндзелін, (2, 684), Младэнаў (WuS, 12, 59), Траўтман (173), Фасмер (2, 557) мяркуюць, што роднаснымі да прасл. *mazati* з'яўляюцца лат. *(iz)muôžêt* 'мучыць', 'перахітрыць', *muôžêt* 'прагна есці', 'біць', літ. *mẽžti* 'угнойваць', лат. *mêzt* 'чысціць ад гною, падмятаць', ст.-грэч. μάσσω, μάττω, μεμαγμένος 'цісну, мажу', μαγεύς 'пекар', μαγίς 'месіва', μᾶζα 'цеста', ст.-в.-ням. *mahhôn* 'складваць, звязваць', н.-в.-ням. *machen* 'рабіць', арм. *macanim* 'гусцею'. Такім чынам, *mazati* паходзіць ад **mag'*-. Яно з'яўляецца ітэратывам з доўгім галосным кораня *-*māg'-ā-tei*. Першасны дзеяслоў у славян не захаваўся. Сюды ж *мазену́ць* 'ударыць' (ТС).

**Мазґа́** 'мяздра' (маз., свісл., Шатал.; ганц., Сл. ПЗБ). *Ма-* ў выніку другаснага ацвярдзення. Да *мязга́* (гл.).

**Мазгава́ць,** *мазкава́ць* 'думаць, меркаваць, камбінаваць, узважаць' (ТСБМ, Сцяшк., Др.-Падб., Мат. Гом., Ян., Сл. ПЗБ). Усх.-слав. Утворана пры дапамозе суф. *-ава́ць* (<*-ova-ti*). Да *мазгі́* (гл.). Параўн. серб.-харв. *мо̀згати* 'ламаць галаву', польск. *mózgownica* 'башка, галава'.

**Мазгаве́шка** 'мазгаўня' (зэльв., Жыв. сл.) утварылася ў выніку кантамінацыі *мазгі́* (гл.) і *галаве́шка (экспр.)* 'галава'.

**Мазгале́зіна** 'сукаватае палена' (ашм., Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *mãzgas* 'вузел'.

***Мазгаломка,** *мызгаломка* 'цяжкая задача' (Бяльк.). Па аналогіі да *галаваломка.* Да *мазгі́* і *ламáць* (гл.).

**Мазгата́ць** 'біць, разбіваць, мажджэрыць', 'грукаць дамагаючыся' (Нас.). Рус. *мозгота́ть* 'тс', 'балбатаць', 'смактаць, есці', 'хутка бегаць', зах.-укр. *москота́ти* 'невыразна гаварыць, дрэнна вымаўляючы', *моско́та* 'няясная вымова'. Да +*мозгот,* утвораны, як *стукот, лёскат, грукат,* ад *мазга́ць,* параўн. славен. серб.-харв. *мо̀згати* 'ламаць галаву' (звычайна такія дзеясловы выступаюць у пары: *грукаць — грукатаць, ляскаць — лескатаць*).



**Мазгану́ць** (экспр.) 'ударыць' (слуц., Шн. 2). Да *мазгатну́ць,* якое з *мазгатаць* (гл.). Аб выпадзенні *-т-* перад *-н-* суфікса *-nǫ* гл. Карскі (1, 355).

**Мазгатня́** 'галаваломная, заблытаная справа' (Нас.) утворана ад *мазгатаць* (гл.) і суф. *-н-я* (з экспрэсіяй непахвальнасці), як і *мазгаўня́, балбатня́, калатня́, буркутня́, траскатня́* (Сцяцко, Афікс. наз., 89).

**Мазгаўня́,** *мазгаўня́, мозгоўне́, маскаўня́* 'галава' (Нас., ТСБМ, Грыг., Шат., Касп., Мат. Гом., драг. КЭС, докш. Янк. Мат., Бір., Дзярж., Мат., Маг., Сл. ПЗБ), укр. *мізко́вня,* польск. *mózgownica* 'тс'. Утворана ад прыметніка *мазгавы* пры дапамозе суфікса *-ня* (<*-ьn'a*).

**Мазгачы́** (мн. л.) *(экспр.)* 'мазгі' (Нас.) — адсубстантыўны назоўнік, утвораны пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-ач.* Да *мазгі$_1$* (гл.).

**Мазгі$_1$,** *мазге́, мазкі́* 'мозг', 'розум', 'памяць' (Нас., Др.-Падб., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., Мат. Гом., Ян., зах.-бел. КЭС, Сл. ПЗБ). Да *мозг* (гл.).

**Мазгі$_2$** 'кішкі, мякаць у гарбузе, дзе знаходзіцца насенне' (Нас.), круп. 'мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай' (Нар. сл.). Да *мязга́* (гл.). У выніку дзеяння народнай этымалогіі семантыка і афармленне наблізіліся да лексемы *мазгі* (паводле падабенства размяшчэння).

**Мазгля́вы** 'недастаткова густы, трохі рыхлы' (Растарг.) паходзіць з рус. *мозглый*<*мо́зглнуть* 'гніць, псавацца, цвісці', *промозглый* 'гнілы, сыры', якія ад *мъзга* (Міклашыч, 207). Сюды ж і ц.-слав. **мъждивъ, измъждити** 'аслабець', рус. *мозгля́к* 'недалуга' (Праабражэнскі, 1, 545; Фасмер, 2, 638).

**Мазголіць$_1$** 'біць, у прыватнасці, па галаве', 'уціраць масла ў валасы', 'брудзіць чым-небудзь тлустым' (Нас.), *мазголіцца* 'доўга поркацца з якім-небудзь прадметам', 'пэцкацца (напр., грызучы косць)' (Нас.). Разам з *мазоліць, мазоліцца* (гл.), астр. *мазалі́ць* (Сл. ПЗБ) належыць да гнязда *мазол* (гл.), якое з прасл. *mozgoliti* 'цісНуць, націраць мазоль', а апошняе ў выніку метатэзы ўзнікла з *glomoziti,* параўн. чэш. *(h)lomoziti,* бел. *гламаздзіць* 'біць па галаве', *гламазда́, гламаздава́ты* (гл.) (гл. Махэк$_2$, 377); Брукнер (346) выводзіць гэту лексему з літ. *mãzgas* 'супель', 'почка на дрэве', а Фасмер (2, 638—639) — з **мъзга.* Сюды ж: *мазголенне* 'важданне, порканне', 'частыя ўдары па галаве', 'мазанне валасоў' (Нас.).

**Мазголіць$_2$** 'выдумваць' (лід., Сцяшк. Сл.). Утворана ад *мазгол* 'чалавек, з галавой'. Параўн. рус. разан. *мозгаль* 'тс'.

**Маздаголіцца** 'доўга збірацца' (ваўк., Сцяшк. Сл.). З *мазголіцца* 'доўга поркацца' ў выніку пашырэння кораня суфіксам *-да-* пад уплывам *мадыгава́цца* (гл.).

11. Зак. 1005

**Мазда́н** 'дурная галава' (Шат.). Памылкова Шатэрнік (152) суадносіць яго з польскім *mazgaj*, якое ад *mazgoić się* 'плакаць'<прасл. *mazati sę*. Бел. *маздан* паходзіць з *мазган*, якое ад *мазгі*$_1$ і суф. *-ан* (як *сталбан)* 'дурань'.

**Мазе́па**$_1$ 'плакса, размазня' (Янк. 3; нараўл., Мат. Гом.), *мазёпа* 'капрызніца' (ТС). Утворана ад *мазаць* (гл.) пры дапамозе суфікса з экспрэсіяй асуджэння *-еп-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 39). Сюды ж *мазэпка, мазэпчык* 'мурза, хлопчык або дзяўчынка з брудным тварам' (Нас.), *мазэпа* 'неахайны, нязграбны', 'страшыдла' (Нас., Чач.), а таксама *мазепа* 'непрыгожая, шыракатварая, з вялікімі рысамі твару жанчына' (Растарг.) і *мазэпа* 'хара, морда' (Мал.).

**Мазе́па**$_2$, *мазэпа (зневаж.)* 'разява, разявака' (стаўбц., Жыв. сл., карэліц., З нар. сл.) — да *мазаць* 'рабіць промахі'.

**Мазёк!** 'пра няўмелае мазанне' (мсцісл., Нар. лекс.) — гукапераймальнае слова ад *мазаць* (гл.). Канцавое *-к-* замест *-х-* (як, напр., *пялёх!)*, відавочна, пад уплывам слова *мазок*.

**Мазжачок** 'аддзел галаўнога мозга ў патылічнай частцы галавы' (ТСБМ), укр. *мо́зочок*, польск. *móżdżek*. Бел. лексема запазычана з рус. *можжечок.* Да *мозг* (гл.).

**Мазідла** 'мазь' (капыл., Нар. словатв.; чэрв., Сл. ПЗБ) з польск. *mazidło* 'мазь для націрання'. Да *ма́заць* (гл.).

**Мазіла**$_1$ 'хто няўмела піша, малюе', 'хто часта робіць промахі ў стральбе, гульні' (ТСБМ, капыл., Нар. словатв.). Да *ма́заць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 42), Карскі (2—3, 24—25), Слаўскі (SP, 1, 104).

**Мазіла**$_2$, *мазіло, мазілка* 'кавалачак сала або тлушчу для падмазвання патэльні' (Вешт., Касп.), *(пагард.)* 'мазь, замазка' (З нар. сл., ТС), укр. *мазило* 'матэрыял, якім мажуць', 'прыстасаванне, якім мажуць', рус. наўг., цвяр. *мазила* 'румяна', польск. *mazidło* 'мазь', славен. *mazílo* 'мазь', 'хабар'; макед., балг. *мазило* 'мазь', 'змазка'. Прасл. *mazidlo*, якое ўтворана ад *mazati*>*ма́заць* (гл.). (Карскі, 2—3, 24; Сцяцко, Афікс. наз., 42; Слаўскі, SP, 1, 113).

**Ма́зіцца** 'румзаць' (слонім., Жыв. сл.) утворана ад нематываванага *мазаць, -цца* пры дапамозе суфікса другасных гукапераймальных дзеясловаў *-iti(sę)* (гл. Слаўскі, SP, 1, 48).

***Мазкаўто́ўня,** *мозгото́ўня, мошкото́ўня* 'галава' (ТС). У выніку кантамінацыі лексем *мазгатня́* і *мазга́ўня* (гл.).

**Ма́зкі** 'аб які можна запэцкацца', 'які лёгка пэцкаецца, маркі' (ТСБМ — прыметнік, утвораны ад асновы *maz-*>мазь (гл.) і суф. *-ък(jь))*.

**Ма́зкасць** 'уласцівасць мазлівага' (ТСБМ) — новаўтварэнне ад *мазкі* і суф. *-асц-ь* (Сцяцко, Афікс. наз., 137).

**Мазлівы** 'маркі, які лёгка пэцкаецца' (ТСБМ; дзярж., Жыв. сл.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад асновы *маз-* і суф. *-лів-ы.*



Аднак тураў. *мазліву* мае іншую семантыку — 'капрызны, спешчаны' (ТС). Гл. *маза*$_2$.

**Мазлы́к** 'анучка, якой выраўніваюць паверхню посуду' (Сцяшк.) Спецыяльны тэрмін накшталт чэш. *mazlik* 'зубіла' (шавец.), 'дошчачка для намазвання'; параўн. чэш. *mazlavá hlína* 'вязкая гліна'. Да *ма́заць* (гл.).

**Мазніца,** *мазьні́ца, мазны́ця* 'пасудзіна для калёснай мазі, дзягцярка' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Растарг., драг., З нар. сл.; стол., Нар. лекс., Сл. ПЗБ, ТС), 'посуд для смалы' (Маш.). Укр. *мазниця,* рус. *мазница,* польск. *maźnica,* чэш. *maznice,* славац. *maznica.* Паўн.-слав. ўтварэнне *maz'ьnica.* Да *ма́заць* (гл.).

**Мазня́** 'няўмела намаляваная карціна, неахайна напісаны тэкст; дрэнная, няўмелая работа', 'лёгкія ўдары', 'няўмелая, з промахамі стральба' (ТСБМ, Нас.). Відаць запазычана з рус. *мазня́* 'тс'. Да *ма́заць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 58—59).

**Мазок**$_1$ 'адзін рух пэндзля', 'накладзены адным рухам пэндзля слой фарбы' (ТСБМ), *мазком* 'лёгка дакранаючыся', 'лёгка паціраючы' (Нас.). Хутчэй за ўсё запазычана з рус. *мазок* 'тс'.

**Мазок**$_2$, *мозо́к* 'шпік' (лун., Шатал.). Да *мозг* (гл.). Утворана пры дапамозе памяншальнага суф. *-ok (<ъkъ).* Націск на канцы, магчыма, для адрознення мозга галаўнога *(мо́зок)* ад шпіку (у касцях).

**Мазоліць** 'націраць мазалі доўгай работай або хадзьбой', 'нядбала або паволі працаваць', 'трымаць, не выпускаючы з рук', *мазоліцца* 'забаўляцца з кім-небудзь або чым-небудзь', 'паволі і нядбайна рабіць' (Нас., ТСБМ). Да *мазоль* (гл.). Параўн. таксама *мазголіць.* Сюды ж *мазалява́ны* 'набыты працай, намаганнямі', *мазоленне* 'доўгае трыманне ў руках' (Нас.).

**Мазоль** 'патаўшчэнне скуры ці пухір з вадкасцю на руках або нагах' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *мазуль* 'тс' (Шат.; карэліц., Шатал., Нар. лекс.; жлоб., Мат. Гом.), *мозу́оль* 'язва, рана' (Бес.), кам. *мозыль* (Шатал.). Укр. *мозіль, мозо́ля, мо́зуль;* рус. *мозо́ль, мозго́ль, музо́ль;* польск. *mozół* 'цяжкая праца', *mozoła, modzel;* н.-луж. *mózol,* в.-луж. *mozl*; чэш. *mozol, mozoul, mozour,* усх.-чэш. *hlomouz;* славац. *mozol'*, славен. *mozólj* 'пухір ад апёку', серб.-харв. шток. *мо̀зо̂л* 'мазоль', макед. *мозол,* балг. *мазол,* ст.-слав. **мозоль** 'сіняк'. Прасл. *mozolь.* Цупіца (KZ, 37, 398); Сольмсен (IF, 13, 137) параўноўваюць прасл. *mozolь* са ст.-в.-ням. *masar* 'нарасць на дрэве', *mâsa* 'рубец, шрам', грэч. μῶλωψ (<*mōsl-)* 'мазоль, шышка'. Матцэнаўэр (LF, 10, 334) і Младэнаў (302) набліжаюць *mozolь* да нова.-ням. *Maser* 'пражылак, узор на дрэве' і літ. *mãzgas* 'вузел',

*mezgù, mégšti* 'вязаць'. Ільынскі (RS, 6, 222) параўноўвае са ст.-інд. *mahánt-*, авест. *mazant-*, алб. *math, madhi*, грэч. μέγας, лац. *magnus*, гоц. *mikils* 'вялікі'. Брукнер (346) дадае да літ. яшчэ ст.-в.-ням. *masca*, ням. *Masche* 'пятля' (<і.-е. **mezg-* 'плесці, вязаць'), гаворачы аб чаргаванні зычнай кораня *-з->-zg-, -zd-, -dz-*. Махэк$_2$ (377) сыходнай формай лічыць дзеяслоў *mozgoliti* 'ціснуць, рабіць мазалі' (параўн. бел. *мазголіць)*, якое ў выніку метатэзы паходзіць ад *glomoziti* (бел. *гламаздзіць* 'біць па галаве' і інш.). Ад яго *glomoz, glomuz* (параўн. усх.-чэш. *hlomouz*, якое пасля адпадзення *g-(>h-)* і метатэзы пераўтварылася ў *mozol-*. Сюды ж бел. *мазольны, мазолісты, мазалёвы* 'набыты працай, намаганнямі', 'які вымагае цяжкой працы', 'які мае мазалі' (Нас., ТСБМ).

**Мазу́н** 'пястун' (драг., З нар. сл.), 'спешчанае дзіця' (драг., Нар. лекс.; ТС, укр. *мазу́н, мазуне́ць, мазу́нчик, мазунча́* 'пястун', рус. *мазу́н*, чэш. *mazánek, mazlíček, mazal*, славац. *maznák*, серб.-харв. *ма́за, мàзан* 'тс', балг. *мазник* 'ліслівец'. Да *ма́заць, ма́за$_2$* (гл.).

**Мазу́нь!,** *мазю́нь!, мазь!, мазю́к!* 'пра аднаразовае мазанне' (мсцісл., Нар. лекс.) — гукапераймальныя словы да *ма́заць* (гл.).

**Ма́зу́р$_1$** 'від танца' (Інстр. III) запазычана з польск. *mazur(ek)* 'мазурскі танец', таксама як і ўкр. *мазу́р*. У рус. і чэш. мовах *мазурка, mazurka* — ж. р., як *полька, венгерка* (Фасмер, 2, 558; Махэк$_2$, 356). У сучасных бел. гаворках таксама *мазу́рка* (з рус.), параўн. ваўк. *мазурка* 'тс' (Сл. ПЗБ). Значэнне 'чарнарус' (Нас.) — да *ма́зур* 'паляк паўн.-усх. Польшчы'<польск. *mazia* 'балота'.

**Ма́зур$_2$** 'з запэцканым тварам, брудны', 'смуглы' (Нас., Шат.) і *мазура́ка* 'мурза, неахайны' (Нікан.) утвораны пры дапамозе суф. *-ур* (з экспрэсіяй зніжанасці), *-ур-ака* ад *мазаць* (гл.) (Сцяцко, Афікс. наз., 70). У іншых слав. мовах аналагічна: укр. *замазу́ра, замазуха*, в.-луж. *mazich*, рус. *мазу́рина* 'пляма іншага колеру на поўсці ў сабакі'.

**Мазур-полька,** *мазурко́вая полька* 'від полькі-мазуркі, якую танцавалі трасучыся' (капыл., Жыв. сл.; круп., Сл. ПЗБ). Да *мазур$_1$* (гл.).

**Мазу́рык** *(разм.)* 'злодзей, махляр, ашуканец' (ТСБМ). Запазычана з рус. мовы *мазурик*, якое Сабалеўскі (РФВ, 66, 340) намагаецца вывесці з *мазать*, аддзяляючы яго ад польск. *mazur* 'мазур'. Брукнер (326) і ў KZ (46, 214) выводзіць рус. з польск. *mazur*. Праабражэнскі (1, 502) мяркуе, што слова запазычана з ням. *Mauser* 'злодзей' ад *mausen* 'красці'. Гл. яшчэ Фасмер (2, 558).

**Мазу́т,** *мазу́та* 'астатак ад нафты пасля адгонкі бензіну, газы і газаліну' (ТСБМ, Мат. Гом.). Запазычана з рус.



*мазут* 'тс', якое, паводле Ушакова (Толк. сл., 2, 118), — з араб. *makhzulāt* 'адыходы'>тур. *mazut, mazot* (Фасмер, 2, 558; Лёхін, 417).

**Мазу́ха** 'суп, запраўлены льняной макухай' (акц., Мат. Гом.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *ма́заць* 'брудзіць' (гл.) і суф. зніжаючай ацэнкі *-уха*, як і *маку́ха* (гл.) (ільняная макуха мае цёмна-карычневы колер).

**Мазь** 'сумесь тлушчу з лекавымі сродкамі', 'густое тлустае рэчыва для замазкі чаго-небудзь' (ТСБМ, Нас., ТС). Укр. *мазь*, рус. *мазь*, ст.-рус., ц.-слав. *мазь*, польск. *maź*, н.-луж., в.-луж. *maz* 'тс', чэш. *maz* 'машыннае масла', славац. *maz* 'мазь', славен. *máz* 'мазь, памада', серб.-харв. *мâз* 'мазь, падмазка', балг. *маз*. Прасл. *mazь* утворана ад асновы дзеяслова *maza-ti>ма́заць* (гл.) і суф. *-ь*.

**Мазы́рка** 'бочка для дабра, збожжа' (браг., Мат. Гом.). Відавочна, ад назвы горада *Мазыр*. Гэта бочка павінна была чымсьці адрозніваца ад немазырскіх.

**Мазы́** 'бруд, плямы на кашулі' (Нас.). Беларускае. Да *мазаць* (гл.).

**Ма́зя** 'размазня, плаксун' (пін., Нар. лекс., драг. КЭС), укр. *мазя́* (н. р.), Р. скл. *мазя́ти* 'бруднае, неакуратнае дзіцё'. Бел.-укр. ізалекса, утвораная ад *ма́заць* (гл.) і суф. *-я* (параўн. *соня*). Гл. *ма́за$_2$*.

**Мазю́ка** 'плаксун', 'капрызніца, песта' (слонім., Жыв. сл.) — да *ма́заць* (гл.). Аб суфіксе *-юка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 78.

**Ма́іць$_1$** 'мабыць' (чачэр., Мат. Гом., краснап., Бяльк.). Скарачэнне і зліццё слоў *мае быць*. Да *ма́быць* (гл.).

**Ма́іць$_2$** 'хіліць на сон' (смарг., Сл. ПЗБ), рус. *маять*, балг. *мая*. Роднаснымі да іх з'яўляюцца ст.-в.-ням. *muoen* 'працаваць, старацца', с.-в.-ням. *müen, muowen* 'тс', ст.-в.-ням. *muohi* 'праца', *muodi*, гоц. *af-mauiþs* 'стомлены', ням. *müde*, ст.-грэч. μῶλος 'цяжар', μῶλυς 'вычарпаны, аслаблены', лац. *mōlēs* 'цяжар, маса' (Шміт, KZ, 26, 5; Бернекер, 2, 7; Фасмер, 2, 587; БЕР, 3, 701—702).

**Май$_1$** 'пяты месяц каляндарнага года' (ТС, Бес., Гарэц., Ян., Шат., Касп., Бяльк., драг. КЭС). Укр. *май*, польск. *maj*, ст.-рус., ст.-слав. **маи** 'тс'. Запазычана з лац. *māius* праз с.-грэч. (μάϊος) і ст.-слав. Магло ўспрымацца непасрэдна праз навучанне ў школах, пашыраючыся сярод простага люду (Фасмер, 2, 559; Бернекер, 2, 8; Брукнер, 317; Махэк$_2$, 348, БЕР, 3, 615). Сюды ж *майскі* (ТСБМ), *майскі жук* (Бяльк.).

**Май$_2$** 'першая зелень ліставых дрэў, якой прыбіраюць хаты на сёмуху' (Нас., ТСБМ, Сержп. Прымхі, Фалюц., Янк. 3. Ян., Шн., Рам. 8, Мядзв., Жд. 1, Шат., Бяльк., Мат. Гом., Растарг.; пух., Бел. дыял.; в.-дзв., Шатал., ТС), 'адзначэнне дзядоў

на сёмуху' (Кліх), 'зялёны аір, які раскідваюць па падлозе і дарожках у дзень Сашэсця Св. Духа' (Нас.), 'бярозавае галлё, якое падсцілаюць пад стог' (круп., Нар. сл.), віц. *маінка* 'галінка, якую ўтыкалі на капусную градку пасля таго, як «развівалі» бярозу на сёмуху' (Сакалова, Обряды, 190). Укр. зах. *май* 'зелень', 'маладое дрэва, прыбранае стужкамі, ці галіны, якімі прыбіраюць хату, падвор'е', польск. *maj* 'зялёныя галіны, зелень', *majowy* 'зялёны', *majówka (фалькл.)*'май, дрэўца на сёмуху'; н.-луж. *maja*, в.-луж. *meja*, *mejka* 'ўрачыста аздобленае маладое дрэва', чэш. *máje*, *máj*, мар. *mája* 'высокае стройнае дрэва, якое ставіцца на 1 Мая або ў іншыя святы', 'перыяд росквіту, свежасці ў прыродзе', славац. *máj* 'вясна', 'сімвал вясны — высокая аздобленая яліна, якую хлопец ставіць перад 1 Мая ля вакна сваёй каханай', славен. *máj*, *mláj* 'аздобленая яліна, пастаўленая з выпадку якой-небудзь урачыстасці'. Хаця вяснова-летні абрад, звязаны з культам зялёнага дрэва, вядомы ўсім славянам, аднак лексема *май* і вытворныя пашыраны толькі на захадзе слав. тэрыторыі, на Беларусі і Украіне. Можна меркаваць, што лексема запазычана з ням. *Mei* (тое ж Махэк$_2$, 348). У бел. і ўкр. гаворкі — з польск. мовы. На Беларусі *май*$_2$ злілося з *май*$_1$.

**Май**$_3$ у выразе *буў — і як май змаеў* 'раптоўна прапаў' (саліг., Нар. словатв.; ТС), укр. *май-май-май* 'аб хуткіх рухах, калі махаюць, або што-небудзь уецца', *маяти* 'махаць, рухацца туды-сюды', *майдати* 'віляць хвастом', рус. *мáять* 'махаць' (і інш.: *маяк, маячить, маятник);* польск. *majaczyć* 'быць ледзь бачным', 'кружыцца', н.-луж. *mawaś* 'махаць', в.-луж. *majkać* 'гладзіць, песціць', чэш. *mávati* 'махаць', славац. *mávat'* 'тс', славен. *májati* 'рухацца туды-сюды', прасл. корань *ma-*. Мае балт. адпаведнікі: літ. *móti,* лат. *māt* 'махаць' (Махэк$_2$, 355; Фасмер, 2, 587). Гл. таксама *махаць.*

**Майдак** 'майдан, падворак, дзядзінец' (Федар. 7). Да *майдáн*$_1$ (гл.).

**Майдáн**$_1$ 'плошча, дзе збіраюцца сходы, адбываюцца кірмашы', 'вялікі двор або пляц (у маёнтку)' (ТСБМ, Булг., Сцяшк.; Сл. ПЗБ; палес., Нар. сл., ТС), 'пастаўнік у полі', 'прыбудоўка да хлява', 'загарадзь для свіней, цялят перад хлявом' (бяроз., Шатал., зах.-палес., Нар. сл.; брэсц., ДАБМ, к. 232), 'вялікі ўчастак ворнай зямлі' (Бір.; нясв., Яшк.; мазыр., З нар. сл.), 'шырокая прастора, вялікае гала' (стол., Яшк.; іван., усх.-палес., Нар. сл.), 'смалакурня, месца, дзе былі прамысловыя збудаванні лясных або рыбных промыслаў, дзе выганялі дзёгаць, выпальвалі кавальскі вугаль', 'яма, дзе гналі смалу', 'яма для дзёгцю' (Бяльк., Маш.; стол., бых., Рам. 3; слаўг., Яшк., Растарг.; гродз., мін., Яшк.; Сл. ПЗБ). Укр. *майдáн* 'плошча', 'лясная паляна'; 'смалакурня', рус. *майдáн*



'плошча, месца сходак', ст.-рус. *маидан* 'базарная плошча', польск. *majdan* 'плошча ў лагеры для кірмашоў і нарад, акружаны палаткамі', 'базар', 'смалакурня'. Бел. лексема запазычана хутчэй за ўсё праз укр. мову з крым.-тат. *mäidan,* тур. *meydan,* якія паходзяць з араб. *majdān* (Фасмер, 2, 559; Радлаў, 4, 1990, 2069; Бернекер, 2, 6; Брукнер, 318).

**Майдáн**$_2$ 'зарослы хмызняком роў' (Бяльк.), рус. *майдáн* 'прасека ў лесе на высокім месцы' складаюць адзін арэал. Да *майдáн*$_1$ (гл.).

**Майдом** 'агароджанае месца для скаціны ля хаты ці ў полі, пастаўнік' (Зн.). Да *майдáн*$_1$ (гл.).

**Мáйка**$_1$ 'будан на барцы' (паўн.-усх., КЭС). Паходзіць з лат. *māja* 'дом'. Запазычана плытагонамі Зах. Дзвіны.

**Мáйка**$_2$ 'маёмасць' (драг., З нар. сл.) утворана ад таго ж кораня, што і ўкр. *майно* 'маёмасць' пры дапамозе суф. *-к-а* (як *жытка* 'жыццё').

**Мáйка**$_3$ 'трыкатажная сарочка без рукавоў і каўняра' (ТСБМ). Утварэнне з суф. *-к-а* ад фр. *maillot* 'трыко акрабата, танцоўшчыка'<фр. *mailler* 'рабіць петлі, вязаць' (Цыганенка, 253). Запазычана з рус. мовы.

**Майкапорэ** 'абыякава' (ТС). Да *капóрэ* (гл.).

**Мáйна**$_1$ 'апускай уніз! (у мове грузчыкаў, будаўнікоў)' (ТСБМ), рус. чарнаморск. *мáйна* 'паднімай ветразі!', лат. *maina* 'апускай!' (у мове грузчыкаў), тур. *mayna* 'апускай ветразі!'< італ. *(am)mainare* 'тс'. Недастатковасць матэрыялу не дазваляе вызначыць шлях запазычання ў бел. мову.

**Мáйна**$_2$ 'палонка, шырокая расколіна ў лёдзе' (ТСБМ), лельч. *майнá* 'луг, затоплены вадой' (Мат. Гом.). Рус. арханг., алан., вяцк., ленінгр. *мáйна* 'палонка'. Паводле Калімы (160) — ўграфінізм, параўн. фін. *mainas,* водск. *maina* 'вялікая палонка'. Параўн. таксама рус. *майда* 'тс' (Фасмер, 2, 559).

**Мáйна**$_3$ 'маннік наплываючы, Glyceria fluitans (L.)' (маг., Кіс.) — з *манна,* у выніку распадабнення *нн>йн;* укр. *манна* 'тс', рус. *манник* 'тс'. Да *мáнна* (гл.). Матывацыя: гэта расліна для славян была вельмі важнай — у перыяд нястачы яны збіралі яе насенне і ўжывалі ў ежу (Махэк, Jména, 280).

**Майнá**$_1$ 'трызненне', *майнáчыць* 'трызніць', 'гаварыць абы-што, выдумляць' (гродз., паст., Сл. ПЗБ), стаўбц. *майнáчыць* 'гаварыць абы-што, без толку' (З нар. сл., Жыв. сл.), 'адмаўляцца ад абяцання, ашукваць' (Сл. ПЗБ), 'хлусіць' (гродз., Сцяшк. Сл.). Беларускае. Дзеяслоў з'яўляецца паўкалькай *(майна-чыць,* як *дзіва-чыць),* першая частка якой — балтызм, параўн. літ. *mainaĩ* 'абмен, мена', лат. *maiņa* 'тс', 'перамена', 'змена', 'змяненне'. Ад літ. *mainýti* выводзяць: Грынавяцкене і інш. (Liet. term., 177, 182) і Лаўчутэ (Сл. балт., 69).

**Майна́**$_2$ 'водарасці (у вадзе або высахлыя)' (жытк., Нар. словатв.) Няясна. Магчыма, да *ма́йна*$_3$ (гл.).

**Майна́чыць** 'мяняць' (воран., ашм.), *змайна́чыць* 'схлусіць'— балтызм; параўн. літ. *mainýti* 'мяняць' (Грынавяцкене, LKK, 16, 177 і 182).

**Ма́йнік** 'майнік, Majanthemum bifolium Wiggers' (ТСБМ, Кіс.). Запазычанне з рус. *майник* 'тс'. Названа паводле таго, што цвіце ў маі. Аналагічна польск. *majownik, majówka* 'тс'.

**Ма́йнуць** 'кінуцца' (Ян.). Да *май*$_3$ (гл.).

**Майня́** 'сярэдняя частка невада ў выглядзе мяшка' (Яшкін, З жыцця) — у выніку распадабнення зычных *-тн-*>*-йн-*. Да *матня́* (гл.). Укр. палт., рус. *матня́* 'тс' (<*мата́цца).* (Фасмер, 2, 582).

**Майран** 'маяран сталовы, Majorana hortensis Moench.' (брэсц., Кіс.) складае адзіны арэал з укр. *майран* 'тс', 'Origanum majorana' (колішняя лац. назва). Асобна в.-луж. *majron* 'тс'. У іншых слав. мовах поўная форма: рус. *майора́н, майера́н,* польск. *majeranek,* чэш., славац. *majorán(a)*, славен., серб.-харв. *majoran.* Усе — з новав.-ням. *Majoran*<ст.-в.-ням. *maiolan* (XV ст.)<с.-лац. *maiorana*<*magorana, margerona* і *amaracus*<грэч. ἀμάρακος (Махэк$_2$, 348; Фасмер, 2, 560; Васэрцыэр, 145). Гл. таксама літаратурную бел. назву *маяран.*

**Ма́йстар,** *ма́йсцер, ма́йсцяр, ма́йстра, майсцёр* 'спецыяліст у якім-небудзь рамястве, галіне вытворчасці', 'мастак, які дасягнуў высокага майстэрства ў сваёй справе', 'зух' (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС, Нас.), шчуч. 'бацька маладога на вяселлі' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *майстеръ, майстръ, мастеръ* 'майстар, начальнік' (XVI ст.); ст.-рус. *мастеръ* 'магістар ордэна' (XIII ст.), 'майстар' (XVI ст.). Запазычана праз польск. *majster* з с.-в.-ням. *majster*<ст.-в.-ням. *meistar*<лац. *magister*<*magis* 'большы' (Булыка, Запазыч., 195). У бел. *майсьцер* 'майстар' (Нас., Шат., Бяльк.) і *майстырь* (Бяльк.) другая частка слова аформлена пад уплывам рус. мовы. Формы *майстра, майстря* 'тс'(Гарэц., Бяльк., Сл. ПЗБ) — арыгінальныя беларускія (як *це́сля).* Сюды ж *майстрова* 'маці маладога на вяселлі ' (Сцяшк. Сл.), *майстрыха, майсьцерыха, майстровая* 'жонка майстра', *майстроўка* 'дачка майстра', *майстравы* 'рабочы, рамеснік' (ТСБМ, Нас.), *майстэрскі, майстэрства* (ТСБМ). Гл. яшчэ *майстраваць.* Махэк$_2$ (365) мяркуе, што чэш., польск. і в.-луж. *(mistr, mistř, mistra; mistrz; mištr)* формы паходзяць з лац. *magister,* славац. *majster*, з ням. *Meister*, у іншых слав.— з грэч. μάγιστρος, μαίστωρ або з італ. *ma(e)stro.* Фасмер (2, 578) дапускае ў рус. мове польскае пасрэдніцтва або *(магистръ)* праз с.-грэч. μάγιστρος.

**Майстрава́ць** 'рабіць, выраблядь што-небудзь ручным спосабам' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп.), *майстрыва́ць,*



*майстріва́ць* 'тс' (Бяльк., Растарг.) прыйшлі ў бел. мову праз польскую, а формы *майстры́ць, майстрі́ць* 'тс' (жлоб., Мат. Гом., Бяльк., Растарг.) аформіліся пры ўздзеянні рус. мовы. Сюды ж *майстрава́цца* 'прыстройвацца, прыладжвацца' (ТСБМ). Полац. рэгіяналізм *майстрэчыць* 'майстраваць' (Нар. лекс.) мае экспрэсіўнае адценне і ўтворана ад $^+$*майстрэка* (як *няўме́ка).*

**Майстра́т** 'магістрат' *майстратовы* 'магістратны' (Нас.), суч. бел. *магістра́т* 'гарадское ўпраўленне ў некаторых зах.-еўрап. краінах', 'будынак, дзе яно размяшчаецца'; 'выбарнае ўпраўленне ў гарадах Расіі, якое ведала судовымі і падатковымі справамі'. Ст.-бел. *маистратъ, маистратусъ, магистратъ* 'улада, магістрат' запазычана са ст.-польск. *magistrat*, якое з лац. *magistratus* (Булыка, Запазыч., 194).

**Майстроўня** 'майстэрня, атэлье' (Гарэц., Др.-Падб.), укр. канеўск. *майстро́вня* 'тс'. Утворана ад дзеяслова *майстраваць* і суф. *-оўня (⟨-ov-ьn'a),* відаць, па тыпу польск. *pracownia.*

**Майсты́р** 'манастыр' (Булг.) — выпадзенне складу ад фанетычнай нязвыкласці слова для пінчука. Да *манасты́р* (гл.).

**Майстэрак** 'кельня' (гродз., Сцяшк. Сл.). З рус. *мастерок* 'тс'.

**Майстэрня** 'прадпрыемства па рамонту або вырабу чаго-небудзь', 'аддзел цэха ці завода', 'памяшканне для работы мастака, скульптара' (ТСБМ, Бяльк.) — адыменнае Nomen loci (суф. *-ьn'a),* як і ўкр. *майсте́рня* 'тс'. Да *ма́йстар* (гл).

**Ма́йткі,** *ма́йткы, ма́йтке* 'нагавіцы' (Грыг., Федар. 6, Жд. 1, Нік. Оч.; віц., Шн. 3, Касп., шчуч., З нар. сл.; астрав., гродз., слуц., ДАБМ, к. 326), 'споднія штаны, пераважна з трыкатажу' (Сцяц.; навагр. З нар. сл.), 'верхнія мужчынскія штаны' (гродз., Сл. ПЗБ), 'жаночыя трусы' (драг., КЭС, З нар. сл.). Запазычана з польск. *majtki* 'панталоны, трыко', 'трусы', 'штонікі'<*majtek* 'матрос'<гал. *maat, maatje* (Брукнер, 318). Гл. таксама *ма́еткі.*

**Мак** 'мак, Papaver L.' (ТСБМ, Кіс., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), мін., брэсц., маг. *мак-цякун* 'мак-самасей', 'снатворны мак' (Кіс.), тураў. *глухі мак* 'тс' (ТС), *макава расінка* 'зусім мала' (Шат.), *макам* 'рассыпаючыся дагаджаць', 'беззваротна знікаць' (Нас.), *макам сядзець* 'павольна расці' (калінк., З нар. сл.). Укр., рус. *мак;* польск., н.- і в.-луж. *mak*; чэш. славац. *mak*, славен. *màk*, серб.-харв. *mȁk,* макед., балг. *мак* 'тс'. Прасл. *makъ* звязана з грэч. μήκων, дарыйск. μάκων 'мак', ст.-в.-ням. *maho*>новав.-ням. *Mohn*, с.-в.-ням. *mān*, ст.-сакс. *mâgo*, ст.-швед. *val-moghi*, швед. *vallmo* (у якіх герм. *ϖ*alha-* 'аглушэнне, непрытомнасць'), ірл. *meacon* 'мак' (Бернекер, 2, 9; Цупіца, Gutturale, 135; Траўтман, 166). Слова праеўрапейскае (або старажытнае азіяцка-міжземнаморскае) — гл. Махэк$_2$, 349;

Эльквіст, 1305; Фасмер, 2, 560; Сабаляўскас, КСИС, 28, 1960, 70; Скок, 2, 359; БЕР, 3, 618—619). Покарны (698) выводзіць гэту лексему з і.-е *_mak(en)_ 'мак'. Сюды ж _мáкавы, мáкавый_ (ТСБМ, Бяльк.), _макавíнне, макавíннік, макавінё, макавеня, макавіеня_ 'сцябло з лісцем маку' (гродз., беласт., Сл. ПЗБ; навагр., З нар. сл.; Федар. 6, Мат. Гом., Ян.), 'адрэзаныя вяршкі сцёблаў канапель з насеннем' (Нас.), _мáкавішча, макавíшча, мáковышчэ_ 'града, дзе рос мак' (ТСБМ, слаўг., Яшк.; пін., Нар. лекс.), даць _макайцá_ 'пстрыкнуць' (Ян.).

**Макавéнь** 'вялікая міска з гліны' (дзятл., З нар. сл.). Да _мак_ (гл.). Утворана ад прыметніка _макавы_ і суф. _-ень_ (Сцяцко, Афікс. наз., 152). Першапачаткова лексема азначала 'вялікая міска, у якой церлі мак'.

***Макавéрт,** _маковэ́рт_ 'мяла для расцірання маку, бульбы ці крухмалу' (Бес., палес., З нар. сл.). Палескае. Складанае слова, утворанае ад _мак_ і _верт_<прасл. _vьrt_>_вярцець_ (гл.).

**Мáкавік** 'пірог з макам', нараўл. _макóвік_ (Мат. Гом.; мазыр., Вешт.). Укр. _маківни́к_ 'ляпёшка з мёду і маку', польск. _makowník_, рус. _маковник_ 'пірог з макам', чэш. _makovník_ 'тс'. Да _мáкавы_<_мак_ (гл.). Для бел. гаворак характэрна вельмі прадуктыўнае ўтварэнне назваў яды і пітва (ад прыметніка) з суф. _-ік_ (Сцяцко, Афікс. наз., 105).

***Мáкавіца,** пін. _мáковыца,_ тураў. _маковіца_ 'макаўка' (Нар. лекс., ТС), укр. _мáковиця,_ паводле Брукнера (318), запазычана з польск. _makowica._ Няма падстаў. Параўн. і шырока прадстаўленае ў гаворках рус. _маковица._

**Мáкавіна,** _макавíна_ 'галоўка маку', 'адно зярнятка маку', 'верхавіна, вершаліна дрэва', 'верхняя частка снапа' (ТСБМ, Др.-Падб., Касп., Мат. Гом., Юрч., Нас.; талач., Шатал.). З суфіксам _-іна_ ўсх.-бел. і серб. _мȁковина_ (у Вука). На астатняй слав. тэрыторыі — з іншымі суфіксамі. Да _мак_ (гл.).

***Маказоб,** _моказóб_ 'вельмі дробныя мошкі' (ТС). Відаць, балтызм. Параўн. літ. _makataĩ_ 'машкара', _žẽbéti_ 'прагна есці губамі'. Утварэнне накшталт $^{+}$_мошкаедзь._

**Макáла** 'прыправа (звыч. смятана з адтопленым малаком), у якую макаюць бліны, пірагі' (полац., Нар. сл., паўн.-усх. КЭС), 'верашчака' (полац., Янк. 2) — рэгулярнае аддзеяслоўнае ўтварэнне пры дапамозе суф. _-а-л-а_ (<_a-dlo_). Да _макáць_ (гл.).

**Маканíна** 'вадкая (скаромная або нішчымная страва' (віц., Шн. 3), 'страва, якую макаюць блінамі' (Касп.) — рэгіянальнае аддзеепрыметнікавае ўтварэнне з суф. _-ін-а_ (Сцяцко, Афікс. наз., 108). Да _макáць_ (гл.).

**Макáнне** 'гарачыя жытнія пампушкі, аблітыя тварагом са смятанай, ці малаком' (Растарг.). Да _макáць_ (гл.). Слова прымыкае да ўсх.-бел. арэалу. Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 55—56).



**Макáннік,** _маканнíчак_ 'хлеб, намочаны ў вадкай страве' (Нас.). Да _макаць_>_макáны_ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 55).

**Макáрам** у выразе _такíм макарам, любым макарам_ і г. д. 'спосабам' (ТСБМ). Запазычана з рус. _таким макаром_ 'такім чынам, спосабам'. Далей няясна.

**Макарон,** _мыкарон_ 'локшына' (Гарэц., Шн. 3, Касп., Нас., Вешт.; полац., Нар. сл.; Бяльк.), 'мітусня' (Нас.), _макарона_ 'харчовы прадукт з прэснага цеста ў выглядзе тонкіх трубачак', 'страва з макароны' (ТСБМ), _макароны_ 'тс' (Мат. Гом.). Гэта еўрапейскае слова запазычана яшчэ ў сярэдневякоўі, відавочна, праз польск. мову з італ. _maccaroni,_ якое да грэч. _μακαρία_ 'ежа з ячменнай мукі ці круп' (Меер-Любке, 427; Фасмер, 2, 561; Махэк$_2$, 349; Брукнер, 319; Кохман, 84). Бел. _макарона_ стала ж. р. пад уплывам _локша, локшына._

**Макаросіць** 'блытаць, прыводзіць у бязладдзе, непарадак', 'крышыць, ламаць на дробныя кавалачкі' (Нас.). Няясна. Магчыма, да _макарон_ (гл.).

**Макáтка** 'вышыўка або малюнак, якія вышываюцца на палатне і вывешваюцца на сцяну ў якасці аздобы' (Сцяшк., Клім., Шатал.; З нар. сл.; Нар. лекс., Жыв. сл., Сл. ПЗБ), свісл. 'вышытая дарожка на стале' (Шатал.). Запазычана з польск. мовы, дзе _makata, makatka_ 'вышыты дыванік, дарожка', 'штора з дарагой тканіны, парча, посцілка'<тур. (араб.) _makad_ 'дыванік, кілім' (Брукнер, 319).

**Макатоўша** _(груб.)_ 'галава' (петрык. Мат. Гом.), маз. _макотóўша_ (З нар. сл.) — пераноснае з _макацёр(т)_ (гл.) 'вялікая пасудзіна, у якой церлі (таўклі) мак'. Да _мак_ (гл.) і _таўчы́_ (гл.).

**Макатрá** 'макацёр' (слуц. Шн. 2; гом., Мат. Гом.), укр. _макíтра,_ польск. _makotra, makutra,_ рус. _макитра,_ кур. _макотра, макотря._ Як і _макацёр_ (гл.), цяпер гэта характэрныя бел.-укр. словаскладанні (да іх арэалу прымыкаюць пагранічныя рус. і польск. лексемы), аднак яны маюць прыкметы старажытных (яшчэ праславянскіх) утварэнняў: _makotьra, makotьrtь, makoterъ_ (Трубачоў, Ремесл. терм., 259—260). Да _мак_ і _церці_ (гл.).

**Макатры́га** 'галава' (Бяльк.) — рэгіяналізм, утвораны ад _макатрá_ (гл.) і экспрэсіўнага суф. _-ыг-а._

**Макаты́ра** 'галава' (клец., Нар. лекс.). Да _макатрá_ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 127).

**Мáкаўе**$_1$ 'макаўкі, верхавіны дрэў' (Бяльк.), 'ссечаныя вершаліны дрэў' (Нас.) — Балтызм. Параўн. літ. _makaũlė_ 'макушка', 'мазгаўня'.

**Ма́каўе₂,** *макавей* 'свята братоў Макавеяў у дзень 14 жніўня' (Др.-Падб., Растарг., Сл. ПЗБ), *макáўе* 'тс' (Гарэц., Нас.). Ад назвы іудзейскага жрэчаскага роду *Макавéй*.

**Ма́каўка₁,** *мáкыўка* 'плод маку, галоўка', 'верхняя частка чаго-небудзь (галавы, купала царквы, гары' (ТСБМ, Грыг., Нас., Шат., Яшк., Мат. Гом., Ян., Сл. ПЗБ), 'рэпіца ў каровы' (пух., З нар. сл.), гарадоц. *макавіца* 'тс' (Сл. ПЗБ). У выніку намінацыі з *макавая галоўка.* Да *мак* (гл.).

**Ма́каўка₂,** *макоўка* 'гарлачык белы, Nymphaea alba L.' (гом., Кіс., Ян.) утварылася ў выніку семантычнага пераносу паводле падабенства з *макаўка₁* (гл.); параўн. укр. *мáківка* 'кветка маку'.

**Макаўнік₂** 'пірог з макам' (Мат. Гом.), макоўнік 'тс' (Ян.). укр. *маківни́к* 'праснак з мёду і маку'. Рус. *мáковник,* польск. *makownik,* чэш. *makovník* 'тс'. Да *мак, макавы* (гл.).

**Макаўніца₁** 'галоўка маку', 'макацёр' (Мат. Гом.). Утворана ад прыметніка *макавы.* (Аб суфіксе *-ьn-ica* гл. Слаўскі, SP, 1, 98) або ад *makovn'a* 'тс', параўн. стол. *макаўня́* 'галава' (Сл. Брэс.).

**Мака́целіца** 'чарнільніца' (Касп.) з $^{+}$*макáцельніца*<$^{+}$*макáцельны*<рус. *макáть (перо в чернила).* Да *макáць* (гл.).

**Макацёр,** *макоцер, макацёр, макацёрт, макоцёр, мыкацёр, макацёрчык* 'гліняная пасудзіна, у якой звычайна труць мак, ільняное і канаплянае семя, збіраюць смятану, пякуць бабку' (ТСБМ, Грыг., Юрч., Мал., Мядзв., Жд. 1, Нас., Касп., Бяльк., Растарг., нараўл., Арх. ГV, Бір. Дзярж.; Нар. сл.; З нар. сл., Сл. ПЗБ, Ян., ТС). Укр. *макотерть* 'тс'. Прасл. *makotьrtь, makoterъ* (Трубачоў, Ремесл. терм., 259—260). Гл. яшчэ *макатрá.* Мядзведскі памылкова ад *мука* і *тереть.* Да *мак* (гл.). Сюды ж *макацёр* 'нязграбная прычоска, якая робіць галаву падобнай на макацёр' (Жд. 1, Некр.), укр. *макотíря* 'нізка падстрыжаная галава', а таксама ветк., карм. *макацёрчык* 'гаршчок з вушкамі' (Мат. Гом.), рэч. *макацёрачкі* 'спарыш' (Мат. Гом.).

**Мака́ць,** *мыкáць, мокаць* 'мачаць' (Нас., Бяльк., полац., Нар. сл.), *мóкнуты* 'намочаны' (Нас.). Ітэратыўны дзеяслоў ад *мокнуць* (гл.)

***Мака́чка,** *мыкáчка* 'перамешаная тлустасць са смятанай для макання (бліноў)' (расон., Шатал.) — рэгіянальнае ўтварэнне з суф. *-к-а* ад *макáць* (гл.).

**Маква́** 'дождж' (ельск., Мат. Гом.), укр. *моквá* 'слота, мокрае надвор'е', 'нізкае, заліваемае вадой месца', рус. дан. *моквá* 'сырасць', польск. *mokwa* 'дождж', славац. *mokva* 'вадкасць', *moskva* 'мокрае збожжа', *mokvat'* 'мокнуць', 'сачыцца (аб ране)', 'пацець (аб вокнах)', *tokvavý* 'сыры'; чэш. *mokvavý* 'які мокне', *mokvati* 'цячы (аб гнойнай ране)', 'раставаць (аб лёдзе, снезе)', славен. *močvírje* 'балота, дрыгва, балацявіна', *močvírnat* 'балоцісты, багністы', серб.-харв. *мо̏чвар* 'сырасць, макрата ад дажджу', 'дажджлівае надвор'е', *мо̀чвара* 'лужа, стаячая вада, балота', макед., балг. *мочур* 'балота, дрыгва', 'багністая мясцовасць'. Прасл. *moky, mokъve* (Фасмер, 2, 639). Менш верагодна Махэк₂ (372). Ён у канчатку слова бачыць *-var,* якое рэдукавалася ў *-va* паводле слоў на *-a* (напр., *mokrota*).



**Макéй** 'пабудова са сценамі для гаспадарчых прылад' (кобр., ДАБМ, к. 238). Няясна.

**Макéт** 'узор, паменшаная схема, мадэль' (ТСБМ) — праз рус. мову запазычана з фр. *maquette*<італ. *macchietta* 'пляма, дробная фігурка ў выглядзе плямы'<італ. *macchia* 'пляма' (Голуб-Ліер, 299).

**Макінтош** 'лёгкае летняе паліто' (ТС). Запазычана з франц. або англ. мовы ў XIX ст. праз рус. або польск. мову. Англ. *mackintosh* 'непрамакальная тканіна'<ад прозвішча шатландскага тэхнолага Ч. Макінтоша, які вынайшаў такую тканіну, прагумліваючы яе (Цыганенка, 253; Фасмер, 2, 561).

**Макíтра** 'макацёр' (ТСБМ, Гарэц, Др.-Падб., Бяльк., чачэр., Мат. Гом.), *макотра* (Мал., Мат. Гом., Ян.), 'вялікі макацёр' (Вяр.— Крыв.), палес. *макéтра, макотра, макітра, макутра, макэтра, макытра* 'макацёр для захоўвання смятаны, масла, для збівання масла, складвання аладак, галушак' (Дразд., З нар. сл.), *макітрык, макотрык* 'тс' (Мат. Гом.). Да *макатра, макацёр* (гл.).

**Маклак** 'надта поўнае дзіця' (докш., Янк. Мат.), 'неахайны' (Касп.), *макляк* 'нязграбны чалавек' (рэч., Мат. Гом.). Роднаснае з *вахлáк* (гл.).

**Ма́клер** 'пасрэднік пры заключэнні гандлёвых і біржавых здзелак' (ТСМБ). Запазычана праз польск. ці рус. мову з ням. (нoваб.-ням.) *Makler* 'тс' або з гал. *makelaar* 'спекулянт' (Праабражэнскі, 1, 503; Бернекер, 2, 9; Фасмер, 2, 561).

**Маклі** (мн.) 'качалка для прасавання бялізны' (віц., Шн.). Да *мáгель* (гл.).

**Макліна́** 'нізкае месца, дзе вымакаюць пасевы' (шчуч., Сл. ПЗБ). Літуанізм, параўн. *taklýnas* 'гразкае месца' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 14). Параўн. таксама *taklȳnė* 'слота, гразь'.

***Маклíцы,** *моклíцы (мн.)* 'хвароба авец' (Клім.). Параўн. бел. *макрэц,* укр. *мокрець,* рус. *мокрец,* польск. *mokrzyca.* Да *мокнуць* (гл.). Утворана ад дзеепрыметніка *моклы* (<*moklъjь*<*moknǫti*).

**Маклыжжа** 'мокрае адзенне' (докш., Сл. ПЗБ), віл. *макля́дзё* (там жа). Роднаснае да *(на)-моклы*<*мокнуць* (гл.). Аб суфіксе *-ыж* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 182).

**Макля́к,** *маклáк, мачляк, махля́к, мъкляк* 'намоклае пад дажджом адзенне', 'чалавек у мокрым адзенні'(навагр., Нар. сл.), навагр. 'дажджавы чарвяк', маз., бялын. 'затануўшае дрэва', віл., лід. 'намоклае палена ў рэчцы' (Сл. ПЗБ), драг. *муклек, мн. мукля́кэ* 'махавік зялёны, Xerocomus subtomentosus' (Жыв. сл., Нар. сл.). Укр. *мокля́к* 'усё мокрае', падольск, 'пусты арэх (які бывае ад таго, што на Яна Купалу ідзе дождж)', зах.-укр. 'багністае месца'. Бел.-укр. ізалексы. Да *мокры* (гл.). Балтызм. Параўн. *taklĕkas* 'вымаклае палена' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 15).

**Макоўнік** *(зб.)* 'макавыя сцёблы з лісцем' (ТС, Касп., гом., Мат. Гом.) — параўн. ДАБМ, к. 278—280. Да *мак* (гл.). Гл. таксама *макаўнік.*

**Макош** 'макацёр, у якім умяшчалася 1—2 кг збожжа', *макошык* — аб'ёмам ад 1 кг да 1 фунта (Вяр.-Крыв.). Да *мак* (гл.). Аб суфіксе гл. Слаўскі, SP, 1, 78.

**Макрáдзь** 'дажджлівае надвор'е' (Інстр. I, асіп., КЭС, чачэр., Мат. Гом.), ветк. *макрадзё* 'макрата' (Мат. Гом.); слаўг. *макрáдзе, макрáдзь,* дубр. *мыкря́дзь* 'балота, амшара, мокрае месца ля вытокаў рэчкі' (Нар. словатв.), гродз., маг. *мокрадзь* 'мокрае месца, балота' (Гарб.), рус. *мóкредь, мóкреть, мóкрядь* 'мокрае надвор'е', 'макрата', славац. *mokrad'* 'невялікае балота', 'сырасць, макрата', 'нягода'. Прасл. *mokr'adь (mokradь)/mokrědь* утворана ад прыметніка *mokrъ* 'мокры' і суф. *-jadь.* Слаўскі (SP, 1, 64). Да *мокры* (гл.).

***Макрадэча,** стол. *мокрадэ́ча,* кобр., драг. *мокротэ́ча* 'мокрае (знізу) надвор'е, макрата' (Нар. лекс.). Звонкае *-д-* (замест *-т-)* абумоўлена ўплывам *макрадзь* (гл.). Утварэнне (ад *макрата)* пры дапамозе суф. *-эча*<*-otja* характэрна для бел.-укр.-серб.-харв.-славен. арэалу (Трубачоў, Проспект, 60).

**Макрáнка**$_1$, *мыкря́нка* 'макрыца, Oniscus muvavius Cuv.' (Бяльк.). Да *макрэць.* Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 28).

**Макрáнка**$_2$ 'паўнаводная рэчка' (бых., Яшк.) — утварэнне з суф. *-анка.* Матывацыя няясная.

**Макрасту́пы** *(уст.),* 'галёшы' (б.-каш., Мат. Гом.; лях., Сл. Брэс.). З рус. *мокросту́пы* 'абутак для хадзьбы па мокраму лесу', 'лапці', 'галёшы'.

**Макратá** 'вада, вільгаць', 'мокрае, дажджлівае надвор'е' (ТСБМ, ТС, Інстр. I), жытк. *макрота* 'мокрае, гразкае, балоцістае месца' (Мат. Гом.), укр. *мокрóта* 'аб дажджы, мокрым снезе, мокрае надвор'е', рус. *мокротá* 'макрата', н.-луж. *mokšota,* в.-луж. *mokrota* 'макрата', 'макрадзь', чэш., славац. *mokrota,* славен. *mokrôta* 'вільгаць, сырасць, макрота', серб.-харв. *мокрòта,* макед., балг. *мокрота* 'тс'. Прасл. *mokrota* — субстантывізаваны прыметнік з суф. *-ta* (з вакальным *-o-),* які кантынууе і.-е. *-tā* (Слаўскі, SP, 1, 42). Да *мокры* (гл.).



**Макрота** 'слізістыя і гнойныя выдзяленні з лёгкіх або дыхальных шляхоў' (ТСБМ). Запазычана з рус. *мокрóта* 'тс' (з рус. навуковай тэрміналогіі).

**Макроцце,** *макрацце́, мыкрацце́* 'макрата' *(зб.),* 'пра штонебудзь мокрае, набраклае вадой' (ТСБМ; слаўг., Яшк., бялын. Нар. сл.), утворана ад *макрат-а* і суф. зборнасці і абстрактнасці *-bje.* Да *мокры* (гл.).

**Макроць** 'макрата' (расон., Шатал.) — адпрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-оць* (<*-ota* пад уплывам *макрадзь* з суф. *-jadь).* Да *мокры* (гл.).

**Макру́ха**$_1$ 'буйміна горкая, Cardamine amara L.' (маг., Кіс., Інстр. II). Да *мокры* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-уха,* які ў дадзенай функцыі пашыраны ў паўн.-усх. беларускіх і зах.-рус. гаворках (Слаўскі, SP, 1, 75). Названа паводле таго, што на сцёблах выступае пеннае рэчыва, якое выдзяляе лічынка насякомага Philaenus spumarius (Махэк, Jména, 67).

**Макру́ха**$_2$ 'зоркаўка белая, Stellaria media (L.) Vill.' (віц., Кіс., Нас., Бяльк.), *макры́ца, макрíца* 'тс' (гом., гродз., мін., Кіс.; Шат., Гарэц., Дэмб. 1, Рам. 8, маладз., Янк. Мат.; Жыв. сл.), *макрычнік* 'тс' (барыс., Уладз.), 'лісце, націна зоркаўкі' (Касп.), лун. *мокрэз* 'зоркаўка' (Шатал.), *макрэц белы, мокрэц* 'тс' (брэсц., Кіс., Янк. 2, Мат. Гом., хойн., Шатал., лельч., Нар. лекс., Жыв. сл.). Утвораны ад *мокры* (гл.), а *мыкрычнік*— ад *макры́ца.* Названа паводле таго, што расліна расце ў вадзе (Махэк, Jména, 75).

**Макру́ха**$_3$ 'радоўка фіялетавая, Lepista nuda' (уздз., Нар. словатв.). Да *мокры* (гл.). Суф. *-уха* (<*-иха)* надае аўгментатыўнае адценне. Матывацыя: у перыяд дажджоў грыбы становяцца мокрымі і цвітуць.

**Макру́хі** 'грыбы, падобныя да рыжыкаў, толькі больш цёмныя' (Інстр. II; калінк., Мат. Гом.; уздз., Нар. словатв.). Утварэнне, аналагічнае да папярэдняй лексемы. У іншых гаворках іх называюць *мачонкі* (Інстр. II, 103).

**Макры́ззе** 'мокрае адзенне, рэчыва' (Ян.). Да *макроцце* (гл.). Не выключана ад'ідэацыя лексемы *рыззё.*

**Макры́ца**$_1$ 'невялікая, ракападобная жывёліна, якая жыве ў сырых месцах, Oniscus muvavivius Cuv.' (Касп., Сержп. Грам.; ветк., жлоб., Мат. Гом.), *макру́ш* 'тс' (гарад., Нар. лекс.), *макру́ха* 'тс' (Нас., Бяльк.), луж. *мокрэц* 'тс' (Шатал.). Да *мокры* (гл.). Аб суфіксе *-іца* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 111.

**Макры́ца**$_2$ *чырвоная* 'вочны цвет палявы, Anagallis arvensis L.' (гродз., Кіс.). Укр. *мокрець* 'тс'. Да *мокры* (гл.). Матывацыя: расліна любіць мокрыя лужкі, даліны.

**Макрыя́ць,** *макрая́дзь* 'слата, непагадзь, макрэча' (Др.-Падб., мядз., Нар. словатв., Крыў. Дзіс.)<*макрыя́дзь;* краснап.

*макраёдзе* 'тс' (Лемц. дыс.). Аформлена паводле *макрáдзь* (гл.), аднак застаецца няясным *-ы-*. Да *мокры* (гл.).

**Макрэдзь** 'макрата' (ТС) утворана ад *мокры* (гл.) і суф. *-эдзь*<прасл. *-ědь* (Слаўскі, SP, 1, 64).

**Макрэль** 'скумбрыя да 50 см даўжынёй, Scomber scombrus' (ТСБМ). Запазычана з рус. *макрель* 'тс'<гал. *makreel*<с.-лац. *macarellus* (Фальк-Торп, 690; Фасмер, 2, 562).

***Макрэні,** *мокрэ́ні* 'дзень перад Іллёй' (ТС), *макрэнь* 'працяглае дажджлівае надвор'е (Растарг.). Утворана ад назвы рэлігійнага свята св. Макрыны (1 жніўня). Паводле народнай прыкметы: калі ў гэты дзень ішоў дождж, дык рэшта лета будзе мокрай.

**Макрэц**$_1$ 'мокры лішай на нагах у коней і буйной рагатай жывёлы' (ТСБМ, ТС, Янк. 2, Мат. Гом.). Да *мокры* (гл.). Параўн. таксама *маклíцы* (гл.). Аб суф. *-эц* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 100—102). Сюды ж *макрыца* 'тс' (Крыў., Са сл. Дзіс.).

**Макрэц**$_2$, *мокрэц* 'гладун, Herniaria glabra L.' (пін., петрык., стол., Бейл.), 'макрыца Stellaria media' (ТС). Да *мокры* (гл.). Матывацыя: расліна расце на нізкіх мокрых месцах.

**Макрэць** 'станавіцца мокрым, вільготным' (ТСБМ, Нас.). Адпрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-ěti*. Да *мокры* (гл.).

**Макрэча** 'макрата' (ТСБМ). Відавочна, старое (?) утварэнне ад *mokrъ* і *-etja*<*-otja*<*-ota*. Падрабязней гл. Трубачоў, Проспект, 59—61.

**Мáксімум** 'найбольшая велічыня, колькасць чаго-небудзь', 'самае большае', 'максімальны' (ТСБМ) — еўрапейскае інтэрнацыянальнае слова, якое ўзыходзіць да лац. *maximum* 'найбольшае'<*mag(i)s-im-*, звязана з грэч. μέγας 'вялікі', ст.-інд. *mahánt*, авест. *mazant-* 'вялікі, магутны'.

**Макулатýра** 'невыразна надрукаваныя, запэцканыя лісты', 'непрыгодная папера, кнігі, прызначаныя для перапрацоўкі', 'бяздарныя літаратурныя творы' (ТСБМ). Запазычана праз польск. ці рус. мову з ням. *Makulatur* 'запэцканая папера, адыходы'<лац. *macula* 'пляма' праз с.-лац. *macularium* 'чарнавік' (Лёхін, 419; Голуб-Ліер, 299).

**Макýлінка** 'макавінка', 'крупінка, дробязь, драбніца' (ТС, Нар. Гом.). Да *мак* (гл.). Адыменнае ўтварэнне з памяншальным суф. *-ул-ін-к-а*, які з *-ul'a* (Слаўскі, SP, 1, 110). Пар. таксама *магýлінка*.

**Макулёндачка** 'шэрая чырванагрудая птушачка' (докш., Янк. Мат.). Няясна.

**Макýра** *(экспр.)* 'вялы, нехлямяжны чалавек' (Нас., 288) Няясна. Відаць, роднаснае да ўкр. *маĭрó* 'вол з адным ядром'.

**Макýх** 'макуха' (Бес.; Сл. Брэс.) пад уплывам польск. мовы мае м. р. (польск. *makuch* 'тс'). Тое ж укр. гуц. *макух*.



**Макýха**$_1$ 'рэшткі семя (ільнянога, сланечнікавага і пад.) пасля выціскання з яго алею' (ТСБМ, Інстр. I, III, Гарэц., Мат.; гродз., Мат. АС; усх.-гом., КЭС, Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ). Укр. *макýха*, польск. *makuch, makuchy*, рус. *макýха* 'макуха макавага, гарчычнага, канаплянага і інш. насення'. Паводле формы магло б быць нават прасл. утварэннем ад *мак* і суф. *-уха (<-иха)*, які, аднак, надаваў экспрэсіўнае адценне. Калі ўлічыць польск. *kuch, kuchy olejne*, якія з ням. *Kuchen* (Брукнер, 279), а гэта даволі старажытнае слова, роднаснае з англ. *cake*, швед. *kaka* 'пячэнне, торт', ст.-в.-ням. *kuocho*, тады можна гаварыць аб славянскім запазычанні з ням. *Mohnkuchen*, параўн. таксама швейц. *Mägikuchen* 'макавая макуха' (Трубачоў, Дополн.; Фасмер, 2, 562).

**Макýха**$_2$, *макýшка* 'вяршыня, верхавіна дрэва, гары', 'верхняя частка галавы, макаўка', 'галоўка маку', 'бязрогая карова' (Нас., Др.-Падб., ТСБМ, Гарэц., Шат., Бяльк., ТС, Растарг., Сл. ПЗБ; дзв., Нар. сл.), *макýшка* 'вяршыня', *мокýшка* 'ніжняя частка цыбулі' (ельск., Мат. Гом.), 'кончык пальца на руцэ' (расон., Шатал.), *макýшка* 'верхавіна дрэва' (ТСБМ, ТС). Рус. *макýшка, макýха* 'тс', укр. *макíвка* 'галоўка маку'. Усх.-слав. утварэнне ад *мак* (гл.) з суфіксам *-иха*, якое мела пяратыўнае значэнне. Першапачаткова *макуха* абазначала 'галоўка маку' (параўн. рус. алтайск. *макýшка* 'тс', валаг. *мáкушка* 'мак'. Бел. *макуша* магло ўтварыцца самастойна (а не як кантамінацыя *макуха* і *макушка)* і, магчыма, вельмі даўно (ад'іменныя ўтварэнні гл. Слаўскі, SP, 1, 75).

**Мáкша** 'п'яніца' (Сцяшк.). Балтызм. Параўн. літ. *màktas, maĩkas* 'глыток', *maĩkti* 'піць' (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1972, 1, 84; Лаўчутэ, Балтызмы, 120).

**Мáкшта** 'мачта' (Нас., Яруш.), *макштовы лес* 'мачтавы лес' (Нас.). Ст.-бел. *машть* (XVII ст.) 'мачта' запазычана са ст.-польск. *maszt(a)* 'тс' (Булыка, Запазыч., 199), якое з ням. *Mast* 'тс','слуп'<лац. *mālus* 'мачтавае дрэва' (Брукнер, 324; Васэрцыер, 148). Устаўное *-к-* з'явілася пад уплывам слова *бакшта* 'вежа, турма'.

**Мал** 'назва вала чорнай поўсці ' (КЭС, лаг.). Відавочна, вельмі старая рэліктавая назва — параўн. і.-е. адпаведнікі лексемы *малы́* (гл.). Не звязана з балг. *мал* 'скаціна', 'маёмасць', 'багацце', 'частка спадчыны', серб.-харв. *мâл*, алб. *mall*, арум. *mal* 'маёмасць', якія з араб. *mal* 'тс' (БЕР, 3, 624).

**Мáла,** *мáло* 'нямнога, ледзь, амаль, недастаткова' ашм. 'рэдка' (ТСБМ, Сцяшк., Бяльк., Сцяц., ТС, Нар. Гом.). Прыслоўе да *малы́* (гл.). Гл. яшчэ *мáлна*.

**Малавáжанне** 'прымяншэнне, прыніжэнне' (Др.-Падб., Гарэц.). З польск. *małoważenie* 'тс'.

**Ма́лаве́ле,** *малове́ля* 'крыху, трошкі', ігн. 'няцяжка' (Сцяшк., Сл. Брэс., Сцяшк. Сл., Сцяц., Сл. ПЗБ). З польск. *małowiele, małowiela,* якія з *malo-nie wiele* 'трохі, колькі-небудзь'.

***Маладажэня,** *молодожэня* 'хлопец ці дзяўчына перад вяселлем' (ТС). Відавочна, з польск. *młodożeństwo* 'тс', *młodożeniec* 'малады'. На Палессі пашыраны назвы *малады* і *маладая* 'шлюбная пара ў час вяселля'. Параўн., аднак, серб.-харв. *младо̀жења* 'жаніх', 'малады (у час вяселля)'. Магчыма, гэта палескі архаізм.

**Малада́йка** 'маладзіца' (Чуд.). Беларускі рэгіяналізм. Да *мало́ды* (гл.). Параўн. таксама серб.-харв. *мла̀дојка* 'маладая дзяўчына'. Аб суфіксе *-а́йка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 145—146.

**Маладжа́вы,** *моложа́ву* 'які выглядае маладзей сваіх год' (ТСБМ, ТС). Укр. *молодя́вий, моложа́вий,* рус. *моложа́вый,* польск. *młodzawy, młozawy.* Прасл. *mold-jь-avъ.* Да *малады́* (гл.).

**Маладзе́ж,** *маладзя́ж* (м. і ж. р.), *маладзя́ш, маладзёж, мо́лодёж, моладзеш* 'моладзь' (Шат., Яруш., ТС, Жд. 1; КЭС, лаг.; Сцяц., Пан., Сл. ПЗБ; дзярж., КЭС), хойн. *малодзе́жа (зб.)* 'тс' (Мат. Гом., ТС), паўн.-усх. *маладзёж* 'непакладаная скаціна', *маладзяжынка* 'тс' (КЭС). Укр. *моло́діж,* рус. *мо́лодежь, молодёжь, молодёжа,* цвяр. *молодяжь,* польск. *młodzież.* чэш., славац. *mládež,* славен. *mládež,* серб.-харв. *мла́деж,* макед. *младеж* 'тс', балг. *младеж* 'тс', 'малады чалавек'. Прасл. *moldežь* 'маладое', 'маладыя людзі', 'маладыя жывёлы'. Да *малады* (гл.). Бел. форма на *-ёж,* відаць, пад уплывам рус. мовы. З рус. мовы і прыметнік *маладзёжны* 'які складаецца з моладзі', 'прызначаны для моладзі, адносіцца да моладзі' (ТСБМ, Крукоўскі, Уплыў, 63).

**Маладзе́нец$_1$** 'грудное дзіця, немаўля' (Нас., Яшк. Назвы, Інстр. II), 'дзіця' (калінк., Мат. Гом.). З рус. *младенец* 'тс', якое з ц.-слав., ст.-слав. **младеньць** (і **младѣньць**). Такое ж значэнне і ў макед., балг. *младенец.* Дывергентная інавацыя ў прасл. (параўн. прус. *maldenikis* 'дзіця'). Гл. *малады.*

**Маладзе́нец$_2$** 'жаніх, юнак, малады чалавек' (Мядзв., Нас., Касп.; Мікуц., Пан.; расон., в.-дзв., Шатал.), усх. *мыладзе́ніц* (КЭС). Польск. *młodzieniec* 'тс', н.-луж. *młoźeńc,* в.-луж. *młodźenc,* чэш., славац. *mládenec* 'юнак, халасцяк', славен. *mladénčič,* серб.-харв. *мла̀денац* 'тс', 'жаніх', макед. *младенец* 'жаніх', *младинец* 'юнак'. Прасл. *moldenьcь*<прус. *maldenikis* 'дзіця'>*малады́* (гл.).

**Маладзе́нец$_3$,** *маладзе́няц* 'маладзік' (даўг., Сл. ПЗБ). Утворана ў выніку намінацыі з *малады месяц* 'тс' (ваўк., гарад., Сл. ПЗБ) пры ад'ідэацыі *маладзе́нец* 'малады чалавек'.



***Маладзе́нец$_4$,** *мыладзе́ніц* 'прыпадак' (Бяльк.). Рус. пск., смал., разан. *молоденец* 'тс', 'радзімец'. Магчыма, знаходзіцца ў генетычнай сувязі з *маладзе́нец$_3$* (?).

**Маладзе́ны** *(мн.) (уст.)* 'хрэсьбіны' (карм., гом., Мат. Гом.), *маладзёны* 'другі дзень каляд' (паўн.-усх., Шн.), рус. смал. *молодёны* 'абрад на другі дзень каляд: жанчыны з немаўлятамі прыходзяць з падарункамі да павітухі, якая прымала ў іх дзяцей, а яна іх частуе'. Утворана ад $^{+}$*маладзень* 'немаўля'. Параўн. рус. уладз. *молодень* 'тс', а таксама польск. *dzień młodziankόw* 'другі дзень каляд' — у знак памяці аб разні немаўлят, якая была праведзена паводле загаду Ірада 28 студзеня', *młodzian* 'юнак, малады чалавек'.

**Маладзе́ц,** Р. скл. *малайца, мыладзец, молодзец* 'статны, атлетычнага складу малады чалавек', 'малайчына, зух', 'жаніх', *малайца́* 'тс' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Касп., Бяльк., ТС, Федар. 6, Яруш.); *маладзе́цкі* 'здаровы' (брасл., Сл. ПЗБ; ТСБМ). Апошняе, аднак, паводле Крукоўскага (Уплыў, 61) — запазычанне з рус. мовы. Укр. *молодець,* рус. *молодец* 'тс', польск. *młodziec* 'жаніх на вяселлі', 'адростак' ст.-чэш. *mladec,* славен. *mládec* 'юнак', 'слуга', 'жаніх', серб.-харв. *mladac* 'жаніх'. Прасл. *moldьcь* 'юнак'. Да *малады́* (гл.).

**Маладзе́ц$_2$,** *мыладзе́ц, мъладзе́ц* 'парабак, наёмны (на 1 год) работнік' (Грыг., Нік. Оч. 2, Касп.), бешан. 'рабочы на плыце, падначалены ў галоўнага сплаўшчыка' (Нар. сл.). Рус. *молоде́ц* 'прыказчык, работнік' (Зах. Дзвіна), 'рабочы-вясляр на пярэднім канцы плыта'. Бел.-рус. ізалекса. Аналагічна серб.-харв. *мла̏ђи* 'слугі, чэлядзь'. Да *маладзец$_1$* (гл.).

***Маладзе́ць,** *молодзе́ць* 'рабіцца туманным, зацягвацца (пра неба)', *молодзіцца* 'зацягвацца лёгкімі хмарамі, мутнець' (ТС). Укр. *помолоди́тися* 'пакрыцца тонкімі, белымі хмаркамі', *моло́дить ся* 'збірацца на дождж', *мо́лоди, мо́лоді* 'невялікія хмаркі на небе', рус. *моложи́ть, замолодить, замолодеть, моло-де́ть* 'пакрывацца хмарамі, рабіцца хмурным (аб небе)', *замолодь* 'дажджавыя хмары'; польск. *pomłodziny* 'хмары', *młodzi się* 'хмурнее (неба)' — усе да прасл. *mold-.* Назіраецца атаясамліванне паняццяў, звязаных з хмурным, дажджлівым надвор'ем, хмарамі і з працэсамі скісання малака, браджэннем піва, квасу, цеста (рус. *замолаживать* 'пачынаць брадзіць (аб квасе)', 'адчуваць ап'яненне', наўг. *молодо́вина* 'сыраквашa', укр. *молоди́на* 'салодкая смятана', польск. *młodzie* 'дрожджы', н.-луж. *rozmłoźeńe* 'заквашванне', 'квашанае цеста', *rozmłoda* 'закваска' (Гарачава, Этимология-84, 43—44), славац. *mladinka* 'бражка, маладое піва'; славен. *mladíti* 'пакінуць вылежвацца, даспяваць', серб.-харв. *мла́дити те̑сто* 'яшчэ раз перамешваць цеста', якія Бязлай (2, 187) аб'ядноўвае ў прасл. *moldъ* 'дробны, мяккі', роднаснымі да якога з'яўляюцца лац.

*mollis,* ст.-інд. *mṛdúṣ* 'мяккі, дробны', ст.-грэч. *ἀμαλδύνω* 'размякчаю', ст.-ірл. *meldach,* арм. *mełk* 'мяккі'.

**Маладзён,** *маладзёнак* 'малады, малы, малакасос' (Нас.), 'падлетак, малы' (Шат.), 'жаніх у час вяселля' (Касп., Пан.), 'малады хлопец, мужчына' (Нар. Гом.), 'нядаўна народжанае дзіця' (КЭС, лаг.). Рус. *молодёны* 'малады з маладой', *молодён* 'немаўля', 'малады чалавек', польск. *młodzień* 'юнак'. Да прасл. *mold-ěnъ*<*moldъ*>*малады́* (гл.). Сюды ж *маладзёна, маладзёнка* 'маладзіца' 'маладая дзяўчына' (ТС, Нар. Гом.), *маладзёны* 'маладыя у час вяселля' (паўн.-усх., КЭС).

**Маладзёхна** 'маладая' (навагр., КЭС), польск. *młoduchna* 'тс'. Бел.-польск. ізалекса, характэрная наяўнасцю суфікса *-ихпа* (Слаўскі, SP, 1, 75). Да *малады́* (гл.).

**Маладзік**$_1$ 'месяц у першай квадры' (ТСБМ, Грыг., Мядзв., Нас., Шат., Касп., Бяльк., Яруш., Гарэц., Растарг., Сл. ПЗБ, Федар. 1), *молодзі́к* 'тс' (Маш., ТС), *мыладзі́к* (паўн.-усх., КЭС; віц., Шн. 3; Бяльк.), брасл., асіп. *маладзічок* 'тс' (Сл. ПЗБ). Укр. *молодик,* рус. *молоди́к, моло́дик;* польск. *młodzik* з бел. мовы; серб. *млађак.* Усх.-слав. Да *малады́* (гл.).

**Маладзік**$_2$ 'малады хлопец', 'халасцяк', 'малады (на вяселлі)' (Нас., Сцяшк., ТС; брасл., Сл. ПЗБ). Укр. *молодик* 'малады нежанаты чалавек', рус. смал. *молодик,* разан. 'малады чалавек, нежанаты', рус. арханг. 'малады на вяселлі', пск. 'малады лес', разан. 'маладыя авечкі, ягняты', 'маладняк', ст.-рус. *молодикъ* 'малады чалавек', 'маладая птушка (сокал, ястраб)'; польск. *młodzik,* 'малакасос', 'навічок', 'малады глушэц' чэш., славац. *mladík* 'юнак', серб.-харв. *мла̀дик* 'малады лес'. Прасл. *mold-ikъ.* Да *малады́* (гл.).

***Маладзіла,** *молодíло* 'гарлянка, зайцава капуста, скочкі дахавыя, Sempervivum tectorum L.' (жытк. Бейл.), укр. *моло́дило* 'тс'. Да *малады́* (гл.). Назва абумоўлена танізуючымі акасцямі расліны (ЕСУМ, 3, 502).

**Маладзіна́** 'малады лес' (маст., карэліц., Сл. ПЗБ), *молодзіна́* 'вельмі маладая асоба' (ТС), укр. *молоди́на* 'салодкая смятана', н.-луж. *młoźina* 'маладыя людзі', 'майская зелень дрэў', в.-луж. *młodźina* 'моладзь', 'малады лес', 'лесагадавальнік', чэш. *mladina* 'што-небудзь маладое (піва, лес)', славац. *mladina* 'малады лес', 'маладое піва', славен. *mladína* 'моладзь', 'маладыя жывёлы', серб.-харв. *мла̀дӣна* 'маладняк (свойскіх птушак)', макед. *младина* 'маладосць', 'моладзь', *младини* 'маладыя гады', балг. *младина́* 'тс'. Прасл. *moldina* 'малады перыяд у людзей, жывёл, раслін'. Да *моладзь* (гл.).

**Маладзіца,** *молодзíца, молодэ́ца* 'маладая незамужняя жанчына', 'кабета', 'сваццяя — кіраўнік маладой на вяселлі' (ТСБМ, Янк. 1, Бес., Нас., Шат., Касп., Яруш., Бяльк., Мат. Гом., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.), 'жонка' (Мат. Гом.),



*маладзі́чка* 'жанчына ў першы год замужжа' (Сцяшк. Сл.), *мылыíца* 'парабчанка' (Касп.). Укр. *молоди́ця,* рус. *молоди́ца,* польск. дыял. *młodzica,* чэш. *mladice,* славац. *mladica,* славен. *mladíca,* серб.-харв. *мла́дица.* Прасл. *moldica* Да *малады́* (гл.).

***Маладзіцца,** драг. *молоды́тысь* 'паляпшацца (аб надвор'і) пасля дажджу на лепшае' (З нар. сл.), укр. *мо́лоді* 'невялікія хмары на небе' — прыкмета добрага надвор'я. Да *маладзе́ць* (гл.). Семантыка лексемы аформілася пры ад'ідэацыі веравання, звязанага з маладзіком, які становча ўплывае на станаўленне надвор'я, на рост раслін і г. д.

**Маладзя́н** 'кавалер, жаніх' (навагр., Дзмітр.), 'стары кавалер' (Сцяц.). Відавочна, запазычана з польск. *młodzian* 'малады чалавек, юнак', якое ўзыходзіць да прасл. *mold-ěnъ.*

**Маладня́,** *мълъдня́, мыладня́, молання* 'маланка' (паўн.-усх.-бел., Працы, 7; Нас., Бяльк., Юрг., Растарг., Мат. Маг.; круп., Сл. ПЗБ; мсцісл. ДАБМ, к. 311), *маладнёю* 'хутка, нібы маланка' (Нас.). Рус. смал., калуж. *молодня́* 'маланка'. З *малання,* якое да прасл. *toldnьja,* як выводзяць Вяч. Ус. Іванаў і В. Тапароў (Бел. лекс., 59).

**Маладня́к,** *маладня́х, молодняк* 'маладыя жывёлы, птушкі', 'малады лес да прачысткі', 'маладыя пчолы', 'моладзь' (ТСБМ, Шат., Касп., Анох., ТС, Сл. ПЗБ, Яруш.). Укр. *молодня́к,* рус. *молодня́к, молодня́г.* Усх.-славянскае. Да *малады́* (гл.). Аб суфіксе *-няк* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 118—119.

**Маладня́ча** *(зб.),* 'маладняк, маладыя дрэвы' (б.-каш., Мат. Гом.). З укр. мовы. Параўн. *молодня́ча, молодне́ча* 'малады сад, лес'.

**Маладосць,** *моладасць, моладась, мо́лодосць* 'маладыя гады жыцця', 'уласцівасць маладога' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Шат., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *мо́лодість,* рус. *мо́лодость,* польск. *młodość,* н.-і в.-луж. *młodosć,* чэш. *mladost,* славац. *mladosť,* славен. *mladóst,* серб.-харв. *мла̏дост,* макед., балг. *младост.* Цэйтлін (Лексика, 22) дапускае, што ў ст.-слав. мове было слова **младость** са значэннем 'ранняе дзяцінства', параўн. серб.-харв. *мла́дити* 'нараджваць дзіцянят', харв. *mladíti* 'тс', н.-луж. *ga sy ty młody?* 'калі ты нарадзіўся?' На бел. моўнай тэрыторыі гэта лексема мае кніжны характар. У ст.-рус. мове *младость* азначала 'дзяцінства', а значэнне 'маладосць' у рус. мове зафіксавана толькі ў 1704 г. (Палікарпаў).

**Маладошчы** 'каханне' (Доўн.-Зап., Оч.). Запазычана з укр. *молодо́щі* 'маладыя гады' з пераносам семантыкі.

**Маладу́ха** 'маладзіца', 'маладая, нявеста' (ТСБМ, Бес., Грыг., Сл. Брэс., Гарэц., Нас., Шат., Касп., Бяльк., Мат. Гом., Растарг.; віл., З нар. сл.; Яруш., ТС). Укр. *молоду́ха* 'нявеста', рус. *молоду́ха* 'маладзіца', 'маладая жанчына, дзяўчына', 'нявестка', польск. *młoducha* 'маладая жанчына', 'маладзіца',

славац. *mladucha* 'маладая напярэдадні і ў дзень вяселля'. Паўн.-слав. *molduxa.* Да *маладыя* (гл.).

**Маладўшыцца** 'намагацца выглядаць маладой' (Касп.). Утворана ад *маладўха* (гл.).

**Маладча́й** — лекавая расліна (Мінск, в. Сляпянка, КЭС). Да *малачай* (гл.). Аб пераходзе *чч>дч (тч)* гл. Карскі, 1, 387—388, а таксама наступнае слова.

**Маладча́к**₁ 'малачай-сонцагляд, Euphorbia helioscopia L.' (Мат. Гом.), *малатча́к* 'тс' (гом., Кіс.), *малайчак* 'тс' (Мат. Гом.). З укр. мовы, параўн. *молоча́к* 'малачай востры, Euphorbia esula L.' Паяўленне *-д-* або *-й-* перад *-чак* абумоўлена распадабненнем *-чч->-тч->-дч-* (пры ад'ідэацыі *малады, малайчына).* Падвойнае *-чч-* з *-чјак:* украінскі гук [*ч*] больш мяккі, чым беларускі. Гл. таксама *малачня́к, малачча́к.*

***Маладча́к**₂, *малатча́к, малача́к, малачча́й* 'малако ў рыб' (Мат. Гом.). Да *малако.* Аб узнікненні *-дч-* гл. папярэдняе слова.

**Маладча́нка** 'батрачка' (Касп.), 'маладзіца' (Яруш.). У выніку кантамінацыі лексем *маладзіца* 'наёмная работніца' (ад *маладзе́ц* — гл.) і *парабча́нка.*

**Малады́,** *маладый, мыладый, малоды, молоды, молодэ́й* 'юны, юнацкі', 'нясталы, нявопытны', 'які нядаўна вывеўся, пачаў расці', 'які нядаўна вырас, свежы (пра гародніну)', 'нядаўна прыгатаваны', 'жаніх у час вяселля', *маладая, молада́, мылыда́я* 'нявеста', *маладыя* 'жаніх і нявеста пасля заручын і ў час вяселля', *маладыя дні* 'дні, якія прыпадаюць на першую квадру месяца' (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Яруш., Ян., Сл. ПЗБ), *малады* 'рэдкі (пра цеста, хлеб)' (Сцяц., Ян.), 'нізкай якасці (аб палатне)' (Ян.). Укр. *молодий,* рус. *молодо́й, мо́лод,* польск. *młody,* н.-і. в.-луж. *młody,* чэш., славац. *mladý,* славен. *mlâd, mláda,* серб.-харв. *мла̑д,* макед., балг. *млад.* Прасл. *moldъ* (аснова на *-u̯*) з'яўляецца роднасным да ст.-прус. *maldai* 'хлапчукі, падлеткі', *maldian* 'жарабё' (він. скл.), *maldūin* 'маладосць', ст.-інд. *mr̥dúṣ* 'мяккі, нежны', *mradīyān* 'мякчэйшы', ст.-грэч. ἀμαλδύνω 'размякчаю, аслабляю', лац. *mollis (<*molduis)* 'мяккі', арм. *metk* 'распешчаны, вялы', ст.-ірл. *meldach* 'мяккі, пяшчотны, прыемны', ст.-англ. *meltan* 'плавіць, растапляць', венецк. *molzon* 'малады', *vants molzonke* 'малады і маладая' (Міклашыч, 200; Бернекер, 2, 71; Траўтман, 167; Фрэнкель, IF, 69, 154; Фасмер, 2, 643—644; Скок, 2, 438—439; Бязлай, 2, 187). Прасл. *moldъ* з'яўляецца аддзеяслоўным утварэннем з першасным суфіксам *-dъ.* Да і.-е. *mel-* 'расціраць', 'тонкі, мяккі' (Аткупшчыкоў, Из истории, 112 і інш.). Для асновы на *-n* (параўн. рус. *младенец)* роднасным з'яўляецца ст.-прус. *maldenikis* 'дзіця'. Сюды ж адносіцца шмат дэмінутываў: *маладзе́нькі, маладзёшанькі, маладзю-*



*сенькі, маладзюткі, маладзютэнькі, молодзюленькі* і інш. (Нас., Растарг., ТС).

**Малажа́ва** 'чалавек, які молада выглядае', 'расліна, якая мае добры выгляд' (КЭС, лаг.). Бел. рэгіяналізм, утвораны ад прыметніка *маладжа́вы.* Аналагічна ўкр. бук. *молоджа́ва, молоджя́ва* 'моладзь, маладыя людзі'.

***Малажа́й,** *моложе́й, моложяй* 'атава' (Клім.; драг., Жыв. сл., Сл. Брэс.). Палескі рэгіяналізм, утвораны ад *mold-* пры дапамозе суфікса *-ějь.* Да *маладыя* (гл.).

**Малажайка** 'замужняя жанчына' (мін., КЭС). Бел. рэгіяналізм, утвораны пры дапамозе суфікса *-ěja* ад прасл. *mold-,* да якіх пасля далучыўся суфікс *-ka.* Параўн. больш позняе слуц. *маладайка* (гл.).

***Малажонскі,** *мылажонськый* 'прыналежны маладому мужу' (Бяльк.). Да *малжонскі*<польск. *małżonek* 'муж'.

**Малазён** 'немаўля, грудное дзіця' (Федар. 7). Утворана, як *маладзён* (гл.), з *mold-* і суф. *-ёнъ.* Мена *дз>з* (гл. Карскі, 1, 350—351). Да *маладыя* (гл.).

**Мала́й,** *мала́йчык* 'бохан хлеба', стол. 'маленькая булачка' (Сл. Брэс., 'булачка з вотруб'я для прыгатавання квасу' (драг., лельч., Вешт.), 'недапечаны хлеб', 'хлеб з грэцкай мукі' (Ян.), 'дранікі' (рэч., браг., Мат. Гом.). Укр. *мала́й* 'хлеб з кукурузы, гароху ці проса', 'глёўкі хлеб', 'проса, Panicum miliaceum'; рус. *мала́й* 'каша з прасяной мукі'. Запазычана праз укр. мову з рум. *mălaiu* 'кукуруза' (<*mel' laiu* 'чорная прасяная мука') (Фасмер, 2, 562).

**Малайчы́на,** *мълаччы́на* 'маладзец' (ТСБМ, Нас., Шат.; міёр., Нар. словатв.), *малайцава́ты* 'ўдалы, спрытны' (паст., Сл. ПЗБ). Відавочна, з рус. мовы; параўн. рус. уладз., смал. *молодчи́на* 'хлопец, які дасягнуў паўналецця', 'станісты, моцны юнак'. Аб мене *-дч->-йч-, -чч-* гл. Карскі, 1, 351—352.

**Малайца́** 'ўслаўленая, заслужаная дзяўчына, жанчына' (КЭС, лаг.) Да *малоец* (гл.).

**Малака́н** 'малачай-сонцагляд, Euphorbia helioscopia L.' (гом., Кіс., б.-каш., Мат. Гом.). Рус. перм., том. *молока́н* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса. Да *малако* (гл.). Аб суфіксе *-ан* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 147).

**Малака́не** 'хрысціянская рэлігійная сетка стараабрадцаў' (ТСБМ). Да *малако* (гл.). Матывацыя: прадстаўнікі секты, якія не ўжываюць мяса, а толькі малако (Фасмер, 2, 645).

***Малака́шы,** нараўл. *малока́шы (зневаж.)* 'жаўтароты' (Мат. Гом.). Прыметнік, утвораны ад назоўніка $^+$*малакаш.* Да *малако* (гл.).

***Малакі́та,** *молокі́та* 'лаза, з якой робяць кашалі' (Бес.), кобр. *мулукы́та, мулукэта* 'тс' (Нар. лекс.). Рус. *молоки́та пайн.* 'баркун, Melitotus Adans.', наўг. 'балотная расліна', кіраў.

'балота, дрыгва'; урал., табол., свярдл., кіраў. *молокитник, малакитник* 'зяновец, Cytisus L.', том. *молокитничек* 'вярбняк, лазняк', ярасл. *молокитовый* 'вербняковы', ст.-рус. *молокита* 'лаза', 'дрыгва', польск. *młokicina* 'балотная лаза'. Фасмер (2, 645) звязвае іх з польск. *pa-młoka* 'сырая імгла, хмара', ст.-польск. *mlekita* 'вярба, якая расце на балоце', чэш., славац., славен. *mláka* 'лужа', паўд.-чэш. *mlačina* 'лужок у лесе', серб.-харв. *мла̏ка* 'дрыгва, багністае месца', *мла̏ква* 'рачулка, балотца, якія не замярзаюць зімой', макед. *млака,* балг. *млака́* 'балота, грузкая зямля'. Прасл. *molkyta* і *molka.* Сувязь з прасл. *melko* 'малако' праблематычная. Балтыйскія адпаведнікі: *mal̃kas* 'глыток', лат. *màlks, màlka* 'піццё залпам'. І.-е. **molk-* 'вільгаць, вільготны' (Міклашыч, 198; Бернекер, 2, 33; Траўтман, 177; Фасмер, 2, 645; Скок, 2, 440; Бязлай, 2, 187). Інакш Махэк₂ (367 і NŘ, 29, 10), які, не ўлічваючы ўсх.-слав. дадзеныя, выводзіць прасл. *mlaka* і супастаўляе яе з лат. *plācis* 'дрыгва' — фанетычныя цяжкасці. Гл. таксама Кабылянскі (Мовознавство, 1981, 6, 46).

**Малако,** *молоко́, мылако* 'белая пажыўная вадкасць, якая выдзяляецца груднымі залозамі жанчын і самак млекакормячых для выкармлівання дзяцей', 'семявая вадкасць рыб', 'семявыя залозы рыб', 'белаваты сок некаторых раслін (напр., канапель)', 'вадкасць з некаторых пладоў' (ТСБМ, Бес., Крыв., Вешт., Бяльк., Яруш., Сл. ПЗБ; полац., Нар. сл.), карм. 'корм для пчол' (Мат. Гом.), глыб., слаўг. *малачко, мылачко* 'падкормка для лічынак пчол' (З нар. сл.). Укр. *молоко́,* рус. *молоко́, моло́ки,* польск. *mleko,* каш. *mlóu̯ko,* н.-і в.-луж. *mloko,* чэш. *mléko,* славац. *mlieko,* славен. *mlẹ́ko,* серб.-харв. *мле́ко, mlijèko,* макед. *млеко,* балг. *мляко,* ст.-слав. **млѣко.** Прасл. *melko* і *molko* (паводле ўсх.-слав. дадзеных). Лексічнае пранікненне прагерм. *meluk-,* якое да і.-е. **melĝ-* (гоцк. *miluks*) у прасл. мову (Міклашыч, 187; Уленбек, AfSlPh, 15, 489; Хірт, PBB, 23, 341; Лёвэ, KZ, 39, 316; Сэмерэны, KZ, 75, 180; Мартынаў, Лекс. взаим., 73—74), супраць чаго Брукнер (KZ, 45, 104), Эндзелін (KZ, 44, 66), Бернекер (2, 33) і інш., супастаўляючы прасл. *melko* з літ. *mal̃kas* 'глыток', лат. *màlks, màlka* 'піццё залпам' (і.-е. **melk-* 'мокры, вільготны'), і ў якасці семантычнай паралелі прыводзяць літ. *píenas,* ст.-інд. *páyas* 'сок, вада', слав. *piti* 'піць'. Абаеў (Этимология-84, 14) мяркуе, што «чыста» слав. форма *melzivo* атрымала герм. воблік шляхам перакрыжаванай ізаглосы. Аб магчымым запазычанні прасл. *melko* з прагерм. *meluk-* гл. Трубачоў, Дополн., 2, 646. Гл. яшчэ Скок, 2, 442—443; Бязлай, 2, 188—189. Сюды ж *молоко́ вужо́вэ, бу́слово молоко* 'малачай кіпарысавы, Euphorbia cyparissias L.' (Бейл.).

***Малама́йчык,** *молома́йчык* 'маленькая булачка хлеба з вотруб'я для прыгатавання квасу' (Вешт.). Відавочна, палес. *моломайчык* спачатку было ⁺*маломайчык* пад уплывам народнай этымалогіі слова *мала́й* (гл.) з гаплалагічным памяншальным суфіксам *-айчык* (як *акрайчык*). Пасля пад уздзеяннем палес. «гіперправільнасці» пачатковае *ма-* змянілася ў *мо-*.



**Мала́нка**₁, *малянка* 'разрад атмасфернай электрычнасці ў паветры ў выглядзе яркай звілістай лініі, бліскавіца' (ТСБМ, Мал., Маш., Федар., Сцяшк., Нас., Яруш., Шат., Касп., Бяльк.; ДАБМ, к. 311); *мала́ння, мала́нья, маланя́, мылыня́* (віц., ДАБМ, к. 311; Касп., Сл. ПЗБ, Растарг.), мсцісл. *мылыньня́* (Нар. сл.), чачэр. *мала́йня,* карм. *мала́ння* 'тс' (Мат. Гом.). Укр. *молоння́,* рус. *молонья́, мо́лонье, молоньё, моло́нья,* пск. *моло́нка,* ст.-рус. *мълния, млънии, мълнии, молния, молиня,* палаб. *mŭińa,* каш. *mål̃ńå,* чэш. *mlna, mlno, mluno,* славен. *mółnja,* серб.-харв. *му́ња,* макед., балг. *молна, молня, мълния,* ст.-слав. **млънии.** Прасл. *mъlni* 'маланка' мае і.-е. адпаведнікі ў ст.-прус. *mealde* 'тс', літ. *mulna,* лат. *milna* 'молат Пяркуна', літ. *milinỹs* 'жорны', ст.-ісл. *myln* 'агонь', *Mjǫllnir* 'маланка, молат Тора', уэльск. *mellt* 'маланка', хецк. *malatt* 'від зброі'. Лексема мае міфалагічны характар. Параўн. бел. казкі, дзе *Малання, Маладня* — імя царыцы-маланкі, а маланка ў бел. вераваннях (як і ў ведыйскіх) — гэта зброя Перуна, подобная да двух камянёў жорнаў, у выніку трэння якіх узнікае громмаланка (Іванаў, Тапароў, Бел. лекс., 59). Гл. *маладня́.*

**Мала́нка**₂ 'вясёлка' (петрык., Талстой, АЛА-1974, 58) у выразе: *маланка воду бярэ.* У выніку семантычнага пераносу.

**Мала́нка**₃ 'мыльнік, Saponaria officinalis L.' (Сцяшк. Сл.), *мыльня́нка* 'тс' пад уплывам *маланка*₁ (перанос значэння паводле падабенства: мыльнік цвіце чырвонымі кветкамі). Гл. *мыльнік*₁.

**Маланка́** 'пусты чорны арэх' (Маш.), *маланчу́к, маланковы арэх* 'тс' (маст., Сл., ПЗБ; Сцяшк. Сл.), палес., беласт. *маланчу́к* 'спарыння, Claviceps purpurea L.' (Выгонная, Бел.-укр. ізал., 21). Да *мала́нка*₁ (гл.). Назвы ўзніклі ў сувязі з вераваннем, згодна з якім маланка спальвала арэхі, зерне ў коласе. Аналагічна каш. *mål̃ńå* апрача 'маланка', 'туман' яшчэ і 'зараза', г. зн. 'шкоднікі-вусеніцы на дрэвах', 'чорныя плямы на бульбе', з'яўленне якіх звязваецца са шкодным уплывам маланкі на ўраджаі (Папоўска-Таборска, Бел.-польск. ізал., 103).

**Маларосея** 'вышываная сарочка' (Ян.). Ад былой назвы Украіны. Такое найменне было дадзена рускімі, якія атаясамлівалі бел. і ўкр. кашулі як аднолькавыя.

**Ма́ласціна** 'дробязь' (Шат.). Бел. рэгіяналізм. Да прасл. *malostь:* укр. *малість,* рус. *малость,* польск. *małość,* н.-луж.

*małosć,* чэш. *malost,* славен. *malóst,* серб.-харв. *мȁлост* 'тс'; макед. *малост* 'маладыя гады, дзяцінства'.

**Маласы́ткі** 'не прагны' (Ян.) з рус. паўн. *малосытный* 'з малым апетытам' утварае бел.-рус. ізалексу. Другая частка бел. *-сыткі* мае незвычайнае ўтварэнне з суфіксам *-к-* (замест пашыранага *сыты/сытны).*

**Малатавішча** 'ручка молата, малатка' (ТС). Польск. *młocisko* 'тс'. Бел.-польск. ізалекса.

**Малата́р** 'малацьбіт' (гродз., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.). З польск. *młocarz* 'тс'.

**Малата́рка,** *мылыта́рка* 'малатарня' (Касп., Бяльк., Некр.; Крыў., Са сл. Дзіс.; Мат. Гом., Ян.), укр. *молота́рка,* рус. пск. *молотарка* ўзніклі ў выніку кантамінацыі бел. *малатарня* і рус. *молотилка.*

***Малата́рнік,** *молота́рнік* 'малацьбіт' (малар., бяроз., Выг.). У выніку кантамінацыі спрадвечнага *молотілнык* і новага *молотар* (гл. *малатар)* 'тс'.

**Малата́рня** 'машына для абмалоту сельскагаспадарчых культур' (ТСБМ, Чуд., Шат., Яруш; КЭС, лаг.), 'лапатун, балбатуха' (Шат., Касп.). Укр. *молота́рня* 'тс'. З польск. *młocarnia* 'тс', аформленага згодна з усх.-слав. поўнагалоссем.

**Малатня́** 'ток' (паст., Сл. ПЗБ). Бел. рэгіяналізм, якому паводле ўтварэння адпавядае серб.-харв. *млаћа* 'малацьба'. Семантычнымі адпаведнікамі з'яўляюцца чэш. *mlatevna* 'ток у гумне', славац. *mlatovňa* 'ток, гумно'.

***Малату́н,** *молоту́н* 'брахун, балбатун' (ТС). Да *малаці́ць* 'лапатаць' (гл.). Аб суфіксе *-ун* гл. Сцяцко (Афікс. наз., 68).

**Малафе́йчык** 'павец для дроў' (брэсц., Нар. сл., Сл. Брэс.). Відавочна, з *малаха́й*₁ 'шапка з шырокімі навушнікамі' — паводле падабенства адтапыранага навушніка з паветкай. Параўн. рус. валаг., вяц. *малафейка* 'кофта са зборкамі'.

**Малаха́й**₁ 'шапка з шырокімі навушнікамі', 'шырокі кафтан без пояса' (ТСБМ), *малахайка* 'зімовая шапка' (Касп.). Укр. *малахай,* рус. *малаха́й* 'шырокае мешкаватае адзенне без пояса', 'доўгі халат з футра', 'неакуратна апрануты чалавек', 'разява, расцяпа', ст.-рус. *малахай* 'шапка з футрам' (XVII ст.). Запазычана ва ўсх.-слав. мовы з тат. *malaxai,* марыйск. *malaxai,* якія з калмыц. *maχlä,* манг. *malagai* 'шапка' (Фасмер, Этюды, 127; Яго ж, 2, 562; Аткупшчыкоў, Из истории, 208).

***Малаха́й**₂, *молоха́й* 'хвароба ў авечак' (мазыр., З нар. сл.). Няясна. Недастатковасць інфармацыі аб сутнасці названай хваробы дае магчымасць зрабіць толькі некаторыя дапушчэнні адносна паходжання лексемы. Можна дапусціць, што яна звязана з навагрэч. μαλακός 'мяккі', μαλακώνω 'паслабляю, размякчаю, сціхаю', μαλάκυνσις 'размякчэнне мозга', якія ўзыходзяць да ст.-грэч. μαλακία 'слабасць'. Параўн. таксама лац. *talacia* 'вяласць, бяздзейнасць', 'адсутнасць апетыту'.



**Малахол** 'дзівак, дурнаваты' (Юрч.), *малахольны* 'нястрыманы' (Касп.), 'нервовы, неўраўнаважаны' (Сцяц. Сл.), *малахольный* 'неразумны, легкадумны' (шкл., Мат. Маг.), *малахолля* 'хваравітасць розуму' (КЭС, лаг.). Рус. *малахольный* 'разумова непаўнацэнны, дурнаваты', 'няўдачлівы'. Узыходзіць да навагрэч. μελαγχολικός 'меланхалічны', μελαγχολία 'сум' (Краўчук, вусн. паведамл.), аднак шляхі яго пранікнення невядомыя.

**Малацебнік,** *молотэбнык* 'малацьбіт' (беласт., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.; малар., кобр., Выг.; Яруш.). Утворана ад прыметніка +*малацебны,* параўн. польск. *młociebny* 'прызначаны для малацьбы'. Да *малаціць* (гл.).

**Малаце́льнік,** *молоце́льнік, молотэ́лнык, молоті́лнык* 'малацьбіт' (гродз., Сл. ПЗБ; стол., пруж., бяроз., Выг.; мазыр., калінк., Шатал.; пін., Нар. лекс.; Сл. Брэс.). Беларускае. Утворана ад прыметніка +*малацельны* (<прасл. *molt-ělь-nъ* і суфікса *-ikъ.* Аналагічна *малаце́ннік* 'тс' (лоеў., браг., Мат. Гом.; Сцяц.) ад *molt-ělь-nъ.* Да *малаціць* (гл).

**Малацьбік,** *маладзьбі́к* 'малацьбіт' (чэрв., Сл. ПЗБ; светлаг., гом., ветк., Мат. Гом.), *малацьвік* 'тс' (чэрык., Мат. Маг.). Беларускае. Утворана ад *малацьба* пры дапамозе суфікса *-ік* (Сцяцко, Афікс. наз., 155). Аднак не выключана распадабненне суфікса *-біт* на гэтай тэрыторыі ў сувязі з яго рэдкасцю ўжывання (непрадуктыўнасцю) і пашыранасцю *-ік.*

**Малацілка,** *мылацілка* 'малатарня' (Чуд., ТС, Бяльк.). Пранікла з рус. моўнай тэрыторыі, дзе *молотилка* мае і інш. значэнні: 'цэп', 'ручка цэпа', 'біла цэпа', 'прыстасаванне (выдзеўбаны ствол дрэва) для малацьбы'.

**Малаціўка** 'малатарня' (Жд. 1). Беларусізаваны варыянт рус. *молотилка* 'тс'.

**Малаціць,** *мылаці́ць, молоці́ць, молотэ́тэ* 'выбіваць зерне з каласоў, струкоў цапамі, малатарняй ці камбайнам', 'ударацьстукаць', 'збіваць, біць, разбіваць, ламаць', 'лапатаць' (ТСБМ, Шат., Бяльк., ТС). Укр. *молотити* 'тс', рус. *молотить,* польск. *młocić,* н.-луж. *młośiś,* в.-луж. *młócić,* чэш. *mlátiti,* славац. *mlátit',* славен. *mlátiti,* серб.-харв. *мла́тити,* балг. *млатя,* ц.-слав. **млатити.** Прасл. *moltiti,* якое ўзыходзіць да *moltъ*> *молат* (гл.). Сюды ж *малаце́нне, малаце́ня, малаце́нё, молоце́ньe* 'малацьба' (Сцяц., ТС; навагр., Сл. ПЗБ).

**Малацьба́,** *мыладзьба́, молоцьба́, маладжба́* 'выбіванне зерня з каласоў, струкоў; час, пара, калі малоцяць' (ТСБМ, Нас., Бяльк., ТС, Ян.). Укр., рус. *молотьба,* польск. *młocba,* чэш., славац. *mlatba.* Паўн.-слав. *moltьba.* Да *малаціць, молат* (гл.).

**Малацьбіт**, *маладзьбіт, маладзбіт, маладьбіт, маладзвіт* 'той, хто малоціць' (ТСБМ, Сцяшк., Нас., Сл. ПЗБ, Нар. Гом., Растарг.). Беларускае (з цесна прылягаючай рускай моўнай тэрыторыяй: пск., смал., ЛатвССР *молотьбит* 'тс'). Аднаазоўнікавае ўтварэнне з суф. *-іт* (Сцяцко, Афікс. наз., 157).

**Малача́й$_1$** 'трава, пустазелле' (Сцяшк.), 'малачай, Euphorbia helioscopia L.' (віц., гом., мін., Кіс.; слуц., Лекс. і грам.; Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ), стаўбц. *малатча́й* (З нар. сл.), б.-каш. *маладча́й* (Мат. Гом.), *малачня́к* (браг., лоеў., хойн., Мат. Гом.), *малача́к* 'тс' (жлоб., Мат. Гом.; рэч., Нар. сл.), лельч. *молоч'я́к* 'тс' (Нар. лекс., Жыв. сл.), *малача́йнік* 'тс' (ТСБМ, Бяльк.), *молоч'я́к* 'малачай кіпарысны, Euphorbia cyparissias L.' (стол., петрык., Бейл.). Укр. *молочай, молочак, молочник*, рус. *волчье молоко, молочник*, польск. *mlecznik, mlecz (ostromlecz, wilcze mleko, wilczy mlecz, psimlecz, wilczomlecz)*, в.-луж. *mlóčeń, mlóčenje*, чэш. *vlčí (zajačí, žabí, kaní, kozí, hadí, čertovo) mléko, mléč (žabí, hadí)*, славац. *mliečnik*, славен. *mlêčec, mléček*, серб.-харв. *млѐчика, млеча, mliječ*, макед. *млеч*, балг. *млечок* 'малачай'. Да *малако* (гл.). Фармацыі з суфіксам *-ай* утвараюць бел.-укр. ізалексу. Усе вышэйпералічаныя слав. назвы звязваюцца з малаком у сувязі з тым, што расліна вылучае сок, падобны да малака, які мае востры, непрыемны смак, таму да назваў расліны дадаюцца азначэнні *воўчы, сабачы, зайцаў, д'яблаў* і да т. п. (Махэк, Jména, 139). Аналагічна ў інш. мовах, параўн. ням. *Wolfmilch*.

**Малача́й$_2$**, *молоча́й* 'адуванчык лекавы, Taraxacum officinale Web.' (брэсц., гродз., мін., Кіс.; Бейл., ТС), *молоч'як* 'тс' (ТС). Укр. *молочі́й, молочко́, моло́чник, моло́шник*, рус. *молоча́й* 'тс', польск. *mlecz*, в.-луж. *mlóč*, чэш. *smetanka*, усх.-чэш. *mlíčí*, славен. *mlêč*, серб.-харв. *мле́кача*, макед. *млечка*. Усходнеславянскае. Да *малача́й$_1$* (гл.).

***Малача́й$_3$**, *молочя́й* 'лянок звычайны, Linaria vulgaris Mill.' (Бейл.). Укр. *молочі́й, моло́шничок*, рус. тул. *моло́чник*. Бел.-укр. ізалекса. Да *малача́й$_1$* (гл.).

**Малача́й$_4$** *жоўты* 'падтыннік вялікі, Chelidonium majus L.' (Дэмб. 1). Укр. *молоча́й жовтий, молочник, молошник*, рус. варон., ніжагар. *молочай жёлтый* 'тс', польск. *mlecz żółty*, чэш. *mlíč, hadí mlíč, hadí mlíčí*, славац. *psie mlieko*, харв. *žuta mličica*, ням. *Milchblume* 'тс'. Да *малача́й$_1$*.

**Малача́й$_5$** 'дзіцячая хвароба малочніца' (Шат.). Бел. рэгіяналізм. Да *малако* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 145). Гл. таксама *малочніца*.

**Малача́й$_6$** 'грузд перцавы, Lactarius piperatus' (БелСЭ, 4; Сцяц.; карм., лельч., Мат. Гом.; уздз., Нар. словатв.), драг. *молоче́й*, кобр. *молочі́йка* (Жыв. сл.). Рус. калін. *молоча́й* 'гатунак капялюшных грыбоў', польск. *mleczaj* 'грузд перцавы',



серб.-харв. *млечница*, славен. *mlêčec*, балг. *лютива млечница*. Паўночнаславянскае. Да *малако* (гл.). Матывацыя: грыб выдзяляе сок, падобны да малака. Аналагічна ням. *Milchpilz* (=*малочны грыб*). Параўн. драг. *малочны грыб* 'грыб, які выдзяляе малакападобны сок' (Жыв. сл.) і бел. *млечнік* 'грузд'.

***Малача́й$_7$**, *мълъча́й* 'рыбіна з малокамі' (гарад., Нар. лекс.), 'семявая вадкасць рыб' (паст., швянч., ігн., гродз., Сл. ПЗБ), чэрв. *малача́йка* 'тс' (там жа), *молоча́к* 'сялёдка з малокамі' (Бес.). Рус. анеж. *молоче́й* 'малокі рыб', польск. *mleczak*. Бел.-рус. ізалекса. Да *малако* 'малокі' (гл.).

***Малача́р**, *молоча́р* 'малакавоз' (ТС). Калька з польск. *mleczar* 'тс', *mleczarek* 'хлопец, які развозіць малако на продаж'.

**Малача́рка** 'малочны завод' (Др.-Падб., Сцяшк.). Відавочна, паланізм. Параўн. польск. *mleczarka* 'малочны магазін'<'уладальніца такога магазіна ці малачарні'.

**Малача́рства** 'вытворчасць малочных прадуктаў' (Яруш.). З польск. *mleczarstwo* 'тс'.

**Малача́ўніца** 'малочная карова' (Сцяшк. Сл.). Вузкі рэгіяналізм, утвораны ад прыметніка +*малачавы* (як *рэдка́вы* 'рэдкаваты', *ласка́вы*) і суфікса *-ніца*.

***Малачча́к**, *молоч'я́к* 'мыльнік лекавы, Saponaria officinalis L.' (Бейл.). Да *малако* (гл.). Матывацыя: сапаніны каранёў пеняцца ў вадзе.

**Малашэбніца** 'чараўніца' (маз., Нар. Гом.). З рус. *волшебница* 'тс'.

**Малашча́вы** 'ярка-зялёны' (свісл., Сцяшк. Сл.). Утворана ад *малача́й* — менавіта такі зялёны колер маюць лісты малачаю вясной.

***Малгажа́тка**, *малгожа́тка* 'груша (дрэва і плод)' (нараўл., Мат. Гом.). Запазычана з польск. *małgorzatka* 'тс', якое ад імя *Małgorzata* 'Маргарыта' (Варш. сл., 2, 862).

***Малдава́нка**, *мылдыва́нка* 'намітка, галаўная павязка' (Бяльк.). Да тапоніма *Малдавія*, які з рум. *Moldovă* (Фасмер, 2, 642).

**Малдзіць** 'гаварыць адно і тое ж, бубніць' (ваўк., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 23), з літ. *maldýti* 'паломнічаць', 'заспакойваць немаўля', 'вельмі прасіць'.

**Мале́бен** 'кароткае набажэнства за чыё-небудзь здароўе, поспехі, а таксама па нябожчыках' (ТСБМ), *малебенны* 'набожны' (мін., Сл. ПЗБ), *малебства* 'малебен' (Др.-Падб.), укр. *молебень*, рус. *молебен*, ст.-рус. *молебенъ* (XV ст.) узыходзяць да прасл. субстантывізаванага прыметніка *molьbьnъ*, утворанага ад *molьba* пры дапамозе суфікса *-ьnъ* (Слаўскі, SP, 1, 136). Увайшло ў бел. мову праз ц.-слав.

**Малéзны** 'вельмі малы' (астр., Сл. ПЗБ). Зах.-укр. *малéзний* 'малы, дробязны'. Да *малы́* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-езн-(-эзн-)* са значэннем высокай меры якасці (Бел. гр.2, 1, 310). Бел.-зах.-укр. ізалекса. Дадатак да суфікса *-н-* (тут *-ез-)* у бел. гаворках мяняецца, параўск. *малесы, малёханечкі* і інш.

**Малéй**1 'менш' (шчуч., Сцяшк. Сл.) — выраўненая форма вышэйшай ступені прыслоўяў на *-ей* у суплетыўных утварэннях (Бел. грам.2, 1, 197; Карскі, 2—3, 49). Да *малы́* (гл.).

**Малéй**2 'спакойны, флегматычны чалавек' (глус., Янк. Мат.), *малéева стýпа* 'таўстуха', *малéева торба* 'непаваротлівы, павольны чалавек' (Нас.). Відавочна, утворана ад прыметніка +*памалы* 'павольны', ад якога засталося ў бел. мове прыслоўе *памалу* 'марудна, павольна' (параўн. укр. *помáлий,* чэш., славац. *pomalý* 'павольны'); аб суфіксе *-ей* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 98; Слаўскі, SP, 1, 87.

**Малéкула** 'найменшая частачка рэчыва, якая захоўвае яго асноўныя хімічныя ўласцівасці' (ТСБМ). З рус. *молекула* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 89), якое з франц. *molécule* 'тс' — штучнага слова, утворанага ад лац. *mōlēs* 'маса, скала' на ўзор франц. *corpuscule* 'часцінка (матэрыі)' (Голуб-Ліер, 319).

**Малéльня** 'памяшканне або пакой, у якім моляцца' (ТСБМ). Рус. *молéльня* 'тс', пск., цвяр. *молíльня* 'капліца'. Бел.-рус. ізалекса, утвораная ад прыметніка *молéльный,* параўн. рус. *молéльная* 'малельня'.

**Малем** 'амаль' (драг., КЭС). З польск. *malem,* ст.-польск. *malem* 'тс'.

**Маленкóсць** 'маленства, дзяцінства' (ТС, Яруш.). Паланізм. Параўн. польск. *maleńkość*<*maleńki.* Параўн. таксама пераклад з польск. *z maleńkości* — зэльв. *з маленькага* 'змалку' (Сцяц.).

**Мáленне** 'памяншэнне' (Нас.). Польск. *malenie* 'тс'. Бел.-польск. ізалекса. Да *мáліць, мáліцца* (гл.).

**Малéнства**1, *малéнство* 'маленькае, ласкавае дзіця' (Жд. 1), 'малеча' (ТС). Укр. *маленьство* 'малое дзіця', польск. *maleństwo* 'тс'. Відавочна, паланізм. Чэкман (Baltistica, 8(2), 151) мяркуе, што ашм. *маленства* 'дзіцё' з'яўляецца наватворам, які ўзнік пад уплывам суседняй літ. мовы, параўн. *(tokià) mažutà* '(такая) маласць, малеча'. Сюды ж бел. *маленскі* 'ўласцівы дзіцяці', 'малы, невялікі' (Нас.).

**Малéнства**2, *малéнство, мылéнства, малéства* (<*малалéства* пад уплывам народнай этымалогіі), *малалéсцвія* (параўн. ст.-рус. *малолѣтствие)* 'дзяцінства, дзіцячыя гады; малалецтва' (Шат., Бяльк., Нас., Яруш., ТС; бялын., Янк. Мат.; віл., паст., шальч., Сл. ПЗБ; слаўг., Нар. словатв.), рус. паўд.-пск., асташк. *с маленства* 'тс'. Паланізм. польск. *maleństwo* 'тс'.



**Малéначкі,** *малéнечкі, малéнячкі* 'вельмі маленькі' (Кліх, Ян.; дзярж., Нар. сл.; мсцісл., Нар. словатв.; Сл. ПЗБ), шальч., астр., воран., гродз. 'малалетні' (Сл. ПЗБ). Укр. *маленечкий,* рус. смал., бран., кур. *маленечкий, маленечкий,* польск. *malenieczki* 'тс'. Магчыма, паланізм (і ва ўкр. мове таксама). Форма *маленачкі* ўзыходзіць да *маленкі* (смарг., трак., вільн., воран., дзятл., Сл. ПЗБ), у якім *-н-* цвёрдае: вытрымана заканамернасць памякчэння зычнага перад мяккім, апрача *г, к, х.* Не выключаны таксама і ўплыў фанетыкі суседніх літоўскіх гаворак.

**Мáленька** 'мала' (калінк., З нар. сл.) можна лічыць працягам ст.-рус. *маленько* 'трохі', 'нядоўга' (XV ст.). Да *малéнькі, малы́* (гл.). Аднак націск на *ма-* можа сведчыць аб запазычанні з рус. мовы (ад стараабрадцаў).

**Малéньця** 'маленства' (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. +*malęcie,* якое ад *malęki* 'маленькі', як *маленства* з польск. *maleństwo*<*maleńki* (Варш. сл., 2, 857).

**Малення́** 'маленькая істота' (ТС) прымыкае да ўкр. моўнага арэалу, дзе *маля́* 'малыш', гуц. *малé* 'малое цялё'. Параўн. і рус. арханг. *мáля* 'малыш', 'эй, малы!' Прасл. рэгіяналізм *malę* 'малая істота'.

**Малéсы** ў выразе: у *малéсім часу* 'у міг, у момант' (Чуд.). Да *малы́* (гл.). Пашырэнне асновы *-ес-* выражае паняцце малой велічыні, колькасці, але без дэмінутыўнай экспрэсіі, як *-еньк-* і да т. п. Параўн. і н.-луж. *malsny* 'хуткі'.

**Малéсенькі** 'вельмі маленькі' (Мал., Янк. 2), стаўб. *малéсінькі,* мсцісл. *малёсенечкій, малёсенькій* (Нар. сл., Нар. словатв., Ян.), рус. паўн., дан. *мáлёсенький, малéсенький* 'тс'. Усходнеславянскае (з суф. *-ес-*). Да *малы́* (гл.).

**Мáлец,** *мáліц, мáляц* 'падлетак, юнак ад 14 да 18 год' (ТСБМ, Чуд., Др.-Падб., Нас., Шат., Касп., Бяльк., Мат. Маг., Яруш., Пан. дыс.; маг., КЭС; докш., Янк. Мат.; паўн.-бел., Сл. ПЗБ), 'нежанаты малады чалавек, хлопец' (Мядзв.; полац., Нар. лекс.), 'прыслужнік, служка' (Нас.), *мáлец-вырастачак* 'падлетак' (Нар. Гом.). Рус. цвяр. *малéц* 'халасцяк', смал. *мáлец* 'парабак', паўд. 'казак', ст.-рус. *малецъ* 'падлетак', польск. *malec* 'малы хлопец, хлопчык або маладая дзяўчынка, малое дзіця', серб.-харв. *мȁлац* 'тс'. Прасл. *malьсь.* Да *малы́* (гл.).

**Малéць** 'дзяцінець' (даўг., Сл. ПЗБ). Укр. *малíти* 'змяншацца', рус. *малéть* 'тс', арл. 'дурнець, гарэзнічаць', ст.-рус. *малѣти* 'змяншацца колькасцю', польск. *maleć* 'станавіцца меншым, памяншацца', чэш. *maliti se,* славац. *maliť sa* 'тс', славен. *malíčiti* 'змяншаць значэнне', серб.-харв. *мáлити (се),* макед. *малее,* балг. *малéя* 'змяншацца, змяншаць'. Прасл. *maliti, malěti* 'тс'. Да *малы́* (гл.).

**Мале́цце** 'маленства' (Нар. Гом.). Скарочаная форма +*малалецце* (<**talolětьje)*. Да *малы́* і *ле́та* (гл.).

**Мале́ча** 'маленькія дзеці, жывыя істоты', 'драбната, драбяза', 'дзіцяня' (ТСБМ, Янк. 1, Сцяшк., Нас., Бяльк., Растарг.), 'чалавек нізкага росту' (Растарг.). Укр. *мале́ча* 'малыя дзеці', рус. *мале́ча:* смал. 'дзіця', славен. *talôča* 'дробязь', серб.-харв. *ма̏лоћа* 'малая колькасць'. Трубачоў (Проспект, 59—61) дапускае праблематычнасць пры ўзвядзенні гэтых форм да прасл. *talotja;* магчыма, *-otja*>*-etja(?)*. Да *малы́* (гл.).

**Ма́лечка** 'зусім мала' (Жд. 1). Рус. цвяр., кур. *ма́лечко* 'мала', ст.-рус. *малечкий* 'маленькі', ст.-чэш. *malečko* 'нядоўга, кароценькі перыяд часу', ст.-серб.-харв. *малачак, малѐчак* 'маленькі'. Да *малы́* (гл.).

**Мале́шанькі,** *малёшанькі* 'невялічкі, дробны' (Нар. Гом.). Рус. паўн., пск. *малёшенький* 'тс', ст.-рус. *малешенький* 'вельмі маленькі', 'дробны (пра дождж)', ст.-серб.-харв. *ма̏лашан* 'маленькі'. Утворана ад +*малехны*<*малы́* (гл.).

**Малёѓаць** 'угаворваць, прасіць' (маладз., Янк. Мат., дзярж., Нар. сл.; КЭС, лаг., глус., Мат. Маг.; Федар. 2). Да *малі́ць* (гл. *маліцца)* 'упрошваць'. Утворана пры дапамозе суфікса *-ёг-* з працягла-шматразовым значэннем. Параўн. бел. *галёкаць,* гродз. *галякаць* 'крычаць, гукаць' (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ), а таксама серб.-харв. *мољáкати, мољукати* з пераратыўнымі суфіксамі.

**Малёдны** 'ветлівы, мяккі характарам', іўеў. (Сцяшк. Сл.), *малёдненька* 'памалу, павольна' (там жа). Няясна. Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *malóninis* 'пяшчотны', у якім у групе *-nin-* пасля адбылося распадабненне: *-нн-*>*-дн-*.

**Малёдзія** 'гудзенне (аб шэршні)' (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *melodia* 'мелодыя'.

**Малёк**$_1$ 'назва моладзі рыб' (Сцяшк., ТСБМ), укр. *мальо́к,* рус. *малёк.* Відавочна, з рус. мовы як навуковы тэрмін. Да *малы́* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ькъ.*

**Малёк**$_2$ 'лубок, лубковае мастацтва', *мальковы* 'лубковы' (паўн.-зах., КЭС) — няўдалы наватвор ад *маляваць* з суфіксам *-ок* (як *лубок*).

**Малён**$_1$ 'дыня' (Шпіл.), *малёнік* 'гарбузовая каша' (паўн.-усх., КЭС). З польск. (ці са ст.-польск.) *malon, malun,* суч. *melon* 'дыня', 'кавун', якія з лац. *mēlo (indicus)*<ст.-грэч. μῆλον 'яблык' (Брукнер, 328).

**Малён**$_2$ 'хмель, Humulus lupulus L.' (Сцяшк. Сл.). Да *малён*$_1$ (гл.). Названа паводле падабенства сцёблаў раслін, якія рассцілаюцца па зямлі і ўюцца вертыкальна.

***Малёнак,** *малёнък, малёнъчък* 'няўмелы, ні да чаго не прыдатны ў рабоце' (міёр., З нар. сл.), рус. свярдл. *малёнка* 'малое дзіця, малыш'. Да *малы́* (гл.). Утворана пры дапамозе



суфікса *-ёнак (-онак)* для назваў маладых істот. Параўн. таксама *маленя.*

**Малёўка** 'каляровы аловак' (ТС), 'фарба' (швянч., Сл. ПЗБ), *малёўкі, маляўнікі* 'рознакаляровыя алоўкі' (Сцяшк. Сл.; Сл. Брэс.). Утворана ад *маляваць* (гл.) і суфікса *-'оўка* са значэннем прадмета дзеяння (Сцяцко, Афікс. наз., 62).

**Малёўнічак** 'маленькі гаршчок для малака' (шкл., Мат. Маг.). Відавочна, з *раз-маляваны малакоўнік (-оўнічак).*

**Малёханькі,** *малёхтанечкі(й), малёхтанькій* 'вельмі маленькі' (КЭС, лаг.; мсцісл., Нар. словатв.). Вузкі рэгіяналізм са складаным суфіксам *-ох-та-н-ечк-і,* асобныя варыянты якога сустракаюцца ў іншых слав. мовах: рус. наўг. *малеха́нненький,* смал. *малехо́тенный* 'тс', чэш., славац. *malicherný* 'дробязны', 'нязначны', ст.-чэш. *malechno* 'ў вельмі кароткі час', ст.-серб.-харв. *ма̏лахан, ма̏лахат, ма̀лехан, maljahan* 'маленькі'. Да *малы́* (гл.).

**Малжэнскі** 'шлюбны', 'сямейны', *малжэнства* 'шлюб', 'сям'я' (Нас.). Насовіч (278) мяркуе, што яны запазычаны з польскай мовы. Жураўскі (Гіст. лекс., 94), Булыка (Лекс. запазыч., 125) ст.-бел. *малжонокъ* 'муж', *малжонка, малженка* 'жонка' (XV ст.) таксама односяць да паланізмаў. Філін (Происх., 584) тлумачыць польскім уплывам існаванне рус. *малжонки* 'муж і жонка' і ст.-рус. *малъжена* (н. скл. парнага ліку). Аднак харв. *malžena* (в. скл. парнага ліку), якое Скок (2, 364) лічыць багемізмам, ст.-чэш., валаш. *malžen,* чэш., славац. *manžel* 'муж', *manželé* 'муж і жонка', в.-луж. *mandźelska* 'жонка', н.-луж. *manźelska* 'тс', *manźelski* 'муж', ст.-польск. *manžel, manženka,* суч. *małżonek, małżonka, małżeństwo* 'муж і жонка' значна пашыраюць распаўсюджанне лексемы. Міклашыч (36), Бернекер (2, 13), Варш. сл. (2, 867) і інш. тлумачаць паходжанне лексемы як частковую кальку ст.-в.-ням. *mâlwîp* або *mâlkona* 'жонка'; першая частка *mâl, -mahal* 'шлюбная ўмова', ст.-в.-ням. *gimahalo*>новав.-ням. *Gemahl (Gemahlin)* 'жаніх' ('нявеста'), другая — пераклад *žena,* з гэтай формы *malъžena* пазней ўтварылася *malъženъ* 'муж' (Фасмер, 2, 562). Ваян (RÉS, 19, 102) прапанаваў замест ням. *mâl* зыходным лічыць слав. *mǫžь* (тады разам *mǫžьžena)* як ст.-слав. **братьсестра** 'брат і сястра'. Махэк$_2$ (351), выходзячы са славац. *mladoženstvo* з *mladoženka* 'нявеста' і *mladoženník (mladoženich),* меркаваў, што ўжо ў дагістарычны перыяд чэшскай мовы існавала зах.-слав. **maldo-ženьstvo* (<прасл. *moldo-),* у якім пасля выпаў склад *-do-.* Так узнікла *malženstvo, malzenstvie,* а ад іх — *malžen* і *malženka,* у якіх пазней адбылася перастаноўка *l — n*>*n — l.* Скок (2, 364) дапускае магчымасць словаскладання *mǫžь*+*žena,* прыводзячы аналагічныя прыклады: вагульск. nēχum 'жонка і муж', баскск. *aitamek*

13. Зак. 1005

'бацька-маці'>'бацькі'. Гэтак жа і Атрэмбскі (Gr., 2, 8) адносна літ. *vyr-moteriai.* Шаўр (Slavia, 56, 4, 372—374) не згаджаецца з тым, што асновай для першай часткі слав. *malъžena* з'яўляецца ст.-в.-ням. *-mahal-*, таму што яшчэ доўга пасля XI ст. інтэрвакальнае *-h-* жыве ў герм. словах гэтага кораня, а ў Рыльскіх глагалічных лістках ужо сустракаецца форма Д. скл. парнага ліку *malъženoma,* тым больш што *mâl* 'умова' вядома на поўначы герм. тэрыторыі. Ён прапануе ўзяць крыніцай запазычання ст.-в.-ням. *māl* 'імгненне', 'хвіліна', выпрашальныя для ўзнікнення шлюбу (да прыняцця хрысціянства ў славян шлюбы не заключаліся, было пашырана выкраданне нявест і палігамія — паліандрыя), параўн. і *mâlôn* 'абазначаць, намеціць'. Запазычанне адбылося на Мараве ў IX ст.

**Малібдэн** 'хімічны элемент, Мо' (ТСБМ). З рус. *молибден* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 89), дзе з новалац. *molybdenum*<лац. *molybdaena* 'руда, свінцовы бляск'<ст.-грэч. μολύβδαινα 'кавалачак свінца, які чапляўся да вудачкі'<μόλυβδος 'свінец' (Голуб-Ліер, 320).

**Малібоны** 'непатрэбныя натацыі' (карэліц., Жыв. сл.). Скажоная форма *малéбен* (гл.) пры ад'ідэацыі *мальбоніць.* Суфікс аформіўся пад уплывам *забабоны, праклёны.* Гл. таксама *мальбоны.*

**Малідаваццa**$_1$ 'адзначацца' (смарг., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 24), з ням. *sich melden* 'прадстаўляцца', *melden* 'паведамляць, дакладваць'. Відаць, хутчэй з польск. *meldować się* 'адзначацца'.

**Малідавацца**$_2$ 'мучыцца, перажываць цяжкасці' (лід., Сцяшк. Сл.). Няясна. Відавочна, узыходзіць да ням. разм. *malade* 'хворы', якое з франц. *malade* 'тс', *maladie* 'хвароба', 'страсць, манія', *maladif* 'хворы, нягеглы'.

**Маліза,** *маліса* 'меліса аптэчная, Melissa officinalis L' (гродз., Кіс.; міёр., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ), 'пахучая трава, якой націраюць вулей у сярэдзіне і зверху' (воран., З нар. сл., Сл. ПЗБ). З польск. *malesa, malisa* 'кацямятка кацiная, Nepeta cataria', якая з лац. *melissa,* запазычанага са ст.-грэч. μέλισσα 'пчала'.

**Мáлік**$_1$ 'след зайца' (Інстр. II). Да *малы* (гл.): *заяц малымі крокамі ідзе на жыроўку, а адтуль на новае лежбішча.* Параўн. рус. паўн.-усх. *малик* 'лыжня на снезе' — 'малы след' у адрозненне ад вялікага — *cáнный след* (Фасмер, 2, 563).

**Мáлік**$_2$ 'малады заяц' (гом., Мат. Гом.). Да *малы* (гл.): малады заяц (да 1 года ўзростам), значна меншы за старога. Аналагічна ўтвораны чэш. *malík* 'мезенец', ст.-польск. *malik* (XV ст.), ст.-славян. *mãlič* 'гном, нячысцік', 'д'ябал', *malík* 'рэха'. Не выключана сувязь зайца з міфалогіяй ці старажытнымі вераваннямі (параўн. Брукнер, 319).



**Малік** 'патыліца' (Нас., Растарг.), паўд.-усх. *мáлік* (КЭС), чачэр. 'карак у свінні' (Мат. Гом., Жыв. сл.). З укр. *малúк* 'тс', 'гарбун', якое з *гамалúк* 'карак'<тур. *hamallık* 'прафесія насільшчыка'<*hamal* 'насільшчык'>араб. *ḥammāl* 'тс' (ЕСУМ, 1, 464). Сюды ж і польск. *malik* 'хвароба коней і валоў: падскурныя гузы на шыі і лбе', *koń malikowaty* 'конь з праваленым, увагнутым хрыбетнікам'; 'нешчаслівы, фатальны' (Варш. сл., 2, 858).

**Малімонік,** *малімонічак, малімончык, малімуон* 'пястун, распешчаны', 'ахвочы да ласункаў, прысмакаў, 'пераборлівы ў ядзе', 'чалавек, які карыстаецца прывілеямі і злоўжывае імі' (Нас., Федар. 2; драг., З нар. сл., Нар. лекс.; КЭС, лаг.; Пан. дыс.), *малімонка* 'жанчына, разборлівая ў ежы', 'фанабэрыстая жанчына', 'пястуха' (Нас.; віл., Нар. сл.), *малімонтка* 'какетка' (в.-дзв., Сл. ПЗБ); *малімонікі* 'ласункі, пяшчота, абяцанкі' (Нас.), *малімоніць* 'песціць, як дзіцё', *малімоніцца* 'ўдаваць сябе за малога' (КЭС, лаг.), 'песціцца, як малыя дзеці, цырымоніцца' (Нас.), *малімон, марымон* 'пірог з гатунковай пшанічнай мукі', *марымоны* 'смачныя рэчы' (ТС). Польск. *malimończyk, marymontczyk* 'вучань колішняй сельскагаспадарчай і лясной школы ў мястэчку *Marymont,* (якое нібыта з франц. *Mariemont* 'гара Марыі') каля Варшавы, дзе быў і ўзорны млын, які малоў муку высокага гатунку'. Адсюль пазней значэнне 'печыва — далікатэс з марымонцкай мукі'> 'ласунак'>'той, хто есць ласункі, далікатэсы'>'паніч, белаpучка, пястун' (Варш. сл., 2, 890; Карскі, 1, 148; 2—3, 101; Марозаў, Пыт. мовазн. і метад., 161).

**Маліна,** *малíны, мальúна, малэ́нэ* 'маліна звычайная, Rubus idaeus L.', 'малíннік' (ТСБМ, Кіс., Бес., Касп., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ; драг., КЭС, міёр., Жыв. сл.), *маліница, малінушка* 'маліна' (Нар. Гом.; Кліх). Укр. *малúна,* рус. *малúна, малины,* польск. *malina, malinia,* палаб. *moleina,* н.-луж., чэш., славац. *malina,* в.-луж. *malena,* славен. *malína,* серб.-харв. *мàлина,* макед., балг. *малина.* Прасл. *malina,* першасным значэннем якога, паводле Скока (2, 363), было 'чарніцы', параўн. роднасныя і.-е. адпаведнікі: літ. *mẽlynas* 'блакітны', *mẽlyna* 'пляма', лат. *meĩns* 'чорны', ст.-прус. *mīlinan* 'пляму' (В. скл.), літ. *meĩsvas* 'сiняваты', ст.-грэч. μέλας 'чорны, цёмны', ст.-в.-ням. *ana-mâli* 'пляма, шрам, рубец', с.-в.-ням. *mâl* 'пляма', брэтон. *melen* 'жаўтаваты', лац. *mulleus* 'чырванаваты', ст.-грэч. μολύνω 'пэцкаю', ст.-інд. *malina-* 'запэцканы' — усе да і.-е. **mel(ə)-* 'цёмны, брудны, запэцканы' (Міклашыч, 181; Бернекер, 2, 12, Брукнер, 319; Фасмер, 2, 563; Скок, 2, 363; Бязлай, 2, 164; БЕР, 3, 627). Махэк$_2$ (349) адносіць гэту лексему да «праеўрапейскай» асновы **mōr-/mol.* Мартынаў (Тэзісы: Арэальные иссл.... Л., 1975, 24) выводзіць яе з прасл. *malъ*

'малы' — ягада складаецца з малых частак. Сюды ж *маліннік*, ігн. *маліняк* 'зараснік маліны', 'яе галінкі' (ТСБМ, ТС; любан., Нар. словатв.; міёр., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ), *малінавік, маліннік* 'пітво, настоенае на маліне' (Нас.); *малінавы(й)* 'цёмна-чырвоны' (Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС).

**Малінаўка**₁ 'заранка, Erithacus rubecula L.' (ТСБМ, БелСЭ, Мат. Гом.), рус. *малиновка* 'тс'. Да *маліна, малінавы* (гл.). Названа паводле чырвонага колеру брушка птушкі. Гэта значэнне і ў лац. *rubecula.*

**Малінаўка**₂ 'летняя яблыня з буйнымі ружовымі кісласалодкімі яблыкамі' (ТСБМ, Мат. Гом.), 'гатунак бульбы' (гом., Мат. Гом.) названа паводле чырвонага колеру. Да *маліна* (гл.). Аналагічна *малінаўка, маліноўка* 'малінавая хустка' (стараб., ДАБМ, к. 332; Касп., Сцяшк. Сл., Мат. Гом.).

**Малінэс** 'маянэз' (чачэр., Мат. Гом.). Скажоная форма з менай *й*>*л*'.

**Маліса,** *мяліса* 'кацямятка кацiная, Nepeta cataria L.' (брэсц. Кіс., Сцяшк., Бяльк.), *маліца* 'тс' (віц. Кіс., Бел. зельн.). Польск. *malisa, malesa, melisa* 'тс', якое з с.-лац. *melissa* 'меліса'<ст.-грэч. μελισσόφυλλον.

**Малістава́ць** 'вельмі старанна, моцна прасіць' (Шат.), укр. гуц. *молиститися* 'прасіцца'. Паланізм. Параўн. польск. *molestować* 'набрыдаць сваімі просьбамі, надакучваць', якое з лац. *molestāre* 'абцяжарваць, турбаваць, непакоіць, набрыдаць'.

**Маліта́н** 'бумазея', *маліта́навы* 'бумазейны (Шат.). З франц. *molleton* 'тканіна мальтон', магчыма, праз польск. мову, дзе, аднак, адпаведнік *molton* — 'мультан, касматая з абодвух бакоў тканіна, якая ўкладваецца, напрыклад, паміж тканінай і падшыўкай парцьеры'. Параўн. таксама бел. *мультан* (гл.) і польск. *multan* 'гатунак вельмі мяккай ваўнянай тканіны'.

**Малітаўка** фалда' (Касп.). Няясна.

**Малітва** 'маленне', 'тэкст, які чытаюць веруючыя, звяртаючыся да бога ці святых' (ТСБМ, Яруш.). Укр., рус. *молитва*, польск., н.-і в.-луж. *modlitwa*, чэш., славац. *modlitva*, славен. *molítva, molítev, molîdva, molîdev*, серб.-харв. *мо̀литва, молитав*, макед., балг. *молитва.* Прасл. *modlitva* 'звяртанне, просьба да бога, абяцанне'. Да *маліцца.* Сюды ж *малітвеннік* 'кніга з малітвамі', якое, відаць, з ц.-слав. мовы, бел. *малітоўнік* 'тс', *малітвавацъ* 'уводзіць маці пасля родаў у царкву з малітвай' (Нас.), *маліцьвіць* 'маліць, упрошваць' (Бяльк.).

**Ма́ліцца** 'паводзіць, уяўляць сябе як малое дзіця' (Янк. 3, Нас., КЭС, лаг.), 'змяншаць гады' (пух., З нар. сл.; віл., Жыв. сл.), *ма́ліць* 'прадстаўляць малым, змяншаць' (Нас., Касп.), *маліцца* 'прыкідвацца малым' (ТС). Укр. *маліти* 'змяншацца', *малитися* 'рабіцца меншым', 'паводзіць сябе па-дзіцячаму', рус. *ма́лить* 'змяншаць', ст.-рус. *малити* (XIII ст.). Польск. *maleć* 'змяншацца, станавіцца малым, меншым', чэш. *máliti se* 'значна змяншацца', славац. *maliť sa* 'тс', серб.-харв. *ма́лити*, макед. *мали се*, балг. *малея.* Прасл. *maliti* 'змяншаць, рабіць меншым'. Бел.-укр. ізасема. Да *малы́* (гл.).



**Маліцца** 'звяртацца да бога, святых', 'вельмі моцна прасіцца', 'абагаўляць', 'дагаджаць' (віл., Сл. ПЗБ), *малі́ць* 'надта прасіць, умольваць' (ТСБМ, Нас., Шат., Яруш.; КЭС, лаг.), браг. *маліць* 'маліцца' (Мат. Гом.). Укр. *моли́тися* 'маліцца', *моли́ти* 'маліць, упрошваць', рус. *молиться* 'маліцца, чытаць малітву', 'прасіць', 'пераканаўча, настойліва прасіць', польск. *modlić (się)* 'маліцца', 'моцна прасіць', н.-луж. *modliś se* 'маліцца', в.-луж. *modlić so* 'тс', 'дагаджаць', чэш. *modliti se* 'маліцца', 'абагаўляць каго-небудзь', славац. *modliť sa* 'маліцца', славен. *móliti, mȍdliti,* серб.-харв. *мо̀лити*, макед. *моли,* 'прасіць літасці', *моли се* 'маліцца', балг. *моля* 'прашу', *моля се* 'малюсь', ст.- слав. **молити.** Прасл. *modliti* 'прасіць, звяртаючыся да багоў, прыносячы ім ахвяру', 'ахвяраваць'. І.-е. адпаведнікі: балт. (тут заканамерна *-ld-*, у той час як у прасл. мове яшчэ да метатэзы *tolt/trat* адбылася мена *ld*>*dl* з прычыны аманіміі з групай слоў *moldъ* 'малады'): літ. *maldà* 'просьба', *maldýti* 'маліць, упрошваць', *mel̃sti* 'прасіць', 'маліцца', хецк. *maltāi* 'прасіць, гаварыць', арм. *malthem* 'упрошваю', ст.-в.-ням. *melda* 'плёткі', *meldôn* 'заяўляць', і.-е. **meldh-* 'рытуальная прамова ў богаслужэнні' (Покарны, 722; Міклашыч, 119; Бернекер, 2, 65; Фасмер, 2, 642; Махэк₂, 371—372; Скок, 2, 451—452; Бязлай, 2, 193). Прасл. *modliti* пранікла ў прагерм. *mapljan* 'заклікаць, звяртацца з урачыстай прамовай, абяцаць' (Мартынаў, Лекс. взаим., 170—172).

***Малк,** *змáлку* 'з дзяцінства' (Яруш., ТСБМ). Узыходзіць да формы Р. скл. прасл. *malъkъ* 'малы, малады' з прыназоўнікам *з*<*malъ*>*малы́* (гл.). Параўн. балг. *малък,* в.-і н.-луж. *małki* 'малы', якія сталі прыметнікамі (з суфіксам *-jь*), чак. *málko* 'мала'.

**Ма́лка**₁ 'невялікая колькасць' (Інстр. III), 'малютка' (Нас., Шат.), 'малая дзяўчына' (мазыр., Мат. Гом.), 'нізкарослая дзяўчына' (драг., КЭС), 'малая булачка з рэшткаў цеста ў дзяжы' (паўд.-усх., КЭС). Рус. *ма́лка* 'меншы брат ці сястра', 'эй, малец!', пск., цвяр. 'маларослая дзяўчына'; серб.-харв. *малка* 'імя курыцы', балг. *ма̀лката* 'эй, дзяўчынка!' Відаць, з прасл. *malъka.* Да *малы́* (гл.).

**Ма́лка**₂ 'навугольнік рухомы, які можна ставіць пад любым вуглом' (Інстр. II), рус. алан. *ма́лка* 'мерка ў сталяроў'. Запазычана з рус. мовы, у якую прыйшло з галан. *mal* 'вымяральны інструмент' (Фасмер, 2, 563). Параўн. таксама швед. *mall* 'шаблон, контур', 'лякала'.

**Малмыгава́ты** 'няветлівы, негаваркі' (навагр., Сцяшк. Сл.). У выніку распадабнення з $^{+}$*мурм-ыга* 'буркун', якое ў аснове — балтызм. Параўн. літ. *mùrma* 'бурлівы'.

**Малмы́гі**$_1$ 'скулы на твары' (стаўб., З нар. сл.). Балтызм. Параўн. літ. *malmuõ* 'камень', 'почка'.

**Малмы́гі**$_2$ 'вялікія ногі' (навагр., Нар. словатв.). Балтызм. Параўн. літ. *melmuõ* 'сцягняк', *mélmenys* 'тс'.

**Ма́лна,** *ма́льна, ма́льне* 'мала што, малаважна', 'амаль, трохі, зусім мала' (Нас., Нар. Гом.), *ма́лны* 'малы', малнасць 'малаважнасць', 'нямнога' (раг., Нар. Гом.; горацк., ҚЭС; Нас.). Рус. смал., наўг. *ма́лность* 'невялікая колькасць', *ма́льный* 'няважны, нязначны, дробязны', серб.-харв. *мȁлан* і *мȁлен* 'малы, маленькі'. Утворана ад *малы* і суф. *-ъn/-ьn* (як *касны́* 'касы'). Гом. *мальне* Казлова (БЛ, 21, 61—62) уключае ў лік бел.-серб.-харв. ізалекс і лічыць яго трансформай прасл. *malone*. Неімаверна. Значэнне 'чуць не' не адзінае ў гэтай лексемы (гл. вышэй). Параўн. аналагічна ўтворанае літ. *mažnè* 'амаль не, трохі'.

**Мална́**$_1$ 'татарскі мула' (Шат.), 'той, хто многа гаворыць' (шальч., воран., трак., Сл. ПЗБ). З літ. *malnà* 'тс' < *málti* 'малоць' (Грынавяцкене, там жа, 3, 25; Liet, tarm., 182).

**Мална́**$_2$ 'бліскавіца' (ігн., Сл. ПЗБ). Рус. валаг. *мо́лня* 'тс'. Да *маланка*$_1$ з *маладня* (гл.).

**Малод** 'малады' (у песні) *...не жаніцца малод дзеціначцы...* (навагр., ҚЭС). Да *малады́* (гл.). Захавалася архаічная форма кароткага прыметніка з прасл. *moldъ* 'тс'.

**Малоджай,** *маложай, маложый, маложа, мало́жэ* 'маладзейшы, маладзейшыя сярод іншых' (Ян.; лудз., трак., брасл., Сл. ПЗБ). Старажытныя формы вышэйшай ступені кароткіх прыметнікаў м. р. (на *-jьs*>*-ы*, падвержаныя ўплыву форм н. р. (без *-й*), ст.-рус. *моложе*. Да *малады́* (гл.).

**Малодзіва,** *мало́дзіво, моло́дзво, моло́дзьво, малодзьва* 'малако непасрэдна перад і адразу пасля родаў, цялення' (ТСБМ, Сцяшк., Шат., Қасп., Бяльк., Сцяц., Сл. ПЗБ; карэліц., Нар. лекс.), *малозіва, моло́зыво* (слаўг., чав., Мат. Маг.; Грыг., Бяльк.; полац., Нар. сл.; красл., астр., трак., Сл. ПЗБ; Бес., Вешт., Ян.), *малодзіла* 'тс' (шкл., Мат. АС). Укр. *молозиво*, рус. *молозиво;* польск. *młodziwo, młozawo, mleziwa* ад *młody* 'малады', чэш. *mlezivo,* славац. *mledzivo,* славен. *mlézivo, mléziva,* серб.-харв. *mljȅza, mȉzivo.* Прасл. *melzivo* 'салодкае малако' (гл. Вештарт, Бел. лекс., 23—24), якое з *melg'-/molg'-* 'даіць' (ст.-рус. *мълсти* 'збіваць масла', *млѣсти* 'даіць', славен. *mlẽsti, mólsti,* серб.-харв. *му̏сти,* макед. *молзе,* балг. *мъ́лзя́.* І.-е. адпаведнікі: літ. *mìlžti, mélžti, malžýti,* лат. *malazenš, molozejs* 'малодзіва', ст.-в.-ням. *mëlhan* 'даіць', гоц. *miluka* 'малако', ірл. *bligim* 'даю', ст.-грэч. ἀμέλγω, алб. *mjel,*



лац. *mulgeo,* тахар. AB *malk-, mālk-* *'даіць(-ца)'*, ст.-інд. *mr̥játi, mā́rṣti, mārjati* 'чысціць', авест. *marəzaiti* 'мые' (Мее, MSL, 17, 60; Міклашыч, 187; Бернекер, 2, 73; Траўтман, 178; Фасмер, 2, 644—645; Скок, 2, 488—489; Бязлай, 2, 189 і 194; Мартынаў, Этимология-1968, 20). Абаеў (Этимология-84, 14) мяркуе, што рус. форма *молозиво* з'яўляецца «чыста» славянскай, а *melz-* утварылася ў выніку перакрыжавання (з германск. *melk-*) ізаглосы. Гук *-дз-* пад уплывам польск. мовы.

**Малодка,** *моло́дка* 'маладзіца, маладуха' (ТСБМ, Мат. Гом., Бяльк., ТС), *малодачка* 'тс' (Қліх, Нар. гом.). Рус. *моло́дка* 'маладзіца, жанчына, якая нядаўна замужам', 'нявеста', ст.-рус. *моло́дка* 'тс'. Польск. *młódka* 'маладзіца', 'маладая (на вяселлі)', 'галаўны ўбор маладой'. Паўн.-слав. *moldъka* 'маладзіца', 'маладая самка' (з экспрэсіўным значэннем) з суф. *-ъka,* які мае адпаведнік *-ъkъ* для ўтварэння назоўнікаў м. р.: польск. *młodek* 'малады бычок', чэш. *mládek* 'вучань мельніка, піваварa', 'сябар маладога'. Да *малады́* (гл.).

**Малодуха** 'маладзіца' (пруж., Сл. ПЗБ). Да *маладу́ха* 'маладзіца', 'маладая на вяселлі', драг. *молоду́ха* 'тс', укр. *молоду́ха* 'маладая на вяселлі', рус. *молоду́ха* 'маладзіца', 'маладая жонка', 'дзяўчына', 'нявеста', 'нявестка', ст.-рус. *молодушка* 'маладая замужняя жанчына'; польск. *młoducha,* чэш. *mladucha* 'маладзіца', 'нявеста', славац. *mladucha* 'маладая перад вяселлем і ў час яго'. Прасл. *molduxa,* цэнтрам арэалу пашырэння якога з'яўляецца бел. моўная тэрыторыя. Да *малады́* (гл.).

**Малодушка,** *моло́душка* 'авечка, якая ўпершыню акацілася' (беласт., Сл. ПЗБ), драг. 'маладая курыца, якая пачынае несціся' (Сл. ПЗБ), *малодушкі* 'падрослыя кураняты' (лельч., ДАБМ, к. 296). Рус. наўг., цвяр., арханг. *моло́душка, молоду́шка* 'маладая курыца', *малодка* 'маладая курыца', 'маладая кабыла', 'маладая авечка', 'карова, якая ацялілася першы раз', польск. *młódka* 'самка, якая яшчэ не раджала', 'кабыла, якая ажарабілася першы раз', 'маладая курапатка'. Да *малодка* (гл.).

**Маложа,** *маложы* 'малады лес, зараснік' (паўн.-усх., ҚЭС; Қасп.). Рус. *моло́жа* 'малады бярэзнік, лес на месцы вырубкі, пажару', наўг. 'участак будаўнічага хвойнага лесу'. Бел.-рус. ізалекса, найбліжэй да якой па форме чэш. *mláza,* славац. *mladza* 'атава'. Да прасл. *mold-ja.* У іншых слав. мовах варыянт з суфіксам *-jь:* польск. *młódź,* чэш. *mláz,* серб.-харв. *млāђ, mlaz* 'вусікі ў вінаграднай лазе', 'тс', н.-луж. *młoź* 'маладыя парасткі, параснік'.

**Маложавік** 'баравік' (Қасп.), бешан. *мало́жъвік* 'абабак' (Нар. сл.). Утвораны ад назвы лесу *маложа* (гл.) Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 243). Аналагічна *баравік.*

**Малоец** 'паважаны малады чалавек, хлопец' (КЭС, лаг.). Укр. *молодець,* рус. *молодец,* славен. *mládec,* серб.-харв. *mladac* 'тс', 'жанаты малады мужчына', *mlaci* 'маладыя (на вяселлі)'. Да прасл. *mold-ьсь.* Аб мене *-дз->-й-* гл. Карскі, 1, 351.

**Малойца** 'хлопец' (навагр., Сл. ПЗБ). Бел. рэгіяналізм. Да *маладзец* (гл.). Суфікс *-ца* пад уплывам польск. мовы (Карскі, 2—3, 32). Гл. таксама *малоец.*

**Малойчык** 'малады чалавек, хлопец', 'маладзец' (Касп.) *(пагардж.)* 'чалавек амаральных паводзін, які заслугоўвае асуджэння' (ТСБМ, Нас., Растарг.), 'жаніх' (віл., З нар. сл.). З *малодчык,* якое з *маладзец* (гл.). Аб пераходзе *-дч-, -тч-* у *-й-* гл. Карскі, 1, 351. Значэнне 'чалавек амаральных паводзін' запазычана з рус. *молодчик* 'тс'.

**Малокі** 'малако, якое адбіраюць ведзьмы ў каровы' (мядз., Жыв. сл.) — мн. л. да *малако* (гл.).

**Малонка,** *малоння, малонушка* 'бліскавіца' (мін., Шн. 2; Ян.; гродз., Шн.). Да *маланка*$_1$ (гл.). Націск, як у *маланка,* на другім складзе. Параўн. ст.-рус. *молóнья (малáнья)* 'маланка'.

***Малосей,** палес. *молóсей* 'малако ў рыб' (Крыв.). Да *малачáй*$_7$ (гл.). Другая частка слова *-сей* пад уплывам народнай этымалогіі ад *сеяць* (насенне)>'сеяць семя ў час нерасту'.

**Малотнік** 'малацьбіт' (карм., Мат. Гом.). Укр. *молóтник* 'тс', ст.-рус. *молотникъ* 'малатабоец', польск. *młotnik* 'каваль'. Да *малаціць* (гл.). Суфікс *-нік* далучаецца да асновы дзеяслова без суфіксальнай галоснай (як *лётчык,* польск. *lotnik* 'лётчык').

**Малóтно** 'ўмалотна, наяўнасць умалотнага збожжа' (Кліх). Да *ўмалотны* (гл.).

**Малоць,** *молóтэ, мулóты* 'раздрабняць, размолваць зерне ці што-небудзь іншае', 'церці, раздрабняць мак, мяса', 'балбатаць', 'ілгаць' (ТСБМ, Шат., Бяльк., Яруш., Сцяшк., Сл. ПЗБ; Совещ. ОЛА (Гомель, 270)), міёр. 'хутка есці' (Нар. лекс.). Укр. *молóти,* рус. *молóть,* польск. *mleć,* н.-луж. *mlaś,* в.-луж. *mlěć,* чэш. *mlíti,* славац. *mliet',* славен. *mléti,* серб.-харв. *млѐти* 'размінаць, давіць', 'пэцкаць', 'малоць', макед. *меле,* балг. *мéля,* ст.-слав. **млѣти.** Прасл. *melti* 'расціраць зерне рукамі на камені' роднаснае да літ. *málti,* лат. *mal̃t,* літ. *malū̃nas,* ст.-прус. *malunis* 'млын', літ. *mìltai,* лат. *milti,* ст.-прус. *meltan* 'мука'; лац. *molere,* гоц., ст.-в.-ням., ст.-н.-ням. *malan,* ст.-ірл. *meltim* 'мялю', ст.-грэч. *μυλών* 'млын', *μύλλω,* арм. *malem* 'таўку, расціраю', хецк. *malanzi* 'раздрабняюць', алб. *mieli* 'мука' (Міклашыч, 186; Бернекер, 2, 35; Траўтман, 168; Фасмер, 2, 597; Фрэнкель, 403; Махэк$_2$, 368—369; Скок, 2, 444; Бязлай, 2, 189).

***Малоч,** палес. *молóч* 'малако ў рыб' (Крыв.). Польск. *mlecz* 'тс', серб.-харв. *млѐч.* Прасл. *melčь/molčь.* Да *малако* (гл.)



**Малочлівы** 'ўдойны, малочны' (Нар. Гом.). Укр. *молочливий* 'тс'. Да *малако* (гл.). Аб суфіксе *-лів-* гл. Бел. грам.$_2$, 1, 303.

**Малочная** *Дарога* 'Млечны Шлях' (Техника молодежи, 3, 1984), укр. *Молочний Шлях,* рус. *Млечный Путь,* цвяр. *Молочная Дорога* 'тс', польск. *Droga mleczna, Droga mleczowa,* чэш. *mléčná dráha,* славац. *mliečna cesta,* славен. *mlẹ́čna cesta,* серб.-харв. *mlȉječni put,* макед. *Млечен пат,* балг. *Млечен пѫт,*— усе з'яўляюцца адпаведнікамі лац. *via lactea* (Купішэўскі, Słownictwo, 102—103).

**Малочнік**$_1$ 'мужчына, які прадае малако і малочныя прадукты' (ТСБМ), укр. *молóшник,* рус. наўг., варон. *молочник,* польск. *mlecznik* 'тс'. Відаць, наватвор. Больш старое *малочніца,* рус. і ст.-рус. *молóчница* 'жанчына, якая прадае малако'. У гаворках лексема вядома з іншым значэннем: ахвотнік да малака' (ТС), 'жанчына, якая любіць усё малочнае'. Параўн. 'тс' у рус. варон. *молочник.* Да *малако* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 161, 162.

**Малочнік**$_2$ 'збаночак, у якім малако падаецца на стол' (ТСБМ), ігн. 'гарлач (без ручкі)' (Сл. ПЗБ), польск. *mlecznik,* славац. *mliečnik,* чэш. *mléčnice* 'тс'; чэш. *mléčník,* серб.-харв. *mliječnica* 'памяшканне, дзе знаходзіцца малако'. Да *малако* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 162.

**Малочнік**$_3$ 'асот агародны, Sonchus oleraceus L.' (усх.-маг., Кіс.; ушац., Жыв. сл.), *асот малочны* 'тс' (гом., Кіс.). Рус. пск., цвяр., маск. *молочник* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса. Да *малочны* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 163.

**Малочнік**$_4$ 'малачай-сонцагляд, Euphorbia helioscopa L.' (Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ; маг., Кіс.; міёр., Жыв. сл.). Укр. *молочник досонечний,* рус. *молочник,* польск. *mlecznik,* славац. *mliečnik.* Паўночнаславянскае. Да *малако* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 163.

**Малочнік**$_5$ 'адуванчык, Taraxacum officinalis Wigg.' (Сл. ПЗБ). Укр. *молóчник, молóшник,* рус. *молóчник,* чэш. *mléčník* 'тс'. Да *малако* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 163.

**Малочнік**$_6$ 'грузд перцавы, Lactarius piperatus' (ушац., Жыв. сл.; уздз., Нар. словатв.), 'грузд жоўты, Lactarius scrobiculatus' (пруж., Нар. словатв.). Рус. пск., ленінгр., перм. *молóчник* 'тс'. Бел.-рус. ізалекса. Да *малако* (гл.).

**Малочнік**$_7$ 'самец рыбы ў перыяд нерасту' (полац., З нар. сл.). Укр. зах. *молочник* 'рыба-самец', рус. пск., свярдл. *молочник* 'рыба з малокамі'. Усходнеславянскае. Да *малако* (гл.).

**Малочнік**$_8$ 'першы зуб у дзіцяці' (круж., Мат. Маг.), *малочнікі* 'малочныя зубы' (Ян.). Рус. бран., наўг., кастр. *молочник,*

чэш. *mléčník,* макед. *млечник* 'малочны зуб'. Прасл. *melčnikъ/ molčnikъ* 'тс'. Да *малако* (гл.).

**Малочнік**$_9$, *малошнік* 'эпілепсія, Eclampsia' (Касп.). Да *малако* (гл.). Названа паводле колеру белай пены-сліны, якая вылучаецца ў час прыпадку.

**Малочніца**$_1$ 'малачай-сонцагляд, Euphorbia helioscopia L.' (віц., Кіс.). Да *малако* (гл.). Параўн. таксама *малочнік*$_4$. Мена роду магла адбыцца пад уплывам лац. назвы Euphorbia (ж. р.).

**Малочніца**$_2$ 'мастыт' (навагр., Нар. сл.), 'захворванне слізістай абалонкі рота ў немаўлят' (ТСБМ), рус. сіб., каўказск. *молочница* 'мастыт', арханг. 'малочныя зубы ў дзяцей', польск. *mleczníca* 'ліхаманка стрававальных шляхоў'. Да *малако* (гл.), *малочны.* Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 111 і *ламавіца.*

**Малочня,** *малошня* 'маслазавод' (хойн., Мат. Гом.; Бяльк., Мат. Маг.). Рус. калін. *молочня* 'сырзавод'. Бел.-рус. ізалекса. Утварылася з *молочная клѣть (>молочная>молочня).*

**Малочык** 'малойчык' (касцюк., Бяльк.). З *малодчык>малоччык.*

**Ма́лпа,** *ма́ўпа* 'млекакормячая жывёліна, блізкая (паводле будовы цела) да чалавека' (ТСБМ, Нас., Мядзв., Др.-Падб.), драг. *на́ўпа* 'тс' (КЭС), ст.-бел. *малпа* (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *małpa* 'тс', якое з с.-в.-ням. *mūlaffe* (Брукнер, 320; Булыка, Лекс. запазыч., 145; Кюнэ, 75), Варш. сл. (2, 866) прыводзіць яшчэ ням. *mulop, mulape,* якія былі запазычаны ў польск. мову.

**Малы́,** *малэ́й* 'невялікі', 'нязначны па колькасці', 'меншы, чым патрэбна', 'кароткі', 'слабы', 'неістотны, нязначны', 'малалетні' (ТСБМ, Яруш., Шат., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС; драг., КЭС), *Малы Воз* 'Малая Мядзведзіца' (паст., Сл. ПЗБ), *малое* 'дзіця' (Нас., Шат.). Ст.-бел. *малъ, малый* 'невялікі, дробны, невысокі', 'малады, малалетні', 'кароткачасовы', 'малапрацяглы', 'колькасна нязначны, небагаты', 'нікуды не варты, нязначны', 'ледзь прыкметны, слабы'. Укр. *малий,* рус. *ма́лый, мало́й,* польск. *mały,* палаб. *molĕ,* н.-і в.-луж. *małki,* в.-луж. *mały,* чэш., славац. *malý,* славен. *mâli, mál,* серб.-харв. *мâо,* макед. *мал,* балг. *малък,* ст.-слав. **малъ.** Прасл. *malъ* 'малы, невялікі'. Самымі блізкімі і.-е. паралелямі з'яўляюцца ст.-в.-ням. *small,* ням. *schmall* 'вузкі', 'тонкі', 'бедны', *smalaz vihu* 'дробная скаціна', гоц. *smals* 'малы, нязначны', ст.-грэч. μῆλον 'дробная скаціна, авечкі', ірл. *míl* 'жывёла', лац. *malus* 'дурны, благі' (з 'малы, недастатковы'), а таксама франк. *māla* 'карова', гал. *maal* 'цялушка', ст.-ісл. *smale* 'дробная скаціна',— і.-е. **(s)mōl-/*(s)mēl* 'дробная скаціна' (Бернекер, 2, 13; Голуб-Копечны, 215; Брукнер, 320; Махэк$_2$, 349; Фасмер, 2, 564; Бязлай, 2, 163—164). Скок (2, 375) дапускае гукаперайманне як крыніцу разглядаемай лексемы. Мартынаў (Балто-слав.-итал. изогл., 30) мяркуе аб пранікненні іт. *malos* у зах.-балт. арэал.



**Малы́ш** 'маленькі хлопчык, дзіця, малы ростам' (ТСБМ), *малы́шка* 'малютка' (Нас.). Укр. *мали́шко* 'тс', рус. *малы́ш,* серб.-харв. *малûш, малиш* 'тс'. Прасл. *mališь* 'малы чалавек' (Слаўскі, SP, 1, 77).

**Маль** 'малеча' (ТС), укр. *маль* 'маладыя авечкі', польск. *mal-mal-mal* 'падзыўныя для парасят'. Паўн.-слав. *mal'ь.* Да *малы́* (гл.).

**Мальба́** 'вельмі моцная просьба' (ТСБМ), рус. *мольба́,* укр. *мольба́,* ст.-рус. *мольба* 'тс', 'малітва', серб.-харв. *мȍлба* 'просьба', 'заява', макед. *молба,* балг. *молба́.* Прасл. *molьba* (Слаўскі, SP, 1, 61). Да *малі́ць* (гл. *малі́цца).*

**Мальбоніць** 'прасіць, упрошваць' (КЭС, лаг.). Да *мальба́* (гл.). Суфікс *-он-* мае шматразова-экспрэсіўнае значэнне.

**Мальбоны** 'лаянка' (Юрч.). Скажоная форма слова *малéбны.* Параўн. рус. цвяр. *молéбны служить* 'сварыцца'. Перанос значэння: 'павучанні'>'лаянка'.

**Ма́льва**$_1$ 'мальва кучаравая, Malva crispa L.', 'мальва лясная, Malva silvestris L.' (гродз., Кіс., Яруш.). Новае кніжнае запазычанне з польск. *malwa* 'тс' ці з рус. *мальва,* якія з ням. *Malve* або непасрэдна з лац. *malva*<ст.-грэч. μαλάχη 'тс'.

**Ма́льва**$_2$ 'шток-ружа, Alcea rosea L.' (брэсц., Кіс.; Сцяшк.). З польск. *malwa* 'тс'.

**Мальга́** 'дробная рыбка' (брасл., бярэз., докш., Сл. ПЗБ), *мальгва́, мыльгва́, мальгвéча* 'рыбныя маляўкі', 'маладняк увогуле', 'дробная неўрадлівая бульба, плады, ягады', 'малеча, дзеці' (Нас., Бяльк.; Яшк., З жыцця; слаўг., Яшк., Мат. Маг.), *мальго́ўка* 'маляўка' (Нас.), *мальва́* 'тс' (Ян., Растарг.), *ма́льгва* 'дробязь, глупства' (Бяльк.). Укр. *мільга́,* паўн.-жытомірск. *мôл'га́* 'верхаводка, Alburnus alburnus L.', 'малькі'. Рус. *мальва́, мальга́* 'дробная рыба', 'дзеці, малеча', 'малодшы сын', 'дробныя грошы', *мальга́вка, мальгва́* 'дробная рыба'. Усходнеславянскі балтызм. Параўн. літ. *malė̃* 'дробныя рыбкі', лат. *male* 'рыба Blicca argyroleuca' (Мюленбах-Эндзелін, 2, 557). Утвораны пры дапамозе суфікса *-'га* (напр., *сіньга́* 'від рыбы') і суфікса *-ва* (напр., *дзятва́, братва́)* або ў выніку кантамінацыі лексем *мальга́* і *мальва́.* Параўн. таксама бел. *моль*$_3$, *молька,* рус. *моль, мольва, мольга́, моля́ва* 'малькі', 'дробная рыбка', *моль* 'моль'.

**Мальдава́цца**$_1$ 'адзначацца' (карэліц., Нар. словатв.). З польск. *meldować się* 'тс'.

**Мальдава́цца**$_2$ 'прыбірацца, упрыгожвацца' (Крыў., Са сл. Дзіс.). Няясна. Магчыма, роднаснае да *мадыравацца*$_1$ (гл.).

**Мальём** 'шарашом, молем' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), рус. *маль, ма́лем* 'тс'. Параўн. *мальё* 'расколатыя плахі (дубовыя) для

дробных работ'. Утворана ад *маль* (<прасл. *malь*<*malъ*). Да *малы* (гл.). Параўн. таксама *моль*$_2$.

**Мальжына́,** *мальжынка́* 'дробная рыба' (брасл., Сл. ПЗБ). Да *мальга́* (гл.).

**Малька́ч** 'мянтуз' (навагр., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, табуістычная назва ад *малёк*$_1$. Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 149—150.

**Ма́лькі** 'малюсенькі' (лельч., Нар. лекс.). Да прасл. *mal'ь* 'нешта малое', якое існавала побач з *malъ*>*малы* (гл.). Аб суфіксе *-k-* гл. Бел. грам.$_2$, 1, 304. Параўн. польск. *malmalki* 'малюсенькі', балг. *малькиль, малькин, малькет мяшъц* 'люты', *мальки прусурки (уйлешки, месчинки, кулца, копънчета, чукънчита)* 'віды ткацкіх узораў'. Не выключаны ўплыў польск. *wielki* 'вялікі' на памякчэнне *-л-*. Параўн. луж. *małki,* балг. *малък* 'малы'.

**Ма́льскі** 'амаль цэлы, які мала чым адрозніваецца ад цэлага' (Нас.), *ма́льскій* 'малы' (Юрч. Фраз. 3). Рус. *мальски* 'ледзь-ледзь', *мало-мальски* 'хоць трохі', 'больш-менш', *маломальский* 'самы малы, самы нязначны'. Бел.-рус. ізалекса. Можа быць утворана і ад *мале́с-ы* (гл.) пры дапамозе суфікса *-къ*. Параўн. таксама серб.-харв. рэдуплікацыі *mȁlomanj* 'амаль не, амаль', *malàmalo* 'мала', літ. *mãžmožis* 'крыха, самая дробязь'.

**Ма́льства** 'маленства' (Жд. 1), рус. *ма́льства, ма́льство* 'дзяцінства'. Бел.-рус. ізалекса. Да прасл. *malь (зб.)* 'малыя' (параўн. *маля́*). Утворана пры дапамозе суфікса *-ьstvo* (як і абстрактны зборны назоўнік *dětьstvo* 'дзяцінства').

**Мальсабінка** 'від хатняй расліны, якая цвіце невялікімі чырвонымі кветкамі' (докш., Янк. Мат.). У выніку перастаноўкі *м...б* з *б...м.* Параўн. віл. *бальсавінка* (Сл. ПЗБ) з *бальзамінка*<*бальзамін* 'расліна Impatiens balsamina Desp.'

**Мальта́н** 'цёплая тканіна з бавоўны', *мальта́нка* 'хустка с такой тканіны' (КЭС, лаг.). З польск. *multan* 'сорт вельмі мяккай баваўняная тканіны', якое з франц. *molleton* 'тс'. Гл. таксама *малітан, мульт.*

**Мальха́ч** 'ляўша' (беласт., Сл. ПЗБ). Ад польск. ${}^{+}$*mańkacz*<*mańkat* 'тс'<*mańka* 'левая рука'<італ. *manca* 'левая'< лац. *mancus* 'калека'.

**Мальчаня́** 'хлапчына' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Беларускае. Да прасл. *mal'ьčę* (з дэрыватам *-ан-*<прасл. *-ęt-*).

**Мальчонак** 'хлапчына' (в.-дзв., Сл. ПЗБ; ушац., Пан. дыс.). Рус. *мальчонок.* Паўн.-бел.-рус. ізалекса. Да прасл. *mal'ьčę*< *mal'ьсь*>*ма́лец* (гл.).

**Мальчу́га** 'дзяцюк' (Нас.), *мальчуга́* 'хлапчына' (воран., Сл. ПЗБ), *мальчуга́н* 'даволі вялікі дзяцюк' (Нас.), *мальчу́жка* 'хлопчык' (Нас.) — запазычаны з рус. мовы (Даль, 2, 764). Аналагічна *мальчы́шча* 'вялікі дзяцюк' (Нас.). Паўн. рус. наўг. *(грэбл.) мальчи́ще* 'падлетак, хлопчык'.



**Мальчу́к** 'хлапчук' (бешан., Нар. сл.; ушац., Пан. дыс.), рус. кубан. *ма́льчук* 'мальчик'. Усходнеславянскае. Утворана ад *ма́лец* (гл.) пры дапамозе суфікса *-ук.*

**Ма́льчык** 'хлопчык' (лудз., Сл. ПЗБ; ушац., Пан. дыс.), *малчык* (Растарг.), *мальчы́шка* 'хлапчук, хлопчык' (в.-дзв., Сл. ПЗБ, Бяльк.), *мальчы́шачка* 'тс' (Растарг.). З рус. *мальчик, мальчишка.* Параўн., аднак, ст.-серб.-харв. *malьсikъ* 'тс' (у Дзечанскай дароўнай грамаце).

**Ма́льчыцца** 'дзяцініцца' (Нас.). Адпрыметнікавае ўтварэнне. Да *ма́лькі* (гл.). Параўн. таксама *мале́ць.*

**Мальчэк** 'слупок у калаўроце, які служыць для падтрымання рагаткі' (барыс., Шатал.). Рус. ёнаўск. (ЛітССР) *ма́льчик* 'прыстасаванне, у якое ўстаўляецца шпулька з пражай пры перамотванні', кубан. 'драўляны стрыжань, злучаны з верацяном (у млыне)'. У выніку семантычнага пераносу паводле падабенства ад *ма́льчык* 'хлопчык'. Параўн. аналагічны перанос лексемы *дзед* 'апорны слуп у гаспадарчым будынку', 'лучнік, светач', 'прыстасаванне для трапання льну', 'прыстасаванне, у якое ўстаўлялі матавіла' (Сл. ПЗБ).

***Малю́га,** молюга 'маляўка, дробная рыбка' (Крыв., стол., Нар. лекс.). Да *моль*$_3$ і *мальга́* (гл.).

**Малю́ка** 'аловак' (Сцяшк.). Утварэнне ад *малява́ць* з суфіксам *-ка,* як *ваяваць*>*ваяка.* Не выключана, што паходзіць з *малёўка* (гл.).

**Малюкі** 'маляўкі рыбы' (ТС), рус. калін. *малюк* 'тс'. Да *малы* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 129.

**Малю́нак** 'карціна, ілюстрацыя, рысунак' (ТСБМ), 'усё, што намалявана' (КЭС, лаг.). З польск. *malunek,* якое з *malować* (>*малява́ць*) і суфікса *-unek* (<ням. *-ung*). Сюды ж *малюнковы* 'каляровы' (лід., Сцяшк. Сл.).

**Малю́панькі,** *малюпа́ценькі, малюпа́сенькі, малюпу́ценькі, малюпу́ленькі, мале́пенечкі, мылюпа́ціwhereкій, малюпа́сенечкій, малюпа́хенькій, малюпа́ткій, малюпа́ткі, малюпатэнькі* 'вельмі, вельмі-вельмі маленькі' (Ян., ТС, Шат., Яруш., Нас.; брасл., Сл. ПЗБ, мсцісл., Нар. словатв., хоц., Мат. Маг.), *малюпа́тка, малюпа́тачка* 'малютка' (Нас.). Рус. варон. *малюпонький* 'вельмі маленькі', польск. *malupasieńki, maciupuleńki,* серб.-харв. *mȁlapacan, mȁlapašan* 'тс'. Да *малы́* (гл.). Суфікс з апорнай зычнай *-п-,* даволі рэдкі ў слав. дэрыватах, відавочна, адносіцца да прасл. мовы і суадносіцца з літ. *-opas.* Элемент *-ю-(-'у-)* у даных лексемах з'яўляецца характэрным для паўн.-слав. тэрыторыі.

**Малюпа́ціцца** 'ўяўляць сябе малым, песціцца, як дзіця' (Нас.). Утворана ад ${}^{+}$*малюпа* (<${}^{+}$*малёпа*), як драг. *галёпа*

'булачка ў форме птушкі, якую, калі гукалі вясну на благавешчанне, падкідалі ўверх для птушак' (КЭС, Сл. ПЗБ). Да *малы* (*mal-ъ; mal'ь>mal'opa/mal'upa*). Параўн. бел. *малюта* 'малютка', польск. *maluta* 'тс', 'дзяцінства'. Параўн. таксама *ма́лець, ма́льчыцца* (гл.).

**Малюта** 'дробная рыба' (іўеў., Сцяшк. Сл.). *малю́тка* 'маленькае дзіця, хто-небудзь, што-небудзь вельмі маленькае' (ТСБМ). Рус. *малю́тка, малю́та* 'тс', 'дарослы гарэза сярод дзяцей', укр. 'малыш', польск. *maluta* 'дзіця', 'драбяза, чарвячок', *malutka* 'дзяўчына', чэш. *malutký, malitký* 'маленькі', в.-луж. *małutki,* н.-луж. *małutučki* 'вельмі маленькі'. Паўн.-слав. *mal'uta.* Да *малы́* (гл.).

**Малю́хны** 'вельмі-вельмі малы' (Нас.), мсцісл. *малю́хтанечкій, малю́хтанькій* 'тс' (Нар. словатв.). Укр. *малюхний,* рус. арханг., перм. *малю́хтенный,* пск. *малю́хтенький,* пецярб. *малю́ханный,* алан., наўг. *малюхо́нный* 'тс', серб.-харв. *ма̀лахан, малахаст, малахноћа, ма̀лехан, mȁljahan*. Да *малы́* (гл.). Суфікс *-хн-<-их-* і *-ъп-а* (Слаўскі, SP, 1, 75) характэрны бел., рус., а таксама польск. мовам, *-хт-* у кантамініраваных лексемах *mal'uxa* і *mal'uta.*

**Малюск** 'беспазваночная жывёліна, мягкае цела якой пакрыта ракавінкамі' (ТСБМ) запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 88), у якой *моллюск* 'тс' — з франц. *mollusque*< лац. *molluscus* 'мяккі, мяккацелы'.

**Малю́шчы** 'набожны' (смарг., Сл. ПЗБ). Да *маліць, маліцца* (гл.). Аб суфіксе прыметніка гл. Бел. грам.$_2$, 307—308.

**Маля́ваць** 'рысаваць фарбамі', 'фарбаваць', 'апісваць', 'абгаворваць (перад людзьмі)' (ТСБМ, Нас., Касп., Грыг., Сл. ПЗБ), драг. *малюваты* 'мазаць алоўкам абы-што' (З нар. сл.), 'выяўляць' (Яруш.), ст.-бел. *малевати, малиовати* 'маляваць' запазычана са ст.-польск. *malować* 'тс', якое са ст.-в.-ням. *mâlôn* 'тс', с.-в.-ням. *mâlen,* ням. *malen* (Чартко, Бел. лінгв. зб., 151; Жураўскі, Бел. мова, 63; Піўтарак, Бел. лекс., 134; Булыка, Запазыч., 196). Сюды ж *маляванне* 'жывапіс' (Нас.), 'фарбаванне' (смарг., Сл. ПЗБ), 'шыльда' (Яруш.), *маляваненькі* 'прыгожы' (Нас.), *маля́вацца* 'быць паслухмяным' у выразе: ...*Коб ты й малёвайся...* 'Рабі што хочаш, але не будзе па-твойму', драг. *малёва́тысь* 'тс' (ТС, КЭС).

**Маля́ванец,** *маля́ванка* 'каляровы аловак' (Сцяшк. Сл.). Беларускі рэгіяналізм. Да *маляваць.* Аб суфіксе *-ец* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 39—41.

**Малявідла** 'фарба' (Сцяшк., Сцяшк. Сл.; астрав., Сл. ПЗБ), 'прыгожы твар пустой жанчыны' (Нас.). Запазычана з польск. мовы, пасля атрымала на бел. тэрыторыі самастойнае семантычнае развіццё, параўн. польск. *malowidło* 'намаляваная рэч,



жывапісны твор', 'жывапіс', 'касметыка для твару'. Аб суфіксе гл. таксама Сцяцко, Афікс. наз., 35—36.

**Малявы́** 'бакеншчык' (Ян.). З $^{+}$*мелявы*<*мель* 'мель' (гл.).

**Малянкосць,** *маленкосць* 'маленства' (шчуч., шальч., дзятл., лях., маст., кам., Сл. ПЗБ). З польск. *maleńkość* (Грынавяцкене, там жа, 3, 28).

**Малянчу́к** 'чорны арэх' (ганц., люб.), 'спарынння', *малянчуковае зе́рне* 'тс' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *мала́нка*$_1$ (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 178.

**Маля́р** 'рабочы, які беліць, фарбуе дамы, памяшканні' (ТСБМ, Касп., Бяльк.), 'дрэнны мастак', 'мастак' (Грыг., Нас.), *маляровая, маляровачка, малярыха* 'жонка мастака', *маляроўна* 'дачка мастака', *маля́рня* 'майстэрня' (Нас.), ст.-бел. *маляръ, маларъ, малеръ, малерь, молеръ* 'жывапісец' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *malarz, malerz* 'тс', якое з с.-в.-ням. *mālaere, mālaer* (Булыка, Лекс. запазыч., 160; Карскі, Труды, 312; Кюнэ, 75; Чартко, Бел. лінгв. зб., 151). Параўн. таксама польск. *malarzowa, malarka* 'жонка мастака', *malarnia* 'майстэрня', *malarz pokojowy* 'маляр' (Варш. сл., 2, 856).

**Маляры́я,** лудз. *малярэй,* круп. *малярэя* 'інфекцыйнае захворванне з характэрным для яго прыступам ліхаманкі' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ). З рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 88), у якой *маляри́я* паходзіць з італ. *malaria*<*mala aria* 'дрэннае паветра' (*malo* з лац. *malus* 'дрэнны'). Меркавалі, што выпарэнні з балот былі прычынай ліхаманкі (Голуб-Ліер, 300).

**Маля́с** 'патака, штучны мёд' (Ян.; Сл. Брэс.), укр. *маля́са* 'бураковая патака'. З польск. *melasa* 'тс', якое з франц. *mélasse* 'патака'.

**Маляснік** 'баркун лекавы, Melilotus officinalis (L.) Lam.' (віц. Кіс., Бел. зельн.). Укр. падольск. *мелюс* 'тс'. Да *малі́са* (гл.); названа паводле араматычных і меданосных уласцівасцей расліны. Параўн. славац. *závonec* (з *zánovit'*), якая пры ўздзеянні народнай этымалогіі асацыіруецца з дзеясловам *vonat'* 'прыемна пахнуць' (Махэк, Jména, 120).

**Маля́ўка**$_1$, *мыля́ўка, маля́ўкі* 'малёк, маленькая рыбка, якая толькі што выйшла з ікры' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'дробязь, малеча' (Бяльк.), рус. *маля́вка,* кастр., ярасл., валаг. *маля́ва, моля́ва* 'маленькая рыбка', тамб., тул. *малявка, молявка* 'вельмі маленькая істота (рыбка, птушачка, зверына)', паўн.-дзв., ленінгр. 'галавасцікі', укр. *малявка* 'дробная рыба'; бел. *маля́ўка* 'рыба гарчак, Rhodeus sericeus amarus' (Жук., БелСЭ), рус. *малявка* 'тс'; бел. *маля́ўка* 'рыба Leucaspius delinateus' (Жук., 214), рус. маск. *малявка* 'тс'; бел. *маля́ўка* 'рыба гальян звычайны, Phoxinus phoxinus (L.)', рус., урал.,

бас. р. Қамы *малявка* 'тс'; польск. *maławka, mulawka* 'від рыбы', *molawka* 'дробная рыбка'. Утварэнне з суфіксам *-к-а* ад прыметніка $^{+}$*малявы*. Параўн. рус. калуж. *маля́вочный, маля́вошный* 'малыш, малы (у звяртанні да дзіцяці)', макед. *малав* 'малы', серб.-харв. *ма̏љав* 'пушысты, які аброс валаскамі, пухам'.

**Маля́ўка**$_2$ 'хвароба рожа' (шчуч., Сцяшк. Сл.) утворана ад *(на)-маляваны:* плямы на скуры выглядаюць, як намаляваныя. Да *малява́ць* (гл.).

**Маляўні́чы** 'прыгожы, эфектны з пункту погляду мастака' (ТСБМ). Паланізм. Параўн. польск. *malowniczy* 'які годны таго, каб быць перанесеным на палатно, прыемны для погляду, прыгожы, цудоўны', 'жывы, каляровы, вобразны'.

**Ма́ма,** *ма* 'маці' (ТСБМ, Нас., Грыг., Қасп., Бяльк., Сл. ПЗБ), 'дарослая дзеўка' (Нас.), *ма́мка* 'мама', 'жанчына, якая корміць чужое дзіця, нянька' (ТСБМ, Грыг., Нас., Шат., ТС, Бяльк., Сл. ПЗБ), 'гумавая соска' (трак., беласт., Сл. ПЗБ), 'пчала-карміцелька' (Анох.); смарг. *маманя* 'матуля' (Сл. ПЗБ), *мамуля* (Грыг., ТСБМ), *мамулька* (Бяльк.), *матуля* 'тс' (ТСБМ); *ма́мачка, ма́міначка, ма́монька, маму́ленька* 'ласкавы зварот да любой жанчыны, да дзяўчынкі, дзіцяці', 'выказванне бясконцага захаплення, здзіўлення, спалоху, жалю' (ТСБМ, Нас., Бяльк., ТС, Ян.). Укр., рус. *ма́ма,* польск. *mama (mateczka,* [*mamula*], *mamulińka,* [*mamka*]), каш. *mama*<*mëta, mëtka,* н.-і в.-луж. *mama,* чэш. *máma,* славац. *mama,* славен. *máma,* серб.-харв. *ма̏ма,* макед., балг. *мама.* Слова з мовы дзіцяці. Аналагічна літ. *mamà,* усх.-літ. *momà,* лат. *mama,* ст.-в.-ням. *muoma* 'цётка', новав.-ням. *Mamme* 'тс', лац. *mama* 'тс', 'грудзі', 'мамка', ірл. *mam,* н.-перс. *mām, māmā, māmi* 'маці', ст.-грэч. μάμμα, μάμμη 'маці, матухна, бабуля', алб. *mëmë* 'маці', ст.-інд. *māma* 'дзядзька' (Бернекер, 2, 14; Траўтман, 168; Фасмер, 2, 565; Голуб-Қопечны, 215; Скок, 2, 365; Бязлай, 2, 164).

**Мама́й** 'дужы, здаровы, але неразумны' (Янк. 3). Укр., рус. дан. *мама́й* 'каменная баба ў стэпе', славац. *mamaj* 'дурны, боўдзіла'. З тат. *Mamai* 'страшыдла, якім палохаюць дзяцей' (Фасмер, 2, 565). Параўн. таксама ст.-цюрк. *mama* 'бык, які знаходзіцца ў цэнтры тока ў час малацьбы'.

**Ма́мант** 'жывёліна ледавіковага перыяду' (ТСБМ). З рус. *мамонт* 'тс', якое з зах.-тунгуск. *ŋamendi* 'мядзведзь' (Расянен, ZfSlPh, 21, 293). На фанетыку лексемы ўплывалі і імя *Мамонт,* ст.-рус. *Мамонтъ* (са ст.-грэч. Μάμας, -αντος — гл. Сабалеўскі, РФВ, 65, 415; Фасмер, ZfSlPh, 21, 295). Кіпарскі (там жа, 26, 296—300) крыніцу гэтага слова бачыць у нянецк. (*jeăŋ*) *ŋammurolteə* 'пажыральнік (зямлі)' (Фасмер, 2, 566). Параўн. якуцк. *mamut* 'мамант'.



**Мамаранкі** 'неўрадлівыя ягады' (гродз., Сцяшк. Сл.). Параўн. рус. паўн., наўг. *мамýра* 'ягады касцяніцы, марошкі, абляпіхі'. Уграфінізм. Параўн. фін. *maamuurain* 'касцяніца'; *-к-*, магчыма, з памяншальнага суфікса (параўн. эст. *mari* 'ягады' — *marjake* 'ягадка'). Гл. Қаліма, 162; Фасмер, 2, 566.

**Маме́й** 'нямы' (чачэр., Жыв. сл.). Гукапераймальнае, як і рус. арл. *мамы́ка* 'коснаязыкі', польск. *mamot, momot* 'заіка'. Не выключана, аднак, паходжанне ад прыметніка *нямы* (пры дапамозе суфікса *-ей* — гл. Сцяцко, Афікс. наз., 98) з пазнейшай асіміляцыяй *н...м*>*м...м.*

**Мамента́льны** 'вельмі хуткі, імгненны' (ТСБМ). З рус. *моментальный* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 77). З рус. мовы пранікла і *мамéнтам* 'тс, мігам, умомант' (докш., Янк. Мат.; калінк., З нар. сл.). Да *момант* (гл.).

**Мамзэль** 'маленькі гаршчок ёмістасцю ў 1 кг', *мамзэлік* 'гаршчочак на 2 фунта жыта і меншы' (Вяр.-Қрыв., Сл. Брэс.). Няясна. Можна, аднак, дапусціць семантычны перанос паводле падабенства (знешні выгляд, фігура) з рус. *мамзель* 'гувернантка', якое з ням. *Matséll* 'гувернантка-француженка'< франц. *mademoiselle* 'паненка' (складаецца з *ma* 'мая' і *demoiselle*<лац. *domonicella* — памяншальнае да *domina* 'пані дому').

**Ма́міс** 'падкладачная тканіна' (іўеў., Сл. ПЗБ; бабр., Запіскі). Няясна. Магчыма, з польск. *mamis* 'рэдкая, недарагая бавоўняная тканіна', якое таксама этымалагічна цёмнае слова.

**Мамі́ца** *(груб.)* 'маці' (ушац., Жыв. сл.), рус. смал. *мами́ца* 'дарослая дзяўчына, жанчына', 'бесталковая жанчына, дзяўчына', серб.-харв. *mȁmica, ма̏мица* 'тс'. Да *ма́ма* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 157.

**Ма́мкаць** 'клікаць маму' (ТС), укр. *ма́мкати,* рус. *ма́мкать* 'тс'. Гукапераймальнае з суфіксам *-ка-* (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 69 і наст.).

**Мамойло** 'маўчун' (ганц., Нар. лекс.). Балтызм. Параўн. літ. *mėmẽ, mėmẽlė* 'ціхі, маўклівы, малагаваркі чалавек'. Менш імаверна звязваць генетычна гэту лексему з укр. *мама́й* 'статуя, баба ў стэпе'.

***Мамол,** пін. *момі́л* 'белы гарлачык, Nymphaea alba L.' (Нар. лекс.), *момул* 'гарлачык чыста-белы, Nymphaea candida Presl.' (пін., Бейл.). Балтызм. Параўн. літ. *momuõ, momuolỹs* 'цемя, галава, цемечка'.

**Мамон** 'глухі чалавек' (Бяльк.). Рус. пск., цвяр. *мамоня* 'негаваркі, пануры чалавек'. Балтызм. Параўн. літ. *mõmūnė* 'цемечка' (паводле прыкладаў у IKŽ, 8, 344: 'пакуль цемечка не зарасце (не стане цвёрдым), дзіця не гаворыць').

14. Зак. 1005

*__Мамосачка,__ *мамосычка* 'кропелька, маленькая частка' (Бяльк.). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *tomuolỹs* 'лялька, зрэнка ў воку'. Суфіксальнае *-l-* магло мяняцца ў *-с-*, як у *мамуля~маму́ся*.

**Мамоша,** *мамошка* 'палюбоўніца' (Нас., Растарг.). З рус. пск., смал. *момо́шка* 'тс', цвяр., кастр., тамб., варон. *мамо́ха* 'тс', пск. 'пышнацелая, дародная жанчына'. Да *мама* (гл.). Аб суфіксе гл. Слаўскі (SP, 1, 74 і 78).

*__Мамрыла,__ драг. *момрэ́ло* 'маўчун' (Нар. лекс.), беласт. *мамры́ско* 'тс' (Сл. ПЗБ). Укр. закарп. *момрати, мимрати* 'буркатаць, незразумела гаварыць', *мимря, мимрій* 'буркун', рус. стаўрап. *мумы́ря* 'негаваркі чалавек', *мумы́ркнуть* 'сказаць няясна, буркнуць', польск. *mamrzeć,* каш. *mumrzeć,* чэш. *mumrati, mamrati, mrmlati,* славен. *mrmráti,* серб.-харв. *mormorati.* Амаль паўсюдна сустракаюцца ўтварэнні з *-l-:* рус. *мумлить,* каш. *mumlac,* н.-луж. *momliś, mumliś,* в.-луж. *mumlić, mumolić,* ляш. *mumlat',* чэш. *mumlati,* славен. *momljáti,* серб.-харв. *му̀мљати, му̀млати.* Прасл. *mъrmъlati* (Махэк$_2$, 350). Гукапераймальнае. Аналагічна ст.-в.-ням. *mammalon,* с.-н.-ням., новав.-ням. *mummen, mummeln* 'мямліць, жаваць бяззубым ротам', літ. *murmuliúoti* 'няясна гаварыць', *máumti* 'бляяць, мыкаць' (Міклашыч, 192; Бернекер, 2, 75; Мацэнаўэр, LF, 10, 341 і 11, 162; Фасмер, 3, 9 і 30; Махэк$_2$, 350; Скок, 2, 456—457, 469; Бязлай, 2, 194).

**Мамры́ць** 'есці, жэрці' (КЭС, лаг.). Складанае слова, першая частка якога гукапераймальная: гук [м] передае змыканне губ (параўн. усх.-маг. *му́мляць* 'жаваць, есці'), другая — з літ. *rýti* 'жэрці'.

**Маму́ля** 'свякроў' (Мат. Маг.). Да *ма́ма* (гл.). Аб суфіксе *-уля* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 173. Параўн. таксама рус. разан. *ма́менька,* іркуцк. *мама́нька,* валаг., кастр. *мама́ша,* смал. *ма́мухна* 'тс'.

**Маму́ся** 'матуля' (ТСБМ; воран., шчуч., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *mamusia* 'тс' (Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 29). Да *ма́ма* (гл.).

**Маму́тка** 'матуля' (Вяржб. дыс.). Балтызм. Параўн. літ. *mamū̃tė* 'тс' (Лаўчутэ, Балтызмы, 145).

**Мамуты** 'сорт сталовых буракоў' (паст., Сл. ПЗБ; астр., Сцяшк. Сл.). З польск. *mamut* 'мамант, Elephas primigenius', якое ўтварыў Людлоф у 1696 г. з якуцк. *mamma* 'зямля' (Варш. сл., 2, 870).

**Ма́му́хна** 'маці' (Нас., Бяльк., Растарг., Нікан.; маг., Шн.). Рус. пск., смал. *ма́му́хна* 'тс', цвяр. 'ласкавы зварот бабулі да ўнучкі', польск. *mamuchna* 'маці'. Бел.-польская ізалекса. Менавіта ў бел. і польск. мовах пашыраны суфікс *-ухн-а* (<прасл. *-ux-ъna*) пры ўтварэнні пяшчотных назваў жанчын (Слаўскі, SP, 1, 75).



**Мамы́ліць** 'надуваць губы ад незадавальнення', *мамыль* 'сярдзіты, з надутымі губамі' (Нас.). Рус. смал. *мамы́лить* 'тс', 'злаваць, крыўдзіцца', серб.-харв. *маму̀љати* 'жаваць, есці з закрытым ротам', чак. *му̏мати; му̀мљати* 'мармытаць', 'бурчаць', балг. *мамо́ля* 'няясна гаварыць', славен. *momljáti* 'тс', 'бурчаць', чэш. *mumlati* 'тс'. Гукапераймальнае (Бернекер, 2, 75; Фасмер, 3, 30; Скок, 2, 366—367; БЕР, 3, 633).

**Мамыря** 'надзьмутая, замкнутая, капрызная асоба' (Юрч., Фраз. 3). Да *мамы́ліць, мамры́ла* (гл.). Параўн. таксама *мумраць, мы́мря.*

**Мамычнік** 'аўсяніца, мурожніца авечая, Festuca ovina L.' (маг., Кіс.). З ⁺*намычнік,* якое да *мы́чка*$_1$ (гл.). 'звязка льновалакна, падрыхтаваная для пражы': з аўсяніцы маглі рабіць шчоткі, якімі часалі лён і рыхтавалі мычку. Параўн. таксама укр. *мичка* 'аўсяніца'.

**Мана́** 'прыемны пах' (раг., Сл. ПЗБ; драг., КЭС; Клім.), 'закваска, смак і пах хлеба, якія залежаць ад дзяжы і закваскі' (зэльв., карэліц., дзятл., лях., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), 'нектар' (лях., Сл. ПЗБ), лельч. *мона́* 'сок з кветак' (Нар. лекс.), *мана́* 'ўзмах', 'подых, павеў' (Нас.), *мані́ць* 'патыхаць' (ТС), бяроз., драг., стол. *мані́ты, мані́тэ* 'прыемна пахнуць' (Нар. лекс., Шатал., КЭС), драг., кобр. *манюшчы* 'духмяны' (Нар. лекс., КЭС). Рус. тамб. *мана́,* калуж. *манна́ст, манна́стый* 'прыемны пах', 'тонкі (пах, густ)'. Бел.-паўд.-рус. ізалекса. Узнікла ў выніку пераносу значэння 'прынада'>'прыемны пах'>'прыемны смак, нектар'. Укр. бойк. *ма́на* 'застылы сок некаторых раслін', балг. *мана́* 'падзь' можна лічыць семантычным варыянтам лексемы *ма́нна* (гл.).

**Манаполька** 'дзяржаўная крама (ў Расіі), у якой прадавалі гарэлку' (ТСБМ, Яруш.). З рус. *монополия* 'дзяржаўны продаж гарэлкі' (якое з новав.-ням. *Monopolia*<с.-лац. *monopolium*< ст.-грэч. μονοπώλιον 'індывідуальнае права на продаж': μόνος 'адзін'+πωλεῖν 'прадаваць') пры дапамозе суфікса *-к-а,* як *ла́ўка.* У рус., польск., чэш. мовах гэта лексема азначае 'дзяржаўная гарэлка'. Ст.-бел. *монополия* (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *monopolija* 'тс'.

**Мана́рка**$_1$ 'вопратка кароткага памеру з тканага сукна' (Сцяшк.), 'пінжак' (шчуч., З нар. сл.; лід., шчуч., гродз., Сл. ПЗБ). Рус. куйбыш. *мона́рка* 'кароткая кофта з аборкамі', бран., пенз., ульян., урал. *мана́рка* 'жаночае паўпаліто на ваце, жакетка з плюшу; сукна, аксаміту'. З польск. *marynarka* 'пінжак'. Склад *-ry-* выпаў у выніку дысіміляцыі з *-r-.*

**Мана́рка**$_2$ *(фалькл.)* 'музыкальны інструмент' (Ян.). Няясна.

**Мана́рх** 'асоба, якая ўзначальвае манархію' (ТСБМ). З рус. мовы. Аднак ст.-бел. *монарха* 'тс' (XVI ст.) — са ст.-польск. *monarcha* 'тс', якое з с.-лац. *monarcha*<ст.-грэч. μονάρχης ці μόναρχος 'адзінаўладны'. Ст.-бел. *монархия* са ст.-польск. *monarchija* (Булыка, Лекс. запазыч., 23 і 32). Крукоўскі (Уплыў, 81) мяркуе, што бел. *манархія* было запазычана з рус. мовы.

**Манасты́р** 'абшчына манахаў, якая ўтварае царкоўна-гаспадарчую арганізацыю', 'царква, жылыя памяшканні і тэрыторыя, якія належаць такой абшчыне' (Шн. 2, Яруш., ТСБМ). Укр. *монастирь, манастирь,* рус. *монастырь,* ст.-рус. *монастырь* — усе са ст.-слав. **манастырь, монастырь,** якія з с.-грэч. μοναστήρι(ον) μαναστήρι(ον) 'адасобленае жыллё' (Фасмер, 2, 649).

**Мана́ткі** 'невялікая маёмасць, рэчы, пажыткі, хатні скарб' *(іран.),* 'убранне' (ТСБМ, Янк. БП, Сцяшк., Яруш., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., ТС; КЭС, лаг.), *манатье* 'анучы, рызманы, лахманы; (Нікан.), *манацье* 'манаткі' (ТС), *мана́цце* 'лахманы' (Ян.); арго: маг., слуц., чарніг., Падолле *мана́тка* 'кашуля' (Рам. 9), ст.-рус. *манатья, монатия* 'мантыя', запазычаныя з с.-грэч. μαντύας<лац. *tantum* 'тс' (Бандалетаў, Этимология-80, 69).

**Мана́х**$_1$ 'член царкоўнай абшчыны, які жыве ў манастыры', (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк.), укр., рус. *монах,* рус. ц.-слав. *монахъ,* якое з с.-грэч. μοναχός 'адзінокі' (Бернекер, 2, 75; Фасмер, 2, 649).

**Мана́х**$_2$ 'бутля' (Ян.), рус. карэл. *монах* 'доўгая бутэлька з чырвоным вінам', тул. *монах с рясой* 'чацвяртная бутля з вінам'. У выніку семантычнага пераносу паводле падабенства з *мана́х*$_1$ (гл.).

**Мана́шка** 'начны матыль з чорнымі палосамі і плямамі на крылах і брушку, Lymantria monacha' (ТСБМ), рус. *мона́шенка,* польск. *mniszka* 'тс'. З лац. назвы і паводле падабенства колеру.

**Манга́л** 'жароўня' (РБС). З польск. *mangał* або з рус. *манга́л* 'тс', якія з крым.-тат., азерб., туркм. *maŋgal*<араб. *manḳal* 'пераносная печка' (Заянчкоўскі, PF, 18 (1964), 169; Фасмер, 2, 567).

**Мандалі́на** 'музычны шчыпковы інструмент з чатырма парамі струн' (ТСБМ). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 84), запазычана з рус. мовы, якое з ням. *Mandoline* ці франц. *mandoline*<італ. *mandolina.* Апошняе з'яўляецца дэмінутывам да *mandola* 'мандаліна-альт' (Фасмер, 2, 568)<ст.-італ. *mandora*<лац. *pandūra* 'трохструнны музычны інструмент' (Голуб-Ліер, 301). Варш. сл. (2, 871) польск. *mandolina* (з якога магло быць запазычана і бел. слова) выводзіць з *mando(r)la* 'міндаль' — паводле падабенства да яго быў названы музычны інструмент.



**Мандары́н** 'вечназялёнае дрэва Citrus unshiu і плады з яго' (ТСБМ). З рус. *мандари́н* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 73), якое з франц. *mandarine,* англ. *mandarin orange,* ісп. *mandarina.* Апошнія ад *Mandaro* — мясцовая назва вострава Маўрыкій (Махэк$_2$, 350; Голуб-Ліер, 301; Фасмер, 2, 567—568).

**Мандарэння** 'красоўка, Atropa Belladonna L.' (палес., Нар. лекс.). Няясна. Магчыма, скажоная форма з *мандрагора* (параўн. ст.-бел. *мандрагоръ, мандрагора,* якое са ст.-польск. *mandragora*<лац. *mandragora*<ст.-грэч. μανδραγόρας 'расліна Atropa mandragora' (Булыка, Лекс. запазыч., 148).

**Манда́т** 'паўнамоцтвы', ст.-бел. *мандатъ (мондатъ)* 'каралеўскі ўказ', 'выклік на суд' (XIV ст.) запазычана са ст.-польск. *mandat,* якое з лац. *mandātum* 'даручэнне' (Булыка, Лекс. запазыч., 57; Жураўскі — Крамко, Зб. Крапіве, 142).

**Мандзэрыць** 'вымантачваць', *мандзэрынне* 'выпрошванне', *мандзэршчык, мандзэрнік, мандзэрка* 'проська, папрашайка' (Нас.), рус. варон. *мандрыка* 'надаедлівы чалавек', з польск. *tandyrzyć* 'бурчаць, маркоціць галаву другім, гаварыць ні тое, ні сёе' і *tantyczyć* 'тс', якое да лац. *mantica* 'торба жабрака'.

**Мандзюры,** міёр. *мъньдзюры* 'вочкі на бульбе' (Нар. сл.). Відаць, з *мундзір* — параўн. *бульба ў мундзірах* (ТСБМ).

**Мандзя́каць** 'гаварыць абы-што, глупства, нязначнае' (паўд.усх., КЭС) Утворана пры дапамозе суфікса *-'ак-аць* ад асновы *манд-,* якую можна назіраць у анатамічным тэрміне: параўн. чэш. *mandibula* 'ніжняя сківіца'<лац. *mandibula* 'сківіца'<*mandere* 'жаваць, кусаць'.

**Мандра** 'бручка' (Мікуц.) Няясна. Да *мандрагора* (?).

**Мандрава́ць** 'вандраваць, падарожнічаць, блукаць па свеце' (Мал., Федар. 2, Федар. 7, Чач., Шат.; паўд.-усх., КЭС), 'вандраваць пешшу' (Нар. Гом.). Укр. *мандрува́ти* 'тс', 'ездзіць' З польск. *wędrować* 'тс', якое з ням. *wandern* 'падарожнічаць, блукаць' Аб пераходзе *в*>*м* гл. Карскі, 1, 340. Сюды ж пераноснае *мандровачка* 'павестка' (светлаг., Мат. Гом.).

**Мандрыгу́лі** 'блюда з салёных агуркоў' (Касп.). Скажонае з *мандрагора* 'красаўка, Atropa belladonna'. Параўн. таксама польск. *madrygała* 'тс'.

**Мандры́кі** 'сырныя праснакі' (паўд.-усх., КЭС). Укр. *мандри́ка* 'праснак з сыру, мукі, яек, які пякуць на разгавенне пасля пятровак', паўд.-рус. *мандрыка* 'сырнік'. Балканізм. Параўн. серб.-харв. *мȁндара* 'баўтуха з мукі, вады і тлушчу', 'нацыянальная страва з мукі, масла і сыру', герцагавін. *мȁндра* 'мамалыга'. Магчымая крыніца — польск. *maldrzyk* 'сырнік'<

ст.-польск. *mafdr*<н.-ням. *malder* 'мера сыроў' (Брукнер, 319).

**Мандры́на,** *мадры́на* 'лістоўніца еўрапейская, Larix decidua Mill.' (маг., Кіс.). Укр. зах. *модри́на, модре́нь* 'тс', польск. *modrzeń* 'тс', пазней *modrzew,* чэш. *modřín.* Першапачаткова праслявянская лексема мела форму *brinъ,* якая захавалася ў сілез. *břin,* у відазмененым мар. *břim, břím, dřín,* а пад уплывам слова *modrý* 'сіні' ўтварылася *modřín* (Махэк$_2$, 73). Параўн. таксама славен. *brìn* 'ядловец', *brína* 'елка'. Роднасныя да ст.-грэч. πρίνος 'дуб, Quercus ilex'.

**Мандрыголіць** 'гаварыць абы-што' (Сцяц. Сл.). Да *мандрагора* — расліна з псіхатропнымі ўласцівасцямі — праз лац. са ст.-грэч. Μανδραγόρας.

**Мандэлячкі** 'некалькі снапоў ільну, пастаўленых у кучкі для прасушкі' (трак., Сл. ПЗБ). Укр. *ма́ндель* '15 ці 50 жменей канапель або снапоў збожжа'. З польск. *mendelek* 'кучкі льну з некалькіх снапоў збожжа'. Да *мэндаль* (гл.).

**Мане́бры,** *мане́брэ* 'манеўры' (драг., КЭС; Сцяц.). З польск. *maniebry,* якое з *manewry* 'тс'<франц. *manoevre* 'тс'. Сюды ж *манябрава́ць*<польск. *maniebrować*<*manewrować* 'манеўраваць'.

**Мане́ж** 'памяшканне або месца для коннага прывода малатарні, ваўначоскі і да т. п., 'месца верхавой язды', 'арэна цырка', 'пераносная загародка для дзяцей, якія пачынаюць хадзіць', 'поле, дзе абучаюцца вайскоўцы' (ТСБМ, П. С., Хрэст. дыял., Сцяшк., Смул., Шат., Сцяц.; дзярж., ганц., ДАБМ, к. 238). Запазычана з польск. *manеż,* якое з франц. *manège*<італ. *maneggio* 'кіраванне коньмі'<італ. *mano*<лац. *manus* 'рука' (SWO, 450; Голуб-Ліер, 301). Рус. *мане́ж* 'тс' таксама з франц. мовы самастойным шляхам (Фасмер, 2, 568). Сюды ж *мане́жыць* 'аб'язджаць каня паводле правіл манежнай язды', 'мучыць, таміць' (ТСБМ, Шат.).

**Мане́жыцца** 'манернічаць, крыўляцца' (ТСБМ, Нас.), *мане́жыць* 'прывучаць, быць пераборлівым у ежы, быць свавольным' (Нас.), 'балаваць' (Касп.), *манежка* 'пястун, пястуха', *манежны* 'манерны' (Нас.), ваўк. *манежыць* 'выпрошваць' (Сл. ПЗБ). Укр. *маніжитися* 'манернічаць', 'песціцца', рус. *мане́жить* 'зазнавацца, фарсіць', 'песціць, балаваць', *манежный* 'манерны, разбалаваны', 'франтаваты', польск. *manierzyć się* (Варш. сл., 2, 877). Кантамінаваная лексема, якая ўзыходзіць да *манеж,* аформленая пад уплывам *манера, манерны* і пры ад'ідэацыі *нежны.*

**Мане́й** 'хлус, манюка' (Янк. 1). Да *мані́ць* 'хлусіць'. Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 36.

**Мане́р** 'спосаб дзеяння, лад, узор' (ТСБМ, Яруш.), 'характар' (паўн.-усх., КЭС). З польск. *manier* 'спосаб', якое з ням. *Manier*<франц. *manière* 'тс'<нар.-лац. *manuāria* 'спрытнасць рук'<*manus* 'рука'.



**Мане́ра** 'спосаб дзеяння, прыём', *мане́ры* 'сукупнасць прыёмаў', 'знешнія формы паводзін, спосаб трымацца' (ТСБМ, Нас., Бяльк.; шальч., Сл. ПЗБ), *мане́рны* 'прыгожы з выгляду' (Нас.). З польск. *maniera (maniery),* якое непасрэдна з франц. *manière* (Кюнэ, 75; SWO, 450; Фасмер, 2, 568).

**Мане́рка** 'паходная металічная пляшка з накрыўкай, або біклажка', 'круглая бляшанка' (ТСБМ, Яруш., Касп.; шальч., Сл. ПЗБ), 'высокая банка з носікам' (Ян.), 'гарнушак, рандэляк' (Сцяшк.), 'бляшаная пасудзіна, у якую наліваюць газу, дзёгаць, алей' (парыц., Янк. Мат.). З польск. *manierka* (або з рус. *мане́рка)* 'паходная біклажка ці пляшка для віна, гарэлкі', якія з ням. *Manöverflasche (Manöver* 'манеўры'+*Flasche* 'бутэлька') (Варш. сл., 2, 873).

**Мане́та** 'металічны грашовы знак, металічныя грошы' (ТСБМ), ст.-бел. *манета, монета, манита, монита, монэта* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 86). Запазычаны са ст.-польск. *moneta,* якое з лац. *monēta* 'прадказальніца'<*monēre* 'прадказваць, прадракаць'. *Monēta* — эпітэт багіні Юноны, якая папярэдзіла рымлян пра землетрасенне.

**Мане́ўр** 'перамяшчэнне баявых сіл з мэтай нанесці ўдар праціўніку' (ТСБМ). З польск. *manewr,* якое з франц. *manoeuvre* 'зручны ход'.

**Манец** 'ястрабок парасоністы, Hieracium umbellatum L.' (маг., Кіс.). Да *маніць* (гл.). Матывацыя наймення няясная. Параўн. таксама *лгане́ц* (гл.).

**Ма́нечкі** 'пралеска звычайная, Hepatica nobilis Garsault.' (стол., Бейл.). Ад імя *Маня.* Параўн. аналагічна *васількі, цімафееўка, пятрушка, куліна, вераніка, валяр'ян,* рус. *анютины глазки.*

**Маня́** 'прывід' (паўд.-усх., КЭС). Да *мані́ць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 36.

**Манжэт,** *манжэта* 'абшлаг рукава кашулі, блузкі, калашыны штаноў і інш.' (ТСБМ, Яруш.). Праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 79) з франц. *manchette* 'рукаўчык' — памянш. *manche* 'рукаў', якое з лац. *manica* 'рука' (Фасмер, 2, 568—569; Голуб-Ліер, 302).

**Манікю́р** 'чыстка і паліроўка ногцяў на руках' (ТСБМ). З рус. *маникюр* 'тс', якое з франц. *manicure*<с.-лац. *manicura,* складзенае з лац. *manus* 'рука' і *cura* 'клопат'.

**Манір** 'манеж' (лун., Нар. сл.). Да *мане́ж* (гл.), якое ў выніку народнай этымалогіі разумелася як польск. *manierz*< прасл. *manĕrь.*

**Мані́са** 'меліса' (карэліц., Нар. словатв.). У выніку кантамінацыі лексем *мелі́са* і *мана́* 'пах' (параўн. тлумачэнне інфар-

матара: новы вулей перад тым, як у яго заганяюць рой, націраюць манісаю, бо пчолы вельмі любяць гэты пах).

**Маніст** 'цыкута ядавітая, Cicuta virosa L.' (Бес.). Няясна. Магчыма, да *мана́* 'зман, насланнё, чары'. Параўн. аналагічнае польск. *szaleń, szalej* (ад *szaleć* 'шалець'), чэш. *bolehlav velký,* укр. *бішениця, дурійка* 'вех, цыкута'. Старажытны суфікс *-isto* (?).

**Маністы**$_1$ 'духмяны' (ваўк., лях., Сл. ПЗБ). Прыметнік да *мана́* (гл.). Параўн. таксама рус. калуж. *манна́ст* 'прыемны пах', *манна́стый* 'тонкі (пра смак, пах)'.

**Маністы**$_2$, тураў, *маніста,* паўд.-усх. *маніста* 'упрыгожанне з пацерак, манет, каштоўных камянёў', 'пацеркі', 'каралі' (ТСБМ, Янк. 1, Шпіл., ТС; кір., Нар. сл.; жытк., лоеў., добр., Мат. Гом.). Укр. *мони́сто, нами́сто,* рус. *мони́сто* 'тс', наўг. 'нашыйная касынка', разан. 'нізка чаго-небудзь', палаб. *müönéist'a* 'карал', балг. *мони́сто,* ст.-слав. **монисто** 'каралі'. Да і.-е. **moni-* 'шыя': лац. *monīle* 'каралі', 'конская грыва', ст.-інд. *manyā* 'патыліца', ст.-в.-ням. *menni* 'каралі', ірл. *muin-tore* 'тс', *muinēl* 'шыя', ст.-грэч. μάννον, μαννάκιον, μόννο 'каралі' (Бернекер, 2, 76; Фасмер, 2, 650). Сюды ж *мані́стка* 'нізка тытунёвых ці кляновых лістоў' (Бір. Дзярж.).

**Ма́ніца** 'майнік, Majanthemum bifolium (L.) Fr.' (навагр., Сцяшк. Сл.; в. Сляпянка, мін., КЭС). З +*майніца,* якое з *ма́й-нік* (гл.).

**Маніцы** 'мужчынскія калівы канапель', 'валакно з іх' (ТСБМ, Сцяшк., Жд. 1, Шчарб.; івян., дзярж., уздз., мін., калінк., ДАБМ, к. 286). Да *мані́ць* (гл.): мужчынскія асобіны канапель цвітуць, але не даюць пладоў, нібыта «падманваюць» (Вярэніч, вусн. паведамл.).

**Маніцца** 'мець намер, збірацца рабіць што-небудзь; планаваць', 'спрабаваць', 'абяцаць, цешыць надзеяй', (ТСБМ, Сл. ПЗБ; міёр., Нар. сл.; КЭС, лаг.; мядз., Нар. словатв.; Жд. 1), 'хацецца' (шальч., Сл. ПЗБ), *заману́тысь* 'захацецца' (драг., КЭС), *ма́ніцца* 'мецца (аб тым, што павінна быць)' (Нар. Гом.). Укр. *ману́тися* 'хацецца, цягнуць да чаго-небудзь', рус. пск., цвяр., маск., кур., дан. *мани́тся* 'хочацца, цягне да чаго-небудзь'. Балтызм. Параўн. літ. *manýtis* 'хацецца' (Грынавяцкене, СЛ. ПЗБ, 3, 30).

**Маніць** 'падзываць, клікаць, падклікаць (качак, курэй, сабак)' (Касп., Шат., Юрч., Сцяшк. Сл.), 'прыцягваць, прынаджваць', *манліву* 'прываблівы' (ТС), беласт. *мані́ті* 'прывабліваць, спакушаць' (СЛ. ПЗБ); *мана́* 'прываба, пахучая прыманка' (ТС); *мані́ць, мані́ці* 'хлусіць', *мана́, мына́* 'хлусня, наўмыснае скажэнне ісціны' (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Растарг., Яруш., Сцяшк., КЭС, лаг.; ЛАПП, ТС, Ян., Сл. ПЗБ, Янк. 1), *мань, ман* 'хлусня, хлус' (кліч., Жыв. сл.; Яруш., Мікуц., Нас., Шат.). Укр. *мани́ти,* рус. *мани́ть* 'тс', паўн. *ма́нкий* 'спакушальны, прыцягальны', валаг. *манно́* 'прывабліва, прыемна', алан., наўг., калін. *ман* 'хлус', алан., смал., укр. *мана* 'хлусня', польск., в.-луж. *manić,* н.-луж. *manis* 'падманваць, ашукваць; прываблiваць, спакушаць, цешыць сябе чым-небудзь', польск. *man* 'уведзены ў зман', 'падман', *manicielstwo* 'тс', 'спакуса', чэш. *-maniti:* ляш. *podmanic* 'падбухторыць да нечага', *podmana* 'хітры ашуканец', славац. *obmantat'* 'ашукаць', *umantat'* 'заваражыць, зачараваць'. Да групы слав. лексем з асновай *man-* трэба яшчэ далучыць бел. *мана́* 'пустата', 'прывід, здань' (Нас.), 'чары, насланнё' (Ян.), 'азарт, прыцягальная сіла' (карэліц., Марц.), 'ахвота, жаданне' (Сцяшк. Сл.), *ма́ніць* 'трызніць' (Сцяшк.; іўеў., Сл. ПЗБ), мін. *манаецца* 'здаецца' (КЭС) і аналагічныя да іх укр. *мана́* 'прывід, здань, ілюзія', рус. смал. 'насланне, нешта нерэальнае', 'хмара'; 'прынада, спакуса' (Даль); тамб. 'слодыч', наўг. *ман* 'нячысцік, які жыве ў званіцы, у хаце або ў лазні', уладз., валаг., наўг. *мани́ть,* безасаб. *ма́нит* 'здавацца, мроіцца', *манной* 'шалёны', а таксама польск. *man* 'ілюзія', серб.-харв. *нѐман* (з адмоўнай прыстаўкай, як, напр., *нябога)* 'страшыдла, прывід', 'волат, калос', 'нячысцік, д'ябал', у якім (паводле Скока, 2, 366) адбылася дысіміляцыя *m...m*>*m...n.* Ван-Вейк (RÉS, 14, 73) таксама мяркуе, што паўн.-слав. *maniti* ўтварылася ў выніку дысіміляцыі з *mamiti,* прадстаўленага на зах.- і паўд.- слав. моўнай тэрыторыі, параўн. польск. *mamić* 'падманваць, уводзіць у зман', 'прываблiваць', чэш. *mámiti* 'выманьваць, выцягваць', 'абдурманьваць', славац. *mámit'* 'тс', 'прываблiваць', *mam* 'прывід, міраж'; славен. *mámiti* 'заваблiваць, спакушаць', ст.-славен. *mama* 'балбатун', серб.-харв. *ма́мити* 'заманьваць, прываблiваць', 'выманьваць', 'раз'юшваць', *ма̂ма* 'дурны', 'шаленства', *ма̂ма* 'прынада', макед. *мами* 'хлусіць, ашукваць, махляваць, заманьваць', балг. *ма́мя* 'тс', 'прыручаць', 'нарушыць клятву', 'вадзіць за сабой', 'падзываць, клікаць (свойскія жывёлы і птушкі)', ст.-слав. **мамьнъ** 'дурны', ц.-слав. *мамити* і *манити.* Махэк$_2$ (350 і 351) мяркуе, аднак, што выходнай формай для дзеяслова з'яўляецца прасл. *manъ,* якое пад уплывам сiноніма *klamъ* змяніла свой канчатак (*-nъ* у *-mъ)*>*-maniti.* БЕР (3, 635) дае дзве прасл. формы дзеяслова: *mamiti* і *maniti.* І.-е.,асновай для першай з'яўляецца **ma-* 'узмах рукою'>прасл. *majati, maxati,* літ. *móti,* лат. *māt* 'махаць, ківаць' з фармантам *-mo-* (параўн. ст.-грэч. μῖμος 'пераймальнік, імітатар, мім', лац. *mīmos* 'тс', месапск. *mīme-teos* (Р. скл.) 'тс' (Крае, IF, 49, 268; Бязлай, 2, 164—165). Роднаснымі да прасл. *maniti* будуць: ст.-інд. *māyā̆* 'чары, падман, ілюзія', авест. *māyā-,* лат. *mānît* 'уводзіць у зман, падманваць', *mani,* якому адпавядае бел. *мань* (Карскі, Труды,

456), ст.-в.-ням. *mein* 'ілжывы, падманлівы', ст.-ісл. *mein* 'страта, шкода, няшчасце', ст.-англ. *mān,* ст.-сакс. *men* 'хлусня', ням. *Mein-eid* 'клятвапарушэнне' (Мюленбах-Эндзелін, 2, 582; Бернекер, 2; Фасмер, 2, 569).

**Маніфестáцыя** 'публічнае масавае выступленне для выражэння салідарнасці або пратэсту' (ТСБМ), ст.-бел. *манифестацыя (*XVII ст.) 'тс' са ст.-польск. *manifestacyja,* якое з лац. *manifēstātio* 'выяўленне' (Булыка, Лекс. запазыч., 32).

**Манíшка** 'нагруднік, прышыты (прышпілены) да мужчынскай кашулі', 'накладка на правую частку прарэха ў мужчынскіх штанах' (ТСБМ, Жд. 1, Бяльк., Сл. ПЗБ). Укр. *манúшка,* букав. *манíшка* 'кветка, вышытая на матэрыі і прышытая да адзежы', рус. *манишка* 'нашыўка на грудзях'. Польск. *maniszka* з рус. мовы. Відавочна, рускае з-за суфікса *-ішк-а.* Да *манá*<*манíць* (гл.) у першасным значэнні 'нешта прыцягальнае, прывабнае' (КЭСРЯ, 192—193).

**Мáнія**₁ 'псіхічны стан', 'незвычайная цяга, слабасць да чаго-небудзь' (ТСБМ). З польск. *mania* 'тс' або з рус. *мания* (Крукоўскі, Уплыў, 88), якія з лац. *mania*<ст.-грэч. μανία 'шаленства', 'захапленне, цяга'<μαίνομαι 'шалею, вар'яцею' (Брукнер, 322; Фасмер, 2, 569). Сюды ж *маньяк,* ст.-бел. *маньякъ* 'шалёны', якое з с.-лац. *maniacus* 'тс'.

**Мáнія**₂ 'здань, прывід' (Ян.). Укр. *манія́* 'тс', рус. паўн., усх., перм. *манья́* 'прывід (звычайна ў выглядзе старой кволай жанчыны)', варон., паўд., зах. *манья́к* 'прывід, які з'яўляецца перад жнеямі', тул. 'злы дух у выглядзе знічкі'. У выніку кантамінацыі *манá* (<*манíць*) і *мáнія*₁. Гл. таксама *маняя́.*

**Мáнка**₁ 'манная каша' (Мат. Гом.). З рус. *мáнка* 'тс', якое са словазлучэння *манная крупа.* Да *мáнна* (гл.).

**Мáнка**₂, *манко* 'растрата' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *manko,* якое з італ. *manco* 'тс'.

**Манкéт,** *манкéты,* малар. *манкэ́та, манкатэ́* 'канцавая частка рукава, манжэт' (Касп., Сл. Брэс., Сцяц., Сл. ПЗБ; гродз., Мат. АС; в.-дзв., Шатал.; гродз., дзярж., Нар. сл.; КЭС, лаг.; слонім., Шн. 3), 'частка рукавіцы' (Жд. 1). Рус. ёнаўск. (ЛітССР) *манкéта* 'манжэта'. Запазычана з польск. *mankiet* 'тс' (Кюнэ, 76; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 3, 31), якое з італ. *manichetta* 'рукаўчык'.

**Манкіраваць** 'грэбаваць, нядбайна адносіцца да чаго-небудзь' (ТСБМ), 'хлусіць, падманваць, фальшывіць' (Нас.; іўеў., Сл. ПЗБ). З рус. *манкúровать* 'адсутнічаць, ухіляцца', якое з франц. *manquer* 'не хапаць'<італ. *mancare*>лац. *mancus* 'пакалечаны' (Фасмер, 2, 570).

**Манкірáнт** 'прылада для правядзення радкоў на градзе' (Жд. 1). З польск. *markier* 'маркёр' пад уплывам польск. *markierant* 'гультай'.



**Мáнна**₁ 'ежа', таксама ў выразе: *манна нябесная* (біблейск.), (разм.), 'манныя крупы' (ТСБМ, смарг., Сл. ПЗБ). Укр. *манна (небесна)* 'тс', рус. *манна* 'манна нябесная', ст.-рус. *мана, манна, маньна* 'манна', ст.-слав. **ман(ъ)на; маньна** (Пацлава, Paleoslov., 120). З грэч. μάννα 'ежа', якое з арам. *mannā* 'дар, ежа'. У зах.-слав. мовах *mana, manna* з с.-лац. *manna,* якое таксама з грэч. мовы. Разглядаючы італ. *manna* Бацісці — Алесьё (3, 2351), дапускаюць, што біблейская манна суадносіцца з раслінай Lecanora esculenta (гл. *манна*₂).

**Мáнна**₂ 'маннік наплываючы, Glyceria fluitans (L.) R. Br.', 'застылы сок гэтай і некаторых іншых раслін' (маг., Кіс.; ТСБМ). Укр. *манна, манна трава, маннова трава,* польск. *manna, mannianka, słodycz* 'маннік', чэш. *manna,* польск. *manna samorodna* 'расічка, Digitaria, рус. *манна,* славац. *manna jedla* 'манна ядомая, Lecanora esculenta' і інш.— да прасл. *mana* (гл. *манíцы).* Раней у жыцці старажытных славян (на Беларусі нават і ў XIX ст.) маннік шырока выкарыстоўваўся ў ежы ў выглядзе каш, а з застылага соку, які збіралі перад узыходам сонца, рабілі напіткі («мяды»), параўн. рус. *мёд из манны* (Махэк, Jména 280 і 294).

**Маннáрка** 'кароткае на кудзелі мужчынскае паліто' (навагр., Жыв. сл.). З польск. *marynarka* 'пінжак'. Падвойнае *-нн-* з *-рн- (*<*-рын-).*

**Мáннік** 'расліна Glyceria R. Br.' і знешне падобная да яе 'аўсяніца авечая, Festuca ovina L.' (маг., Кіс.; ТСБМ, Кіс.). Да *мáнна*₂ (гл.).

**Манпансьé** 'сорт фруктовых ледзянцоў' (ТСБМ). З рус. *монпансьé* 'тс', якое з франц. назвы графства *Montpensier* (Фасмер, 2, 651; Крукоўскі, Уплыў, 79).

**Мансáрда** 'жылое памяшканне пад дахам' (ТСБМ). З польск. *mansarda,* якое з франц. *Mansard F.* — прозвішча архітэктара (1598—1666). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 79), — з рус. мовы.

**Манстрáнцыя,** ст.-бел. *монстранцыя* 'дараносіца' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *monstrancyja,* якое з с.-лац. *monstrantia* (Булыка, Лекс. запазыч., 179)<лац. *monstrare* 'паказваць'.

**Мантáж** 'зборка і ўстаноўка машын, збудаванняў з гатовых частак', 'падбор і аб'яднанне асобных частак мастацкага твора ў адно цэлае' (ТСБМ). З польск. або рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 83), у якіх з франц. *montage* 'пад'ём, зборка, устаноўка' (Лёхін, 462)<*monter* 'выцягваць у вышыню, устанаўліваць<лац. *montare*<*mons,* Р. скл. *montis* 'гара'.

**Мáнталь** 'лёгкая вопратка' (Сцяшк. Сл), драг. *мáнтыль* 'плашч' (КЭС), ст.-бел. *мантель, метель* 'плашч' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *mantel* 'тс', якое з с.-в.-ням. *mantel*

(Жураўскі, Бел. мова, 62; Булыка, Лекс. запазыч., 107)<лац. *mantellum* 'покрыва, посцілка, абрус'.

**Манта́ч** 'хлус, марнатравец', *манта́чыць* 'марнатравіць', 'падманваць' (ТСБМ, Нас., КЭС, лаг.), *манты́чыць* 'транжырыць' (Нар. Гом.). З польск. *mantacz* 'спрытнюга, махляр, круцель, хлус', якое з *matacz* 'тс'. Устаўное *-н-* з'явілася пад уплывам пачатковага насавога *м-* або пры ад'ідэацыі франц. *menteur* 'хлус' (Варш. сл., 2, 876).

**Манта́чка** 'мянташка' (нараўл., браг., Мат. Гом.), *манта́шка* 'тс' (Растарг., Ян.). Укр., рус. бран., кур. *манта́чка* 'тс'. Да *мянта́шка* (гл.). Сюды ж *манта́чыць* 'мянціць', 'вастрыць касу' (нараўл., Мат. Гом., Бяльк.).

**Манта́чыць** 'выпрошваць' (Касп.), укр. валын. *манта́чите* 'тс'. Пад уплывам *манта́чыць*<*мантач* (гл.) з польск. *mantyczeć*, якое з *mantyka* 'торба'>'прасіць, жабраваць'.

**Манта́шыць** 'рваць тузаючы' (Сцяцк.), *мантошыць* 'ганяць, біць, знішчаць' (ТС). Да *мяць* (гл.) — прасл. *męti*, якое ў польск. мове атрымала дадатковыя суфіксы *-t-os-*, параўн. *miętosić, miętusić* 'мяць, ціснуць', з якіх былі запазычаны бел. лексемы.

**Манто** 'жаночае (футравае) паліто свабоднага пакрою' (ТСБМ). Позняе запазычанне з польск. *manto* ці з рус. *манто* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), якія з франц. *manteau* (Фасмер, 2, 570). Роднаснымі да іх з'яўляюцца паўд.-рус. *ма́нта* 'малдаўскае адзенне з доўгім каўняром, які накідваецца на галаву ў дождж', укр. бук. *манта́ва* 'доўгае суконнае паліто на ваце'.

**Мантрамоззе**, ушац. *мънтрамозьзя* 'транты' (Нар. сл.). Узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *матрасі́ць* (ці *матрахлясы*), *транты* і *рыззё*.

**Манту́з** 'мянтуз' (нараўл., З нар. сл.). Да *мянту́з* (гл.). Тое ж рус. (Волга, Ака), арл. *мантус* 'тс'.

**Манту́ла** ход гульні ў баланты (у цуркі)', *манту́ліць* 'біць, гуляць' (ТС). Рус. перм. *дать мантулу кому-либо* 'ўдарыць каго-небудзь'. Паводле Цыхуна (Бел.-укр. ізал., 86), семантычна найбольш блізка лексема стаіць да рум. *mântuiόla* 'заканчэнне', 'збаўленне, вызваленне, уратаванне'.

**Манту́ліць** 'прыкінуцца бедным, каб пажывіцца' (Нас.), *манту́лы* 'ласункі, прысмакі' (слаўг., Нар. словатв.), 'хаўтурны абед', 'гасціна з прычыны якога-небудзь свята', 'дармавая выпіўка', 'палескія дранікі', 'бліны і памінальныя стравы', 'выгоды жыцця, лёгкія даходы' (Нас. Сб.; паўд.-усх., КЭС), 'хлеб і іншыя харчы, сабраныя для духавенства' (там жа), *манту́лік* 'сырнік' (лоеў., Мат. Гом.), *манту́льнік, манту́лка* 'мужчына і жанчына, якія любяць жыць за чужы кошт' (Нас.). Укр. *мантули* 'ахвяраванні, сабраныя для каляднікаў ці жабракоў', гуц. 'пірагі з кукурузнай мукі з сырам', *манту́лки* 'салодкія падарункі, баранкі, прывозімыя з кірмашу', *манту́лити* 'выпрошваць падачкі'; рус. варон. *манту́лить* 'карміцца рэшткамі з панскага стала', *мантульник, мантульница* 'той, хто корміцца рэшткамі з панскага стала', 'хто напрошваецца да іншых на абеды, у госці'. Усходнеславянскае. Утварэнне з суфіксам *-ул-*, якое не мае нейкага аднаго адпаведніка ў іншай мове. Утварылася ў выніку кантамінацыі; у ім перакрыжавалася некалькі першасных балтыйскіх і усх.-слав. (бел.) лексем. Так значэнне 'ласункі, слодыч' звязваецца праз лексему *ламту́ты* (гл.) з літ. *lemtùtas* 'дабрачыннасць і інш.', значэнне 'дармовыя частаванні, лёгкія даходы' можна экстрагаваць з літ. *mantà* 'багацце', *mantas* 'выгода, карысць', *mantáuti* 'старацца нажыцца' і бел. *мантачыць* 'выпрошваць'.



**Манту́н** 'ілгун' (ганц., Нар. лекс.), як і ўкр. *мантя́р* 'тс', з устаўным экспрэсіўным *-н-*. Аналагічна бел. *манты́ць* (гл.), *манцыкле́та* (Мат. Гом.), польск. *manteria*<*materia, mantacz*<*matacz* 'хлус'. Да *мані́ць* 'хлусіць' (гл.). Не выключана, аднак, кантамінацыя бел. *маню́ка* і зах.-палес. (драг.) *мутюн*.

**Манты́лькі** 'верхняя жаночая вопратка, накідка' (Нас., Федар., 6). З польск. *mantylka* 'накідка, свабодны плашч, палярынка', якое з *mantyla* 'тс'. Да *манты́лья* (гл.).

**Манты́лья** 'карункавае пакрывала (на галаву) у іспанак', 'кароткая жаночая накідка без рукавоў' (ТСБМ). З рус. *мантилья* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), якое праз новав.-ням. *Mantille* ці франц. *mantille* з ісп. *mantilla* (Фасмер, 2, 570)< лац. *mantellum* 'покрыва'.

**Мантыля́ць** 'махаць' (Сцяшк.), *мантыля́цца* 'матлянца, целяпацца', 'бегаць туды-сюды' (слонім., Жыв. сл.), 'хістацца на ветры' (Сцяц.). Укр. *мантиля́ти* 'матляць, махаць'. Кантамінаваныя лексемы, якія ўзыходзяць да *мані́ць* (гл.)<і.-е **ma-* (параўн. рус. *ману́ть* 'махнуць') і бел. *матальга́ць* (гл.). Параўн. таксама балг. *манта́рам* 'размахваю'.

***Манты́ць**, кобр. *манты́ты* 'прываблiваць' (Нар. лекс.), укр. бук., бойк. *манти́ти* 'вымантачваць, выдурваць', бойк. *манта́* 'падман', 'хлус', рус. варон. *мантить* 'быць прыцягальным', польск. *mancić* 'вымантачваць, падманваць'. Да *мані́ць* (гл.) з устаўным *-т*-суфіксам.

**Ма́нтыя** 'доўгае шырокае адзенне ў выглядзе плашча' (ТСБМ). З рус. *мантия*, якое з с.-грэч. μαντίον (Лёхін, 423).

**Мануфакту́ра** 'фабрыка, тэкстыльная фабрыка', 'тканіны' (ТСБМ). Са ст.-польск. *manufaktura* 'рамесніцкая праца ў цэху', 'вырабы (тканіны) тэкстыльнай прамысловасці', якое з с.-лац. *manufactura*<лац. *manu facere* 'рабіць рукамі' (SWO, 452; Голуб-Ліер, 302).

**Ману́ць**[1] 'хлусіць' (ганц., Жыв. сл. і Сл. Брэс.; Ян.). Да *мані́ць* (гл.).

**Мануць**$_2$ 'заваблiваць' (Ян.). Укр. *манýти,* рус. цэнтр., паўд. *манýть* 'тс', 'падклiкаць знакамi, рукамi, поглядам', 'угаворваць паехаць, пайсцi куды-небудзь', 'цягнуць, выклiкаць жаданне'. Да *манiць* (гл.).

**Манýць**$_3$ 'трапiць, папасцi куды трэба' (Бяльк.). Да *манiць* 'прыцягваць' (гл.).

**Манцёр** 'спецыялiст па электраабсталяванню, электраправодцы', 'мантажнiк' (ТСБМ). З рус. *монтёр,* якое з франц. *monteur*<*monter* 'збiраць'.

**Манцiла** 'мянташка' (калiнк., Мат. Гом.). Балтызм. Параўн. лiт. *mentẽ* 'лапатка'. Утворана пры дапамозе суф. *-iла*<прасл. *-idlo*.

**Манцымонтка** 'какетка' (беласт., Сл. ПЗБ). З *малiмонтка.* Да *малiмончык* (гл.).

**Манынáрка** 'пiнжак' (смарг., ашм., Сл. ПЗБ). Паланiзм. Параўн. польск. *marynarka* 'тс'.

**Мань** 'iлгун' (Мiкуц.). Да *манiць* (гл.).

**Мáнька** 'ляўша' (Сцяшк.), укр. *мáнька, манькó, манькут* 'тс'. Запазычана з польск. *mańka, mania, mańkut* 'левая рука', 'ляўша', якiя з iтал. *mancato* 'знявечаны'<лац. *mancus* 'калека'.

**Мáнькi** 'шарсцяныя рукавiцы з адным вялiкiм пальцам' (жытк., ДАБМ, к. 333). Рус. арх. *мáньки* 'рабочыя пальчаткi без пальцаў', ярасл., уладз., валаг., пск., цвяр. *мáнька* 'жаночая муфта'. Да *манька* 'муфта', якое з iтал. *manica* 'рукаў' (Фасмер, 2, 571).

**Манько** 'хлус, падманшчык' (Шпiл.). Да *манiць* (гл.). Аб суфiксе гл. Сцяцко, Афiкс. наз., 46—47.

**Манькýт**$_1$ 'манюка' (Янк. 1, Янк. БП), *манькýха, манькýцiха* 'iлгуха' (Янк. 3). З польск. *mańkut, mańka* 'ляўша', якое змянiла семантыку: 'леварукi'>'якi робiць не па-сапраўднаму'>'якi хлусiць, падманвае'. Параўн. i польск. *zażyć kogo z mańki* 'ашукаць, падмануць, пажартаваць'. Польск. *mańka, mańkut* узыходзяць да iтал. *manca* 'левая рука'.

**Манькýт**$_2$, *манькýта* 'чучала, падобнае да цецерука, пры дапамозе якога палешукi лавiлi цяцерак (Эр эм., Кiркор; браг., Нар. Гом.). У вынiку семантычнага пераносу з *mánькут*$_1$ (гл.), якое, аднак, асацыiравалася з бел. *манiць* (гл.).

**Маньцéль,** *маньцюк* 'манюка' (докш., Янк. Мат.; Шат.; бар., Сл. ПЗБ). Да польск. *mancić* 'падманьваць, дурманiць, збiваць з панталыку, марочыць галаву', 'высмейваць', 'вымантачваць'.

**Манюк** 'хлус, iлгун' (лях., Сл. ПЗБ), *манюка* 'тс' (ТСБМ, Яруш., Сцяшк., Шат., Нар. Гом., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; глус., докш., Мат. Янк.). Беларускае. Да *манiць* (гл.).



**Мáня** 'прывiд, здань' (Рам. 8), *мáнiя* 'тс' (Ян.), укр. *манiя,* рус. паўн., усх. *манья́* 'тс'. Да *мана́* (гл. *манiць*) (Семяновiч, AfSlPh, 11, 310). На месца нацiску ўплывае лексема *мáнiя* 'псiхiчны стан'. Сюды ж *манячыць* 'ледзь бачыць' (паўд.-усх., КЭС).

**Маня́к**$_1$ 'хлус' (жытк., Арх. ГУ), рус. калуж. *мяньяк,* польск. *maniak* 'тс'. Да *манiць* (гл.). Утворана ад назоўнiка *мана́* 'хлусня'. Аб суфiксе *-ак* гл. Сцяцко, Афiкс. наз., 146.

**Маня́к**$_2$ 'дурак' (браг., З нар. сл.). З *маньяк* 'апанаваны манiяй', ст.-бел. *маньякъ* 'шалёны (XV ст.) было запазычана з с.-лац. *maniacus* (Булыка, Лекс. запазыч., 126).

**Мáпа** 'геаграфiчная карта' (Др.-Падб.). З польск. *mapa* 'тс', якое з ням. *Mappe*<франц. *mappe-monde* 'выява зямной паверхнi'<с.-лац. *mappa mundi*<лац. *mappa* 'сурвэтка, хустка'<пунiцк. 'хустка' (Махэк$_2$, 351; Васэрцыер, 147).

**Мáра** 'тое, што створана фантазiяй', 'жаданне, iмкненне', 'нешта нерэальнае, неiснуючае' (ТСБМ, Др.-Падб.). Укр. *мара* 'сон, мара; мары', польск. *mara* 'сон з марамi', 'тое, што мроiцца ў сне', 'тое, аб чым марыцца'. Бел.-укр.-польск. iзалекса. Узнiкла ў вынiку абстрагавання аднаго са значэнняў *мара́*$_1$ — 'сон, тое, што здаецца'. Паводле Булыкi (Лекс. запазыч., 127), ст.-бел. *мара* 'соннае вiдовiшча' (пач. XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *mara.*

**Мара́**$_1$ 'прывiд, страшыдла, нячыстая сiла, пачвара, здань, насланнё' (Мал., Бес., Федар. 1, Багд., Яруш., Некр., Касп., Бяльк., Шат., ТС; слуц., мазыр., Сержп., Казкi; усх.-гом., паўн.-зах., КЭС; брэсц., пiн., Нар. лекс.); *мáра, марана* 'тс' (Клiм., Др.-Падб.; Крывiч, 4; Нас., Растарг.), 'нешта брыдкае, неадчэпнае' (Нiкан.), 'нiкчэмнасць' (драг., Нар. лекс.); *мара́* 'пагiбель' (Растарг.), 'прыгода, незразумелая перашкода' (Нас.), 'чорная, страшэнная масiўная iстота на кароткiх лапах, якой вельмi баяцца дзецi', 'пудзiла з саломы, апранутае ў рыззё' (Рам. 8), 'iстота, якая давiць хлопцаў i дзяўчат у час iх сну' (Кольб.), 'нячысцiк, д'ябал' (Ян.; нараўл., Мат. Гом.), стол. 'нягоднiк, паганец', драг. 'неахайная, непрычасаная жанчына' (Нар. лекс.), 'жартаўнiк, штукар' (ТС), *мáрны* 'дарэмны, бескарысны' i дэрываты да яго (Нас., ТСБМ). Укр. *мара́* 'прывiд, здань', 'нячысцiк, якi затуманьвае людзям розум, каб завесцi iх у небяспечнае месца', *мáрний, марнúй* 'дарэмны'; рус. *мáра, мара́* 'прывiд, мары, нячысцiк, якi дапрадае ноччу тое, што пакiнута на ноч недапрадзеным, рве кудзелю i пражу', кур. 'смерць', ленiнгр. 'неахайная жанчына', урал., сiб. 'каханы', 'дзяўчына', рус. ц.-слав. *мара* 'страта свядомасцi'; ст.-рус. *мара* 'зацямненне свядомасцi', 'забыццё', 'сны', 'насланнё', 'прывiд'. Польск. *mara, marzydło* 'прывiд, цень нябожчыка, дух, страшыдла, вампiр'; *mara, mora* 'начны дух, кашмар, якi

нападае на коней і сонных людзей’, ’начны матыль’, *marzyć* ’марыць’, *marnować, marnotrawić* ’марнатравіць’, *marzanna* ’саламянае чучала, якое сімвалізавала сонца’, н.- і в.-луж. *marny* ’марны’, в.-луж. *marota* ’капрыз, выдумка’, *mara* ’дух, прывід смерці’, чэш. *marniti* ’дарма траціць, марнатравіць’, *mařiti* ’псаваць, губіць, разбіваць (надзеі)’, чэш., славац. *marný* ’марны’, славац.. *mara* ’хвароба’ *slepa mara* ’начны матыль’, *marit’ sa* ’здавацца’, славен. *márən* ’марны’. Прасл. *mara* ’мары’, ’прывід, здань’ утворана ад асновы **ma-* (гл. *маніць)* пры дапамозе суфікса *-ra.* (Бернекер, 2, 18; Фасмер, 2, 571; Брукнер, 322; Шустар-Шэўц, 12, 886; Голамб, Зб. Якабсону, 1, 779—780; Власт, Крывіч, 4, 1923, 30).

**Мара́**$_2$ ’назола, дакучлівы’ (Нас., Шат.; Нар. лекс.). Да *мара́*$_1$ (гл.). Насовіч (289), аднак, адносіць да *марыць,* якое ад прасл. *mōra.* Няма падстаў.

**Мара́**$_3$ ’павольны’ (Нас.). Рус. калуж., арл. *мара́* ’слабы чалавек малога росту’, сіб. ’няўклюда’. Паводле Насовіча (289), запазычана з лац. *mora* ’запаволенасць’. Сюды ж *мараваты* ’спакойны, вялы гон па следу звера’ (Інстр. II). Параўн. рус. вяц. *моровать* ’рабіць што-небудзь паволі, спакваля’.

**Маравіца** ’скула’, ’нешта нязначнае’, *маравая скула* ’карбункул’ (Ян.). Укр. *моровиця* ’маравая язва’, польск. *morowica* ’скула, нарыў у горле’. Да прасл. *mor-/mir-/mьr-*>*мерці, смерць* (Варш. сл., 2, 1043).

**Мара́ка** ’дробны дождж’ (Ян.). Пад уплывам укр. *мряка* ’густы туман з імглой’. Параўн. таксама рус. паўн. *мо́рок* ’дождж’, *моро́ка* ’хмара’, ’туман’.

**Марака́** ў выразе: *марака́ бярэ* ’траціць прытомнасць, млець’ (Лінгв. зб.), укр. *моро́ки беру́ть* ’тс’, рус. пск., смал. *моро́ка* ’пацямненне розуму’, кур. ’прывід’, паўн. ’міраж на моры’, варон. *мороки ударяют в голову* ’траціць прытомнасць’. Да *морока*$_2$.

**Маракава́ць**$_1$ ’разумець, разбірацца ў якой-небудзь складанай справе, абдумваць што-небудзь’ (ТСБМ, Чач., Шат.), рус. арханг., перм. *морокова́ть* ’думаць, разумець, кеміць’. Звязана чаргаваннем галосных з *мере́кать* ’кеміць’ (Бернекер, 2, 38; Фасмер, 2, 657), *мере́чить* ’надумваць нешта благое’, якія да прасл. *merk-/mьrk-.*

**Маракава́ць**$_2$ ’крыўдзіцца, крыўдаваць, злавацца, наракаць’ (ТСБМ, Шат., Сцяц.; бар., Хрэст. дыял.; мін. дзярж., КЭС; слонім., Нар. словатв.), *марокавацъ* ’скардзіцца’ (КТСБМ, Якуб Колас). Укр. *морокува́ти* ’злавацца, бурчэць на каго-небудзь’, рус. перм. *морока́ться* ’скардзіцца, выклікаць незадавальненне’, польск. *marykować, (a)marykować, marakować* ’лемантаваць, наракаць, маркоціцца, шкадаваць’. Паводле Варш. сл. (2, 890), дапускаецца магчымасць запазычання з с.-лац. *amaricare* ’дакучаць’<лац. *amārico* ’рабіць горкім’.



***Маракіта,** *марокіта* ’клопат’, *морокня́, морокоўня́* ’тс’ (ТС). Да *марока*$_2$ (гл.). *Морокіта* — кантамінацыя *моро́ка* і рус. *волокита.*

**Мара́ль** ’правілы, нормы паводзін людзей у адносінах паміж сабой’, ’павучальны вывад з чаго-небудзь’, ’павучанне, натацыя’ (ТСБМ, Растарг.). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 77), запазычана з рус. мовы. Аднак яшчэ ст.-бел. *моральный* ’маральны’ (XVII ст.) са ст.-польск. *moralny.* Паланізмамі з’яўляюцца бел. *марал* ’мараль’ (Яруш.) і *мара́льнасць* з польск. *moralność* ’тс’. Усе праз франц. *moral* прыйшлі з лац. *moralis* ’які датычыць звычак’ (SWO, 491).

**Мараса́,** *мороса́* ’імжа’, ’павольны няспешны чалавек’ (ТС), *ма́рась* ’дробны дождж з туманам’ (Сцяшк. Сл.), *марасíць, мырасíць, марусíць, моросíць, морусíць, марашы́ць, марушы́ць* ’імгліць, імжэць, ісці (пра дробны дождж)’ (Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС; валож., Жыв. сл.), *мархацéць* ’тс’ (дзятл., Сл. ПЗБ). Рус. *моросить, моро́сь, моро́х,* цвяр. *моро́ха* ’імжа’, славен. *mršeti* ’марасіць’, ’церушыць (аб снезе)’, *mŕščati* ’тс’. Самымі блізкімі і.-е. адпаведнікамі з’яўляюцца: лат. *mirdzināt, merguôt* ’марасіць’, *męr̃ga, mar̃ga, mārga* ’дробны, ціхі дождж’, літ. *mirgė̃ti* ’мігаць’, ст.-грэч. βροχή, βροχετός ’дождж’, βρέχω ’раблю вільготным’, і.-е. **merg(h)-/*morg(h)-* (Міклашыч, 202; Траўтман, 182; Мюленбах-Эндзелін, 2, 563, 583, 602; Фасмер, 2, 657; Фрыск, 1, 267; Бязлай, 2, 203).

**Мараха́ніць** ’траціць час дарма’ (Бяльк.). Няясна. Магчыма, узыходзіць да рус. *морх* ’махры’, ’аборкі на рукавах сукенкі’>’рабіць махры, аборкі’>’займацца непатрэбнай справай’>’марнаваць час’.

**Ма́рац,** *ма́рыц, ма́ріц, ма́рэць, марц* ’сакавік’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Сцяц., Сцяшк. Сл., Жд. 1, Бяльк., Бес., Яруш., Нар. Гом., Сл. ПЗБ; браг., в.-дзв., Шатал.), ’перыяд цечкі ў катоў’, ’юр’ (Сцяц.; карэліц., Жыв. сл.), *марцовы* ’сакавіцкі’, ’стары паводле год (чалавек)’, ст.-бел. *марецъ* ’сакавік’ (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *marzec,* якое са ст.-чэш. *marec, mařec*<ням. *März* ’тс’ (Кюнэ, 76; Булыка, Лекс. запазыч., 157). Сюды ж *марцава́ць, марцова́ты, марцова́цца* ’спарвацца, палявацца (аб катах, ваўках, знаходзіцца ў стане цечкі’ (Некр., Шат., Сл. ПЗБ, ТС; бяроз., Шатал.; зэльв., Жыв. сл.). Аналагічна рус. цвяр. *ма́ртиться* ’тс’.

**Мара́ць,** *мыра́ць, мара́тэ* ’пэцкаць’ (Федар. 6, Шат., Бяльк.; драг., КЭС; мін., Сл. ПЗБ), *мара́ты* ’брудны’ (бяроз., Шатал.; драг., Нар. лекс., Нар. словатв.). Укр. *мара́ти,* польск. *marać,* в.-луж. *marać, mórać* ’тс’, н.-луж. *maraś* ’плявузгаць брыдоту’. Роднасныя і.-е. адпаведнікі: літ. *moraĩ* ’цвіль’, *apmo-*

15. Зак. 1005

*rūti* 'плеснецъ', лат. *morgât* 'пэцкаць', арм. *mrayl* 'цёмны', 'хмара', ст.-грэч. μορύσσω, алб. *përmjér* 'мачуся'. Да і.-е. **mor-(u-)* (Бернекер, 2, 18; Сольмсэн, Зб. Ягічу, 576; Траўтман, 169; Фасмер, 2, 572; Бязлай, 2, 168).

**Марва́** 'адходы ад воску' (віл., Сл. ПЗБ), рус. пск. *мерва́* 'пачассе'. Балтызм. Параўн. літ. *marvà* 'ўсякае смецце' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 32).

**Маргазіць** *(безас.)* 'імжэць' (в.-дзв., Анім.). Балтызм. Параўн. лат. *mārga* 'тс', *mirdzinât* 'ісці (пра ціхі дождж)'.

**Маргавіца** 'маланка' (лоеў., ДАБМ, к. 311; Ян.). Балтызм. Параўн. літ. *mirgēti* 'мігаць, мігцець', *mar̃guoti* 'тс', лат. *mir̃gu, mir̃dzêt* 'пераліvацца, бліскаць'. Суфікс аформлен, як у лексемы *бліскавіца.*

**Марга́йка,** *маргойка* 'стракатая свойская жывёла' (Вяржб. дыс.). Літуанізм. Параўн. літ. *margóji* 'тс' (там жа, 510; Лаўчутэ, Балтизмы, 80).

***Маргалі,** зэльв. *маргалé* 'мітусенне, «зоркі» ў вачах' (Жыв. сл.). Да *маргáць* 'міргацець'.

**Маргáль** 'баран-вытворнік' (браг., Шатал.). Да *маркáль* (гл.).

**Марганцоўка** 'крышталі або раствор марганцавакіслага калію' (ТСБМ). З рус. разм. *марганцóвка* 'тс', якое да *мáрганец*<ням. *Manganerz*<італ. *manganese* 'тс' — скажонае лац. *Magnes* 'магнесійскі, з горада *Magnēsia*' (Праабражэнскі, 1, 510; Фасмер, 2, 572; Голуб-Ліер, 301; Крукоўскі, Уплыў, 89).

**Маргары́н** 'харчовы тлушч — сумесь алею і жывёльных тлушчаў' (ТСБМ). З рус. *маргарúн* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), якое са ст.-ням. *Margarin*<франц. *margarine*<ст.-грэч. μάργαρον, μαργαρίτος 'перл, жэмчуг', да якога маргарын падобны колерам.

**Маргары́тка** 'стакротка многагадовая, Bellis perennis L.' (гом., маг., мін., Кіс.; ТСБМ). З рус. *маргарúтка* ці з польск. *margarytka* 'тс', якія з франц. *marguerite* 'тс', 'рамонак', 'жэмчуг'.

**Маргáць,** *моргаць, моргáць* 'міжвольна падымаць і апускаць векі', 'падморгваць', 'міргаць, мігцець', *(перан.)* 'упускаць зручны момант' (ТСБМ, ТС; беласт., Сл. ПЗБ), *маргацéць* 'мігацець, ззяць (аб зорках)' (Сцяшк.), *морготíты* 'дваіцца, мітусіцца ў вачах' (Клім.), *марганýць* (Яруш.), *маргýнь!* 'пра аднаразовае марганне' (мсціcл., Нар. лекс.), *маргýн, маргýха* 'хто часта маргае вачыма', *узор у маргухі* 'узор, пры разгляданні якога міргаціць у вачах' (слуц., КЭС). Укр. *моргáти,* рус. *моргать,* польск. *mrugać,* чэш. *mrkati,* мар. *mrk(ot)at',* в.-луж. *měrkotać* 'тс'. Роднаснымі да прасл. *mъrgati* (а пазней *mъrk-)* з'яўляюцца літ. *mérkti,* лат. *mirgt* 'міргаць, жмурыць' (Махэк₂, 379), літ. *murgai,* лат. *mùrgi* 'трызненне',



літ. *mirgēti* 'мігцець', *mar̃guoti* 'тс', 'пераліvацца', *márgas* 'стракаты', лат. *mir̃dzêt* 'мігацець' (Фасмер, 2, 652). Няма падстаў лічыць балтызмам палес. *морготíты* (Лаўчутэ, Балтызмы, 48).

**Маргéлка,** *маркéлка* 'сялянская белая лямцавая шапка канічнай формы без брыля' (віц., Шн. 3; Грыг., Дэмб. 2, Малч., Нас., Бяльк., Растарг.; Мат. Маг.; Нар. Гом.). Да *магéрка* (гл.).

**Мáргель₁,** *мáрґель, мáрґэль, мéрґель, мэргель, маргуль* 'вапняковы камень, які трапляецца ў гліне' (Нас., Нар. словатв.). З польск. *margiel* 'тс' (Кюнэ, 76), якое з новав.-ням. *Mergel* 'тс'. Насовіч (280) гэту лексему памылкова выводзіць з літ. *marga.*

**Мáргель₂,** *марґель, мáргі(с)* 'мянушка рабога (стракатага) быка' (лід., ашм., Кар.; мін., КЭС), гродз. 'рабы (пра масць жывёлы)', шальч. 'брудны, мурзаты' (Сл. ПЗБ), *мáрга* 'мянушка каровы' (Калоссе, 4), *маргі(с)* 'стракаты вол, сабака' (Кар. 1; LKK, 16), польск. *margiel* 'стракаты бык', *margiala, margiałka* 'стракатая карова'. Балтызм. Параўн. літ. *margēlis, margēlė, mar̃gis* 'жывёла', бык (карова) пярэстай масці' (Карскі, Труды, 393; Вяржб. дыс., 510—512), літ. *márgais* 'стракаты' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 32; Урбуціс, Baltistica, 5, 160 і 65, Лаўчутэ, Балтизмы, 47—48).

**Марґень,** *маргіня* 'тканіна ў клетку' (ігн., Сл. ПЗБ), польск. *marginia,* ст.-польск. *morginia, morgienia* 'рабая спадніца'. Балтызм. Параўн. літ. *marginė* 'рабая тканіна' (Грынавяцкене, ПЗБ, 3, 32), літ. *margiñys* 'тканіна з ляной пражы, перамешаная з воўнай і бавоўнай', якое да *márgas* 'стракаты, рабы' (Вяржб. дыс., 510—512; Лаўчутэ, Балтызмы, 80).

***Маргоўніца,** *моргóўніца* 'межавая броўка паміж загонамі' (ТС). Да *морг₂* (гл.).

**Маргýля** 'газоўка', *маргýлька* 'тс' (Ян.). Да *маргаць* 'мігацець' (гл.).

**Мáргун** 'іржавая гліна' (жлоб., Нар. словатв.), рэч. 'камяні чорнага колеру, якія непажадана для ганчароў сустракаюцца ў гліне' (Нар. словатв.). Да *мáргель₁* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс, наз., 173.

**Мардавáцца₁,** *мардувáцца, мырдавáцца* 'выбівацца з сіл, стамляцца, знясільвацца', 'мучыцца, пакутаваць' (ТСБМ, Мядзв., Бяльк., Шат., Касп.; усх.-гом., КЭС), 'кідацца чым-небудзь, свавольнічаць' (Клім., Мат. Маг.), 'жартаваць, балавацца, дурыцца' (паўд.-усх., КЭС), *мардавáць* 'знясільваць цяжкай працай, мучыць, прыносіць пакуты' (ТСБМ, Нас.; паўд.-усх., КЭС), *мардавáньe* 'мучанне, непрыемнасць, буянства', 'працяглае порканне' (Юрч., Нас., Бяльк.), *мардóйны* 'які знясільвае', мардун 'мучыцель, назола' (Нас.), ст.-бел.

*мордеръ* 'забойца' (Гарб.), *мордъ* 'забойства, разбой' (XVI ст.), *мордовати* 'мучыць, мардаваць' (XV ст.) са ст.-польск. *mordować, mord,* якія з с.-в.-ням. *mort* 'смерць', *morden* (Булыка, Лекс. запазыч., 41; Кюнэ, 78; Жураўскі, Бел мова, 63 і зб. Крапіве, 144), суч. ням. *Mord* 'забойства'>*morden* 'забіваць гвалтам', *mörder* 'забойца'; параўн. лац. *mors* 'смерць', *morior* 'паміраць', ст.-грэч. βροτός (<μροτός) 'смяротны', літ. *mirtis* 'смерць'.

**Мардáсы,** *мырдáсы* 'нос і губы', 'твар', 'хара' (Нік. Оч., Растарг., Нас., Шат.), *мардáсты* 'таўстагубы' (Нас.), 'мардаты, таўстаморды' (ТСБМ, Нас.), 'вялікагаловы (пра саву)' (іўеў., Сл. ПЗБ). Укр. *мордáс* 'аплявуха', рус. перм. *мордáс* 'твар', смал., пск. *мордасина* 'морда, хара', паўн.-каўк., раст. *мордáсы* 'шчокі', кубан., пск., смал. 'скулы', 'вушы', паўд. *мордáсить* 'біць па твары'. Да *морда* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 195.

***Мардáч,** *мордáч* 'падʼязік, Leuciscus idus' (ТС). Рус. пск. *мóрда* 'гусцера, Blicca bjoerkna Art.', *мордáк* (Чудское і Анежскае воз.) 'сіг, Coregonus bararetus maraenoides'. Да *морда* (гл.).

**Мардвá** 'дзеці' (клім., Растарг., Да характ.) 'гарэзы, свавольнікі', 'назола', 'непакойныя людзі', 'шумная хеўра, зборышча' (Нас.). Рус. смал. *мордвá* 'розныя дробныя прадметы, дробязь', смал., калуж. 'малыя дзеці'. Да *мардавáць* 'мучыць, непакоіць' (Фасмер, 2, 653—654). Утворана пры дапамозе суфікса *-ва,* як *дзятвá, пацанвá, братвá* (Сцяцко, Афікс. наз., 202). Параўн. драг. *жымырвá* 'дзеці — гарэзы і назолы'.

**Мардзéлік** 'корж' (Ян.). З *мардзéль* 'таўстун' (Ян.) — паводле падабенства формы. Зваротнае развіццё семантыкі параўн. рус. *пышка* 'пампушка' і 'дзяўчына, маладзіца', драг. *роўгéня* 'дародная кабета'.

**Мардоўнік** 'блёкат чорны, Hyoscyamus niger L.', (гродз., Кіс.). Да *мардавáць*<ст.-бел. *мордъ* 'смерць': расліна мае атрутныя ўласцівасці.

**Марʼёнак,** драг. *марʼёнок* 'рамонак пахучы, Matricaria matricarioides L. (Less.)' (Нар. лекс.). У выніку кантамінацыі *марʼянка* 'маяран садовы', 'братаўка' і розныя іншыя расліны (параўн. укр. *марʼя́нка пахýча* 'дзярачка пахучая, Asperula odorata', рус. кур. *марья́нка* 'валярʼян лекавы, Valeriana officinalis duct.') і *рамонак,* які ў выніку дысіміляцыі з $^{+}$*міронак,* параўн. *мырýн* 'рамонак пахучы'.

**Маржóніны** 'ягады ажыны' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, названы ягады паводле падабенства (кропачкі) з божай кароўкай, параўн. літ. *maružė* 'Coceinella septempunctata'.

**Марзáкі** *(мн.) (грэбл.)* 'губы' (Нас.), 'твар, морда' (КЭС, лаг.). Рус. прэйл. (ЛатвССР), ёнаўск. (ЛітССР) *мурзáки*



'твар' (грэбл.). Балтызм. Параўн. літ. *mùrza* 'рот', 'твар'. Сюды ж *марзáць* 'біць па твары, па зубах' (Нас.), *марзанýць (груб.)* 'штурхнуць, ударыць' (смарг., Сцяшк. Сл.).

**Марзёк!,** *варзёк!* 'пра пэцканне' (мсцісл., Нар. лекс.). Рус. смал. *мурзы́к!<мурзы́кнуть* 'запэцкаць', дан. *марзануть* 'ударыць'. Балтызм. Параўн. літ. *murzi* 'тс', якое з *mur̃zinti* 'пэцкаць'. Параўн. драг. *пыцніть!* — 'пра аднаразовае пэцканне'.

***Марзя́нка,** *мырзя́нка* 'лубок ці кошык з намарожаным на дно пластом лёду для коўзання з горкі' (Бяльк.). Рус. свярд. *морзянка* 'тс'. Да *маразя́нка<марозны<мароз* (гл.).

**Мáрка** 'значок аплаты паштовых і інш. збораў', 'кляймо прадпрыемства на тавары', 'гатунак, тып тавару, вырабу' (ТСБМ, Яруш.). З рус. мовы, у якой з новав.-ням. *Marke* 'адзнака, знак'<с.-в.-ням. *marc* 'тс', спачатку ў сярэдневякоўі 'пагранічны знак, абазначэнне граніц'<*merken* 'адзначаць' (Фасмер, 2, 574). Ст.-бел. *марковати* 'тс', аднак са ст.-польск. *markować,* якое таксама з с.-н.-ням. *merken* 'заўважаць, звяртаць увагу' (Чартко, Пыт. мовазнаўства і метад., 122). Сюды ж *маркаваць* 'намячаць радкі для пасеву' (зэльв., Сцяшк. Сл.).

***Маркавіннік,** *морковіннік* 'жаўтацвет вясенні, Adonis vernalis L.' (лельч., Бейл.). Відаць, назва перанесена з іншай расліны, таму што з раслінай *морква* нельга звязаць матывацыю наймення. Магчыма, да *маркавáць* (>$^{+}$*маркаваны* 'значны, відочны': жоўтая кветка здзіўляе нас сваім памерам і выгодна выдзяляецца сярод сваіх сучаснікаў).

**Маркáль,** *моркáль* 'баран-вытворнік', *(зневаж.)* 'чалавек, які гаворыць непрыемным хрыпатым голасам' (Янк. 1, Некр.; хойн., рэч., Мат. Гом.; мазыр., лун., Шатал.; Ян.). Складае бел. паўд.-слав. ізалексу: серб.-харв. *мр̀каљ* 'казёл', 'баран', балг. *мъркалец* 'баран'; лексемы ўтвораны ад дзеяслова серб.-харв. *мр̀кати (се), мр̀кати, омркати* 'спарвацца (пра козы, авечкі, рыбы)', ст.-слав. **мръкати** 'тс', 'бляяць'. Паводле Скока (2, 467), тут у наяўнасці першабытнае гукаперайманне, якое пазней стала пастухоўскім тэрмінам для выражэння *coitus* авечак і коз. Казлова (БЛ, 21, 59) адносіць лексему да прасл. *mъrkalь* 'баран'. Гл. таксама *маркач*. Сюды ж, відавочна, і прозвішча *Мархель*.

**Марката́,** *маркотá, моркотá* 'сум, туга, журба', 'клопат, турбота, перажыванне' (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *маркотна, моркотно* 'сумна' (маг., паўд.-усх., КЭС; калінк., З нар. сл., ТС), *маркотны(й)* 'сумны, тужлівы, сонны' (ТСБМ, Грыг., Мал., Мядзв., Яруш., Бяльк., Растарг., Шат., Касп.; КЭС, лаг.), *маркоціць* 'тужыць, прыводзіць у сум, журбу', *маркоціцца* 'сумаваць, журыцца', 'чакаць, нічога не рабіўшы' (ТСБМ, Нік., Очерки, Яруш., Шат., Касп., Бяльк.; КЭС, лаг.;

ляx.), 'хіліць на сон' (Сл. ПЗБ), *маркатáць, моркітáти, моркотáты* 'буркаваць (пра птушак)' (паўн.-усх., КЭС; Сержп. Грам.), 'тс', 'мармытаць' (Доўн.— Зап., пін.), *маркатýн, маркотнік* 'сумны, маўклівы чалавек' (Нас.). Укр. *моркота* 'трывога, непакой', 'дрэнны настрой', *миркотати* 'мармытаць', 'гаварыць незразумелае', 'наракаць', *мóркнути* 'бурчаць', рус. *моркотáть* 'тс', *мóркотно, моркóтно* 'сумна, тужліва, надакучліва, турботна', *моркотать* пск., цвяр. 'мармытаць', 'наракаць', смал. 'муркаць, пець курну', польск. *markotać* 'бурчаць', *markotny* 'маркотны', *markotnieć* 'рабіцца тужлівым', *margocić się* 'засмучацца', чэш. ляш. *mrkotny* 'заспаны, заплаканы', *mrkotati* 'сварыць', славац. *mrkotný* 'раззлаваны, непрыемны, з дрэнным настроем', славен. *mŕkniti* 'бурчаць', 'гудзець (аб насякомых)'. Прасл. *mъrk(o)tati* 'бурчаць'. Фасмер (2, 656) дапускае гукапераймальнае паходжанне. Махэк$_2$ (380) мяркуе, што паводле семантыкі чэшскіх лексем гэтыя словы першнаперш азначалі благі душэўны стан, а потым адмоўны душэўны настрой. Ён адносіць іх да і.-е. асноў, зближаючы генетычна з брэтон. *morchet* і карн. *moreth* 'хлопаты, мітрэнгі, злосць, бурчанне', а таксама з хецк. *markiya* 'адкідаць, адвяргаць, не ўсхваляць' (Кноблах, Kratylos, 4, 39). Кюнэ (76) мяркуе, што бел. *маркотны* запазычана з польск. мовы. Мартынаў (вусн. паведамл.), як і Махэк, лічыць гэту лексему кельтызмам.

**Мáркаць** 'мяўкаць' (ТС). Да *маркатá* (гл.)<прасл. *mъrk-ati*.

**Маркáч** 'баран-вытворнік' (ТСБМ, Янк. 1, Кліх, Шат., Касп., Сцяшк., Чач., Дразд., Бір. Дзярж.; мін., Растарг., Да характ.; вілен., гродз., мін., Нас.; КЭС, лаг., мазыр., З нар. сл.; стол., Нар. лекс.; лід., беласт., Сл. ПЗБ, Бел.-рус. ізал., 32), *моркотýн, маркітýн* 'тс' (ТС, Сцяц.), укр. с.-палес. *муркáч* 'тс' (Бел.-укр. ізал.), *мъркаціньня* 'козы'; *маркатáць, моркотáць, мыркотáтэ, моркітáть, моркотáты* 'палавая цяга ў авечак' (драг., КЭС; гродз., бяроз., Шатал.; кобр., Нар. лекс.; гродз., беласт., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл., ТС), 'утвараць характэрныя гукі (пра барана-вытворніка)' (віл., Сл. ПЗБ); *маркітáць, моркотовáцца* 'быць у стане цечкі, паляваць (пра авечку)', *маркітавáць* 'патрабаваць злучкі' (зэльв., Жыв. сл.; ТС, Сцяшк.), *(перан.) маркатáць, міркатáць, мяркатáць* 'бляяць (аб авечцы, ягняці)' (Бяльк., Яруш.; віц., докш., ДАБМ, к. 302). Прасл. *mъrkačь* (гл. Трубачоў, О составлении прасл. слов.— V съезд слав., 181). Да *маркаль* (гл.). Аналагічна ўтвораны серб.-харв. *мр̀кач* 'казёл', *mrkačić* 'рыба-самец', *мр̀кеш* 'баран'. Дзеяслоў і яго дэрываты ўтвораны ад назоўніка $^{+}$*mъrkotъ* 'гукі, якія выдае баран у час цечкі'.

**Маркёр**$_1$ 'асоба, якая прыслужвае і вядзе падлік пры гульні ў більярд' (ТСБМ). Праз рус. мову з франц. *marqueur*<*marquer* 'рабіць паметы, зазначаць' (Фасмер, 2, 574), якое з ням. *Mark(e)* (гл. *марка*).



**Маркёр**$_2$ 'прыстасаванне, якім праводзяцца пасяўныя або пасадачныя радкі ці разоркі' (ТСБМ), *маркéр* 'тс' (Жд. 1). З польск. *markier* або з рус. *маркёр*, якія з франц. *marqueur* (як *маркёр*$_1$).

**Мáркі** 'які лёгка робіцца брудным' (ТСБМ, Нас.), драг. *маркéй* 'тс' (КЭС), *мáркасць* 'бруд' (Нас.). Да *марáць* (гл.).

**Маркоўка** 'дуброўка гусіная, Potentilla anserina L.' (паўн.-усх., Кіс.). Беларускае. Да *морква* (гл.).

**Маркоўнік**$_1$ 'расліна, падобная да морквы, Anthriscus silvestris Hoffm.' (ТСБМ, Касп., Бяльк., Растарг., ТС; маг., Кіс.; в.-дзв., брасл., чэрв., Сл. ПЗБ), рус. варон., укр. *морковник* 'тс'; *моркóвнік* 'бядрынец каменяломкавы, Pimpinella saxifraga L' (стол., петрык.; Бейл.), рус. уладз. *морковь* 'тс'; 'чубатка пустая, Corydalis cava (L.) Schweigg.' (стол., Бейл.), рус. табол. *морковки* 'Corydalis caphoides L.', *маркóўнік* 'астранцыя вялікая, Astrantia major L.' (стол., Бейл.). Да *маркоўны*<*морква* (гл.). Стол. *морковнік* 'сон лугавы, Pulsatilla pratensis Mill.' (Бейл.) паходзіць з $^{+}$*маркотнік* 'сонны, маркотны, пахілены'; параўн. чэш. *poniklec*<прасл. *poniknǫti* 'схіліцца'.

**Маркоўнік**$_2$ 'сасновы абалоністы лес' (слаўг., Яшк.). Магчыма, роднасным да яго будзе рус. новасіб., *морковник* 'дрэва з тонкім ствалом і вялікім, тоўстым камлём'. Да *морква* (гл.). Семантычны перанос паводле падабенства.

***Маркоўняк,** драг. *морковняк* 'дзікая пятрушка балотная, Peucedanum palustre (L.) Moench.', 'сярпок звычайны, Falcaria vulgaris Bernh' (Нар. лекс.). Да *маркоўны*<*морква* (гл.).

**Марлог** 'логава звера' (барыс., Шатал.), зах.-рус., валаг., уладз. *мерлог* 'тс' і інш. Да *мярло*$_1$ і *барлог* (гл.).

**Мáрля** 'тонкая баваўняная тканіна з рэдка пераплеценых нітак' (ТСБМ). З рус. *мáрля* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 73), якое з франц. *marli* 'марля, кісяя' (Фасмер, 2, 574).

**Мармелáд** 'кандытарскі выраб з фруктова-ягаднага пюрэ з цукрам і патакай' (ТСБМ). З рус. *мармелад* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80). Форма ж *мармуляда* 'тс' (Жд. 1; драг., КЭС) паходзіць з польск. мовы, параўн. лэнчыцк. *martulada* 'тс'. Абедзве з франц. *marmelade*<партуг. *marmelada* 'тс'<*marmelo* 'айва' — скажонае лац. *melimēlum, melimēlon*<ст.-грэч. μελίμηλον 'мядовы яблык, айва'.

**Марміска** 'кулеш' (гродз., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, балтызм. Параўн. *martěti* 'клякатаць', 'кіпець', 'пускаць пухіры'.

**Мармоль** 'нелюдзімы, негаваркі чалавек' (ТСБМ), польск. сувальск. *mormol* 'мармыль, маўклівы'. Балтызм. Параўн. літ.

*marmãlius* 'той, хто хутка і няясна, неразборліва гаворыць'. Параўн. таксама рус. калін. *мормýлить* 'ворчать'. Гл. таксама *мармыль*.

**Мармýза**$_1$, *мормýза* 'хара, морда' (Нікан.), 'галава', 'морда' (ТС); шальч., трак., іўеў. 'маўклівы, негаваркі', дзятл. 'бурклівы' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), укр. ровен. 'свінячае рыла' (ЛАПП), *мармузовáты* 'тоўсты, неўваротны' (ТС). Балтызм. Параўн. літ. *marmūžė* 'морда, рыла' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 34).

**Мармýза**$_2$ 'запэцканы' (раг., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *marmùzas* 'брудны, запэцканы сажай'.

**Мармýза**$_3$ 'рэдкая нясмачная страва' (ваўк., Сл. ПЗБ). Няясна. Гл. *мармíска.*

***Мармýкаць** 'мармытаць' (ТС). Балтызм. Параўн. літ. *marmùklis* 'мармытун'.

**Мармýлак**, *мармýлок* 'брусок для вастрэння брытвы' (Сцяшк.; слонім., Жыв. сл.; драг., КЭС). З польск. *marmurek;* -*л*- у бел. лексемы ў выніку дысіміляцыі *р...р*>*р...л*.

**Мармýль**$_1$ 'жорны, млыновыя камяні' (Федар. 6). З польск. *marmul,* якое ў выніку распадабнення з *marmur*. Да *мáрмур* (гл.).

**Мармýль**$_2$ 'пухліна на целе' (Нікан.). З укр. *моргуля, мордуля* 'шышка, пухліна'. Да ўкр. *варгýля* 'шышка, гуля на ствале дрэва', якое да *варга* 'губа'<і.-е. **u̯erg*- (ЭСУМ, 1, 333).

**Мармýль**$_3$ 'буркун, негаваркі' (в.-дзв., докш., лід., гродз., Сл. ПЗБ), 'нелюдзімы, бурклівы чалавек' (Федар. 6), 'чалавек, марудны ў рухах і ў словах' (КЭС, лаг.). Балтызм. Параўн. *marmùklis* 'той, хто бурчыць', *marmūnas* 'той, хто гаворыць невыразна ў нос'. Сюды ж *мармуць, мурмуць* 'маўклівы чалавек' (Крыў., Са сл. Дзіс.), утвораны пры дапамозе суфікса -*ūtis* ад *marmẽti, murmẽti* 'мармытаць, няясна гаварыць'.

**Мáрмур** 'цвёрдая горная парода, якая ўжываецца для архітэктурных і скульптурных работ' (ТСБМ, Нас., Бес.; швянч., Сл. ПЗБ), *мармýрак* 'папера, афарбаваная пад мармур', *мармýркавы* 'колерам падобны да мармура' (Нас.), *марвовы* 'мармуровы' (мін., Нар. сл.), ст.-бел. *мармуръ, марморъ* 'мармур' (XV ст.) запазычана са ст.-польск. *marmur, marmor* (Булыка, Лекс. запазыч., 141; Кюнэ, 76), якія з лац. *marmor* 'тс'<ст.-грэч. μάρμαρος 'камень', 'бліскучы камень'.

**Мармы́ль** 'бурклівы мядзведзь, чалавек', 'маўклівы чалавек' (Касп., Нас., Некр.), 'маўклівы чалавек' (клім., Мат. Маг.), *мармылёк* 'капрызнае дзіцё' (Нас.), лун. *мормы́ль* 'мармытун, які гаворыць сам з сабой' (Шатал.), *мормэ́ля, мэрмэ́ля* 'тс' (ТС), *мармы́ля* 'нелюдзень', 'той, хто незразумела гаворыць' (докш., Янк., Мат.). Балтызм. Параўн. літ. *murmùlis, murmulỹs* 'той, хто няясна гаворыць, бурчыць'<*murmẽti,*



*marmẽti* 'мармытаць, няясна гаварыць' (Лаўчутэ, Балтызмы, 120).

**Мармы́рак** 'таўстаморды чалавек, які стаіць нерухома і, мармычучы, лыпае вачыма або вытрэшчвае іх' (полац., Нар. лекс.). У выніку прыпадабнення *р...л*>*р...р* з *мармыль* (гл.) пры дапамозе суфікса -*ак*.

**Мармытáць**, *марматáць, мармітáць, мормотáць* 'выдаваць невыразныя гукі', 'гугнявіць', 'муркаць', 'бурчэць (аб сабаку, мядзведзі)', 'муркаць, варкатаць (пра ката)', 'гаварыць ціха і невыразна', 'бубніць', 'гаварыць незадаволена, праз зубы', 'ціха мыкаць (аб карове)' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС, Мал.; КЭС, лаг.; полац., Нар. лекс.), шчуч. *марматýн* (Сл. ПЗБ, КЭС, лаг.), *мармота* 'воўк (у загадцы)' (ТС), *мармутýн* 'чалавек, які невыразна гаворыць, бубніць' (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'хто гаворыць сам з сабой' (беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *момотати, мормотати* 'мармытаць', рус. алан., валаг., пск., цвяр. *мормотать* 'тс'. Гукаперайманальнае, як літ. *murmẽti* 'тс', ст.-інд. *murmuras* 'трэскае (пра агонь)', *marmaras* 'шаматлівы', лац. *murmurāre* 'мармытаць, шалясцець', ст.-грэч. μορμύρω, арм. *mṙmṙam, mṙmṙim* 'мармычу, бурчу, раву', ст.-в.-ням. *murmulôn* 'мармытаць' (Фасмер, 2, 656).

**Мáрна**, *мáрня* 'бедна жыць, апранацца' (ваўк., шальч.), гродз. 'дрэнна выглядаць' (Сл. ПЗБ); *мáрна, мáрне, мáрня, марня́* 'дарэмна, бескарысна, упустую' (ТСБМ, Нас., Касп., Булг., Растарг., Шат., Ян., Янк. 2; КЭС, лаг.; паст., Сл. ПЗБ), *мáрно, мáрне,* 'марна, кепска' (ТС, Сцяшк. Сл.), калінк. *мáрне* 'зусім' (З нар. сл.), *мáрнасць* 'дарэмнасць, бескарыснасць' (ТСБМ, Нас., Яруш.), *мáрны* 'дарэмны, бескарысны' (ТСБМ, Нас.), 'слабы, змарнелы, чэзлы', 'невялікі па велічыні', 'нязначны', 'дрэнны (аб надвор'і)', 'нешчаслівы' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС); *марнéць* 'засыхаць, чэзнуць, нудзіцца, гібець, чахнуць, жыць без уцехі, занепадаць' (ТСБМ, Яруш., Мядзв., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., ТС; КЭС, лаг.); *марня́віць* 'марнаваць без карысці', *мáрніць* 'губляць дарэмна час, без карысці' (Нас.), *марніцца* (БЛ, 10, 17), *марнавáць* 'збыткаваць, нішчыць, марнатравіць','мучыць, стамляць', 'псаваць' (ТСБМ, Янк. БП, Шат., Касп., Сл. ПЗБ), *марнавацца* 'гінуць' (Яруш.). Укр. *мáрно, мáрний, марнувáти, марнíти, мáрнiсть,* рус. пск. *мáрный,* пск., смал. *марнеть;* польск. *marnie, marniec, marność, marny;* н.-луж. *marnjeś, marny,* в.-луж. *marnosć, marny;* чэш. *marný, marnost, marnivý,* ганацк. *zmárnit* 'страціць', *márné* 'слабы'; славац. *marný, márnosť*, *márniť, márnivý,* славен. *máren* 'руплівы, старанны'. Прасл. *marьnъ*. Бернекер (2, 21), Фасмер (2, 575) і за імі Шустар-Шэўц (12, 888—889) выводзяць гэтую лексему з *марá* (гл.). Махэк$_2$ (352—353) мяркуе, што ў чэш. *mařiti*<*marьnъ* сышліся дзве лексемы: адна 'пазбаў-

ляць жыцця', роднасная да *mříti (тьřěti)* — фактытыў да *mořiti* (прасл. *moriti*), а другая *mařiti* 'разбіваць (планы, надзеі), траціць (маёнтак), якая роднасная да ст.-в.-ням. *marrjan* 'перашкаджаць, забараняць', англ. *mar* 'псаваць'. Кюнэ (76) бел. лексему *марна* выводзіць з польск. *marny*. Бел. *марне, марня* — з польск. мовы.

**Марна́рка** 'кароткае адзенне з даматканага сукна' (Сцяшк.). З польск. *marynarka* 'тс'.

**Ма́рнасць** 'несвядомая, нячыстая сіла' (слуц., Шн. 3) у выразе: *марнасць яго ісці к той дзеўцы цягне.* Да *мара́* (гл.).

**Марна́тка** 'пінжак з даматканага сукна' (дзятл., Сл. ПЗБ; пін., Сл. Брэс.; лід., Бел. хрэст. дыял.). Рус. урал., табол. *марена́тка* 'моднае жаночае адзенне — кароткая цёплая жакетка', с.-урал. *марина́д;* урал., свярдл., маск., кур. *маринадка,* перм., сіб. *марина́к,* с.-урал. *марина́ка,* перм. *марина́шка* 'паўпаліто, доўгі жакет'. З польск. *marynarka,* аднак заканчэнне слова паводле *апра́тка, вопратка.* Аналагічна ў рус. гаворках.

**Марнатра́вец,** *марнатра́ўны* 'хто неразумна траціць грошы, маёмасць' (іўеў., беласт., Сл. ПЗБ), астрав. *марнатра́ўніца* 'гаспадыня, якая марна траціць прадукты' (там жа), *(перан.)* 'гарэза, свавольнік' (свісл., Сцяшк. Сл.), паўд.-усх. *марнатра́ў, малнатра́ў* 'марнатравец', ст.-бел. *марнотравца* 'растратчык' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *marnotrawca* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 74).

**Марна́цыя** 'псаванне, шкода' (астрав., Сцяшк. Сл.). Да *марнава́ць* (гл. *ма́рна*). Суфікс *-цыя* ў размоўнай мове і зах.-бел. гаворках ужываецца для ўтварэння абстрактных назоўнікаў (драг. *сміхо́цыя, штуке́нцыя*). Аналагічна польск. *marnacja* 'марнаванне, страта'.

**Мароз**$_1$, *моро́з, муроз* 'моцны холад, сцюжа', 'іней', 'наледзь на шыбах, раслінах, на зямлі', *маразы* 'халоднае надвор'е з вельмі нізкай тэмпературай', *марозіць, маразі́ць* 'моцна ахаладжваць, замарожваць' (ТСБМ, Бес., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ, Яруш., Др.-Падб.), *марошчык* 'марозік' (рэч., Нар. сл.), *марозны, маразлі́вы, маразя́ны, маразя́нны, марозены, марозіву* 'вельмі халодны, з марозам' (ТСБМ, Клім, ТС, Сл. ПЗБ), 'яркі, бліскучы (пра зоркі)' (мін., шальч., валож., Яруш., Сл. ПЗБ), кір. *марозавы,* 'мёрзлы' (Нар. сл.), *маразя́ка, маразя́га, мыразюга́н, маразю́ка, маразя́нка* 'моцны мароз' (Мат. Гом., Нар. Гом., ТС, Сцяшк. Сл.; глыб., Сл. ПЗБ), *марозовіна* 'наледзь, ледзяны' (ТС), *моразна* 'холадна' (Касп.). Укр., рус. *мороз,* польск. *mróz* 'мароз', н.-луж. *mroz* 'іней', в.-луж. *mróz,* чэш., славац. *mráz* 'мароз', славен. *mràz* 'сцюжа, іней', серб.-харв. *мра̑з* 'мароз, холад, іней, лёд', макед. *мраз* 'лёд', 'мароз', балг. 'мароз', ст.-слав. **мразъ** 'лёд', 'сцюжа'. Прасл. *morzъ.*



Роднаснымі і.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца: алб. *marth* 'мароз', *mardhem* 'мёрзну', *mardhë* 'гусіная скура' (Бернекер, 2, 80; Фасмер, 2, 656), ст.-в.-ням. *murc* 'трухлявы, гнілы', *murgfari* 'крохкі, ломкі', ст.-ірл. *meirc* 'іржа', кімр. *merydd* 'вільготны', якія да і.-е. *merg'h- 'трухнець, гніць, мокнуць' (Покарны, 739; Бязлай, 2, 199).

**Мароз**$_2$ 'кветкі «бабіна лета»' (нараўл., Мат. Гом.). Да *мароз*$_1$ (гл.). Матывацыя: кветкі цвітуць у верасні, калі ўжо пачынаюцца замаразкі. Гэтаксама рус. зах.-каўк. *мороз* 'Mesembrianthemum cristallinum L.', цвяр. *морозка* 'марошка прысадзістая, Rubus chamaemorus L.', дан. *мороз-трава* 'цмен, Helichrysum Mill. arenarium (L.) D. C.'

**Марозавы** 'шараваты (пра масць)' (гродз., Сл. ПЗБ). Да *мароз*$_1$ (гл.). Аналагічна ўкр. *моро́зуватий* 'серабрысты (колер)', польск. *mroziasty, mroziaty* 'з сівізной (пра масць каня)', чэш. *mrazek* 'сіва-белы конь'.

**Марознік** 'чэмер, Helleborus L.' (ТСБМ). З рус. *морозник* 'тс'.

**Марока** 'непатрэбная справа, затлумленне, нешта заблытанае, валакітнае', 'вельмі павольны чалавек', 'канькала', 'зацямненне, непрытомнасць', 'хлус, які ўсё заблытвае наўмысна' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Бяльк., Растарг.), *марочанне, морочэ́ньe* 'галавакружэнне, непрытомнасць' (Нас., ТС), *марокаць* 'марудзіць', *марокаваць* 'тс', 'бурчаць, быць незадаволеным, дуцца', 'жыць журботна, сумна', *мароканіна, мароканне* 'замаруджанне, цяганіна' (Нас., Власт), *марок* 'той, хто дурыць галаву' (пух., Жыв. сл.), *морочыло* 'хто задурманьвае сваімі размовамі' (ТС), *марочыць, моро́чыць, марачы́ць, моро́чытэ* 'дурыць, рабіць клопат, неадчэпна прасіць', 'падманваць' (Власт, Шат., ТС, ТСБМ, Яруш., Нас.; паўд.-усх., драг., КЭС). Укр. *моро́ка* 'клопаты, цяжар', *моро́чити* 'марочыць', рус. *моро́ка* 'нешта адурманьваючае', кур. 'прывід', сіб., валаг. 'падман', сіб., кур., смал. 'хітры хлус', *моро́чить* 'марочыць, дурыць', *морочи́ло* 'той, хто марочыць'. Усходнеславянскае. Утворана ад *морак* (гл.) у выніку пераносу семантыкі 'імгла, туман' > 'зацямненне'.

**Марона** 'рыба, Barbus barbus (L.)' (Жук.; бабр., КЭС; Крывіцкі, Зб. Крапіве). На Дняпры яе называюць *мірон.* Ст.-рус. *мѣрена, мюрона.* Было запазычана з с.-грэч. *μύραινα* 'марскі вугор' (Фасмер, 2, 626). Пачатковае *ма-* (а не *ме-*) — уплыў назвы іншай рыбы, 'Coregonus maraena', тое ж польск. *marena,* якія з новав.-ням. *Maräne* (Махэк, ZfSlPh, 19, 56). Гл. таксама *марэна*$_2$.

**Мароняны** 'ружовы' (драг., Нар. лекс.). Паходзіць з назвы расліны Rubia tincturia — *марэна,* з якой здабывалі чырвоную

фарбу. Паводле Бернекера (2, 18), назва ўзыходзіць да прасл. *marěna*, якое ад *marati*>*марáць* 'пэцкаць'.

**Марочлівы** 'няшчыры, які хлусіць, віляе ў розныя бакі' (Растарг.). Да *марока* (гл.).

**Марочна,** *марочне, марочня, морóчня, морóшня, марочына* 'нізкае, гразкае балота', 'гразкая паляна сярод лесу, багністая мясцовасць, балота, дзе растуць журавіны' (усх.-палес., Талстой; стол., ДАБМ, Нар. лекс.; ТС; стол., лунін., ЛАПП). Беларускае. Укр. зах. *мороква* 'багна', жытом., кіеў. *хмерéча* 'гушчар, нетры лесу', 'малады лес на месцы старога'. Іншая ступень чаргавання *-or-/-er* (на ўсх.-слав. тэрыторыі *-оро-/-ере-*). Параўн. таксама *мярэча*. Да *морак* (Талстой, Геогр., 188)<прасл. *morkъ*<*mьrknǫti*.

**Марочыны** 'сцёблы і лісце гароху' (расон., ДАБМ, к. 278). Паводле падабенства, у выніку семантычнага пераносу з *марочa, мярэча* (гл.) 'гушчыня лесу, праз якую цяжка прайсці'.

**Мароша** 'дробны дождж' (дзятл., Сцяшк. Сл.), *марошка* 'тс' (Інстр. I). Рус. кастр. *моросá* 'тс', цвяр. *моросейка,* алан. *моросуха,* вяц. *моросный* 'хмарны, дажджлівы', том. *мóрош,* арханг. *мóрочь,* перм. *мóрошено* 'хмурнае надвор'е. Да *марасіць* (гл.).

**Марошка** 'марошка прысадзістая, Rubus chamaemorus L.' (Кіс., ТСБМ). Складае з рус. паўн. *морошка* 'тс' адзін арэал. У рус. мове — з угра-фінскіх. Параўн. фін. *muurain, muuran,* мансі *moraχ, moreχ,* ханты *mūreχ,* нганас. *mura'ka,* энецк. *maragga* (Фасмер, 2, 658).

***Марошнік**$_1$, *морóшнік* 'падтыннік вялікі, Chelidonium majus L.' 'паўночнік палявы, Knautia arvensis (L.) Coult' (лельч., Бейл.). Названы паводле таго, што растуць у гушчары кустоў, у гразкіх мясцінах — у *марочах* (гл.).

**Марскану́ць** 'рэзка адштурхнуць, піхнуць, шпурнуць, адкінуць', 'ударыць, выцяць, хлыснуць, стукнуць нагою', 'сцебануць' (ТСБМ; карэліц., Нар. сл., Янк. Мат.; шчуч., Сцяшк. Сл.; клец., Жыв. сл.), 'кінуць, пабароць' (Сцяц.), *марскáць* 'хутка кідаць нешта дробнае' (Шат.), *марськану́ць* 'уцячы наспадзявана для другога', 'хутка з'ехаць' (Бір., Дзярж.; бабр., КЭС); *марсану́ць* 'хутка ўцячы' (Шат.), *марскну́ць* 'мільгануць' (Яруш.), *намарскáцца* 'напрацавацца, затраціць многа сілы' (Янк. 1), *марсáць* 'часта махаць галавой (пра жывёлу)' (Крыў., Са сл. Дзіс.). Укр. *морсну́ти*<*морскати* 'сцябаць, біць', *мóрскатися* 'бадзяцца'. Паўд.-рус. *морсну́ть* 'ударыць, сцебануць', ст.-рус. *мърсъкъ* 'біч', польск. *merskać, myrsnąć* 'сцябаць', в.-луж. *morskać, morsknyć* 'сцебануць бічом', чэш. *mrskati* 'сцябаць', 'махаць, біць', *mrskati se* 'біцца, кідацца (у трызненні)', 'плюхацца', *mrsknouti* 'сцебануць', 'жбурнуць, рэзка адкінуць', *mrsknouti se* 'расцягнуцца (рэзка



ўпаўшы на зямлю)', 'раптоўна паварочвацца', славац. *mrštiť* 'кінуць, жбурнуць', *mrskat'* 'мільгаць, біць бічом'. Дакладным адпаведнікам іх Махэк$_2$ (380) лічыць літ. *šmirkšterėti* 'сцябаць бічом'. Прасл. *mъrskati* 'хутка рухацца', якое Махэк$_2$ (380) і Махэк (SR, 10, 74) выводзіць з *mьrskati*. Апошняе Меркулава (Этимология-74, 60—61) разглядае як утварэнне з інтэнсіўным суфіксам *-sk-* ад прасл. *merti* 'біць' (гл. Петлева, Этимология-72, 87, а таксама Куркіна, ОЛА —1972, 219—222).

**Марскаце́ць** 'імгліць' (маст., Сл. ПЗБ), славен. *mŕščati* 'тс'. Да прасл. *mьrskotъ* 'цурчанне'. Параўн. *марасіць.*

**Марскáя** *варона* 'чайка, Larus canus L.' (гродз., ваўк., Сл. ПЗБ). Паланізм. Параўн. польск. *wronka morska* 'Larus ridibundus L.', *wrona morska* 'Larus fuscus L'.

**Мартапля́сы** 'махры, ніткі, абрыўкі ў падранай вопратцы, мяшку, абрусе' (карэліц., Янк. Мат., Жыв. сл., Сл. ПЗБ), стаўбц. *мартыпля́сы* 'тс' (Жыв. сл.), 'упрыгожанні, карункі' (дзятл., Сцяшк. Сл.), 'выкрунтасы' (Нар. Гом.). Укр. *мартопляс* 'фігляр, вертапрах'. Складанае слова. Першая частка з *морх-* (параўн. ст.-рус. *морхъ* 'махры, абрыўкі тканіны', а другое — з *хлясь!, хлясцік* (гл.).

**Мáртвіць** 'сушыць, мардаваць, марыць, гараваць, застаўляць пакутаваць', *мáртвіцца* 'фатыгавацца', *мартвéць* 'мардавацца ад скрухі, гора', 'змяніцца з твару, зрабіцца бледным', *мáртвіцца* 'гінуць, класціся ў дамавіну з тугі' (Нас.), 'мярцвець' (астрав., Сл. ПЗБ). З польск. *martwić (się)* 'засмучаць', 'хваляваццa' (Цвяткоў, 58). *Мартвы* 'знямелы' (лях., Сл. ПЗБ) з польск. *martwy* 'як нежывы'.

**Марты́шка** 'маленькая малпа, Cercopithecus' (ТСБМ, Нас.), *марьты́ха* 'малпа' (Бяльк.). З рус. *марты́шка,* ст.-рус. *мартышка* (XVI ст.), якое з лац. *Martīnus* (уласнае імя) праз с.-н.-ням. *Marten,* ці с.-галан. *Martijn.* Аналагічна польск. *marcin* 'грубіян, мядзведзь' (Фасмер, 2, 576).

***Мару́глы,** *мору́глы* 'прыжмураны', *мору́жыць* 'прыжмурваць' (ТС). Рус. перм. *морóговатый* 'які дрэнна бачыць', разан. *муру́глы* 'хмурны (дзень)', польск. *mrugać* 'маргаць', *mrugliwy* 'які міргае', чэш. *mrholiti,* славен. *mrgoléti.* Да прасл. *mъrg-ati,* параўн. рус. *моргать* і *мургать* (Фасмер, 2, 652; Брукнер, 346).

**Мару́да,** *мару́дзька, мару́днік, мару́дны* 'вельмі павольны, непаваротлівы чалавек', 'марудны ў рабоце', 'мямля' (ТСБМ, Грыг., Бес., Яруш., Др.-Падб., Мал., Янк., БП, Нас., Бяльк., Растарг., Сцяшк. Сл.; КЭС, лаг.; ашм., шальч., гродз., беласт., Сл. ПЗБ); *мару́да* 'доўгае, нясцерпнае чаканне чаго-небудзь' (Нас.), 'маруднасць, павольнасць у справе' (ТС); *мару́дна, мару́дне, мару́дня,* мсцісл. *морудна,* драг. *марудно* 'вельмі павольна' (Шат., ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'тс', 'слаба, няярка' (З нар. сл.), 'павольна, цяжка' (Бяльк.); *мару́дзіць, мару́діті* 'рабіць

павольна', 'доўга не пачынаць справу', 'забаўляць, спыняць каго-небудзь', 'быць нерашучым' (ТСБМ, Яруш., Сцяшк., Нас., Шат., Касп., Бяльк., ТС, Бес.; КЭС, лаг.). Укр. *марýда, марýдний, марýдно, марýдитися* 'тс'; рус. уладз. *марóдно* 'павольна', смал. *моруда* 'павольнасць', пск., смал. *маруда* 'павольны, непаваротлівы чалавек', *марýдник* 'гарэза', *марудно* 'павольны', польск. *maruda* 'капун', 'нудны чалавек'. Балтызм, утвораны пры дапамозе суфікса *-да* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34—35) ад літ. *mar-* (параўн. *marùs* 'смяротны, нежыццяздольны', *marùtas* 'адсутнасць жыццяздольнасці, жывучасці'. Аднак значна пазней бел. *марýдзіць* (з вытворнымі) ці польск. *marudzić* былі запазычаны ў літ. мову *(marūdyti, marūdėti, marūdnas, marūdnùs)*. Зарэмба (Wyr, obce w Panu Tadeuszu, 44) выводзіць польск. *marudny* з ням. *Marode* 'замучаны, стомлены'<франц. *maraud* 'падлюга, нягоднік'. Гэтаксама SWO, 456.

**Марýка** 'дрэнны, благі', 'бруднюха, мурза, неахайны' (Нікан.). Да *марáты*<*марáць* (гл.).

**Мáруля** 'салата' (паўд.-усх., КЭС). Відавочна, з'яўляецца працягам ст.-бел. *марулья (морулия)* 'шаўкоўніца, Morus L.' у варазе: *шпинах и лобода и марулью,* якое Булыка (БЛ, 9, 30) выводзіць са ст.-польск. *morula*<лац. *morum* 'шаўкоўніца'.

**Марýна** маг. 'павіліца мягкая, Galium mollugo L.', смал. *марэна* 'тс', маг. *маруна-мір* 'павіліца, маруна сапраўдная, Galium verum L.' (Кіс.), сувальск. *maruna* 'тс'. Назва перанесена з расліны *марэна* 'Rubia tinctoria', якую звязваюць (гл. Махэк, Jména, 220) з *мараць* 'пэцкаць'. Аналагічны перанос назвы ў чэш. мове: *rměni, řmenі* 'павіліца' з *maření*> *mařina* 'марэна'. Ва ўкр. мове назва *маруна* перанесена на рамонак (Matricaria L.') і на пірэтрум дзявочы (Pyrethrum parthenium Sm.).

**Марусіць** 'імжэць (аб дажджы)' (слонім., КЭС), *марусіцца* 'дробна капаць' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Да *марасíць* (гл.); *-у-* — пад уплывам *церушыць.*

**Марýшкі** 'лісічкі, Cantharellus cibarius' (віл., Сл. ПЗБ). З *авярýшкі* (якое з *вавярушкі*<літ. *voveruškà* 'лісічка') з адпадзеннем пачатковага *а-* і менай *в*>*м.*

**Марýшкіна** *трава* 'чабор, Thymus serpyllum L.' (даўг., Сл. ПЗБ). Першая частка выразу ўзнікла ў выніку скарачэння слова *мацярдýшка* 'чабор'.

**Мархáль**[1] 'баран-вытворнік' (парыц., Янк., Мат.; маз., З нар. сл.). Да *маркáль* (гл.).

**Мархáль**[2] 'галавасцік' (кліч., Жыв. сл.). Да *морхлы* 'вялы, няцвёрды'.



***Мархатавáць,** *морхотовáць* 'паляваць (пра авечку), *морхотун* 'баран-самец' (ТС). Да *маркáль, маркатáць* (гл.).

**Мархáткі** 'завязь (напр., у агурках)' (паст., Сл. ПЗБ). У выніку перастаноўкі зычных *хр*>*рх* з *махротка*<*махры* (гл.). Параўн. таксама рус. *морх, морхи* 'бахрама, акраўкі тканіны, зношанае адзенне, лахманы' і бел. *мархотка* 'махры' (Яруш., Нас., Бяльк.).

**Мархáт** 'малы і мяккі качан капусты' (КЭС, лаг.). Да *морхлы* (гл.). Незвычайны суфікс *-ат* (!). Магчыма, той самы, што ў польск. *wąsat* 'вусач'.

***Мархляк,** *морхляк* 'пучок маршчын' (Клім.). Да *морхлы.* Параўн. укр. *мóрхлий* 'зморшчаны, маршчыністы (аб пладах)', рус. арханг., сіб. *морхú* 'маршчыны, няроўнасці, складкі на адзежы'. Роднасныя да *маршчы́на* (гл.).

**Марцавáць** 'знаходзіцца ў стане цечкі' (Сл. ПЗБ). Да *мáрац* 'сакавік' (гл.) — перыяд цечкі.

**Марціра** артылерыйская гармата з кароткім ствалом' (ТСБМ). У Крукоўскага (Уплыў, 82) бел. *мартыра* — з рус. мовы, у якую (ў XVIII ст. праз гал. *mortier* 'ступа, марціра') было запазычана з франц. *mortier* (<лац. *mortārium* 'ступа' (Фасмер, 2, 658)).

**Марцоўка** 'шчупак, які нерастуе ў сакавіку' (полац., З нар. сл.). Аналагічна *марчýк* 'шчупак, які нерастуе ў сакавіку', укр. 'шчанё, якое нарадзілася ў сакавіку', *мартюк* 'заяц, які нарадзіўся ў сакавіку', *марцівкú* — тое ж пра куранят.

**Марцоўка** 'дзяржаўная павіннасць, якая выконвалася ў сакавіку' (паўд.-усх., КЭС). Да рус. *март* 'месяц сакавік'< ст.-слав. **мартъ, мартии,** якія праз с.-грэч. μάρτι(ο)ς з лац. *(mensis) martius* 'месяц Марса' (лац. *Mars, Martis)*

**Марцýк** 'выпечанае салодкае цеста' (дзятл., Сцяшк. Сл). З *марцыпáн* (гл.).

**Марцыпáн,** *-ны (мн.)* 'кандытарскія вырабы з цеста, прыгатаванага з працёртага міндалю або арэхаў з цукрам', 'штонебудзь вельмі смачнае, адмыслова прыгатаванае', 'страва, якая не існуе — нешта накшталт птушынага малака' (ТСБМ; шчуч., З нар. сл.), 'вараныя буракі' (ТС), ст.-бел. *марципанъ* 'тс' (XVII ст.), якое запазычана са ст.-польск. *marcypan*< італ. *marzapane* 'пернік' (Булыка, Лекс. запазыч., 119; Кохман, 84). Першапачаткова італ. *marzipane* — венецыянская манета, пасля мера: 10 марцыпанаў=1 чацвярыку; у скрыні памерам у 1 марцыпан перавозіўся з Кіпра салодкі пірог, які пазней і стаў называцца *марцыпанам.* Італ. *marzapane* ўзыходзіць да араб. *mauthabān* 'кароль, які сядзіць на троне'. Не выключана другаснае запазычанне бел. лексемы з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 80).

**Марцэля** 'жанчына лёгкіх паводзін' (клец., Нар. лекс.), 'непрыемная жанчына' (капыл., Нар. словатв.). Да *марцава́ць* (гл.).

**Ма́рчык** 'абжора' (Федар. 4). Відаць, да *марнава́ць* (гл.).

**Ма́рчыць** 'марыць тугою; сумам', *ма́рчыцца* 'пакутаваць, сохнуць' (Нас.). Укр. *марчі́ти* 'старэць, прыходзіць да заняпаду'. Да *морак, марката́* (гл.) (гэтаксама Цвяткоў, 57).

**Марш** 'спосаб мернай рытмічнай хадзьбы ў страі', 'паход войска', 'загад пайсці, пачаць рух', *машырава́ць, маршырава́ць* 'ісці маршам', *маршыро́ўка* 'хадзьба маршам' (ТСБМ, Яруш.), ст.-бел. *маршъ* 'марш' (XVI ст.) запазычана, магчыма, праз польскую мову з франц. *marche* 'ідзі!', 'марш' (Булыка, Лекс. запазыч., 67)<*marcher* 'ісці'<галараманск. **marcare* 'біць малатком', 'таптаць, давіць'. Форма без *-р-* паходзіць з польск. *maszerować* 'маршыраваць'. Праз польскую мову прыйшло *марш* 'музычны твор' (ТСБМ), з якога *ма́ршы* 'ігра музыкантаў для ўдзельнікаў вяселля за плату' (астрав., Сцяшк. Сл.). Новае запазычанне з рус. мовы — *марш* 'частка лесвіцы паміж дзвюма лесвічнымі пляцоўкамі' (ТСБМ).

**Ма́ршал** 'воінскае званне вышэйшага камандначага саставу', 'губернскі прадвадзіцель дваранства' (ТСБМ, Нас.). Запазычана з рус. мовы, у якой маршал з с.-в.-ням. *marschalc* 'стайнік' (Фасмер, 2, 576; Крукоўскі, Уплыў, 82).

**Марша́лак** 'дружка, які кіруе вясельнай цырымоніяй', 'галоўная асоба ў таварыстве'; смарг., гродз. *маршалка* 'дружка', валож. 'шафер у жаніха', пін., кам., тур. *маршалок* 'тс' (ТСБМ, Кольб., ТС, Яруш., КЭС, Нас., Сл. ПЗБ; слаўг., Яшк., Назвы; КЭС, лаг.; віл., З нар. сл.), ст.-бел. *маршалокъ, маршалко, маршалекъ, моршалокъ* 'прыдворны высокага рангу; павятовы кіраўнік дваранства' (XV ст.), запазычаны са ст.-польск. *marszałek,* якое з с.-в.-ням. *marschalc* 'стайнік, канюшы' (Чартко, Пыт. мовазн. і метад., 117; Жураўскі, Бел. мова, 61; Булыка, Лекс. запазыч., 25; Кюнэ, 76). Сюды ж *маршалі́ца* 'дружка нявесты' (валож., Жыв. сл.), *марша́лка* 'старшая дружка' (Касп.).

**Ма́ршка** 'коўдра' (воран., Сцяшк. Сл.). Балтызм. Параўн. літ. *marškà* 'абрус, прасціна' (Здanцэвіч, LP, 1960, 344; Лаўчутэ, Балтизмы, 80).

**Маршру́т** 'шлях руху транспарту, намечаны загадзя' (ТСБМ). З рус. *маршру́т,* якое з ням. *Marschroute* (Фасмер, 2, 576).

**Маршча́к** 'маршчына' (ТСБМ, Ян., Жд. 1, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; навагр., КЭС), *маршча́вы, маршчля́вы, маршча́ты* 'маршчыністы', 'які мае зморшчаную паверхню', 'сабраны ў зборкі' (Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.). Укр. *морშо́к* 'маршчынка', рус. перм. *морше́нь* 'складка, няроўнасць, маршчынка на паверхні', архангел. *мо́рхи, морхи́* 'зборкі, складкі на сукенцы', 'няроўнасці на адзенні'. Да *моршчыць* (гл.). Сюды ж *маршчак* 'лапаць са скуры' (Янк., 1; бялын., Янк. Мат.; Тураў, КЭС; мазыр., З нар. сл.; глус., Мат. Маг.), які названы так таму, што зверху ў ім скура сабрана ў маршчыны. Укр. сумск. *моршень* 'абутак, зроблены з аднаго кавалка скуры' можа быць кантамінацыяй з *морщити* і рус. *поршень* 'тс'.

**Ма́ршчы,** *маршчы́, моршчы* 'маршчыны' (брасл., глыб., лях., шчуч., даўг., Сл. ПЗБ). Відавочна, паланізм. Параўн. старое польскае *marszczka* 'тс'.

**Маршчы́на** 'складка, згіб на скуры твару, цела', бяроз. *моршчы́ны,* кам. *моршчэ́ны,* драг. *моршчэ́нэ* (ТСБМ, Яруш., Сл. ПЗБ, КЭС), мсцісл. 'няроўнасць на палатне' (Жыв. сл.), трак. 'зборкі' (Сл. ПЗБ), *маршчы́ніць* 'моршчыць' (ТСБМ). Да *моршчыць* (гл.). Сюды ж сеннен., смал. *маршчыннік* 'грыб, які вырастае пад падлогай і паражае яе' (Анік.).

**Ма́ры**$_1$ 'насілкі, на якіх носяць труну з нябожчыкам' (Нас., Растарг., Зянк. 1, Власт, Некр.; віц., Шн.; паўн.-усх., КЭС; КЭС, лаг.; Мікуц.). Укр. *ма́ри,* рус. смал., кур., варон. *мары,* ст.-бел. *мары* 'тс' (XV ст.), запазычана з польск. *mary,* якое са ст.-чэш. *mary* (спачатку *páry*)<с.-в.-ням. *bāre*>ням. *Bahre* (Карскі, Труды, 313; Брукнер, 324; Махэк$_2$, 352; Жураўскі, Бел. мова, 62; Булыка, Запазыч., 198). Сюды ж *ма́ры* 'прыстаўныя сценкі воза, выкарыстоўваемыя пры возцы сена, снапоў' (Касп., красл., Сл. ПЗБ) і рус. кастр. *ма́ра* 'тс' (Чартко, Бел. лінгв. зб., 151).

**Ма́ры**$_2$ 'думкі, пажаданні' (КЭС, лаг.). Да *ма́ра* (гл.).

**Ма́рыва** 'трымцячы слой цёплага паветра каля паверхні зямлі ў гарачае надвор'е, смуга' (ТСБМ). Укр. *ма́рево,* рус. *мар,* арханг. *ма́рево,* маск. *мара́* 'тс', арханг., перм. *ма́ра* 'туман на моры'; перм. *марева́* 'туман, шкодны для збажыны, садавіны', уладз. 'гарачы, сонечны дзень'. Усх.-слав. утварэнне з суф. *-ivo/-evo* ад дзеяслова *mariti.* Параўн. таксама в.-луж. *womara* 'напаўсон, непрытомнасць', серб.-харв. *ȍ-мара* 'духоцце, духата', балг. *мараня́* 'марыва'. Да прасл. *marъ* або *marь,* якія з'яўляюцца роднаснымі да ст.-інд. *marīciş, marīcī* 'прамень', *marīcikā* 'міраж', ст.-грэч. ἀμαρύσσω 'ззяю', ἀμαρυγή 'бляск', μαῖρα 'Сірыус' (Бернекер, 2, 21; Фасмер, 2, 571; Скок, 2, 407, БЕР, 3, 662—663).

***Мары́кацца,** *моры́кацца* 'марцаваць (пра катоў)' (ТС). Да *бару́кацца* (гл.). Пачатковае *б->м-* пад уплывам *марац, марцава́ць.*

**Мары́лка** 'прыстасаванне, пры дапамозе якога мораць насякомых', 'пратрава', марыльня 'тс' (ТСБМ). З рус. *мори́лка* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 110).

**Марымонцкі,** *марімонскі (хлеб, мука)* 'пшанічная мука вышэйшага гатунку і хлеб з яе' (Маш.; лун., стол., ЛАПП; калінк., З нар. сл.; жытк., Нар. словатв.). Ад назвы мястэчка *Marymont* ля Варшавы. Гл. *малімончык.* Сюды ж *марымоны* 'смачныя рэчы, далікатэсы' (ТС).

**Мары́на** 'карціна з марскім краявідам' (ТСБМ). Праз рус. мову з франц. *marine* 'тс' (Фасмер, 2, 573). Сюды ж *марыніст* 'мастак, які малюе такія краявіды'.

**Марынава́ць** 'кансерваваць, гатаваць харчовыя прадукты ў марынадзе', *(перан.)* 'знарок прытрымліваць у адным стане, званні' (ТСБМ). З рус. *мариновать* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79—80), якое з франц. *mariner* або з ням. *marinieren*<лац. *marināre* 'класці ў салёную ваду' (Фасмер, 2, 573).

**Марына́д** 'вадкасць з воцатам, соллю і рознымі прыправамі, якой залiваюць прадукты для кансервавання' (ТСБМ). З рус. *маринад* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), якое з франц. *marinade*< *mariner* 'марынаваць'.

**Мары́нарка** 'цёплае, кароткае паліто' (Сцяшк.), 'світка, якая апранаецца на кажух' (Жд. 1), 'пінжак' (Касп., Яруш.), 'пінжак, каптан з даматканага сукна' (Сл. ПЗБ; навагр., Нар. сл.; Сл. Брэс.). З польск. *marynarka* 'тс'<*marynara* 'кароткая куртка без таліі'<*marynarz* 'матрос' (Варш. сл., 2, 891; Кюнэ, 76).

**Мары́ны** 'насілкі, на якіх носяць нябожчыка' (Вяржб. дыс.), польск. *moriny.* Балтызм. Параўн. літ. *morȳnos* 'тс' (яго ж, 877; Лаўчутэ, Балтизмы, 145).

**Марынэс,** *марынэсік* 'поле ў кнізе ці на аркушы паперы' (Нас.). З лац. *margo* (Р. скл. *marginis*) 'край' праз польск. *margines* ва ўскосным склоне *na marginesie* 'на палях'.

**Ма́рыцца** 'ўяўляцца, здавацца ў думках', *ма́рыць* 'аддавацца марам', 'спадзявацца' (КЭС, лаг.; ТСБМ). Укр. *ма́ритися, марити.* Да *ма́ра* (гл.).

**Ма́рыць** *(безас.)* 'марыць, зморваць (пра сон)' (Ян., ТС), *мары́цца* 'таміцца, мучыцца, стамляцца, знясільвацца' (ТСБМ, Нас.; паст., валож., КЭС, лаг., Сл. ПЗБ). Рус. *ма́рить, мари́ть (безас.)* 'моцна стамляць, расслабляць, хіліцца да сну'. Да *ма́рыва* (гл.).

**Мары́ць**$_1$, *моры́ць* 'атручваць', 'стамляць', 'мардаваць, мучыць, даводзіць да знямогі', 'набліжаць смерць' (КЭС, лаг.; ТСБМ, Власт, Нас., Яруш., ТС). Да *мор* (гл.).

**Мары́ць**$_2$ 'трымаць драўніну ў вадзе, у спецыяльным растворы для надання ёй цёмнага колеру' (ТСБМ). Укр. *мари́ти,* рус. *мори́ть,* чэш. *mořiti,* славац. *morit'.* Роднаснае да ст.-грэч. μορύσσω 'пэцкаць, рабіць чорным'. Параўн. таксама *мара́ць, мара́ты* 'брудны' (Махэк$_2$, 374).



**Марышкава́ць** лід. 'вышываць на палатне', беласт. *марэшковаті* 'тс', іўеў. *марышкаванка* 'пакрывала на падушку' (Сл. ПЗБ). Паланізм. Параўн. польск. *mereżkować* 'вышываць мярэжкай'. Да *мярэжа* (гл.).

**Марыяне́тка** 'тэатральная лялька, якой кіруе акцёр пры дапамозе спецыяльнага прыстасавання' (ТСБМ). Праз польск. ці рус. мову з франц. *marionette* 'тс', экспрэсіўнага вытворнага ад *Marion,* якое да імені *Marie* (Фасмер, 2, 573). Даль (2, 782) выводзіць лексему ад імя італьянца *Marioni.*

**Марэгаць** 'пэцкаць' (хойн., Мат. Гом.). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *márgas* 'стракаты, рабы', *mar̃gti* 'мільгацець, мітусіць', хаця можна ўспрымаць як экспрэсіўны дзеяслоў з суфіксам *-эг-* ад *мара́ць* (гл.).

**Марэйдаць** 'замазваць, размалёўваць' (Сл. Брэс.). Да *мара́ць* (гл.). Аснова пашырана экспрэсіўным суфіксам *-эйд-.*

**Марэна**$_1$ 'травяністая (паў)кустовая расліна Rubia, з якой атрымліваюць чырвоную фарбу' (ТСБМ). Рус. *марена́,* паўд.-сіб., іркуцк. *маря́ный* 'чырвоны, пунсовы (аб небе на захадзе сонца)', польск. *marzana,* чэш. *mařena, mořena,* ст.-чэш. *mařana.* Да *мара́ць* (Фасмер, 2, 573), Махэк$_2$ (352) лічыць, што гэта лексема няяснага паходжання, магчыма, яшчэ праеўрапейскага.

**Марэна**$_2$ 'рыба марона, Barbus barbus (L.)' (Днепр, Жук.; Крыв.), паўд.-рус., волж. *ма́рена, марена́* 'тс'. Да *марона* (гл.). Булыка (Лекс. запазыч., 144) прыводзіць ст.-бел. *марена* — назва іншай рыбы — 'ласось' (пач. XVIII ст.), якое лічыць запазычаным з лац. *marena* праз ст.-польск. *marena* 'рыба сіг, Coregonus lavaretus marena'. Няпэўна. Гэта назва паходзіць з новав.-ням. *Maräne.* Параўн. таксама серб.-харв. *мȍруна* 'бялуга'.

**Марэц** 'нябожчык' (ваўк., ДАБМ, к. 317). Да *мрэц*<прасл. *тьrъсь* 'тс'. Пачатковае *ма-* пад уплывам польск. *martwy.*

**Мар'я́ж** 'наяўнасць караля і дамы адной масці ў аднаго іграка ў карты' (ТСБМ). З рус. *марьяж* 'тс'. Аднак *мар'яш* 'картачная гульня' (КТС — Дунін-Марцінкевіч) запазычана з польск. *mariasz* 'тс', 'мар'яж'. Абедзьве мовы засвоілі франц. *mariage* 'шлюбная пара'.

**Мар'ян** 'маяран садовы, Majorana hortensis Moench.' (Федар. 6, Мал.), *мар'янак* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *мар'янка* 'тс' (брэсц., Кіс.). Усе з с.-лац. назвы *majorana* з перастаноўкай зычных *йр*>*рй.* Аналагічна і ў чэш. мове: *majorán, marjánka* і *marijanka* 'тс'.

**Мар'яна** ў песні: *«Ой, на моры, на мар'яні, на востраві, на кургані,— там бывала старына»* (рэч., Доўн.-Зап., Св.), *мар'янка* 'невялічкі астравок' (мазыр., Яшк.). Параўн. рус. іркуцк. *моря́на* (схіл камяністай высокай гары, якая парасла

лесам', 'месца на гары, якое поўнасцю зарасло лесам'. Няясна. Магчыма, лексема ўтварылася з уласнай назвы пэўнага вострава.

**Мар'я́нка**₁ 'абабак (10 снапоў)' (ТС). Няясна. Відавочна, у выніку кантамінацыі *мара́* (гл.) і *стая́нка* (гл. віц., *стъйа́нкі,* ДАБМ, с. 876). Не выключана паходжанне з імя Мар'яна.

**Мар'я́нка**₂ 'трытон' (ТС). Не зусім яснае слова. Магчыма, уграфінізм. Параўн. рус. вяц. *мурья́* 'задняя ніжняя частка тулава, ягадзіцы'; лексема магла б быць утворана, як польск. *kijanka* 'пранік'.

**Ма́са** 'колькасць матэрыі, якая складае цела', 'вялікая колькасць, мноства, шмат чаго-небудзь', 'мноства рэчыва без пэўнай формы', 'народ, шырокія колы насельніцтва' (ТСБМ, Яруш., ТС). Еўрапейскае слова. У бел. мову запазычана з польск. і, магчыма, паўторна з рус. мовы, у якіх з новав.-ням. *Masse* (XVI ст.) або з франц. *masse*>лац. *massa* 'злітак', 'ком, глыба, кавалак', 'хаос'<ст.-грэч. μᾶζα 'цеста', 'ячменны хлеб'<μάσσω 'мяшаю, размешваю'. Сюды ж *масаві́к* 'той, хто вядзе работу ў масах', 'арганізатар масавых гульняў' (ТСБМ), *ма́савыя* 'летняе свята саўгаснікаў' (віл., Нар. сл.), *масо́йка* 'масавая сцэна ў спектаклі, фільме', 'масавая прагулка', 'тайны рэвалюцыйны сход' (ТСБМ) — усе з рус. мовы.

**Маса́ж** 'расціранне цела з мэтай паляпшэння кровазвароту, абмену рэчываў у тканках' (ТСБМ). З рус. *масса́ж* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 88), якое з франц. *massage*<*masser*<ст.-грэч. μάσσω 'мяшу, расціраю'. *Масі́раваць* 'праводзіць масаж' (ТСБМ) — з рус. *массировать* (Крукоўскі, Уплыў, 82), якое з ням. *massieren*.

**Масалба́с** 'аболтус' (Бяльк.). Відавочна, з ідыш. Параўн. ням. *Massel* 'балванка (чыгуна)'.

**Масалíць,** *му́сліць* 'слініць, жаваць' (Сцяшк., Растарг.), *масолíць* 'забруджваць', 'жаваць, грызці' (Нас., Юрч.), *масолíцца,* 'брудзіцца чым-н. слізкім', 'поркацца з чым-н.', 'падсядаць да каго-н., шукаючы прыхільнасці' (Нас.). Рус. *мусо́лить* 'смактаць (косці)', 'весці або абгрызаць што-небудзь вельмі павольна', 'доўга жаваць бяззубым ротам', пск., смал. *мосо́лить* 'пэцкаць, абгрызаць косць'; валаг. *моска́лить* 'мазаць галаву тлушчам' (пры *москалыга=мосолыга),* перм. *му́слить,* пск., цвяр. *мусо́литься* 'доўга поркацца з чым-небудзь', *мусля́к* 'неахайны, слімак'. Славен. *músa, masára* 'брудная жанчына', 'брудная карова', *zamúsati* 'пакрыць брудам', серб.-харв. кайк. *musa, musača, zamúsan, mûsav*. Роднаснымі і.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца новав.-ням. *Schmutz* 'бруд', ст.-в.-ням. *muzzan* 'чысціць', ст.-грэч. μύδος 'сырасць, гніль', ст.-інд. *mū́ra* 'мача', авест. mūϑra- 'бруд', і.-е. **meu-* 'вільготны, рыхлы, брудны'. Аднак ні словаўтварэнне, ні першасная фанетычная форма



застаюцца невядомымі (Праабражэнскі, 1, 571; Фасмер, 3, 16—17; Бязлай, 2, 207).

**Маса́т** 'кавалак сталі для выкрэшвання іскры' (паўн.-усх., КЭС) Укр. гуц. *муса́к* 'кавалак наточанай сталі, якім касец выраўнівае лязо касы'. Праз тур. *masat* 'тачыла для вастрэння нажоў' з араб. *mishad* 'тс' (Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 81; БЕР, 3, 677; Брукнер, 349).

**Масенж** 'медзь' (Грыг.), *масе́нджны* 'медны' (Мал.), *масе́нзавы* 'тс' (Нас.), *масёнжнік* 'меднік', *масянжовы* 'зроблены з бронзы і мае колер яе' (Некр.), *масяндзовы* 'бронзавы' (Шат., Касп.), ст.-бел. *мосязъ, мосендзъ, мосюндзъ, мосяжъ* 'латунь' запазычаны са ст.-польск. +*mosiądz, mosiądzowy,* якія з с.-в.-ням. *messinc,* (суч. *Messing*)<ст.-грэч. μοσσύνοικος (χαλκός) 'народ, які жыў на Чорным моры' (Васэрцыер, 151). Гл. таксама *мосенж.*

***Масіню́рына,** полац. *мъсіню́рына мая!* — лашчыць кошку, кацянё (Нар. лекс.). Да +*масенькі.* Параўн. рус. пск., цвяр., смал., валаг., каст., вяц. *ма́сенький* 'вельмі маленькі', перм. *ма́си-ма́си-ма́сенькі* — падзыўное для авечак.

**Масі́ў** 'горнае ўзвышша аднароднай геалагічнай будовы', 'вялікая прастора, аднародная паводле якіх-небудзь прыкмет' (ТСМБ). З польск. або з рус., у якія з франц. *massif* 'цяжкаваты' (SWO, 458; Лёхін, 428).

**Масія́ш,** *мъсія́ш* 'антыхрыст, які з'явіцца перад страшным судом, ілжэзбавіцель' (Мядзв.; полац., Нар. лекс.), 'звадыяш' (в.-дзв., Шатал.), 'вялікі хлус, прайдзісвет', 'гарэза' (міёр., З нар. сл.). Праз польск. *Mesjasz* з с.-лац. *Messias* 'месія, збавіцель'.

**Ма́ска** 'накладка на твар, якую надзяваюць для таго, каб не быць пазнаным', 'маскарадны касцюм', 'прытворства', 'скульптура твару чалавека або галавы жывёлы', 'засцерагальнае прыстасаванне', 'накладка з лекавага саставу'. З рус. *ма́ска,* а, магчыма, таксама і з польск. *maska,* у якіх праз франц. ці ням. мову з італ. *maschera*<ст.-італ. *mascara,*— апошняе з араб. *maschara* 'насмешка, кпіны'. Сюды ж *маскава́ць* 'маскіраваць' (Др.-Падб.), якое з польск. *maskować* 'тс', *маскірава́ць* 'надзяваць маску', 'скрываць, прыкрываць што-небудзь, робячы яго непрыкметным' (ТСБМ), успрынятае з рус. мовы; *маскіра́нт* 'той, хто ўмее замятаць сляды' (віл., Нар. сл.).

**Маска́ль**₁, *мъскаль* 'мянушка салдата царскай арміі на былой тэрыторыі Рэчы Паспалітай' (Грыг., Шпіл., Дасл. Гродна, Др.-Падб., Мал., Нас., Шат., ТС), 'рускі' (Касп.), 'рускі стараабрадзец' (Растарг.), *маскоўка* 'жонка салдата' (петрык., хойн., Мат. Гом.), 'стараабрадка' (Растарг.). Укр. *моска́ль, московка, моско́вець, москва́=москаль,* рус. смал. *моска́ль*

'рускі стараабрадзец'. З польск. *moskal,* якое з тапоніма *Масква* (Фасмер, 2, 661; Кюнэ, 78). Да гэтай назвы адносіцца *маскв́а* 'рускія салдаты', 'рускія цесляры', 'рускі купец' (Нас.), *маскоўка* 'сякера рускай фабрыкі', *маскоўшчына* 'мадэпалам' (Нас., Бяльк.). Аб паходжанні назвы ракі і горада Масквы гл. Трубачоў (БСІ, 1981, 28—30).

**Маска́ль**₂, *маскале́ (мн.)* 'падасінавік' (навагр., Жыв. сл.; беш., Нар. сл.). Рус. перм. *моска́ль* 'баравік'. Паводле формы да *маскаль*₁, аднак матывацыя наймення застаецца няяснай. Аналагічна гом. *маска́ль, мыска́ль* 'матылёк Libellula' (параўн. таксама славац. *žandár,* польск. *szandar* 'тс').

***Маскаля́ць,** *мозколя́ць (экспр.)* 'біць' (ТС). Да асновы *mozg-/mosk,* пашыранай экспрэсіўным суфіксам *-ol-*. Гл. *мазгата́ць*.

**Маскара́д** 'баль, вечар, на які прыходзяць у масках, касцюмах', 'незвычайны ўбор, які мяняе знешні выгляд' (ТСБМ). З рус. *маскара́д* (а ў пачатку XVIII ст. і *машкарада),* якое з франц. *mascarade*<італ. *mascarata*<*maschera* 'маска' (Фасмер, 2, 578).

**Маската́ць** 'стукаць, шумець' (смарг., Сцяшк. Сл.), драг. *по-москота́тэ посу́док* 'з шумам паразбіваць посуд' (КЭС). Відавочна, балтызм. Параўн. літ. *maskatúoti* 'шавяліцца, дрыжэць, трэсціся; гойдацца, хістацца; махаць, размахваць', 'рабіць рухі рукамі; хуценька бегчы', 'балбатаць', 'гарэзіць'.

**Масколіцца** 'тупіць што-небудзь вострае', *масколіць* 'затупляць' (Бяльк.). Да *маскаляць* (гл.).

**Ма́сла,** *ма́сло* 'харчовы тлушч са смятанкі ці смятаны', 'мінеральнае тлустае рэчыва' (ТСБМ, Бес., Яруш., Вешт., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Укр., рус. *ма́сло,* ст.-рус. *масло,* польск. *masło,* н.-луж. *masło,* чэш. *máslo,* славац. *maslo,* славен. *máslo,* серб.-харв. *мȁсло,* макед. *масло,* ст.-слав. **масло** 'масла'. Прасл. *maslo*<*maz-slo,* утворанае ад *mazati* 'мазаць' (гл.) (Бернекер, 2, 23; Фасмер, 2, 578). Масла выкарыстоўвалася старажытнымі славянамі як мазь, якой націралі цела, валасы; некаторыя народы ім мазалі калёсы. Аналагічна ў германцаў: ст.-в.-ням. *ancho* 'масла', роднаснае да лац. *unguentum* 'мазь' (Махэк₂, 353). Сюды ж *ма́слены* 'які з масла, падобны на масла' (ТСБМ, Кліх), 'ліслівы', *ма́сліцца* 'блішчаць, ільсніцца', 'лашчыцца', 'валаводзіцца, няньчыцца, цацкацца', *масліць* 'задобрываць, схіляць ласкамі і падарункамі' (Нас., ТСБМ; жлоб., Нар. словатв.) і ўтворанае ад якаснага прыметніка *масленіцца* (Васілеўскі, БЛ, 10, 17).

**Маслакі** 'сцегнавая косць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *маслакаваты* 'касцісты' (Нар. Гом.). Да *масол* (гл.).

**Ма́сленіца,** *ма́сленка, ма́сьлінка, ма́сліна, ма́сляна* 'свята провадаў зімы, аднесенае царквою на нядзелю перад вялікім



постам', 'прывольнае добрае жыццё' (ТСБМ, БелСЭ; драг., КЭС; паўд.-усх., КЭС). Укр. *ма́сниця, ма́сляниця, масляна,* рус. *масленица, ма́сляница, ма́сленая, ма́сляная,* ст.-рус. *масленица, масляница, масленая недѣля* 'масляніца'. Усходнеславянскае. Утварылася ў выніку намінацыі са ст.-слав. словазлучэння ⁺**масльная седьмица.** Сюды ж *маслінка* 'страва з тварагу і масла, якую ядуць на масленіцу' (віц., Хрэст. дыял.). Да *ма́сла* (гл.).

**Маслёнка** 'пярэсна еўрапейская, Trollaus europaeus L.' (гродз., Кіс.), *маслёнкі, маслячкі, масля́начкі* 'кветкі лотаці, Caltha palustris' (смарг., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *масьлянка* 'кураслеп лясны, Anemone silvestris L.' (Бел. зельн.). Да *масла, масляк* (гл.). Названы паводле жоўтага колеру кветак, такога, як мякаць масляковў.

**Масліна** 'вечназялёная субтрапічная расліна Olea europaea і яе плод' (ТСБМ). Укр. *масли́на,* рус. *масли́на,* ст.-рус. *маслина,* ст.-слав. **маслина** — калька з с.-грэч. ἐλαία 'тс', у якой -ια адпавядае слав. *-ина* (Бернекер, 2, 29; Фасмер, 2, 578; Шанскі, ЭИРЯ, 2, 132—133; Скок, 2, 382; БЕР, 3, 679).

**Масліноўка** 'хустка (з кветкамі) з воўны фабрычнага вырабу' (Жд. 1), 'сітцавая каляровая хустка' (Касп.), 'летняя хустка' (гродз., Сцяшк. Сл.), *маслю́новая хустка* 'шаўковая хустка' (Ян.), *масьлён* 'рэдкая тканіна з тонкіх нітак' (КЭС, лаг.). Да *муслін,* якое з рус. *муслин*<франц. *mousselin* ці з ням. *Musselin*<італ. *mussolina* — ад назвы горада *Мосул* на р. Тыгр (Фасмер, 3, 16).

**Маслы́** 'косці' (лід., Сцяшк. Сл.). Да *масол* (гл.).

**Маслю́к** 'страва, прыгатаваная з тоўчанага маку і цукру' (паст., Сл. ПЗБ). Назва перанесена з іншай рэаліі — стравы, у якой прысутнічаў тлушч. Параўн. мядз. *масля́к* 'мачанне, прыгатаванае з тоўчаных канапель' (Сл. ПЗБ), *маслёнка, масьлёнкі* 'тоўчанае канаплянае семя' (Растарг.), 'страва з ільнянога семя, якое таўкуць з соллю і дадаюць цыбулю' (ТС; КЭС, лаг.), 'ежа з тоўчаных канапель і цыбулі' (Юрч., Бяльк.; полац., Нар. сл.)<*ма́сліць* 'збіваць, скалочваць масла, алей', параўн. лаг. *ма́сьліць* 'таўчы каноплі ў ступе, пакуль не стануць мокрыя ад алею' (КЭС, лаг.). Гэтыя стравы па выгляду нагадваюць вадкасць, якая застаецца пасля збівання масла: *маслёнка* (ТСБМ, Шат., ТС), *масляніца* (нараўл., Мат. Гом.), *ма́слянка, масля́нка, масле́нка* (Вешт., Др.-Падб., Мат. Гом., ТС, Ян., Сцяц., Сл. ПЗБ; полац., Нар. сл.; чав., Мат. Маг.; драг., КЭС). Да *ма́сла* (гл.).

**Масля́к** 'грыб Suillus luteus' (ТСБМ, Янк. 2, Шат., Растарг., Сл. ПЗБ; уздз., Нар. словатв.), драг. *масле́кь* (КЭС, Жыв. сл.), укр., рус. паўн., смал. *масля́к* 'тс'; *масле́нік* 'тс' (Жд. 1, Мат. Гом., Ян.), рус. паўн. *ма́сленик, маслёник; ма́сленка* 'тс',

'Boletus flavus With.', 'Boletus annulatus Pers.' (Дэмб. 1, Грыг.), рус. смал., паўн., разан. *мáсленка, маслёнка* 'масляк', *маслюк* 'тс' (гродз.: беласт., маст., Сл. ПЗБ; ілун., Жыв. сл.; Мат. Гом., ТС, Ян.), *маслюх* 'тс' (Бес.), рус. кур., урал. *маслюк* 'тс', *масляй* 'тс' (Янк. 2), рус. наўг., алан. *масляй* 'тс', *маслян* 'тс' (барыс., Нар. словатв.), рус. усх.-сіб. *масляна* 'баравік'; *маслянка* 'масляк' (Анік.), чэрык. *масляначкі* (Бел. хр. дыял.), *маслят* 'тс' (касцюк., стаўбц., паст., талач., гом., Жыв. сл.). Укр. *маслюк,* рус. *маслёнок,* польск. *maślak,* н.-луж. *butrowy grib* (дзе *butra* 'масла'), чэш. *máselník, máslenka,* славац. *masliak, máslnik, másník, máslik, máselník, maslák, máselňak, máslač, maslovník,* балг. *мáсленка.* Паводле Махка$_2$ (353), грыб названы так таму, што яго мякіш мае такі ж жоўты колер, як масла, і яшчэ таму, што грыбы выкарыстоўваліся для змазкі колаў у калёсах замест масла (гл. Машынскі, Kultura, 1, 374).

**Маслянкі** 'кветкі сон, Pulsatilla Adans.' Як укр. *маслянка* 'таемнік лускаваты, Lathraea squamaria L.', 'казялец едкі, Ranunculus acer L.', 'лілея кучаравістая, Lilium martagon L.', рус. арл. *масло* 'тс'. Да *мáсла* (гл.). Матывацыя; масла ад кароў, якія паядаюць жоўтыя кветкі, будзе жоўтае.

**Маслятка** 'маслёнка пасля збітага масла' (светлаг., Мат. Гом.). Да *маслюк* (гл.). Мена *-н-* на *-т-* у канчатку пад уплывам *астаткі, астатак* 'рэшта', г. зн. 'тое, што астаецца ў канцы працэсу збівання масла'.

**Масніца**$_1$, *мастніца, маснічына* 'дошка падлогі, моста' (ТСБМ, Касп., Сцяшк., Янк. 1, Юрч., Грыг., Нас., Мат. Гом.; КЭС, лаг.; паўд.-усх., КЭС; гом., Нар. сл., Жыв. сл.; Бір. дыс.). Укр. валын. *мастниця,* рус. кур., пск., смал., цвяр. *мостница, мосница, мостничина.* Да *мост* 'падлога, мост' (гл.). Аб суфіксе *-ica (-іца)* гл. Слаўскі (SP, 1, 98—99), Сцяцко (Афікс. наз., 157—158).

***Масніца**$_2$, *масьныэця* 'маслабойка (машына)' (Тарн.), *маснічка* 'тс' (рэч., Мат. Гом.). Укр. *мáсничка.* З *maslьnica.* Да *мáсла* (гл.).

**Масніца**$_3$ 'клін, пры дапамозе якога сошка спалучаецца з аглоблямі' (Сержп., Земл.). Да *мост* (гл.).

***Мáсніца,** *мáсныця* 'масленіца' (драг., З нар. сл.). Укр. *мáсниця* 'тс'. Без *-ле-* з *мáсленіца* (гл.).

**Масол,** *масёл, масолак* 'косць', 'голая косць' (Бяльк., Растарг., Ян.; хоц., Мат. Маг.; ветк., добр., б.-каш., Мат. Гом.), *(перан.)* 'рука' (жытк., Мат. Гом.), *масалыга* 'костка, масол' (Грыг., Бяльк.), *масалыкнуць* 'ударыць' (лід., Сцяшк. Сл.). Рус. *мосол, мослá, мослáк* 'костка сцягна', 'круглая абгрызеная галоўка косці', 'сустаў крыла', ст.-рус. *мосолъ* 'тоўстая каравячая косць', *мослокъ* 'вяртлюг', *мостолыга* 'вялікая косць' (XVII ст.). Паходзяць з тур. *tusluq* 'кран', 'трубачка ў сасу-



дах' (Баскакаў, Тюрк. элем., 258). Яшчэ раней Міклашыч (Türk. El. Nachtr., 2, 191), Мацэнаўэр (LF, 10, 333) прапанавалі ў якасці крыніцы запазычання тур. *maslak, muslak* 'кран бочкі', пасля, аднак, Міклашыч адхіліў гэту гіпотэзу. Прычынай з'явіліся дадатковыя значэнні ў вытворнага дзеяслова *мосóлить,* у прыватнасці 'дакучаць'. Баскакаў (там жа) размяжоўвае рус. лексемы *мосол, мосолыга* на дзве: 'проська' і 'косць'. Першая звязана з мянушкай рускіх прасолаў, перакупнікаў палоцен, асновай для якой з'яўляецца цюрк. *mäsül* 'прошанае', 'просьба', 'прадмет просьбы'. З гэтага ўтварылася і бел. *масталыга* 'прыдзірала, буркун' (Растарг.).

**Масоны:** *«то такіе людзі, которые калдуюць з чартамі, а чартэ́ ім грошы прыносяць»* (Федар. 1). Да *масон* 'член масонскай секты, ложы' (ТСБМ), якое з польск. *mason*< франц. *maçon* 'каменяр'<с.-лац. *mationes cementarii* (Фасмер, 2, 578).

**Маспáн** 'пан', *маспанічка* 'пані', *(экспр.) масціпан* 'пан'. З *васпан, васпані* (гл.). Мена *в*>*м* пад уплывам *мосць*< польск. *miłość* у выразе *Wasza Miłość Pan* (<ням. *Euer Liebden*), скандэнсаваным пазней у *Waszmość* з дадаткам *pan.* Параўн. укр. *мость, його мость* 'яго міласць'.

**Маставéнё** 'дошка ці бервяно ў памосце' (Сцяц.). З *mostovenьje.* Да *мост* (гл.).

**Мастáк** 'творчы работнік у галіне выяўленчага мастацтва', 'той, хто дасягнуў высокай дасканаласці ў сваёй справе' (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк.; паўд.-усх., КЭС). Укр. (Катляэўскі) *мастáк,* рус. *мастóк,* пск. *мастáк* 'рабочы, які ведае справу і кіруе'. Утворана ад рус. *мастер* шляхам замены суфікса *-ер* на *-ак.* У бел. мову ў савецкі перыяд увайшло ў якасці семантычнай (сэнсавай) калькі (Крукоўскі, Уплыў, 151).

**Мастаколіцца** 'масціцца' (шчуч., дзятл., маст., Сл. ПЗБ), 'прымошчвацца, прылучацца' (слонім., Сцяшк. Сл.), *мастаколіць* 'рабіць паволі, няжвава' (віц., Мікуц.). Складанае слова. Да *мост* і *кол* (гл.). Першапачаткова азначала 'рабіць памост на слупах (на калах), напрыклад, пры паляванні'; пазней атрымала адценне экспрэсіі.

**Масталыга**$_1$ 'частка каравячай тушы' (Растарг.). Рус. ёнаўск. (ЛітССР) *мостолыжка* 'косць', *мостолыга* 'перадплечча', 'галёнка'; цвяр. 'рука без кісці, нага без ступні', валаг. 'доўгая худая рука', алан. *мостолюга* 'вялікая косць з мясам'. Беларуска-рускае. Да *масол* (гл.). Утварылася ў выніку семантычнага пераносу паводле сумежнасці: 'косць'>'мяса'> 'туша'.

**Масталыга**$_2$ 'буркун, прыдзірала' (Растарг.). Да *масол* (гл.).

**Маста́чанне** *(гумар.)* ’майстраванне’ (Юрч.), *маста́чны* ’майстэрскі, умелы, адмысловы’ (Яруш.). Рус. арханг., вяц. *маста́чить* ’кеміць у якой-небудзь справе, мець кемнасць, цямлівасць’, тамб. *мастачи́на* ’добры майстар, вялікі мастак’. Да *маста́к* (гл.).

**Маста́цтва** ’творчая перадача рэчаіснасці ў мастацкіх вобразах’, ’дасканалае ўменне, майстэрства ў якой-небудзь справе, рабоце’ (ТСБМ). Да *маста́к* (гл.). Утворана як *дзіва́к — дзіва́цтва*.

**Масты́ріць** ’мастачыць, нешта рабіць арыгінальнае’ (мсцісл., З нар. сл.). Рус. кастр., курган. *мастырить* ’майстраваць штонебудзь’. Бел.-рус. ізалекса. Утворана ад пск., цвяр. *масте́рить* пры ад’ідэацыі *насты́рны*. Да *ма́йстар* (гл.).

***Ма́сцер**, *ма́сьцір* ’майстар’ (Бяльк.). З рус. *ма́стер* ’тс’. Сюды ж *ма́сьцірна* ’па-мастацку, па-майстэрску’ (Бяльк.), *ма́сцерна* ’добра, выдатна’ (воран., Сцяшк. Сл.), ст.-рус. *мастеръ* ’магістр ордэна’. Да *ма́йстар* (гл.). У рус. мову — з беларускай.

**Масцеравы́** ’які займаецца якім-небудзь рамяством’, ’рамеснік’ (ТСБМ, Жд. 1). Відавочна, з рус. *мастерово́й* ’тс’.

**Масцёвы** ’пародзісты’ (чэрв., Нар. лекс.). Да *масць* ’адборная парода’.

**Масціна** ’дошка або бервяно ў насціле моста’ (ТСБМ). Рус. наўг., валаг., яросл., арханг. *мости́на* ’тс’. Да *мост* (гл.).

**Масціць** ’рабіць насціл з дошак, бярвенняў (у мосце, падлозе)’, ’старанна ўкладваць, высцілаць’, ’брукаваць’, ’слаць пасцель’, ’рабіць сядзенне ў возе’, ’віць гняздо’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Мат. Гом.; КЭС, лаг.), ’рабіць кладку’ (брасл., Сл. ПЗБ), ’рабіць падлогу з грунту (дзёрну, пяску)’ (ТС); *масці́цца* ’падсядаць’ (Шат., Нас.), ’ладзіцца, рыхтавацца’ (КЭС, лаг.), ’заляцацца’ (ігн., Сл. ПЗБ); *масці́шча* ’памост’ (красл., Сл. ПЗБ), *масці́шчэ* ’балотца за дварамі, да якога вялі масты праз ручай’ (Янк. 2), *масці́шча, машчышча, маставі́шча, мастоўе* ’места, дзе быў мост і грэбля’ (слаўг., Яшк.). Укр. *мостити(ся), мостище,* рус. *мостить(ся)* ’тс’, ст.-рус. *мостити* ’насцілаць мост, рабіць гаць, падлогу’, *мостище* ’месца, дзе быў мост ці гаць’. Да прасл. *mostiti*. Гл. *мост.*

***Масці́ць$_2$**, драг. *умостэ́тэ, намостэ́тэ ў бо́ке* ’накласці грымакоў, адлупцаваць, старанна біць’ (КЭС), *мосты́ты* ’знеслаўляць’ (З нар. сл.). Народная этымалогія злучае з *масціць,* аднак параўн. ст.-грэч. μαστίω ’біць хвастом аб свае бакі’.

**Масцю́к** ’малайчына’ — у пары з імем *Касцюк* (паўн.-усх., КЭС). Укр. *мистю́к* ’майстар, мастак’, рус. кур. *мастю́к* ’тс’. Пераўтварэнне з рус. *мастер* (Праабражэнскі, 1, 513; Фасмер, 2, 579). Гл. таксама *місцю́к.*



**Масць$_1$** ’мазь’ (Нас., Шат., Жд. 1, Растарг., ТС; драг., КЭС; воран., Шатал.; бар., Сл. ПЗБ), браг. ’вакса’, драг. ’карычневая вадкасць, якую выдзяляе з рота конік і якою карыстаюцца для загойвання ран’ (З нар. сл.); ’састаў з воску, смалы і несалёнага тлушчу для зашчэплівання пладовых дрэў’ (Сцяц.). Укр. *масть,* рус. смал., кур., арл., калуж. *масть* ’мазь’, польск. *maść,* чэш. *mast,* славац. *masť*, славен. *mâst, mâšča,* серб.-харв. *мâст,* макед. *маст,* балг. *маст,* ст.-слав. **масть.** Прасл. *mastь<maz-tь<mazati*. (Міклашыч, 185; Бернекер, 2, 23). Да *ма́заць* (гл.).

**Масць$_2$** ’колер шэрсці ў жывёліны і пер’я ў птушак’, ’адна з чатырох частак ігральных карт’ (ТСБМ, Шат., Бяльк., ТС; драг., З нар. сл.). Укр. *масть,* рус. пск., цвяр. *масть* ’тс’, славац. *masť* ’колер у картах’, ст.-рус. *масть* ’колер’, ’афарбоўка, фарба’, польск. *maść* ’колер коней і карт’, серб.-харв. *мâст* ’колер, афарбоўка, масць’. Да *масць$_1$*. Прасл. *mastь* — першасная назва для паняцця ’колер’ (Брукнер, 325).

**Масцярок** ’кельма’ (карм., хойн., Мат. Гом.; расон., Шатал.). З рус. *мастерок<ма́стер*. Да *ма́йстер* (гл.).

**Масцяры́цца,** *масцю́рыцца* ’масціцца’ (шальч., Сл. ПЗБ). У выніку кантамінацыі *масці́ць (масці́цца)* і *ма́йстар, масты́рыць* (гл.).

**Масые́тка** ’безрукаўка на аўчыне’ (лід., Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Масы́ш** ’хітрун’ (віл., Сл. ПЗБ). Ад імя *Mojżesz* (польск.) ’Майсей’.

**Ма́ся** ў выразе: *ма́ся сляпая* ’слепавокі’ (Жыв. сл.). З $^+$*маця* ’той, хто мацае вакол сябе’. Да *ма́цаць* (гл.).

**Мат$_1$** ’брыдкая лаянка’ (ТСБМ, Растарг., ТС), *ма́та* ’тс’ (ТС), ’голас’ (Нас., Бяльк.), *ма́тавы голас* ’роспачны, адчайны’ (Нас.), *сесці ма́том* ’не кранучца ў рост, не расці’ (напр., цыбуля) (ТС). Рус. пск., цвяр., смал., яросл., арханг. *мат* ’крык, моцны голас’, наўг., валаг. *ма́том* ’вельмі моцна, вельмі многа’, наўг., ’мат’, ’прывід, страшыдла’, вяц. ’дурны’, *матом* ’адчайна, смела’. Бел.-рус. ізалекса. Паводле Мартынава (Бел.-рус. ізал., 70), лексема *мат* — запазычанне з гоц. *moþs* ’лютасць, шаленства, унутраная духоўная сіла’. Параўн. таксама ст.-англ. *mōd* ’смеласць’ і ст.-ісл. *mōðr* ’роспач’, ням. *mit wildem Mut*=рус. *лихим матом.*

**Мат$_2$** ’становішча ў шахматнай гульні’, ’безнадзейнае становішча’ (ТСБМ). З польск. ці рус., у якія праз ням. *matt, schachmatt* ці франц. *échec et mat* ’шах і мат’<араб. *eš šâh mât* ’кароль памёр’ (Бернекер, 2, 25; Фасмер, 2, 579).

**Ма́та** ’пляцёнка з саломы, травы для ўцяплення дзвярэй, вакон ці падлогі’ (ТСБМ, Грыг., Сцяшк., Шушк., П. С., Шат., Бяльк.; КЭС, лаг.; беласт., Сл. ПЗБ), *мат* ’тс’ (Нас.), ’шчыток

з саломы' (ТС), віл. *мáтачына* 'тс' (Сл. ПЗБ). З польск. *mata* 'тс', якое з лац. *matta* (праз італ. мову) (Брукнер, 325).

**Матабýс** 'аўтобус' (Растарг.). Скажоная форма пад уплывам *матаць.*

**Матавідла,** *матавíдло, матавíдлы* 'прыстасаванне для змотвання нітак у маткі або з маткоў у клубкі' (Жд. 1, Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.; воран., Шатал.), *матавíла, мытавíла, матавíло, мотовíло* 'тс' (ТСБМ, Бір. дыс., Нас., Шат., Касп., Бяльк.; ТС, Маш.; КЭС, лаг.; докш., Янк. Мат., браг., Нар. сл.), жытк. *мотоíло* (Выг. дыс.), рэч. *матаíла* 'тс' (Мат. Гом.); *(перан.) матавíла* 'пудзіла ў гаросе або пшаніцы ад вераб'ёў' (Нас.), 'маталыга' (Мат. Маг.). Укр. *мотовúло* 'тс', 'вол, які мае звычку матаць галавой пры запраганні', рус. *мотовило,* польск. *motowidło,* в.-луж. *motydło,* чэш., славац. *motovidlo,* славен. *motovílo,* серб.-харв. *мотòвило,* макед. *мотовило,* балг. *мотовила.* Прасл. *moto-vidlo<motoviti* — складанае слова з *motati* (>*матáць*) і *viti* (>*віць*) (Скок, 2, 412; Махэк$_2$, 375). Бязлай (2, 197) выводзіць памылкова прасл. *moto-vitlo* (Куркіна, Этимология — 83, 191).

**Мáтавы** 'без глянцу, без бляску', 'паўпразрысты' (ТСБМ). Укр. *мáтовий* 'тс', рус. *матовый* 'тс', урал. *мáтовый, матовáтый* 'з бяльмом у воку'. З ням. *matt* 'вялы, слабы' або з франц. *mat* 'цьмяны'<італ. *matto* 'дурны, шалёны', 'п'яны'<лац. *matus* 'п'яны' (Бернекер, 2, 24; Мацэнаўэр, LF, 10, 63; Праабражэнскі, 1, 515; Фасмер, 2, 582).

**Матáйза** 'мужчынскі гальштук' (Сцяшк.). З англ. *neck-tie* 'гальштук' (магчыма, праз польск. мову). Мена пачатку слова адбылася пад уплывам дзеяслова *матаць.*

**Маталáшка** 'падстаўка для матавіла' (слонім., Сцяшк. Сл.), *(перан.)* 'жанчына, якая шмат гаворыць без сэнсу' (КЭС, лаг.). Ад $^+$*маталáха,* якое да $^+$*маталáць<матáць* (гл.). Суфікс *-а-л-* перадае рэгулярнае, шматразовае дзеянне.

***Матальгáць,** драг. *матальгáтэ* 'рабіць частыя махі' (Нар. лекс.). Укр. *метеллюгáти,* 'віляць, выкручвацца', рус. новасіб. *мотолáзить,* урал. *маталóсить* 'бязладна махаць рукамі'. У выніку падаўжэння асновы дзеяслова *матляць<матáць* (гл.) пры дапамозе суфікса *-га-*. Параўн. ст.-рус. *мотолыга* 'матыка'.

**Маталы́га$_1$** 'той, хто неразумна траціць грошы, маёмасць' (Растарг.), *маталыжка, маталы́жнік* 'мот' (Нас.), 'бадзяга' (ТСБМ, Нас.), *мыталы́га* 'жулік' (Бяльк.), *мотолы́га* 'круцель' (ТС), *маталы́жнічаць* 'жыць падманам, махлярыць' (Нас.), *маталыжыць* 'маніць' (Крыў., Дзіс.). Рус. смал. *мотолы́га, мотолы́жка* 'бадзяга', кубан. *мотолы́жник* 'жулік', пск. *мотолыга* 'хлус', пенз. 'мот'. Бел.-рус. ізалекса. Да *матáць/матля́ць* (гл.). Суфікс *-ыга* надае лексеме адмоўна-экспрэсіўнае значэнне.



**Маталы́га$_2$** 'голень' (Касп.). Рус. пенз., ніжагар., урал. *мотолы́га* 'вялікая косць', цвяр., ёнаўск. (ЛітССР) *мостолы́га* 'доўгая худая нага'. Бел.-рус. ізалекса. Да *масол* (гл.).

**Матáн** 'верхняя (да пояса) вопратка з рукавамі' (гродз., Мат. АС), *матáнка* 'кофта' (навагр., Сл. ПЗБ), 'паркалёвая безрукаўка' (іўеў., Сцяшк. Сл.), 'малінавая хустка' (чачэр., Мат. Гом.). Рус. варон. *матáня* 'доўгая з поясам жаночая кофта'. Да *матацца/матáць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 26).

**Матанýць** *(перан.)* 'кінуць' (даўг., в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'махнуць', 'выбегчы' (Нар. Гом.). Рус. урал. *мотанýть* 'хутка, раптоўна прабегчы, мільгануць', смал. *мотанýться* 'тс'. Да *матáць* (гл.). Суфікс *-а-* перад *-nǫ-* перадае раптоўнасць дзеяння. Сюды ж *матаніна* 'мітусня, беганіна' (Нас.).

***Мáтанька,** драг. *мáтынька,* бяроз. *матэ́нька, мáтня* 'адзін з саламяных снапкоў, звязаны з некалькіх (3—5) пучкоў саломы каля гузыра, якімі пакрываецца ўся страха, апрача ніжняга рада' (Нар. сл.). Да *мáта* (гл.).

**Матарны́** 'жвавы, лоўкі' (КТС, Дунін-Марцінкевіч). Да *маторны* (гл.).

**Матаровік** 'мапед' (навагр., Сцяшк. Сл.). З польск. *motorower* 'тс' са зменай суфікса на *-ік* (як *газік, козлік* — назвы легкавых машын).

**Матаровы$_1$** 'даўжынёй у 1 метр' (віл., Жыв. сл.). Да *мэтра$_1$* 'адзін кубічны метр дроў'.

**Матаровы$_2$** 'хуткі, рухавы' (ваўк., Сцяшк. Сл.). З польск. *motorowy<motor, матор* (гл.).

**Матароўка** 'матацыкл', 'мапед', 'маторная лодка' (Сцяц.). З польск. *motorówka* 'тс'.

**Матарэйка** 'прылада ў самапралцы, якая круціць нітку і намотвае на шпульку' (Бяльк.). Утворана ад *матор* (гл.) пры дапамозе суфікса *-ěja.* Гэта частка калаўрота з'яўляецца «асноўнай»: тут прадзецца нітка, намотваецца на шпульку, таму і выкарыстан суфікс nomen agentis (Слаўскі, SP, 1, 87).

***Матахáцца,** *мотохáтысь* 'поркацца' (Клім.). Укр. *мотушáти* 'рухаць, шавяліць', рус. перм. *мотóха* 'дарэмная трата часу', тул. *мотошúться* 'шавяліцца', тамб. *матýшиться,* наўг., цвяр., разан. *матусúться, мотýситься, матýситься* 'паволі, не хочучы рабіць што-небудзь', *матусить* 'хадзіць туды-сюды'. Глухі варыянт да *мадзёхацца* (гл.).

**Матáць,** *мотáць, мытáць, мотáтэ* 'віць, накручваць', 'махаць', 'плесці (аб павуку)', 'хутка ісці, бегчы, уцякаць, неразумна траціць грошы' (ТСБМ, Бяльк., Яруш., ТС, Сл. ПЗБ), *матанýць* 'кінуцца, прамільгнуць', 'махнуць' (ТСБМ, Нас., Юрч.), *матáцца* 'перашкаджаць, церціся', 'матляцца', 'сноўдацца', 'калыхацца', 'добра старацца' (Нас., Бяльк., Растарг.,

ТС), *мотнýцца, мотнýць* 'кінуцца' (ТС). Укр. *мотáти, мотáтися,* рус. *мотáть(ся),* ст.-рус. *мотатися* 'бязладна рухацца', 'жыць абы-як', польск. *motać (się),* н.-луж. *motaś (se),* в.-луж. *motać (so),* чэш. *motati (se),* славац. *motat' (sa),* славен. *motáti (se),* серб.-харв. *мòтати (се),* макед. *мота (се),* балг. *мотая (се),* ц.-слав. **мотати сѧ**. Прасл. *motati (sę),* аснова якога *mot-* чаргуецца з *met-,* параўн. ст.-слав. **мести** 'кінуць', літ. *mèsti* 'тс'. Прасл. *motati* ўтворана так, як літ. *matúoti* 'тс', 'мераць', роднасным да якога з'яўляецца *matarúoti* 'махаць', 'матаць', ст.-грэч. μόθος 'гарачы бой', μόθουρα 'ручка вясла' (Бернекер, 2, 40; Фасмер, 2, 665—666; Скок, 2, 413; Покарны, 732). Махэк$_2$, 375 разумее форму *motati* як інтэнсіў на *-t-* ад асновы *mov-* (параўн. лац. *movēre* 'рухацца') і выводзіць прасл. праформу *mov-ta-ti,* у якой пасля *-v-* перад *-t-* выпала, а дзеяслоў стаў экспрэсіўным. Бязлай (2, 197) неапраўдана выводзіць і.-е. рэканструкцыю кораня ў выглядзе **menth-* (Куркіна, Этимология-83, 191).

**Матацы́кл,** *матацыклéт* 'падобная да веласіпеда машына з рухавіком унутранага згарання' (ТСБМ), драг. *моцоклéт* 'тс' (КЭС), *матóцык* 'тс' (Жд. 1, лід., Сл. ПЗБ, паст., смарг.); *мацыклéт,* калінк. *матацы́кла,* чачэр. *матацыклéта,* рэч. *мацыклéта* (Мат, Гом.), *манцыклéта* (Мат. Гом.). З польск. *motocykl* і рус. *мотоцúкл, мотоциклéт,* якія з франц. *motocycle* (<лац. *motus* 'рухомы'+ст.-грэч. κύκλος 'кола'), *motocyclette* 'матацыкл'. Крукоўскі (Уплыў, 83) крыніцай запазычання лічыць рус. мову.

**Матáч** 'матавіла' (ваўк., Сл. ПЗБ), *матáшка* 'прыстасаванне, на якое намотваюць ніткі з верацён' (гродз., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), *матáчка* 'тс' (Сцяшк.), 'вялікае верацяно для звівання пражы' (Сл. ПЗБ). Да *матáць* (гл.).

**Мáтачнік$_1$,** *маточнік* 'ячэя ў сотах, дзе выводзіцца пчаліная матка', 'скрыначка для адсадкі пчалінай маткі пры раенні' (ТСБМ, Бес., Шат., Некр., Анох., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Бел. хр. дыял.; ашм., З нар. сл.), слаўг. *мáтышнік* 'тс' (Нар. сл.), *матачнíца* 'тс' (віл., З нар. сл.; Мат. Гом.), *мáтушнік* 'тс' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Укр. *мáточник* 'тс', рус. *мáточник,* свярдл. *мáточница* 'скрыначка для пчалінай маткі', польск. *matecznik,* чэш. *matečník,* серб.-харв. *мàтичњак,* макед. *матичник.* Культурнае слова, утворанае ў паўд.-слав. мовах ад *матица* 'матка ў пчол', а ў паўночных ад *матка, matka.*

**Мáтачнік$_2$** 'сярэдзіна пушчы, цалкам недасягальная, у якой жыве лясун' (Багд.). З польск. *matecznik* 'тс'.

**Мáтачнік$_3$,** *мáтъчнік* 'зарніца звычайная, Linaria vulgaris Mill.' (маг. Кіс.; міёр., Жыв. сл.). Назва паходзіць ад *матка* 'маці', параўн. польск. *Panny Marii len,* ст.-чэш. *len Matky Boží* 'лён багамацеры', аналагічна ням. *unser Frauen Flachs.*



**Мáтачнік$_4$** 'чабор звычайны, Thymus serpyllum L.' (рэч., добр., ветк., Мат. Гом.). У аснове гэтай назвы, як і інш. слав.: укр. *материдýшка, богорóдская (богорóдицына) трава,* ст.-польск. *macierza duszka,* суч. *macierzanka,* чэш. *mateřídouška,* славац. *materina duška,* славен. *materna dušica,* харв. *materina dušica,* ляжыць першаснае значэнне 'душа багародзіцы — дзевы Марыі, маці Хрыста', звязана з прыемным пахам краскі (Махэк, Jména, 202). Бернекер (1, 235) у аснову матывацыі кладзе пчаліную матку і пах, які прыцягвае пчол. Фасмер (2, 582) прытрымліваецца таго веравання, што ў гэту расліну ператварылася маці, якая рана памерла (гл. *мацярдушка*).

**Мáтачнік$_5$,** *мáташнік* (брасл., віл., даўг., швянч., Сл. ПЗБ) 'падбел звычайны, Tussilago farfara L.', астрав. 'настой падбелу' (Сл. ПЗБ), 'падбел' (маг., Смал., Кіс.; Нас.). Рус. паўн., смал., ёнаў. (ЛітССР), прэйл. (ЛатССР) *мáточник* 'тс'. Ад *мáтка* 'пчаліная матка': падбел з'яўляецца добрай пергаsuccessful носнай і нектараноснай раслінай.

**Маташнік$_1$** *лекавы* 'белакапытнік гібрыдны, Petasites hybridus (L.) Gaertu' (маг., Кіс.). Укр. *мáточник* 'Petasites officinalis'. Назва расліны перанесена з *мáтачнік$_5$* паводле падабенства формы ліста (як і назва *падбел* — ва ўкр., рус., чэш. мовах).

**Маташнік$_2$** 'залозніца крылатая, Scrophularia alata Gilib.' (маг., Кіс.). Няясна. Магчыма, да *мáціца* (гл.), 'галоўны корань у дрэве' паводле падабенства: у залозніцы таксама корань вялікі, вузлаваты.

**Мáтка$_1$** 'маці, мама' (ТСБМ, Грыг., Нас., Яруш., Шат., Бяльк., Мат. Гом. Сл. ПЗБ, ТС), 'мачаха' (Яшк., Назвы), *мáтачка* 'маці' (Шат., Растарг.), 'самка некаторых жывёл, птушак і насякомых (пчол)' (ТСБМ, Бес., Нас., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *мáтка,* рус. *мáтка* 'тс', пск. 'сястра жаніха, нявесты', пецярб. 'хрышчоная маці', ярасл. *матка старенькая* 'бабуля' (тое ж славац. *stará matka*); польск. *matka* 'маці', 'пчаліная матка', ст.-польск. *matka* 'цётка', 'мамка'; чэш., славац. *matka* 'матка'; на паўд.-слав. тэрыторыі і Паноніі калісьці таксама было *matka,* якое пазней выцесніла *majka/майка, matica* (параўн. венг. *mátka* 'нявеста', алб. *mëtkë* 'пчаліная матка'). Прасл. *matъka* — дэмінутыў да *mati*>*мáці* (гл.). Значэнне 'пчаліная матка' ў лексемы *matъka* таксама вельмі старое; аналагічнае назіраецца ў англасаксаў. У іншых і.-е. народаў ужываюцца словы мужчынскага роду: *rēx,* βασιλεύς, *König* і да т. п. (Reallexicon, 1, 278). Сюды ж *матка-і-мачаха* 'падбел, Tussilago farfara' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Барысава (Бел.-рус. ізал., 9) мяркуе, што *матка* ў смал. гаворках было запазычана з польск. мовы.

**Ма́тка**$_2$ 'ўнутраны палавы орган жанчын і самак жывародзячых жывёл' (ТСБМ), 'сцябло ніжняй часткі хмелю' (акц., Мат. Гом.). Да **ма́тка**$_1$. Аналагічна яшчэ лац. *māter — mātrīx*.

**Ма́тка**$_3$, *ма́ткы, маткы* 'спарыння ў жыце, Claviceps purpurea Tul.' (пін., Шатал.; драг., Нар. лекс.), зах.-укр. *ма́тка* 'тс' (Выгонная, Бел.-укр. ізал., 19). Да *ма́тка*$_2$. Спарыння выкарыстоўваецца ў гінекалогіі.

**Ма́тка**$_4$ — адзін з капітанаў дзвюх каманд, выбраны перад пачаткам дзялення на каманды' (гродз., Нар. словатв.). Рус. алан., арханг., валаг., перм., наўг., пенз. *матка* 'тс', чэш. *matka, máta*. Відавочна, да *матка*$_1$.

**Маткі**, *ма́ткі, моткі́* 'жаночыя каноплі, у якіх ёсць насенне' (Янк. 1, Уладз., ТС, Ян.; лід., Сцяшк. Сл.). Рус. кур. *матка* 'жаночыя каноплі'. Да *ма́тка*$_1$. Гл. таксама *мацяркі́* 'тс'.

**Матка́цца** 'сноўдацца, матацца' (асіп., Буз.). Утворана пры дапамозе суф. *-к(а)-*, які перадае частае, бязладнае шматразовае дзеянне, ад дзеяслова *мата́цца* (гл.).

**Матке́дніца** 'жаночая кашуля' (іўеў., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, у выніку кантамінацыі літ. *marškiniaĩ* 'кашуля' і бел. *спадніца* (цяжкасці ў кансанантызме).

**Матлахо́н** 'нясталы, непаседлівы чалавек' (маладз., Янк. Мат.). Да *матла́ць, матлаха́ць*. Утворана пры дапамозе рэдкага экспрэсіўнага суфікса *-он*, параўн. *лапацо̂н* (гл.).

**Матла́ць** 'размахваць' (ТС), *матла́цца* 'развявацца' (Нікан.), *матлуха́цца* 'матляцца' (ТС), *матляха́ць (груб.)* 'махаць' (шчуч., Сцяшк. Сл.), *матляха́тыса* 'развявацца, хістацца' (пін., Нар. лекс.). Да *мата́ць* (гл.), да асновы якога дадаюцца суфіксы *-л- (-л'-)* і *-х-а*. Такі ж суфікс *-л- (-ль-)* назіраецца ў серб.-харв. касмецк. *умотлӓт, замотлӓт* пры літаратурным *умо̀тати, замо̀тати* 'замотваць', серб.-харв. *мо̀тљати се* 'матацца, намотвацца', 'умешвацца'.

**Матлашы́ць**, *мотлошы́ты* 'рваць на шматкі, прыводзіць у бязладны стан', 'біць, дубасіць, нішчыць' (ТСБМ, Клім.), 'махаць рукамі' (ваўк., Сл. ПЗБ). Укр. *мотлоши́ти* 'тс', рус., кур. *мо́тлах* 'анучы, акраўкі, дробныя кавалкі чаго-небудзь', польск. *motłoszyć* 'трэсці, тармасіць, драць, рваць, ціснуць', чэш. *matlati* 'мяшаць', 'ціснуць, блытаць, збівацца з толку', *matlanina, matloch* 'сумесь', 'нясмачная каша', мар. *matlocha* 'мямля', *motrchati* 'збіваць з толку, прыводзіць у бязлад'. Да прасл. *matati* 'хлусіць', якое з'яўляецца інтэнсівам на *-t-* ад асновы **mā-* (параўн. *мані́ць, ма́ра),* роднасным да якога будзе лат. *ap-māt* 'махаць' (Махэк$_2$, 354). Да *мата́ць* (гл.).

**Матлёт** 'назва танца' (светлаг., Мат. Гом.). З польск. *matelot* (жвавы матроскі танец, які нагадвае працу матросаў на караблі'<франц. *matelote* 'тс'<с.-гал. *mattenoot* 'прыяцель, сябар' (SWO, 459).



**Матлу́ззе** 'мэтлахі, карэнне' (Ян.). У выніку кантамінацыі *мэтлах* і *мату́ззе* (<*мотуз*).

**Матля́х** 'асінае вісячае гняздо' (шчуч., Сл. ПЗБ). Аддзеяслоўнае ўтварэнне. Да *матла́ць* (гл.).

**Матля́цца**, *матля́тыса* 'хістацца, знаходзячыся ў вісячым становішчы, вісючы, хістацца туды-сюды, з боку ў бок' (ТСБМ, ТС; пін., Нар. лекс.), 'боўтацца' (Ян.), 'ухіляцца ад працы, хадзіць без справы' (шкл., Мат. Маг.), *матля́ць* 'матаць, размахваць, хістаць чым-небудзь' (ТСБМ, ТС), *матляну́цца* 'матнуцца, памкнуцца, паспяшацца куды-небудзь' (Нар. Гом.). Укр. *мотля́тися, мо́тлятися*. Да *матла́ць*<*мата́ць* (гл.).

**Матня́**$_1$, *мотня* 'сярэдняя частка невада, куль' (Маш., Тарн.; хойн., Мат. Гом.; нараўл. З нар. сл.), *ма́тня* 'тс' (Федар. 6), *матня́* 'задняя частка рыбалоўнай снасці ў выглядзе доўгага мяшка' (лід., Сл. ПЗБ), 'карма ў невадзе' (ТС), *(перан.)* 'пастка' (КТС, Дунін-Марцінкевіч). Укр. *матня́* 'сярэдняя паглыбленая частка невада', рус. пск. *мотня́* 'частка рыбалоўнай снасці'. Паводле Фасмера (2, 582), да *мата́цца*. Магчыма, аднак, дапусціць у якасці крыніцы лексему *матка*$_1$, як месца, адкуль што-небудзь выходзіць. Параўн. рус. с.-урал. *ма́точка* 'цэнтральная частка невада', арханг., пск., цвяр., смал., урал. *ма́тка* 'матня невада'. Гл. таксама *матня́*$_4$.

**Матня́**$_2$ 'стрыжнёвы корань пня' (жлоб., Мат. Гом.). Да *ма́тка*$_2$. Суфікс *-ня* мог узнікнуць у выніку кантамінацыі лексем *матка пня*.

**Матня́**$_3$, пін. *матнî́э* 'куль саломы для страхі' (Працы 1), бяроз. *ма́тня* (Нар. сл.). Да *ма́та* (гл.).

**Матня́**$_4$, *мотня́* 'крэсла, устаўка ў штанах' (добр., Мат. Гом.; Нар. Гом., ТС). Укр. *матня́*, рус. *мотня́*. Да *мата́ць, мата́цца*. Параўн., аднак, *матня*$_1$.

**Маток**, *мото́к, мотак, мŷо́ток* 'пэўная колькасць нітак, дроту, лыка і інш., роўна зматаная або навітая на матавіла' (ТСБМ, Шат., Бяльк., Бес., Мат. Гом., Маш., Яруш., Сл. ПЗБ; круп., Нар. сл.), 'пасма нітак на клубку', 'нізка рыбы, грыбоў, цыбулі, тытуню; пляцёнка' (Сл. ПЗБ). Укр. *мо́ток, міток*, рус. пск., смал. *мото́к* 'катушка нітак', горк. 'верацяно з наматанымі ніткамі, пск., смал. 'нізка грыбоў, яблыкаў і інш.', польск. *motek*, чэш. *smotek*, славац. *zmotok*. Паўн.-слав. *motъkъ*, якія з *motati*. Да *мата́ць* (гл.).

**Маток**$_2$ 'каноплі (семяннікі)' (Мат. Гом.). Да *маткі́* (гл.).

**Мато́н** *(абразл.)* 'манюка' (жлоб., Мат. Гом.; бялын., Нар. сл.). Да *мата́ць* (гл.). Экспрэсіўнае адценне было прычынай мены суфікса *-ун*>*-он*.

**Матор** 'рухавік' (ТСБМ). З рус. *мотор* 'тс' Крукоўскі, Уплыў, 83. *Мотар* 'тс' (Сл. ПЗБ) — з польск. *motor*, якое, як і рус. лексема, запазычана з ням. *Motor*<франц. *moteur*<

17. Зак. 1005

лац. *motor* 'той, што рухае, закалыхвае'<*movēre* 'прыводзіць у рух' (Фасмер, 2, 664; SWO, 493). Сюды ж *маторка* 'маторная лодка' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), якое з рус. *моторка*.

**Матора** 'барышнік, які перапрадае коней' (Растарг.). Рус. *мотóр* 'спрытны, кемлівы чалавек', валаг., ніжагар. *мотóра* 'мот, марнатравец', уладз. 'легкадумны, балбатун'. Да *маторны* (гл.).

**Маторны** 'шпаркі, жвавы, спрытны, поўны радасці жыцця' (Федар. 6; гом., Рам. 8; Мал., Ян.; браг., Шатал.), 'вялікі, доўгі, высокі, вялізны, цяжкі' (Нас.), чэш. *motorný* 'жвавы, спраўны, спрытны', *nemotorný* 'няўклюдны, непаваротлівы', 'няспрытны, няспраўны', славац. *nemotorný* 'тс'. Ст.-чэш. *nemotorný* 'непрыемны (пра гук)', а суч. чэш. мае яшчэ значэнне 'бясформенны, цяжкі на выгляд (воз, бочка, нізкая вежа)', якое можна аб'яднаць са значэннем 'непаваротлівы, няспрытны'. Найбліжэйшымі адпаведнікамі з'яўляюцца: літ. *matarúoti* 'махаць бічом, круціць хвастом', г. зн. 'рабіць частыя рухі' (Махэк$_2$, 375), а таксама, магчыма, літ. *mèsti* 'кідаць', *matãras* 'верацяно', *mastýti* 'абшываць', лат. *matara* 'гібкі дубец' (Фасмер, 2, 664).

**Матошка** 'маленькі маток нітак' (КЭС, лаг.). Да *матýшка*$_1$ (гл.).

**Матраб'я́нка** 'мясны фарш' (рэч., Мат. Гом.). Відавочна, з польск. *wątrobianka*, якое на Палессі азначала 'зельц', 'страўнік жывёлы, тоўстая кішка, начыненая свінымі вантробамі'. Мена *в*>*м* (параўн. рус. *ватрушка — матрушка*).

**Матрасíць,** *матрашы́ць, мытрашы́ць* 'імжэць, сеяць, як праз сіта (пра дождж)' (Бяльк., Растарг.; чачэр., Мат. Гом.). Укр. *мотрошúти* 'церушыць (аб снезе)', рус. *мотросúть, мотрóсить* 'марасіць', бран. *мотрошúть* 'тс', наўг. 'церушыць дробнымі сняжынкамі'. Усходнеславянскае. Фасмер (2, 664) узводзіць да *метать* і *роса*. Якабсон (Slav. Word, 2, 614) лічыць гэта кантамінацыяй *моросúть* і *мотать*.

**Матрахля́сы** 'вельмі парванае адзенне' (Грыг.). З польск. *materklasy* 'старызна, хлам', якое Бруކнер лічыць скажоным *materiały*, аднак змяшчае гэта ў артыкуле *matka*. Больш правільна гл. бел. *мартаплясы*.

**Матрáц,** *матрáс* 'мяккая тоўстая ватовая або валасяная подсцілка на ложак', 'сяннік, мех, напханы саломай' (ТСБМ, Тарн.; пруж., Сл. ПЗБ), *матэрас* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *матерацъ, матарацъ* 'тс' (XVI ст.), запазычаны са ст.-польск. *materac*, дзе са ст.-франц. *materas*<італ. *materasso*<араб. *al maṭraḥ* 'падушка', 'пасцель'. Не выключана магчымасць паўторнага запазычання праз рус. мову, у якой з новав.-ням. *Matratze* (Булыка, Лекс. запазыч., 109; Бернекер, 2, 27; Фасмер, 2, 582—583).



**Матрашы́ць** 'калаціць, трэсці хворага' (чачэр., Мат. Гом.). Рус. дан. *мотросúть* 'трэсці, ліхаманіць' ярасл. *мотрошúть* 'лячыць замовай, чараваць', том. *мотрошúться* 'мітусіцца'. У выніку кантамінацыі лексем *матлашыць* і *трэсці* (гл.).

**Матрос** 'радавы флота' (ТСБМ). З рус. *матрос* (Крукоўскі, Уплыў, 83), якое (у форме *матрозъ* — 1697 г.) праз гал. *matroos* (мн. л. *matrozen*) было запазычана з франц. *matelot*< с.-нідэрл. *matten-noot, maatgenoot* 'тс' (Фасмер, 2, 583). Сюды ж *матроска* 'кофта' (Сцяц.), 'блуза матроса з адкладным каўняром', 'жаночая ці дзіцячая блуза такога ж крою', 'бесказырка' (ТСБМ, Жд. 1), *матрасня́* 'матросы' (Нар. Гом.).

**Матрýна** 'ліпа ў казках (з «бóлным» гняздом, у якім жыве змяя Шкурапея)' (Рам. 5), кам. *матрýна-колóдыця, матрунка* 'божая кароўка' (З жыцця), ст.-бел. *матрона* 'матрона' (XV ст.), якое са ст.-польск. *matrona*<лац. *mātrōna* 'тс'. Не выключана магчымасць запазычання праз рус. мову, у якой непасрэдна са ст.-грэч. ματρῶνα (Фасмер, 2, 583; Булыка, Запазыч., 199).

**Матрýшкі** 'маточкі нітак, якія выкарыстоўваюцца замест чаўнака пры тканні выкладаннем' (Бір. дыс.; капыл., Жыв. сл.; слуц., КЭС), *мотрýшкі* 'каляровыя маточкі ўтоку пры ўзорным тканні' (нараўл., Уладз.), *матрýха* 'прылада, на якую навіваюць ніткі, матавіла' (Бір. дыс.; шчуч., Сцяшк. Сл.), капыл. *матрýшка* 'невялікі скрутак лык'. Пад уплывам дзеяслова *матаць* з *вяртуха, вяртушка* (Сл. ПЗБ). Параўн. таксама *матýшка* (гл.).

**Матрыкул** 'заліковая кніжка', 'афіцыйны спіс саслоўя, установы, узносаў, даходаў' (ТСБМ). З рус. *матрикул(а)*, якое з лац. *matricula* 'спіс'.

**Матýз,** *матузок, матýзка, матузы́, мотуз, мотузóк, мотýзье, матузы́* 'вяровачка, вяроўка, шнурок, вузкая палоска тканіны для завязкі, гашнік' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Сцяшк., Мядзв., Бір. дыс., Бяльк., Шн. 3, Чач., Шат., Грыг., Касп., Мат. Гом., Растарг., КЭС, лаг.; Сл. ПЗБ, Ян), 'моцна звязаны вузел' (Нас., навагр., КЭС), 'спавівач' (хойн., Шатал.), 'завязка' (ваўк., Сцяшк. Сл.), бар. *матузнíца* 'лямка' (Сл. ПЗБ), 'плеценыя льняныя ці пачасныя шнуркі, якімі набіраюць малюнак на аснове пры закладанай тэхніцы ткання' (слуц., КЭС), 'невялікі кіёчак з кавалкам палатна ці нацягнутымі вяроўкамі ў ткацкім станку' (бяроз., Шатал.); 'канцы асновы пасля датыкання кроснаў' (Мат. Гом.), драг. *у мотузы* 'тканне ў перабор' (Уладз.). Укр. *мóтуз, мотýззя, мотýзка, мотузóк, мотов'яз*, рус. *мотóуз, мотоýз, мотóус, мотоýс, мотýз, мотáуз*, польск. *motowąz, motwąz*, чэш. *motovouz, motouz*, славац. *motúz*, славен. *motvȏz, motóz*, серб.-харв. *мàтузица, мотуз*. Прасл. лексема *motovǫzъ* складаецца з асноў *mot-* (<*motati*) і *(v)ǫz-*,

-ęz- (<vezati). Сюды ж матузянка 'посцілка з матузоў' (ТС). Гл. Міклашыч, 203; Фасмер, 2, 664; Бонк, JP, 28, 15; Махэк₂, 375; Бязлай, 2, 197.

**Мату́зіць,** *матуза́ць* 'біць гашнікам або вяроўкай' (Бяльк., Нас.). Рус. смал. *мотузить* 'біць, сячы'. Да *мату́з* (гл.). Аднак гэтыя лексемы можна разглядаць як утварэнні з экспрэсіўнымі прэфіксамі *та-, те-, ти-* (гл. Мяркулава, Этимология-74, 74).

**Мату́ля₁** *(ласк.)* 'маці', *мату́лечка, мату́лька* 'мамачка', 'пападдзя' (ТСБМ, Нас., Яруш., ТС, КЭС, лаг.; гродз., горац., КЭС), светлаг. *мату́ліца (лаянк.),* 'маці' (Мат. Гом.), *матуля* 'хрышчоная маці' (Сцяц., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). Рус. смал., маск. *матуля, мату́лечка* 'мамачка', польск. *matula.* Прасл. паўн. *matul'a.* Да *маці* (гл.). Аб суфіксе *-ul'a* гл. Слаўскі, SP, 1, 110—111; Сцяцко, Афікс. наз., 173.

**Мату́ля₂** *(ласк.)* 'дзіцятка' (Нас.). Утворана ад *матаць* (гл.) пры дапамозе суфікса *-ul'a (matul'a* спачатку азначала 'нешта заматанае, спавітае').

**Мату́н** 'манюка, хлусліві чалавек' (Бяльк.; смарг., Сл. ПЗБ). Рус. *моту́н* 'мот; бясчэсны, непастаянны, безалаберны'. Да *матаць* (гл.). Суфікс той жа, што і ў *муцю́н (<муціць* 'хлусіць').

**Мату́ся** *(ласк.)* 'маці' (Грыг., Бяльк.; паўд.-усх., КЭС), 'матушка, жонка папа', 'манахіня', *мату́сечка* 'тс' (Нас.); *мату́ся, мату́ська* 'хрышчоная маці' (Касп., Бяльк.; кругл., Мат. Маг.). Укр. *мату́ся, мату́сенька* 'тс', рус. пск., смал., варон. *мату́ся* 'мамачка', польск. *matusia* 'тс'. Прасл. паўн. *matusьja* (з экспрэсіўнай палатальнасцю). Да *ма́ці* (гл.).

**Ма́тухна** *(паваж.)* 'маці', 'фамільярны зварот да жанчыны' *(паэт.),* 'блізкая, родная' (ТСБМ, Нас.; любан., Нар. словатв.), *мату́люхна* 'мамачка' (Нас.), ст.-бел. *матухна* 'тс' (XV ст.); рус. смал., калуж. *ма́тухна, мату́хна* 'маці, мамачка', польск. *matuchna.* Паўночнаславянскае. Утворана ад *маці (<mat-)* пры дапамозе суфікса *-ux-a* (параўн. рус. паўн. *ма́туха, мату́ха* 'матухна', 'старэйшая ў сям'і жанчына'), пашыранага суфіксам *-ъna.* Суфікс *-exъn-a* сустракаецца ў серб.-харв. асабовых імёнах: *Matehna=Matej.*

**Ма́тушка** 'пападдзя' (ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк.; драг., КЭС). Укр. *ма́тушка* 'тс', 'начальніца манастыра'. З рус. *ма́тушка* 'тс'.

**Мату́шка₁** 'маток нітак' (Касп.; гродз., лудз., брасл., Сл. ПЗБ). Рус. *мотушка* 'тс', 'катушка з ніткамі'. Бел.-рус. ізалекса. Да *мата́ць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 72.

**Мату́шка₂** 'матавідла, прылада, на якую матаюць ніткі' (воран., Шатал., жлоб., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), 'прылада, на якую разматваюць ніткі з маткоў' (навагр., Сцяшк. Сл.), рус. кастр., калін., маск., горкаўск. *мотушка* 'тс', *мату́шачка, мату́шычка* 'нізка (грыбоў)' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Рус. арханг. *матушка* 'звязка абаранкаў дамашняга прыгатавання'. Бел.-рус. ізалекса. Да *мата́ць* (гл.).



**Матч** 'спартыўнае спаборніцтва паміж дзвюма камандамі' (ТСБМ). З рус. *матч,* якое з англ. *match* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80).

**Маты́га** 'мот, круцель' (гарад., Нар. лекс.). Рус. алан. *моты́га* 'ветраны, нясталы чалавек'. Да *мот (<мата́ць).* Аб суфіксе *-ыга* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 182.

**Матыгава́цца** 'прыстройвацца, каб што-небудзь зрабіць' (Бір. Дзярж.). Да *мадыгава́цца* (гл.).

**Маты́ка,** *моты́ка, маты́га, маты́чка* 'ручная прылада (лапатка) для рыхлення глебы, акучвання агародніны' (ТСБМ, Тарн., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Бес., Мат. Гом.); *матыкава́ць, матыгава́ць, мотыкова́ць* 'матычыць' (Сл. ПЗБ, ТС), *маты́чыць, моты́чыты* 'тс' (ТСБМ, Выг. дыс.). Укр. *моти́ка* 'кірка', рус. *моты́ка,* пазней *моты́га,* ст.-рус. *мотыка,* польск. *motyka,* н.-луж. *motyja,* в.-луж., чэш., славац. *motyka,* славен. *motȋka,* серб.-харв. *мо̀тика,* макед., балг. *мотика,* ст.-слав. **мотыка.** Прасл. *motyka* Махэк₂ (375) лічыць вельмі старым, незапазычаным, вылучаючы аснову *mat-,* роднаснымі да якой з'яўляюцца: ст.-інд. *matyám* 'барана, каток', *matī-kṛtas* 'пабаранаваны, пракачаны', лац. *mateola* 'від малатка', ст.-в.-ням. *medela* 'плуг', *stein-mezzo* 'камяняр' (Фасмер, 2, 665; Выгонная, БЛ, 8, 57). Этымолагамі прыводзяцца і ст.-англ. *mattoc,* англ. *mattok,* а таксама блізкія да іх уэл. *matog,* гальск. *matog* 'матыка', якія разглядаюць як запазычаныя з народналац. **mattiūka* 'матыка' (Покарны, ZfSlPh, 5, 393)<і.-е. **mat-* 'капаць, дзяўбці'. Мартынаў (Язык, 72), разглядаючы прасл. лексічную пару *korаčь — motyka* 'матыка', прыходзіць да вываду, што *motyka* з'яўляецца іт. пранікненнем у прасл., якое паступова выцесніла балта-слав. назву матыкі *(korаčь).*

**Матыле́нька** 'мянташка' (жабін., ДАБМ; к. 264); памянш. з *мянці́ла* (гл.), у якой адбылася страта санорнага і ацвярдзенне пачатковага *м-.*

**Матылёк** 'насякомае з дзвюма парамі крылаў' (ТСБМ, Яруш.; калінк., ЛАПП, гродз., Сл. ПЗБ), гродз., пруж., лях., беласт. *маты́лка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *мату́ль, моты́ль, моті́ль* 'тс' (паўд.-гом., ЛАПП), *матыль* 'матылёк', 'лічынка камара як прыманка пры лоўлі рыбы' (ТСБМ, Бес., Дразд., Федар., Шат.; докш., Янк. Мат.), 'блешня на шнуры, якая рухаецца за лодкай і служыць прынадай драпежным рыбам' (Крыв., Браім), *мо́тыль* 'шмат матылькоў' (Нас.), *маты́ль* 'гліст, аскарыда' (докш., Янк. Мат.), *матылі́, мітулі́* 'лічынкі стужачных глістоў, якія выклікаюць захворванне ў авечак і коз'

(в.-дзв., шальч., паст., Сл. ПЗБ; ветк., Мат. Гом.). Укр. *мотúль, метéлик* 'матылёк', 'лічынка камара', рус. *мотыль* 'матылёк', 'гліст', 'моль', польск. *motyl* 'матылёк' н.-луж. *mjatel, mjatelik,* в.-луж. *mjetel,* чэш. *motýl,* славац. *motýl',* славен. *metúlj, metílj* 'тс', серб.-харв. *мѐтиљ* 'гліст фасцыёла', ц.-слав. **мотыль.** Прасл. *motylь, metylь* (Бязлай, 2, 181), *metelь* (Махэк$_2$, 375). Шустар-Шэўц (12, 927—928) адносіць (з надзейнасцю) луж. лексемы да асновы *met-/mot-* (гл. *матáць),* прыводзячы ў пацвярджэнне значэнне 'сняжынка' ў в.-луж. *mjetel,* гэтым самым падкрэсліваючы, што дзеяслоў з асновы *met-/mot-* азначаў такі рух, які перадаецца ст.-грэч. πάλλω 'трэсціся, трапятаць, паднімацца ўверх' і які ўласцівы птушцы перапёлцы (пырхаючы палёт),— таму і названы ў славен. гаворцы *матыль,* гэтаксама — *prepelica* (<i.-е. **pel-*). У бел. гаворках такія рухі перадаюцца словам *матыль!* 'хуткі рух чым-небудзь', 'нечаканы ўдар' (Нас.). Міклашыч (194), Мее (MSL, 14, 333) дапускалі, што прасл. лексема першапачаткова азначала 'гнаявік', і прыводзілі ў пацвярджэнне ст.-рус. *мотыла, мотыло* 'гной', ц.-слав. *мотыло* 'кал'. Брандт (РФВ, 22, 156) выводзіў *мотыль* са значэння 'кідацца туды-сюды'. Кіпарскі (ВЯ, 1966. 5, 135) узводзіць да *мотать* 'матаць'. Прыймальным можа быць меркаванне Махэка$_2$ аб сваяцтве прасл. *metelь* з літ. *peteliškė* і лат. *peteligs,* калі прызнаць мену губных *p/m.* Трэба адзначыць яшчэ, што ў слав. гаворках існуе вялікая колькасць і варыянтнасць назваў матылькоў, таму што цяпер яны ўжо не з'яўляюцца семантычна празрыстымі для гаворачых, і што часткова гэтыя назвы — табу: ёсць вераванні, быццам матылькі, асабліва начныя, увасабляюць розных злых духаў, ведзьм, нячысцікаў.

**Матылі** 'смажаная бульба' (Вешт). Не зусім ясна. Магчыма, паводле падабенства па колеру: жаўтавата-карычневыя падгарэлыя скрыгалікі бульбы падобныя да крылаў матылька.

**Матылік,** *матылíца* 'патыліца' (Нас.). Паводле Мяркулавай (Этимология-74, 74), тут можна бачыць экспрэсіўны прэфікс *ма-* пры *затылак, патыліца.* Такі ж прэфікс і ў *мотлах, моташна* (гл.).

**Матылічыць** 'кружыцца' (Ян.). Адназоўнікавы дзеяслоў. Да *матыль>матылёк* (гл.).

**Маты́ліца**$_1$, *матылíца* 'від начных матылькоў' (ТСБМ, Шат.). Да *матылёк* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 157—158. Сюды ж *мотыліца* 'рухавы, непаседлівы чалавек' (Мат. Гом.), 'ветрагон, непастаянны чалавек' (ТС).

**Матыліца**$_2$, *моты́ліца, матылíцы* 'фасцыялёз у жывёл, выкліканы лічынкамі стужачных глістоў' (ТСБМ, Янк., БП і БФ, Шат., Сл. ПЗБ, ТС; лун., Шатал.; слуц., Нар. словатв.). Польск. *motylica,* н.-луж. *mjatelica,* чэш. *motolice,* славац. *motolica,* славен. *metíljavica,* серб.-харв. *мѐтиљ* 'тс'. Народная этымалогія асацыіруе з *матаць* (гл.), таму што пры гэтай хваробе жывёла матае галавой.



**Маты́ліца**$_3$, *матылíца, мотыліца* 'хвароба (пчол), васковая моль' (Анох.; б.-каш., Мат. Гом.). Да *матылёк* (гл.). Ад назвы *маты́ліцы* — 'матылька, які аблытвае павуцінай пчаліныя соты і губіць пчол'.

**Маты́лькі** 'кветкі валошкі, Centaurea cyanus L.' (карэліц., Сцяшк. Сл.). З польск. *motyl* 'сіняк' і паводле падабенства колераў назва перанеслася на васілёк. Аднак рус. маск. *мотылёк* 'валошка' і дан. 'стэпавы бяссмертнік'.

**Матылькі**$_1$ 'зацірка' (ельск., Мат. Гом.). Відавочна, гэта слова адносіцца да рэдкай зацірκі, у якой галушкі цяжка злавіць у лыжку, як матылька. Да *матылёк* (гл.).

***Матылькі**$_2$, *мотылькí* 'від узору ткання' (петрык., Уладз.). Вузкі рэгіяналізм. Да *матылёк* (гл.). Узор названы паводле «лёгкасці лёту яго кветак, нібы ў матылька».

**Матыля́цца** 'матляцца', 'танцаваць (толькі ў адзін бок)' (клец., Жыв. сл.), *матыляць* 'біць, узмахваючы' (Нас.), 'махаць' (шчуч., Сцяшк. Сл.). Да *матляць<матáць* (гл.).

**Маты́на** 'сцёблы і лісце агуркоў' (кам., ДАБМ, к. 279). З *натына,* якое з *націна* (гл.).

**Матынáчка,** *мацінéтка* 'жаночая кофта з фальбонамі' (астрав., глыб., Сл. ПЗБ). З польск. *matinetka<matinka* 'раніцовая кофта', якое з франц. *matin* 'ранак'.

**Маты́рка** 'шнурок з драўлянай палачкай на адным канцы і драцяным стрыжнем на другім для нанізвання рыбы' (міёр., Нар. сл.). Няясна. Магчыма, роднаснае да рус. паўн. *мотырь, мотырь* 'палка ў рыбалоўнай сеці', 'кол, пахіла ўбіты ў зямлю над агнём (замест сошак), на якім вешаюць чайнік' і да кіраў. *мотылка* 'прыстасаванне для намоткі нітак'.

**Маты́ў** 'рытмічная адзінка мелодыі', 'падстава для дзеяння', 'тэма ў творах мастацтва' (ТСБМ). З польск. *motyw* 'тс', якое з с.-вяк.-лац. *motivum* 'рухомае'<лац. *motus* 'рух'.

**Матэмáтыка** 'навука аб колькасных суадносінах і прасторавых формах навакольнага свету' (ТСБМ), ст.-бел. *математикъ, математыкъ* (XVI ст.). Са ст.-польск. *matematyka, (matematyk),* якое з с.-лац. *matematika (ars)*<ст.-грэч. μαθηματική (τέχνη) 'мастацтва пазнання навукі'<μάθημα 'веды, навука, пазнанне'<μανθάνω 'вучу, вывучаю' (Голуб-Ліер, 305). Крукоўскі (Уплыў, 89) памылкова выводзіць бел. лексему з рускай.

**Мáтэнька** 'мамачка, цётухна' (Нас.). З польск. *mateńka* 'матка' *(ласк.).*

**Мáтэр** 'матка боска' (Нас.). З лац. *māter* 'маці'.

**Матэрська** 'гной (са скулы)' (паст., Сл. ПЗБ). З $^+$*матэры(й)ско,* якое ўтворана пры дапамозе аўгментатыўнага суфікса *-іск-о* ад *матэрыя* (гл.)<польск. *materia* 'гной'.

**Матэры́зна** 'брыдкія словы, мат'(Нас.). Утворана па існаваўшаму тыпу *мацяры́зна* 'спадчына па мацеры' ад слова *мат* (гл.). Сюды ж *матэркі* 'брыдкі' (Нас.).

**Матэрыя** 'аб'ектыўная рэальнасць, якая існуе незалежна ад свядомасці чалавека', 'рэчыва, з якога складаюцца фізічныя целы прыроды', 'тканіна, матэрыял', 'шаўковая тканіна' (ТСБМ, Нас.), 'кроў', 'гной з раны, сукравіца' (Нас.; смарг. Шатал.; шальч., Сл. ПЗБ), *матэравы* 'тканінавы' (Нас.), ст.-бел. *материя (матерея, матерыя, матэрыя)* 'матэрыя' (XVI ст.). Запазычаны са ст.-польск. *materyja* 'тс' (Краўчук, Праблемы філал., 60; Булыка, Лекс. запазыч., 191), якое з с.-лац. *māteria* 'рэчыва', першаснае значэнне 'будаўнічае дрэва, якое лічылася «маткай» (=асновай) усяго (Жураўскі, Зб. Крапіве, 142; Голуб-Ліер, 306).

**Матэрыя́л,** *матэр'я́л, мацер'я́л* 'матэрыял, матэрыя' (смарг., брасл., Сл. ПЗБ; Яруш., ТСБМ), *матарыя́л* 'цяслярскі будаўнічы матэрыял' (Шат.); ст.-бел. *материальный (материялный, матерыялный),* 'матэрыяльны' (пач. XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *materyjalny,* якое з с.-лац. *materialis*<лац. *māteriālis*<*māteria*>матэрыя (гл.) (Булыка, Лекс. запазыч., 195). Форма *мацер'я́л* з рус. мовы, як і *матэрыялізм* (Крукоўскі, Уплыў, 81).

**Матэўка** 'баязлівец' (маст., Сцяшк. Сл.). Паланізм. Параўн. польск. *matewka* 'дубец, дубчык, галінка'.

**Маўду́к** 'маўклівы чалавек' (в.-дзв., паст., Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *maudulỹs* 'сум', 'злосць, прыкрасць', 'пачуццё незадаволенасці', *maudùs* 'рэўматызм', *maudúoti* 'сумаваць па кім-небудзь'.

**Маўзале́й** 'надмагільны помнік, збудаванне' (ТСБМ). З рус. мовы, у якую слова прыйшло з ням. *Mausoleum* ці з франц. *mausolée*<лац. *mausōlēum*<ст.-грэч. *Μαυσωλειον* 'грабніца Маўсола — цара Карыі' (IV ст. да н. э.) (Фасмер, 2, 554).

**Ма́ўка** 'русалка' (драг., КЭС). Укр. *ма́вка, ма́лка, мя́вка,* гуц. *ня́вка.* Прасл. *navъk-a*<*navь:* ст.-рус. *навь,* ст.-слав. **навь** 'нябожчык, труп', балг. *навянъ,* макед. *нави* 'нячысцікі' (Дзендзялеўскі, SSl Hung., 12, 1976, 287—288).

**Маўклі́вы,** *моўклі́вы* 'негаваркі, неахвочы да гутаркі', 'нямы', 'зразумелы без слоў' (ТСБМ, Касп., КЭС, лаг., іг н., воран., Сл. ПЗБ). Да *маўча́ць* (гл.). Прасл. форма прыметніка *mьlk-(ъ)livъ* або *mьlkl-ivъ* (калі б ён быў утвораны на базе іменнай асновы на *-l-).* Яго па форме можна супаставіць з серб.-харв. *му̀кљив* 'мокры, вільготны, сыры (напрыклад,



аб дрэве, мокрым у сярэдзіне)', чэш. *mlklý, mlkvý,* славац. *mľkvy* 'сыры, недаспелы' (падрабязна аб іх гл. Петлева, Этимология-77, 35—38).

**Маўкліс** 'маўклівы чалавек' (гродз., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 46), слова паходзіць з літ. *mauklỹs* 'непрыгожы, нязграбны'. Фактычна, аднак, тут мы маем толькі запазычаны канчатак *-с (-іс).*

***Маўкна,** ст.-бел. *мавкна, мовкна, мокна* 'лыка, луб' (XVI ст.). З літ. *máukna* 'тоўстая кара, дрэва, луб' (Лаўчутэ, Liet. term., 146).

**Маўлянё** 'грудное дзіця' (КТС, І. Чыгрынаў). У выніку перастаноўкі складоў з *немаўлё* 'немаўля'.

**Маўля́ў** 'нібыта' (ТСБМ, Гарэц., Некр., Растарг.; паўд.-усх., мін., КЭС), *маўляў, моў* 'скажам', 'як быццам' (ТС). Укр. *мовля́в* 'маўляў', 'так сказаць'. Бел.-укр. інавацыя (Дзендзялеўскі, Бел.-укр. ізалексы, 24). Форма прошлага часу ад дзеяслова шматразовага дзеяння $^+$*маўляць,* 'расказваць, гаварыць шмат разоў' (Нас.). Да *мова* (гл.)

**Маўмы́га** 'маўклівы чалавек' (маст., Сцяшк. Сл.). Балтызм, афармлены слав. суфіксам *-yga* (Слаўскі, SP, 1, 68—69). Утвораны ад літ. *maũmas* 'маўклівец, маўчун'.

**Маўму́ра** 'надта маўклівы, негаваркі' (бялын., Янк. Мат., жлоб., Жыв. сл.; бых., Мат. Маг.; маст., Сцяшк. Сл.), 'насуплены, надзьмуты' (кір., Нар. сл.), 'нясмелы, сарамлівы' (Бяльк.), *моўму́ра* 'панурая асоба' (ТС). Стары балтызм. Параўн. літ. *maũmas* 'маўклівы, маўчун'. Прасл. суфіксы *-ura, -ura* ўтвараюць экспрэсіўныя назоўнікі (Слаўскі, SP, 1, 27, 28).

**Маўна́** 'балбатун' (Liet. *term.,* 182). Да *мална́* (гл.).

**Ма́ўнуць** 'упасці, паваліцца', 'ступіць нагой у што-н.' (іг н., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене і інш. (LKK, 16, 183), слова паходзіць з літ. *máuti* 'ляцець','упасці, паваліцца'. Лаўчутэ (Балтызмы, 145) дадае значэнні літ. слова 'валіць, перакідвацца', таму што 'паваліцца' ў слоўніках літоўскай мовы не пададзена.

**Ма́ўпа** 'малпа' (паўд.-усх., КЭС). Да *ма́лпа* (гл.). Параўн. таксама Дзендзялеўскі (Укр.-зах.-слав., 89 і 170).

**Маўр,** ст.-бел. *мавръ, маурѣ* 'негр' (XVII ст.). Запазычаны са ст.-польск. *maur,* якое з с.-лац. *maurus*<лац. *Mauri* 'насельніцтва Паўн.-зах. Афрыкі'. З VIII ст. гэту тэрыторыю захапілі арабы, і ў сярэдневякоўі маўрамі называлі арабаў і арабізаваных жыхароў Паўн. Афрыкі.

**Ма́ўра,** *маўра́* 'раска, Lemna L.' (Весці, 1969, 4; 1972, 1; паст., смарг., Сл. ПЗБ), 'разнавіднасць урэчніку, Potamogeton L.' (астрав., шальч.), шальч. 'вадзяная зараза, Elodea canadensis Rich.'(Сл. ПЗБ). Балтызм. Параўн. літ. *máuras,*

*taurai* 'раска, вадзяная расліна', лат. *taura, taurs* 'дзірван, трава (і мох) на страсе' (Лаўчутэ, Балтызмы, 120; Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 3, 46).

**Маўчаць**, *мыйчаць, моўчетэ* 'нічога не гаварыць, не падаваць голасу, весткі; захоўваць у таямніцы, не выказваць адкрыта сваіх думак' (ТСБМ, Грыг., Нас., Шат., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС; драг., КЭС), *маўчанка* 'маўчанне' (ТСБМ, Грыг., Нар. Гом.; паст., Сл. ПЗБ), 'паслухмянасць' (Нас.); *маўчак, маўчок* 'маўчанне, ні слова, ні гу-гу', 'маўклівы чалавек' (ТСБМ, Нас., Растарг.), *маўчком, моўчкам, маўчаком, моўчыкам, маўчака, моўчака, моўчакі, моўкам, маўком* 'ціха, патаемна, моўчкі, нічога не кажучы' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.), *моўчыкі маўчаць* 'быць маўклівым' (Ян.), *маўчлівы, моўчліву* 'маўклівы' (Сл. ПЗБ, Яруш., ТС). Укр. *мовчáти*, рус. *молчáть, молкáть, мóлкнуть*, ст.-рус. *мълчати*, польск. *milczeć*, н.-луж. *mjelcaś*, в.-луж. *mjelčeć*, чэш. *mlčeti*, славац. *mlčat'*, славен. *mółčati*, серб.-харв. *мýчати*, макед. *молчи*, балг. *мълча*, ст.-слав. **мльчати.** Прасл. *mъlčěti* (Бязлай, 2, 192), *mьlčati* (Трубачоў, Проблемы и.-е. языкозн., М., 1964, 101), Скок (2, 474) адносіць да асновы *mьlk-*, Махэк₂ (368) — да *mļk-*. Дакладныя роднасныя і.-е. адпаведнікі не выяўлены. Траўтман (184), Персан (ВВ, 19, 262), Трубачоў (там жа) збліжаюць слав. лексемы са ст.-в.-ням. *molawên* 'раставаць', ірл. *malcaim* 'гнію', ст.-грэч. μαλακός 'мяккі', літ. *smulkùs* 'дробны' *smilkti* 'адміраць'. Леві (IF, 32, 164), Гофман (189), Буазак (605) збліжаюць з літ. *mùlkis* 'дурны' ст.-інд. *mūrkhás* 'дурнаваты', ст.-грэч. μαλκή 'дубенне ад холаду', лац. *mulcēre* 'гладзіць', 'утаймоўваць', 'цешыць'. Трубачоў (там жа, 100, 105), разглядаючы тэрміны 'маўчаць' у і.-е. мовах, устанавіў семантычны пераход 'раставаць'—'маўчаць' і паказаў генезіс і этымалагічную роднаснасць: ст.-в.-ням. *molawên* 'раставаць' — слав. *mьlčati*; слав. *tajati/taviti* 'раставаць, плавіцца' — лац. *tacēre* 'маўчаць', літ. *tiřpti* 'раставаць' — слав. *tьrpěti* 'цярпець', слав. *tьlěti* 'тлець' — літ. *tylěti* 'маўчаць'.

**Маўчýла** 'маўклівы чалавек' (рагач., Мат. Гом.). Да *маўчáць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42.

**Маўчýн** 'маўклівы, негаваркі чалавек' (ТСБМ, Мат. Гом., беласт., Сл. ПЗБ), *моўчýн* (ТС). Укр. *мовчýн* 'тс'. Да *маўчáць* (гл.). Аб суфіксе *-unъ* гл. Слаўскі, SP, 1, 134.

**Мах₁** 'адзін хуткі рух чым-небудзь у паветры', 'промах', 'вялікі кавалак, прастора (поля)' (ТСБМ, Нас., Грыг., Шат., Бяльк.), мсцісл. *мах! махінь! махунь!* 'пра лёгкае шпурлянне' (Нар. лекс.), *мах, махць!* — для імгненнага руху (Сл. ПЗБ), *на махі* 'ўзмахамі', 'жэстамі (аб мове глуханямых)' 'умомант', (ТС). Утворана ад дзеяслова *махáць* (гл.).



**Мах₂**, *махí, махéц* 'вельмі вялікі, высокі чалавек', *махонец* 'велікан', *мáхоць, мáхінь* 'велічэзнасць' (ТС). У выніку развіцця семантыкі лексемы *мах₁* 'мах'>'вялікі мах'. Параўн. і дзеяслоў *вы́махаць* 'вырасці вялікім'.

**Мáха** 'крыло ветрака' (Некр., Нар. Гом., чачэр., Мат. Гом.), 'крыло птушкі' (светлаг., Мат. Гом.). Утворана пры дапамозе суф. *-а* ад *махаць*. Аб утварэнні аднакарэнных назоўнікаў м. р. (на *-ъ/-ь*) і ж. р. (на *-а*) гл. Ільінскі, AfSlPh, 29, 162. Параўн. балг. *махово перо* 'вялікае пер'е ў крыле птушкі'.

**Махавáць**, *машыць* 'абтыкаць (хату, хлеў) мохам' (гродз., Сцяшк. Сл.). Да *мох, мшыць* (гл.).

**Махавік₁** (слаўг.), *махавíца* 'месца (у лесе), якое парасло мохам' (Яшк.; чэрв., Нар. лекс.; віл., Сл. ПЗБ). Утворана ад *махавы́*. Да *мох* (гл.).

**Махавік₂**, *моховíк, махóвік, муховы́к, моховы́й грыб* 'махавік (жоўта-буры, зялёны), імшарнік: Suillus variegatus Sw., Xerocomus subtomentosus L., Boletus chrysenteron Bull.' (ТСБМ, Дэмб. 1, Грыг., Сержп. Грам., Шат., Бяльк., Касп., Жыв. сл., Сл. ПЗБ, ТС, Нар. словатв.), кобр. *моховы́к* 'баравік, Suillus variegatus'. У выніку намінацыі са словазлучэння з прыметнікам *махавы́*. Да *мох* (гл.). Матывацыя: дадзеныя грыбы растуць на амшарах. Параўн. таксама *амховік* 'махавік' (Сержп. Грам.). Аналагічна *моховікí* 'людзі, што жывуць сярод балот' (ТС).

**Махавік₃** 'ніжняя частка ганчарнага круга' (Інстр. II), 'кола вялікага дыяметра з масіўным вобадам, якое забяспечвае раўнамерны рух механізма' (ТСБМ). Укр. рус. *маховик*. Усходнеславянскае. Балг. *маховик* з рус. мовы. Утворана ад прыметніка *мáхавы (мáховый)*.

**Махáйло** 'трэці ход гульні ў скокі, які заключаецца ў пераскокванні з квадрата ў квадрат, махаючы перад сабой нагою' (ТС). Да *махáць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 94. Суфікс *-йло*, магчыма, з'яўляецца сярэднім звяном у пераходзе прасл. *-dlo/-lo* (?). Аналагічныя палескія ўтварэнні: *трымпáйло* 'кавалак палена, дручка на шыі ў авечкі, які перашкаджае ёй далёка адбягаць ад стада', прозвішча *Кíчкайла*.

**Мáхала**, *мáхыла, махáло* 'тое, чым махаюць', 'дубчык для адгону жывёлы' (ТСБМ, Нас., Шат., ТС; драг., КЭС; полац., Нар. лекс.). Прасл. *maxadlo*. Да *махáць* (гл.).

**Махалéй** 'хлус' (Юрч.), паўд.-усх. *махлей* 'гультай' (КЭС). Рус. смал., пск. *махлюй* 'хлус, гультай'. Да *махлявáць* (гл.). Аб суфіксе *-ей* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 36.

**Махалéя** 'доўгі, нецікавы расказ' (Бяльк.), 'хлусня', 'хлус' (Юрч.). Да *махлявáць* (гл.). Аб суфіксе *-ея* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 36—37. Гл. таксама і *махалéй*.

**Маха́льнік** 'чалавек, які падае сігналы' (ТСБМ). Рус. *маха́ло* 'тс'. Да *маха́ць*.

**Маха́льны** 'тс', паводле Крукоўскага (Уплыў, 118) — з рус. мовы.

**Ма́хам,** *ма́хым* 'па-ашуканцку' (Нас., Бяльк., Растарг.). Да *махаць,* у якога І. Насовіч фіксуе значэнне 'хлусіць'.

**Махаме́ла,** *мохаме́ла* 'павольны, непаваротлівы чалавек' (ТС). З укр. *хаму́ла* 'тс' з прэфармантам *ма-*. Параўн. укр. *махаму́ла* 'цяльпук, мяла' (Нікан.).

**Махамэ́т,** *мъхамэ́т, мъхамэ́ціна* 'прайдзісвет' (міёр., З нар. сл.). Параўн. рус. дан. *махоме́т* 'бандыт', *магоме́т* — лаянка (у А. П. Чэхава). Паводле Фасмера (2, 556), у рус. мову прыйшло з Захаду. Узыходзіць да араб. *Muḥammad* 'Магамет'.

**Маханоша** 'чалавек, які ў час палявання носіць торбу' (хойн., Шатал.). Пачатковае *мах-* да *мех* (гл.).

**Ма́ханькі,** *ма́ханькій, ма́хенькі, ма́хонькі, махо́сенькі, махо́хоханькі, маху́сенькі, махоткі, маху́ткі, маху́тэнькі* 'дробны, маленькі' (Бяльк., Нас., Растарг., добр., Мат. Гом.). Прымыкаюць да рускамоўнага арэалу. Утвораны ад *малы,* рус. *малый* па аналогіі да *легохонький, тихохонький* (Фасмер, 2, 585) з выпадзеннем склада *-ле-(-лё-),* параўн. ст.-рус. *малехонький* 'тс'.

**Ма́хар,** *ма́хер, ма́хір, ма́хер* у выразе *шахер-махер* 'хлус, ашуканец' (Шат., Касп., Нас.) запазычана з ідыш *macher,* якое з новав.-ням. *Macher* 'камбінатар, дзялец' (Вінэр, ЖСт, 1895, 1, 64; Карскі, О языке, 173). Сюды ж *ма́хірыць* 'хлусіць, маніць' (Нас.).

**Маха́ць,** *мыха́ць, маха́ты, маха́тэ* 'рабіць узмахі, рухі ў паветры', 'хутка ісці', 'хутка рабіць', 'матаць нагамі' (ТСБМ, Федар. 6, Нас., Бяльк., ТС, Анох., драгічынскае, КЭС; Сл. ПЗБ), 'хлусіць' (Нас.), *махацца* 'снoўдацца, матляцца, церціся, мазоліць вочы, жыць сабе патроху' (Нас., ТС). Укр. *маха́ти,* рус. *махать,* польск. *machać,* н.-луж. *machaś,* в.-луж. *machać,* чэш. *máchati,* славац. *máchat'*, славен. *máhati,* серб.-харв. *ма̀хати,* макед. *мава,* балг. *махам,* ц.-слав. **махати.** Прасл. *maxati,* утворанае ў выніку пашырэння суфіксам *-x-* асновы *majati,* роднаснай з літ. *móti* 'махаць, ківаць' (як *jexati* з літ. *jóti* 'ехаць на кані'). Да і.-е. **ma-* 'рухаць' (Міклашыч, 180; Бернекер, 2, 4; Бязлай, 2, 161). Іншыя версіі гл. Фасмер, 2, 584 і БЕР, 3, 692—693.

**Махвіцы,** *браткі-махвіцы* 'фіялка, браткі, Viola tricolor L.' (маг., Кіс.). Не зусім ясна. Відавочна, з прыметніка *+махавіты,* параўн. ст.-рус. *моховатый* 'пакрыты варсінкамі, пушысты'. Менавіта такімі варсінкамі пакрыты лісты браткоў.

**Ма́хер**$_1$, *ма́хяр* 'майстар, спец' (Бяльк., Сцяц.) паходзяць з ідыш *macher*<новав.-ням. *Macher* 'вытворца; завадатар'.



Кюнэ (74) выводзіць бел. лексему з польск. *macher* 'чалавек, які ўмее рабіць усё'.

**Ма́хер**$_2$ (арго) 'нож' (Рам. 9). З с.-грэч. μάχαιρα, якое са ст.-грэч. μάχαιρα 'нож, кінжал'.

**Махе́р** 'воўна ангорскай казы' (ТС). Праз рус. мову *(мохер* 'тс') з англ. *mohair* 'тс', 'лёгкая тканіна з такой воўны'. Параўн. франц. *mohair, moire,* ням. *Machaier*. З араб. *muḥajjar* 'тканіна з казінай шэрсці' (Махэк$_2$, 372).

**Ма́хіна** 'машына', 'вялікая прастора', 'вялізны, велікан' (Нас.), *махі́на* 'што-небудзь вялікае, груваcтжае', 'высокі чалавек, вярзіла' (Мядзв., ТСБМ, Мат. Гом.; чавус., Нар. сл.), *махі́ня* 'высокая жанчына' (гродз., Сцяшк. Сл.), *ма́хінны, махі́нны, ма́хіны, махіне́зны, махіле́зны* 'вельмі вялікі, высокі' (Нас., Мат. Гом.; нараўл., Арх. ГУ; ТС), *ма́хінь* 'дрэва, паваленае бурай' (Нікан.). Ст.-бел. *махина* 'вялікае збудаванне' (1598 г.). Запазычана са ст.-польск. *machina* 'ваенныя дзеянні', 'будынак, канструкцыя', якое з лац. *machina* 'будынак; механізм', 'асадныя прыстасаванні' ст.-грэч. μηχανή, дар. μαχανά 'тс', 'выдумкі, хітрыкі' (Булыка, Лекс. запазыч., 99; Кюнэ, 74).

**Махіна́цыя** 'махлярства' (ТСБМ). Узыходзіць да лац. *māchinātio* 'хітрыкі', 'машына, прыстасаванне'. Прыйшло праз польск. ці рус. мову.

**Махіндра́ла** '?' (слуц., Карскі, Труды, 383), драг. *махандра́лэ* 'вучні вучылішча механізацыі, якія адрозніваліся ад мясцовых хлопцаў знешняй неахайнасцю, не падагнанай паводле росту вопраткай і да т. п.' Славен. *mahedráti* 'хістацца, няўклюдна хадзіць, матаць галавой', адпаведна *mahadrálo, mahedrálo* 'расхлябаны, абвіслы, які хістаецца, калываецца'. Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *маха́ць* (Бязлай, 2, 161) і суфікса *-dralo*. Інакш *махні-драла* 'даць драла, даць трапака, лататы' (Шат., Федар. 4). Да *махну́ць* і *дра́ла* (гл.).

***Махла́,** *мыхла́* 'ветраны чалавек' (Юрч. 2). Да *маха́ць* (гл.). Аб суфіксе *-ла* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 48—49.

**Махла́к**$_1$ 'тазасцегнавы сустаў' (даўг., Сл. ПЗБ). З *масла́к*<*масол, маслы́* (гл.). Незвычайнасць пераходу *с*>*х*.

**Махла́к**$_2$ 'стары грыб' (докш., Янк. Мат.). З *масля́к* (гл.) пры ад'ідэацыі *вахла́к* 'неахайны чалавек'.

**Махла́к**$_3$ 'ашуканец' (брасл., Сл. ПЗБ). З рус. *маклак* 'перакупшчык, маклер, хлус', якое з новав.-ням. ці н.-ням. *Makler* 'маклер' або з гал. *makelaar* 'спекулянт' (Бернекер, 2, 9; Фасмер, 2, 561).

**Махлю́й** 'дурнаваты' (міёр., З нар. сл.), 'цюхця, павольны, няцямкі, тупы, неразумны' (полац., А. Баханькоў). Відавочна, ад *махла* (гл.), якое ад *махаць* 'хлусіць са зменай семантыкі: 'хлус'>'ненармальны'>'дурны'. Гл. таксама *махале́й.*

**Ма́хля** 'прайдоха, махлярка' (мсціcл., З нар. сл.), 'лахудра' (полац., А. Баханькоў). Роднаснае да *махалёй* і да *махаць* (гл.).

**Махлява́ць,** *махлева́ць* 'ашукваць, жульнічаць' (Нас., Шат., Касп., Бір., Дзярж., Сцяшк., Сцяц., Федар. 2, Сл. ПЗБ), 'круціць, маніць, хітрыць' (КЭС, лаг.), рагач. *мухлева́ць,* тураў. *мухлёва́ць* 'тс' (КЭС, ТС), *мыхлюва́цца* 'карыстацца воляй і добрымі ўмовамі' (Бяльк.). Ст.-бел. *(вы)махлевати* (XVII ст.) 'змахляваць' запазычана са ст.-польск. *machlować* 'махляваць, падманваць', якое з н.-ням. *makeln, mäkeln,* гал. *makelen*< *maken*=*machen* 'рабіць' (Брукнер, 317). Фасмер (3, 19) рус. *махлевать, мухлевать, мухловать, мухлять* 'падманваць' выводзіць, аднак, з ням. (арго) *moheln* 'пазначаць карты' (адкуль новав.-ням. *mogeln* 'хітрыць, надуваць'), якое са ст.-яўр. *mâhal* 'разбаўляць віно'. Сюды ж *махлёўка* 'ашуканка' (Нас.).

**Махля́к** 'намоклыя дровы' (воран., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 15), з літ. *taklẽkas* 'вымаклае палена'. Аб пераходзе *к*>*х* гл. Карскі, 1, 373.

**Махляпісты** *(груб.)* 'павольны, неруxавы' (слонім., Сцяшк. Сл.). Да *хліпаслівы* 'слабавольны, бяздзейны', *хлюпава́ты* 'няўдалы, слабасільны' (гл.) з прэфармантам *ма-*.

**Махля́р,** *махля́р, мъхля́р* 'жулік, круцель, ашуканец' (ТСБМ, Нас., Бір. Дзярж., Чач., Сцяшк., Сл. ПЗБ; міёр., З нар. сл.; КЭС, лаг.), ст.-бел. *махляръ* 'тс' (XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *machlarz* 'тс', якое з с.-н.-ням. *mecheler,* гал. *makelaar,* суч. ням. *Makler* 'маклер', *Mäkler* 'пераборлівы, наравісты' (Булыка, Лекс. запазыч., 126; Кюнэ, 75; Васэрцыер, 145).

**Махнаве́шка** 'галавешка' (Жд. 1). У выніку кантамінацыі лексем *махнатка* і *галавешка* (гл.).

**Махна́тка,** *махнётка, махнытка, махныка* 'галавешка' (стаўб., Жыв., сл.; хоцім., Янк. 2; Сцяшк. Сл., Мат. Маг.; Мікуц.; паўд.-усх., КЭС), 'маленькая галавешка' (Бяльк., Растарг., Мат. Гом.), 'худы, хілы чалавек' (Юрч., Нас.), *махні́ткіня* 'вялікая галавешка' (слаўг., Нар. словатв.), смал. *мохны́тка* 'галавешка ў печы', *махні́тка* 'тс'. Да *махна́ты* (гл.). Аб суфіксе *-(ат)ка* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 149. Матывацыя: абгарэлае палена — галавешка — выглядае махнатым дзякуючы попелу ў выглядзе лісточкаў.

**Махна́ты** 'аброслы густой поўсцю, валасамі', '(тканіна) з густым ворсам', 'дрэва з густой ігліцай', 'пышны куст', 'штонебудзь, пакрытае плесняй' (Грыг., Яруш; ТСБМ; Карскі, Труды; іўеў., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.). Ст.-рус. *мохнаты(й)* 'тс'. Да *мох* (гл.).

**Махна́шка,** *махну́ша, махнушка* 'галавешка' (Жд. 1; навагр., карэліц., З нар. сл.), смал. *мохнышка.* Да *махна́ты* (гл.). Параўн. аналагічна ўтвораныя рус. арх. *мохнушка, мохнуша* 'касмыль, пасма, жмут', 'рукавіца з касматай скуры', пск. 'кудлаты сабака'.

**Махня́нка** 'берасцянка, Fringilla coelebs' (Інстр. II, БелСЭ, 2). Да *мох* (гл.). Відавочна, утворанае ў выніку кантамінацыі лексем *махняны* (ці *махавы*) і *берасцянка.*

**Маховы,** *мохавы* 'зялёны' (іўеў., Сцяшк. Сл., Інстр. II). Да *мох* (гл.).

**Махол** 'бяздумная, ветраная асоба' (Юрч., Суч. нар. сл.). Відаць, скарочаная форма ад *малахол.*

**Махонік** 'махавік' (Інстр. II). Утворана ад рэдкага прыметніка $^{+}$*махоны* 'махавы'. Параўн. серб.-харв. *mahònit* 'мохавы'.

**Махоня** *(груб.)* 'маўклівы чалавек' (маст., Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, пад уплывам *ціхоня* ад $^{+}$*махонны,* параўн. рус. пск. *махоня* 'хмурны чалавек'.

**Махор** 'канец мяшка ля завязкі', 'матузкі, засуканыя на рушніку' (КЭС, лаг.), 'доўгая палоска, адарваная ад тканіны' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *махры́* (гл.).

**Махорка** 'тытунь вышэйшага гатунку, прыгатаваны з лісцяў і сцябла расліны Nicotiana rustica L. (віц., Кіс., Шат., ТСБМ). З рус. *махорка* 'танны гатунак тытуню', якое (паводле Даля, 2, 807) з **амерфортский*<(назва горада ў Нідэрландах) *Amersfoort.* Дзяржавін (Зб. Шышмарову, 168) прапануе ўякасці крыніцы ісп. *majorca (mazorka)* 'колас маісу' (з індзейскай мовы вострава Гаіці) (Трубачоў, гл. Фасмер, 2, 585).

**Махотка** 'маленькі гаршчочак', 'макацёр', 'збанок', (Бяльк., Мат. Гом., Растарг., Мат. Маг., Ян.; маст., Сцяшк. Сл.; усх.-маг., КЭС), укр. *ма́хітка;* паўд.-рус. *махотка* 'маленькі гаршчок'. Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *маханькі, махоткі*<*малы́* (гл.). Гэтаксама Трубачоў (Ремесл. терм., 260).

**Махоўка** 'невялікае балотца, у якім расце белы мох сфагнум' (слаўг., Яшк.). Да *мох, махавы, мохавы* (гл.).

**Махра́** 'махорка' (ТСБМ, Бяльк.). Утворана ад *махорка* (гл.) пры ад'ідэацыі *махры, махровы,* менавіта, значэння 'ярка выражаны'.

**Махра́тка** 'дробная, але ўрадлівая бульба (гатунак)' (Жд. 1). Утворана ад *махра́ты* 'з вялікай колькасцю тонкіх карэньчыкаў, на якіх шмат дробнай бульбы' (смарг., Сл. ПЗБ), 'аздоблены махрамі' (іўеў., Сцяшк. Сл.). Да *махры́* (гл.). Параўн. таксама *махрачы.*

**Махра́ч** 'трапкач, саматканы ручнік з махрамі', 'кавалак палатна з канчамі асновы', 'ручнік, у якім носяць абед на поле' (Юрч., Бяльк., Растарг., паўн.-зах., Сл. ПЗБ; астрав., Сцяшк. Сл.; КЭС, лаг.). Да *махры́* (гл.).

**Махрачы́,** *махрашы́* 'карэнні цыбулі, часнаку і інш. агародніны' (капыл., Нар. словатв.; Жд. 1). Да *махры́* (гл.).

**Махра́чык** 'расліна' (Бяльк.), *махрэ* 'гваздзіка-травянка, Dianthus deltoides L.' (мін., Кіс.; Шат.). Да *махры́* (гл.). Параўн. таксама *махровы* 'з вялікай колькасцю пялёсткаў' (ТС).

**Махру́тка** 'замухрышка' (Касп.) складае з рус. моўнай тэрыторыяй адзіны арэал: *махришко* 'лахманы', *махрютка* 'маўклівы чалавек'. Да *махры́* (гл.). Параўн. таксама *замухры́шка* (гл.).

**Махры́,** *махор, мохрыкі, махорчыкі* 'свабодна звісаючыя ніткі, шнуркі па краях тканіны, адзення', 'шматкі, абвіслыя касмылі' (ТСБМ, Яруш., Бяльк., Ян., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), 'тонкія карэньчыкі ў раслінах' (рас., петрык., Шатал., Мат. Гом.; Ян., Сл. ПЗБ), беласт. 'расткі, парасткі' (Сл. ПЗБ), 'пялёсткі ў махрастых кветках' (ТСБМ), *махры́, махроцце* 'лісце агародніны' (Мат. Гом.), *махроўка* 'хустка з махрамі' (там жа); мін., гродз. *махрычка* 'ручнік з махрамі' (Нас.); *махрасты, махрысты, махровы* (ТСБМ). Рус. *ма́хря́, махор, махры́,мохра́, мохо́р*. Бел.-рус. ізалекса. Утворана ад *мох* (гл.) (Мацэнаўэр, LF, 10, 353; Фасмер, 2, 668; Сарокін, PP, 1969, 3, 81—87; Гарэцкі, Мовознавство, 1968, 6, 75).

**Махты́рыць** 'ілгаць' (Нас.). Утворана ад назоўніка ⁺*махты́р,* параўн. пск., наўг., ярасл., ёнаўск. (ЛітССР) *махты́рь, ма́хтырь* 'хвост', якія ўзыходзяць да *махаць* (гл.); дзеяслоўны суфікс *-т-* мае экспрэсіўнае адценне. Аб суфіксе *-ыр* гл. Слаўскі, SP, 2, 28—29.

**Маху́тка** 'крышачка', 'малютка' (Нас.). Да *ма́ханькі* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ут-* (балтыйскім адпаведнікам да якога з'яўляецца літ. *-ut-as, -ut-is*).

**Ма́хціц** 'ашуканец, хлус' (Нас.). Рыфмаванае ўтварэнне да *шляхціц* ад *маха́ць* 'хлусіць' (гл.).

***Махэтка,** *мохэ́тка* 'махавік' (лун., Шатал.). Відавочна, да *мох* (гл.). З прычыны адзінкавасці запісу цяжка меркаваць аб суфіксе *(-эт-к-а* ці *-эд-к-а?)*.

**Мац!** — выклічнік ад дзеяслова *ма́цаць* (гл.) (Нас.; мсцісл., Нар. лекс.). Укр. *мац!* 'тс', балг. *мац!* 'мазь!', мар. *mac!* 'бац!' Бел.-укр. ізалекса. Да *ма́цаць* (гл.).

**Маца** — старажытная мера сыпучых цел, роўная 0,325 вядра, а паводле М. Гарбачэўскага (Словарь древ. акт. яз., 203), =1 варшаўскаму гарцу, або 3,76 літра; ст.-бел. *маца* 'мера збожжа' (1509 г.) запазычана са ст.-польск. *maca,* якое з с.-в.-ням. *mëtze,* суч. ням. *Metze* 'гарнец' (Булыка, Лекс. запазыч., 153).

**Ма́ца** 'набітая конскім воласам скураная падушачка, якая ўжывалася друкарамі для набівання набору фарбай' (ТСБМ).



З рус. *ма́ца* 'валік для фарбы', якое з італ. *mazzo* 'дубінка, дручок' (Мацэнаўэр, Cizí sl., 247; Фасмер, 2, 585).

**Маца́** 'тонкія сухія праснакі з пшанічнай мукі, якія (паводле яўрэйскага абраду) выпякаліся да вялікадня' (ТСБМ, Нас.). З ідыш *maze,* якое са ст.-яўр. *maṣṣā* 'праснак' (Вінер, ЖСт, 1895, 1, 64; Карскі, Труды, 173; Фасмер, 2, 585). Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 153) і Кюнэ (74), запазычана з польск. *maca* 'тс'.

**Мацава́ць,** *моцова́ць,* кобр. *моцёва́ты* 'трывала прымацоўваць', 'трымацца', 'узмацняць', 'спрабаваць моц чаго-небудзь', 'перамагаць' (ТСБМ, Нас., Некр., Сл. ПЗБ, ТС, Ян., Нар. лекс.), *мацавацца* 'ўмацоўвацца, барацца, мерацца сілай', 'адчуваць моц (у нагах)' (Нас., Касп.; дзятл., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.). Запазычана са ст.-польск. *mocować* 'умацоўваць, зацвярджаць'. Гл. таксама *моц*.

**Маца́к** 'велікоднае яйка з моцнай шкарлупінай', 'моцны, дужы чалавек' (Янк. 1, ТСБМ, Сцяшк., Шат., Мат. Гом., Ян.), драг. *моцу́к, моцю́к* 'моцнае яйка' (КЭС, З нар. .сл.), шчуч. *мацачок* (Сцяшк. Сл.), *мацак* 'моцны тытунь або напітак' (ТСБМ). Укр. *моца́к* 'дужы чалавек', 'моцнае яйка'. Утвораны ад *моц* (гл.) пры дапамозе суф. *-ак* (Сцяцко, Афікс. наз., 146) першапачаткова са значэннем 'характарыстыка асобы'.

**Мацака́** 'вобмацкам' (усх.-маг., КЭС; Растарг.). Да *ма́цаць* (гл.). Першапачаткова, відаць, з формы ⁺*змацака́* (з суфіксам *-а*), як *сцішка́, спатайка́* (Шуба, Прыслоўе, 126—127),— у якой *з-* адпала пад уплывам *мацком* 'тс' (Растарг.). Параўн. аналагічнае прыставачнае драг. *на́мацком* (КЭС).

**Мацар** 'уладальнік' (Дунін-Марцінкевіч), ст.-бел. *моцаръ* 'уладар', 'волат' запазычана са ст.-польск. *mocarz* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 21). *Мацарства* 'ўладанні' (там жа) <польск. *mocarstwo* 'вялікая дзяржава' <ст.-польск. *mocarzstwo* 'моц, сіла'.

**Мацата́** 'моц', 'сіла ўздзеяння лекавай расліны' (Сцяшк.; Яруш., шчуч., Сл. ПЗБ). Да *моц* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 121.

**Мацаўнік** 'парушэнец парасоністы, Chimaphila Pursh. umbellata (L.) Nutt.' (маст., Сл. ПЗБ). Да *мацава́ць* 'умацоўваць (здароўе)' — расліна з'яўляецца лекавай. Магчыма, аналагічна ўзнікла лексема *мацаўнік* 'цыкорыя, Cichorium intybus' (гродз., Кіс.).

**Ма́цаць,** *ма́цыць, ма́цатэ* 'датыкаючыся, распазнаваць што-небудзь', 'шукаць, абшукваць вобмацкам', 'правяраць курыцу, ці яна з яйкам' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Растарг., Сл. ПЗБ, ТС; драг., КЭС). Укр. *мацати* 'тс', рус. *мацать* на тэрыторыі, якая прылягае да бел. і ўкр.; польск. *macać,* мар.-

18. Зак. 1005.

славац., ляш. *macati hmatami,* чэш. *makati,* ганацк. *mnĕkat,* славац. *macat'*, н.-луж. *makaś,* в.-луж. *masać,* н.-луж. *smasaś* 'тс'. З польск. *macać* (Кюнэ, 74). Да зах.-слав. +*makati*< і.-е. *_mōk-_ (Шустэр-Шэўц, 12, 879—880). Неверагодна Махэк$_2$, 349, які *macati* выводзіць з *mat-s-ati*<*(h)matati* 'мацаць, шукаць'. Сюды ж *мацацца* 'марудзіць' (карэліц., Нар. сл.) у выніку семантычнага пераносу '(паволі) шукаць датыкаючыся'>'марудзіць'.

**Мацая́** 'мацак' (Юрч.). Да *мацаваць* (гл.). Аб суфіксе *-ēja* гл. Слаўскі, SP, 1, 87; Сцяцко, Афікс. наз., 86.

**Маце́йка** 'ляўконія, Mattiola incana R. Br.' (карэліц., Сцяшк. Сл.). З польск. *maciejka* 'тс'. Узыходзіць да імя *Maciek*<*Maciej*.

**Ма́цене,** *ма́цяне* 'сын ці дачка з фізічнымі рысамі або з рысамі характару маткі' (калінк., Мат. Гом.; Янк. 1). Да *ма́ці* (гл.). Утворана пры дапамозе суфікса *-ēn-* (параўн. літ. *-én-as,* лат. *-ēns: brolēnas, brālēns* 'сын брата') і *-е* для ўтварэння назваў маладых істот. Гл. таксама Сцяцко, Афікс. наз., 152.

*__Ма́цер,__ *ма́цяр* 'матка' (Нас., Яруш., Касп., Пан. дыс.; докш., Янк. Мат.; пух., З нар. сл.; ДАБМ, к. 89). Укр. *ма́тір,* рус. *ма́терь,* польск. *macierz,* н.-луж. *maśeŕ,* в.-луж. *maćer,* славац. *mater,* серб.-харв. дыял. *матер,* макед., балг. *матер, матър.* Прасл. *materь* — форма з ускоснага (вінавальнага) склону лексемы *mati*>*ма́ці* (гл.); гэты пераход адбыўся пад уплывам асноў назоўнікаў на *-i.* Сюды ж *ма́цер-божое слёзкі* 'дрыжнік сярэдні, Briza media L.' (ТС).

**Ма́цера** 'маці' (ДАБМ, к. 89; Пан. дыс.) — у выніку выраўноўвання з формамі *-а-*асноў. Параўн. аналагічныя польск. *maciora* (гл. *мацёра*) і н.-луж. *maśera* 'матка ў жывёл'.

**Маце́ра** 'тканіна' (глус., Мат. Маг.) — сапсаванае *мацерыя,* якое з рус. *материя* (гл. *матэрыя*).

**Ма́церка** 'маладая, няўмелая маці', 'самка жывёл, птушак з патомствам' (Юрч.), *мацеркі́, ма́цяркі, мацярке́, ма́ціркі* 'жанчыны-маці', 'маці' ў мн. л. (ТСБМ, Янк. 1, ТС; зэльв., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.). Утворана ад *мацер(а)* 'маці' як *мат-к-а.* У іншых значэннях лексемы *ма́церка, ма́цярка, мацяркі́, мацёрка* 'бульба-насенніца', 'каноплі з насеннем' (ТС, Сцяц., Сцяшк., Шчарб.; беласт., маст., Сл. ПЗБ; іўеў., Сцяшк. Сл.; шчуч., Нар. лекс.; браг., Мат. Гом.) утвараюць бел.-польск. ізалексу, параўн. польск. *maciorki, maciórki, macierki, maciorka* 'тс' (Кандрацюк, Бел.-польск. ізал., 53). Аднак лексема *ма́тірка* 'жаночыя каноплі' існуе ў палтаўскіх і бойкаўскіх гаворках, *матёрка* — у пензенскіх і томскіх. Арашонкава (БЛ, 2, 48) лічыць бел. лексемы запазычаннем з польск. мовы.



**Ма́церны** 'непрыстойны, лаянкавы, з ужываннем мата' (ТСБМ). З рус. *матерный,* якое з *мать* 'маці'.

**Ма́церня,** *ма́церына, мацерыца* 'бэлька пад насцілам з дошак для стога, якая кладзецца на слупы' (ТС). Палескае. Да *ма́цер* (гл.) у значэнні 'аснова чаго-небудзь'. Параўн. таксама *ма́ціца.*

**Маце́рыя** 'матэрыя, тканіна' (Бяльк.). З рус. *материя* 'тс'.

**Мацёнак** 'хітрун', 'шэльма', 'дураслівец' (Нас.). Да *мот* (Насовіч, 292), якое ў маг. гаворках мае значэнне 'падманшчык' (Мат. Маг.).

**Мацёнка** 'бэлька пад насцілам з дошак для стога, якая кладзецца на слупкі' (ТС). Палескае. Да *ма́ці* (гл.). Утворана пры дапамозе памяншальна-ласкальнага суфікса *-ён-к-а,* параўн. драг. *ма́тёнка* 'матуля, матухна', рус. арханг., пск. *ма́тенка, матёнка* 'тс'.

**Мацёра** 'свіння, якая гадуе вывадак парасят' (Сцяц., Сцяшк., Маш., Сл. ПЗБ, ТС; слуц., Нар. словатв.; мядз., Нар. сл.; навагр., Жыв. сл.; маз., З нар. сл.), 'старая бульбіна, выкапаная разам з маладой' (Сцяшк., Сцяц., Сл. ПЗБ), 'гладкая мажная жанчына' (ТС). З польск. *maciora* 'тс'. Гл. таксама *ма́церка.*

**Мацёры** 'вялікі, высокі, доўгі, вялізны' (Нас.), 'сталы', 'поўны сілы, моцны, здаровы', 'вопытны, непапраўны, закаранелы' (ТСБМ, Жд. 1), ст.-бел. *матеръ* (Булахаў, Гіст., 125—127). Укр. *матерни́й, ма́терий* 'чалавек у сталых гадах', рус. *матёрый, матерой* 'тс', польск. *zamatorzały, zamotrzały* 'зацвярдзелы', ст.-чэш. *matorný* 'спелы', 'строгі', мар. *mateřeti* 'тлець', 'трухлявець', славен. *matór, matér, motór, matóren* 'стары', серб.-харв. *ма̏тор* 'тс', макед. *матор* 'трохгадовы баран', балг. *матор* 'моцны, здаровы', 'спелы, дарослы, сталы, стары', ст.-слав. **матерьство** 'старасць, спарахнеласць', прасл. *matarъ, materъ* (БЕР, 3, 686—687), *matorъ* 'дарослы, стары' ў суадносінах з прасл. *starъ* 'стары' семантычна перазмеркавалася ў 'вялікі, моцны'. Мае іт. адпаведнік, параўн. лац. *mātūrus* 'спелы, дарослы, стары', што дае магчымасць рэканструяваць іт. *_mātoros_ 'тс' у якасці крыніцы пранікнення для прасл. лексемы (Мартынаў, Язык, 84—85). Бязлай (2, 172) адносіць яе да і.-е. кораня *_mē-/_*_mō-_ 'вялікі' (гл. Покарны, 704) і суфікса *_tor-_, прыводзячы роднасныя ст.-ірл. *mōr,* уэл. *mawr,* брэт. *meur* 'вялікі'. Менш верагодныя іншыя версіі (гл. Бернекер, 2, 25; Фасмер, 2, 581; Скок, 2, 390; Махэк$_2$, 355; БЕР, 3, 687).

**Мацёха,** *мацюха, цёха-мацёха, цюха-мацюха* 'недалёкі чалавек, які ні ў чым не разбіраецца' (міёр., З нар. сл.). Уграфінізм. Параўн. рус. вяц., арэнб. *мася, маська* 'авечка', 'падзыўное слова для авечак', *мася-мася, мась-мась* 'тс', якія

з удм. *mes* 'ягнё', комі *mež* 'авечка'<новаперс. *meš,* авест. *maēša* (Фасмер, 2, 579). Аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 121.

**Ма́ці**$_1$, *маць* 'матка, мама' (ТСБМ, Бес., Нас., Яруш., Кліх., Маш., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС; КЭС, лаг.), драг., бяроз. *ма́тэ, ма́ты* (КЭС), *ма́ця* 'тс' (Пан. дыс.). Укр. *ма́ти,* рус. *мать, ма́ти,* ст.-польск. *mać (<maci),* палаб. *motei,* н.-луж. *maś,* в.-луж. *mać,* ст.-чэш. *máti, mátě,* славац. *mat',* славен. *máti,* серб.-харв. *ма̏ти,* балг. *мати,* ст.-слав. **мати.** Прасл. *mati* 'маці' — назоўны склон асновы *mater-*, якая да і.-е. **mātē(r),* род. скл. **māter-es* — першапачаткова склад **ma-* — слова з дзіцячай мовы, да якога далучыўся суфікс *-ter* (лац. *pa-tēr* 'бацька', прасл. *bra-trъ* 'брат', ст.-в.-ням. *swēs-ter* 'сястра'). І.-е. адпаведнікі: літ. *mótė* 'жонка', 'бабуля', лат. *mâte* 'маці', ст.-прус. *mūti,* ст.-інд. *mātā́ (<mātár),* авест. *mātar-,* арм. *mair,* ст.-грэч. μήτηρ, дар. μάτηρ, лац. *māter,* ірл. *māthir,* ст.-в.-ням. *muoter,* тах. А *mācar,* тах. В *mācer* 'тс', алб. *motrë* 'сястра' (Міклашыч, 184; Бернекер, 2, 26; Траўтман, 170; Фрэнкель, KZ, 61, 271; Покарны, 700—701; Фасмер, 2, 583; Шаўр, Etymologia, 20; Гіндзін, Этимология-63, 69 і інш.). Сюды ж *маці-і-мачаха, маць-і-мачаха, маць-мачыха, маці-і-мачоха, маты і мачоха* 'падбел, Tussilago farfara L.' (Сл. ПЗБ, Жыв. сл., Нар. лекс.), 'браткі, Melampyrum nemorosum L.' (ТС).

**Ма́ці**$_2$ 'трама' (жытк., Нар. сл.). У выніку пераносу значэння 'аснова, пачатак, крыніца' з *ма́ці*$_1$ (гл.). Гэтаксама Праабражэнскі (1, 515). Параўн. яшчэ *ма́ціца, ма́царня.*

**Маціліне,** *мацілі́ньня* 'тонкая лёгкая тканіна' (Жд. 1, Шат.). З **ваціліна,* параўн. драг. *ватілі́н* 'вацін' (КЭС), якое з польск. *watolina*<ням. *Watteline* 'тс'<*Watte* 'вата'<егіпецк. араб. *batā'in (мн.),* 'падшэўка'<*baṭn* 'унутранасці' (Васэрцыер, 248).

**Ма́ціна** 'саломенная мата' (Касп.). Да *ма́та* (гл.).

**Маціна**$_1$ 'агідна, непрыемна' (паўн.-усх., КЭС), смал. *мати́но* 'тс'. З рус. мовы, параўн. *мати́ть* перм. 'цягнуць на ваніты', 'набрыдаць', 'дакучаць', казан. 'мучыць', свярдл. 'хваляваацца, перажываць'.

**Маціна**$_2$ 'мантач, марнатравец'. Да *мот* (гл.).

***Маці́нне,** *маті́не* 'націна караняплодаў' (Бес.), *маці́на* 'бульбоўнік' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *наці́на* (гл.). Аналагічна ўкр. бойк. *мати́на* 'тс'.

**Ма́ціца** 'перламутр' (ТСБМ), *пярловыя маці́цы* 'пацеркі з жэмчуга', *крывавыя маціцы* 'пацеркі з граната' (Малч.); *ма́ціца, ма́тіца* (шчуч., беласт., бяроз.) 'галоўны корань у дрэве', воран. *маці́чны карэнь* 'тс' (Сл. ПЗБ); *ма́ціца, мацяры́к* 'тс' (Сцяшк. Сл.); *ма́ціца, ма́тіца* 'падоўжная бэлька ў будынку, трам' (Нар. сл., Касп., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Мат. Маг.),



'бярвенні, якія кладуцца ўпоперак зруба ў верхнім вянку' (шкл., лун., рас., Шатал.), ст.-бел. *матица* 'вінаградная лаза', 'перламутр' (XVI ст.). Яшчэ ст.-рус. *матица* 'асноўная, апорная частка чаго-небудзь', *жемчужная матица* 'ракавіна жэмчуга' (XVII ст.), польск. *macica,* в.-луж. *maćica,* чэш *matice,* славац. *matica,* славен. *mática,* серб.-харв. *ма̏тица,* макед., балг. *матица.* Прасл. *matica* — вытворнае ад *mati*>*ма́ці*$_1$ (гл.). (Бязлай, 2, 171; БЕР, 3, 685—686; Булахоўскі, Выбр. пр., 3, 352). Гл. таксама *маціца.*

**Маціца** 'матка, uterus' (Нас.; гродз., шальч., воран., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 50), паходзіць з польск. *macica* 'тс'. Відавочна, толькі ў паўн.-зах. зоне. Параўн. яшчэ ст.-рус. *матица* 'тс' (XVII ст.)<прасл. *matica* 'пачатак, крыніца чаго-небудзь'.

**Мацічнік** 'душыца палявая, Acinos arvensis Dandy' (гродз., Кіс.). Да *маціца* (гл.), аднак матывацыя няясная.

**Маці́ша** 'месія' (Шат.). З польск. *Mesjasz* 'тс'.

**Мацоха** 'мачаха' (Нас.; астрав., швянч. Сл. ПЗБ; Сцяц.), 'свінаматка' (ваўк., Сцяшк. Сл.). З польск. *macocha* 'тс' (Мацкевіч, там жа, 3, 50). Аднак значэнне 'свінаматка' ўзнікла ў выніку атаясамлення польск. *macocha* і *maciora.*

***Мацу́к,** драг. *моцук* 'моцнае велікоднае яйка' (КЭС). Да *міц*<*моц* 'моц' (гл.).

**Мацу́каць** 'мацаць' (ТС). Да *ма́цаць* (гл.). Суфікс *-ук-* надае кароткатрывалае і шматразовае дзеянне. Роднасным з'яўляецца ўкр. нававалынск. *мацкувати* 'шукаць вобмацкам' з выпадзеннем *-у-*.

**Мацу́нак** 'уласцівасць моцнага, моц, трываласць', 'фізічная сіла', 'тое, чым можна падсілкавацца, пад'есці' (ТСБМ, Шат., Сл. ПЗБ), 'жалезны прэнт, які злучае ручкі плуга' (беласт., Смул.). З польск. *mocunek* 'тс', якое з *moc*>*моц* (гл.) (Шатэрнік, 157; Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10).

**Мацыёла,** *мацыёла* 'ляўконія сівая, Matthiola incana L.' (Кіс., Інстр. II). З лац. назвы гэтай расліны. Спалучэнне літар *-th-* магло чытацца, як у англ. мове, якое пры перадачы на рус. мову передавалася праз -[с]- і ў спалучэнні з папярэднім [т] стала пісацца як *-ц-*.

**Мацыён** 'хадзьба, гулянне з мэтай умацавання здароўя або для адпачынку' (ТСБМ). З рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 77), у якой з ням. *Motion*<лац. *mōtiōne(m)*<*moveo* 'рухаю' (Фасмер, 2, 666).

**Мацыкле́т** 'матацыкл' (бярэз., смарг., Сл. ПЗБ; Сцяц.). Скажоная народная форма ад *матацыкле́т* (гл.).

**Мацыроўка** 'цура (з вады, хлеба і солі)' (ашм., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, жартам з лац. *mācerātio* 'вымочванне, размякчэнне' (?)

**Мацыя́,** *мацая́, моцоя́, мыцыя́* 'моц, трываласць' (Нас.), 'сіла, здароўе' (Юрч.), 'важнасць' (Сцяшк.), 'недатыкальная, важная асоба' (Прабл. філал.; Абабурка, Лінгв. дасл., 6; КТС — Цішка Гартны), 'задавака' (клец., Нар. лекс.), 'зухаваты, фанабэрысты чалавек' (капыл., нясв., клец., КЭС). Абстрактны назоўнік, утвораны ад *моц* (гл.) пры дапамозе суфікса *-(ц)ыя,* параўн. драг. *стыдóцыя* 'сорам'.

**Маць,** *мáтэ* 'мець' (Янк. 1, ТС, Ян., Яруш.; гор., Мат. Маг.; драг., КЭС), *мáцца* 'быць у стане чаго-небудзь' (ТС), 'жыць багата' (паўд.-усх., КЭС). Да *мець* (гл.). Уплыў укр. мовы.

**Мацю́г,** *мацю́к, мацю́х* 'мат', *мацюжыцца, мацюкацца* 'лаяцца (матам), зневажаць', драг. *матюкé гнýтэ,* гом. *мацюкáць* 'лаяць матам' (ТСБМ, ТС, Нар. Гом., Юрч.; в.-дзв., навагр., Сл. ПЗБ; КЭС). Усходнеславянскае. Паводле лінгвагеаграфіі пашырэння, можна меркаваць аб распаўсюджванні лексем з паўн.-рус. тэрыторыі (гл. СРНГ, 18, 41—42).

**Мацю́га** 'мантач, марнатраўца'. Да *мот, матáць* (гл.).

**Мацю́к** 'род зельцу з барановых або свіных унутранасцей' (мядз., Нар. сл.). Зах.-укр. *мацько, мацьок,* жытом. *мацьок, мацько* 'свіны страўнік' (ЛАПП). З польск. *maciek* 'тс', 'сальцісон', 'бруха', 'страўнік, напханы кашай'. Паводле Вештарт (Бел.-польск. ізал., 20), польск і ўкр. лексемы запазычаны з рум. *mat* 'кішка', 'унутранасці'.

**Мацю́ка** 'булавападобная палка' (Клім.). З польск. *maczuga* 'дубіна', 'булава'.

**Мáця** 'матка' (Пан. дыс.). Да *мáці*$_1$ (гл.). Нязвыкласць канчатка *-і* ў наз. ж. р. прывяла да мены яго на *-я,* таму што форма *маці* разумелася ва ўшацкіх гаворках як Р. скл.

***Мацяжáнка,** *матежáнка* 'чобор звычайны, Thymus serpyllum L.' (лельч., Бейл.), *мацержанка* 'чабор украінскі, Thymus ucrainicus Klok.' (гродз., Кіс.), 'мацярдушка звычайная, Origanum vulgare L.', 'маяран садовы, Majorana hortensis Moench.' (гродз., Кіс.). З польск. *macierzanka* 'чабор'. Матывацыя — гл. *мацярдýшка.*

**Мацяжына** 'балоцвіна, мокрае месца, дзе растуць журавіны' (Левановіч, «Звязда», 15,1.1989). З польск. *macierzyna* 'мацярызна': відаць, калісьці гэта быў луг, дадзены камусьці ў спадчыну па мацеры. Гл. *мацярызна.*

**Мацярáнка** гродз. *мацеранка* 'мацярдушка звычайная, Origanum vulgare L.' (Кіс.), *мацёрáнка* 'нейкая краска' (Бес.). З польск. *macierzanka,* магчыма, утворанага ў выніку кантамінацыі польск. *macierzyca* і *majoranka* (якія таксама азначаюць 'мацярдушка') пры ад'ідэацыі польск. *macierzanka* 'чабор'. Параўн. ваўк. *мацяжáнка* 'мацярдушка' (Сл. ПЗБ).

**Мацярдýшка** 'расліна Origanum vulgare L.' (вільн., гродз., брэсц., маг., Кіс.; Маш.); 'маяран садовы, Majorana hortensis Moench.' (гродз., маг., Кіс.), 'падбел звычайны, Tussilago farfara L.' (гродз., Сцяшк.). Назва гэтых раслін перанесена з назвы чабору (Thymus serpyllum L.) $^{+}$*мацерына душа* (параўн. укр. *материнка, материна душка,* рус. *маткина душа,* ст.-польск. *macierza duszka,* польск. *macierduszka,* чэш. *mateřídouška,* ст.-чэш. *mateřie dúška,* славац. *materina dúška,* славен. *máterna dúšica,* серб.-харв. *мȁјкина (мȁтерина) дӯшица,* балг. *мȁщер(и)ка* — усе яны з'яўляюцца перакладам лац. *Matris animula,* пададзенага біскупам Ісідорам Севільскім (VI—VII стст.) у кнізе «Origines», які выкарыстаў сюжэт антычнай легенды, у якой расказваецца аб тым, як дзецісіроты старанна прыходзілі да матчынай магілы, маці іх стала шкада, і яе душа вярнулася з неба і пасялілася ў дробналістай красцы з прыгожым пахам. Дзеці адразу пазналі душу сваёй маці і назвалі краску мацярдушкай (Махэк$_2$, 355) Са словазлучэння *мацерына душа* ў слав. мовах утварыліся намінацыі накшталт бел. *мацярынка, мацярыца,* польск. *macierzanka,* чэш. *mateřenka* і да т. п. (гл. таксама Фасмер, 2, 582; БЕР, 3, 700—701; Махэк, Jména, 202; Урбуціс, Baltistica, 15, 155).



**Мацяроз,** *мацерýôз* 'гай (зараснік) каля хаты' (Федар., 7). Няясна. Паводле тлумачэння аўтараў лінгвістычнага каментарыя (там жа, 582), выраз, у якім сустрэлася гэта слова, *у густуом мацерýôзі* з'яўляецца аналагічным да іншага: *у густом ачарýôдзі,* што азначае 'у густым чароце'. У такім выпадку *мацерýôз* — скажонае *чарот.*

**Мацяры́зна** 'зямельная або маёмасная ўласнасць, атрыманая ў спадчыну па мацярынскай лініі' (Гарб.; Працы, 8, Нас.; шчуч., Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *материзна, матерызна* 'мацярынская спадчына' (XV ст.), *люди материзные* 'адзін з відаў прыгонных' запазычаны са ст.-польск. *macierzyzna* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 78).

**Мацяры́к**$_1$ 'вялікая частка сушы, якая абмываецца марамі і акіянамі', 'пласт зямлі пад глебай' (ТСБМ). Запазычана з рус. *материк* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 72), якое (паводле Бернекера, 2, 25) з рус. *матерой, матёрый.* Параўн. таксама яшчэ ст.-рус. *материкъ* 'высокая мясціна (у процілегласць нізкаму месцу)', 'высокі бераг ракі ці возера'. Усходнеславянскае.

**Мацяры́к**$_2$ 'мат, лаянка' (Юрч.). Зваротнае ўтварэнне ад рус. *материться,* якое да *матер-, маці* (гл.).

**Мацяры́нка**$_1$, *матэрынка, мацеры́нка* 'мацярдушка звычайная, Origanum vulgare L.' (Анох., бяроз., Нар. лекс.; Мат. Гом., Ян., ТС). Узнікла ў выніку намінацыі словазлучэння з прыметнікам *мацерына.* Матывацыя — гл. *мацярдушка.*

**Мацяры́нка**$_2$, *матерінка* 'гусялапка звычайная, Alchemilla vulgaris L.' (лельч., Бейл.). Намінізаваная калька з ням. *Mutterkraut* 'расліна мацерын корань, які немкі ўжывалі супраць бясплоднасці' (Махэк, Jména, 109).

**Мацяры́ншчына**, *матэрінщчына* 'спадкі пасля маці' (Бес.; беласт., Сл. ПЗБ). Утворана ад прыметніка *мацярынскі* 'мацерын' (Нас.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 127).

**Мацяры́ца** 'мацярдушка звычайная, Origanum vulgare L.' (добр., Мат. Гом.). Відавочна, у выніку намінацыі словазлучэння *мацерына душыца*. Не выключана магчымасць запазычання з польск. *macierzyca* 'тс'.

**Мацяюшка** 'летняя шапка з шырокім шлякам (беражком)' (гродз., Мат. АС). З польск. *maciejka, maciejówka* 'тс'.

**Мач** 'драўляны сахор у выглядзе завостранай вузкай лапаткі з жалезным наканечнікам або без яго' (Выг. дыс., ТС; мазыр., З нар. сл.; петрык., Шатал.; воран., Сцяшк. Сл.), укр. житом., ровен. *мач, меч* 'жалезныя сахары', 'граблі', рус. (Сярэдняя Азія) *амач* 'начынне для капання'. Паводле Выгоннай (БЛ, 8, 56—57), лексема ўзыходзіць да прасл. *metati, mesti* 'накідваць' у форме ітэратыва *matati*, што ўзыходзіць да і.-е. **mat-* 'кідаць, разбіваць', параўн. ст.-інд. *matyá-* 'барана', лац. *mateola* 'малаток', ст.-в.-ням. *medela* 'плуг'. Параўн. таксама *матыка* (гл.).

**Ма́ча** 'маленькія рыбкі' (бых., Мат. АС). Скарочаны варыянт з *малёча* (гл.).

**Мача́** 'вадкасць, якая выдзяляецца ныркамі' (ТСБМ), 'слата, макрэча' (Нас.). Укр. *міч*, рус. *моча*, ст.-рус. *моча* 'дажджлівае надвор'е', ц.-слав. **моча** 'балота', *мочь* 'мача', польск. *mocz*, в.-луж. *moč*, чэш., славац. *moč*, славен. *móča* 'вільгаць; мача; нягода', серб.-харв. *мо́ча* 'макрэча', 'мокрадзь', 'вільготнае надвор'е, золь', 'намочаны кавалак хлеба', макед., балг. *моч* 'мача'. Прасл. *mokja*>*moča*. Да *мокры* (гл.). Сюды ж *мачавы́* (ТСБМ), *мачаві́к* 'мачавы пузыр' (навагр., Сл. ПЗБ), *мачаві́на* 'прадукт бялковага абмену' (ТСБМ).

**Мачаві́ла** 'тушаныя чарніцы', 'павідла' (хойн., Мат. Гом.). Ад *мача́ць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 42).

**Мача́жына** 'мокрае месца' (слуц., Яшк.). З $^{+}$*мача́га*, параўн. рус. наўг. *моча́га, моча́жка, мочажина*. Утворана ад прасл. *moča*>*мача́* (гл.).

**Мача́йка** 'кубак з вадой, у які мачалі пальцы ў час прадзення' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *мача́ць* (гл.).

**Мача́ка** 'мачанка' (Янк. 2; карэліц., Нар. лекс.). Да *мача́ць* (гл.). Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 25).

**Мача́ла**$_1$ 'тонкія, доўгія палоскі з лубянога слою ліпавай кары, з якіх вырабляюць рагожу, вяроўкі і інш.' (ТСБМ; в.-дзв., шчуч., Сл. ПЗБ), *мача́лка* 'вехаць для змывання гразі, мыцця посуду' (там жа), *мачу́ла, мачу́лка* 'тс', 'вымачанае лыка' (чэрв., Сл. ПЗБ; Нас., Грыг., Маш.), *мачу́льнік* 'чалавек, які вырабляе мачалкі' (Нас.). Да *мачы́ць* (гл. *мача́ць*): 'мачала вырабляецца шляхам вымочвання кары ў вадзе' (Фасмер, 2, 666). Мена *-ал-* у *-ул-* пад уплывам лексемы *мачу́ла*$_1$ (гл.). Укр. *мачу́ла* 'мачалка, вяхотка', відаць, з бел.



***Мача́ла**$_2$, *мочало* 'растопленае сала або смятана, у якую мачаюць бліны, пірагі' (Вешт). Да *мача́ць* (гл.). Аб суфіксе *-lo* ў функцыі Nomen acti гл. Слаўскі, SP, 1, 104.

**Мача́лка** 'мачанка' (беласт., Сл. ПЗБ), тур. *моча́лка* 'тс' (ТС) — у выніку кантамінацыі лексем *мачала* і *мачанка* (гл.).

**Мача́н**, *мачані́чнік* 'талакнянка звычайная, Arctostaphylos Adans. uva-ursi Spreng.' (барыс., Ул.; карэліц., Нар. лекс.; чэрв., Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.). Да *муча́н* (гл.).

**Мача́нка**, *муча́нка* 'страва з сала, мяса і каўбасы, падкалочаная мукой' (лях., глус., Янк. Мат.; мін., КЭС; КЭС, лаг.; смарг., Сл. ПЗБ; Касп., Шат., Бяльк., ТС), пух. 'амлет' (Сл. ПЗБ); *мача́нне, мача́ня, моча́нье, мача́ньё* 'мачанка' (ТСБМ, Янк. 2, Мат. Гом.; докш., Янк. Мат.), 'тук' (капыл., Нар. словатв.), 'мачанка з канапель, маку' (віл., чэрв., Сл. ПЗБ), 'тварог, расцёрты з малаком і смятанай, у які мачаюць бліны' (ТСБМ, Ян., Мат. Гом., Жыв. сл., Нар. словатв., ТС), 'варэнне' (хойн., Мат. Гом.). Беларускае. Да *мача́ць* (гл.). Польск. *maczanka* 'грэнка з намочанага хлеба' семантычна адрозніваецца ад беларускай лексемы.

**Мача́рына** (ашм.) 'крынічнае месца', слаўг. *мачарня* 'тс' (Яшк.), рус. арл. *мочари́на* 'нізкае, балоцістае месца', укр. *мочар(а)*, польск. *moczar*, чэш. *močár, močařisko, močál*, славац. *močiar*, славен. *močvára*, серб.-харв. *мо̏чвар*, чарнаг. *мочалина*, балг. *мо́чу̀р, мучу́р*, радопск. *моча́ра*. Прасл. *močarъ, močara*<*mok'-er-o, mok'-er-ā* з вельмі старым суфіксам *-er-* (Махэк$_2$, 371). Да *мачы́ць, мокры* (гл.).

**Мачаўнік** 'цыкорыя звычайная, Cichorium inthybus L.' (Бел. Зельн.; брэсц., Кіс.). Да *мачыць*>*(вы)-ма́чваць* 'рабіць настой з зялёнага лісця'. Магчыма таксама, што гэта семантычны перанос з *мячэўнік* (гл.).

**Ма́чаха**, *ма́чыха, ма́ччыха, ма́чоха, ма́чэха, ма́чуха* 'нярodная маці' (ТСБМ, Яруш., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Бес.; КЭС, лаг.; Мат. Гом.). Укр. *мачоха*, рус. *ма́чеха, ма́чиха*, ст.-рус. *мачеха, мачиха, мащеха;* польск., луж. *macocha*, каш. *macecha*, чэш. *macecha, macocha*, славац. *macocha*, славен. *máčeha*, серб.-харв. *ма̏ħеха, ма̏ħаха, ма̏ħуха*, макед. *маштеа, маќеа, маќева*, балг. *ма́щеха, мащиха*. Прасл. *matjexa*, якое з *mati*, утворана пры дапамозе экспрэсіўных суфіксаў *-exa, -oxa, -ixa, -ixa* (Фасмер, 2, 586; Бязлай, 2, 159). Аднак Зомер (IF, 11, 54) мяркуе, што выходнай формай будзе параў-

нальная ступень лексемы *māter-* — **matrjesī*. Бел. *мачоха* 'мачаха' (Кліх, Маш.) мае націск на *-о-* пад уплывам польск. мовы. Сюды ж драг. *ма́чоха* 'трама' (Нар. сл.), малар. 'самая тоўстая лёстка ў драбіне воза' (Нар. словатв.) і *ма́чоха, ма́чуха* 'папярочны край берда' (Уладз.), паўд.-гом. *ма́тчыха, ма́чуха* 'тс' (ЛАПП).

**Мача́ць** 'акунаць у што-небудзь вадкае або сыпкае', 'расходаваць што-небудзь мачаннем', 'вырабляць што-небудзь апусканнем у раствор' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, ТС), лях. 'мачыць' (Сл. ПЗБ); *мачы́ць* 'рабіць мокрым', 'трымаць у мокрым' (ТСБМ). Укр. *мочáти, мочи́ти;* рус. *мочáть, макáть, мочи́ть;* польск. *maczać, moczyć,* в.-луж. *mačeć, močić,* чэш. *máčeti, močiti,* славац. *máčať, močiť*, славен. *pomákati, močíti,* серб.-харв. *ума̏кати, мо̀чити* і *мо̀чати,* макед. *мака, моча,* ст.-слав. **мочити.** Прасл. *močiti*>*močati* утвораны ад назоўніка *moča,* які ўзыходзіць да і.-е. асновы **mok-* (параўн. прасл. *moknǫti*): літ. *makénti, mak(n)óti* 'таптаць гразь, хадзіць па гразі', *makalŷnė* 'гразь', 'слота', *makónė* 'лужа', лат. *mākulis* 'хмара', *makņa* 'гразкае месца'. Відавочна, сюды і асец. *тоесуп* 'пакласці ў вадкасць' (Міклашыч, 199; Бернекер, 2, 69; Фасмер, 2, 666; Бязлай, 2, 199). Сюды ж *мачлі́вый, машлі́вы* 'мокры (пра год)' (жлоб., Нар. словатв.; в.-дзв., Сл. ПЗБ; Ян.), *мачы́льня* 'месца, дзе мочаць лён, каноплі' (ТСБМ).

**Мачля́к** 'палена, намоклае ў рэчцы' (бар., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 15), запазычана з літ. *maklẽkas* 'тс'. Аднак пры наяўнасці *-ч-* у корані можна гаварыць аб кантамінацыі *макля́к* (гл.) і *мачы́ць*.

**Мачольнік** 'вехаць' (хойн., ельск., Мат. Гом.). Да *мача́ла*₁. Нязвыклым з'яўляецца *-о-* ў суфіксе (аб гэтым Карскі, 1, 98—99).

**Мачонік** 'мочаны яблык' (Янк. 2, маз., Жыв. сл.), *мачонкі, мачонікі* 'мочаныя, салёныя, марынаваныя грыбы' (полац., Янк. 2, Нар. сл., КЭС, лаг.; Мат. Гом.; уздз., Нар. словатв.), 'ваўнянкі, Lactarius torminosus' (Сл. ПЗБ; Жд. 1; лаг., Жыв. сл.), брасл. 'шампіньёны' (Бел. хр. дыял.); лудз. *мачонік* 'макляк' (Сл. ПЗБ), *мачонка* 'скарынка хлеба, размочаная ў страве' (Юрч.; КЭС, лаг.), 'курыца, намочаная, каб не квактала' (Касп.), *мачонік* 'блін' (астрав., Сцяшк. Сл.), *мачонікі* 'страва з хлеба, намочанага ў жыжцы другой стравы' (Касп.). Аддзеепрыметнікавыя ўтварэнні. Да *мача́ць, мачы́ць* (гл.).

**Мачоўнік** 'касач жоўты, Iris pseudacorus L.' (стол., Бейл.; ТС). З *мячэ́ўнік* (гл.) пад уплывам вядомага на Палессі *мач* 'драўляныя вілы'. Такое найменне касача перайшло з роду гладыёлусаў (Gladiolus) у выніку блытаніны (з-за падабенства).



**Ма́чта,** *машта* 'слуп ці збудаванне на суднах для мацавання ветразей, назірання, сігналізацыі; вежа для мацавання правадоў, антэн' (ТСБМ; Бяльк.). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 83), запазычана з рус. мовы, у якой праз польск. мову прыйшло з гал. або н.-ням. *mast* 'тс'<лац. *mālus* <**mazdos* 'мачтавае дрэва' (Фасмер, 2, 586; Васэрцыер, 148; Вальдэ, 363). Аднак яшчэ ст.-бел. *маштъ* (1500 г.), якое са ст.-польск. *maszt*< с.-в.-ням. *mast* (Машынскі, Geogr., 65; Булыка, Лекс. запазыч., 120).

**Мачуга** 'дубінка', ст.-бел. *мочукга* (XVI ст.) — са ст.-польск. *maczuga* 'тс', якое з рум. *măciucă* 'кій з тоўстым канцом' (Булыка, Лекс. запазыч., 104)<лац. *mattea* 'палка' (Брукнер, 317).

**Мачу́ла**₁, *мачу́ло, мачу́лішча, мачу́ліска* 'мачыльня, сажалка, лужа, яма на балоце, акно сярод плаву, агароджанае калкамі месца ў возеры, дзе мочаць лён' (ТСБМ, Нік. Очерки, Сл. ПЗБ; КЭС, лаг.; полац., ушац., Нар. лекс.). Беларускае. Да *мачы́ць* (гл. *мача́ць*). Сюды ж *мачу́льнік* 'сноп канапель, прыгатаваны для мачэння' (паст., Сл. ПЗБ).

**Мачула**₂ 'рагоз, Typha latifolia L.' (маг., Кіс.). У выніку пераносу значэння 'яма, сажалка' на назву расліны, якая расце там. Да *мачу́ла*₁.

**Мачула**₃ 'перакладзіна на рыштаваннях' (ст.-бел., XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *maczulec,* якое з ням. *Netzholz* (Булыка, Лекс. запазыч., 97; Варш. сл., 2, 841).

***Мачу́начкі,** *мочу́ночкі* 'ежа з сухога хлеба, солі і цыбулі, залітых варам' (нараўл., Вешт). Да *мачонік* (гл.). Аб пераходзе *о*>*у* гл. Карскі (1, 117—123). Вештарт (Бел.-рус. ізал., 18) гаворыць аб лексеме гом. *мачу́нкі* 'рулі' як аб запазычанні з рус. мовы. Відавочна, калька з балт. крыніцы накшталт *мурцоўка* 'тс', якая з'яўляецца роднаснай з літ. *mur̃ti* 'мокнуць, рабіцца вязкім' (там жа).

**Мачы́жына** 'нізкае (часам багністае) вільготнае месца' (паўн.-усх., КЭС). Да *мача́жына* (гл.). Гук *-ы-* пад уплывам дзеяслова *мачы́ць*.

**Мачы́ла** 'шырокая яма ў нізкім месцы, дзе мочаць лён' (докш., Янк. Мат.), рэч. *мачылішча,* мін. *мачышча;* арш., лёзн. *мачылка* 'зыбкае, махавое балота' (Яшк.). Укр. *мочи́ло,* рус. *мочи́ло, мочи́лище, мочилка, мочище,* польск. *moczydło,* чэш., славац. *močidlo* славен. *močílo,* серб.-харв. *мо̀чило.* Прасл. *močidlo,* у якім у суфіксе *-dlo* мае другаснае значэнне месца дзеяння.

**Мачы́лка** 'назва плоскуняў' (брасл., ДАБМ, к. 283). Фармальна да *мачы́ць* (гл. *мача́ць*), аднак матывацыя наймення няясная. Адсутнасць дадатковай інфармацыі (лексема запісана толькі ў адным населеным пункце) не дае магчымасці супа-

ставіць бел. лексему з рус. *мо́ченец, моче́нец* 'лён ці каноплі, якія вымочваюцца перад апрацоўкай', 'валакно з іх', 'лён', 'каноплі', 'жаночыя каноплі', *мочёник, моченика* 'тс' (СРНГ, 18). Запазычанне з рус. мовы (?).

**Мачымо́рда** 'горкі п'яніца' (Бес.). З польск. *moczymorda,* семантычна тоеснага з іншымі: *moczygęba, moczypysk, moczywąs,* першая частка якіх з *moczyć* 'мачыць'.

**Мачы́на** 'зерне маку', 'каліва, маласць' (івац., Жыв. сл.; ТС, Ян.), укр. *мачи́на* 'тс'. Паўд.-бел.-укр. ізалекса, утвораная пры дапамозе суфікса *-ін-а* ад *мак* (гл.). Чэш. *mačinka* 'галінка з пладамі садавіны', «сэрца» галоўкі салаты' з *matč-<matka* (Махэк$_2$, 347).

**Мачы́ць** 'рабіць мокрым, вільготным', 'трымаць у чымнебудзь вадкім, каб надаць пэўныя якасці', 'насычаць вадкасцю', 'засольваць (агародніну, грыбы, фрукты)', *мачы́цца* 'рабіцца мокрым', 'мокнуць' (ТСБМ, Янк. 1, Бяльк., Яруш., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС; докш., Янк. Мат.). Укр. *мочи́ти(ся),* рус. *мочи́ть(ся), польск. moczyć,* н.-луж. *mocyś,* в.-луж. *močić,* чэш. *močiti,* славац. *močit',* славен. *mocíti,* серб.-харв. *мо̀чити, мо̀чати,* макед. *моча,* балг. *мочам.* Прасл. *močiti* асновы *mok-,* якая праглядвае ў бел. *мокнуць* 'станавіцца вільготнай', 'псавацца ад празмернай вільгаці', 'ляжаць у вадзе' (ТСБМ, ТС; міёр., З нар. сл.), укр. *(про-)мокнути,* рус. *мокнуть,* польск. *moknąć* і г. д., прасл. *moknǫti,* роднаснымі да якога з'яўляюцца літ. *makė̃ti* 'уступіць у балота', *maknóti* 'ісці па гразі', лат. *maknît* 'ісці па балоце', літ. *makónė* 'лужа', *makalỹnė* 'гразь, слота', лат. *makņa* 'балота, дрыгва' (Бернекер, 2, 69; Мюленбах-Эндзелін, 2, 554; Фасмер, 2, 640; Бязлай, 2, 190).

***Мачэнне,** *мочэнье* 'вільгаць' (ТС). Да *мачы́ць.* Аб суфіксе гл. Сцяцко (Афікс. наз., 55).

**Маша́ра** 'мохавое балота; пустка, парослая мохам' (слаўг., Яшк.). Да *імша́ра* (гл.).

**Машарні́к,** *мъшарні́к, мошэрні́к* 'махавік, Suillus variegatus' (в.-дзвін., міёр., Нар. сл.; ушац., Нар. лекс., Жыв. сл., капыл., Нар. словатв.; шчуч., брасл., в.-дзвін., Сл. ПЗБ; ТС), лун. *мошорні́к* 'заечы баравік, Xerocomus subtomentosus' (Жыв. сл.). Да *імша́рнік* (гл.). Сюды ж *мошэрэ́нік* 'непрыдатны грыб' (ТС).

**Машата́,** *машка́, мошка́, машката́, машкара́, машкíра́* 'мошкі', 'безліч лятучых камароў, матылькоў, мошак' (ТСБМ, Касп., Мядзв., Яруш., Нас., Сл. ПЗБ, ТС), 'шмат гарэзлівых дзяцей' (Нас.), *машкарэча, машке́ча* 'машкара' (Мат. Гом.), *машкарня́, мошкорэ́ча* 'тс' (навагр., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *мошка,* рус. *мо́шка, мошкара,* ст.-рус. *мъшица,* польск. *mszyca,* н.-луж. *psyca* 'тс', чэш. *mšice* 'тля'. Прасл. *mъši.* І.-е. адпаведнікі: ст.-прус. *muso,* лат. *muša, mūsa,* літ. *musià, musẽ* 'муха', ст.-



грэч. *μυῖα* лац. *musca,* ст.-сакс. *muggia,* ст.-в.-ням. *mucka* 'камар', алб. *mizë* 'тс' (Траўтман, 191; Фасмер, 2, 667).

**Машка,** ст.-бел. *машкара* 'маска' запазычана са ст.-польск. *maszkara* (Кюнэ, 77; Булыка, Лекс. запазыч., 119), якое з італ. *maschera<*араб. *mashara* 'тс' (Брукнер, 324; Бернекер, 2, 23).

**Машкара́** 'мошкі' (ТСБМ, Яруш.). Да *машата́* (гл.).

**Машна́,** *машонка, машонкі* 'мяшочак для грошай, скураны капшук', 'мяшочак, у якім знаходзяцца мужчынскія палавыя залозы' (ТСБМ, Нас., Яруш., Шат., Сцяшк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), ігн. *машня́* 'машонка ў барана' (Сл. ПЗБ), пін. *мошо́нка* 'месца ў коласе, дзе знаходзіцца жыта' (Шатал.). Зах.-укр. *моше́нка, мушна́, мошенча́, мошонка* 'кашалёк', рус. *мошна́,* ст.-рус. *мошна, мошня* 'тс'; польск. *moszna,* н.-луж. *mošyna,* в.-луж. *mošeń,* чэш., славац. *mošna;* славен. *móšnja* 'кашалёк', 'машонка', серб.-харв. *мо̀шње, мошна, мо̀шнице* 'машонка', ст.-слав. **мошьна.** Прасл. *mošьna (<*mok-s-inā),* роднаснае да літ. *mākštys, makštìs* 'похвы', *makšnà* 'тс', *mākas, mēkeris,* лат. *maks* 'кашалёк', ст.-прус. *dantimax* 'дзёсны', ст.-в.-ням. *mago* 'страўнік', уэльск. *megin* 'мех' (Міклашыч, 203; Голуб-Копечны, 230; Буга, Rinkt., 1, 332; Фасмер, 2, 667; Скок, 2, 460).

**Машнік** 'цецярук Tetrao magallus' (Інстр. II). З рус. *мошни́к — моховой тетерев* (Даль, 2, 922). Да *мох* (гл.). Матывацыя: цецярук жыве ў лесе сярод імхоў.

**Машок** 'балоцістае мохавое месца', 'невялікае балота', 'нізкі луг, парослы мохам' (слаўг., стаўбц., Яшк.). Рус. смал., пск. *мошок* 'тс'. Да *мох* (гл.). Суфікс, як у *лужок.*

**Машонка$_1$** 'порхаўка' (Інстр. II; уздз., Нар. словатв.). Да *машна́* (гл.).

***Машонка$_2$,** *мошо́нка* 'нейкая птушка, што робіць сабе гняздо з моху' (ТС). Да *мох* (гл.). Утворана ад прыметніка *mъšěnъ* 'мохавы', як *лозянка* 'лысуха'.

**Машта́б** 'зменшаная велічыня на карце, плане адлегласці ў натуры', 'размах, значэнне' (ТСБМ). Праз польск. мову *(mašětāb)* запазычана з ням. *Maßstab* 'тс'. Не выключана таксама і запазычанне лексемы з рус. *масштаб.*

**Маштакі** 'тапачкі' (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *meszty* 'тс', якое з тур. *mest* 'лёгкія туфлі без абцасаў'. Суфікс, як у *шчарбакі* 'неглыбокія лёгкія лапці'. Гл., аднак, *мэкшты.*

**Маштэля** 'брус ці бервяно каля 72 см таўшчынёй' (ваўк., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (там жа, 3, 54), запазычана з польск. *maszt,* якое з ням. *Mast.* Магчыма, з *Mastenholz* 'мачтавы лес'.

**Машчонка** 'каменная дарога на нізкім месцы' (слаўг., Яшк.). Запазычана з рус. мовы. Гл. яшчэ Совещ. ОЛА (Гомель), 164.

**Машчэр** 'таўкач' (Грыг.), браг. 'невялікая мерная ступка' (Нар. словатв.), *машчэрык* 'тс' (Растарг.). Да *маждэжэр* (гл.).

**Машы́на** 'сукупнасць механізмаў, якія выконваюць карысную работу', 'транспартны сродак з рухавіком, аўтамашына', 'поезд', 'веласіпед', 'чалавек-аўтамат', 'сячкарня', 'паравоз' (ТСБМ, Сцяшк., Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ). Відавочна, з польск. *maszyna,* якое з франц. *machine* 'тс'. Апошняе праз лац. *machina* ўзыходзіць да ст.-грэч. дар. μαχανά 'прыстасаванне'. Гл. таксама *махіна.* Дапускаецца ў якасці мовы-пасрэдніцы і руская. Сюды ж *машыніст(ы), машыністка, машынізацыя;* *машы́нка* 'частка лямпы на магазіне'; 'пішучая машынка', 'прылада для стрыжкі валасоў', 'запальнічка', 'пліта з фаеркамі', маладз., маст. 'кнопкі', драг. *машы́нка* 'маланка ў вопратцы' і 'каварства, падман' (ТСБМ, Жд. 1, Сцяшк., Сцяц., В. В., Мат. Гом., Нар. сл., Сл. ПЗБ, КЭС).

**Машынэрыя** 'нескладанае, прымітыўнае прыстасаванне, прылада' (маладз., Янк. Мат.). З польск. *maszyneria* ў паніжаным значэнні, якое з франц. *machinerie* 'машынерыя'.

**Машы́р!** 'марш! пайшоў прэч!', *машыраваць* 'маршыраваць, ісці' (Нас., Шат.), *машараваць* 'праяўляць энергію ў дзеянні, разыходзіцца, шумець' (Юрч.). З польск. *maszerować* 'маршыраваць' (Кюнэ, 76).

***Машы́сты,** *мошы́сты* 'зарослы мохам' (ТС). Да *мох* (гл.).

**Машыя́ш** 'чорт, сатана, прайдзісвет' (ТС). З польск. *Mesjasz* 'месія'.

**Машэннік** 'несумленны чалавек, ашуканец' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Растарг.). Ст.-рус. *мошенникъ* 'чалавек, які шыў кашалькі'>'які краў кашалькі, мошны'>'ашуканец, падманшчык'. Да *машна́* (гл.).

**Машэстр** 'мошаст' (Шпіл.) узнікла ў выніку кантамінацыі лексем *манчэстэр* 'вельвет' (<*Manchester* — горад у Англіі) і *мошаст* (гл.).

**Маэстра** 'ганаровая назва выдатнага кампазітара, музыканта', 'званне выдатных шахматыстаў' (ТСБМ). Праз польск. ці рус. мовы з італ. *maestro* 'майстар', 'настаўнік'.

**Мая́ваць** 'святкаваць першамайскае свята' (Янк. 2). Да *май* 'свята 1 Мая'.

***Маявы́я,** *маёвыі, маёвэі грыбы* 'агульная назва вясенніх грыбоў' (драг., пін., Жыв. сл.). Да *май* (гл.).

**Мая́к** 'высокая вежа з сігнальнымі агнямі, якія паказваюць шлях караблям', 'хто паказвае шлях да чаго-небудзь' (ТСБМ). Да *ма́яць* (гл.).

**Маянэз** 'соус з алею, яечнага жаўтка, воцату, гарчыцы і інш. прыпраў' (ТСБМ). З рус. *майонез* (Крукоўскі, Уплыў, 79).



**Мая́ран** 'расліна Majorana Moench.' (ТС), ст.-бел. *маеранъ* 'тс' запазычана са ст.-польск. *majoran, majeran* <с.-вяк.-лац. *maiorana* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 152).

**Ма́ятнік** 'пруток ці ланцуг з цяжарам на канцы, якія мерна вагаюцца з боку ў бок у падвешаным стане', 'колца гадзінніка, якое рэгулюе яго ход' (ТСБМ, Бяльк.). Відавочна, з рус. мовы. Да *ма́яць* (гл.).

**Ма́яць,** *мая́ты* 'віцца (на ветры)', 'калыхацца' (Доўн.-Зап., Мотивы), 'махацца' (Доўн.-Зап., Песні), 'красавацца, чырванець' (Бес.), 'адхайваць' (ТС), 'кідацца' (аб конях)' (Ян.). Укр. *ма́яти* 'рухаць туды-сюды', рус. *ма́ять* 'махаць', 'падмануць', польск. *majak* 'міраж', 'вакольная дарога', *majaczyć* 'круціцца, балбатаць бязглуздзіцу', н.-луж. *mawaś* 'махаць', чэш. *mávati* 'тс', славен. *májati* 'рухаць туды-сюды', балг. *зама́я, ома́я* 'адурманьваю, чарую', ст.-слав. **намаıати, помавати** 'ківаць на каго-небудзь'. Прасл. *majati.* Роднаснымі і.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца: літ. *móti,* лат. *māt* 'махаць', ст.-інд. *māyā́* 'пераўтварэнне, падман, мана, ілюзія', ст.-грэч. μῖμος 'фокуснік, актор', μώσϑαι 'жыва рухацца', і.-е. **mā-* (Бернекер, 2, 7; Траўтман, 166; Фасмер, 2, 587, Махэк₂, 355; Бязлай, 2, 161). Параўн. *махаць, мана́, мара́.*

**Мая́чыць**₁ 'выступаць на фоне чаго-небудзь, узвышацца над наваколлем' (ТСБМ). Відавочна, з рус. *мая́чить* 'тс', якое да *маяк* (гл.).

**Мая́чыць**₂ 'рабіць паволі, з гультайствам, абы-як' (Нас.), рус. валаг., разан. *мая́чить* 'рабіць праз сілу, ледзь-ледзь', усх. 'марудзіць', *ма́ять* 'мучыць', балг. *ма́я* 'забаўляць, затрымліваць' *мая се* 'бадзяцца без мэты', 'здзіўляцца'. Роднасныя з лац. *mōlēs* 'цяжкасць, вага', ст.-грэч. μῶλυς, ст.-в.-ням. *muoen* 'працаваць, старацца', *muodi,* гоц. *afmauiþs* 'стомлены', *muohî* 'праца', с.-в.-ням. *müen, muowen* 'працаваць', і.-е. **mō-* (Шмідт, KZ, 26, 5; Бернекер, 2, 7; Фасмер, 2, 587; БЕР, 3, 701—702).